Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Уладзіміра Ісачанкі:
на 1-й стар.: «Чырвоны вечар», 2008;
на 4-й стар.: «Хрыстос», 2014.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 24.08.2020 г. Падпісана да друку 28.09.2020 г.
Фармат 70х108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 500 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№5 (108)
/верасень-кастрычнік/ 2020

Дзе

# дзеяслоў

**ЗМЕСТ**

## Уладзімер Арлоў



...дзе тая мяжа
паміж пачуццямі
і прывідамі пачуццяў...

# Апоўначы ў лонданскім доме

***Балада***

*Гаю дэ Пікарду*

***1***

цябе папярэджвалі ды ўдзень усё выглядала іначай; цвілі магноліі шэрыя вавёркі
скралі з кухні кавалак найсмачнага вішнёвага пірага палітага шакаладам
цябе папярэджвалі: гэты стогадовы дом на *Holden Road* своеасаблівы
здатны на неспадзяванкі; на два святочныя дні ты ўпершыню застаешся адзін
лядоўня і бар да тваіх паслугаў не кажучы пра бібліятэку з рарытэтамі
нават Трэці Літоўскі Статут віленскага друку 1588 года; ты бываў тут раней
але цябе папярэджвалі на ўсялякі выпадак быць гатовым да *нечага такога*
гаспадары няпэўна круцілі ў паветры пальцамі раілі ў бары сямігадовае к'янці

удзень ты шпацыраваў па *Holden Road* пераглядваўся з даўнімі асабнякамі
пытаўся хто жыў тут сто гадоў таму калі нараджаліся твае бацькі калі ў свеце
спраўляла баль гішпанка; ты яшчэ ані не здагадваўся: усяго праз год
усемагутнае чалавецтва будзе сядзець на карантыне вучыцца мыць рукі
дактары будуць асуджаць на смерць старых з безнадзейнымі вачыма
бо ў лякарнях не стае месца маладзейшым з большымі шанцамі выжыць

дам*ы* насцярожана маўчалі магчыма перакладалі цябе праз *Google translate*
даўгашыі крэмавы асабняк з вежачкай асцярожна азваўся: *Бенджамін Дызраэлі*
сюды наведваўся ў таемных сардэчных справах Бенджамін Дызраэлі
наляцеў хуткі сонечны дожджык – *слёзы прынцэсы;* з вясёлкі над ліпамі
саслізнула выслоўе славутага лорда *калі мне хочацца прачытаць добрую кнігу*
*я сядаю за стол і пішу яе* ці будзе ў тваёй краіне прэм'ер-міністр які напіша
паўтузіна раманаў? *гэта вашыя праблемы* адказаў асабняк з кійком вежачкі

ты разгадваў характары і схільнасці навакольных дамоў: адны пакорліва
залежалі ад уладальнікаў другія кідалі гаспадарам выклік; дагледжаная
гарадская лісіца аздабляла твае думкі рыжымі працяжнікамі; лонданскія лісіцы
таксама ведаюць: бываюць дам*ы* неверагодна шчодрыя і дамы-скнары
дамы-халерыкі і дамы-меланхолікі дамы з пачуццём гумару дамы дзе
гэтага пачуцця і не начавала дамы – ёмішчы пакутнага ці плённага бяссоння
дамы якія знікаюць і з'яўляюцца ў іншых месцах як той дом на вуліцы Зарэчнай
у Вільні што раз-пораз хаваецца са сваёй кавярняй недзе на Полацкай
бываюць дамы-вегетарыянцы гурманы вампіры канібалы; лепей не ўяўляць
што зараз чыніцца ў тым вось асабняку з крывава-кармінавымі жалюзямі
дамы-геданісты дамы поўныя аскезы дамы – бязлітасныя тыраны і дэспаты
дамы ўраўнаважаныя і дамы-вар'яты дзе жыхары самі паціху вар'яцеюць
дамы якія любяць гаспадароў і якія адно прыкідваюцца падступна іх ненавідзячы
дамы з кароткай і доўгай памяццю: адны з палёгкаю забываюць учорашні дзень
другія памятаюць любоўныя стогны смех дзяцей перадсмяротныя словы;
хіба гэта толькі пра Лондан? дамы-музеі дамы-галерэі дамы – тэатры абсурду

***2***

дарэчы пра тэатры абсурду: ці не бываў недзе тут выпадкам Эжэн Іянэска?
інакай чаму дзеянне *Лысай спявачкі* адбываецца ў лонданскім доме?
у мінулым стагоддзі ў канцы вуліцы стаяў газетны шапік; грэла сакавіцкае сонца
ты набыў кілаграмовы суботні нумар *The Guardian*: на першай старонцы
на тле насарога з падмосткаў тэатра абсурду развітальна ўсміхаўся Іянэска

ты бясконца блытаў Эжэна Іянэска з Сэмюэлем Бекетам потым запомніў
лысы Іянэска напісаў *Лысую спявачку;* памяць любіць сюрпрызы: *я магу*
*купіць сцізорык свайму брату але вы не можаце купіць Ірландыю свайму дзядулю*
твая ўлюбёная рэпліка іншая – амаль прымітыўна простая *жыццё трэбаназіраць*
*з вакна вагона* на жаль занадта часта мусіш выходзіць на перон і наогул

шавялюрысты Бекет нашрайбаваў п'есу *У чаканні Гадо* (Лонданам і не пахне)
Бекет заўсёды падабаўся табе болей: на пару з нейкім Эстрагонам гэтага Гадо
чакае персанаж якога завуць як цябе таму ты некалі даў Бекету трэцяе імя
чаму не? тваім хаўруснікам стаў сам Гіём Апалінэр насамрэч Вільгельм
Альбер Апалінар Уладзімір Кастравіцкі; ты быў у доме ягоных продкаў
на ўскрайку Дзісны; вецер ледзь не знёс дзвінскі паром з сучаснымі галернікамі
Адам Міцкевіч чытаў у тым доме вершы піў віно любіў кагосьці; Адам стаяў
уначы ў профіль за вакном з дзевяццю шыбамі; ты не мог памыліцца; была восень
непагадзь вузкі ложак цёплыя рукі праз паўтара стагоддзя абдымалі цябе ў сне
гладзілі па валасах як некалі Адама блукалі па ўсіх закутках звандравалага цела

такім чынам Сэмюэль Барклі Уладзімір Бекет і вядома загадкавы Гадо
*мы ўсе нараджаемся вар'ятамі некаторыя імі і застаюцца;* на месцы газетнага
шапіка кветнік з ружовымі і белымі азаліямі; *хадзем* кажа Эстрагон *хадзем*
пагаджаецца Уладзімер абодва не кранаюцца з месца *можна пачакаць пакуль
ёсць чаго чакаць* пакуль не пачынаеш чакаць аднаго дакладней адну;
ці ведаюць гэтыя вечныя чакальнікі словы Марка Юлія Цыцэрона якімі
Мішэль Мантэнь назваў XX раздзел *Досведаў*? памятаеце: *філасофнічаць
гэта значыць вучыцца паміраць?* ці вызваляюць філосафы ад такога вучэння
простых смяротных? *Holden Road* адказвае: патанае ў тэракотава-бэзавым сутонні

***3***

у лонданскім сутонні табе не хапае аднаго чалавека ён нязменна паўстае ўваччу
калі чуеш слова *святар*; ён быў добрым духам дома што даў табе прыстанак
духам бібліятэкі; калі б усё склалася іначай вы пайшлі б зараз удвух на вячэру
ў знаёмы італійскі рэстаран ён магчыма распавёў бы гаспадару Федэрыка
як ваяваў з нацыстамі на ягонай радзіме як тады колькі дзён уранні і ўвечары
мыўся вінам; можна было зрабіць сапраўдны душ; помпу з вадой абстрэльвалі
немцы а на пазіцыях стаяла безліч бочак з вінам; гаспадар рэстарана запытаўся б
ці добрае было віно і як зазвычай сам абслугоўваў бы вас прыслухоўваючыся
да вашае мовы хвалячы яе мілагучнасць адначас з выдатнай італійскай
айца Аляксандра; ты згадваеш заўвагу айца што ад панядзелка да суботы
на набажэнствах у лонданскай беларускай царкве бываюць усяго двое: ён і Бог
якая магутная зброя абароны ад іншых – іронія а самаіронія здольная
абараніць у самых бязвыйсцевых сітуацыях ад самога сябе; мінулага разу
рызота з крэветкамі атрымаўся дасканалым; айцец Аляксандр быў у гуморы
падзяліўся з табою як да яго ў бібліятэку прыехалі трое дыпламатаў
з літоўскай амбасады паўдня гарталі чыталі фатаграфавалі Статут 1588 года
на айцова пытанне ці ўсё там хлопцы зразумела не змаргнуўшы адказалі:
за столькі стагоддзяў літоўская мова да непазнавальнасці змянілася;
заўтра распавядзеш айцу навіны на Рымскай дарозе кладоў святога Панкрата

***4***

калі сачыць за схільнымі да клептаманіі шэрымі вавёркамі можна сумоўнічаць
з к'янці на прытульнай тэрасе; трэцім будзе цёплы ангельскі пірог з ныркамі
к'янці падкажа гарганзолу дольчэ з берагоў По рака яшчэ не чула пра *Covid-19*
дом ухваляе тваю самотніцкую вячэру захутаныя ў вечназялёны плюшч сцены
дзеляцца цеплынёю; вокны пакрысе ператвараюцца ва ўважлівыя люстэркі

бібліятэка займае першы паверх; з аддзела старадрукаў ты мог бы запрасіць
на к'янці аднаго тамтэйшага заўсёдніка ў тваіх шыротах ён вядомы як Аляксандр
Гваніні служыў у Інфлянцкую вайну віцебскім камендантам згадваў родную
Верону вечарамі клікаў падначаленага Мацея Стрыйкоўскага наліваў італійскага
называў найлепшым выведнікам-рыскуном выпраўляў да апанаванага ворагам
Полацка маскавіты патапілі там у Дзвіне і Валовай азярыне ўсіх габрэяў
габрэек і малых габрэйчыкаў адпачылі памаліліся ў святой Сафіі ўзяліся рэзаць
полацкіх каталікоў; Стрыйкоўскі занатоўваў каля вогнішча што полацкіх
палонных гналі зімовымі дарогамі ў Масковію не па-хрысціянску – як юдэяў да

Вавілона тым часам камендант Гваніні ў віцебскім замку рупліва спісваў Мацеевы гістарычныя нататкі так і патрапіў у вечнасць з *Хронікай Еўрапейскай Сарматыі* у калегіюме сіньёра Гваніні вучылі што спісваць непрыстойна сам выпускнік універсітэта ў Падуі вялікі князь і кароль Стэфан Баторы пагразіў яму пальцам хітрамудры італіец думаў: паслухаўся б – не згадалі нават у роднай Вероне

калі б вячэра з к'янці з Тасканы адбывалася на год пазней ты паклікаў бы да стала тасканца Клаўдыё родам з Сан-Вінчэнца; у самую лютую эпідэмію каранавірусу ён даслаў табе ліст на электронную пошту; у Італіі не ставала лекаў лекараў трунаў далакопаў сіньёр Клаўдыё пачаў кнігу пра аднаго з тваіх герояў – прэзідэнта але не пра таго чыё імя ты з сябрамі дамовіўся аніколі не называць пісаў пра прэзідэнта Гаваяў беларуса Мікалая Судзілоўскага; дапытлівы тасканец вычытаў у цябе складзеную самім тваім героем эпітафію *hic jacet Lumpatius Vagabundus* удакладніў пераклад з лаціны *тут ляжыць вандроўны жабрак* у цябе было трохі інакш *сюды кінуты вандроўны жабрак*; каранавірус ураўноўваў сэнсы адкрываў новыя вокны ў рэальнасць; сіньёр Клаўдыё напісаў табе ён і жонка старыя нікуды не выходзяць *песцяць адно аднаго* ты ўявіў як гэта бывае і сэрца адразу сціснулася; раптам Клаўдыё замаўчаў мо заглыбіўся ў кнігу?

тое будзе праз год пакуль маскі толькі ў аперацыйных і на маскарадах пакуль маскарады не зліліся ва ўсясветны маскарад з адкрытым пагрозлівым фіналам

***5***

няўзнак лонданскае неба набывае колер твайго к'янці з пляшкі з чорным пеўнем у ціхім Фінчлі побач з вострым лязом месяца калі шанцуе можна ўбачыць самыя смелыя зоркі пад імі пад настрой бывае добра адкаркаваць новую пляшку пад зоркамі ты часта думаеш пра два *Вояджэры* дзве твае машыны часу калі *Вояджэры* ўзляцелі ты не пражыў і чвэрці стагоддзя не выпіў і тузіна тузінаў бутэлек віна (пераважна ў кампаніі з Брэдбеpы і Урсулай ле Гуін) *Вояджэры* ўзляцелі ў семдзесят сёмым да Юпітэра і Сатурна амаль усе пра *Вояджэры* забылі; яны лятуць дасюль нясуць зварот да галактычнай цывілізацыі малекулу ДНК шэпцік маці жаласны плач дзіця музыку Моцарта Бетховена джаз Армстронга і Чака Бэры галасы ветру дажджу акіяну пошум людскіх моваў цяпер ты ведаеш: усё марна мы самотныя ў зорным сусвеце як самотныя ў сусвеце зямным твая вячэра яшчэ адзін доказ; ты даўно зразумеў чаму людзі не жадаюць лекавацца ад самоты: самота самы адпаведны чалавечай істоце стан

вы пэўна таксама заўважалі: у пляшках-двайнятах віно можа розніцца букетам смакам што зноў пацвярджае нашую невымерную адзіноту; у гэты момант ты пачынаеш адчуваць: дом нібыта... дом нібыта страпянуўся стаў Домам не выключана Дом у змове з магноліямі каля тэрасы яны пачынаюць пахнуць адчувальна мацней: болей нотак ванілі слівы цытрыны нечага няўлоўнага можа Дом прачнуўся мяноўна ад гэтых водараў; ты спрабуеш перавесці стрэлкі ты чуў: кветкі магноліі выдатны афрадызіяк мясцовыя вядзьмаркі ці не з часоў кельтаў і Стоўнхенджу варылі з магноліі нагаворнае зелле; майце на ўвазе ўсё гэта добра вядома парфумерам вы чыталі *Парфуму* Патрыка Зюскінда?

перавод стрэлак не дапамагае; Дом чакае цябе чакае вітальня з зялёным масянжовым званком чакае бібліятэка з таемнымі схавышамі паміж стагоддзямі чакаюць меладычныя ўсходы на твой другі паверх чакае пакой-пентаграма што азначае пентаграма ў кабалістыцы? *хадзем* кажа Дом *хадзем* адважна адказваеш ты; адрозна ад Уладзіміра і Эстрагона ты не застаешся на месцы Дом не пярэчыць што ты прыхапіў бутэльку з чорным пеўнем у чырвоным коле пакінуў рэшткі пірага з ныркамі невідочным вавёркам і лісіцам з цёмнага саду *хадзем* паўтарае Дом; цябе папярэджвалі але ўдзень усё выглядала іначай

***6***

*good evening* уголас вітаешся ты зачыняеш уваходныя дзверы на засаўку паварочваеш ключы ў старадаўніх замках кухні сталоўні бібліятэкі але як як ты можаш зачыніць сам Дом? раніцой табе шматзначна ўсміхаліся круцілі ў паветры пальцамі ты легкадумна хацеў як найхутчэй застацца адзін

у тваёй пентаграме ты не самотны з табою Мішэль Мантэнь гэтымі днямі ён сябруе з Луі Фердынандам Селінам; ты звычайна чытаеш дзве кнігі адразу цяпер *Досведы* (вядома не ўпершыню) кантрапунктам *Падарожжа на край ночы* закладка-пяро на старонцы пра тое што *філасофнічаць гэта значыць*; ты любіш чытаць з келіхам віна; Мантэнь аддаваў перавагу бардо пашукаеш заўтра ў бары адпаведную налепку; Луі Фердынанд адпачывае але гэтаксама не адмовіцца ад бардо ён чытаў Мантэня герой Селіна набыў кніжку гэтага месье на парыжскіх кніжных развалах набыў за адзін франк; там быў ліст да жонкі калі памёр іхні сын *усё ўладзіцца дарагая ўсё ў жыцці ўладжваецца* ці чытаў Мантэнь месье Селіна?

Дом дрэмле разам з табою за вакном дрэмле магнолія к'янці неўпрыкмет выбыла з гульні; ты спрабуеш расшыфраваць астатні радок *дзе б ні скончылася ваша жыццё там яму і месца* лагодныя burштынавыя чмялі гудуць табе калыханку ты ў згодзе з усім светам нават з усім сусветам ты заплываеш пад сінюю коўдру акурат тады Дом асцярожліва кратае зялёны масянжовы званок у вітальні

***7***

ты ў Доме ўжо не адзін; *той тая тое неназывальнае* цяжкавата рухаецца паміж паліцаў у бібліятэцы адчыняе замкнёныя звонку дзверы крыху марудзіць пачынае паволі падымацца па прыступках; цябе папярэджвалі; ты мог бы падцягнуць да ўваходу стол але твая істота лёгкая як дзьмухаўцовая насенка і ўадначас цяжкая не раўнуючы як Барысаў камень на полацкім Верхнім замку драўляным прыступкам цяжка граць сваю музыку ды апрача важкіх крокаў гэтае *іншасці* ты чуеш непаўторныя кароткія посмехі з прысвістам і прыдыханнем Божа так пасмейваецца адзіны чалавек на цэлым свеце ты знаёмы з ім дакладна столькі сама як з Домам гэта ён падымаецца да цябе з бібліятэкі там вы і пазнаёміліся; схіляліся над старадрукамі над канвалютам Скарыны (потым яго скраў на замову прыгрэты айцом Аляксандрам падарожнік) пакрыёма і цёпла выпівалі паміж кніг закусвалі вершамі Максіма Багдановіча
*ў чарцы цёмнай і глыбокай плешча пеніцца віно*
*хмелем светлым і халодным калыхаецца яно*
або максімамі Людвіга Вітгенштайна *Бог прыехаў я сустрэў яго а пятай з чвэрцю на вакзале* зрэшты гэта не Вітгенштайн – хтосьці з ягоных адданых біёграфаў

недзе на сярэдзіне шляху твой госць (невядома хто тут госць) спыняецца
ты атрымліваеш перадышку спускаеш ногі з ложка на большае цябе не хапае
там куды патрапіў твой госць няма твараў але калі ёсць крокі посмехі дыхавіца
мусіць быць і твар – ягоны твар эпікурэйца стомленага цяжарам размаітай веды
мусяць быць невераемна жывыя вочы з ліхтарыкамі незнішчальнага сарказму
у яго такое беларускае імя – Гай яго продак Франсуа адмарозіў у беларускую ноч
1812 года сваё левае вуха; не з'еў адламанае вуха ад голаду – высушыў зрабіў
сямейнай рэліквіяй дадайце сюды Гаеву цётку Рэнату – віленскую габрэйку

усходы зноў скардзяцца пад крокамі закажанелага волата; Гай ужо за дзвярыма
заўсёдны гарнітур з камізэлькай; калі ты ветлівая асоба ты не мусіш маўчаць
*Гай!* пачынаеш ты экспромтам *спадар дэ Пікарда! ніколі не стамлюся паўтараць
што вас недарэмна вучылі ў Сарбоне і Оксфардзе*; у прыватнасці ты дзякуеш Гаю
за звесткі пра Яна Літвіна той друкаваў кнігі ў лонданскім *City* калі Скарыны
не было і ў праекце ты напісаў пра гэта ў сваіх кнігах *Гай я выжлукціў за вечар*
дзве пляшкі к'янці (адну вядома за цябе) я чытаю Мантэня памятаеш ты любіў
ягонае пытанне: *si munitae adhibet vim sapientiae? – ці не абвастрае віно
атупелую мудрасць?* ты спяшаешся сказаць Гаю што ён застаецца найлепшым
знаўцам нашых вуніяцкіх спеваў найлепшым на свеце – цяпер і на гэтым і на тым

Гай дыхае прысвіствае булькоча хоць на дварэ чэрвень ты просіш Гая праспяваць
тую калядку; часам вы спявалі яе за сталом дуэтам ты – вельмі ціхутка як дзіця
ты ўсё робіш правільна: Гай пасміхаецца дзівосна лёгка бярэ першую ноту
*устань козухна устань матухна*
*пану гаспадару ў ножкі пакланіся*
*бо гаспадар дасць мерачку аўса*
*мерачку аўса наўзверх каўбаса*
Гай займаўся штудыямі Скарыны ў кабалістыцы ды пра твой пакой-пентаграму
пытацца ўжо няёмка; калядка-ратавальніца аддаляецца сціхае ў нетрах бібліятэкі
*сем кавалкаў сала каб каза скакала*
*а восьмы пірог – каза за парог*

***8***

Дом чакае тваёй рэфлексіі або не спяшаючыся выбірае табе іншага візітанта
ты тужліва глядзіш на пустую пляшку к'янці; Мантэнь у эсэ *Пра п'янства*
назваў гэтую загану *наскрозь цёмнай але матэрыяльнай* у апошнім слове
ты знаходзіш кволае матэрыялістычнае апірышча – метафізікі сёння збытак
каб умацаваць сваё становішча трэба зрабіць выгляд што яно ўжо ўмацавалася
у наступную хвіліну ты разумееш: гэты прыёмчык дапамагае не заўсёды

праз год у самым апагеі эпідэміі (зрэшты хто ведае калі будзе той апагей)
калі ў Амерыцы адляталі душы другой сотні тысяч хворых калі ў Бразіліі
магілы спраўна капалі экскаватары калі ў Перу трупы выстаўлялі на вуліцы
ў каляровых кардонных скрынках быццам велізарныя торты на нечае грандыёзнае
свята калі прэзідэнт тваёй краіны ён жа галоўны вірусолаг раіў лекавацца лазняй
калі аднае раніцы твой прыяцель-актор не паспеўшы ў лазню паведаміў
з жалобнай рамкі на кампутарным маніторы што ніколі больш не сыграе Святара
ў *Візіце дамы* Фрыдрыха Дзюрэнмата калі ты развучыў новае слова *сатурацыя*
бо ў тваіх знаёмых яна падала ніжэй за 94 адсоткі табе пачалі ноч пры ночы

сніцца нябожчыкі; яны прыходзілі нагадаць што клапоцяцца што ты не самотны
усе нябожчыкі былі ў шматразовых масках вытрымлівалі патрэбную адлегласць
віталіся локцямі або паклонамі (значыць і ў іх была пандэмія) прасілі пачытаць
новыя тэксты набывалі твае кнігі бралі аўтографы адна дама падаравала букет
ружаў; аднойчы вы ўсе танчылі рок-н-рол (вядома ў масках) найлепей танчыў
паэт які некалі ўначы ў паводку на плошчы Сан-Марка чытаў табе верш
пра Бога ў нябеснай бібліятэцы; гэта быў ваш развітальны танец: сны апусцелі не
хацелася думаць што танцоркі й танцоры другі раз памерлі – ад каранавірусу

***9***

Дом з усімі ягонымі ўтульнымі ўдзень куткамі і вантробамі не збіраецца засынаць
ціхая ноч у Фінчлі толькі пачынаецца крокі нараджаюцца ў пакоі над табой
ён таксама для гасцей; вышэй гарышча над гарышчам неба з *Вояджэрамі*
ці без іх? неба адкуль замест зорак глядзяць знаёмыя і незнаёмыя твары?
трыццаць прыступак долу сэрца адлічвае без цябе; крокі маладыя спружыністыя
чые? Дом не збіраецца гуляць з табой у пытанні й адказы Дом заняты іншым
унізе ў сталоўні галасы звон посуду шпоканне коркаў; у сцяне адчыняецца
вакенца з кухні; хто падае стравы? хто сядзіць за доўгім сталом? ім не да цябе

*той тая тое* што зверху ўжо па другі бок дзвярэй; стукае костачкамі пальцаў –
ледзь чутна але ты пазнаў бы гэты стукат і ў іншасвеце; цяпер не да каламбураў
выразная мелодыя *Yellow Submarine*; так выцінаў яе адзін ён – твой найлепшы
твой незаменны твой незабыўны сябра ты так і зваў яго – проста Сябра
*we all live in a yellow submarine*
*yellow submarine yellow submarine*
ты кінуўся б дзвярэй ды што за імі? ты паўтараеш уголас *Сябра Сябра Сябра*
ягоная каханая прызналася ў каханні табе напісала жарсны ліст; ты кахаў іншую
вы вандравалі ўтраіх палілі лясныя вогнішчы плавалі ў полацкіх азёрах
Сябра разганяўся з кладкі рабіў дасканалае сальта надоўга даваў нырца; ягоная
каханая брала цябе за руку шаптала *хачу цябе калі не вынырне ты будзеш маім*
Сябра заўсёды вынырваў ягоная каханая не стала тваёй хоць і была адна ноч калі

Сябра не вярнуўся з Афганістану знік без вестак паспеў напісаць табе пяць лістоў
*уяві што ў часы Грунвальду да нас прыехалі на танках* вайсковы цэнзар дрэнна
ведаў гісторыю ці дрэнна разумеў нашую мову; калі чалавека не бачылі мёртвым
ён застаецца жывы можа перажыць бацькоў сяброў каханых (ты чамусьці
не можаш згадаць ці быў Сябра ў тым каранавірусным рок-н-роле) але Сябра
прыйшоў (ці добры гэта знак?) ты сустрэў Сябраву каханую праз сорак гадоў
няхай бы такія сустрэчы знікалі без вестак у нейкім сваім Афганістане
ты маўчыш пра тую сустрэчу ў тралейбусе але Сябра чуе твае думкі як ты
пачынаеш чуць ягоныя; ён не хоча каб ты адчыняў дзверы ён прабачаецца
прабачаецца што прыйшоў чым ты можаш адказаць? ты не маеш права доўга
думаць *помню хлопчыкам маленькім падабаў я зелень ніў* Сябра падхоплівае *і на*
*пожні каля рэчкі матылёў лаваць любіў* ён заўсёды казаў *лаваць* замест *лавіць*

калі б Сябра прыйшоў да цябе праз год ты запытаўся б: ці зменіцца свет пасля
чумы? Сябра відаць адказаў бы ў сваім духу: адназначна зменіцца прычым да
лепшага бо чалавецтва ўрэшце навучыцца мыць рукі; Сябра ведае ты таксама

аптыміст адно што лепей інфармаваны таму ты напачатку распавядзеш яму
пра апаганеныя памытымі рукамі помнікі Касцюшку адбітыя галовы Калумбаў
разрабаваныя марадзёрамі крамы пра забітага ў Францыі кіроўцу аўтобуса
які ўсяго папрасіў пасажыраў надзець маскі; быццам бы Сябра не ведае

***10***

ты адчуваеш: за дзвярыма некалькі хвілінаў як пуста; тваё пачуццё годнасці
пратэстуе супроць сітуацыі аблогі ты маеш поўнае права адзецца спусціцца
на першы паверх падзякаваць бару за новую пляшку: у віктарыянскім буфеце
ты бачыў вінтажны кальвадос 1973 года 250 фунтаў за адну такую радасць
цябе папярэджвалі што бар да тваіх паслугаў; можна распіць кальвадос з самім
месье Мантэнем напрыклад у бібліятэцы; не забыцца захапіць том з закладкай

Дом заахвочвае цябе набівaецца ў хаўруснікі запальвае на твае начныя крокі
свяцільні (цікава ці запальваў іх на *іншыя* крокі) дзверы ў бібліятэку замкнёныя
ты пакінуў ключ у адтуліне; кальвадосу не трэба шніпар; Дом падказвае
прыхапіць сыр ліваро кухня ў ідэальным парадку лядоўня прапануе вінаград
мігдалавае печыва на стале цудоўная знаходка; месье Мантэнь выбірае стол
з салатавай свяцільняй; два келіхі і кніга зробяць размову цалкам паўнавартаснай
кальвадос сапраўдная раскоша колер чырвонага дрэва зеленаватыя водцені
у букеце чарнасліў гваздзіка мускатны арэх агрэст; выразна адчуваеш на пальцах
дзіцячую акупунктуру агрэставых спічакоў; пасмакунак яблычнага штрудэлю

***11***

ты пачынаеш: старонка 100-я радок дапусцім без усялякіх прымхаў трынаццаты
*вызваліце месца іншым як іншыя вызвалілі яго для вас* які гэта раздзел?
ды той самы што адкрываецца словамі Цыцэрона; твой суразмоўца ў гэтую ноч
ў барвовым з золатам камзоле белы каўнер чорная бародка пародзістыя вушы
нос з гарбінкай прынюхваецца да кальвадосу бровы ўхвальна падымаюцца
вочы колеру водценяў кальвадосу спыняюцца на срэбнай этыкетцы з лічбаю 1973
табе заўсёды падабаліся ягоныя раўнавага яснасць розуму цяпер дадаюцца
манеры мяккі голас *ці памятаеце вы свой 1973-ці?* ты памятаеш: памёр тата
як і вы месье быў юрыстам праўда не меў фамільнага замка і тытулу не паспеў
напісаць кнігу вызваліў месца зусім рана нават ні разу не выпіў з сынам
праз столькі гадоў спачуванні недарэчныя тры вашыя далікатныя глыткі месье
адзіна слушнае рашэнне як і скрылік ліваро з трыма чорнымі ягадамі вінаграду

вы працягваеце; старонка да прыкладу 685 восьмы радок знізу *падзеі такога роду
ўтрымліваюцца ў памяці горш*; здаецца якраз можна змяніць тэму на дапамогу
кідаецца твая адукацыя гісторыка ты рызыкуеш: ці памятае месье свой 1572-гі?
дакладней адну жнівеньскую ноч на святога Варфаламея? *так* тонка ўсміхаецца
твой субутэльнік ён выдатна памятае ён тады адсутнічаў у Парыжы хоць
*гэта было няпроста* з годнасцю адпівае з келіха бярэ залацісты кавалачак сыру
за год да той ночы яго абралі мэрам Бардо; ён імкнуўся прымірыць католікаў
і гугенотаў але яго ўсё ж *заўважце* арыштавалі адправілі прамютка ў Бастылію
стравы і віно былі там цалкам прымальныя аднак ён не паспеў усё раскаштаваць
зняволенне доўжылася адзін дзень дзякуй каралеве-маці Кацярыне Медычы

ты быў добра знаёмы з іншым мэрам – мэрам твайго роднага горада; мэр паабяцаў пакуль ён будзе мэрам горад будзе штогод атрымліваць новы музей ці помнік злоснікі казалі: рэкнуў з перапою; мэр трымаў слова ўсе дзесяць гадоў; не баяўся гугенотаў; арыштавалі на свяце горада сядзеў не адзін дзень меню вылучалася аднастайнасцю віна не падавалі; новыя мэры музеяў адчыняць і не дакляравалі

ты рызыкуеш яшчэ раз: старонка 666 радок на які ўпадзе позірк *маёнтак дом рысак майго суседа якія каштуюць столькі ж колькі мае* ты мусіш дачытаць каб схапіць сэнс *каштуюць у маіх вачах даражэй маіх якраз таму што яны не мае*
ты кажаш месье Мантэню: ты паталагічна пазбаўлены гэтага пачуцця як быццам табе ампутавалі яго пры нараджэнні а шкада бо калі пішаш кнігі гэтае пачуццё не зашкодзіла б: ты магчыма сканчваў бы свой *opus magnum* замест чаго выпіваеш з тым хто ўжо даўно скончыў свой з тым у чыім келіху кожны глыток з прысмакам неўміручасці; бутэлька між іншага зусім не 0,5 няхай бы з-за паліцаў выйшаў на падмогу спадар Гай яны пагаварылі б з месье па-старафранцузску кальвадос дапамог бы ў цяжкіх выпадках; спадару Гаю трэба асобны келіх Гай мог бы натхнёна зацягнуць нам *Марсельезу* а потым нешта з лірыкі вагантаў
*прыйшла я ранічкаю ў лес а тут і ён вясёлы бес*
*сукенку стаў з мяне зрываць мне ручкі белыя ламаць*
наслухаўшыся Гая ты сам аднойчы спяваў гэтую песеньку на пляцы ў Клайпедзе пад гаўбцом з якога перад шчаслівымі мемельцамі выступаў у 1939-м адзін былы абітурыент Венскай акадэміі мастацтваў; ці быў бы Халакост каб залічылі?

***12***

ты заўважаеш што размаўляеш з самім сабою: месье неўпрыкмет адкланяўся спадар Гай недзе на праменадзе ў ваколіцах менскага Чырвонага касцёла пахаваны ў ім паводле запавету; хто ж тады піў кальвадос з ягонага келіха? на дне пляшкі застаецца роўна тры глыткі *вы дазволіце месье Мантэнь?*
у сваю чаргу абяцаеш прыехаць наступным летам у Бардо знайсці кенатаф месье працытаваць там Цэзара з эсэ *Пра адну цытату Цэзара;* некалі ты ўразіў цытатаю выкладчыка лаціны на экзамене; нічога дзіўнага: ты з дзяцінства схільны да містыкі метафізікі etc. гэта вы месье – сенсуаліст і апостарыёрык але цытата: *communi fit vitio naturae ut invisis latitantibus atque incognitis rebus magis confidamus vehementiusque exterreatur – такая вось загана ўласцівая нашаму Я рэчы невідочныя таемныя неспазнаныя нараджаюць у нас і веру і страх*
з Бардо ты як сапраўдны паломнік накіруешся ў замак; вежа дзе напісаны *Досведы* ацалела як і *Вежа мадам* дзе жыла вашая месье жонка; дык усё ж жыла ці была як піша адзін ваш даследнік *паселеная*; потым ты вып’еш замкавага віна; сеціва папярэджвае што болей ніколі не захочацца але ты набудзеш пляшку для N.

ды наступным летам будзе эпідэмія імклівыя пахаванні з зачыненымі трунамі з вірусам знойдзеным у Сене ў Тыбры ў сперме ў малацэ маці дзе яшчэ?
ты падлучыш у смартфоне падлік крокаў і кіламетраў каб пяць разоў схадзіць на начных прагулянках дадому ў Полацак і вярнуцца дадому ў Менск адгукнецца і знікне сіньёр Клаўдыё з Сан-Вінчэнца; ён не прысніцца табе але магчыма патанчыць там у сябе рок-н-рол з Мікалаем Судзілоўскім а тады яны з жонкаю будуць *песціць адно аднаго* ён сядзе пісаць кнігу а яна будзе гатаваць яму лазанню і татэліні фрытату і трыпу брускету і салату капрэзэ

***13***

цемра за вокнамі згушчаецца да кансістэнцыі касмічных чорных дзірак Дом вось-вось ператворыцца ў адзін з *Вояджэраў* калі ты не памыляешся *Вояджэры* мусяць быць недзе за Плутонам; дарогу ў свой пакой трэба шукаць па зорках; тэлефон распісваецца ў бездапаможнасці здольны толькі паведаміць што *сёння святкуе дзень нараджэння Святлана Б. далучайцеся да віншаванняў* у клавіятуры ты зноў арыентуешся па зорках *ідзіце ў сраку з такімі віншаваннямі!*

ты знаходзіш у *Гугле* звесткі пра кальвадос: прадукт дысцыляцыі сідру першая згадка 1553 год; раўнютка праз чатырыста гадоў хтосьці вызваліў месца табе каб ты паспеў пражыць ледзьве не болей за сярэднюю працягласць жыцця мужчынаў тваёй краіны нарабіць як ты лічыш верачы ў экзістэнцыйны баланс прыкладна пароўну добрых і дрэнных учынкаў спыніцца на раздзеле XX першай кнігі *Досведаў* хоць ты памятаеш і папярэдняе эсэ *Пра тое што нельга меркаваць ці шчаслівы хто-небудзь пакуль ён не памёр* цікава што сказаў бы месье Селін з аднолькава цёмнымі аверсамі і рэверсамі ягонай вандроўкі на край ночы?

твой персанальны *Вояджэр* ляціць праз ноч якую песню Армстронга можна паслухаць цяпер за арбітаю Плутона? ты выбраў бы *Moon River* успомніце як завецца спадарожнік Плутона? правільна *Харон* ну што рабіць з гэтаю чэрвенскай ноччу ў Фінчлі калі эпіграфам да яе хтосьці абраў *memento mori*

***14***

на пляцоўцы паміж першым і другім паверхамі ты спыняешся Дом здаецца табе ўжо не касмічным а падводным апаратам – гэтая субмарына не жоўта-вясёлая яна доннага фіялетавага колеру; ты намагаешся прачытаць што напісана на борце але на гэтым стромым беразе цябе небяспечна хістае; каб захаваць прапорцыі светабудовы ў іх адзінстве і суладнасці не застаецца нічога іншага як найхутчэй звонку дзе ты неспадзеўна апынуўся выкінуты касмічным ветрам патрапіць у нібыта прытульнае нутро субмарыны з залацістымі аваламі ілюмінатараў

да тваёй каюты застаецца дзесяць крокаў; стан бязважкасці што апанаваў цябе ў *Вояджэры* напоўніцу карыстаецца інерцыяй аднак гравітацыя бярэ сваё ты ўгрунтоўваешся на нагах ты дойдзеш; доўгай дарогаю ты нават успомніш: месье Мантэнь ведаў пра тваю краіну згадваў князя Вітаўта ягоны закон (ты высветліў закона насамрэч не было ды ўсё адно рэспект) паводле якога асуджаныя на смерць злачынцы мусяць самі выконваць прысуд бо нікога іншага нельга прымушаць да забойства чалавека; між тым у тваёй краіне і сёння да забойства прымушаюць якраз іншых; каго прымушаюць а хто і сам ловіць асалоду ад катаванняў; гэта ж такі кайф два тыдні не даваць зняволенай жанчыне памыцца забраць у пісьменніка асадку паліваць хлёркай падлогу ў камеры каб на яе немагчыма было сесці калі нары паднятыя не даваць нажніцы каб абрэзаць пазногці; хтосьці ловіць задавальненне ад самога забойства – як быццам законнага а часам таемнага – на якое таемна выдаюць расстрэльныя пісталеты

аднаго з тых у каго стралялі такія пісталеты ты ведаў асабіста: малады прыгожы адукаваны ён быў як вы месье Мантэнь юрыстам ды хацеў стаць не мэрам Бардо а прэзідэнтам краіны зрэшты ніхто не бачыў твайго знаёмага як і Сябру мёртвым;

ходзяць чуткі пра відэастужку дзе твой знаёмы стаіць на каленях перад тым чыё месца хацеў заняць; ты абрываеш нітку сваіх думак бо іначай твой знаёмы раптам падымецца ці спусціцца да цябе а ў вас былі не такія стасункі каб ты хацеў яго ўбачыць хоць можна было б спытаць ці сапраўды ён стаяў на каленях; тваю краіну не забыў і месье Селін: з тваёй краіны прыбыла дама лёгкіх паводзін як гэта добра ў Селіна: *мы сядзелі ў кавярні пілі віно і захоплена глядзелі на дам*

***15***

за дзве прыступкі да дзвярэй каюты ты астатні раз адпачываеш; нядаўна тут ішоў спадар Гай твой Сябра спускаўся зверху; хто падымаўся ці сыходзіў уніз пакуль ты піў кальвадос? хто зачыніў за табой ці за сабой дзверы? адкуль гэты белы прастакутнік на арэхавай панелі гэтыя літары што скачуць уваччу не жадаючы складвацца ў словы? усё так нагадвае... так нагадвае мармуровую плітку у велізарных сотах калумбарыя; у калумбарыі былі імя і дзве даты; з вымытай нядаўняй залеваю фатаграфіі праз бездань гадоў зірнула на цябе жанчына якой ты не мог калісьці прапанаваць нічога апроч маладосці і неспрактыкаванасці вакол дома якой быў здольны блукаць паўночы пакуль не загарыцца яе вакно

у непагадзь ты чакаў яе ў пад'ездзе балазе да кодавых замкоў нашыя шыроты яшчэ не дажылі а да мабільных тэлефонаў яшчэ не дажыло ўсё чалавецтва ты здагадваўся што ты ў яе не адзіны магчыма зараз яна вяртаецца ад таго іншага альбо ад аднаго з тых іншых; будзь шчыры перад сабой ты не здагадваўся а ведаў неяк яна назвала цябе не тваім імем потым зноў не тваім але не такім самым ты не сказаў бы што яна збянтэжылася; ты ніколі не думаў пра гэта як пра здраду таму што ўжо тады разумеў: здрады бываюць толькі сабе самому ў тым ліку бясконцыя здрады твайго цела якія з гадамі робяцца ўсё больш пакутлівымі пакуль цела не здрадзіць табе апошні раз; але ці варта быць даастачы залежным?

ты хадзіў вакол яе дома стаяў у пад'ездзе чакаў як ажыве позні ліфт каб зразумець гэта яна каб пачуць крокі якія пазнаў бы з усіх крокаў на свеце; уяўляў як яна (з невядомае табе прычыны яна рана і ўшчэнт пасівела але адважна пастанавіла не фарбавацца) як яна абдыме цябе скажа *дзіця маё* на хвілю спыніцца пры люстэрку (*мой бязлітасны амальгамны прысуд*) козытна прашэпча *будзем зноў заплываць за буйкі?* яна любіла пакідаць буйкі ззаду напэўна таму пасля цябе – распавялі сяброўкі – жыла з ведзьмаком-экстрасэнсам сцвярджала што лётала з ім узяўшыся за рукі над пустэльняй над акіянам над тагасветнымі марсіянскімі краявідамі

урэшце яна прызямлілася ў крэматорыі; ты даведаўся значна пазней; вырашыў не лічыць колькі ёй было гадоў але ўсё ажыло: жанчыны якіх ты абдымаў зноў і зноў пераствараліся ў яе набывалі ейныя дотыкі рухі рытмы ейныя шматлікія ўскрыкі *ўсё!* палохалі да страты жадання каб потым вярнуць яго на новай хвалі каб змусіць заплюшчыць вочы баяцца паглядзець на тую з чыім целам ты пераплёўся; ты даведаўся што яе душа выправілася ў вечны палёт а цела адплыло ў апраметную крэматорыя калі ты сядзеў у вясёлай застоліцы; ты не сышоў ты выпіў да дна наступны келіх і падумаў: некалі хтосьці зробіць гэтаксама пачуўшы што далей ты будзеш жыць у сваіх кнігах і энцыклапедыях і магчыма аднойчы ўначы падымешся ці спусцішся да некага па прыступках у Менску у Полацку або Вільні лепей у Вільні недзе ў Зарэччы пад анёлам хоць насамрэч

гэта не анёл а анёліца ты памятаеш ціхуткую мелодыю якую яна выдзьмувае са свае залатое трубы; мелодыю чуваць усяго на дзвюх вуліцах – Зарачанскай і Полацкай часам яшчэ на Крывіцкай але гэта залежыць ад таго з кім ты ідзеш

***16***

другі раз каля ейнага фота ў мёртвых сотах ты сустрэў невысокага мужчыну амаль хлопца – падраныя на каленях сінія джынсы саколка з бразільскім сцягам доўгія рудаватыя кучары; ён нешта прагна піў з зялёнай вайсковае біклажкі адарваўся зірнуў на цябе ты адразу зразумеў: ён і ёсць той вядзьмак ён таксама ўсё зразумеў а можа ведаў наперад; ты сыходзіў не азіраючыся бо ён прыйшоў першы бо лётаў з ёю апошні хоць – табе казалі – не прыляцеў на пахаванне каля брамы кладоў ты ўсвядоміў: ён выглядае маладзейшым за цябе ў тым часе калі былі буйкі амальгамны прысуд і ўсё астатняе звязанае са жменькаю попелу за белым мармуровым прастакутнікам; міжволі ўсплыве гісторыя з Жыгімонтам Аўгустам і Барбараю Радзівіл аднак не ты не павернеш назад не папросіш хлопца ў драных джынсах (мо ён прыляцеў сюды з Бразіліі?) выклікаць дух тваёй *Басенькі* ты адно паскорыш крок зусім крыху каб гэта не выглядала ўцёкамі

як там было ў Селіна? калі эгаізм крыху адпускае нас на шляху да фінішу застаецца толькі памяць пра жанчын якіх ты насамрэч кахаў; табе карціць удакладніць месье: ці не застаецца ў залатым запасе памяці на той фінішнай дыстанцыі адна-адзіная жанчына? тая з якою ўсё ператваралася ў задавальненне і ты лічыў сябе нарэшце свабодным? свабодным! ці было так калі-небудзь з табою? дзе тая мяжа паміж пачуццямі і прывідамі пачуццяў паміж жаданнямі і прывідамі жаданняў? ці не могуць прывіды мець большую ўладу?

***17***

на дзвярах не мармур – прышпілены гаспадарамі аркуш паперы нагадвае а каторай гадзіне выносіць смецце; твой нервовы смех гучыць адразу з некалькіх бакоў быццам бы яго паўтараюць некалькі галасоў ці некалькі рэхаў трэба заходзіць ты не здольны адпрэчыць адчуванне што за дзвярыма нехта ці нешта ёсць хтосьці можа стаяць каля цёмнага вакна і паволі азірнуцца на цябе хтосьці можа ляжаць у ложку з тваёй кнігаю або спаць адвярнуўшыся да сцяны ты пагаджаешся на тое каб сустрэць у пакоі самога сябе каб вы абое аб’ядналіся

відаць заснуць без нейкага сродку не пашэнціць але ты пакуль не карыстаешся снатворнымі пігулкамі сёлета добра дапамагае вершык пра казачнага мішку
*тупу-тупу-тупу*
*нясе мішка ступу*
*ў ступе ўперамешку*
*цукар і арэшкі*
*разынкі у цукерках*
*ў залатых паперках*
а самы надзейны сродак – даўняя пяшчотная штовечаровая маміна песенька
*гушкі гушкі гушкі*
*прыляцелі птушкі*
*селі на варотах*

*у чырвоных ботах*
*сталі сакатаці*
*чаго птушкам даці?*
*дам я ім гароху*
*хай ядуць патроху*
*і пасыплю грэчкі*
*каб няслі яечкі*
ты не паспяваеш дадумаць сваю маленькую думку як грэчка дапамагае несці яечкі
а мама паспявае тры разы ласкава правесці табе па кудзерках ад макаўкі да вушак:
*гушкі гушкі гушкі гушкі*
*сон выходзіць з-пад падушкі*

ты накрываешся з галовой коўдраю ты думаеш што наперадзе яшчэ адна ноч гэта нечакана супакойвае цябе ты гатовы да ранейшых і новых візітаў цябе папярэджвалі; выбіраць будзе Дом – ты згодны і на хлопца ў саколцы з бразільскім сцягам; ты станчыў б з усімі рок-н-рол; дамы хутка навучаць месье Мантэня і месье Селіна спадар Гай і айцец Аляксандр пастаяць з келіхамі каля кніжных стэлажоў; вы будзеце танчыць без масак і не захоўваючы адлегласці будзеце танчыць пакуль у вакно не папросіцца з-за магнолій раніца і твае трохі касалапыя ножкі не збягуць па прыступках зверху неўміруча выцінаючы *тупу-тупу-тупу*

*Ліпень 2020*

Барыс Пятровіч



...мне часта здаецца,
што гэты свет вакол нас
проста камусьці прысніўся...

# Наіўны дэтэктыў

***Гісторыя аднаго забойства***

*Мне ўвесь час здаецца, што гэты свет вакол нас проста камусьці прысніўся. Часам я нават думаю, што ведаю каму... Але як толькі пачынаю канкрэтызаваць сваю здагадку, у мяне адразу з'яўляюцца першыя сумневы. Яны яшчэ кволыя, як змейкі, што толькі-толькі вылупіліся з яйка, і такія ж брыдкія. Таму я адганяю свае відзежы-змейкі. Мне прасцей працягваць жыць далей так, нібыта я ні пра што не здагадваюся, нічога не ведаю, і што сон – гэта сон, а жыццё – гэта жыццё. Звычайнае жыццё, да якога мы ўсе прывыклі і не заўважаем нават, што яно камусьці прыснілася...*

Пачалося ўсё з адной гутаркі, слухачом якой Антось стаў міжволі. Ён сядзеў у трамваі, звычайным менскім трамваі, і ехаў дамоў. Ад Камароўкі, побач з якой працаваў, да ягонага дома каля чыгуначнага вакзала можна было даехаць на метро. Па часе на трамваі было

крыху даўжэй, але Антось не дужа любіў падземку і карыстаўся ёю толькі калі не было іншых магчымасцяў. Ён сядзеў, а побач стаялі дзве дзявулі і размаўлялі. Гаварылі шчыра, не шапталіся, але і не голасна, абсалютна не зважалі на тое, што побач ёсць іншыя людзі, якія могуць іх пачуць. Яны нібыта ўвогуле нікога не заўважалі. У нагах іх стаялі нейкія... не чамаданы, як Антосю падалося адразу, а... музычныя інструменты, адзін большы, другі намнога меншы, але формай падобныя. Віяланчэль і скрыпка – здагадаўся ён. Дзявулі прыцягнулі ягоную ўвагу яшчэ на прыпынку, дзе яны разам чакалі трамвая, тым, што падаліся яму надта падобнымі – быццам блізняты. Аднаго ўзросту і росту, перафарбаваныя ў бландынак і апранутыя, як сёстры, у аднолькавыя кароткія джынсавыя спаднічкі і цішоткі, якія розніліся толькі колерам: у адной светла-ружовая, а ў другой светла-бэзавая. І галасы ў іх былі падобныя: звычайныя галасы маладзенькіх дзяўчатак. Аднак з пачутай размовы Антось ужо ведаў, што яны не блізняты, а студэнткі-аднакурсніцы, якія разам здымаюць пакой у аднае бабулькі. Пра гэтую бабульку яны і гаварылі. Прычым няважна, што казала першая ці другая, бо яны не спрачаліся, а як бы дапаўнялі адна адну.

– А Йван сёння вечарам зноў прыйдзе да бабулі, – спытала светла-ружовая.

– Так, я выпадкова чула ранкам, як яна з ім пра тое дамаўлялася.

– Як ён абрыд... Пасля бабулі адразу да нас прэцца...

– Даста-аў... А ўсяго ж нейкіх два-тры тыдні як з'явіўся, а так упёкся, у пячонцы сядзіць, блін.

– І адкуль ён узяўся? Ды яшчэ гэтыя выхадкі джэнтльменскія, быццам ён замежнік нейкі... Ведаю я такіх замежнікаў з Пухавічаў...

– Не-е, сёння, калі ён зойдзе да нас, я яго... Я яго проста нахабна праганю, і ўсё. Колькі можна натацыі слухаць...

– Ага, і я таксама так думаю. Настаўнік, псіхолаг, блін, знайшоўся. Дарадца... Хай бабулька сама яго... (апошнія словы Антось не дачуў).

– Так... – дзявулі засмяяліся, але смех іхні не сказаць каб быў вясёлы.

Міжволі, зноў жа, міжволі – не затыкаць жа Антосю вушы ці не перасаджвацца, ён, зацікаўлены іхняй размовай, асцярожным бакавым зрокам больш уважліва і пільна прыгледзеўся да дзявуль. І... пазнаў іх. Яны зусім нядаўна сталі ягонымі суседкамі, ну ўсяго мо месяц таму, ці менш, і жылі ў кватэры бабулі побач – дзверы ля дзвярэй. Ён бачыў іх некалькі разоў зусім выпадкова, калі выходзіў са сваёй кватэры, а яны заходзілі ў бабуліну – стаялі спінамі да яго, і таму яны ні разу нават не павіталіся, не тое, каб перакінуцца словамі, а тым больш пазнаёміцца. Ды і Антось пераехаў у гэтую кватэру, якая дасталася яму ад ягонай бабулі Ганны, крыху больш як паўгода назад, хоць некалі дзяцінства яго і юнацтва прайшлі тут. Калі вы падумалі, што Антось быў тым самым Йванам, які да іх прыйдзе ўвечары, дык вы памыліліся. Але Антосю падалося, што Йвана таго ведае, бо быў ён ці не самым частым госцем у бабулі. Толькі насамрэч Йвана завуць Толікам... Яму недзе за пяцьдзясят, але выглядае маладзей за свае гады. А што – пражыў без клопатаў, без нерваў, ды і сочыць за сабой: бегае раніцамі да стадыёна "Дынама" ды размінаецца там. У іхнім двары Толік асоба прыкметная. Хоць бы таму, што няма ніводнага суседа ці простага наведніка гэтага двара – а тут па даўняй, яшчэ з раннесавецкіх часоў традыцыі, мужчыны збіраліся ў кутку пад дрэвамі ў "даміно" "казла забіць", у "дурня" згуляць, а то і ў "ачко" на грошы – у

якога б ён не выйграў пляшку гарэлкі. Пабачыўшы новенькага, Толік праз нейкі час казаў: “Давай паспорым на пляшку гарэлкі, што ў мяне даўжэйшы за твой... язык.” Спорыць ніхто не хацеў, маўляў, калі прапануеш, дык ведама, даўжэйшы. І тады Толік казаў: “А спорым, я сваім языком да свайго вока дастану”. Усе спынялі гульню і глядзелі, пагодзіцца новенькі ці не, ды яшчэ падзуджвалі: “Не, ну не можа такога быць... Языком... да вока... не-е-е... ніколі... да носа і то... не-е... ну ніяк...” І новенькі, прыкінуўшы адлегласць ад Толікавага рота да вока, пагаджаўся *паспорыць*. Тут жа перабівалі рукі, і... Толік, зразумела, перамагаў. Ён адразу высалапліваў свой язык да кончыка носа, і ўжо тады ён здаваўся аж занадта доўгім, а потым раптам пачынаў выпаўзаць з рота далей і далей, бы змяя з нары, поўз аж да вока і кранаўся ніжняга павека... Адкуль толькі і браўся. З часам пра Толікаў язык ведала ўсё наваколле, і выйграваць пляшку стала яму амаль немагчыма, хіба толькі ў зусім чужых, што выпадкова апынаюся ў іхнім двары. Варта сказаць, што Толік і складзены быў неяк ненатуральна, бо і ўсё астатняе ў яго было непрапарцыйна доўгае – ногі, рукі, пальцы, нос... А таму яго прымалі ў сябе па чарзе, нібыта цішком, незаўважна для іншых, амаль усе незамужнія жанчыны ды ўдовы гэтага двара. Было тое таямніцай, якую ведалі ўсе – гэтакі сакрэт Палішынэля... Менскі двор, тым болей такі замкнуты, як Антосеў, гэта вёска ў горадзе, дзе кожны кожнага ведае здаўна, асабліва старажылы, і ўтаіць нешта тут цяжкавата. Час ад часу жанчыны раўнавалі адна адную, калі да кагосьці Толік пачынаў хадзіць часцей па-за складзенай самой па сабе чаргой. Бываў тады лямант на ўвесь двор, а аднойчы Маша і Галя адна адну за валасы пацягалі. За Толіка, якога Маша падпойваць стала добрым каньяком... Апошнім часам Толік асабліва палюбіў хадзіць да бабулькі, пра якую і размаўлялі дзявулі. Пабачыўшы і паслухаўшы іх, гэтых дзявуль-кватарантак, і пачуўшы, Антось зразумеў, чаму Йвана, то бок Толіка, цягне найперш да бабулькі-суседкі, а не да іншых жанчын з іхняга двара.

Бабульку-суседку Антось добра ведаў яшчэ з дзяцінства, калі яны жылі тут усёй сям'ёй. Пераехаў адсюль ён з бацькамі, калі яму было гадоў шаснаццаць – тата выкупіў новую кватэру, а ў гэтай засталася бабуля Ганна – ягоная маці. Летась бабуля памерла, але перад тым паспела кватэру адпісаць унуку Антосю, і ён перасяліўся ад бацькоў сюды. Дык вось, бабулю, пра якую казалі дзявулі, звалі... не паверыце... яе звалі Гертруда Браніславаўна. І Гертруда тут не нейкае даўняе чужое нямецка-дацкае ці еўрапейскае імя кшталту Герды з казкі Андэрсена пра Снежную каралеву, а чыста савецкае, прыдуманае за Сталінам, і калі раскласці яго на састаўныя часткі, дык атрымаецца “герой труда” – ну, герой працы, калі хто не разумее: было такое званне ў вялікай краіне, якое неакамуністы захавалі і ў Беларусі (за савецкім часам да гэтага звання абавязкова здзекліва дадавалі: “...з гемароем у ср...цы...”, асабліва, калі гэта тычылася двойчы, тройчы “герояў” з Палітбюро, бо начальства любіла ўзнагароджваць сябе, а народ начальства не дужа каб паважаў). Імя сваё бабуля неўзлюбіла яшчэ з дзіцячага садка, але змяніць яго пры атрыманні пашпарта не адважылася, пра што потым дужа шкадавала. Па жыцці яна дужа камплексавала з-за яго і ўсё хацела неяк “благародна” скараціць. Але Гера гучала надта па-мужчынску, а Труда – зусім не гучала, а таму ў двары ўсе яе звалі коратка Геня, з часам – баба Геня, хоць гэта таксама было амаль па-мужчынску, але значна мякчэй, хай і на габрэйскі манер.

Антось задумаўся і не заўважыў, як даехаў да свайго прыпынку. Ледзь не прапусціў яго. Уратавала тое, што тут, каля вакзала, трамвай звычайна стаіць даўжэй. Спехам выскачыў з салона, заўважыўшы, што наконт дзявуль не памыліўся: яны таксама выйшлі на гэтым жа прыпынку. Ён ішоў за імі назіркам – яны па-ранейшаму нешта шчабяталі, цяпер ужо весела: кожнага радуе набліжэнне да ўласнага жылля. Перабегшы дарогу ля падземнага пераходу, дзявулі, аднак, пайшлі не дахаты, а завярнулі ў харчовую краму. Ну і хай сабе. Антось за імі не пайшоў. Хоць і не спяшаў нікуды, але не меў намеру зварочваць некуды – дома хапала прадуктаў на вечар. Мінуўшы краму, ён зайшоў у свой двор.

Дарэчы, пра двор... Падаецца, што кожны мянчук яго ведае. Калі вы хоць раз былі ў Менску, то, вядома ж, прыязджалі ў горад на цягніку ці аўтобусе. Выйшаўшы на гэтак званую прывакзальную плошчу, якая на самой справе безыменная, вы адразу звернеце ўвагу на дзве будыніны, якія ў нас называюць “Варотамі Менску”. На адным з дамоў гадзіннік – на левым, калі стаяць спінай да чыгуначнага вакзала, а на другім, адпаведна, правым – былы герб БССР. Дык вось, за тым, дзе гадзіннік, і пачынаецца Антосеў двор – трохі далей і глыбей, бліжэй да скверыка са скульптурай дзяўчынкі з парваным парасонам, мінаком, які просіць цыгарэтку і... прастытуткай, што адпачывае на лаўцы пасля “трудоў праведных”. Знакаміты дворык. Яшчэ і тым, што там перыядычна адны невядомыя людзі абіраюць, а то і збіваюць ці нават забіваюць іншых “пад покрывам ночы”, бо зручна – вакзал побач, а вакзал заўсёды прыцягвае злачынцаў. Але жыхары дворыка, а ён не такі ўжо і малы, хоць я і кажу дворык, да таго даўно прывыклі і не звяртаюць увагі на чарговую “хуткую” ля дома і міліцыянтаў, што нешта мераюць ды запісваюць. Праўда, стараюцца ўсё ж позна ноччу не вяртацца дамоў – ці мала што... Беражонага Бог беражэ... У іх свае клопаты, свае праблемы і свае героі, адзін з іх і ёсць той самы Толік, пра якога Антось зноў згадаў, убачыўшы стол пад дрэвам і лаўкі, на якіх раней звычайна размяшчаліся гульцы ў “даміно”. Хоць быў і цёплы восеньскі вечар, цяпер ніхто там не сядзеў, мо яшчэ і таму, што вяртаўся Антось ужо ў прыцемках. Дарэчы, нягледзячы на апошні тыдзень верасня, у Менску стаяла такая цяплынь, якой не было і ў дажджлівым ліпені, і Антось нават трохі ўспацеў, хоць і быў апрануты ў лёгкую кашулю-тэніску... Так, ён зноў згадаў пра Толіка. Толік нарадзіўся тут, у гэтым двары – мянчук у другім калене. Адкуль дакладна бацькі ягоныя, Антось не ведаў. Недзе з Лагойшчыны, здаецца. Прыехалі ў Менск вучыцца, пазнаёміліся, пабраліся і з часам ад нейкага завода атрымалі кватэру ў іхнім доме. Але жыве Толік цяпер адзін – бацькі памерлі, а сам так і не прыжаніўся. Такім чынам, Толік быў карэнным менчуком у адрозненне ад той жа бабы Гені, якая большую частку жыцця пражыла ў Казахстане, куды бацькі яе нечакана пераехалі па закліку Хрушчова “асвойваць цаліну”. Антосева бабуля Ганна казала яму неяк, што не па сваёй волі яны туды паехалі, што вымушана пасля выкрыцця Сталіна, а мо і па працы, а вярнуліся на Беларусь з дачкою Гертрудай і яе мужам толькі паміраць, калі рускамоўных у Казахстане добра-такі ціскануці мясцовыя патрыёты... Толік двор свой не пакідаў нават на дзень за жыццё – нікуды не ад’язджаў, і ў войска яго па нейкай прычыне не ўзялі. Бегаў тут у школу, потым скончыў прафтэхвучылішча і працаваў у ЖЭСе, што, дарэчы, давала яму магчымасць хадзіць па кватэрах вядомых яму жанчын нібыта па працы... Яшчэ адзін успамін пра Толіка: гадоў

у сем бацькі аддалі яго ў недалёкую шахматную школу, і ён да пятага класа стаў вундэркіндам, як тут казалі, – выйграваў у шахматы ва ўсіх навакольных аматараў. А трэба сказаць, у сямідзясятыя гады шахматы ў Менску былі досыць папулярнымі. Прычым гулялі тады ў парках ды скверыках “на інтарэс”: пад дошку клалі дамоўленую суму – па рублю, па два і болей – і той, хто выйграваў, грошы забіраў. Калі Толік падрос і стаў кандыдатам у майстры спорту, гуляць з ім мала хто пагаджаўся. Потым у прафтэхвучылішчы ў яго з’явіліся іншыя зацікаўленні, і шахматы ён закінуў. Але слава пра яго як пра выдатнага шахматыста, а цяпер і карцёжніка, у двары жыла... “Аднак, – падумаў Антось, – нешта я зашмат увагі яму надаю, зачапіўшыся за імя, якое ў размове дзяўчат не прагучала нават”. Між тым ён ужо быў каля свайго дома, абмінуў “хуткую”, што стаяла амаль каля пад’езда – яны звычайна тут спыняліся, калі нешта ў двары здаралася – і пачаў падымацца на свой паверх.

Ужо з першых крокаў па лесвіцы Антось адчуў, што нешта тут не так... Нейкая не такая, як звычайна, стаяла ў пад’ездзе цішыня. Не цішыня нават, а нібыта якаясьці тугая напруга, пачуць якую можна толькі нутром, не разумеючы, а толькі адчуваючы. Быццам штосьці недзе адбывалася, але дзе і што ён уцяміць не мог... У трывожным неўразуменні, што раптам агарнула яго, Антось шпарка падняўся на свой трэці паверх і ўбачыў, што дзверы ў кватэру бабулькі-суседкі, той самай бабы Гені, расчыненыя. Праходзячы міма, ён міжволі зазірнуў туды краем вока і ўбачыў, што ў вітальні стаяць... два міліцыянты. Адзін з іх рэзка павярнуўся і адразу ж кінуўся да яго – Антось не паспеў нават ключ у замок уставіць.

– Пастой, ты тут жывеш?

Антось хацеў груба адказаць яму на гэтае “ты”, маўляў, я з табой свіней не пасвіў – і павярнуцца задам да яго і перадам да сваіх дзвярэй, але стрымаўся. Ці нешта яго стрымала. Спыніўся, абыякава пазвоньваючы ключамі.

– Тут. Ну і што...

– Гертруду Браніславаўну Свішчову ведаеш?

– Гертруду ведаю, а што далей – не.

– Што – “далей не”? – схапіўся за словы міліцыянт.

– Як звалі яе бацьку і прозвішча – чую ўпершыню. Бабулю, якая тут жыве, усе клічуць Гертруда ці Геня, і гэтага хапае.

– Ага... – супакоіўся настырны і наструнены міліцыянт, – добра, тады ідзі сюды. Панятым будзеш.

– Якім панятым? Не хачу я...

– Будзеш. Тваю суседку абакралі і забілі.

Вось табе і навіна... Агаломшаны гэтымі словамі міліцыянта, Антось пайшоў услед за ім.

У перадпакоі ці вітальні стаяла яшчэ два міліцыянты, дзве жанчыны ў бардовых штанах і куртачках, з накінутымі на плечы белымі халатамі, і сусед Антося – дзядзька Сцяпан з кватэры на паверх вышэй.

– Вам можна быць вольнымі, – сказаў адзін з міліцыянтаў – капітан – жанчынам у белых халатах. Антось зразумеў, што гэта былі дактары з “хуткай дапамогі”. Тыя з палёгкай удыхнулі і, глыбока выдыхнуўшы, выйшлі.

– Вы з восьмай? – спытаў у Антося капітан.

– Так.

– Будзеце панятым.

Антось кіўнуў. А што было рабіць... Папаўся. А мог жа зайсці ў краму ці ў кнігарню па дарозе завярнуць і пастаяць там да закрыцця, гартаючы кнігі, якіх не дакупіцца з ягоным заробкам. Тады б дзяўчаты апярэдзілі яго ў панятыя. Дзяўчаты ў панятыя? Не, яны ж тут жылі... Таму... пэўна, яны трапяць у першыя падазраваныя? Бо ці мала які канфлікт з бабуляю ў іх мог быць..., – так падумаў Антось і адразу ж сябе супакоіў: дзяўчаты зараз прыйдуць і, мяркуючы па іхніх паводзінах, тое, што здарылася, для іх таксама будзе сюрпрызам.

Бабуля ляжала ў сваім пакоі, тым, які не здавала дзяўчатам. Антось зазірнуў туды: на падлозе ля галавы яе, паўкругам, як німб, была лужынка крыві, якая ўжо не павялічвалася – кроў загусла. Ад скроні да гэтай лужынкі па сівых валасах ішла вузкая цёмна-чырвоная палоска. Вочы былі заплюшчаныя і, каб не кроў, можна было б падумаць, што бабуля спіць.

– Відавочна, што... – раптам загаварыў капітан да сваіх падначаленых, – ...дзверы забойцу яна адчыніла сама, бо слядоў узлому няма. Значыць, яна ведала яго... – памаўчаў. – Та-ак... Але хто ж тады выклікаў “хуткую”? – паглядзеў уважліва на прысутных.

Усе міжволі паціснулі плячыма. І дзядзька Сцяпан таксама.

– Сама? Не, сама яна не магла... – капітан працягваў разважаць сам з сабою, – “хуткая” выклікала нас, а хто яе? Трэба праверыць... Ну, таварышы, праходзьце сюды.

Пачалася нудная працэдура, у якой Антось удзельнічаў у якасці панятога ўпершыню: апісанне даволі беднага на рэчы пакоя бабулі: шафа, канапа, фатэль, два крэслы, стол, на стале... І тут рабочы, абыякавы голас міліцыянта, які дыктаваў у пратакол “абстаноўку”, спыніў раптоўны пранізлівы ўскрык здзіўлення: то прыйшлі тыя самыя дзяўчаты-кватаранкі, убачылі расчыненыя дзверы і міліцыянтаў.

– А гэта што яшчэ такое, – капітан здзівіўся, – хто вам дазволіў сюды зайсці? А ну-ка, пайшлі прэч адсюль!.. Не! Стойце! А вы хто?

– Мы... мы... мы... жывем тут.

– Оба-на! – здзівіўся капітан. – Тады заходзьце.

Дзяўчаткі, яшчэ ўзбуджаныя прыемнай размовай у дарозе (можа, й пра Йвана, які неўзабаве прыйдзе да бабулі, будзе чапляцца да іх, і яны яго прагоняць...) увайшлі ў вітальню і змяніліся ў тварах – столькі народу ў бабульчыным пакоі яны не чакалі бачыць, потым праз дзверы зірнулі на падлогу, угледзелі бабульку ў крыві, і “А-а-а-а-х!” – адна за адной паваліліся без прытомнасці...

Іх адкачалі, адпырскалі вадой і адвялі наварыўню на допыт.

Для Антося ўсё было зразумела – каму яшчэ магла адчыніць дзверы баба Геня, як не таму, каго дзяўчаты звалі Йванам, а дакладна – Толіку, які прыйшоў раней, чым абяцаў. З кім яшчэ яна магла пасварыцца, як не з ім. Можа, і з рэўнасці з-за ягоных заляцанняў да дзяўчат, пра што Антось чуў ад іх у трамваі. Ён ужо збіраўся намякнуць пра гэта капітану і шукаў зручны момант дзеля таго, як у кватэру ўвайшоў задыханы... Толік. Ён відавочна, спяшаў, спазняючыся, узбег па прыступках уверх і так, як бег, сходу ўскочыў у кватэру, у расчыненыя дзверы, зрабіў яшчэ два-тры хуткія крокі, спыніўся і аслупянеў, убачыўшы натоўп людзей на чале з міліцыянтамі. Ён нават засланіўся, прыкрыў рукамі твар, вочы, нібыта бараніўся. Бо выскачыў з паўцемры лесвіцы на яркае святло.

– Што, што... што тут здарылася? – залепятаў ён.

“Ну вось і ўся кампанія ў зборы”, – падумаў Антось.

Толіка ён даўно не бачыў, і яму падалося, што той за апошні час здорава пастарэў. Ці мо асунуўся, пастарэў якраз цяпер, адразу, убачыўшы і зразумеўшы, якое гора звалілася на яго, на ўсіх. Антосю падалося, Толік нават нейк пачарнеў, угледзеўшы за спінамі міліцыянтаў Геню на падлозе і кроў ля яе галавы...

– Што за прахадны двор тут устроілі? Чаму не зачынілі дзверы? – капітан зноў узяў справу ў свае рукі. – Вы хто будзеце? – спытаў ён у Толіка.

Толік маўчаў. Хапаў паветра шырока раскрытым ротам, бо не мог аддыхацца, і маўчаў. Твар-маска роспачы і гора з вырачанымі вачыма нат не варухнуўся.

– Я вас пытаю: вы хто? Муж?

Толік страпянуўся, прайшоў колькі крокаў да Гертруды – усе расступіліся – і спыніўся, усё яшчэ асьлеплены ўбачаным, схапіўся за сэрца, пашукаў вачыма крэсла, падышоў і сеў. Усе, нават капітан, глядзелі на яго ў нямой сцэне. Сеўшы, Толік агледзеўся і нібыта толькі цяпер зразумеў, што пытаюцца менавіта ў яго. Антось назіраў за ім увесь час і бачыў, што сыграць такое немагчыма нават вопытнаму акцёру, які не раз душыў на сцэне Дэздэмону. Ягоныя падазрэнні наконт Толіка адпалі.

– Я сусед... Знаёмы... Блізкі... Часта... тут бываю... – з паўзамі, як сардэчнік, загаварыў Толік.

– Ён сусед, – наперабой пацвердзілі дзяўчаты, якія ўжо выйшлі з варыўні і стаялі каля дзвярэй у бабулін пакой, – ён часта ў нас бывае... – так і сказалі, адзначыў Антось для сябе: “у нас бывае...”.

– Сядзіце пакуль, – сказаў капітан Толіку, – дойдзе і да вас чарга. А нам трэба давяршыць справу, – і скамандаваў міліцыянтам: – працягваем...

Так, усе Антосевы падазрэнні адносна Толіка адпалі. Злачынца, канечне, можа вярнуцца на месца забойства, але... не дзеля таго, каб гэтак умела сыграць нявіннага. Ды і навошта... Антось паглядзеў, як ляжала баба Геня і падумаў: а можа, яна сама падкаўзнулася ды няўдала ўпала, ударылася аб рог стала і... забілася... Узрост: сэрца хапанула, галава закружылася, страціла прытомнасць... Ці шмат трэба ў яе ўзросце... Вунь дзяўчаты і то не вытрымалі, асунуліся...

Антось паціху падышоў бліжэй да бабулі, каб разгледзець яе. Так, рана была адна, і на галаве, якраз на самым слабым месцы – скроні. Іншых ран ці плямаў крыві нідзе на адзенні, на целе не было відаць. Але стол і рог яго ад бабулі былі далекавата. І паблізу нічога такога, аб што можна было ўдарыцца, няма – толькі скураная канапа, на якой яна спала, і скураны ж мяккі фатэль каля стала. На стале тэлефон, нейкія паперкі з запісамі, пара нататнікаў, далей ваза са свежымі кветкамі – ружамі, тры штукі... Кветкі былі сапраўды свежымі. Можа, і не сённяшнімі, але свежымі. Ага – нехта ж выклікаў “хуткую”... Ці не той, хто кветкі прынёс... Значыць, усё ж не сама забілася. Не выпадковасць гэта. Нехта быў з ёю і той нехта мог штурхануць яе ці ўдарыць... Злачынцу ўсё ж давядзецца шукаць. Але тут зноў пытанне – навошта ён, злачынца, тэлефанаваў у “хуткую”? Не хацеў яе смерці? Думаў, паспеюць ўратаваць? Аднак сам уцёк... Збег... Спалохаўся? А можа, проста нехта ішоў паўз дзверы, якія злачынец пакінуў расчыненымі, зайшоў у кватэру, убачыў бабу Геню ў крыві, выклікаў “хуткую”, а сам сышоў ад граху далей і ад лішніх клопатаў...

Пытанняў было шмат. “І падазраваных будзе не меней”, – падумаў Антось.

Антось пачаў згадваць тых, каго яшчэ, апроч Толіка, часта бачыў ля дзвярэй кватэры бабулі. Побач з іхнім дваром, ці іхнім домам, знаходзіцца ўніверсітэт. Корпус хімічнага факультэта дык і зусім блізка, проста праз вуліцу. І Антось часта бачыў, як да бабулькі прыходзілі маладыя людзі, студэнты, ён так думаў – па адным, па двое. Не больш. Спачатку ён меркаваў – кавалеры дзяўчат, што здымаюць у бабулькі пакой. Потым – іхнія аднакурснікі, калі заўважыў, што прыходзяць не адны і тыя ж хлопцы, а розныя. Але аднойчы праз прыадчыненыя дзверы пачуў размову пра грошы... Такія госці звычайна надоўга не затрымліваліся. Заходзілі і... амаль адразу, літаральна праз пару хвілінаў, а то і хутчэй, выходзілі. У дзяўчат яны пасядзелі б гадзінку, не менш. А калі б і выйшлі адразу, дык разам – у кавярню ці кіно... Пачутая размова была пра грошы. А якія грошы маглі звязваць бабульку і студэнтаў? Тут і да следчага не хадзі: хутчэй за ўсё бабулька давала ім грошы ў пазыку. Пад працэнты. На некалькі дзён. Ці тыдняў. Да стыпендыі. Ці пакуль бацькі не дашлюць. Альбо да выплаты заробку, калі хтосьці недзе працаваў... Сітуацыя амаль па Дастаеўскім... Бабулька-працэнтшчыца – ліхвярка ці “ростовщица” – і бедныя студэнты... Раскольнікавы, блін... Во як. Але ці не занадта проста ўсё? І прымітыўна для нашага часу. Сякера пад лаўкай гэта называецца, а не сініца ў руках... Узяць вось так і забіць бабульку... Навошта? Тым болей, студэнты ведалі, што яна жыве не адна, а з дзяўчатамі. Зрэшты, гэтую версію адкідаць пакуль не трэба... А, дарэчы, міліцыянт жа сказаў, што бабульку абрабавалі і забілі. Цікава, а што прапала з кватэры, што ўкрадзена? Калі грошы, то...

Міліцыянты якраз таксама дайшлі да гэтага. Яны апісалі абстаноўку, што і як стаіць, дзе і ў якой паставе знаходзіцца труп – так, прагучала ўжо і гэтае слова: “труп”, ад якога скалануліся дзяўчаты і Толік. І спыніліся якраз на пытанні, што з каштоўных рэчаў магло прапасці з пакою.

– Бабуля нас сюды не пускала, – сказала дзяўчына ў светла-бэзавай цішотцы, – мы жывем тут нядаўна, а таму, можна сказаць, што ў гэтым пакоі ні разу не былі, таму не ведаем нават, што і як тут стаяла...

– Можна сказаць не былі ці дакладна не былі? – капітан злавіў дзяўчыну на слове.

– Не былі... Дакладна. Яна да нас у пакой сама заходзіла. І яшчэ на кухні мы сустракаліся. А сюды бабуля нас не пускала. Паглядзіце, у яе асобны замок устаўлены, на які яна зачынялася. Гэта да нас яна ў любы час магла зайсці...

– А вы ў гэтым пакоі бывалі? – пытанне да Толіка.

– Так.

– Ну тады паглядзіце, чаго не хапае? Што не на сваім месцы стаіць?

– Ды здаецца, усё так, як пры ёй. Яна любіла парадак. Кожная рэч у яе на сваім месцы была. Ды і не шмат у яе рэчаў, бачыце, і занадта дарагіх няма. Хіба вось канапа, фатэль скураныя. Ад бацькоў засталіся...

– А грошы?

– Грошы былі. Пры мне яна раз ці два даставала, хаваючыся, прыкрываючыся, калі для кагосьці тэрмінова трэба было. З вунь той шуфлядкі даставала... – Толік кіўнуў у бок шафы, у якой і была адна шуфлядка пасярод. – Яна без ключа ў яе. Паглядзіце.

Капітан падышоў да шафы, праз насоўку акуратна ўзяўся за краёк ручкі шуфляды і шырока, на ўсю глыбіню, адчыніў яе. Усе ахнулі, убачыўшы,

што яна амаль да краёў поўная грошай, акуратна складзеных па колерах купюраў у пачкі, пераціснутыя гумкамі. Крыху збоку на іх ляжаў такі ж акуратны маленькі чорны нататнічак. Мяркуючы па ўсім, нічога адсюль не было ўзята. Зрэшты, ніхто ж і не ведаў, колькі і чаго там было...

Капітан быў уражаны не менш за іншых. Грошы заўсёды здзіўляюць, асабліва вялікія. Дзяўчаты, якія, відаць, ніколі не раскашавалі, пэўна, і не здагадваліся, што бабулька, якая ўвесь час ходзіць у старым, не раз цыраваным халаціку, якая ніколі не гатавала сабе на варыўні нешта з мяса і ўсё скардзілася ім на беднасць, трымае ў сябе такое багацце. Не тое, каб не здагадваліся, а нават неяк і не задумваліся пра тое. Дапамагае студэнтам – дык які там даход... Паказная беднасць бабы Гені і наяўнае багацце неяк не ўкладваліся ў галаве і ў Антося. Думкі заходзілі ў тупік. "Следчы з мяне відавочна ніякі, – падумаў ён, – хоць, калі разважыць, беднасць на паказ якраз заўсёды і суправаджае сапраўднае багацце, як пішуць пра якога-небудзь з Ротшыльдаў ці Ракфелераў..."

Капітан, які па-ранейшаму стаяў з няўцямным, асепленым грашыма позіркам, павярнуўся і агледзеў усіх.

– На чым мы спыніліся? – спытаў ён.

Ніхто яму нічога не адказаў. Усе яшчэ не адышлі ад уражання, што аказалі на іх грошы. Моль праляцела з кута ў кут пакоя, і падалося, што было чуваць, як шамацяць яе крылы. Нехта шумна ўдыхнуў і выдыхнуў паветра носам – быццам гром пракаціўся па кватэры...

Далейшую працэдуру не варта падрабязна апісваць, яна была стандартнай. Цікавым быў хіба падлік грошай. Іх аказалася некалькі дзясяткаў тысяч. І ніводнага даляра ці еўра, толькі беларускія. Што было дзіўна. Няўжо бабуля не давярала капіталістычным грашам? Ці проста ненавідзела іх і не прымала?.. Урэшце, капітан сабраў подпісы панятых пад пратаколам, сказаў: вам можна быць свабоднымі, і папярэдзіў, што іх могуць выклікаць у суд. Калі спатрэбіцца... Скамандаваў выносіць труп бабулькі, каб адправіць на экспертызу, і апячатаць кватэру.

– А нам што рабіць? – спытала адна з дзяўчын.

Антось зірнуў на гадзіннік – справа незаўважна зацягнулася, было ўжо каля поўначы. За вакном у двары стаяла цемень, якую не разганялі рэдкія ліхтары – глыбокая ноч. А міліцыянты фактычна выкідвалі дзяўчат на вуліцу.

– Калі б вы былі гаспадарамі кватэры, мы б вас, магчыма, пакінулі. А вы чужыя людзі тут... Таму – асвабадзіце памяшканне...

– Апячатайце толькі пакой бабулі, а не ўсю кватэру, у яе ж на дзвярах асобны замок ёсць, – не стрымаўся і параіў Антось, шкадуючы дзяўчат, якім заставалася хіба ісці на вакзал, дзе ў зале чакання іх раз за разам будуць падымаць і правяраць міліцыянты, а без білетаў могуць і ў пастарунак забраць...

Дзяўчаты спагадліва зірнулі на яго. Аднак ён не дапамог ім, а толькі раззлаваў капітана.

– Гэта што яшчэ за дарадца знайшоўся, – раз'юшыўся ён. Відаць, і яго праца дастала – поўнач, а ён не дома з сям'ёй: – ты яшчэ тут? Я ясна сказаў: можаш ісці адсюль вон... – і рэзкім рухам паказаў Антосю на выхад з кватэры. Добра, што яшчэ не адмацюкаў...

Антось таксама быў стомлены, прытым ніякім чынам не залежаў ад гэтага капітана, а таму яму было так абыякава ўсё, што рык капітана нават не ўскалыхнуў яго. Ён спакойна спытаў:

– А што будзе з дзяўчатамі? – бо пасля дарогі ў трамваі і доўгага знаходжання ў кватэры бабулькі неяк шкада было іх.

– Не твайго ума дзела, – сказаў капітан, – мы іх выклічам да сябе, калі трэба будзе. І цябе, дарэчы, таксама выклічам, не сумнявайся... – на нешта намякнуў ён Антосю, ці проста прыпалохаў, каб не дужа актыўнічаў.

Ну што – Антось пайшоў. Праходзячы паўз дзверы, адчыненыя ў пакой дзяўчат, ён убачыў, што яны пакуюць свае рэчы ў валізкі, каб забраць з сабой і... плачуць... І тут яго як чорт пацягнуў за язык:

– Дзяўчаты, я ваш сусед справа, – дзяўчаты хітнулі галовамі, маўляў, ведаем, – кватэра ў мяне пустая, – зноў хітанне, – куды вам на ноч гледзячы ісці... Калі вы не супраць, пабудзьце ў мяне да раніцы, а заўтра пашукаеце новае жыллё.

Ніхто не чакаў ад Антося такога. Ні дзяўчаты, ні міліцыянты, ні Толік: яго перасмыкнула і як заклініла. Ён стаяў з перакошаным у здзіўленні тварам, нібыта казаў – “Дык што, мне цяпер да цябе хадзіць давядзецца?” Сусед з паверха вышэй глядзеў на Антося як на дурня: “Навошта табе гэта трэба, хлопец? Яны, можа, і ёсць забойцы, гэтыя ягняткі знешне, а ты іх да сябе цягнеш? Й-э-эх, дурань!..” Дзядзька Сцяпан жыў тут даўней за Антося і відавочна ведаў пра бабулю і дзяўчат больш за яго. Міліцыянтам на чале з капітанам было да аднаго месца, што і як будзе – яны сваю працу скончылі і чакалі дзяўчат, пакуль тыя збяруцца, каб апячатаць кватэру. Калі дзяўчаты выйшлі да Антося са сваім невялікім скарбам і музычнымі інструментамі ў руках, капітан сказаў ім:

– Мы вас па тэлефонах знойдзем, дзе б вы ні былі, і, калі трэба будзе, да сябе выклічам. Але лепей у бліжэйшы час самі паведаміце мне свой новы адрас пражывання.

*

Кватэра ў Антося была амаль такая ж, як і ў бабулі Гені, толькі на пакой большая і, можна сказаць, навыварат, люстэркава: ягоная варыўня і бабуліна былі праз сцяну, прыбіральня і лазенка таксама, а далей былі пакоі, прычым трэці, самы дальні, быў за прахадным і як бы дадатковым. Два пакоі ў Антося амаль заўсёды пуставалі, ён заняў адзін, самы большы і непрахадны, які ў іх быў некалі залай, і цалкам абсталяваў яго пад сябе, пад свае патрэбы. Іншыя не чапаў, яны засталіся такімі ж, як і былі пры бабулі, з усімі яе рэчамі, шафамі ды канапамі. І ў іх хіба толькі зрэдку заставаліся начаваць ягоныя сябры, калі позна заседжваліся ці трохі перабіралі з выпіўкай. Адзін з гэтых пакояў ён і выдзеліў на ноч дзяўчатам. Там стаяла канапа ягонай бабулі, на якой дзяўчатам будзе зручна ўладкавацца. Пагадзіліся яны пайсці да Антося, пэўна, не толькі таму, што падзецца ім не было куды і стома ногі падкошвала, але і таму, што іх было двое, а дваім заўсёды смялей. Адна не пайшла б начаваць да практычна незнаёмага... хлопца.

Ага, вось тут і настала чарга крыху распавесці пра Антося. А то ўсё пра іншых ды пра іншых. Яму дваццаць восем гадоў. Ён скончыў філфак універсітэта і працуе стыльрэдактарам у адной невялікай рэкламнай кампаніі, што месціцца, як ужо казалася, непадалёк ад знакамітага Камароўскага рынка. У трохпакаёўцы, якая яму дасталася – таксама пра гэта ўжо сказана – ад бабулі Ганны, ён жыве адзін. Жанаты быў, і бацькоў яшчэ не зусім старых мае. Мама і тата жывуць недалёка – на Нямізе. А жонка...

пабыла ягонай жонкай роўна месяц, і яны развіталіся. Хоць гэта быў не грамадзянскі шлюб, як цяпер модна, а звычайны, з распісваннем у загсе і даволі шумным вяселлем у рэстаране гатэля "Менск", што называецца "Сёмае неба". Чаму яны разбегліся? Калі сказаць проста і банальна, без залішняга тлумачэння – не сышліся характарамі – так патлумачылі ў судзе... Вам гэтага досыць? Не? Тады варта сказаць, што Антось заспеў яе за здрадай з ягоным, цяпер ужо былым, сябрам, які потым не стаў ейным мужам... Было так. Антось крыху затрымаўся на працы, а сябар прыйшоў да іх на кватэру, якую яны тады здымалі, трохі раней, чым звычайна. Як там яны з Антосевай жонкай змовіліся – гэта неістотна: важны сам факт, ён заспеў іх у ложку... А таму жыць з ёй Антось далей не стаў, хоць яна і каялася, і абяцала, што такое больш ніколі не паўторыцца... Антось не паверыў – і то ягоная праблема. Пасля гэтага ён зарокся жаніцца. І калі былі ў яго сяброўкі, дык толькі як сяброўкі, альбо як цяпер зручна казаць – у іх быў грамадзянскі шлюб, які нікога да нічога не абавязвае. Проста дзяўчаты жылі з ім нейкі час – адна месяц, другая крыху больш за год, а трэцяя, апошняя, якая ад яго зусім нядаўна з'ехала, амаль паўгода ўжо тут, у гэтай кватэры. Дзяўчаты дзялілі з ім усё, пачынаючы з ложка і заканчваючы ранішняй яечняй, кубачкам кавы ці шклянкаю малака. Але ніколі на нешта большае не прэтэндавалі і разыходзіліся без крыўдаў, як толькі пачыналася размова пра штампік у пашпарце. Антось ірваў адносіны рэзка і без доўгіх тлумачэнняў. Вось такім "нягоднікам" ён цяпер зрабіўся. Ці надоўга, невядома, бо пра сям'ю, думае і пра дзяцей мажлівых таксама – тут Антось не зусім сучасны чалавек, а хутчэй прытрымліваецца старых, адвечных традыцый. Але, вырашыў, спяшацца не будзе, усяму свой час – адзін раз ужо апёкся.

Што яшчэ цікавае пра Антося распавесці... Ага, ён карэнны мянчук. І бацька ягоны, зразумела, быў менчуком, і маці, і дзед, і прадзед, і прапрадзед... Тут ёсць чым ганарыцца. Бо карэнных менчукоў, мінімум у пятым, як Антось, калене, можна пералічыць калі не па пальцах, дык па імёнах. І спыніцца на другой ці трэцяй сотні, а мо і хутчэй... Бо надта ж любілі па Менску пракочвацца розныя войны ды заваёўнікі, перыядычна ды перманентна выразаючы, выбіваючы месцічаў. Горад лічыцца заснаваным (народжаным) у 1067 годзе, калі ўпершыню згадваецца ў летапісе, і згадваецца не ў сувязі з уласна заснаваннем, а з тым, што кіеўскія князі перабілі жыхароў і знішчылі яго, разбурылі і спалілі, афарбаваўшы ў чырвонае Нямігі крывавыя берагі... Вось так абсурдна гістарычна склалася: днём заснавання Менску лічыцца дзень яго знішчэння... Антось, зразумела, не ведаў, ці жылі тады ягоныя продкі недзе тут, мо й жылі. Але ад бацькі яму засталіся ўспаміны толькі пра дзядоў да пятага калена. І ці нарадзіўся ягоны продак па мячы ў шостым калене ў Менску, ці прыйшоў аднекуль сюды, мо нават і не з беларускіх земляў, яму тое няведама. Бо падчас войнаў знішчаліся не толькі людзі і будынкі, але і розныя дакументы. Бацька Антося, дарэчы, спрабаваў зазірнуць "у глыбіню вякоў", але не змог раскапаць радавод далей пятага калена. Хоць і быў паважаным чалавекам, прахвесарам, як казала пра яго бабуля Ганна. Але не здзекліва казала, а з павагай: "мой прахвесар"... Бацька не выкладаў, а працаваў у адным з навукова-даследчых інстытутаў пры Акадэміі навук. Мама Антося працавала ў гарвыканкаме ў нейкім аддзеле, здаецца, жыллёва-камунальным. Антось не дужа цікавіўся той назвай – гарвыканкам ды

гарвыканкам, тым болей і сама назва аддзела колькі разоў змянялася, ды і маці пераходзіла на працу ў іншыя. Гэта ён у іх вырас такім лабідудам (зноў бабуліна слоўка). Не тое каб зусім няўдаліцай, не... Проста, як гэта часта бывае, наглядзеўшыся і наслухаўшыся ў дзяцінстве, што казалі пра сваю працу тата і мама, не захацеў ісці па іхніх сцежках – дужа слізкімі ды брыдкімі яны яму падаліся. Універсітэт, праўда, скончыў – вымучыў пяць гадоў дзеля бацькоў, каб не скарачаць ім рэзка жыццё і не заганяць у старасць так хутка. Але ў магістратуру і далей у аспірантуру не пайшоў. Па прафесіі сваёй настаўніцкай і дня не працаваў. Не захацеў, бо сам школу яшчэ добра памятаў і настаўнікам сябе не ўяўляў.

Яшчэ адзін момант, які тут згадваецца і, мусіць, ёсць важным: цікавіцца супрацьлеглым полам Антось пачаў нешта зусім рана. Яшчэ калі хадзіў у садок, прывёў сваю сяброўку-аднагаршэчніцу дамоў і сказаў бацькам, што гэта Алеська і яна будзе ягонай жонкай. Ну, пра садок, можа, і не варта згадваць, бо ўласна зацікаўленасць там была чыста пазнавальнай. А ўсур'ёз пачалося ўсё ў школе – у апошніх класах. Дзяўчаты-аднагодкі што ў садку, што ў школе яго цікавілі, вядома, але ў дзявятым класе ён закахаўся ў... настаўніцу рускай літаратуры. Яна была зусім маладзенькай – прыйшла да іх адразу пасля ўніверсітэта. Свой прадмет любіла так, што тая любоў міжволі перадавалася вучням. Асабліва калі яны пачалі сур'ёзней вывучаць класічную рускую літаратуру – Дастаеўскага, Талстога, Чэхава, потым Ахматаву, Блока, Маякоўскага, Ясеніна... Вымаўленне яе захопленае было дзіўным для іх усіх, нейкае зусім не беларускае, хоць і была яна мінчанкай. І калі яна казала, расцягваючы слова "Па-а-а-эт", Антосеў сябар Сашка казаў, што канчае пад гэтае "а-а-э...". "Красота спа-а-сёт мір", – казала яна ўслед за Дастаеўскім, і ніхто не хацеў спрачацца ні з ёй, ні з Дастаеўскім, хоць думка гэтая была абсалютна спрэчнай ужо сто гадоў таму, а мо і пры самім Дастаеўскім... Звалі яе Алена Іванаўна. Менавіта Алена, па-беларуску, а не Елена, як, здавалася, павінна быць у "русічкі". І гэта надавала ёй яшчэ большага шарму: "А-а-а-лена..."... Яна любіла чытаць і зачытваць на ўроках Антосевы сачыненні (а ён ужо ж стараўся...) і настойліва раіла яму паступаць на журфак. Антось, зразумела, гэтага не зрабіў. Можа, і дарэмна. Аднойчы, у выпускным класе, пасля апошняга ўроку, ужо вясной, яна сказала Антосю застацца, каб сур'ёзна пагутарыць. І калі яны засталіся ў класе адны, ён... ледзь не прызнаўся ёй у каханні... І па сёння шкадуе, што не зрабіў гэта. А яшчэ больш шкадуе, што не накінуўся тады на яе, безабаронную і такую пажадную, стомленую ўсімі папярэднімі ўрокамі і разамлелую на першым сонейку, што ваўсю пякло праз вялікія вокны класа... Але няма чаго шкадаваць. Не паверыце, Антось ужо тады бачыў і разумеў, што такія жанчыны, як яна, а дакладней усё ж – дзяўчыны, доўга шукаюць свайго прынца, свой ідэал, адпрэчваюць усіх заляцанцаў і ў рэшце рэшт застаюцца старымі дзевамі... Робяцца потым, калі ім за сорак, альбо сцервамі, якія ўсіх ненавідзяць і з усіх здзекуюцца, альбо ціхімі мышкамі, якіх усе крыўдзяць, з якіх цішком, а то і ў вочы смяюцца і якіх зневажаюць... Антось даўно не бачыў мілую Алену Іванаўну, але ведае, што не памыліўся – замуж яна і сапраўды пакуль так і не выйшла.

На гэтыя ўспаміны і думкі навялі Антося дзявулі, якім ён паказваў пакой і тлумачыў, дзе ўзяць бялізну, як раскладваць канапу. Асабліва адна, якая нагадала яму сваёй усмешкай і тэмбрам голасу тую настаўніцу рускай літаратуры... У гэтым пакоі Антось і сам бываў рэдка, хіба толькі

заходзіў час ад часу пыл працерці, бо ён невядома адкуль браўся і калі на канапе быў не асабліва бачны, то на стале, на падваконні і нават на падлозе рабіў усё шэрым, а калі правесці рукой, ператвараўся ў лёгкія, пухнатыя, ватныя камячкі. І цяпер, дастаючы з шафы бялізну, любоўна складзеную яшчэ бабуляй Ганнай, з удзячнасцю згадаў яе. Яны з Гертрудай былі не проста суседкамі, а, можна сказаць, сяброўкамі. Асабліва сышліся, калі рана сталі ўдовамі. Антосеў дзед таксама не дажыў да шасцідзесяці, яго зваліў інфаркт на лецішчы, і да бальніцы давезці не паспелі. Гертруда цяпер, калі і бабулі не стала, сустракаючы яго ў двары ці на лесвічнай пляцоўцы, абавязкова сімвалічна ўздыхала, нібыта ўшаноўваючы такім чынам памяць пра сваю сяброўку і даючы Антосю знак, што не забывае яе і шкадуе, што няма побач... Гэта было зразумела без словаў, і Антось з бабай Геняй, здаецца, ні разу не перамовіліся, пакідаючы тое нібыта на потым. Але ад пачатку яна прыняла Антося за свайго, і вачыма, мяккім поглядам абяцала яму любую дапамогу і спагаду, калі спатрэбіцца.

*

Такім чынам, Антось запрасіў дзяўчат пераначаваць у сваёй кватэры. За гэтай мітуснёй – пратаколамі ды апісаннямі, прайшоў вечар, а яны яшчэ і не павячэралі, хоць вярталіся дамоў галоднымі і, вярнуўшыся, першай справай скіраваліся б на варыўню... калі б не тое здарэнне з бабай Геняй – так, здарэнне, бо немагчыма пакуль дакладна сказаць, што гэта было: забойства ці няшчасны выпадак... Хоць і позна было цяпер, але Антось, увайшоўшы ў сваю гасподу, раптам адчуў, які ён галодны. І таму, пакінуўшы рэчы дзяўчат у пакоі бабулі, запрасіў іх папіць гарбаткі ці кавы ды бутэрбродзік пажаваць – тут ужо як хто захоча.

Дзяўчаты пагадзіліся, і вось тут прыйшоў час пазнаёміцца і з імі, бо Антось не ведаў яшчэ нават іхніх імёнаў. Пачаў з сябе:

– Мяне завуць Антон, – назваўся.

Дзяўчаты зразумелі. Аказалася, што ў бэзавай цішотцы была Эльвіра, а ў ружовай – Сняжана. Імёны іхнія Антосю не спадабаліся. Было ў іх нешта ненатуральнае, чужое і разам гуллівае, несур'ёзнае. Прынамсі, яму так падалося, бо, напэўна, у яго ўжо склаўся нейкі вобраз гэтых дзяўчат з іх вобліку і пачутай размовы. Антось ведаў, што так напрыканцы дваццатага стагоддзя любіла называць сваіх дачок "прасунутая" беларуская інтэлігенцыя з вялікімі амбіцыямі і малымі мазгамі. Найчасцей гэта была інтэлігенцыя ў першым калене, тыя, хто толькі прыехаў з вёскі ў горад і русіфікаваўся найхутчэй. Сняжана была з-пад Гомеля, а Эльвіра з-пад Горадні. Вучыліся яны ў Акадэміі музыкі і гралі: Сняжана на віяланчэлі, а Эльвіра на скрыпцы – гэта і былі тыя інструменты, якія Антось бачыў у іх у трамваі. Дзяўчаты былі не дужа гаваркімі, і пакуль закіпаў імбрык на варыўні, яны сядзелі моўчкі. Дзіўнае ў Антося было ўражанне: нібыта яны зусім незнаёмыя і абсалютна чужыя і разам з тым – пасля перажытага – быццам знаёмыя ўжо сто гадоў.

– Шкада бабы Гені, – сказаў ён нарэшце.

Дзяўчаты кіўнулі, пагадзіўшыся: шкада... Сумна і маркотна. Стомлена і, Антосю падалося, абыякава. "Чаму абыякава?" – падумаў ён, злавіўшы сябе на гэтым адчуванні. Таму, што стомлена? Ці яшчэ ад чаго, што ён не ведае... Не, усё ж відаць, ад перажыванняў і голаду.

– Вы ранкам ад яе пайшлі? – спытаў Антось.

– Так, – адказала Эльвіра, – толькі не ранкам, а пад абед.

– А чаму не з раніцы?

– Была прычына, – неахвотна выціскаючы з сябе словы адказала Эльвіра.

“Што ж, не хочаце гаварыць – вашая справа”, – падумаў Антось, але працягваў:

– Мяркуючы па ўсім, забойства адбылося ўдзень, у другой палове. У вас няма ніякіх падазрэнняў?

– Ой, давайце не будзем пра гэта... – раздражнёна прамовіла тая ж Эльвіра. – Хай міліцыя разбіраецца.

– Ды яна разбярэцца... Але вы ж разумееце, што сярод падазраваных будзеце і вы. У вас алібі ёсць?

– Што? Алібі? Навошта... Мы то тут прычым? Нам то навошта апраўдвацца?

– Дапусцім, што вы ні прычым. Але вам давядзецца даказаць гэта капітану ці іншаму следчаму, які абавязкова вас спытае, дзе вы былі ў гэты дзень і ў гэты час.

– Ды пыталі ўжо. Там, на кухні... Мы, як пайшлі ад бабулі, увесь час былі на рэпетыцыі. Апошняй, перад генеральнай... Перад прагонам. Мы нават на абед не хадзілі. Перакусілі бутэрбродамі, што з сабой узялі. Увесь час былі на людзях. Пацвердзіць лёгка.

– Гэта добра. А ехалі на трамваі вы адкуль? Не з Акадэміі ж музыкі...

– Ой, і сапраўды... Мы ўвечары трохі ў пераходзе пайгралі... На Якуба Коласа...

Далей Антось распытваць не стаў. І без таго расхваляваў дзяўчат. Зрэшты, не – спытаў яшчэ:

– Вы што будзеце: гарбату ці каву? – бо электрычны імбрык гучна пстрыкнуў і адключыўся.

– Я з’ела б чаго-небудзь больш істотнага, – сказала Сняжана, якая дагэтуль маўчала, і пайшла ў вітальню, дзе пакінула цэлафанавы пакет з нечым – не ўзяла яго ў пакой.

“З ежай... – здагадаўся Антось, – пакет той з ежай... Яны ж зайшлі ў краму. Таму і прыпазніліся”.

Ён не памыліўся. Праз колькі хвілінаў яны сядзелі за сталом, які можна было б назваць “халасцяцкім”, бо ўсё на ім было крамнае, а не гатаванае дома. Сёе-тое дастаў з лядоўні Антось, астатняе знайшлося ў дзяўчат. Але для буцікаў мелася ўсё патрэбнае – і хлеб, і масла, і каўбаса. І сыр...

– Ой, – сказала раптам Эльвіра, – а міліцыянты ж, выходзячы ўсё адключылі, здаецца, і халадзільнік таксама... А там столькі прадуктаў – яны ж усе прападуць і за...смярдзяцца на ўвесь пад’езд...

– Нічога, скажаце гэта следчаму, і яны выкінуць усё, – супакоіў яе Антось.

– Калі мы скажам яму...

– Ды неўзабаве... Вы думаеце, ён без вас будзе доўга сумаваць...

Размова і без таго не дужа жвавая, далей перацякла ў маўклівае жаванне – кожны думаў пра сваё.

Потым дзяўчаты зачыніліся ў адведзеным ім пакоі і доўга там пра нешта шапталіся. Антось хоць і чуў гэта, аднак ні слова разабраць не мог. Ды і не ўслухоўваўся ён: навошта яму гэта – адвярнуўся да сцяны і заснуў...

## Першы сон-расповед ад бабулі Гертруды

Пра сваіх бацькоў – маіх дзеда і бабу – мама мне расказвала рэдка. Але, як ні дзіўна, я ведаю пра іх нямала. Яны былі зацятымі бальшавікамі. Камуністамі. Дзед, хоць і быў тады зусім маладзенькім, паспеў паваяваць у грамадзянскую за чырвоных. З таго і пачаўся ягоны ўзлёт па вайсковай лініі. Бабуля ж была ў рэвалюцыю зусім дзіцём. Але потым адной з першых у сваёй вёсцы запісалася ў камсамолкі. Яны сустрэліся, калі бабуля прыехала ў Менск і паступіла на рабфак. Дзед працаваў тады ўжо тут у ГПУ. Перад тым ён пабыў чонаўцам, а потым чэкістам. Падрабязнасцяў ягонай службы гэтага часу я не ведаю. У дзеда распытаць не паспела. Ды і не хацеў ён пра тое згадваць. А мяне гэта не дужа цікавіла тады. Ведаю толькі, што сам ён сваёй працай хваліцца не любіў. Магу зрабіць выснову з таго, што потым прачытала пра тых чонаўцаў ды чэкістаў, што рукі дзеда былі ў крыві мо й не па локці, а вышэй. Ідэйныя бальшавікі ў тыя гады не спыняліся ні перад чым. Таму і перамаглі ў так званую грамадзянскую. А потым паднялі краіну з разрухі. Правялі калектывізацыю. Знішчылі кулакоў як клас... І ўсім гэтым займаўся мой дзед.

Маме маёй не падабалася праца яе бацькі. Аднойчы я чула, як яны спрачаліся. Я зусім маленькая была і не разумела, за што мама папракае такога добрага дзеда, які так любіць гуляць са мной, жмякаць і ўсяляк песціць цукеркамі, марожаным... Мама казала дзеду: ці не сняцца табе тыя, у каго страляў? А дзед адказваў, што рабіў гэта дзеля вялікай справы. І ўвогуле, ён з сялянаў, а селянін, калі вырывае пустазелле на сваім полі, дык не задумваецца і не шкадуе яго, бо ведае, дзеля чаго тое робіць... Пэўна, вось з-за гэтага дзедавага параўнання людзей з пустазеллем я і запомніла тую гутарку.

Пабраліся бабуля і дзед у 1932-м ці 33-м годзе – дакладна не ведаю. І неўзабаве дзеда з Беларусі перавялі служыць на поўнач. Спачатку ў Ленінград, а потым яшчэ паўночней. Вось адсюль я ведаю трохі болей. Бо ў хуткім часе ў бабулі нарадзілася дачка – мая мама. І яна мне расказвала пра сябе і сваіх бацькоў трохі болей. Можа, таму і расказвала, што з'явілася яна на свет пры цікавых абставінах, у якія цяжка паверыць. Але мне падаецца, што такое прыдумаць немагчыма. Ды і навошта прыдумляць... Зрэшты, мне цяпер застаецца толькі верыць гэтай "сямейнай легендзе", бо перапытаць няма ў каго і пераправерыць няма дзе.

Мама мая нарадзілася... на адным з караблёў у моры Карскага... Ёсць такое каля Паўночнага Ледавітага акіяна ці ў самім акіяне, не ведаю, як сказаць. Карабель, на якім яна была, ішоў услед за ледаколам і вёз у сваіх трумах больш за тысячу зняволеных. Дзед быў адным з кіраўнікоў – камандзіраў – чырвонаармейцаў-наглядчыкаў, гэпэушнікаў, якія ахоўвалі тых зэкаў. Сярод якіх большасць былі рэпрэсаваныя, як мама казала, незаслужана. У асноўным інтэлігенцыя – вучоныя, настаўнікі, пісьменнікі, урачы... Так было ў тыя гады. Не данёс ты – данеслі на цябе. І падзялілі тваё майно. Занялі тваю кватэру. Пакуль нехта іншы не здаў даносчыка і яго самога ноччу "варанок" не забраў... Так было паўсюль, па ўсёй вялікай краіне. Асабліва сярод інтэлігенцыі ды рознага начальства. У Менску на цэнтральнай тады вуліцы Савецкай ў некаторых кватэрах гаспадары ледзь не па пяць разоў памяняліся...

На тым караблі дзед быў, здаецца, камісарам. А можа і не – не ведаю. Але тое, што адным з начальнікаў – дакладна. Бо толькі ім дазволілі ўзяць з сабою жонак. Жанчын на караблі было няшмат. І сярод іх, акрамя маёй

бабулі, цяжарная яшчэ адна. Цяжарнасць сваю яны схавалі, каб паехаць з мужамі. Інакш бы іх не ўзялі. Усё ж поўнач. І невядомасць суцэльная адносна быту. Бо там, куды яны плылі, не было яшчэ нічога апроч палатак. Для начальства. А зэкам па прыездзе трэба будзе яшчэ будаваць баракі для сябе і жыллё для ахоўнікаў. Якія ўжо могуць быць дзеці ў такіх умовах. Тым болей нованароджаныя, немаўляткі...

Так, зняволеных везлі ў адзін з канцлагераў сістэмы ГУЛагу. Яго будавалі пры месцы нядаўна адкрытага недзе на паўвостраве Таймыр радовішча медзі. Зэкі павінны былі там здабываць руду і будаваць пасёлак. Пад кіраўніцтвам і наглядам такіх, як дзед, гэпэушнікаў. Калі б усё прайшло добра, дык бабуля нарадзіла б маму ўжо ў гэтым лагеры. Але тыя, хто адпраўляў караблі, не разлічылі, што яны будуць плысці марудней, чым планавалася. Як і тое, што халады прыйдуць у той год раней, чым звычайна. Ільды пачалі наступаць, калі судны былі яшчэ ў Баранцавым моры. А ў Карскім моры лёд стаў суцэльным і зусім спыніў рух іхняга карабля. Калі стала зразумела, што да месца прызначэння яны не дойдуць, усіх жанчын перапраўлі на ледакол. Але ён таксама да зямлі не прабіўся, застраў у ільдах. Кіламетрах у сарака ці больш ад карабля, на якім застаўся дзед са зняволенымі. І іх разносіла ў розныя бакі. Там, на ледаколе, мая бабуля і нарадзіла маю маму. Што стала з другой цяжарнай жанчынай, мама не ведала, хоць свет той іхні і быў цесным. Па чутках, яна таксама нарадзіла на тым ледаколе. І таксама дзяўчынку. Мама казала, што вельмі хацела б яе пабачыць, сустрэцца з ёй, калі яна ёсць, але ў той час, у той краіне нават даведацца пра яе існаванне было немагчыма...

Ну а далей была эпапея па вырataванні "палярнікаў" з ледакола. Пра гэта шмат пісалі тады. Пра жыццё сярод ільдоў. Пра подзвіг саміх зімоўшчыкаў і лётчыкаў, якія іх ратавалі. Бабулю з маленькай мамай вывезлі з ільдзіны на вялікую зямлю на самалёце. Пра другі карабель ніхто нідзе не ўспамінаў. І дагэтуль пра яго нічога не пішуць. Мама казала, што шукала потым звесткі пра яго, калі ўжо дзеда і бабулі не стала, калі яны памерлі. Шкадавала, што не распытала падрабязна. Пасля пачатку перабудовы ездзіла ў нейкія архівы. Але нідзе нічога не знайшла. Быццам і не было яго... Таго карабля. Але дзед то мой быў недзе, а не разам са сваёю жонкаю і ёю народжанаю, малою. Не на ледаколе... Яна, мама, канечне, гэтага не помніла, але маці ёй дакладна пра тое расказвала. Бабуля казала, даведалася, што стала з другім караблём, толькі калі вярнуўся дзед. І тое па крыхах, патроху-патроху, слова да слова, выпытала ў яго. Бо не хацеў ён пра тое казаць. Аджартоўваўся: адчапіся, гэта ваенная тайна... Дзед сказаў толькі, што той карабель таксама затануў. Яго ўзарвалі. Пра лёс людзей на ім – зэкаў – маўчаў. Але тое было і так зразумела. Хто тады лічыўся з людзьмі, тым болей зняволенымі... Начальства ўратавалі, і добра. Не адны зняволеныя, дарэчы, але і простыя чырвонаармейцы засталіся там, на тым караблі ці каля яго. Можна толькі ўявіць, што перажылі яны ў тых ільдах і якой смерцю загінулі. Не магу пра гэта не думаць, калі праходжу паўз менскі парк Чалюскінцаў ці бываю ў ім.

Дзяцінства маёй маці прайшло, у адрозненне ад многіх, а, пэўна, і большасці яе аднагодкаў, можна сказаць, шчасліва. Мой дзед, яе бацька, быў на добрым рахунку на працы. Ардэнаносец. Абмінулі яго рэпрэсіі 37-га ды наступных гадоў. Калі бралі ўсіх, у тым ліку і тых, хто раней браў ды дапытваў іншых... У вайну – Вялікую Айчынную – ён не ваяваў.

Увесь час быў у тыле. У Маскве. Нібыта ў знешняй разведцы. Рыхтаваў дыверсійныя групы, якія закідвалі на акупаваную тэрыторыю. У Беларусь, а потым у Прусію і Польшчу. Сам за лінію фронту ні разу не трапляў. Але ўзнагародаў у яго было шмат. Гэта я памятаю. Бачыла на свае вочы, калі ён, ужо на пенсіі, апранаў свой кіцель, каб ісці на сустрэчу аднапалчан ці выступаць перад школьнікамі. Запрашалі яго часта. Што ён там казаў, не ведаю, бо ніколі не чула. Быў у яго і ордэн Леніна, і некалькі Чырвонага сцяга, і яшчэ шмат іншых, а медалёў увогуле не злічыць. Мы не захавалі іх. Мама не хацела: паклала ўсе ў ягоную труну разам з тым кіцелям.

Пра перадваенны час і пра вайну мама згадвала мала. Бо малой была, да вайны толькі першы клас паспела скончыць. У сорак пятым колькі ёй там было? Усяго адзінаццаць... А вось пра пасляваенныя гады расказвала шмат. Бо тады пачаліся ў яе канфлікты з бацькамі. Жылі яны ў Маскве. Дзед быў падпалкоўнікам. Сваёй адзінай дачцы яны ні ў чым не адмаўлялі. І ў падлеткавым узросце, наглядзеўшыся трафейных фільмаў пра жыццё ў Амерыцы, пра каханне іхняе замежнае прыгожае, яна пачала кантактаваць з так званай “залатой моладдзю” – разбэшчанымі дастаткам і ўсёўладнасцю бацькоў дзецьмі высокага начальства. Гэта ўжо быў пачатак пяцідзясятых. Тады Сталін, у апошнія гады свайго жыцця, пра што ён, зразумела, не здагадваўся, распачаў новую хвалю рэпрэсіяў. Супраць урачоў – “забойцаў у белых халатах”... І ў міністэрства дзяржаўнай бяспекі, дзе служыў (не хачу казаць працаваў) дзед, работы прыбавілася.

Дзед баяўся, што з-за разгульнай і нястрымнай дачкі зацікавяцца і ім. А яна жыла нібыта ў іншай краіне. Закінула вучобу ва ўніверсітэце. Мяняла кавалераў. Знікала на некалькі дзён. Гуляла, словам. На заўвагі бацькоў не зважала... А потым і ўвогуле збегла з дому з каханкам. Дурная была, ой, дурна-я, казала мне мама потым. Сямнаццаць, васямнаццаць гадоў усяго. Жыцця не бачыла. Гэта потым, калі наўпрост сутыкнулася з ім – паразумнела...

Але бацькоў сваіх яна, я ведала, не любіла. Дужа не любіла.

*

Дзяўчаты ад Антося назаўтра не з’ехалі. не так проста напрыканцы верасня знайсці ў Менску кватэру. Засталіся яшчэ на тыдзень-другі. Антось быў не супраць, разумеючы гэта. За той час, што ён жыў тут адзін, без сяброўкі, крыху і засумаваў па “опчаству”. Дзяўчаты трымаліся сціпла, можна сказаць, строга. У сяброўкі да Антося не лезлі. Словам, ва ўсім адчувалася не толькі іх часовасць у яго, але стрыманасць, адасобленасць. Да таго ж імі першымі пачалі цікавіцца следчыя і выклікаць да сябе. Не сказаць, каб іх занеслі ў лік падазраваных, але з рахунку не скідвалі. Допыты рабілі і паасобку, і разам, перакрыжавана. Пэўна, хацелі падлавіць на нейкіх несупадзеннях у паказаннях. Але дзяўчаты дамовіліся казаць праўду і толькі праўду. Каб не заблытацца. Што было разумна ды правільна.

Антось сачыў з боку за тым, што адбываецца. І хочаш не хочаш, паколькі быў уцягнуты ў разбіральніцтва і штодзень бачыў дзяўчат, прыкідваў свае версіі. Самазабойства і няшчасны выпадак следчымі пакуль былі адпрэчаныя. Хоць прысутнасць нейкага іншага чалавека падчас смерці бабулі ці адразу пасля ўстанавіць таксама не ўдалося. Але ж ён, той чалавек, быў... Быў, аднак у кватэры адбіткаў пальцаў іншых людзей, апроч бабулі і дзяўчат, не знайшлі, а ў пакоі бабы Гені былі выключна яе сляды. На “хуткую” ванілі з хатняга тэлефона, што ў пакоі бабулі. Гэта следчым было проста выявіць.

Але адбіткаў пальцаў на ім не знайшлі – той, хто гэта зрабіў, акуратна выцер слухаўку. Хто мог быць у той дзень у кватэры бабулі? Дзяўчат варта выключыць – яны сваё алібі даказалі: спачатку Антосю, а потым і следчым. Заставалася яшчэ вельмі шмат людзей, якія маглі быць падазраванымі і якіх следчым трэба было апытаць. Як Антосю падавалася, найперш гэта Толік. Потым студэнты, якія пазычалі ў бабулі грошы. Пэўна ж, пра гэты пункт яе даходаў следчыя ўжо ведалі. Далей – кліенты, якія прыходзілі да яе і... да дзяўчат. Не да гэтых дзяўчат, што жылі цяпер у Антося – бабуля зусім нядаўна ўзяла іх на кватэру і толькі-толькі пачала абходжваць ды рыхтаваць да “працы”, а ранейшыя ці пастаянныя – мала якія канфлікты маглі быць у іх... Ну і, нарэшце, жанчыны з Антосевага двара, і не толькі з яго, якія маглі Геню прыраўнаваць да таго ж Толіка. І толькі потым варта было не выключаць і няшчасны выпадак...

Але Антось не пралічыў, што першым возьмуцца за яго...

Калі следчыя праглядалі, хто ў той дзень тэлефанаваў бабулі, яны заўважылі, што нехта даволі настойліва названьваў ёй некалькі разоў. І яна падымала слухаўку. Размова працягвалася то хвіліну, то трохі меней, то трохі болей. Устанавіць, хто і адкуль тэлефанаваў, цяпер вельмі проста. І аказалася, што званіў бабулі яе бліжэйшы сусед. Хто б вы думалі? Антось... Яго ўзялі проста з працы. Прыехалі два міліцыянты і на вачах усіх супрацоўнікаў арыштавалі. Скруцілі рукі за спіну, сагнулі ў саромную паставу ледзь не ракам і вывелі. Антось, агаломшаны нечаканкаю, не супраціўляўся.

Дапытвалі яго двое следчых. А час ад часу заходзіў трэці і строга пытаўся ў іх:

– Ну як, прызнаўся?

Антося ажно скаланала ад гэтага: у чым прызнаўся? Ён абсалютна невінаваты. Увесь той дзень праседзеў на працы. Выходзіў на Камароўку ў абед хвілінаў на пятнаццаць, купіць што-небудзь перакусіць. Нікому, ніякой бабульцы не тэлефанаваў...

– Не тэлефанаваў? – павышаў голас следчы, – а як тады маглі адбіцца званкі з твайго працоўнага тэлефона на тэлефоне суседкі? З твайго, чуеш?

– Не ведаю... – лепятаў Антось, бо і сапраўды не ведаў.

– Нехта з іншых супрацоўнікаў заходзіў у твой кабінет падчас рабочага дня?

– Канечне, заходзілі.

– Нехта з іх тэлефанаваў з твайго тэлефона?

– Здаецца, не. Не памятаю... Не...

– Ты з кабінета выходзіў?

– Выходзіў.

– Можа, у гэты час?

– Не ведаю... Можа быць...

Антось таксама вырашыў казаць толькі праўду, як і дзяўчаты. Тым болей ён жа ж то ведаў, што нікога не забіваў. І ўвогуле ніколі не пераступаў парог кватэры бабы Гені, пакуль не запрасілі быць панятым.

– Званкі былі пасля абеду. З чатырнаццаці да пятнаццаці трыццаці. Суседку забілі па дадзеных экспертызы ў сямнаццаць дзесяць. Дзе ты быў у гэты час?

– Яшчэ на працы. Мы працуем да без пятнаццаці шэсць.

– Хто можа пацвердзіць?

– Ды ўсе.

– Мы гэта праверым...

Допыт быў перакрыжаваны. Пытанні задаваў то адзін следчы, то другі. Прычым ролі іхнія былі загадзя падзеленыя. Да прымітыўнага проста: адзін быў строгім і пастаянна павышаў голас, ледзьве не крычаў на Антося, пры гэтым устаючы і ўзвышаючыся над ім. Другі казаў спакойна, міралюбіва, са спагадай да Антося і нават нібыта спрабаваў суняць свайго калегу, калі той занадта распякаўся. Напачатку яны назваліся, але Антось імёнаў і прозвішчаў іхніх не запомніў.

Зноў зайшоў трэці следчы.

– Ну як, прызнаўся?

– Не... – адказалі разам абодва дапытвальнікі.

– Што вы цягнеце? Канчайце хутчэй. Усё ж ясна ад пачатку. А не – дык у “стакан” яго – хай падумае там. І ўспомніць усё. Ці лепей – у камеру да крымінальнікаў. Апусцяць у пяць хвілінаў, і прызнаецца – дзе ён дзенецца... – грэбліва махнуў рукой: – заканчвайце.

Пэўна, гэта быў іхні начальнік. Бо пасля чарговага ягонага візіту змяніўся і той следчы, які быў лагодным ды спагадлівым. І ўдвох яны пачалі не проста пытацца ў Антося, а крычаць і палохаць. Ён патрапіў з працы, са спакою і нармальнага жыцця адразу ў гэты кабінет, пад такі грозны допыт, і галава ў яго ішла кругам, думкі блыталіся... Вядома, сумнявацца ў тым, ён ці не ён забіў бабульку, Антось не мог. Ён, нягледзячы на пагрозы следчых і іх настойлівасць, цвёрда ведаў, што гэта зрабіў не ён і стаяў на сваім. Прызнавацца яму не было ў чым. Але як маглі адбіцца званкі з ягонага тэлефона на тэлефоне бабулькі – ён не ведаў і патлумачыць не мог. А гэта была асноўная зачэпка з боку следчых... Няўжо і сапраўды нехта з калегаў заходзіў у ягоны кабінет і званіў? Але хто? Хто гэта мог зрабіць, падлавіўшы тыя моманты, калі Антось выходзіў? А выходзіў ён, зразумела, не раз. не толькі да начальніка, але і па нейкіх асабістых справах. Хто? Хто? ХТО? Гэтае пытанне не давала Антосю спакою. Следчыя разыйшліся, крычалі. Палохалі. Тым, што яго зараз пасадзяць у камеру да крымінальнікаў. І крымінальнікі Антося ў момант апусцяць. Згвалтуюць. “Пеўнем” зробяць... А можа і заб’юць! Бо толькі і чакаюць свежага мясца. І крымінальнікам за тое нічога не будзе. Бо ўсе яны сядзяць па расстрэльных артыкулах. І следчыя яго не абароняць... Ніхто, ніхто яго не абароніць... Таму, пакуль не позна, лепей прызнацца ва ўсім тут і цяпер...

Антось слухаў і не слухаў іх, чуў і не чуў. І ведаў адно: суседку ён не забіваў...

– Не прызнаўся! – зноў зайшоў трэці следчы, – Канчайце з ім валаводзіцца, нах... У “стакан” яго, нах... Хай пасядзіць і падумае над сваім жыццём, нах...

“Стакан” аказаўся пакойчыкам... Не, гэта занадта... Шафкай менш чым метр на метр унутры, у якой можна было толькі стаяць ці прысесці наўколенцы. Дзверы за Антосем зачынілі, і ў “стакане” стала вусцішна цёмна. Ён паспрабаваў развярнуцца тварам да дзвярэй, зачапіў плячом халодную, мокрую, брыдкую сцяну... І гэта яго страсянула: бр-р-р... Ацверазіла і вярнула пачуцці. Хоць трохі. Не супакоіла, не. Але ахаладзіла. Бо там, у следчых, то быў экстрым яшчэ той. Калі б Антосю было ў чым прызнацца, то ён не ведае, магчыма, і прызнаўся б... Патрапіць са спакою і ўтульнае цеплыні свайго кабінета, з разняволенасці і ленасці, што была ў яго сёння на працы, адразу сюды пад такі прэс і вытрымаць той націск – не кожны зможа.

Колькі часу правёў у “стакане”, Антось не ведаў. Можа, гадзіны дзве, можа, больш. Аднак ужо праз некалькі хвілінаў ён сказаў сабе: “Антось, супакойся. Ты ведаеш, што ні ў чым не вінаваты. Але гэта трэба даказаць. Званілі з твайго тэлефона бабулі. Хто гэта мог зрабіць? Падумай...” І пачаў згадваць, хто ў той дзень да яго заходзіў. Потым адкінуў гэты занятак. Бо хутчэй за ўсё той, хто званіў, застаўся невядомым яму – ён заходзіў у кабінет тады, калі Антось выходзіў. А калі ён выходзіў? Не, у той дзень ён практычна не выходзіў з кабінета... Працы якраз было шмат, і Антось, амаль не адрываючыся, сядзеў за кампутарам. Ці ўсё ж выходзіў? Так, выходзіў. Толькі ў абед на Камароўку. Але званілі ж пазней... Калі ён там быў. Стоп... А куды ён сам тады званіў?.. І вось тут Антось згадаў, куды званіў у той дзень сам...

Справа ў тым, што на Камароўцы яму нешта прыспічыла забегчы ў прыбіральню: жывот ні з таго ні з сяго схапіў. Пакуль ён быў у кабінцы, разгледзеў дзверы. На іх было дзясяткі розных надпісаў. Ад проста імёнаў, розных непрыстойных словаў з малюнкамі – да цэлых вершаў. Запамінальных амаль адразу твораў туалетных паэтаў. Сярод іх былі і вельмі дасціпныя. Антося зацікавілі, зразумела, найперш гэтыя вершыкі. І пакольк, не паверыце... але ў падобнай грамадскай прыбіральні ён быў фактычна ўпершыню, то знайшоў там сабе шмат займальнага. Бо звычайна ў прыбіральнях кавярняў, рэстарацыяў, куды ён ходзіць, і тым больш на працы такіх надпісаў няма: там чысценька і прыстойненька. А вось на рынку, на вакзалах хапае – традыцыі, закладзеныя яшчэ ў савецкія часы, жывуць, колькі тыя надпісы ні стараюцца зафарбаваць... Што здзіўляцца, як пісаў некалі Высоцкі нават і “в общественном парижском туалете есть надписи на русском языке...”. Падсумоўваў усе вершыкі на дзвярах прыбіральні адзін: “Сярод дзярма вы ўсе паэты, сярод паэтаў вы дзярмо...”. І было там яшчэ шмат нумароў тэлефонаў з “рэкламнымі” прыпіскамі: “Хочаш па... (трахацца) – звані...”, “Адса...у” ды інш. І адзін незвычайны: “Абмен: 2=3. Звані”. І нумар тэлефона. Нехта мяняе двухпакаёўку на трохпакаёўку, адразу падумаў Антось. Адразу, бо ён якраз і шукаў падобны абмен. Два пакоі на тры – гэта ж тое, што яму неабходна...

Тут варта сказаць, ён ужо здаволіўся сваёй кватэрай, што дасталася яму ад бабулі Ганны. Такая вялікая яму не была патрэбная. Пакоі ўсё роўна пустуюць. І ён вырашыў памяняць яе на меншую. З даплатай, вядома. А за даплату набыць машыну. Ужо і паралельна на адным сайціку нагледзеў файную “БМВ” пятую... Правы ў яго былі, ён здаў на іх яшчэ ва ўніверсітэце. Што кватэра... Яму і двух пакояў хопіць. А машына – гэта воля. Паездзіць па Беларусі. Наведае Мір, Нясвіж, Горадню... Ды што – проста рване да возера любога, да ракі, на прыроду... Да вогнішча. Намёт. Рыбалка (грыбалка!). Юшка. Шашлык... Мілата! Можна аднаму. А можна і з сябрамі, у якіх машыны няма... І Антось пачаў шукаць абмен. Але нічога добрага не знаходзілася. Ён не хацеў з’язджаць з цэнтра і далёка ад бацькоў, прапановы ж з добрай даплатай былі ў асноўным з ускраінаў, з-пад кальцавой... А на гэтых дзвярах нумар тэлефона быў амаль такі ж, як і Антосеў хатні. Адрозніваліся толькі дзве апошнія лічбы. Значыць, хутчэй за ўсё кватэрка абменная з ягонага раёна, мажліва, і зусім блізка ад яго дому. Чаму б не паспрабаваць. А раптам... Запісваць тэлефон Антось не стаў, запомніў толькі дзве апошнія лічбы, адрозныя ад ягоных тэлефонных: 41. Лёгка запомніць: пачатак Вялікай Айчыннай...

Прыйшоўшы на працу, Антось адразу набраў гэты абменны нумар. Доўга ніхто не адказваў. Потым гудкі сціхлі – слухаўку на тым канцы “дроту” паднялі. І цішыня. Ні “ало”, ні “слухаю”, ні “добры дзень”, як звычайна бывае... Цішыня тая і Антося напружыла. Што казаць? Як правіла, першым гаворыць той, каму тэлефануюць. Калі не звычайныя словы, дык, як часам бывала: “Хто там?” ці: “Хто вам трэба?”, – на што адразу ж хочацца нагрубіць: “А вам хто?”... А тут цішыня... Антось паслухаў-паслухаў тую глыбокую цішыню і паклаў слухаўку. Падумаў, што памыліўся нумарам. Праз нейкі час ён зноў набраў нумар, на гэты раз ужо адсочваючы кожную лічбу, каб не памыліцца. Вынік быў той жа. Толькі гэтым разам слухаўку паднялі амаль адразу. І ні слова. Цішыня... Зноў цішыня. Пэўна, проста сувязь абрываецца. Зрыў на лініі. Антось паклаў слухаўку. Выправіў нейкі тэкст, што даслалі яму на вычытку. Пераслаў назад. Потым яшчэ нешта зрабіў і згадаў пра тыя званкі. Яны яго трохі заінтрыгавалі. Што за цішыня? Набраў нумар. Слухаўку паднялі. Цішыня. Ён услухаўся ў яе. І пачуў рып скуры – чалавек, які падняў слухаўку, відаць, сядзеў у скураным крэсле, і скура пад ім ціхенька парыпвала. Потым ён выслухаў нават лёгкае дыханне ў трубку – пасопванне. Антось разгубіўся і паклаў слухаўку. Што такое? Няўжо нейкі “таварыш маёр” падключаецца да лініі, каб слухаць ягоныя размовы... і тым самым перапыняе сувязь з іншым абанентам – такога ў яго яшчэ не было... Ад гэтай думкі Антося нават трохі ў пот кінула. Навошта яго слухаць? Ён жа не апазіцыянер нейкі. Не тэрарыст. Ну схадзіў на пару мітынгаў пасля выбараў – дык разам з усімі. Там тысячы былі... І што – усіх узялі на заметку і цяпер слухаюць? Дай яшчэ раз паспрабую пазваніць. Набраў нумар. Паднялі. І цішыня. Услухаўся. Тое ж асцярожнае парыпванне скуранога крэсла ці фатэля. Лёгкае, ледзь чутнае дыханне. І маўчанне. Нібыта чаканне, што першае слова прагучыць ад яго, Антося. Нейкі пароль, падумалася. Ці ўмоўны знак... Во ўляпаўся дык уляпаўся... Антось асцярожненька паклаў слухаўку. І болей не званіў па тым нумары. Усяго званкоў было чатыры...

Толькі цяпер, у “стакане”, ён зразумеў, куды тэлефанаваў. Так, ён тэлефанаваў бабулі Гертрудзе. І яна падымала слухаўку. І гэта яна рыпела тым скураным фатэлем, які Антось бачыў у яе пакоі. І гэта яна чакала нейкага ўмоўнага слова. А ён, разгубіўшыся першы раз, не прамовіўшы ні слова, маўчаў і потым. Цікава, а калі б ён сказаў, што звоніць па аб’яве, убачанай у туалеце, што б яна адказала? Ці таксама прамаўчала б... “Дарэчы, – падумаў Антось, – няўжо яна збіралася памяняць сваю кватэру на большую? Навошта ёй адной... Цяпер не даведаешся. Пачакай... Пачакай, Антосік... Ты ж ужо дакладна ведаеш, што да яе хадзілі мужчыны. Не толькі Толік. Магчыма, і па гэтай аб’яве з прыбіральні. Але што маглі значыць тыя словы: “Абмен... 2=3...”. Што за абмен такі і што значыць – 2 раўно 3, калі гэта не абмен, а аб’ява для мужчынаў, такая ж, як іншыя, што я бачыў у прыбіральні... Не, 2=3 – не можа быць. Нават для мяне занадта незразумелая камбінацыя дзеля канспірацыі... Дарэчы, чаму мяне не спыніла тады слова “звані”. Не “званіце”, як звычайна, на “вы”, а наўпрост: “звані”. Тут відавочны падтэкст, тым болей на дзвярах прыбіральні, побач з такімі яскравымі запрашэннямі ды прапановамі. Так хацелася абмену, што і ўвагі не звярнуў на тое, дзе гэтая аб’яўка змешчаная... Зрэшты, якая цяпер розніца. Галоўнае, згадаў, куды званіў у гэты дзень. Засталося толькі, каб следчыя пацвердзілі, што той нумар – менавіта нумар тэлефона бабулі Гертруды (у чым амаль не сумняваюся, і ўсё ж...), а не нейкага там “таварыша маёра”...”.

Прайшло яшчэ трохі часу, шкрабнуў ключ у замку, і дзверы таго, што следчыя называлі “стаканам”, расчыніліся. Антось прымружыўся ад даволі цьмянага святла ў калідоры, але яркага для яго пасля суцэльнай цемры, пра якую ён забыўся зусім, заняўшыся думкамі. Бо, калі ўспамінаў, нібыта бачыў перад сабой, як на экране, тыя дзверы ў прыбіральні з надпісамі, чытаў іх, бачыў свой кабінет і сябе ля тэлефона...

Антося адвялі да тых самых двух следчых.

– Ну што, як табе наш курорт? – пажартаваў лагодны.

– Прызнанне змякчае віну, – строга дадаў жорсткі. – Расказвай, ці ўспомніў што.

– Успомніў...

Следчыя ажывіліся:

– Што?

– Гэта я тэлефанаваў са свайго нумара...

– Ну-ну... – падахвоцілі, ледзь стрымліваючыся і, пэўна, паціраючы рукі пад сталом.

– Я тэлефанаваў па вось такім нумары, – Антось назваў яго, – не ведаю, ці гэта нумар суседкі, але ў той дзень я на яго тэлефанаваў. Некалькі разоў.

Следчыя не пацвердзілі, што гэта нумар бабулі Гертруды, і Антось працягнуў – расказаў, дзе ўбачыў гэты нумар, і пра цішыню ў адказ на ягоныя званкі. І пра тое, што хоча памяняць кватэру і ў апошнія дні шмат каму тэлефанаваў з пытаннем пра абмен, і гэта таксама можна праверыць...

Следчыя выслухалі ўважліва, і было відаць, як паступова твары іхнія губляюць цікавасць да таго, што ён расказвае. Гэта было не прызнанне. Гэта было спробай знайсці тое самае алібі, апраўданне сабе. А ці ж гэта ім трэба было...

– Добра... – сказаў лагодны. – Яшчэ раз: дзе ты ўбачыў нумар тэлефона і надпіс.

– У грамадскай прыбіральні на Камароўцы. Кабінка па ліку, здаецца, трэцяя ад уваходу.

– Мы праверым.

Пераглянуліся. Што рабіць? Зноў адпраўляць Антося ў “стакан”? Ці адразу ў тую камеру, дзе яго “пеўням” зробяць? Не, пакінулі ў сваім кабінеце. Лагодны ўстаў і выйшаў. Яны засталіся з жорсткім сам-насам. Той маўчаў. Трымаў асадку ў руках, якую падрыхтаваў пад запіс Антосевага прызнання, і круціў яе то каўпачком уверх, то ўніз, пастукваючы па стале. І час ад часу крыху скоса паглядваючы на Антося. Абыякава і крыху кпліва, ленна, падалося Антосю... Быў канец дня. Магчыма, ужо і зусім позна – час Антось дакладна не ведаў, але прыкідваў, што недзе гадзінаў сем-восем вечара. Жорсткі, відаць, таксама стаміўся. Антось у іх мог быць не адзін, а цэлая “карусель” такіх, як ён, “злачынцаў” сёння тут круцілася.

Лагодны вярнуўся хвілінаў праз дваццаць ці трыццаць. Таксама стомлены.

– Мы стэлефанаваліся з аддзелам міліцыі на Камароўцы. Яны схадзілі ў прыбіральню і сфатаграфавалі тыя дзверы. Здымак пераслалі. Вось ён, – паказаў на сваім мабільніку напарніку. – Надпіс там ёсць. І такі, як вы казалі: два раўно тры... – ён адразу перайшоў на “вы”, і Антось нібыта асунуўся, аслаб, на яго навалілася ўся стома гэтага дня і ўся нярвовасць апошніх гадзінаў... Лагодны падышоў да стала, адарваў нейкую паперку, чыркануў на ёй некалькі словаў, падаў Антосю:

– На сёння вы свабодны. Просім прабачэння за затрымку...

Антось ледзь падняўся. Галава кружылася. Падалося, што вось-вось яго выверне і ён званітуе проста ў гэтым кабінеце на стол і паперы следчых.

– ...Але... – спыніў яго следчы, – ...мы да вас будзем яшчэ звяртацца. А пакуль – дзякуй за супрацоўніцтва.

Нічога сабе супрацоўніцтва. А што было б, калі б Антось, застрашаны і запалоханы, не згадаў пра тую прыбіральню...

Дамоў з аддзялення ён пайшоў пешкам. Калі б хто са знаёмых пабачыў яго ў той момант, ён бы сам страціў прытомнасць ад аднаго выгляду Антося.

Ён выйшаў з будынка на вуліцу галоўнага менскага міліцыянта Фрунзе. Былі ўжо прыцемкі. Дамоў ісці адразу не хацелася. Вочы блукалі па наваколлі, па дрэвах і дамах, але ў свядомасці нішто не адбівалася. Галава была нібы набітая ватай. У вушах стаяў і не праходзіў крык: "Ну што, прызнаўся?"... Каб паспрабаваць скінуць з сябе ўвесь цяжар, усю пошласць, што сабралася за паўдня ў пастарунку, ён вырашыў прагуляцца па вуліцах Менска, але пайсці дахаты не наўпрост, а так, як павядуць ногі. Ён любіў аддавацца на волю ног, асабліва ў лесе, у грыбах. І заўсёды, нават з незнаёмых мясцінаў, вяртаўся з поўным кошыкам... Антосю падабаўся вячэрні Менск – ён падаваўся яму нашмат прыгажэйшым, чым дзённы ці ранішні. Бо ўдзень вельмі часта над горадам вісяць хмары ды шэрань, і калі палічыць сонечныя дні, дык іх у Менску будзе менш, чым у знакамітым сваімі туманамі Лондане. А вечарам, калі запальваюцца ліхтары, горад заўсёды прыгожы, няважна, было сонца ўдзень ці не. Антось памкнуўся было пакрочыць у бок плошчы Перамогі, але спыніўся, і ногі павялі яго проста ў парк Горкага. Азірнуўся на велічны будынак следчага камітэта і падумаў, што Дзяржаўны музей гісторыі Беларусі глядзеўся б у ім значна лепш, чым гэты камітэт. Але – планавалі, рамантавалі ды музею не аддалі... Па дзіцячым парку пайшоў да цырка, ловячы тварам лёгкі вячэрні халадок і ўнюхваючыся ў прыемную сырасць першага апалага лісця. Ля ракі нядаўна падкасілі газон і водар падвялае за дзень травы адкінуў яго ў мройлівы ўспамін, у лета, на лецішча бацькоў... Узышоў на масток праз Свіслач, пастаяў на ім, гледзячы, як пеняцца і мкнуць наперад хвалькі вадаспадзіка, паназіраў за адзінокім рыбаком, што выхапіў з ракі нейкую рыбінку і шчасліва зыркнуў на яго; абмінуў недабудаваную гаргару гатэля, будынак цырка, пастаяў каля светлафора, перайшоў праспект і звярнуў да помніка Янку Купалу. Пасядзеў трохі каля ног народнага паэта. Згадаў, што і ён нібыта паэт ці празаік. Творца, словам. Нават скончыў Школу маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Успомніў, як на адзін з першых заняткаў прыходзіў старшыня гэтага Саюза і казаў па вялікім рахунку правільныя рэчы, якія здаваліся ім, навучэнцам, банальнымі. Што навучыць пісаць немагчыма, а можна толькі навучыць, як не трэба пісаць, каб не рабіць тыя класічныя памылкі, праз якія праходзяць усе пачынаючыя. А далей усё залежыць ад таленту і працаздольнасьці: мазалёў на адным месцы. Маўляў, геній, гэта адзін працэнт таленту і дзевяноста дзевяць – працы... У Антося, пэўна, быў толькі адзін той працэнт. Бо тэксты ягоныя хвалілі, а кнігу ён так і не дапісаў, хоць і пачаў складаць у школе. Магчыма, яшчэ вернецца да яе. Там не раман, які патрабуе асаблівай уседлівасці і – мазалёў... Там кароткія аповеды, якія можна выдаваць у любой колькасці. Можна дзесяць, і кніга будзе маленькай. А можна чакаць, калі збярэцца трыццаць, сорак ды так і не дачакацца... Тут, каля помніка Купалу, перажыўшы такое выпрабаванне,

Антось урачыста паабяцаў сабе, што абавязкова даробіць кнігу, дапіша яе і ўставіць туды аповед пра сваё знаходжанне ў “стакане”... З купалаўскага скверу Антось пайшоў на набярэжную Свіслачы, гуляць па якой таксама любіў. Размінуўся з двума-трыма раварыстамі, якія пранесліся каля яго, як вецер, і вырашыў падняцца да кавярні “Грай”, дзе апошнім часам ладзілася шмат літаратурных імпрэзаў. Кавярня была адчыненая, і там нешта адбывалася, але Антосю не захацелася ісці ў тлум памяшкання. Пасля “стакана” ў яго была не тое каб клаўстрафобія, а проста жаданне бачыць неба над галавой. Высокае, вольнае неба. Шкада толькі, што ў цэнтры Менска яно амаль заўсёды бяззорнае. Антось звярнуў у тлум вуліцы Зыбіцкай. Яна аглушыла яго – яна гуляла, яна крычала, яна спявала. Купкі моладзі, а Антосю падалося – натоўпы, блукалі ўздоўж яе ўзад-уперад, забрыдалі ў шматлікія кавярні, проста стаялі і весела балбаталі. Не зважаючы ні на кога, ён, можна сказаць, прабег праз гвалт і вэрхал Зыбіцкай, перайшоў праз мост Свіслач і апынуўся ў Траецкім. Пахадзіў між будынкаў, няспешна прайшоўся ад букіністычнай кнігарні “Вянок”, якая ўжо была зачыненая, да музея Багдановіча, дзе таксама адбывалася нейкая вечарына і маглі быць ягоныя знаёмыя. Павольна пакрочыў углыб дамоў – тут была такая неверагодная цішыня, ажно не верылася, што ён знаходзіўся ў цэнтры вялізнага мегаполіса. Зноў выйшаў да набярэжнай Свіслачы, амаль да Вострава слёз, спусціўся да вады, змачыць твар, і да яго адразу кінулася некалькі заўсёдных тут дзікіх гарадскіх качак, прыкормленых пенсіянерамі, нахабных і патрабавальных. Антосю не было чаго ім кінуць. У думках ён папрасіў у качак прабачэння, што яны, убачыўшы яго, падмануліся... Праз Траецкае прадмесце вярнуўся ў стары горад да Ратушы. Пасядзеў у вазку, запрэжаным у двойку бронзавых коней. не дзеля здымка, як робяць гэта турысты, а так... асалавела гледзячы на тых, хто спыняўся і чакаў, калі ён сыдзе з вазка, каб сфатаграфавацца. Паслухаў перазвон званоў на Кафедральным саборы і ад Ратушы, міма саркафага, выйшаў на праспект. Але далей пакрочыў не па ім, а па вуліцы Энгельса, паўз знакаміты скверык з прыбіральняй-касай Купалаўскага тэатра, вырушыў на вуліцу Карла Маркса, якая так і не стала пешаходнай. А потым, мінуўшы Мастацкі музей, прайшоў паўз некалі свой філфак і павярнуў да аднаўленага стадыёна “Дынама”. Не зазірнуў да яго, як звычайна, і не пасядзеў, як рабіў у дзяцінстве, нават калі футболу не было, а праз скверык, ужо амаль у цемры, асветленай рэдкімі жоўтымі плямамі ліхтарняў, увайшоў у свой двор. Падняўся ў кватэру і, не распранаючыся, упаў на засланы ложак ды заснуў сном мярцвецкі, жахліва, смяртэльна стомленага чалавека...

## Другі сон-расповед ад бабулі Гертруды

Мая мама, сышоўшы ад бацькоў, з Масквы не з’ехала. З каханым яны знялі кватэру на ўскраіне горада. Пра таго хлопца яна расказвала мала. Сказала, што ён быў яе аднагодак-габрэй (значыць, і я напалову габрэйка, але гэта я забягаю наперад) і таксама сын высокага маскоўскага начальніка. Імя ягонае не сказала (а таму я так і застаюся Браніславаўнай, хоць, як і маё імя, так і імя па бацьку мне не падабаюцца ўсё жыццё – гэтае суцэльнае гыркатанне: гр-тр-бр... бы сабаку нехта перадражнівае...) Каханне іхняе было не доўгім. Разбілася аб быт, як кажуць. Пагулялі, палюбіліся, пакуль не скончыліся ўзятыя ў бацькоў грошы... А што далей? Як жыць?

Ды і цяжарная ўжо мама была. Мной... Сталася тое, што і бывае ў кепскіх фільмах. Ці гісторыях пра блудную дачку. У прыполе, канечне, мама мяне не прынесла. Але вярнулася дамоў да бацькоў ужо з добра бачным пузам. І без мужа. Нават без жаніха. Сорам... Па-зор-р!.. На ўсю Маскву... Бабуля паплакала-паплакала і абняла дачку. Дзед узяў было сваю армейскую дзягу – строгі быў – і, паглядзеўшы на жывот, адклаў яе...

Імя мне даў дзед. Мама вымушаная была пагадзіцца. Што ёй заставалася. Хоць яна хацела назваць мяне Святланай – зноў жа каб дагадзіць дзеду. Маўляў, у Сталіна Святлана, і ў нас... Але дзед настояў на Гертрудзе. Мама казала потым: яна падумала, што Гертруда, хоць і герой ці гераіня труда для дзеда, але ўсё ж ёсць такое еўрапейскае імя. І даволі знакамітае, каралеўскае, можна сказаць. Мала хто звяртае на гэта ўвагу, а тым больш памятае, але так у шэкспіравай п'есе звалі маці Гамлета... Добра ўжо тое, што ён не захацеў назваць унучку Даздрапедрай (да здравствует первое мая) ці Трактарынай, альбо Оюшмінальдай (Отто Юльевич Шмидт на льдине) у гонар той сваёй зімоўкі і нараджэння маёй мамы – на ледаколе. Сёння гэта смешна, а тады людзі на поўным сур'ёзе называлі такімі ды падобнымі да іх імёнамі сваіх дзяцей. Некаторыя з іх, кшталту Вілена ці Вілора з Мэлорам, прыжыліся, і паходжанне іхняе сапраўднае забылася, не згадваецца, і літаркі не расшыфроўваюцца...

Бацька ў мяне з'явіўся, калі мне было два гады. І доўгі час менавіта яго, Браніслава Вітольдавіча (ён быў з Заходняй Беларусі, недзе з-пад Гародні), я лічыла сваім адзіным і родным бацькам. Бо, малая, іншага не ведала. А мама мне толькі перад смерцю расказала пра свае прыгоды ў маладосці. І тое далёка не ўсе і не ўсё. Прынамсі, пра сапраўднага бацьку.

Мама нарадзіла мяне і жыла са сваімі бацькамі. Аднавілася ва ўніверсітэце і скончыла яго Там жа, на трэцім курсе, пазнаёмілася з Браніславам. З бацькамі адносіны ў яе не складваліся. Хоць яны і любілі яе. А яна казала мне, што саромелася іх – бацькі найперш – за ягоную працу. А пасля даклада Хрушчова ў 56-м годзе і ўвогуле амаль перастала з імі кантактаваць. Тады яны – мы, скажу – жылі ўжо асобна.

Калі пачалося асваенне цаліны, мама ўгаварыла бацьку (буду казаць пра Браніслава так) паехаць туды. Мне яна потым гаварыла: "Каб адмыць карму". Маўляў, каб хоць такім чынам пазбыцца ад крыві, што на руках бацькі – майго дзеда... Але асваенне цаліны – гэта так называлася. На зямлі мае бацькі і дня не працавалі. Мы жылі ў Акмолінску, які потым стаў Цаліноградам, пазней Астаной, а цяпер Нур-Султанам. Мама і тата выкладалі ў мясцовым сельскагаспадарчым інстытуце. Гэта і была ўся іх сувязь з асваеннем цаліны: рыхтавалі кадры для мясцовых калгасаў і саўгасаў. Там я скончыла школу. Вучыцца паступіла ў Маскву, туды, дзе і мама з татам вучыліся – у МДУ. Скончыла і вярнулася ў Цаліноград. Выйшла замуж. Таксама стала выкладаць у інстытуце.

Усё было добра, пакуль Гарбачоў не распачаў перабудову. Тады пачаліся бунты казахаў, нацыяналісты пачалі патрабаваць незалежнасці і выкладання на казахскай мове. А пасля смерці Кунаева і прызначэння Масквой кіраваць партыяй, а значыць, і рэспублікай, рускага па нацыянальнасці першага сакратара і ўвогуле стала страшна за будучыню. Бунт казахскай моладзі супраць гэтага войскі жорстка падавілі. Але ўжо тады было відавочна, што хутка рускім, рускамоўным, будзе не соладка тут... Мы задумаліся, куды пераехаць. У Маскву мама не хацела прынцыпова. Іншыя расейскія гарады

яе не цікавілі. Выбіралі між Украінай і Беларуссю. Спыніліся на Беларусі. Як мама сказала – паедзем на радзіму нашых продкаў. Бо і мой дзед, і бабуля былі адсюль, а значыць і яна па паходжанні беларуска, хоць у пашпарце і пазначана рускай. Тым болей, што Браніслаў таксама з Беларусі. Здавалася, тут спакайней за ўсе іншыя рэспублікі СССР. І сытней. І мову вучыць не трэба. Усё вакол па-руску. Пераехалі ў Менск. Набылі кватэру. Грошай хапіла толькі на двухпакаёўку. Жылі ўсе разам – бацькам пакой і нам з мужам пакой. Дзяцей у нас не было. Так ужо склалася. не ведаю, чыя ў гэтым віна. Мая ці мужа. Тады ж, за савецкім часам, не было гэтых сэксолагаў. Што мы ведалі пра сябе і пра магчымыя хваробы. Нічога. Бацькі былі ўжо на пенсіі, мы з мужам працавалі. Дарэчы, я так і не сказала нічога пра свайго мужа, але цяпер гэта ўжо не істотна. Бо так сталася, што муж мой, Валодзя-Вова-Вовік-Уладзімір, памёр рана. Я толькі-толькі на пенсію пайшла. А яму не было і шасцідзесяці. Прычына, як можна здагадацца, звычайная для нашых краёў: злоўжыванне алкаголем. Пачалося, калі мы прыехалі ў Менск. Чужы горад, а потым і чужая краіна. Сам ён рускі, з Сібіры, сябры, знаёмыя засталіся ў Казахстане ці раз’ехаліся па ўсім Саюзе. “Зялёны змей”, як пісалі тады ў “Вожыку”, і стаў адзіным ягоным сябрам. З-за яго, праклятага, забыў ён і пра сям’ю і пра жонку. Ага, я яшчэ не сказала, што і родных у яго не было. Быў ён дзетдомаўцам. Адзін у свеце. Дзяцей у нас няма... І запіў. А яму гэта супрацьпаказана было. У той дзень ён добра выпіў недзе з невядомымі сябрамі і невядома чаго па дарозе дадому ўпаў проста на вуліцы. Людзі абыходзілі яго ляжачага, ніхто не дапамог відавочна п’янаму, ніхто “хуткую” не выклікаў. А калі міліцыянты падышлі, быў ён ужо нежывы...

Калі яго не стала, я, грэшная, нават паплакала... ад радасці. Вызваліў ён мяне ад ледзь не штодзённых апошнімі часамі клопатаў. Дурных, непатрэбных, што і казаць. Ад сварак пастаянных. Было, і з кулакамі кідаўся да мяне ў апошнія гады... Жыць стала прасцей. Свет мне адкрыўся... А потым праз год-другі не стала бацькі і мамы. Яны пайшлі адно за адным, хутка... Пасля адыходу бацькоў нашая двухпакаёўка стала мне аж занадта прасторнай. Пустой. Вечарамі, ноччу, бывала, выць хацелася ад адзіноты. А тут яшчэ адчула, што на адну сваю пенсію, без бацькоўскіх, якія былі добрай падмогай, і пражыць няпроста... Мяне ўжо бабуляй называлі, калі я задумалася: а ці так я жыву? Думка гэтая прыйшла неяк сама сабой. Не з тэлевізара, не з прачытанага. не з нечага канкрэтнага, словам, а як вынік усяго папярэдняга жыцця. Даволі спакойнага. Амаль непрыкметнага. Правільнага. Аж занадта. Тут, канечне, не абыйшлося без кніжак, якія суправаджалі мяне праз усё жыццё. Але не яны мяне навялі на галоўную думку. А нехта з суседак. Ці не Ганна, якая таксама жыла адна і, магчыма, падумвала пра тое ж. Яна то адна-адна, але ў яе былі побач сын з нявесткай, і ўнук Антоська часта прыходзіў. А я зусім адна ў горадзе, які не паспеў стаць родным. Толькі некалькі суседзяў і ведаю. Дык вось, Ганна мне і кажа: “Што ты пакутуеш... У цябе два пакоі. Пусці ў адзін кватарантаў. Дзяўчатак-студэнтачак якіх-небудзь. Універсітэт жа побач. З інтэрнатам там заўсёды праблемы, не ўсім даюць. І табе весялей стане. І грошы не лішнімі будуць...”

Я падумала-падумала ды так і зрабіла. Дзяўчаткі па аб’яве трапіліся харошыя. Паважлівыя, мілыя. Першакурсніцы. Мяне адразу па бацьку зваць сталі – Браніславаўна ды Браніславаўна. Нязвыкла было спачатку. Бо апошнім часам усё Геня ды Геня. А то і Гертруда... Толькі на працы і звалі па імені ды па бацьку. Дзяўчаты адразу і спыталі, дзе я працую. Калі

сказала, што на пенсіі, здзівіліся: “Вы так молада выглядаеце...” Молада то молада, а на працу нікуды не бралі. Вахцёркай ці вартаўнічкай я сама не хацела. Гонар не дазваляў. Усё ж маскоўскі ўніверсітэт скончыла, усё жыццё выкладала. Вось толькі кандыдацкую так і не абараніла. У Казахстане ўжо амаль напісала. А тут пераезд. А ў Беларусі пакуль асвойталася, Лукашэнка да ўлады прыйшоў. А потым закруціла жыццё. Муж запіў. І апамяталася толькі тады, калі на пенсію прапанавалі ісці. Маўляў, была б ступень – пакінулі б. А так – да пабачэння. Маладым месцы трэба на кафедры. Перспектыўным...

Дзяўчаткі, кажу ж, былі харошыя. Але бедныя. Вучыліся не на бюджэце. Бацькі за вучобу плацілі і ім сёе-тое перасылалі. Жылося ім, бачыла, цяжкавата. І я, хоць і шкадавала іх, ад платы адмовіцца не магла. Свет і навакольнае жыццё да таго часу моцна змяніліся. Дзе той камунізм быў, які будавалі мой дзед і баба, мае мама і тата? Ды і я сама большую палову свайго жыцця на тое ж паклала... Грошы пачалі правіць усім. Вось і адукацыя стала платнай. Хто б раней мог падумаць пра гэта? Як ганарыліся мы некалі дасягненнямі сацыялізму – бясплатнай медыцынай ды адукацыяй! Дзед мой, пэўна, у труне перавярнуўся б, каб даведаўся, што цяпер за ўсё трэба плаціць. За што змагаліся?..

“Добра выглядаеце...”, – паўтараюць мне дзяўчаткі. А куды цяпер мне з гэтым дабром. Каму я патрэбная...

Хоць старою я сябе і сама не лічыла. Адчувала маладой і дужай – ну, можа, на сорак якіх гадоў, пакуль сваіх аднагодак на вуліцы не сустракала. І разумела: яшчэ пяць-дзесяць гадоў, і ад гэтай маёй “маладосці” нічога не застанецца. Пабачыўшы сябе аднойчы ў люстэрку, падумала: трэба пачынаць жыць, а не існаваць. У адпаведнасці з часам... Што азначае жыць, а не існаваць, – я прыблізна для сябе ведала. Адкуль? Ды з тых самых кніг. З кніг, якіх прачытала мо тысячы. Асабліва ў гады, калі пачалася “перабудова” і ўся сусветная ды забароненая раней літаратура для нас адкрылася. Чаму кажу, што ведала прыблізна? Ды таму, што кнігі гэта адно, а жыццё ўласнае, ды яшчэ тут, у Беларусі, у гэты пераломны час – нешта абсалютна іншае. Да чаго я хілю, кемлівыя, відаць, здагадаліся. Чаму можа навучыць сусветная літаратура чалавека, які задумаўся раптам, як яму жыць і выжываць? Ну, самае простае: хочаш добра жыць, умей круціцца, не сядзі склаўшы рукі і не чакай, калі з нябёсаў манна нябесная на цябе пасыплецца... Знайдзі варыянт, як у тваёй сітуацыі, зыходзячы з тваіх магчымасцяў, грошы зарабляць. Думай, дзейнічай. Пад ляжачы камень вада не цячэ...

Ну, першае я ўжо зрабіла – здала студэнтачкам адзін пакой кватэры. І мне хапала б, калі б была я не такой правільнай. Шкада было абіраць дзяўчатак, забіраць у іх апошнюю капейчыну, бо яны, я бачыла, самі часта галадаюць. Эканомяць на ўсім... Сумленне не дазваляла, а рукі бралі. І, шчыра скажу, пачала я думаць, як ім дапамагчы. Гляджу – прыгожыя, маладыя... Усё ў іх наперадзе, ці, як жартуюць – спераду... Спераду... Так, спераду... Чаму б не паспрабаваць дапамагчы ім і самой, на іх гледзячы, не пакутаваць. А, можа, і таксама разжыцца... А як зарабіць грошы такім вось дзяўчаткам найпрасцей? Зразумела, як... Тым – самым старажытным спосабам, самай старажытнай прафесіяй.

З першымі дзяўчатамі ў мяне нічога не атрымалася. Год яны пражылі ў маёй кватэры, галадалі, але як я іх ні рыхтавала да размовы, як ні намякала, а пад канец дык і амаль адкрыта казала – яны ні на што не пагадзіліся. На тое, каб знайсці патрэбных дзяўчат, яшчэ адзін год у мяне пайшоў. За

гэты год і сама саспела да нейкіх пераменаў. А чаму б і не. Нездарма ж ледзь не дэвізам маім стала: жыць, а не існаваць. А што я ў жыцці бачыла? Як жанчына... Мужа п'яніцу... Ніколі яму не здраджвала. А тут загарэлася бабе на старасці... Глядзіш, ад дзяўчатак маладых і мне нешта перападзе акрамя грошай. А што! Шчасця захацелася, радасцяў... Такім чынам: пакой здаецца, універсітэт побач, інтэрнат даюць далёка не ўсім, прашу я не дорага... Прыходзіла многа жадаючых. Я магла выбіраць. Хлопцаў адсейвала адразу. А да дзяўчатак прыглядалася з пэўнай мэтай. Урэшце выбрала дзвюх сяброўак. Такіх, як хацела. Усё пры іх. Прыгажуні. З раёна. Не на бюджэце. Грошы будуць не лішнімі. Недзе праз месяц загаварыла пра магчымы прыработак. Ламаюцца... Баяцца... Прыкідваюцца нечапанымі. А я ж бачу, што гэта не так. Таму і выбрала іх. Яшчэ праз месяц, калі жыццё добра-такі прыціснула, самі пайшлі на кантакт, прыгадалі тую размову. Добра. Пачатак ёсць. Але іншая праблема паўстала – як знайсці кліентаў? Я ж сама не гатовая была да гэтага, хоць дзяўчатак справакавала...

Гэта цяпер, праз столькі гадоў, тое здаецца простым. Ды і норавы памяняліся. Свет стаў іншым. І магчымасці, зразумела: інтэрнэт паўсюль, сайты, фэйсбукі, мабільнікі ў кожнага... А тады... Успомніла я пра прыбіральні мужчынскія, дзе, казалі, ёсць такія надпісы. З прапановамі мужчынам ад жанчын... Вакзал побач. Сама тое. А як патрапіць у той туалет мужчынскі? Думала я думала і вырашыла звярнуцца да Толіка. Ён пагадзіўся напісаць самае простае, маўляў: "Хочаш... пазвані мне". І мой нумар... Гэта потым, калі канкурэнты з'явіліся, я прыдумала іншае. Пра абмен: два роўна тры. Нібыта намёк на кватэрны абмен, а насамрэч, для тых, хто ведае – дзве дзяўчынкі, а ты будзеш трэцім. Слоган такі. Мо і занадта хітры, але мне смялей, не падкапаешся... Дзве дзяўчыны абслугоўваюць аднаго кліента – гэта было такое маё "ноў-хаў", як цяпер кажуць. Два плюс адзін роўна тры. Звычайна адзін на адзін. А такога ў Менску ні ў кога не было: 2=3... А калі трэба – дык далучуся і я. А што! – жанчына ў самым соку. Выглядала і сапраўды тады я яшчэ някепска, як там кажуць: "ягадка апяць". Паспрабавала крыху пазней "далучыцца", і асабліва спадабалася гэта маладым хлопцам, якія забывалі пра дзяўчатак і пераходзілі да мяне. Да "мамкі", як яны казалі. Ім хацелася не толькі звычайнага сэксу, але і чагосьці новага, маладыя ім не былі дзівам... Раней бы я гэтага нікому не расказала. Ні за што. А цяпер мне няма ўжо чаго саромецца... Сцены нашага дома, дзякуй Сталіну і палонным немцам, якія яго будавалі, даволі тоўстыя не толькі знешне, але і ўнутры. І перакрыцці нармальныя. Таму нашыя "оргіі" ніхто з суседзяў не чуў. Не тое, што ў гэтых новых кватэрах, дзе дзіця заплача ў першым пад'ездзе, а чуваць у сёмым... Прынамсі, ніхто з суседзяў ні разу не паскардзіўся...

Потым, калі кліентамі абрасла, калі яны адзін аднаму тэлефончык перадаваць пачалі, "рэклама" ўжо не патрэбная была – надпісы тыя я папрасіла Толіка пасціраць. Але, відаць, сям-там яны засталіся, мусіць, зробленыя ўжо не ім, бо і новыя кліенты час ад часу з'яўляліся. Але для тых, хто не першы раз звоніць, прыдумаліся кантактныя словы, як пароль. На званок я не адгукаюся, пакуль не пачую ад іх тыя словы – падымаю трубку і маўчу, чакаю іх... Нармальна. Спакойна. Гэта цяпер. А тады пачынаць было ох як няпроста. Ды і страшна. Кажу сабе, што гэта ты, баба старая, надумала?.. Перахрысціся і плюнь тры разы цераз плячо... Але – справа зроблена: Толік на дзвярах ужо надрапаў асадкай... І вось вечар.

Той жа, першы вечар. Чакаем з дзяўчатамі. Званок. Вы думаеце, суседка патэлефанавала? Не, кліент. Патрэба, значыць, была ў такой паслузе. І што яму сказаць?.. Накрычала я на яго. Маўляў, што гэта кватэрны тэлефон і нехта пажартаваў з мяне так кепска. Што баба я старая і мне не да таго... Потым быў другі званок. Трэці... Пяты... І ўсім я казала, што гэта нехта помсціць мне і здзек такі прыдумаў.

Толькі на трэці дзень, пачуўшы, як мне падалося сарамлівы, ціхі голас, абачлівы і прабачлівы, адважылася сказаць: “Прыходзь...” І назвала адрас. А ўжо дзяўчаткі хвалююцца... Доўга расказваць, што перажылі мы. Але пашанцавала. Вось жа, і ў такой справе, можна сказаць, Бог ёсць. Мог бы прыйсці ідыёт нейкі заклапочаны. Ці міліцыя якая, чаго я найбольш баялася. Для яе, міліцыі, таксама прыдумала адгаворку. Але тады не спатрэбілася. Прыйшоў нармальны хлопец, які і сам саромеўся не менш за нас... Пытаецца ў мяне: “А колькі каштуе?” А я не ведаю, колькі і прасіць... Карацей, доўга расказваць, як усё пачыналася. Але праз месяц-другі абраслі мы кліентамі, якім тлумачыць нічога не трэба было... “Бізнес”, такім чынам, пайшоў. Першыя заробленыя грошы я ў дзяўчат не забірала. Трэба ж было заахвоціць іх “лёгкімі”, а то і прыемнымі заробкамі. І ўвогуле ніколі не злоўжывала імі, па некалькі “кліентаў” прымаць за ноч не дазваляла. З часам з’явіўся ў нас папярэдні запіс і стала прасцей. Яшчэ смялей... Участковы наш, канечне ж, пра гэта пранюхаў, нехта з кліентаў, мусіць, прагаварыўся. Але то былі гады, калі і яму лішняя капейка трэба была. Дзяліцца з ім, адшпільваць яму давялося. А потым і сам ён час ад часу пачаў карыстацца паслугамі. “Бізнес” гэты свой я не пашырала. За вялікімі грашыма не гналася. Дзве дзяўчыны, і досыць. Словам, усё было прыстойна. Калі дзяўчаты сканчвалі вучобу і мусілі раз’язджацца па размеркаванні, яны самі шукалі і знаходзілі сабе замену. Не першакурсніц, але на два-тры гады. Нармальна было. Тое, чаго я хацела, сталася. Жыццё наладзілася, як кажуць. Не існаванне, а жыццё.

Адна толькі праблема з часам выявілася – Толік. Даставаць ён пачаў. І мяне, і дзяўчат... А то і запалохваць, абяцаючы расказаць каму трэба. Ну, яго я сама прымала, да маладых не пускала.

Праз гады тры-чатыры ў мяне з’явіліся лішнія грошы, якія так проста ляжаць не павінны былі, а таксама працаваць. Спачатку знайшоўся адзін студэнт, якому трэба была пазыка. Потым другі, трэці... Даходзіла да смешнага: быў хлопец, які браў у мяне грошы, ды... ішоў да дзяўчат... Добра, што знайшоўся адзіны такі “разумнік”. Але ўсе “крэдытары” грошы вярталі. З працэнтамі, вядома. Невялікімі – студэнты ж, але з працэнтамі. Не было такога, каб нехта з’ехаў і аддаць “забыў”. Беларусы, што і казаць... Так і жыла. Не дужа раскашавала, бо не злоўжывала грашыма і не раскідвалася імі, але капейка заўсёды была і ў мяне, і ў маіх дзяўчатак...

*

Тэлевізара ў Антося няма. Гэта прынцыпова. Ён не хацеў глядзець тэлебачанне, якое толькі з’ядае мазгі ды забірае час. Яму хапала кампутара, ютуба, фэйсбука ды смартфона, каб арыентавацца ў тым, што адбываецца вакол і ў свеце. На сумесныя вячэры – чаяпіцці – дзяўчаты таксама адрываліся ад сваіх ноўтбукаў, але і на варыўні амаль не выпускалі з рук мабільнікі, увесь час зазіраючы ў іх. Такім чынам – панавала маўчанне,

якое, відаць, задавальняла дзяўчат. Але не Антося. У адзін з вечароў ён рашуча адклаў свой тэлефон і сказаў ім, што пара ўжо нам пазнаёміцца бліжэй. Бо пакуль ён ведаў толькі іхнія імёны і адкуль яны. Адзінае, пра што яны дагэтуль дамовіліся – скарацілі іхнія доўгія імёны да Жаны і Элі.

– А навошта табе ведаць пра нас больш? – сказала Жана. Яна ўвогуле здавалася сур'ёзнейшай, мо таму, што была маўклівей. – Праз пару дзён мы разбяжымся і, можа, ніколі потым не ўбачымся...

– І то праўда, – пагадзіўся Антось.

– Дзякуй, канечне, што прытуліў нас. Як бачыш, не так проста знайсці кватэру. Не ўяўляю, што б мы рабілі і дзе начавалі б, калі б не ты.

– Ды што там, на маім месцы так зрабіў бы кожны...

– Не скажы... Вы, менчукі, проста жыцця сапраўднага не бачылі. Наіўныя...

– Вось і цікава мне, што вы бачылі. Адкуль такія разумныя і сапраўдным жыццём навучаныя з'явіліся.

– Што табе сказаць, каб не пакрыўдзіўся... Звычайнае ў нас жыццё, усё як і ва ўсіх: школа, музычная школа, паступленне, вучоба.

– А музыка?

– Музыка – гэта сур'ёзна. Гэта – вечнае каханне. Гэта на ўсё жыццё. У адрозненне ад мужа, напрыклад.

– Во як... Ты сур'ёзна?

– Сур'ёзней не бывае.

– Ну сапраўды – мужоў можна і дзесяць памяняць. Цяпер гэта модна. А музыка – што для вас апроч вечнага кахання, гэта творчасць ці грошы, магчымасць зарабляць іх...

– Не – гэта магчымасць жыць, а не існаваць... – Эля сказала гэта і раптам засмяялася: – Ха-ха-ха!..

Антось здзівіўся:

– Што такое?

– Прабач, найшло нешта... Гертруда Браніславаўна часта паўтарала: жыць, а не існаваць. Дэвіз у яе такі быў. Во і да мяне прыліп...

– Нешта вы лёгка да жыцця ставіцеся, – прабурчэў Антось, бо гэты нечаканы смех нічога, апроч раздражнення, выклікаць не мог.

– Прабач яшчэ раз, – прымірэнча сказала Эля, – а ты вось, чым ты займаешся? Дзе працуеш?

Антось распавёў.

– І ты думаеш займацца гэтым усё астатняе жыццё?

– Ды не збіраўся. Ёсць іншыя планы.

– А менавіта?

– Ну вось, сабраліся гаварыць пра вас, а будзем пра мяне.

Размова не складвалася. Пэўна, Антось не той тон абраў. А зрэшты, і сапраўды: навошта яму пра іх ведаць нейкія падрабязнасці... Ён жа і пра бабулю-суседку, бабу Геню, не дужа шмат ведаў. Жывуць вось так людзі ў горадзе побач, на адным паверсе, дзверы ў дзверы, і абсалютна не цікавяцца не тое што лёсам іншых – не ведаюць нават, хто іхні сусед ці суседка, кім працуе, чым жыве, а то і як завуць... Згадка пра бабу Геню дзяўчат насцярожыла, заўважыў Антось. Было гэта нібыта іхнім табу. За ўсе апошнія дні яны яе ні разу не ўспаміналі. Хоць і цягалі іх на допыты, шукаючы забойцу. Ці забойцаў? Дзяўчаты насцярожыліся, і Антосю падалося, што яны пра бабу Геню ведаюць значна больш за яго. Ён запытліва глянуў на іх. Загаварыла Жана.

– А ты праўда нічога не ведаеш пра сваю суседку?

– Праўда. Я не так даўно тут жыву. Крыху больш за паўгода.

– Нямала... Мы ўсяго недзе тры тыдні. І то...

– Што і то?

– Раз ты нічога не ведаеш, дык навошта казаць.

– Ну, я сёе-тое ведаю. Усё ж яна сябравала з маёй бабуляй. Хоць бы пра тое, што прыехала яна з Казахстана.

– Ого, як шмат!

– Не здзекуйцеся. Ведаеш што, дык кажы.

– Усё роўна ён даведаецца, – Эля перахапіла ініцыятыву, – на наступнай сустрэчы міліцыянты скажуць...

– Што скажуць?

– Чым бабулька займалася.

– Чым? Не цягніце гуму. Пачалі, дык кажыце.

І дзяўчаты расказалі, дзеля чаго іх бабуля ўзяла на кватэру... Ну, тое, што да яе не проста так ходзяць мужчыны, Антось здагадваўся. І з тым нумарам у прыбіральні спрабаваў гэта ўвязаць. Але тое, што дзеля гэтага яна брала на кватэру дзяўчат... Вось гэтых мілых і сімпатычных, што цяпер сядзяць перад ім, яна выкарыстоўвала як... Антось змяніўся ў твары. І ў лоб спытаў у дзяўчат:

– І вы пагадзіліся на гэта?

– А што нам заставалася рабіць. Вучобу кідаць? Інтэрнат нам не далі. Бацькі з цяжкасцю нават на аплату грошы збіраюць... А яшчэ жыць у сталіцы за нешта трэба. Апранацца. Пажадана як усе, а не як... правінцыялкі. Вось і пагадзіліся. Пагадзіліся, шчыра сказаць, да канца не ведаючы, на што ідзем...

Антось маўчаў.

– Дзякуй Богу, здарылася тое, што здарылася... Нехта дае нам шанец... Нехта даў шанец не ўмазацца ў... – Эля падбірала словы, задумалася і на гэтым скончыла думку.

Антося гэта не проста ўразіла. Вось так жывеш-жывеш і нічога не ведаеш... Ён і падумаць не мог пра бабу Геню, што яна займаецца зводніцтвам, што яна “бандэрша” і трымае прытон, вертэп, бардэль... проста за сцяной ягонай кватэры. Можа, таму, што між іхнімі кватэрамі была не толькі адна сцяна, а яшчэ і прыбіральня ды лазенка са сваімі сценамі, можа, ён спаў як забіты, таму нічога ніколі не чуў... Зрэшты, Антось тут жыве ўсяго паўгода. Варта адняць тры месяцы лета – канікулы, калі папярэднія студэнткі з’ехалі, а Эля з Жанай яшчэ не пасяліліся ў бабулі, ды і ўвесь верасень ніхто да іх не хадзіў, апроч хіба Толіка, які тут прывычны ўсім, ды таго невядомага Йвана, які толькі размовы размаўляў ды надакучаў натацыямі... Таму ён і пачуць нічога не мог. А што да дзяўчат... Што думаць пасля такога прызнання пра іх? Кажуць, што чыстыя. Нявінныя. Радуюцца, што не ўмазаліся... Няхай і такім коштам... А што яны павінны былі яму сказаць? Хто прызнаецца і будзе казаць табе ў такім узросце і ў такой сітуацыі, што я – прастытутка... Пашкадаваў іх... Пажыць запрасіў... Дабрадзей знайшоўся... Ну і як ставіцца да іх цяпер? Як жыць з імі ў адной кватэры?.. Гэта было пытанне. Пытаннейка... Ці не час Антосю папрасіць іх пакінуць ягоныя апартаменты?

У той вечар Антось стрымаўся. Секануць з пляча ды выгнаць іх – самае простае, здавалася б. Але вось яны сядзяць перад табой – звычайныя дзяўчаты, якія трапілі ў няпростую сітуацыю, і што – устаць і сказаць ім: пайшлі прэч, прасталыткі... Не, ён не мог гэтага сабе дазволіць.

*

А між тым следства працягвалася. І адгалоскі яго да іх даходзілі. Следчыя, відаць, як і Антось, склалі для сябе спіс з магчымых забойцаў і паступова ішлі па ім. Наступным “крутнулі” Толіка. Вярнуўшыся з допыту, ён напіўся, сеў на лаўку ля стала, на якім раней гулялі ў даміно, і доўга распавядаў іншаму суседу, што з ім было, як яго дапытвалі следчыя. Расказваў голасна, часам пераходзіў на крык. Антось быў у гэты час дома і ўсё чуў. Толік прайшоў амаль тыя ж “этапы”, што і ён. Пабываў і ў “стакане”, пакуль следчыя высвятлялі, ці праўду ён ім казаў.

– Бля!.. – крычаў Толік, – я ім кажу: ды я ў той дзень быў у Машы і Галі. З рання, да гадзіны, у Машы, ёй к двум на другую змену на работу трэ было – яна ж медсястрой, ты ж ведаеш, у паліклініцы зубной працуе... А пасля абеду пайшоў да Галі. І быў у яе да вечара. Ну, гужаваліся там... Як заўсёды. Ці мне да Гені было... Я ж да яе ўвечары збіраўся. Папазней. Як сцямнее. Прыбег, а яе няма ўжо. Ляжыць з галавой развярочанай... Бля... Во папаў, дык папаў... А яны мне: прызнавайся!.. Прызнавайся, бля, як забіваў!.. Верыш, як пачуў, дык ледзь у штаны не наклаў. А потым кажуць: у “стакан” яго – хай там “пеўнем” зробяць... Бля... А там цёмна. І дзе, хто, адкуль... “пеўнем” рабіць будзе?.. Не сесці... “Ачко” жым-жым... І не схаваць яго. Не затуліць. Ну, думаю, папаў ты, Толік, дык папаў... Стаю і, верыш, Богу малюся. Ніколі не маліўся. А тут шапчу: “Божа, святы, мілы, праведны, уратуй і спасі, уратуй і спасі, памілуй радзі ўсяго святога...”, – і яшчэ нейкія словы ўспомніў: адкуль і ўзяліся... Адчыняюць дзверы, кажуць, выходзь... Да сцяны мордай, рукі за спіну... І строга, з крыкам! Ну, думаю, прапаў ты, Толік... Вядуць. Куды вядуць? У турму... Прашчайце, дзеўкі, прашчайце, бабы... Болей не увіжу я вас... Паверыш, пакуль ішоў, уся жысь перад вачмі ў галаве прабегла... Прывялі да тых самых, што і раней. У кабінет. І яны мне кажуць: ты свабодны. Я як стаяў, так і сеў. Бабы, кажуць, пацвярдзілі, што ты ў іх быў. Падпісаліся атветсцвенна... Адпусцілі мяне. Я да Машы. На рабоце... Да Галі... Во выпілі разам. Было ў яе. А потым я яшчэ ў магазін па дарозе зайшоў... – Толік замоўк і нешта доўга маўчаў. Антось асцярожна вызірнуў у вакно: што там? Толік рукамі, якія не слухаліся яго, мкнуўся дастаць нешта з кішэні, нарэшце выцягнуў недапітую пляшку гарэлкі, – зайшоў у магазін і купіў во... Давай памянём Геню. Добрая баба была... Але – во... Нарабіла яна нам дзялоў... Бля... Пі! Ды пі ты з гарл*а*! Што тут стакан*ы* шукаць. Недзе ж пад лавачкай быў... Схаваны... Няма... Пі! Пі з гарл*а*... не жалка. Хопіць з мяне “стакан*а*” таго... міліцэйскага...

Следчыя ішлі, што называецца, па нарастаючай. У сэнсе колькасці падазраваных. Пасля Толіка пачалі выклікаць па адной жанчын з Антосевага двара, якіх Толік абслугоўваў па чарзе. І якія раўнавалі адна адну да яго. Адгалоскі тых “выклікаў” даходзілі да Антося. Двор іхні, як ужо казалася – вялікая вёска, і тут нічога не схаваеш ад сваіх. У той жа вечар усе ведалі: Машу дапытвалі, Галю “цягалі” на тлумачэнне, Наташу “хуткая” забрала проста з міліцыі... Допыты гэтыя нічога не далі. На шчасце жанчын, ніхто з іх у той дзень з Геняй не бачыўся нават, а не тое, каб сустракаўся. Да яе ніхто не хадзіў і яна з кватэры ў двор не паказвалася. Ці заходзіў хто з чужых да яе? Бабы таксама не ведалі. Чужыя ў двары, вядома, хадзілі, і нямала. Двор іхні – “прахадны двор”,

прываказальны... Шмат хто ходзіць. Часта проста пасажыры прыходзяць пасядзець пад дрэвамі, цягніка пачакаць тут, а не на душным, мітуслівым ды крыклівым вакзале. Асабліва цёплымі днямі і вечарамі. Мужыкі выпіць заходзяць. Моладзь боўтаецца. І новыя людзі, і тыя самыя – хто за імі ўсочыць... Словам, следства развальвалася. Заставалася самая вялікая група падазраваных, за якую следчым брацца не дужа хацелася і яны пакідалі яе на потым. Справа ў тым, што разам з грашыма ў шуфлядцы тады знайшлі і нататнік, дзе баба Геня пазначала нейкімі мудрагелістымі загагулінамі ды літарамі таго, каму грошы пазычала пад працэнты. Добра разлічаліся толькі сумы. Астатняе разабраць было немагчыма, імёнаў ніякіх не было – дзеля канспірацыі, відаць – толькі пазнакі. Пэўна, баба Геня сваіх “кліентаў” ведала ў твар ці неяк інакш запаміналі і пазначала толькі сваёй загагулінкай. А мо недзе быў і яшчэ адзін “блакноцік” з шыфрам... Карацей, справа блытаная, і трэба было выйсці спачатку хоць бы на аднаго “кліента”, каб потым знайсці іншых. Ну, на хімфаку таксама ёсць “свае людзі” сярод студэнтаў, якія ведаюць, што і як адбываецца. Адзін з іх назваў хлопца, які пагульваў на грошы ў казіно і ў якога тыя грошы то з’яўляліся, то знікалі, і ён іх недзе знаходзіў. Крутнулі хлапчыну, а потым пацягнулі за “нітачку”, і студэнты пачалі “здаваць” аднаго за адным кліентаў бабулі. І – вось яно! Нарэшце двое, адразу двое, прызналіся, што гэта яны забілі бабулю... Праўда, блыталіся ў паказаннях. І паказанні іхнія не супадалі спачатку. Але толькі спачатку. Паступова карціна праяснілася і стала абсалютна лагічнай. Для следчых. Хлопцы ў той вечар прыйшлі да бабулі “заняць дзенег”. Яна была адна дома. Пусціла іх у свой пакой. І зрабіла памылку: адчыніла пры іх шуфлядку з грашыма. Навошта яна гэта зрабіла – невядома. Можа, хацела пахваліцца перад маладымі. Бо маладых яна любіла. Хацела паказаць: будзьце са мною згаворлівымі, і ў вас будзе ўсё... Яны як убачылі тыя грошы – галовы ў іх паехалі. Не дзіва... Не згаворваючыся, кінуліся да бабулькі, хацелі схапіць яе і звязаць, але яна вырвалася з іхніх рук, крутнулася і ўпала галавой на рог стала. Кроў пацякла. Спужаліся хлопцы. Адзін з іх схапіўся за пульс. За руку – нежывая... Спалохаліся яшчэ больш, і не да грошай ужо было. Таму браць нічога не сталі. Ціхенька выйшлі з пакоя і ўцякаць. А хто пазваніў у “хуткую”? Нехта з іх, калі выходзілі. Бо падалося, што бабулька застагнала. І падумалі, што, можа, яшчэ жывая... Рабілі ўсё ў гарачцы. Пазванілі, так, пазванілі. І ўцяклі. Але трубку тэлефонную працерлі... Пашанцавала, што і ў пад’ездзе, і ў двары якраз нікога не было, калі яны збягалі....

Усё складвалася выдатна для следчых. Галоўнае, студэнты ад віны сваёй не адмаўляліся і ва ўсім прызнаваліся. Антось быў, як ранейшы паняты, на следчым эксперыменце. Адзінае, што было відавочным, гэта тое, што гэтыя хлопцы ў кватэру раней заходзілі і грошы ў бабы Гені бралі. Яны былі разгубленыя, запалоханыя, а, можа, і бітыя, таму пагаджаліся з усім, што ім следчыя падказвалі, зазіраючы ў пратаколы допытаў, бо хлопцы ўжо не памяталі, што казалі ім. Падобна было, што і ў пакоі бабулькі яны раней не былі (дзяўчаты ж казалі Антосю, што нікога яна да сябе не пускала і кліентаў прымала ў вітальні), бо не адразу, а па лёгкай такой падказцы з боку следчых паказалі шуфлядку, дзе яны бачылі грошы... Следчы ўсё ж спытаў: чым білі бабульку? Што было ў іх? Малаток? Сякерка?.. Ды нічога не было. Бабуля сама ўпала, калі яны да яе кінуліся. І ўпала якраз на рог стала галавой, скронню, і забілася... Як падала бабулька, калі вырвалася

з іхніх рук? “Спінай назад...”, – сказаў адзін. “Бокам...”, – сказаў другі. Але гэта было няважна. Яны маглі бачыць кожны па-свойму. Галоўнае, ад нічога не адмаўляліся. Канец. Следства было закончанае...

Антось з Эляй і Жанай, вядома ж, абмеркавалі вынікі расследавання... Дзяўчаты гэтых хлопцаў у бабулі аднойчы бачылі. Прычым разам. Бабуля прымала іх у вітальні. Можа, яны былі ўжо не першы раз, а можа, прыходзілі і пазней, у той самы дзень... Але чамусьці ні дзяўчатам, ні Антосю не верылася, што былі знойдзены сапраўдныя злачынцы. Ну, не верылася, і ўсё. Дзяўчат, канечне, “стаканам” не палохалі. І не збівалі з панталыку... Але і яны казалі, што быў у іх момант, калі “струхнулі”, і калі б следчыя паднаціснулі яшчэ, маглі б не ў тым прызнацца... Ну, іх дапытвалі следчыя ў самым пачатку, калі была яшчэ надзея на хуткае расследаванне. І з імі следчыя былі мякчэй, пакідаючы, магчыма, больш жорсткія сродкі на потым, калі па другім коле зноў вернуцца да іх. А ў хлопцаў маглі адчуць слабінку, цісакнуць, і... Так думалі яны, хоць і не выключалі таго, што хлопцы ўсё ж вінаватыя. Бо ў цэлым было падобна на няшчасны выпадак – яны ж таксама не хацелі забіваць бабу Геню. Не мелі яны такой мэты. Упала б яна іначай – і нічога б не было... Можа, іх яшчэ і апраўдаюць. Дадуць умоўны тэрмін. Наш суд гуманны... А тое, што студэнты блыталіся ў паказаннях, дык заблытаешся тут... У гарачцы яно ўсё па-іншаму ўспрымаецца...

*

Дзяўчаты жылі ў Антося ўжо трэці тыдзень. Усё шукалі іншае жыллё і не знаходзілі. Сыходзілі рана, вярталіся позна. Свае музычныя інструменты бралі з сабой і прыносілі назад. Але ў кватэры ні разу не зайгралі. Антосю цікава было заўважаць, як нібыта непрыкметна, але наіўна-наіўна, Эля і Жана пачалі абходжваць яго. Яны не ведалі, што ён – стрэляны верабей. Колькі ў яго ўжо было такіх, як яны, да іх. Сябровак, блін... Хлопец з кватэрай у цэнтры Менску не кожны дзень і не кожнай сустракаецца... А грамадзянскі шлюб – вялікая сіла, немалая практыка, добрая ўрэшце-рэшт прыдумка і школа. Антось глядзеў на гэтыя іхнія – зноў жа наіўныя – заляцанні крыху зларадна, як сыты кот глядзіць на галубоў, што знайшлі кавалак батона і думаюць, што з ім рабіць. Адначасова быў і тым катом, і тым батонам. Антон-батон, пасміхаўся ён сам сабе (так часам у школе рыфмавалі ягонае імя), – нічога ў вас, дзяўчаткі, не атрымаецца, не па вас кавалак, не дамся, дарэмна вы на гэта разлічваеце...

Мажліва, ён памыляўся. І ў дзяўчат і блізка не было нейкіх думак і намераў наконт яго. Проста ці варта паказваць свой характар, тым болей канфліктаваць, сварыцца хай і з часовым сваім гаспадаром, з чалавекам ад якога ты залежыш. Ну, а быць крыху ласкавей з ім, уважлівей, спагадлівей – чаму б і не...

Тым ранкам Эля зайшла без стуку ў Антосеў пакой, чаго раней не рабіла. Ён ужо не спаў, але яшчэ ляжаў у ложку.

– Ну ты і спіш, – сказала яна, падняла прасціну і прысела на край ложка. Антось падхапіўся і сеў, прыкрываючыся коўдрай, – яшчэ чаго не хапала. Эля ўсміхнулася:

– Я прыгатавала каву, будзеш піць?

– Зараз, толькі ачомаюся трохі.

Эля выйшла. З дзяўчатамі ў Антося было шмат сумесных вечароў – “чаяпіццяў” – калі так можна назваць, бо насамрэч пілі яны каву. Але то вечарамі, а ранкам яны разбягаліся кожны па сваіх справах у розны час. Дзяўчатам Антось даў ключы ад кватэры, і яны маглі сыходзіць і прыходзіць калі заўгодна.

Антось выйшаў папіць кавы, згатаванай Эляй. Яна была наварыўні адна. І ў кватэры таксама – Жана, відаць, пайшла па нейкіх сваіх музычных справах. Шчыра сказаць, Эля яму падабалася больш. Мо таму, што была, як падавалася, шчырай і адкрытай – разгаворлівай, не замыкалася ў сабе. Антось прыгадаў размову дзяўчат у трамваі і вырашыў распытаць у Элі, каго яны называлі Йванам. Бо толькі гэтая асоба, ці гэтае імя яшчэ заставалася таямніцай. Няўжо і сапраўды Толіка? Антось яго для сябе, паводле ягоных выхадак, таксама назваў бы Іванам. Гэтакім мясцовым Іванам-дурачком з рускіх народных казак. Не, ну няхай не дурачком, а прасцячком будзе дакладней. Але якраз таму, можа, і згадаў Толіка адразу тады, калі пачуў іхнюю размову пра нейкага Йвана.

Эля задумалася. Відаць, успамінала, дзе і калі яны маглі гаварыць пра Йвана, а Антось пачуць... Потым сказала:

– Сапраўды, за гэтымі допытамі і палоханнямі мы неяк забылі пра яго. Гэта быў не Толік – ты дарэмна так думаў. Гэта быў іншы чалавек. Значна старэйшы. не ведаю колькі гадоў яму было, але з выгляду далёка за восемдзясят. Ён прыходзіў да бабулі некалькі разоў. Яны зачыняліся ў яе пакоі і падоўгу пра нешта размаўлялі. Менавіта размаўлялі. Потым ён заходзіў да нас і ў нас таксама, як ты, выпытваў, хто мы, адкуль, дзе працуюць нашыя бацькі, ці ёсць яшчэ дзеці ў сям’і... Ды так падрабязна, што ажно на ваніты цягнула... Падрабязна, нібыта хацеў ведаць, выведаць... – Эля замоўкла, відаць, раздумваючы, казаць Антосю ці не казаць, не сказала, працягнула: – ...Ён стары і даволі непрыемны тып нават знешне. Проста брыдкі, скажу. Што не дзіва для ягонага ўзросту... Лысы, твар у зморшчынах, жаўтлява-шэры і ўвесь у гэтакім старэчым рабацінні, плямкамі такімі, радзімкамі пабіты... А яшчэ картавасць і старэчая слінявасць – зубы ў яго, відаць, устаўныя, пратэз... – Эля адвярнула да вакна, страсянула галавой, – Прабач, успамінаць непрыемна... У той вечар ён павінен быў прыйсці да бабулі, да Браніславаўны. Мы чулі, як яна дамаўлялася з ім па тэлефоне. З ім, бо называла па імені: Йван. Але ці прыходзіў ён – не ведаю. Хутчэй за ўсё не. Бо ён ніколі не прыходзіў рана ці ўдзень. Звычайна гадзінаў у сем вечара, а то і ў восем, калі мы ўжо былі дома. Мы думалі, што бабуля яго зусім не цікавіць і ён прыходзіць да нас. Мы ўжо казалі табе, з якой умовай пасяліліся ў Браніславаўны... – Эля крыва пасміхнулася і кіўнула галавой... – Так... не буду пра гэта... Яна перад засяленнем размаўляла з намі пра тое, намякала і потым, што пара, маўляў. А калі з’явіўся гэты стары, перастала... і... скажу так... час ішоў, а кліенты да нас не прыходзілі. І мы пачалі думаць, што гэты стары, плюгавы тып і будзе нашым першым... першым, каму давядзецца... каго давядзецца... – відавочна, Элі было цяжка прызнавацца Антосю ў гэтым, ён разумеў. Таму не глядзеў ёй у вочы, а нібыта разглядваў кубак з кавай. І яна працягвала: – ...першым, каго давядзецца прыняць... разумееш, абслужыць... І размова ідзе паміж ім і бабуляй пра грошы. Колькі гэта будзе яму каштаваць, бо ён – першы... І яны згаварыцца не могуць... У кошце... – Эля памаўчала і сказала, – О, госпадзе, як я стамілася... Як я

стамілася чакаць, калі прыйдзе той кліент, пра якога казала баба Гертруда пры дамове аб пасяленні ў яе... Я так стамілася за тыя некалькі тыдняў, што была ўжо гатовая збегчы, сысці адсюль куды вочы глядзяць... Нервы былі напятыя, на мяжы... А тут яшчэ гэтыя пасядзелкі з Йванам, які казаў правільныя рэчы і нібыта намякаў, што не трэба нам гэтым займацца, быццам бы мы займаліся ўжо, што вы маладыя і ў вас жыццё наперадзе... А мне здавалася, што гэты стары, прабач, ананіст так нас угаворвае і прывучае да сябе... Думаю, што ён прыходзіў і ў той вечар, калі... бабулі не стала. Як звычайна, зноў позна, пасля нас, гадзін у восем, але ўбачыў, што ў пад’ездзе міліцыя, і не зайшоў...

“Во спытаў дык спытаў...” – падумаў Антось. Ён быў уражаны шчырасцю Элі. Абсалютна нечаканай. Магла б так падрабязна і не распісваць тыя сустрэчы з Йванам. Чаму яна раптам даверылася яму – не мог зразумець. Дзяўчаты, яны такія: часта непрадказальныя. Мажліва, яна нейкім чынам адчула ягоную сімпатыю да яе... Расказала ўсё так, што ў яго пытанняў да яе не было. І Йвана Антось таксама, як і яна, адкінуў з падазроных. Што пра яго гаварыць, калі хлопцы ўжо прызналіся і хутка ці не хутка, але будзе суд. Йван-Йванам, а навошта быць такой шчырай у падрабязнасцях? Антось жа спытаў яе толькі пра яго... Сказала б, што не памятае, пра што яны там размаўлялі ў трамваі, і не ведае нічога. Ці пагадзілася, што гэта Толік, і больш пытанняў не было б. Антось паверыў бы.

Здаецца, дзень быў суботні, і Антось нікуды не спяшаў, нікуды не збіраўся ісці. Яны пілі каву, гутарылі і... як сталася так, што ў той кававы ранак Антось з Эляй апынуліся ў ложку – ён абсалютна не памятае. Шчыра, не памятае, бо не жадаў таго і блізка. На яго нібыта найшло нейкае зацьменне, калі ўбачыў, як з-пад расшпіленага халаціка выбліснула калена Элі і нага агалілася далей... А затым Эля, пацягнуўшыся да печыва, няўзнак дакранулася да яго сваімі грудзямі... Як дыхнуў на яго яе гарачы пах... Усё гэта адбылося ў нейкім туманным мроіве, ачмурэнні – імгненным і неспланаваным... Прынамсі, Антосем... Хоць у яго таксама даўно ўжо не было дзяўчыны... Больш за месяц...

Калі яны былі ў ложку, дзверы раптам расчыніліся, і да іх зайшла Жана – аказваецца, нікуды яна не з’ехала, а была ў суседнім пакоі... “Два раўно тры... – паспеў яшчэ падумаць Антось. – Вось як яно насамрэч...”

А потым яны заснулі. Заснулі пасярод белага дня, як дзеці ў дзіцячым садку...

## Трэці сон-расповед ад бабулі Гертруды

У той дзень я была дома адна. Дзяўчаты паехалі ў сваю акадэмію на рэпетыцыю. А я сядзела і думала пра іх. І пра сябе. Мне ўсё абрыдла. Я быццам глянула на сябе збоку і зразумела, якая я ўсё ж пачвара. Старая, брыдкая зводніца, якая дзеля таго, каб сытна есці, каб лагодзіць сябе – сябе! – мужчынскім шчасцем, прыдумала гэты “бізнес”. Я не хацела называць тое, што раблю бізнесам, але іншае слова ў галаву не прыходзіла. Я думала раней, дакладней, апраўдвала сябе тым, што дапамагаю бедным дзяўчаткам выжываць у гэтым жорсткім свеце. А насамрэч...

Чаму я раптам задумалася пра гэта? Ну, на сёе-тое мне раскрылі вочы гутаркі з Іванам ці, правільней, Айванам – так ён сам сябе называў. Айван прыйшоў да мяне, у адрозненне ад іншых, без папярэдняга тэлефоннага

званка. Недзе на самым пачатку верасня я сядзела ў сваёй кватэры і чакала новых дзяўчат-кватарантак. З імі было ўжо ўсё дамоўлена. Са Сняжанай і Эльвірай мяне пазнаёмілі. Як гэта стала ўжо звычайнай практыкай, зрабілі гэта дзяўчаты, што жылі ў мяне дагэтуль, але з'язджалі, бо скончылі вучобу. Я чакала дзяўчат, калі пачула званок у дзверы. "Прыйшлі", – падумала я і, не паглядзеўшы ў "вочка", хоць гэта было маім заўсёдным правілам, адчыніла дзверы. На парозе стаяў мужчына. Вельмі стары мужчына. Дзядок... Такія звычайна да мяне не прыходзілі. І ён раней не быў ні разу. Проста памыліўся, падумала я, і запытальна – груба гэтак – зірнула на яго. Ну, маўляў, што трэба? Ён глядзеў на мяне ва ўсе свае падслепаватыя вочы, а потым з такім кіношным, старэчым, габрэйскім акцэнтам спытаў: "Вас завуць Геттгуда?", што мне было ўтойваць: "Так", – сказала я. "Можна мне да вас зайсці, а то неяк нязгучна на пагозе...", "А мне зручна. Што вам трэба?", і тады ён адразу сказаў фразу, ад якой я ледзь не села: "Я твой бацька..."

Я ведала, што Браніслаў Вітольдавіч не мой сапраўдны тата. Мне мама пра тое сказала. Але хто быў мой бацька, дзе ён і нават як яго завуць – ведаць не магла. Скарыстаўшы маю разгубленасць, дзядок зайшоў у кватэру. Ну што, выганяць я яго не стала. Дапамагла зняць лёгкі плашчык і капялюш, што былі на ім, правяла на кухню, прапанавала каву ці гарбату, ён адмовіўся, і тады я сказала: "Я вас слухаю". І ён расказаў сваю гісторыю...

...Яны былі маладымі і дурнымі з маёй мамай. Кахалі адно аднаго занадта моцна, каб пражыць усё жыццё разам. Да таго ж жыць без бацькоў, самім, адным, было вельмі няпроста. І канечне ж, з-за нейкага глупства яны пасварыліся. Абсалютнага глупства, нявартага і выедзенага яйка. Ці то ў кіно не дамовіліся разам пайсці, ці то на танцы... Юначыя сваркі, яны такія... Мама кінула яго і вярнулася да бацькоў. Ён ведаў, што яна ўжо была цяжарнай. Мама мне пра тое не расказвала, а ён доўга, яшчэ некалькі гадоў праследаваў яе, прасіў прабачыць... Ён і мяне малую бачыў не раз, хоць я яго зусім не помню. Ведаў, што мяне назвалі Гертрудай. Перастаў заляцацца да мамы толькі тады, калі яна выйшла замуж. З'ехаў з Масквы, а потым і яна пераехала... Ён матаўся па ўсёй краіне. Працаваў у нейкіх геалагічных партыях, проста шабашнікам, пабыў і геолагам, і лесарубам, і мулярам, і плытагонам... выбіраючы кожны раз новае месца. Але так і не знайшоў сваё. І не ажаніўся. Бо, казаў, бязмежна кахаў маю маму і застаўся верным ёй на ўсё жыццё. А калі габрэяў пачалі пускаць у Ізраіль, паехаў доўга не думаючы. Пажыў у Амерыцы, потым у Францыі, у Германіі... Словам, зноў паматаўся па свеце. Памяняў дзясятак прафесій. Спыніўся ўрэшце ў Іспаніі. Адтуль ён і прыехаў у Менск. Бо не тое, каб адсочваў лёс маёй мамы і мой, але сёе-тое ведаў. Прынамсі, што з Цалінаграда мы пераехалі ў Беларусь. Як ён мяне знайшоў? На двухмільённы Менск Гертрудаў было ўсяго дзве. Я і яшчэ адна жанчына, паэтка... І паколькі я жыла каля вакзала, да мяне ён прыйшоў адразу. І, убачыўшы мяне, з першага погляду разгледзеў ува мне рысы сваёй каханай і яе маці – маёй бабулі... Таму і сказаў адразу: "Я твой бацька..."

Потым ён прыходзіў да мяне яшчэ некалькі разоў. Мы з ім падоўгу гутарылі. Я глядзела на яго і думала: "Я Іванаўна, а не Браніславаўна. А Гертруда Іванаўна гучыць зусім па-іншаму, чым Браніславаўна... І мякчэй, і прыгажэй." Усё мне ў ім падабалася. І манера гаварыць, і акцэнт, і нават тая глыбокая старасць, якая адбілася і на ягоным твары, і на паходцы.

Менавіта такім я і бачыла свайго бацьку. І шкадавала толькі, што занадта позна мы сустрэліся... Ён быў цікавым суразмоўцам. На шмат што раскрыў мне вочы. Яму вельмі спадабаліся мае новыя дзяўчаты. Ён і з імі, бывала, заседжваўся падоўгу. Я ім нічога не казала, хоць і бачыла, што ён ім дужа не падабаецца, што бачаць яны ў ім не таго, кім ён ёсць... Я пасміхалася сабе, думаючы, што будзе, калі я ім раскажу праўду. І калі скажу, што “працаваць” ім не давядзецца... Яны добрыя дзяўчынкі. Чыстыя... І ў мяне сабралася грошай, каб, прынамсі, не браць з іх за кватэру. Я ведала, што ім тая “праца” не трэба, але куды ж падзенешся, калі само жыццё прымушае... Я смакавала, як абрадую іх... Але адцягвала размову да ягонага ад’езду...

Калі Айван даведаўся, чым я займаюся, чым зарабляю на жыццё, а я на самым пачатку з гонарам расказала яму – пахвалілася пра свой “бізнес”, ён сказаў мне: ты трапіла ў тую ж пастку, што і твае дзед і баба, і адкуль хацела вырвацца твая мама. Яны таксама хацелі лепшага жыцця і па-свойму разумелі тое. Твае дзед і баба былі неадукаванымі самавукамі, сялянскімі дзецьмі, якія дарваліся да ўлады. Не дурнямі, але нахапаліся вяршкоў ведаў, да якіх дадалі вясковую жыццёвую хітрасць. Як і большасць тых невукаў ці недавучак з народа, што былі тады, у трыццатыя гады, пры ўладзе – Сталін, Варашылаў, Молатаў, Кагановіч, Будзённы, Хрушчоў... Бо сапраўдных бальшавікоў, інтэлігентаў і вучоных, Сталін выразаў, пачынаючы з дваццатых гадоў, ці прымусіў эміграваць. Твая мама ў дзяцінстве наслухалася размоваў сваіх бацькоў начамі: каго яшчэ здаць і куды прыхаваць багацце, здабытае ад арыштаваных ды рэпрэсаваных... Бо яны думалі, што дзіцё нічога не разумее ці не чуе. А таму, як толькі з’явілася нагода, уцякла ад іх, казала, каб “адмыць карму”. Спачатку са мной, а потым з’ехала ў Казахстан, пакінуўшы набітую дабром кватэру ў знакамітай сталінскай “высотцы” – Доме на Набярэжнай... А вось ты на новым павароце жыцця занялася амаль тым жа... Па-іншаму, але тым жа: ламаннем чалавечых, дзявочых лёсаў... Дзеля чаго? Каб жыць лепей, сытней. Ці не таго ж жадалі твае дзед і баба? А ці задумвалася ты над тым, што стала з дзяўчатамі, якія скончылі вучобу і раз’ехаліся па сваіх мястэчках? Ці адсочвала іхні далейшы лёс? Не... А як ты думаеш, змогуць яны жыць далей за капейкі на дзяржаўнай працы і ці не вернуцца да таго, чаму ты іх навучыла? Не здагадваешся?.. І табе не шкада іх?.. І гэтак далей.

З размоваў з Айванам я зразумела тое, што, вядома ж, ведала і без яго, але неяк не надавала таму значэння, бо лічыла праніснымі ісцінамі: светам правяць дабро і зло. І таму можна, робячы дабро, нарабіць зла. А насамрэч не рабіць зло, можа быць, важней, чым рабіць дабро... Я згадала пра сваіх дзяўчат – яны ж такія наіўныя яшчэ. Ім так цяжка арыентавацца ў гэтым свеце дабра і зла. Асабліва адарваным ад сям’і, у новым, чужым, вялікім горадзе. Іх так лёгка падмануць і падсунуць ім зло ў выглядзе дабра... Больш за тое, яны часам трапляюць у такія сітуацыі, што, здаецца, і выбару няма. А сутыкнуўшыся з першымі жыццёвымі праблемамі, яны могуць “паплыць”, і тады рабі з імі, што хочаш... І некаторыя, такія, як я, карыстаюцца гэтым, называючы зло – “бізнесам”, абгортваючы зло ў прыгожую паперу з карункамі, прапануючы нібыта лёгкае, а часам нават камусьці з іх і прыемнае выйсце. Потым, калі дзякуючы гэтаму занятку ў іх з’яўляюцца грошы, якія даюць уяўную свабоду, яны пачынаюць разумець куды патрапілі, але бывае позна. Жыццё-павук ужо зацягнула іх у сваё павучынне, і рэдка хто знаходзіць сілы выблытацца з яго... Колькі паламаных

лёсаў на маім сумленні? Не ведаю... Не хачу лічыць. Аднойчы я пачула, як адна дзяўчынка напявала другой: "Гертруд*а*: хер – сюд*а* і хер – туд*а*... Дзеўкі плачуць – не бяд*а*..." Я тады страшна разззлавалася. Але стрымалася і не кінулася да іх у пакой. Потым сама плакала ад крыўды, што яны мяне не разумеюць: я ж ім дапамагаю, раблю дабро. Дапамагаю жыць і выжыць у гэтым жорсткім свеце. Што б з імі было без мяне... Бабровыя слёзы то былі, казаў мне Айван: слёзы хітрай бабрыхі, а потым дадаў і яшчэ больш дакладна: кракадзілавы слёзы... Бо жыць, а не існаваць – добры прынцып, можна сказаць – дэвіз, але ў тым выпадку, калі ён азначае змаганне за лепшую будучыню, а не прыстасаванства, жаданне жыць прасцей, есці смачней... І яго, гэты прынцып, можна спляжыць, павярнуць толькі сабе на карысць, а іншым на шкоду, як і ўсё на гэтым свеце. Была ў ягоных словах праўда, нават ісціна... Тым болей, што ён пакідаў надзею. Казаў, што ў кожнага ёсць шанец змяніць сваё жыццё. І зрабіць гэта ніколі не позна ў любым ўзросце. Трэба толькі зразумець, што жыў не так, што памыляўся... Моцна захацець зменаў і не сядзець склаўшы рукі...

У той дзень, калі я чакала Айвана, было некалькі званкоў – на тым баку маўчалі, і я маўчала. Я тады ўжо амаль не адказвала на званкі. Першы раз, між думак, я чамусьці падняла трубку і маўчала, спадзеючыся пачуць умоўныя словы. Але маўчалі і з таго боку... А потым мне стала цікава, што ж гэта за маўчун такі тэлефануе. Розных мужчын я сустракала, розных слухала па тэлефоне, але маўчуноў сярод іх было мала. Дакладней, зусім не было. Хоць неяк ды адважваліся выціснуць з сябе колькі словаў. Бо разумелі, чаму званілі. Тым болей не маўчалі тыя, хто ведаў запаветныя словы – наш пароль... А тут цішыня... Ну цішыня і цішыня. Мне тым больш ты не трэба. Бо я ўжо ўсё вырашыла: з "бізнесам" заканчваю, а дзяўчаткам новым памагу. Як змагу. Чым змагу...

У гэты дзень Айван – Іван – мой бацька – прыйшоў раней, чым звычайна. Прынёс кветкі, ружы. Упершыню за нашае знаёмства. Аказваецца, ён збіраўся ўжо ад'язджаць. Месяц, які яму можна было пабыць у нас без візы, скончаўся. Білет на самалёт у яго быў на заўтрашнюю раніцу. Але ён паабяцаў у хуткім часе вярнуцца, раз ужо мяне знайшоў.

Мы доўга з ім гаварылі і не маглі нагаварыцца. Я нарэшце знайшла свайго суразмоўцу. Я не хацела з ім развітвацца. Але ён настойваў, што яму трэба ісці, і абяцаў яшчэ прыехаць неўзабаве. Ён падняўся і пайшоў да вітальні... Мне захацелася абняць яго і пацалаваць. Упершыню за ўсе нашыя сустрэчы. "Пастой, пачакай, та-та, – крыкнула я і сама асеклася, бо ўпершыню так яго назвала, – пачакай, спыніся... та-та...", – ён не азірнуўся, а я падхапілася, каб пераняць яго, пакуль апранаецца, але падкаўзнулася, не ведаю – як, на чым і чаму, проста нага раптам падвярнулася, я ўпала і ўдарылася галавой аб рог стала... Яшчэ падхапілася ў гарачцы да яго... І зноў упала...

Я бачыла, як ён плакаў нада мною. Клянуся, бачыла... Сухімі старэчымі вачыма, без слёз, плакаў... А потым патэлефанаваў у "хуткую" і сышоў...

## Ліст ад Айвана

*У Генеральную Пракуратуру Рэспублікі Беларусь*
*Грамадзяніна Каралеўства Іспанія (Reino de Espana)*
*Айвана ... ...*
*Заява*

Шаноўны спадар Генеральны пракурор!

Звяртаецца да Вас грамадзянін Каралеўства Іспанія Айван ... ... . У верасні гэтага года я знаходзіўся ў Рэспубліцы Беларусь у турыстычнай паездцы. Я выбраў падарожжа ў Вашую краіну па многіх прычынах. Але адна з асноўных тая, што я ведаў – тут жыве мая дачка. Справа ў тым, што я быў грамадзянінам Савецкага Саюза, але ў 1978 годзе з'ехаў за мяжу па рэпатрыяцыі – як габрэй.

Мне ўжо шмат гадоў – я нарадзіўся ў 1934 годзе ў Маскве ў сям'і высокапастаўленага чыноўніка. З маці маёй дачкі мы рассталіся яшчэ да нараджэння дзіцяці. Увесь гэты час я яе не бачыў, але жадаў хоць бы перад смерцю сустрэцца.

Я прыехаў у Менск і знайшоў яе. Мы шмат разоў сустракаліся і гутарылі. У вечар, калі я сабраўся ад'язджаць, здарыўся няшчасны выпадак...

Маю дачку звалі Гертруда Браніславаўна Свішчова. Думаю, Вам гэтае імя і прозвішча знаёмыя, бо справа пра яе забойства прагучала на ўсю Беларусь, і два студэнты, якіх абвінавацілі ў злачынстве, былі асуджаныя на пажыццёвае зняволенне. Я рады, што іх не расстралялі, бо ведаю, што ў Вашай краіне, адзінай у Еўропе, яшчэ выконваюцца смяротныя прысуды. Калі б гэта здарылася, я Вам не пісаў бы, а, пэўна, даўно пакончыў бы з сабой. Бо ў смерці маёй дачкі Гертруды вінаваты я і толькі я.

У той апошні вечар мы з ёй доўга гутарылі. Я ведаў ужо, што яна, не могучы пражыць на беларускую пенсію, прыдумала сабе “бізнес”: брала на кватэру маладых дзяўчат, а потым прымушала іх аддавацца мужчынам за грошы. Пішу прымушала, хоць яна казала, што нават угаворваць іх падоўгу не даводзілася, яны хутка пагаджаліся на такую “працу” і на такія “заробкі” сабой, сваім целам, дакладней. Калі ў першыя разы Гертруда яшчэ нібыта ганарылася сваім “бізнесам”, то паступова, можа быць, пад уплывам нашых гутарак, яна вырашыла адмовіцца ад яго. Я размаўляў з тымі мілымі, наіўнымі дзяўчаткамі, што жылі ў яе ўжо гатовыя да “працы”, даруйце, калі трэба, нават са мной – старым, аж занадта старым для іх, мужчынам, дзедам, дзядулем... І мне шкада было іх, бо я ведаў, як гэта ўрэшце рэшт разбэшчвае не гатовых да такіх выпрабаванняў жанчын і губіць іх...

Гертруда паабяцала, што адмовіцца ад свайго “бізнесу”, і я паверыў ёй, бо бачыў, што і ёй гэта ўжо абрыдла. Тым болей, што за той час, пакуль я ў яе быў, яна пацікавілася лёсам некаторых былых яе “кватарантак” і пераканалася, што я маю рацыю: ніводная з іх не стала шчаслівай... Я паабяцаў, што буду Гертрудзе раз у тры месяцы прысылаць грошы, якіх хопіць ёй і нават яе дзяўчатам. А таксама сказаў, што пакіну ёй у спадчыну свой дом на ўзбярэжжы пад Барселонай і ўсё, што маю на рахунку, а гэта нашмат больш за мільён еўра...

У той апошні вечар яна доўга не хацела мяне адпускаць. Я прыйшоў раней, чым звычайна, і хацеў сысці таксама раней, бо трэба было яшчэ сабраць рэчы. Самалёт вылятаў а палове пятай раніцы, а значыць ужо ў дзве гадзіны ночы мне трэба было быць у аэрапорце. Яна не хацела мяне адпускаць, і я яе разумею. Калі я ўрэшце ўстаў і пайшоў апранацца, бо адкладваць далей немагчыма было, яна падхапілася з фатэля ўслед за мной і... раптам упала і ўдарылася галавой аб рог стала, падхапілася яшчэ і зноў упала... Яна памерла амаль адразу. Я нічога не мог зрабіць... Я апрануўся і сышоў з кватэры, пакінуўшы дзверы адчыненымі... Чаму я

сышоў? Змаладушнічаў... Не ведаю, не растлумачу... Але сышоў... Цяпер мне сорамна. А тады... Я ведаў, што мяне ніхто не бачыў, як я прыйшоў. Таму патэлефанаў у “хуткую”, працёр хусцінкай слухаўку і сышоў. А ранкам выляцеў дамоў. Мне так не хацелася больш заставацца тут...

Я сачыў за гэтай справай. Хоць і было няпроста. У вас закрытая краіна. Інфармацыі зусім мала. Нарэшце я ўбачыў звесткі пра прысуд...

Я не думаў, што з-за мяне асудзяць маладых людзей. Думаў, лёгка будзе прызнана, што гэта няшчасны выпадак: сама ўпала выпадкова і загінула... Мне думалася, што Вашыя эксперты лёгка вызначаць гэта хоць бы па паставе цела. Але Вашыя следчыя пастараліся і знайшлі забойцаў, якія зусім не забойцы. Я ведаю дакладна, што яны не вінаватыя ні ў чым, і гатовы даказаць пад прысягаю і на дэтэктары маны. Мне вельмі шкада гэтых хлопцаў, бо я ўяўляю, праз што ім давялося прайсці. Я гатовы прыняць любое пакаранне за сваю віну, калі Вы прызнаеце, што яна ёсць. Бо, разумею, забойства чалавека ёсць забойства, нават калі яно не наўмыснае, а самазабойства. І патрабуе дакладнага разбіральніцтва. Я гатовы ў любы час прыехаць у Беларусь. І, калі трэба, прыму належнае пакаранне. Але я расказаў праўду – як яно было насамрэч: яна сама ўпала і ўдарылася... Сама. І вінаватым у тым, што здарылася, магу быць толькі я і больш ніхто.

Прашу Вас, перагледзьце гэтую справу і адмяніце прысуд маладым людзям, якія асуджаныя незаслужана, нявінна, па ілжывым абвінавачанні ці самаагаворы.

З павагай да Вас і надзеяй, што справядлівасць адновіцца –

Айван ... ... .

Мой адрас...

*Мне часта здаецца, што гэты свет вакол нас проста камусьці прысніўся... І той, хто сніць яго, гэты сон, прачынаючыся, усё пра ўсіх ведае. А калі ўсё пра ўсіх ведаеш ад пачатку, дык жыць нецікава. І тады ён пачынае мадэляваць з гэтых сноў розныя новыя сны, раскладваць іх на асобныя падзеі і размяркоўваць па іншых людзях. Заблытваючы і заблытваючыся канчаткова. Яснасці, логікі пачынае не хапаць яму. І тады ў кагосьці з’яўляюцца паступовыя сны, што складваюцца, як дзіцячая пірамідка: ад большага да меншага, і на самым версе апынаешся ты сам са сваім асноўным сном, сном сноў – вянком сноў – магістралам, мадрыгалам, які і ёсць тваё жыццё, што таксама камусьці сніцца. У такім выпадку вельмі важна яшчэ пры жыцці знайсці таго, каму ты снішся, каб паспрабаваць даведацца немагчымае: калі і чым скончыцца твой сон... Але на гэта мала хто адважваецца. Бо ці не таму нам дадзена няведанне, каб мы маглі пражыць сваё жыццё, як сваё.*

*Я ведаю толькі аднаго чалавека, які насмеліўся гэта зрабіць...*

*Готланд, Вісбю, 19–22 лістапада 2019 г.*

Фелікс Баторын



...Веру: сэрца не скаросцяць
Мне часы ліхія.
І няхай мне век зайздросцяць,
Хто душой глухія...

# Падчас духоўнае зімы...

## ЭКСКУРСІЯ Ў БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Крычала маўклівая моц камяніц
І душы, не зрушыўшы траў, скаланала,
Што падалі ўражана сэрцамі ніц
На бераг крывавых глыбіняў канала.

І порах мяшаўся да пахаў зямлі,
І здані вайны прад вачмі паўставалі...
А сонейка ззяла, і кветкі цвілі,
І ў шапіках “фантай” ваўсю гандлявалі.

*2019*

* * *

Паедзем паядзім духмяных шашлыкоў,
Біфштэксамі з крывёй наб’ем сабе вантробы,

А патым паглядзім, як чыняць знос крыжоў,
Як Курапатаў прах рабочым пляміць робы.

Паедзем паядзім – ці ж не ўсё роўна дзе?
Дрымоту навядзе здаволенасць абедам.
І ў галаву тваю ніводзін не ўкладзе,
Што назавуць цябе калісьці людаедам.

*2019*

* * *

*Раз-пораз з'яўляюцца публікацыі*
*пра гераізм супрацоўнікаў НКУС*
*у часы Вялікай Айчыннай вайны.*

Цынічны кравец нам гісторыю кроіў,
І ў праведнай бітве нюансы былі:
З героямі поруч забойцы герояў
З забойцамі хіжымі бойку вялі.

*2019*

* * *

Зачынюся на зашчапку,
Завалюся завалай,
Каб ні жаба, ні яшчарка
Ў мой спакой не сягала.

І не бразгайце клямкаю
Ані вораг, ні сябар:
Са свабодай-цыганкаю
Я сышоў ў яе табар.

Дзе б пачуцца я мог яшчэ
Пад нябеснаю столлю
Ля цыганскага вогнішча
Сынам вольнае волі?

У бязмежжы між сценамі
Маёй цеснай хаціны
Песні я летуценнае
Адзначаю радзіны.

*2019*

## *ПАДЧАС ДУХОЎНАЕ ЗІМЫ*

Далёкае і бліжняе
Ззімелае прасторы
Ніяк не паадліжнее,
Не зрушыць крыгаў мора.
І ўсё няма як плысці
Знудзелым караблям.
І шыбы ў белым лісці –
Бяльмовым лісці пальм.

Глядзяць скрозь бельмы тыя
З каютаў капітаны,
І вочы ў іх пустыя,
А душы расхрыстаны,
І ў сэрцы поўна болю,
І ў думках іх пагром.
І не ратуюць болей
Ні віскі, ані ром.

Яны шчэ ўчора меліся
З лятункамі зрадніцца,
Ды цяжкага пахмелля ўсё
Ніяк ім не пазбыцца.
Не ліце ім расольцу,
Не рэжце агуркі –
Раздзьмухайце ім сонца,
Прарокі й мастакі!

*2019*

* * *

Дробны снег, як пілавінне
З завірушнае пілы,
Ма́е лёгкі прыпах вінны
Даўкай хвойнае смалы,

Колкі дотык да аблічча,
Прэсны прысмак на губах.
Вейкі гэты снег казыча,
Цвеліць сэрца мне ў грудзях.

Соллю, змеценай з аблокаў.
Мне кладзецца на далонь
І ў халодным крывацёку
Ён распальвае агонь.

*2019*

### *ВАЛОШКІ*

Як ля сцежкі ля дарожкі
З неба падаюць валошкі
Проста ў сонечнае ранне,
Проста ў жыта калыханне.

У блакітныя азерцы
Акунецца раптам сэрца,
Акунецца, страпянецца
І для радасці прачнецца.

І ачнецца, і ўваскрэсне,
І захоча сэрца песні –
Не замежнай, не хітовай –
З роднай музыкай і мовай.

Толькі дзе ж узяць той мовы?
Пагубляліся ўсе словы.
Дый мелодыя забыта,
Знікла з памяці забітай.

Ой, ля сцежкі ля дрожкі
З неба падаюць валошкі –
Не на брыль і не на хустку,
І не ў жыта, але ў пустку.

*2019*

* * *

Шчыльна шчыліць змора вочы.
Зноў і зноў
Наплываюць з мора ночы
Хвалі сноў.

І, з бязглуздзіцай змяшаўшы
Явы ўсе,
Точыць, точыць сэрца шашаль
Пакрысе.

Сілу ўсю ён, крыважэрца,
Спажыве
І паточанае сэрца
Разарве.

*2019*

* * *

Я пачуў вясновай ночкай
Клёкат жураўліны.
Я набыў сабе званочкі
З самай звонкай гліны.

Я спытаў у ручаіны
Песні самай чыстай.
І пабраўся я з жанчынай
Самай галасістай.

Цешаць сэрца надзвычайна
Мне і ўдзень і ўночы
Звон, і клёкат, і цурчанне,
Мілы спеў жаночы.

Веру: сэрца не скаросцяць
Мне часы ліхія.
І няхай мне век зайздросцяць,
Хто душой глухія.

*2019*

* * *

Калі нашых дзён і імкненняў гарод
Бязлітасна лёсам прарэджаны,
І ў рая, і ў пекла ёсць толькі ўваход,
А выхаду не прадугледжана.

Ды крыўдзіцца марна на долю сваю.
Са смакам і думкамі яснымі
Я ягадку хвілі апошняй зжую
Калі не зубамі, дык дзяснамі.

*2018*

Іна Снарская



...я ведала,
што буду жыць вечна...

# Бабуліна пуховая хустка з падпалінамі

***Аповесць з аповедаў***

*Чаму я пачала пісаць прозу? Мабыць, у жыцці кожнага паэта настае час пераасэнсавання, духоўнай сталасці. У нейкі момант я зразумела, як жа мне хочацца дарогай сэрца вярнуцца да першаасновы, да сваіх вытокаў, творчай уявай ажывіць кожнага, хто адышоў за мяжу вечнасці, але застаўся ў сэрцы, якое не перастала любіць. Гэтыя кароткія аповеды аб'ядналі мае ўспаміны і фантазію ў нешта адзінае, непадзельнае, як гэта адбывалася некалі ў дзяцінстве. Я заўсёды была фантазёркай. Гэтыя гісторыі – лірычныя і драматычныя, вясёлыя і трохі сумныя, як і наша жыццё. Вёсачка Сястронкі, дзе я расла, пакуль не пайшла ў школу – гэта цэлы сусвет, дзе жывуць мае родныя людзі, сваякі, суседзі, далёкія і блізкія. Падзеі пераносяць у той непаўторны час, калі дрэвы былі вышэйшымі, а неба бліжэйшым. Чытайце сэрцам, і вы абавязкова ўспомніце нешта сваё...*

## Ці трэба баяцца навальніцы?

Калі пачынаецца навальніца, мая бабуля запальвае грамнічную свечку і ставіць на падваконне. Але я ўсё роўна баюся. Аднойчы маланка забіла карову нашай суседкі бабы Фрузы. Пра гэтае здарэнне доўга гаварылі ў вёсцы. Мы, дзеці, хадзілі глядзець на карову, але бачылі яе здалёк, бо баба Фруза нас у двор не пусціла. Карова ляжала каля пуні чорна-бурай гарой і не дыхала. З яе вуха тоненькім струменьчыкам цякла кроў. Было страшна. Баба Фруза паглядзела на нас сумным поглядам, які азначаў: "Ідзіце, дзеці, вам не трэба гэтага бачыць". Яна накрыла карову шэрым брызентам і пайшла ў хату. Больш у двары нічога не адбывалася. Мы пайшлі дадому, кожны да сябе. Гуляць не хацелася. Як можна бегаць і смяяцца, калі ў двары нашых суседзяў ляжыць мёртвая карова?

Гэтая гісторыя неяк па-асабліваму мяне ўсхвалявала. Ці можа жах быць прываблівым? Страшна, але чамусьці ўсё роўна хочацца глядзець. Ёсць у гэтым нешта гіпнатычнае. Упершыню я пабачыла смерць жывой істоты так блізка. Датуль была ўпэўненая, што ніхто ніколі не памірае. Мне верылася, што заўсёды каля мяне будуць мае родныя людзі, усе мае каты і кацяняты, карова Малышка і нават той верабей, якога я ўратавала ад сабакі напачатку лета. Ён жа ўрэшце рэшт ачуняў, заляцеў на галінку дрэва, а потым, калі я не бачыла, знайшоў сваіх сяброў, і яны разам паляцелі ў гаманлівы лагодны лес.

Мне заўжды верылася ў шчаслівы фінал кожнай гісторыі. Калі нешта адбывалася не так, я казала сама сабе: "Усё, безумоўна, будзе добра. Можа не цяпер, не тут, але абавязкова будзе". Адкуль такі аптымізм, цяжка сказаць, але адчуванне таго, што нас нехта ахоўвае, у маёй ранішняй свядомасці было ад самага пачатку. Усе дзіцячыя душы – ранішнія. На душы вечарэе тады, калі чалавек вырастае і забываецца, якім ён быў у дзяцінстве. Я ведала, што буду жыць вечна, і гэтае веданне расло ўва мне проста і натуральна, як кветка ў полі. Ніхто яе не садзіў, не даглядаў. Расла яна сабе і расла, падстаўляючы сонцу празрысты тварык.

Тая мёртвая карова нешта змяніла. Разам з тым здарэннем у маю кроў атрутай улілося сумненне. А раптам карціна жыцця іншая – не такая, якой я сабе яе ўяўляю? Разам з сумненнем прыйшоў страх за сваё жыццё, за жыццё родных людзей. Я пачала баяцца, што мая бабуля захварэе і памрэ, што нешта дрэннае здарыцца з бацькамі і яны ўжо ніколі не прыедуць да мяне ў вёску, што маланка можа ўдарыць у нашу хату, і яна загарыцца, як хата майго лепшага сябра Ігара...

Калі, ужо дарослай, я ўпершыню паглядзела фільм Андрэя Таркоўскага "Люстэрка" (памятаеце той кадр, дзе сярод ночы гарыць адрына), я адразу пазнала драматычную падзею са свайго дзяцінства, калі гарэла хата Ігара Прыстрэльскага. Ад навальніцы загарэлася праводка ў іхнім доме, пасля агонь перакінуўся на шпалеры, дах, вокны. Я глядзела на пажар праз акно і баялася выйсці на вуліцу. Па бальшаку беглі людзі з вёдрамі, везлі бітоны з вадой на конях, і я адчувала адчай і страх, якія выпраменьвалі вочы людзей, іхнія погляды. Жах прасочваўся праз сцены нашай хаты, тачыў дрэва, як шашаль. Я разумела, што сцены нашага будынку ненадзейныя, бегла да ложка, накрывалася коўдрай з галавой, але ўсё роўна чула крыкі і плач, уяўляла, як падаюць на зямлю галавешкі, як гарыць трава вакол хаты і сена ў пуні... У сваіх думках я бачыла Ігара і яго сястрычку Соню:

вось яны бягуць па дарозе, як на вядомай карціне "Дзеці, якія ратуюцца ад навальніцы", яны такія маленькія і адзінокія...

Мне было сорамна за свой страх. Я любіла Ігара, ён мой сябар, трэба неяк яго ратаваць, імчаць на дапамогу, але было так цяжка дыхаць, нібы сцены нашай хаты ўпалі на мяне і прыціснулі сваёй вагой. Я не магла выбрацца з-пад пудовай коўдры-гары, мае рукі і ногі здранцвелі. Страх адбіваўся на шпалерах ценем мёртвай каровы, і я разумела, што мяне ён гэтым разам перамог. І тады, сабраўшы ў камяк усю сваю волю, я абхапіла рукамі галаву і ў сваёй уяве паспрабавала адматаць стужку жыцця на некалькі гадзін назад...

Ноч. Пачынаецца навальніца. Маланкі асвятляюць вёску, як днём. Побач з хатай Ігара расце вялікая бяроза. Моцны гук страсае прастору, здаецца, зямля расколваецца напалам. Загарэлася дрэва. Гэта маланка патрапіла ў бярозу, а не ў хату Ігара. Пайшоў моцны дождж. Скончылася навальніца...

Наступным ранкам усё выглядала не так жахліва, як ноччу. Нават не паснедаўшы, я пабегла да Ігара і Соні. Дзякуй Богу, яны жывыя і здаровыя. Сярод двара раскіданая мэбля: трохі абпаленая, але жывая, канапа, таршэр, кніжная шафа... Гэта тое, што бацькі Ігара разам з суседзямі выцягнулі з пажару. Хата стаяла чорная, як пашча ў чорта, дах абваліўся, яго, вядома ж, прыйдзецца нанова адбудоўваць, але Ігар сказаў, што вясковыя мужчыны абяцалі дапамагчы. Хутка будзе талака. Складуць зруб і да восені на месцы старой, пагарэлай, будзе стаяць новая хата.

Я сядзела са сваімі сябрамі на канапе ў жоўтыя кветачкі і думала, што ўсё скончылася больш-менш добра менавіта таму, што я вельмі гэтага хацела, што перапісала трагічны сцэнар пажару ў сваім уяўленні... І ніякая я не фантазёрка, а сапраўдная чараўніца! Кожны чалавек – чараўнік, калі вельмі гэтага захоча і паверыць у сваю сілу. Адчуванне таямніцы перапаўняла мяне гордасцю: "Я моцная і смелая, хоць і маленькая. Няхай ніхто мяне не пахваліць, не скажа словаў удзячнасці, няхай пра маю барацьбу са страхам і перамогу ніколі не даведаюцца, не гэта галоўнае! Не трэба баяцца навальніцы. Не трэба баяцца..."

## Бабуліна хустка

Голас бабы Матроны гучаў так ціха, нібы прабіваўся праз воўнузавіруху. Я чула толькі асобныя словы, якія не складаліся ў лагічныя словазлучэнні і сказы. Прыслухалася, быццам лавіла патрэбную хвалю нябеснага радыёпрымача, ды цераз мяцеліцу прабівалася толькі нешта аддаленае, незразумелае... "Вочы сэрца... усё галоўнае адбываецца ў дзяцінстве... вяртайся... вяртайся... Маці Божая, Багародзіца, ратуй нас ад слова злога, ад чалавека ліхога, ад вока чужога, ад суроку ляснога... Вечар вужакаю сцелецца... прыйдзе ўсляпую... валёнкі на босыя ногі... халодна... але дойдзеш..."

Ужо дзесяць гадоў я жыла далёка ад вёскі майго дзяцінства, у горадзе паміж лесам і стэпам. Раз у год наведвала Радзіму, бачыла бабулю, апошнім часам яе даглядаў дзядзька Іван. Праз які тыдзень мне трэба было вяртацца дадому, я адрывала сябе ад родных мясцін па-жывому, і гэта было бясконца, па колу, нібы круціўся нябесны калаўрот, дзень за днём, ноч за ноччу пралася нітка майго жыцця. Раней, дзе б я ні была, якія б адлегласці і межы нас не раздзялялі, я чула бабулін голас, сувязь між намі не перарывалася...

А тут нешта здарылася, сапсавалася, нібы вялізны крумкач сваім крыллем накрыў неба маёй бабулі... Што там? Як яна? І дзядзька, як на ліха, не адказвае на мае званкі... “Бабуля, бабуля, дзе ты?!” – гукаю сэрцам у невядомасць. Цішыня, ні слова ў адказ. І тады я расцілаю на стале пуховую хустку з падпалінамі на баку (ледзь не спаліла ў дзяцінстве), разгладжваю рукамі паверхню, быццам навобмацак намагаюся адчуць бабуліна дыханне. Гляджу ў вакно. Завіруха. І толькі снег навокал...

* * *

Словы “бабуліна дэпрэсія” я пачула ад матулі: яна прыехала ў Сястронкі не на выходныя, як звычайна, а нечакана ў чацвер. Да гэтага бабуля ўжо некалькі дзён ляжала ў сябе за шафаю пад ватнай стракатай коўдрай, час ад часу стагнала і не ўставала. Дзядуля варыў ёй кашу ў бляшаным, яшчэ вайсковым, кацялку, я замотвала кашу шэрай пуховай хусткай (няхай самлее і набухне), і карміла бабулю, як немаўля: “за маму, за тату...” Бабуля адкрывала рот, не жуючы глытала кашу, я глядзела ў яе пагаслыя вочы і не знаходзіла свайго адбітку. Баба Мура мяне не заўважала, нібы драмала з расплюшчанымі вачыма. Дзядуля крактаў на ложку за сценкай, праца валілася ў яго з рук. Мы не ведалі, што з бабуляй рабіць і як ёй дапамагчы.

– Ты ж, Божа ж мой, якое гора, якое гора, – паўтараў дзед Іван, калі да нас заходзіў яго сябар Панас Малёваны. – Мурка з ложку не ўстае, другі дзень ляжыць лежма...

– А што здарылася, можа, няшчасце якое? Можа ты яе, Ванька, нечым пакрыўдзіў, адлупцаваў, ці што? Век звекаваць – усяго спазнаць...

– Ды што ты, Панас, здурэў? Я на Мурку за ўсё жыццё слова кепскага не сказаў, не тое каб руку падняць... Учора ранкам яшчэ нічога было, усё, як звычайна: падаіла карову, працадзіла малако, а потым лягла на ложак, сказала, што паляжыць, адпачне, а ў абед не ўстала. Франьку паклікаў, каб карову падаіла... Кухару тут сам, як магу... А Інцы – усяго шэсць гадоў, якая з яе дапамога?

– А ці было такое з Муркай раней? Во гора, дык гора...

Мой дзед пачухаў патыліцу, уздыхнуў:

– Было то было, дык даўно адгуло... ужо забыўся пра тое страшнае... Доўга расказваць...

– А ты паспрабуй, можа душу адпусціць, лягчэй стане...

– Можа ж... Ды як бы ж... Мурка мая з маладосці гарачая, успыхвае, як запалка, за словам у кішэню не лезе, а я – маўклівы, ты ж мяне ведаеш. Разумею, перажываю, толькі выказаць не магу, усё ў душы трымаю... Бывае, такое накоціць, успаміны франтавыя ці нешта яшчэ, душу рве, а маўчу... Розныя мы, разумееш?.. Ай, што там гаварыць, усё жыццё пражылі, а не паразумеліся... Ды не пра тое я, бачыш, як мяне па завуголлях думкаю носіць... Нервы Мурку ўпершыню накрылі, калі Алька за Лёньку замуж выйшла. Памятаеш Лёньку Сцяржанова, першага Альчынага мужыка? Матрона тады яе так прасіла, маліла, на калені падала, каб замуж не спяшалася, каб пахадзілі хаця б як людзі, у вочы адзін аднаму паглядзелі... Не! Нічога не дапамагло, Алька ж упартая, хто б там маці слухаўся... А Лёньку праз год у цынкавай труне прывезлі... Мараком быў. Па ўсім свеце матаўся. А яна – усё адна, усё чакае... Дачакалася...

Дзед Іван разрэзаў даланёй паветра, як буханку хлеба, вочы яго асалавелі, навярнуліся слёзы, ды ён стрымаўся, не заплакаў, толькі ўсхліпнуў неяк высока, па-жаночаму.

– Што там, у той Сірыі, здарылася, так да канца і невядома. У порце хімікаты нейкія ўзарваліся, ці што, а Лёнька там аказаўся ў ліхую гадзіну. Цёмная гісторыя... А Мурка ўсё гэта ў сваёй уяве даўно пабачыла. Ну, можа, не ўсё, а труну дакладна пабачыла... Да таго ж Алька за Лёньку не па каханні выйшла, а так, назло Уладзю Мацкову, кавалеру свайму ранейшаму, нешта там у іх не зраслося. Пасварыліся, можа, ці што... Маладыя. Дурныя. Дык Алька ў тое сваё нешчаслівае замужжа як у ваду халодную скочыла. “Супраціў сэрца гукае няшчасце”, – як вар'ятка паўтарала тады Мурка... Вось жыве ў ёй нейкая таямнічая сіла, нешта такое яна разумее, чаго мы з табой не ведаем і не бачым... Вайну прайшоў, а верыш, часам бабы баюся, сорам прызнацца... А калі Алька маці не паслухалася, адбылі мы тое горкае вяселле, Мурка нібы інтарэс да жыцця страціла. Не ўставала, не размаўляла ні з кім, есці не варыла... Завезлі мы яе тады ў бальніцу, цэлы месяц не было. Вярнулася дадому, нібы такая, як і раней, толькі ціхая занадта, ўся ў сабе, нібы нейкая думка яе грызе і грызе, трымае, не адпускае. А праз год Лёньку ў труне прывезлі... Зноў нярвовы зрыў, зноў бальніца... Потым адышла, забыліся мы, дзякуй Богу, пра тое жахлівае... Праз два гады Алька за Славіка замуж выйшла, Інка нарадзілася. Пашкадавалі яны аддаваць дзяўчынку ў яслі, хварэла часта малая. Прывезлі ў Сястронкі на выхаванне. У нас тут жа ж малако, мёд, чыстае паветра... Ну, ты ж разумееш... Унучка – наша з Матронай шчасце, за дзяцей так не хваляваліся. Я часам думаю, што Мурка любіць Інку, як Альку не далюбіла. Часам, як забудзецца, унучку Аляй называе, а Інка і не пярэчыць... Добрае дзіця, шчырае... Не разумею, што на гэты раз з Матронай трапілася? Ні з таго ні з сяго... Здаецца, ніякай прычыны не было... Можа, мінулае яе дагнала, а можа... будучае?..

* * *

Гладжу бабулю па галаве ды бачу ў яе вачах толькі гурбы снегу. Нібы нейкая жанчына брыдзе цераз поле па калена ў снезе, і так ёй адзінока, так халодна... Хто гэта? З якога часу? З якога жыцця?.. Вялізны крумкач зляцеў з яліны, закрыў крыллем паўнеба... “Не дзяўбі маё сэрца, крумкач, бяду не прадказвай!” Хто гэта крычыць? Можа, бабуля, можа, матуля, а можа, і я сама, нібы мы ўтрох ідзем цераз поле, а след адзін... Спужалася. Ускокваю, бягу на кухню, дзе абраз Казанскай Божай Маці вісіць у куце. Малюся, як магу, той дзіцячай шчырай малітвай, якая гукае па паўночным беразе, а на паўднёвым яе пачуюць. Не ўмею, а малюся, гавару, што адчуваю, што на душу кладзецца:

– Маці Божая, дабратворная, родная, даражэнькая, маці ўсіх дзяўчатак і хлопчыкаў, уратуй маю бабулю, дапамажы ёй выйсці са снягоў яе смутку, даруй ёй правіну, што не даравала яна маёй неслухмянай матулі, а матулі даруй, што не пачула і не зразумела бабулю. Няхай баба Мура адчуе маю любоў, і няхай гэтая любоў загарне яе душу ў пуховую хустку, захавае ад усіх крумкачоў. Ты памятаеш, найсвяцейшая Багародзіца, як калісьці ў сакавіку, якраз на свой дзень народзінаў я знайшла ў дровах кукалку з вусенем? Два месяцы за ім назірала, хукала ў тую шчыліну, каб вусеню

стала цяплей. А потым з кукалкі вылупіўся мятлік... Я хачу, каб бабуліна душа адагрэлася, як гэтая кукалка, каб ёй хапіла нашага цяпла і любові. І я, і дзядуля, і матуля будзем хукаць на бабуліну душу, каб яна ачуняла і... прачнулася... Дапамажы, Багародзіца, прашу цябе... А яшчэ ратуй тую жанчыну невядомую, якую я пабачыла ў бабуліным зачараваным сне. Яна ідзе за сваім родным праз завіруху, ёй халодна, цяжка, але зрабі так, каб яна дайшла... Даруй ёй і зразумей...

Раніцай бабуля прачнулася вясёлай і бадзёрай, як і раней. Хваробы як не было. Матуля радавалася, што на гэты раз абыйшлося без бальніцы, а дзядуля, здавалася, гатовы быў скакаць на адной назе, а калі б у яго была другая, пайшоў бы ўпрысядкі. Усе смяяліся, жартавалі, і толькі я маўчала пра сваю таямніцу... А навошта гаварыць, словамі можна парушыць чары... З таго часу я чула бабулін голас, як бы далёка ні была, калі ў сне, а калі і на яве. Паміж намі ўтварылася нябачная сувязь, дзе час пульсуе не толькі з мінулага ў будучыню, а і наадварот...

* * *

У маім сэрцы жыве не толькі мая памяць, а і ўспаміны родных людзей. Сэрцу цяжка, і яно б'ецца моцна-моцна, хутка-хутка. “Тахікардыя”, – кажа матуля. А мне чуецца – “птаха-кардыя”, так больш зразумела, бо адкуль тады я ведаю ўсё пра палёты? Мне здаецца, што калісьці, вельмі даўно, я была птушкай, лётала дзе мне захочацца, над усімі сястронскімі Вірамі (рэчкай малой і вялікай, Малы Вір – для дзяцей, Вялікі – для дарослых), над дамамі з блакітнымі аканіцамі і чарацянымі прычолкамі, каровамі і пастухамі, рамонкамі і званочкамі. А цяпер я лётаю па нашай хаце. Печ з залатымі вязанкамі цыбулі, з партрэтамі маладых бабулі з дзедам, тузінам дзядзек, цётак і дзяцей, каго я нават не ведаю, усе яны на картачках у карычневых драўляных рамах, а я да іх блізка-блізка, бо лётаю, і мне радасна, лёгка-лёгка, нібы я пярынка. Чамусьці толькі сцен не бачу, і сябе не бачу гэткай, як цяпер, з ножкамі-ніткамі, усмешлівым ротам, а зуба няма, бабуля ўчора мышцы аддала. Я лётаю па хаце, як па храме, абраз Казанскай Божай Маці ў куце, бабуля ёй заўсёды моліцца, і я малюся, толькі таемна. Маці Божа ўверсе, пад самай столлю, як пад небам залатой фарбай маляваным, і мне так весела, так радасна, што спяваю “ой, дзяўчаты, ой, красуні”, а далі толькі “ля-ля-ля”, бо слоў не ведаю. Гэта мне сон такі прысніўся, проста ўспомнілася, калі матуля гэтае сваё “птаха-кардыя” вымаўляла. Толькі б і рабіла, што мяне лячыла. Мама дае мне таблеткі, а я іх выплёўваю і пад падушку ў цэлафанку хаваю. Ужо цэлы мяшочак назбірала. Потым птушак лячыць буду, у іх таксама сэрца хутка б'ецца. Ведаю гэта, бо не раз адагравала птушачак у далонях. Сэрца ў іх такое хуткае і маленькае, як жылачка на маёй скроні. Мабыць, там у людзей жыве птушачка, проста яны пра гэта не ведаюць. Аднойчы такое было: верабейка на зямлю з дрэва зваліўся ў моцны мароз, яго дадому прынесла, цёплую вадзічку з рота ў дзюбку ўпырсквала. Дзякуй Богу, ачуняў. Вось так. Мама мяне лечыць, а я лячу птушак. У нас з імі – “птаха-кардыя”. А яшчэ я бабулю вылечыла, толькі матулі пра гэта не скажу...

* * *

Я была ўпэўненай і адважнай. Калі мне споўнілася дваццаць тры – памерла мама. Яе прывезлі на грузавой машыне ў Сястронкі, і мужчыны дзядулю падымалі на табурэтцы ў кузаў, каб ён развітаўся з дачкой. Дзядуля дажыў да дзевяноста гадоў, а памёр ад звычайнай прастуды. А можа, проста надышоў яго час, ён стаміўся жыць і папрасіўся да сваёй дачкі... У мае трыццаць тры памерла бабуля. Перад смерцю яна спявала. Ужо не пазнавала нікога з родных, а свае дзявочыя песні добра памятала. Спявала восем гадзін без перапынку....

І вось нешта ў маім шчаслівым свеце сапсавалася... Роспач уначы ўпаўзала ў сэрца вужакай, скручвалася каля дзвярэй і не выпускала мяне з майго новага дому. Каб знайсці адказы на пытанні, якія мяне хвалявалі, у думках я падыходзіла да нашай хаты ў Сястронках, заглядала ў вокны, ды нікога там не бачыла. Запусцене і бязладдзе панавалі ў нашай некалі гасціннай вясёлай хаце, і толькі абраз Казанскай Божай Маці па-ранейшаму вісеў на месцы. Багародзіца дапамагла бабулі пагукаць мяне апошні раз, пакуль тая яшчэ была на мяжы свядомасці, але ўжо бачыла чарацяны човен, які пераправіць яе на другі бераг неба. Бабуля прасіла забраць абраз з пустэчы, у якую ператварылася наша хата. Ікона без чалавечага цяпла губляе сілу. Дзень і ноч ткалі свае чароўныя дываны, прыходзіў няпэўны час, калі толькі пачынала развіднець, час між ваўком і сабакам (раніца – не раніца і ноч – не ноч), калі губляліся сэнсы і ўспаміны, а канец і пачатак не супадалі. Людзі, такія блізкія раней, рабіліся далёкімі, іх раскідвала па розных куточках свету, і яны не ўспаміналі адзін аднаго, забывалі родную кроў і мову... А Маці Божая малілася за нас усіх – жывых і мёртвых, бо толькі праз боль і пакуты можна адчуць сэрцам сэрца, вярнуць і вярнуцца...

Дакранаюся да бабулінай ваўнянай хусткі, разгладжваю далонямі, адаграваю дыханнем, як птушачку, і спыняецца мяцеліца, і сціскаецца час, які раздзяляе мяне з маёй радзімай, тым першапачатковым зярняткам, родным, шчымліва-пяшчотным... Там, у бабуліным сне-трызненні, гэта я іду цераз завеі, іду, каб забраць тое, што належыць толькі мне, тое, у чым злучыліся радасць і пакута нашага роду. Ужо дастаткова болю і гора! Праз завеі я крочу да роднай намоленай іконы, якая кліча мяне з пустой, занесенай снегам па вокны хаты. Яна просіцца да відушчага сэрца, каб яно сагрэлася і вымавіла галоўнае, некалі недамоўленае...

* * *

Пасля таго, як бабы Матроны не стала, я прыехала ў Сястронкі і забрала абраз з пустой адзінотнай хаты. Загарнула Маці Божую з Немаўлём у пуховую бабуліну хустку і правезла праз дзве мяжы. Цяпер мы разам молімся за тых, хто пайшоў у вечнасць і не дараваў, за тых, хто не папрасіў прабачэння і не развітаўся, за тых, хто жыве цяпер і хто прыйдзе ўжо пасля нас. Дзеці, унукі, праўнукі пройдуць па нашых слядах і прадоўжаць кругазварот жыцця... Вымаўляю недамоўленае, слухаю непачутае... Круціцца бабулін калаўрот, круціцца, круціцца... Праходзячы праз гады і стагоддзі, зямныя і нябёсныя берагі, прашу ў Багародзіцы паратунку, збавення, даравання для ўсіх, каго люблю.

## Вайна

Дзядулевы пратэзы стаяць у самым кутку, між ложкам і сцяной. Адзін з іх выходны – ладны, але цяжкі, другі штодзённы – лягчэйшы, але грубы і страшны. Штодзённая штучная нага дзядулі скураная ў тым месцы, куды ўкладаецца кукса, а тая частка, што ніжэй калена – проста круглая бліскучая палка з нікелю, абгорнутая ўнізе гумай, як коркам, каб не было слізка ступаць. Калі я сплю на бабульчыным ложку, то бачу, як дзядуля раніцай надзявае свой пратэз, бо прачынаюся ад яго стогну. Падглядаю з-пад коўдры, канечне, каб дзядуля не заўважыў, яму гэта не спадабаецца. Дзед Іван хоча выглядаць у нашых з бабуляй вачах моцным, намагаецца не паказваць свой боль, я гэта разумею, таму ляжу на ложку ціха, як мышка, раблю выгляд, што сплю, але ж бачу, як дзядуля бярэ цёплы байкавы мяшочак, укладае ў яго сваю куксу, прышпільвае штучную нагу, абмотвае скураныя рамяні ад пратэза вакол паясніцы. Мне так хочацца дапамагчы дзядулю, зменшыць яго боль, я нават кусаю коўдру, каб маўчаць і не заплакаць, бо плачам гору не дапаможаш... У дзядулі сівыя валасы, яны амаль зліваюцца са зрэбнай бялізнай. Ён надзявае штаны, кашулю, бярэ кіёк і, апошні раз уздыхнуўшы, другой рукой для надзейнасці ўхапіўшыся за рог сцяны, цяжка сунецца са спальні. Так пачынаецца яго новы дзень...

Дзядуля не хоча ўспамінаць вайну, але яна жыве ў ім, нагадвае пра сябе пачварнымі пратэзамі ў кутку хаты, штодзённым цяжкім пад’ёмам і апрананнем. Дзеду Івану трэба сабраць у кулак усю сваю волю, каб выглядаць бадзёрым і моцным у вачах дарослых дзяцей, сваякоў, унукаў. Ён не скардзіцца на жыццё і часта паўтарае:

– Мне яшчэ пашанцавала, што я выжыў, што не забілі на вайне, а толькі паранілі, што жыву на гэтым свеце, а не на тым цяпер... Хто яго ведае, які той свет? Ніхто адтуль не вяртаўся...

Дзед Іван працуе кавалём. Кожны дзень ён шкандыбае на сваім пратэзе да кузні, можа, з паўгадзіны, хоць гэта зусім блізка, нейкіх 300 метраў усяго, але калі раздувае жар паддувалам, а потым працуе вялізным молатам, адчувае сябе волатам, утаймавальнікам агню – ён жыве, ён працуе! Але кавальская справа – далёка не ўсё, што дзядуля ўмее рабіць. У яго душы жыве гадзіннікавы майстар. Сястронцы нясуць да яго свае сапсаваныя гадзіннікі, і дзядуля дае ўсім гэтым механізмам шанец на другое жыццё. Вечарам ён гадзінамі калупацца ў целе гадзіннікаў, нібы вывучае анатомію і, здаецца, ведае ўсё пра час, нават тое, чаму ў дарослых ён спяшаецца, а ў маленькіх паўзе, як чарапаха... Час ад часу я прыкладаю вуха да гадзінніка, і мне здаецца, што там б‘ецца сэрца майго дзеда Івана...

– Дзядуля, а колькі гадзін у вечнасці? А чаму стрэлкі гадзінніка круцяцца злева направа, а не справа налева? А чаму гадзіннік не можа адлічваць час назад? Дзядуля, а чаму ніхто не прыдумаў такога гадзінніка, каб стрэлкі круціліся наадварот, каб людзі не старэлі, а маладзелі? – закідваю дзядулю пытаннямі, на якія ніхто не ведае адказу.

У нашай хаце ў кожнай шуфлядзе, на кожнай паліцы ляжаць гадзіннікі – большыя і меншыя, насценныя і наручныя, у кардонных каробках з-пад абутку, металёвых слоіках і кубачках – розныя калёсікі, стрэлачкі, махавічкі, шайбачкі і вінцікі. Гэта не вельмі падабаецца бабулі, яна не паспявае прыбіраць усю гэтую драбязу, але дзядуля нічога не дазваляе выкідаць – раптам нешта спатрэбіцца для чарговага рамонту. Я слухаю,

як спакойна цікаюць адрамантаваныя дзедам гадзіннікі, і мне здаецца, што яго сэрца не спыніцца аж пакуль у свеце будуць ісці гадзіннікі...

Найбольш мне падабаецца вялікі гадзіннік, які вісіць на сцяне ў нашай гасцёўні. Гэта гадзіннік з боем, і мне здаецца, што менавіта там жыве Бай з вершыка, які бабуля расказвае нанач, каб я хутчэй засынала:

– Ішоў Бай па сцяне, нёс сямёра лапцей, і сабе, і жане, і дзяцёнку па лапцёнку, а ці баіць, ці не?..

Дык вось, гэты Бай жыве ў дзядулевым гадзінніку! Калі я была зусім маленькая, то вельмі хацела пабачыць гэтага Бая... Прачынаюся сярод ночы, бегу да гадзінніка, адчыняю яго круглыя шкляныя дзверцы і заглядаю ў гадзіннік, як у хату.

– Бай, выходзь, не бойся, я табе не зраблю шкоды, толькі адным вочкам на цябе зірну... Калі ласачка!

Не, не выходзіць, але я ведаю, што ён там ёсць. Не ўсё можна пабачыць звычайным вокам... А можа, Бай не выходзіць таму, што яму цяжка ўставаць і доўга збірацца, як і дзядулю? Можа, той казачны Бай – таксама інвалід, як і мой дзядуля, можа, і ў яго толькі адна нага? Можа, і там была вайна? Можа, і там гінулі людзі, а Баю яшчэ пашанцавала, што вярнуўся з вайны жывым?..

Дзядуля не любіць гаварыць пра вайну, але кожны Дзень Перамогі да яго прыходзяць вучні з Зялёнкі або з Маставухі. Дзядуля расказвае ім пра вайну, а я сяджу побач і слухаю, нібы кіно ў сястронскім клубе бачу, але ў нейкі момант разумею, што ўсё гэта – праўда і нічога нельга змяніць, бо мой дзядуля пакутуе кожны дзень праз тую вайну, нібы гадзіннік у яго сэрцы рухаецца наадварот і ён кожны дзень вяртаецца ў тое сваё франтавое мінулае, дзе ён выжыў, але застаўся без нагі. Пасля кожнага дзядулевага аповеда я абяцаю сабе, што больш ніколі не буду падглядваць, як ён апранаецца раніцай, але зноў і зноў падглядваю... І мне так балюча, нібы вайна жыве побач са мной, з намі, што яна не міне, як жахлівы сон. Вайна заглядае ў мае вочы з кутка між дзядулевым ложкам і сцяной, і я не ведаю, што з гэтым рабіць.

## Панас Малёваны

– Інка, адчыні дзверы дзеду Панасу, у мяне рукі ў цесце, – крычыць бабуля з кухні, як быццам я не чую, хто да нас прыйшоў.

Калі дзед Панас заходзіць у наш двор, яго пачуеш не толькі з хаты, а й з гарышча і пограба. Такі ўжо ў яго голас – узмацняльніка не трэба. Нават калі ён закрычыць каля бальніцы, яго каля клуба пачуюць, хоць клуб і бальніца знаходзяцца на пачатку і ў канцы вёскі. Я адчыняю дзверы дзеду Панасу і вісну на яго шыі. Ён хапае мяне на рукі і пачынае круціць вакол сябе, нібы віхор леташняе лісце. Бабуля хаваецца за печку разам са сваім цестам, дзядуля збірае ў кардонную каробку разабраныя гадзіннікі, бо дзед Панас акрамя гучнага голасу мае нястрымны тэмперамент, – там, дзе з'яўляецца Малёваны, пачынаюць лётаць зэдлікі, слоікі і сподачкі, нібы ў іх вырастаюць крылы.

– Інка, зараз жа пакінь дзеда Панаса ў спакоі, ён і без цябе ўвесь посуд у кухні раструшчыць! – Бабуля мяне страшыць, а сама пасміхаецца, бо крыўдаваць на дзеда Панаса проста немагчыма... Малёваны ставіць мяне на зямлю, цмокае ў шчаку бабулю, здароўкаецца з дзядулем, уключае

радыёлу, і ўсё гэта робіць адначасова, быццам у яго не дзве, а цэлых шэсць рук.

– Ну, што вы тут робіце, гаўрыкі, сумуеце без мяне? – смяецца Малёваны і падхоплівае басам папулярную песеньку пра завадскую дзяўчыну Танечку. – “Ах, Танечка, на саначках каталась ты ўвесь дзень...”

Панас Малёваны – даўні сябар майго дзядулі, але гадоў на дзесяць маладзейшы, весялейшы і нікольні не падобны характарам. Мой дзядуля – спакойны, негаваркі, разважлівы, а Малёваны – эмацыйны, хуткі, як віхор. Дзядоў яднаюць ваенныя ўспаміны і пяшчотныя адносіны да мяне. Сваіх дзяцей і ўнукаў у Малёванага няма. Жонка пакінула яго бабылём гадоў дваццаць таму, збегла ў горад да палюбоўніка, як пляткараць бабулі ў вёсцы. Ну, што тут сказаць? Дурная ў дзеда Панаса была жонка, ну як пробка. Я б такога вясёлага, сімпатычнага дзеда, ніколі не пакінула.

Дзед Панас праваяваў усяго год, на фронце яго моцна кантузіла, нават памяць на нейкі час страціў. Доўга лячыўся ў шпіталі, памяць вярнулася, але моцныя болі галавы засталіся. Кантузія час ад часу нагадвае Малёванаму пра вайну, не дае жыць спакойна. Калі дзеду пачынае моцна балець галава, ён бяжыць у лес, каб ніхто не пачуў, як ён крычыць і стогне. Дзядуля казаў, што Малёванаму бывае так цяжка, што ён аб дрэва галавой б’ецца, каб заглушыць той нясцерпны боль. Калі прыступ праходзіць – Панас Малёваны дадому вяртаецца. Зноў вясёлы па-ранейшаму: жартуе з вясковымі бабулькамі, да маладзіц заляцаецца, нібыта нічога і не было.

Дрэнная, канечне, у мяне звычка падслухоўваць. Бывае, пачую такое, што лепш бы ніколі не чула. Баба Франя – вядомая ў вёсцы пляткарка, баба Уляна – такая ж, бо лепшыя ж сяброўкі. Час ад часу яны заходзяць да нас пачасаць языкамі, а заадно з’есці кавалак пірага з капустай, бо вядома ж, якая мая бабуля цудоўная гаспадыня.

– Як вы думаеце, дзяўчаты, чаму ад Панаса Малёванага жонка сышла? – пачала Франя і сёрбнула малака са слоіка, які стаяў на стале.

– Скуль я ведаю? Можа ў яго агрэгат пасля кантузіі не працуе? – хмыкнула Уляна, запіхваючы ў рот кавалак пірага.

– Вось ты і правер, Улечка, калі ён цябе наступны раз каля печы прыцісне...

– А ты правярала? – баба Уля аж падавілася пірагом, закашлялася.

– Не сорамна вам, дзеўкі, свае зубы ўстаўныя скаліць? Забыліся, па колькі вам год? – уступіла нарэшце ў размову мая бабуля, якой брыдка было слухаць усю гэтую дурню. Баба Франя на зэдліку аж падскочыла:

– А колькі б ні было, Мурачка, жартаваць не забараняецца! Не рабі выгляд, што ты святая Матрона! Нармальнай бабе да смерці мужыкі сняцца...

Аднойчы Панас Малёваны ўзяў да сябе цыганоў. Ну, не зусім падабраў, і не зусім на дарозе, але нешта накшталт гэтага... Як тыя цыганы з’явіліся ў Сястронках, ужо ніхто не памятае. Прачнулася вёска аднойчы вясной, а цыган з цыганкай і двума блізнятамі паставілі намёт непадалёк ад крамы, дзе раней была панская сядзіба, і сталі ў ім жыць. Хоць і касавурыліся на іх людзі, але не чапалі, бо тыя таксама дрэннага нічога не рабілі. Бліжэй да восені нарадзіла цыганка трэцяе дзіцё, і з гэтага моманту пачаліся ў іх з цыганам спрэчкі, скандалы, часам аж да бойкі. Гармідар стаяў такі, нібыта каля крамы не адна сям’я жыве, а цэлы табар! Ніхто не ведаў, што з гэтымі цыганамі рабіць, але баяліся іхніх праклёнаў. Аднойчы, калі яна

была яшчэ маладой, бабу Улю пракляла цыганка, дык з таго часу ў яе левае вуха заклала на ўсё жыццё. Нават знахарка Іваніха не дапамагла.

Аднойчы раніцай Панас Малёваны пайшоў у краму хлеба купіць і пабачыў на ганку маладую цыганку з вялікім сіняком пад вокам. Яна плакала і прыціскала немаўлятка, захутанае ў старую стракатую коўдру. Побач плакалі блізняты, хлопчык і дзяўчынка, а цыгана і след прастыў... Панас Малёваны падумаў-падумаў ды й забраў цыганку з дзецьмі да сябе ў хату. Пашкадаваў. Вырашыў, няхай сабе пажывуць хаця б да вясны, разам весялей будзе.

– Сябрук твой зглузду на старасці год з'ехаў, – маўчала-маўчала ды й не вытрымала баба Мура. – Не хапала, каб на той год цыганскі табар у нашай вёсцы пасяліўся, і Панас з імі парадніўся!

– Ну што яны табе зрабілі, Мурка, гэтыя цыганы? Няхай сабе жывуць. Ды й Панасу весялей з імі, ёсць пра каго турбавацца... Колькі можна аднаму ў хаце вецер па вуглах ганяць?

З гэтага часу Панас Малёваны ў нас пачаў з'яўляцца ўсё радзей. Раней, калі дзеда доўга не было, я сама бегла да яго ў госці, гуляла с сабачкам Шарыкам, але цяпер толькі назірала здалёк праз дошкі дзіравага Панасавага плота... Тым часам цыганка паводзіла сябе ў дзеда Панаса нібыта гаспадыня – у двары на штыкетніку раскінула коўдры, каб прасушыліся, верасень быў на дзіва сухі і цёплы, выцягнула з хаты ўсе дзедавы падушкі, пакрывалы, настольнікі, перамыла бялізну. На паркане віселі яе стракатыя спадніцы, дзіцячыя распашонкі, сарочкі, кашулі, штаны. Двор Панаса Малёванага ператварыўся ў карабель на сямі ветразях. У якія далі-далёкія плыве гэткі карабель? Якое цыганскае шчасце шукае?..

Аднойчы вечарам я пабачыла, як дзед Панас сядзіць з цыганкай на прызбе і спявае. Тужліва так, з пачуццём... А гэта я ўжо ніяк не магла вытрымаць! Лепш бы ён слоікі біў у нашай хаце ды зэдлікі пераварочваў! Я аж кулачкі сціснула ад злосці. Слёзы паліліся з маіх вачэй. З усёй немінучасцю я адчула, што назаўжды страціла майго лепшага дарослага сябра... Адчай агарнуў мяне, як восеньскі туман, я прыбегла ў хату і схавалася ў вялікую шафу з бабулінымі выхаднымі сукнямі, праплакала там можа з гадзіну, аж пакуль не задрамала. Баба Мура з ног збілася мяне шукаць...

Цыган з'явіўся ў вёсцы недзе праз месяц, ужо лужыны на дарозе добра падмарозіла. Пакуль Малёваны ездзіў у горад па прысмакі для дзяцей, цыган пабіў вокны ў яго хаце і знік разам з цыганкай і немаўляткам. Старэйшых дзецей цыганы не забралі, так па іх і не вярнуліся.

– Куды бегчы, дзе іх шукаць? – жаліўся дзед Панас. – Вядома, які гэта народ, перакаці-поле – сёння тут, заўтра там...

Аддаць дзяцей у інтэрнат дзед Панас не наважыўся, пашкадаваў. Так і прыжыліся ў дзедавай хаце два цыганяці – Рада і Міхай.

Сястронскія дзеці выявіліся не такімі добрымі, як дзед Панас. Яны абражалі, дражнілі цыганят, асабліва Міхая.

– Міхай, Міхай, у ж...пу дулю піхай! – крычалі, і Міхай кідаўся біцца з нашымі хлопцамі... Але паступова да цыганяці прывыклі і пачалі зваць проста Мішка, бо ніхто не хацеў звязвацца з дзедам Панасам, які, калі яму баліць галава, і забіць можа, бо сябе не памятае ў тыя моманты. Шчыра кажучы, гэта я хлопцаў настрашыла, каб яны, нарэшце, ад Мішкі адчапіліся.

## Пра маму, кіно і чарнічнае варэнне

Гляджу ў люстэрка, хукаю на шкло – і ў гэтым волкім тумане бачу не сябе ў валёнках і зацыраванай на рукаве шэрай кофтачцы, а маладую матулю з партрэта. Партрэт вісіць на сцяне, якраз насупраць шафы з люстэркам, і мама там такая прыгожая-прыгожая, як намаляваная: бровы ластаўкамі, карычневыя валасы хвалямі, вочы карыя, вільготныя, нібы мама плакаць сабралася, але ўсміхаецца, бо мяне бачыць, я ж побач з ёй, у люстэрку. Мама мне нагадвае актрысу Людмілу Касаткіну: тыя ж бровы ўразлёт, рашучы хуткі крок і нават радзімка на шчацэ. Не, у Людмілы Касаткінай няма такой радзімкі, але ўсё роўна яна копія маёй мамы. Бачылі фільм “Утаймавальніца тыграў”? Там мая мама, ой, не, Людміла Касаткіна ніколечкі тыграў не баіцца. І мама не пабаялася б, бо яна таксама вельмі смелая.

Аднойчы мы з матуляй і бабуляй кароў пасвілі, наша чарга была, дык адна карова, Чарнушка, нібы зглузду з’ехала. Яна кідалася на іншых кароў, калолася, а мама схапіла пугу і пабегла кароў бараніць... Калісьці мне баба Маня расказвала, як на яе малодшую сястру шалёны бык напаў. Забадаў да смерці... Так я спужалася, расхвалявалася за маму, што словы завязлі ў горле – хачу закрычаць, а не магу, анямела проста. А мама нібы зусім і не спалохалася, нібы сто разоў яна тых кароў бараніла, гляджу, ужо Чарнушку па галаве гладзіць і нешта ласкавае ёй на вуха шэпча. І такая карова паслухмяная стала, як цяля, нават даланю маміну сваім шурпатым языком лізнула.

– А што ты ёй такое сказала, мама? – спытала я потым. Цікава ж, якую замову ад шалу яна ведае.

– Я сказала Чарнушцы, што яна прыгажуня, самая цудоўная ў Сястронках карова, хоць сёння і не лепшы яе дзень. Трэба трохі пацярпець... І пачаставала карову чарніцамі.

– Мам, дык ты сапраўдная чараўніца! Не, драся-, драсі-, не, дрэсіроўшчыца! Табе трэба не ў школе настаўніцай працаваць, а ў цырку. Ты і тыграў бы не спужалася...

“Утаймавальніцу тыграў” у нашым клубе я бачыла некалькі разоў. На кожны сеанс хадзіла: і ў пяць гадзін вечара на дзіцячы, і ў сем – на дарослы, бо вельмі хацела Людмілу Касаткіну пабачыць. Гляжу – і мне здаецца, што там маму маю паказваюць. Тыя ж вочы, той жа паварот галавы... Толькі валасы ў артысткі светлыя, а ў маёй мамы цёмныя... Шкада, што фільмы з Людмілай Касаткінай у наш клуб прывозяць рэдка. І мама ў вёсцы рэдка бывае, толькі на выхадныя прыязджае, і то не на кожныя. Ёй трэба ўдзень працаваць у школе, а вечарам сшыткі правяраць. А сшыткаў шмат, і я сумую...

Калі наш кіншчык дзядзька Лёнька прывозіць у Сястронкі кіно, я куляй да яго лячу. У апаратную ўрываюся, як віхор, менавіта ў той момант, калі ён дастае з круглай пляскатай бляшанкі новы фільм. Ён глядзіць на мяне расчулена і ўсміхаецца аднымі вачыма, бо я яшчэ ніводнага фільма не прапусціла. Нават кіно пра Анжэліку-маркізу ангелаў бачыла, хоць дзяцей на гэты фільм і не пускаюць. Ну што там такога? Цалуюцца дый усё, мы з Алегам ужо таксама пацалаваліся адзін раз, калі ў хованкі гулялі. Ды я цяпер не пра Алега расказваю, а пра маю маму... Мы разам з дзядзькам Лёнькам перамотваем фільм на спецыяльным століку, у яго жоўтыя ад

тытуню пальцы, і яны мне замінаюць за маленькімі кадрыкамі паспяваць, вельмі ж я хачу даведацца, які фільм сёння ў Сястронкі прывезлі. А раптам там будзе граць Людміла Касаткіна?

– Дзядзька Лёня, а ты ведаеш, што мая мама на Людмілу Касаткіну падобная?

Кіншчык ківае галавой, бо я ўжо сто разоў пра гэта гаварыла, ды мне прыемна і сто першы паўтарыць, гэта ж пра маю маму, а не пра ўлюбёную актрысу.

– Не верыш? Вось мая мама заўтра ў вёску прыедзе, тады сам пабачыш...

З дзядзькам Лёнькам у нас такая гульня – калі я ўгадаю пра што фільм, ён дазваляе мне глядзець кіно з апаратнай. Гэта вельмі цікава, хоць і не надта зручна: акенца маленькае, гук як з бочкі, да таго ж я стаю на табурэтцы гадзіну, а, можа, і дзве, але з апаратнай я добра бачу чароўны блакітны промень, які агортвае наш маленькі вясковы клуб вялікай нетутэшняй таямніцай. Гляджу на гэты промень, і мне здаецца, што я думкамі магу ўплываць на іншых людзей – вызваляць з палону, спыняць кулі, ажыўляць забітых... Магу зрабіць так, каб закаханыя ніколі не разлучаліся і шчаслівa пражылі разам усё жыццё. А калі што-небудзь пойдзе не так, я спыню фільм, адматаю назад і пачну ўсё спачатку...

...Бачу маладую маму, нібыта здымаю фільм. Вось мы варым з ёй чарнічнае варэнне, тыя ягады, што сабралі пакуль кароў пасвілі. Дакладней, пакуль каровы адпачывалі, яны і бабуля драмалі, а мы з мамай чарніцы збіралі ў лесе. Раніцай камары моцна кусаюцца, але я цярплю, бо калі буду жаліцца, мама мяне ніколі больш па ягады не возьме...

Варэнне такое духмянае, што аж дух захоплівае. Мама вялікай драўлянай лыжкай збірае чырвона-сінюю пенку, асцярожна выкладае яе на белы парцалянавы сподачак. Я намагаюся студзіць варэнне, але не вытрымліваю, кранаюся языком чарнічнай духмянай радасці.

– Ай, горача!

– Студзі, дурача!

Мама фукае на мой сіні язык, і я адчуваю, што ўся яна пахне чарнічным варэннем, што ад гэтага паху ў мяне кружыцца галава, і я такая шчаслівая, што нават не разумею, што гэта шчасце. Салодкі чарнічны пах застанецца са мной, калі я вырасту і пераеду ў іншую краіну, туды, дзе чарніцы ў лесе не растуць, і ніколі не будзе побач мамы. Гэты ўспамін зноў і зноў вяртае мяне ў тое чарнічнае маленства, дзе нават вёска паблізу Сястронак называлася Чарняя, дзе чарніцы раслі ў бліжнім і дальнім лесе, і кожны год мы з мамай збіралі ягады і варылі духмянае чарнічнае варэнне, самае смачнае ў маім жыцці...

А што будзе пасля? Што будзе пасля жыцця з маёй мамай? Гляджу ў люстэрка, шукаю адказ на гэтае пытанне ў глыбінях свайго ўласнага адбітку, там, дзе адлюстроўваецца і мая маладая мама. Два сусветы сплятаюцца ў адзін, і кожны з іх множыцца, зіхціць, нібы чарнічынка каменьчыка з пярсцёнка на маім безыменным пальцы. Падарунак матулі...

## Генік

Геніка Садоўскага ўсе называлі немцам, хоць ён на немца быў зусім не падобны. Немцы бландзіністыя або рыжыя, а Генік – цемнавалосы, курчавы і смуглявы, нібы яго сонейка паўднёвае пацалавала. Нам здавалася,

што цётка Фруза любіла яго болей за іншых сваіх дзяцей... Але пра Геніка раскажу пазней, спачатку пра цётку Фрузу і дзядзьку Антона.

Калі пачалася вайна, дзядзька Антон пайшоў на фронт, але патрапіў у палон. Неяк пашанцавала яму адтуль уцячы, да сваіх дабраўся, каб зноў ваяваць, ды яго засудзілі, як здрадніка, саслалі ў Сібір. Ужо летам 41-га ў Сястронкі прыйшлі немцы. Хата Садоўскіх была вялікая, на тры пакоі, лепшая ў вёсцы, перад самай вайной збудавалі. Хіба Антон ведаў, што ў яго хаце немцы сваю камендатуру зробяць, а яго жонку, цётку Фрузу, якая тады была маладой і прыгожай, згвалцяць, змусяць ім слугаваць. Цётка Фруза зацяжарыла, а праз нейкі час нарадзіла Геніка.

Калі дзядзька Антон адбыў свой лагерны тэрмін, вярнуўся дадому і пабачыў жонку са смуглявым дзіцём, спачатку хацеў яе з хаты вытурыць, але, даведаўшыся, як усё было, пашкадаваў. Што рабіць, калі такая гісторыя выйшла? Сталі жыць утрох, а пасля ў іх нарадзілася яшчэ дзве дачкі.

Генік быў добры хлопец, але з сур'ёзным "прыветам". У маім дзяцінстве ён быў ужо дарослым, гадоў пад трыццаць, а паводзіў сябе, як маленькі. Цераз гэта нашыя хлопцы ўвесь час яго дражнілі. Хто такія брыдкія словы прыдумляў, я і да сёння не ведаю.

– Генік, Генік, дай варэнік! Генік, Генік – дурачок, вешай ж...пу на кручок!

Генік не крыўдзіўся, толькі сумна ўсміхаўся сваёй шчырай дзіцячай усмешкай:

– Хлопцы, чаму вы злуецеся на мяне? Я ж вам нічога дрэннага не зрабіў... Чаму вы такія злыя?

Генік любіў сядзець на абрывістым беразе Віры і глядзець, як у вадзе адлюстроўваюцца хмаркі. Часам браў з сабой вуду і лавіў рыбу. Так мог сядзець цэлымі днямі, і яму не было сумна. Аднойчы хлопцы падкраліся да Геніка ззаду і саштурхнулі яго ў ваду. Вір – рэчка наравістая, ад самага берага – глыбіня. Генік так і булькнуў з галавой пад ваду, бо не ўмеў плаваць. Хлопцы і самі тады спужаліся, кінулі яму гумавую камеру, а я пабегла да цёткі Фрузы клікаць на дапамогу.

Цётка ў гэты момант даіла карову, якраз быў поўдзень.

– Ах, Божачка ж ты мой! Што ж вы нарабілі, гадзючыны дзеці? Дзе ж вам мой хлопец дарогу перайшоў, чым замінаў? – Яна бегла да рэчкі і галасіла на ўсю вёску. Валасы выбіліся з-пад хусткі, і я пабачыла, якія яны сівыя. І так мне шкада стала цётку Фрузу й Геніка, што я зараўла разам з ёй. Так, равучы на два галасы, мы дабеглі да рэчкі. Дзякуй Богу, хлопцы Геніка ўжо на бераг выцягнулі, а самі разбегліся, каб не дасталася ім. Генка сядзеў бледны, як палатно, мокры і голы, бо дзеці сцягнулі з яго вопратку, каб прасушыць. І тады я ўпершыню пабачыла, што ў хлопцаў паміж ног зусім не тое, што ў нас, дзяўчатак. Ад Генікавай вужачкі я не магла адвесці погляду, гэта было цікава і нязвычна.

– Куды ты глядзіш, Інка, не сорамна табе? – цётка Фруза заўважыла мой позірк, хоць я яшчэ не разумела, што такое сорам. Яна скінула сваю кофту і абвязала яе вакол Геніка рукавамі назад. Выйшаў такі сабе фартушок. Потым абняла яго мокрую кучаравую галаву, прытуліла да грудзей, і слёзы пакаціліся з яе вачэй. "Чаму цётка плача? – думала я, – Генка ж не загінуў, усё добра скончылася..." Маці і сын яшчэ доўга сядзелі, абняўшыся, і такая між імі была пяшчота, што я ціхенька пайшла дадому, каб не замінаць.

Яшчэ адна цікавая гісторыя трапілася з Генікам восенню. Аднойчы ён

пайшоў у лес і заблудзіўся. Ужо вечар на двары – а яго няма. Дзядзька Антон схапіў сякеру і пабег у лес, думаў, калі ваўка раптам сустрэне, будзе чым адбівацца. Геніка не знайшоў, паклікаў вясковых мужчын. Усю ноч яны з ліхтарыкамі лес прачэсвалі, гукалі Геніка. Не дагукаліся, так і вярнуліся дадому ні з чым. Цётка Фруза рвала на сабе валасы, да ранку галасіла, як шалёная. А гадзін у дзевяць Генік вярнуўся дадому. Аказалася, што, збіраючы грыбы, ён натрапіў на старую зямлянку, панасіў туды моху, яловых галінак, лісця і, калі звечарэла, лёг спаць. Не чуў, як яго гукаюць, спаў, як могуць спаць толькі чыстыя бязгрэшныя душы.

З лесу Генік прынёс маленькае ваўчаня. Дастаў з-за пазухі і сказаў:

– Во, глядзіце, які смешны ваўчок. На галаву мне зваліўся, во! Я спаў сабе ў зямлянцы, нікога не чапаў, а ён і зваліўся. Забраў яго, калмаціка, каб у лесе адзін не скуголіў. Страшна ў лесе аднаму...

Ваўчаня назвалі Сабакам. Так Генік захацеў. Цётка Фруза не пярэчыла, бо ўсім сынавым прыхамацям патурала. Шчанюк прывязаўся да Геніка, як сапраўдны сабака. Куды Генік – туды і ён, бяжыць – хвост пісталетам. Нікому воўк шкоды не рабіў, толькі выў моцна па начах, асабліва, перад нябожчыкам. Калі бабуля Алегава памёрла, Сабака так выў, аж страшна. І калі баба Тэкля памірала, таксама выў. Дзядзька Антон хацеў ваўка застрэліць, каб на людзей жах не наводзіў, дык Генік лёг каля яго будкі на зямлю, абшчапіў калматага сябрука рукамі і сказаў:

– Бацька, спачатку мяне забі, а потым ужо яго...

У дзядзькі Антона слёзы на вочы навярнуліся, калі ён такое пачуў і пабачыў. Вось табе і дурнік...

За некалькі дзён да пажару ў Прыстрэльскіх Генік хадзіў па вёсцы з галавой, перавязанай белай матчынай хусткай. Падыходзіў да людзей, заглядаў у вочы і казаў:

– Гэта, во, маланка мне ў галаву ўдарыла, аж кроў з вушэй пацякла. Во, перавязаў. Балюча ж. Паглядзіце, ці пад хусткай ёсць кроў? Ёсць? Бо ж маланка... Балюча...

Аднавяскоўцы здзіўлена на яго паглядалі і толькі зубы скалілі – дурачок ён і ёсць дурачок. Такое вярзе... Які пажар, якая маланка?

За дзень да пажару Генік пачаў наліваць ваду куды толькі мог – у вёдры, тазы, міскі, шклянкі, кубкі і нават сподачкі. Цётка Фруза стамілася гэтую ваду выліваць. Але калі пачалася навальніца і загарэлася хата Прыстрэльскіх, усе нарэшце схамянуліся – трэба было раней звярнуць увагу на Геніка. Людзі, абдзеленыя розумам, часта маюць вешчае сэрца, якое бачыць далей і глыбей, чым у іншых...

А памёр Генік ад гарэлкі. Не таму, што піў, а таму, што не піў... Нездоўга перад гэтым у лес, мабыць, адчуўшы голас крыві, уцёк Сабака. Што зробіш, воўк – лясны звер, як яго не назаві. Генік доўга шукаў свайго сябра, так і не знайшоў. Засумаваў... З гэтай пары ён рэдка выходзіў з дому, нічога яго не цікавіла. Аднойчы, калі я зайшла да цёткі Фрузы па нейкія зёлкі для бабулі, Генік мне жаліўся:

– Ведаеш, Інка, быў у мяне адзіны сябар – і той у лес уцёк. Застаўся я адзін-адзінюткі, як быліна, во... Мабыць, паміраць буду. Толькі маёй матулі нічога не кажы, бо яна плакаць моцна будзе...

Восенню, калі ўжо пачаліся начныя замаразкі, сталі хадзіць па Сястронках рабацягі-пільшчыкі. Хіба можна ў вёсцы зімой без дроў абыйсціся? Не ва ўсіх дварах былі мужчынскія рукі. Вось цётка Фруза і паклікала

пільшчыкаў свае дровы папілаваць. Дзядзька Антон на той час ужо памёр, а болей – хто ёй дапаможа? Дочкі жылі ў горадзе і прыязджалі не часта, хіба што бульбу пасадзіць-выкапаць або градкі летам спалоць. А Генік, ён і ёсць Генік – за якую работу ні возьмецца, усё з рук валіцца. Як малое дзіця, толькі і глядзі, каб не пабіўся, ці не парэзаўся... Вось і спраўлялася цётка Фруза сама са сваёй гаспадаркай, як магла. Апошні год дарабляла да пенсіі, фельшаркай у Сястронскай амбулаторыі працавала. Калі прыйшлі пільшчыкі, яна ім есці нагатавала і хуценька на работу пабегла. Толькі Генік на гаспадарстве застаўся.

Рабацягі дровы папілавалі і селі перакусіць, якраз пад абед было. А там, дзе шкварка, там і чарка – адна, другая, трэцяя...

– Ідзі, Генік, выпі з намі... Ці табе матка не дазваляе?

Генік ніколі раней не піў. З яго хваробай нельга было. Таму і ў гэты раз ён пачаў упірацца, аднеквацца:

– Ды несмачная ваша гарэлка, во. Горкая! Не хачу!

– Ты, Генік, салодкае любіш, ці што? Матчыну сіську нанач і да сёння смокчаш? Салодкая сіська, скажы, салодкая ці не? Які ты пасля гэтага мужык? Адно слова – смаркач, мамчын сынок!

Дапяклі яны Геніка сваімі здзекамі-кпінамі. Не вытрымаў – наліў сабе поўную шклянку гарэлкі і хільнуў здуру... Недзе далёка ў лесе тужліва завыў воўк...

Калі прыбегла цётка Фруза і пабачыла мёртвага Геніка, з ёй здарылася раптоўнае кровазліццё ў мозг, не магла яна гэткага гора перажыць. Прыехалі з горада дочкі, пахавалі Геніка, за хворай маці тры месяцы даглядалі па чарзе, але свядомасць да цёткі Фрузы так і не вярнулася. Кажуць, перад самай смерцю яе твар, спатвораны цяжкай хваробай, у апошнія хвіліны расправіўся і памаладзеў, нібы сонечны праменьчык яго пацалаваў. Жанчына нібы пабачыла нешта радаснае з мінулага, сваю шчаслівую і горкую таямніцу яна забірала з сабой...

– Фэдэрыко, Фэдэрыко... – цётка Фруза некалькі разоў паўтарыла прыгожае нетутэйшае імя, шчасліва ўсміхнулася... і пайшла да Бога. Кім быў гэты Фэдэрыко, калі і дзе яны пазнаёміліся? Ніхто нічога не ведаў дакладна, але ў вёсцы пляткарылі, што быў ён італійцам і служыў у немцаў. Фруза яго пакахала і нарадзіла Геніка. А тое, што яе фашысты згвалтавалі, было легендай для ўсіх. Так усім было спакайней.

## Валёнкі

У мяне такія валёнкі, што я не магу ў іх хадзіць. Мама кажа, навырост, на той год будуць самы раз, але мне ад яе слоў не лягчэй, бо, выходзіць, ад гэтай зімы – мне ніякай радасці. Валёнкі вышэй калена, ногі ў іх не згінаюцца, і мяне хіба што пераставіць можна з месца на месца. Вось стаю побач са снегавіком – гляджу на бальшак, як Вадзім з Алегам на санках катаюцца, і толькі рукой ім махаю – дачакайцеся мяне, хлопцы, на наступны год пагуляем...

– Толькі ты мяне разумееш, – скарджуся снегавіку, – ні табе пабегаць, ні табе паскакаць, хіба што ў снег заваліцца і ляжаць, як сноп леташні, можа нехта і падбярэ...

Тут на вуліцу выходзіць мама з новенькімі санкамі, якія толькі ўчора прывезла з горада. Нарэшце, дачакалася...

– Ты, Іначка, не замерзла? – ласкава пытае мама і кранаецца рукой майго носа. – О, які халодны...

“Цікава, якім павінен быць мой нос, калі я цябе, мамачка, столькі чакала на марозе? На нос валёнак не надзенеш...” – гэта я сабе думаю, бо трохі злуюся на маму. А ўслых кажу:

– Не, не замерзла...

Канечне, мама гэтых слоў не чуе, бо мой рот завязаны тоўстым суконным шалікам аж да самых вачэй, каб я не наглыталася халоднага паветра, бо ж зусім нядаўна хварэла. Гукі губляюцца ў маім шаліку, як спадарожнікі ў касмічнай прасторы. Сама сабе я нагадваю касманаўта ў скафандры, бо паверх кашулі, дзвюх кофтаў і рыжага футрачка я абвязана крыж-на-крыж бабулінай ваўнянай шэрай хусткай. Так што рухацца мне замінаюць не толькі валёнкі. Мама садзіць мяне ў санкі і замотвае ў зялёную вярблюджую коўдру так, што толькі галава і плечы тырчаць. Мне здаецца, што я ва ўсім гэтым адзенні такая цяжкая, што санкі проста з месца не зрушыць. Але ж, дзіва-дзіўнае, мама даволі лёгка іх пацягнула па рыпучым снежаньскім снезе. Ура, нарэшце паехалі!..

Навокал такі вясёлы бліскучы снег, што я ўяўляю сябе на паўночным полюсе. Вось еду я на паўночных шэрых аленях, як маленькая Герда, шукаю свайго названага брата Кая... Ой, як мне падабаецца гэтая казка! Дзядуля яе ўжо некалькі разоў мне чытаў, а я б яшчэ слухала і слухала. Цікава, што я ўяўляла сабе “Снежную каралеву”, кадр за кадрам, яшчэ да таго, як гэткі мультфільм упершыню паглядзела. Усе гэтыя сны прыдворных дам і кавалераў у палацы юнай прынцэсы я бачыла ноччу на шпалерах, калі хварэла запаленнем лёгкіх. У мяне была высокая тэмпература, мама насіла мяне па хаце на руках, а я сузірала на сценах гэтыя танцы...

А сёння на снезе танцуюць анёлы радасці! Я ўжо забылася пра свае вялікія валёнкі, пра тое, што амаль не магу рухацца. Усё ж якое гэта шчасце вось так імчаць з мамай наперад па сястронскаму ўкатанаму бальшаку! Снег ляціць у розныя бакі з-пад палазоў санак, а мама такая маладая і прыгожая, што я не магу ёю налюбавацца. Цёмныя валасы выбіліся з-пад хусткі, ватоўка расшпілілася на грудзях, ёй весела, як і мне. Мама смяецца, мабыць, успамінае сябе дзяўчынкай, уяўляе той час, калі яе матуля, мая баба Мура, вось так катала яе на санках, і залатыя гарачыя іскры ляцелі ёй у твар, а яна, маленькая, заплюшчвала вочы, менавіта, як я зараз...

– Інка, табе не халодна, не халодна? – зноў і зноў паўтарае мама і бяжыць, бяжыць наперад усё хутчэй...

– Не, мама, мне нават горача! – весела крычу я і раптам заўважаю, што шалік на маім горле развязаўся, коўдра расхінулася, а з-пад яе тырчаць мае ногі ў тоўстых шарсцяных шкарпэтках з вожыкамі. А дзе ж валёнкі?

– Мама, тармазі, мы валёнкі згубілі! – крычу. Хоцькі-няхоцькі, а трэба прызнацца, бо мароз праз шкарпэткі добра кусае за пальцы.

– Як згубілі? – мама глядзіць на мяне вялікімі здзіўленымі вачамі. Бедная, спужалася яшчэ больш, чым я. Пакуль матуля замотвае мяне ў цёплую коўдру, як у кокан, я адчуваю сябе няшчасным вусенем, які, бедалага, не змог ператварыцца ў прыгожага мятліка. Хаця, якія мятлікі зімой, ды яшчэ ў валёнках?..

– Вось пра што ты думаеш, Інка? Не хапала, каб ты зноў захварэла! Як можна быць такой балдавешкай і не заўважыць, што з цябе па дарозе валёнкі зваліліся? Ты ўжо даўно сядзіш вось так, без валёнак, прызнайся?!

“Ды што там прызнавацца, сапраўды не заўважыла. Калі б тыя валёнкі купляліся па маіх нагах, а не на вырост, дык не згубіліся б...” – думаю сама сабе, але маме гэтага, канечне, не кажу, каб не засмуціць яе яшчэ больш... Матуля павярнула санкі назад, да дому, і досыць хутка знайшла мае няшчасныя валёнкі ў сумёце ля дарогі, але настрой быў сапсаваны. Мы ўжо не смяяліся, не жартавалі, не радаваліся вясёлай снежнай зіме, не заўважалі, як жар-птушкай садзілася за лесам сонца, як курыўся дым з комінаў шчымлівых сястронскіх хатак, як ружавелі снягі-караваі... Анёлы радасці ўжо не танцавалі на снезе, а стаялі абапал дарогі апусціўшы свае прыгожыя белыя крылы на дол і нібыта заглядалі на шмат гадоў наперад, прадчуваючы ўсе выпрабаванні і страты, якія перажыве наша сям’я... Але, разам з тым, анёлы ведалі, што аднойчы я ўспомню гэты сонечны зімовы дзень як адзін з самых шчаслівых у маім жыцці... І дзе тыя валёнкі, мама?..

## Ігар, гугнявая Светка і баба Іваніха

Ігар кахаў не мяне, і я не ведала, што з гэтым рабіць. Усё ўскладнялася тым, што Ігар быў маім лепшым сябрам, а значыць, давяраў свае таямніцы. Кожны раз, калі ён прыходзіў у госці і пачынаў расказваць пра гугнявую Светку, мне хацелася заткнуць вушы і выбегчы з хаты, хляпнуць дзвярыма так, каб аж клямка задрыжала, але ж даводзілася слухаць і спачувальна ківаць галавой, бо якая ж я сяброўка, калі не магу свайго лепшага сябра выслухаць. Ігар такі кавалер – кату па каўнер. Сем год усяго, толькі восенню ў школу пойдзе. Хто б мог падумаць, што ён будзе сохнуць па дарослай дзеўцы. У параўнанні з намі Светка была проста старою – сёлета скончыла школу, рыхтавалася паступаць у медыцынскае вучылішча. Дзяўчына моцна картавіла, асабліва ёй не даваўся гук “г”. Да таго ж яна была дужа худая, як казалі сястронскія цёткі – ні сісі, ні пісі і ж...па з кулачок. Проста не разумею, што Ігар у ёй знайшоў, але, жадаючы неяк падтрымаць сябра, я намагалася зірнуць на Светку яго вачамі. Тады здавалася, што ўва мне жывуць дзве Інкі – адна лагодная і добрая, а другая жорсткая і злая. Бррр... Спрачаюцца яны між сабой, як рэпу грызуць, а я недзе пасярод стаю – то мне брыдка на Светку глядзець, то цягне да яе нешта падсвядомае, немінучае. “Хутчэй бы Светка з’ехала ў горад да сваёй вучэльні, ці выйшла б замуж за каго-небудзь, – думала я, – вось хоць бы за Пецьку. Добры малец, толькі што з войска вярнуўся...”

Ігар быў закаханы ў Светку таемна. Яны жылі побач, цераз гарод, таму ён сачыў за кожным рухам сваёй каханай: вось яна дастае ваду са студні, вось заганяе ў двор карову, вось ідзе ў лазню... Ён заўсёды цягнуўся следам, калі Светка з сяброўкамі ішла купацца на рэчку. Часам дзяўчаты бралі Ігара з сабой, і тады ён адчуваў сябе па-сапраўднаму шчаслівым, здавалася, падрастаў на цэлую галаву. А што на самой справе? Дзяўчаты проста загадвалі маленькаму Ігару глядзець іхняе адзенне, пакуль яны купаюцца ў рэчцы, бо старэйшыя хлопцы часам падкрадаліся непрыкметна, забіралі дзявочыя сукенкі й закідвалі на высокія дрэвы, так яны намагаліся звярнуць на сябе ўвагу, а дзеўкам потым клопату не абярэшся, паспрабуй тое адзенне дастаць. Светка нават не магла ўявіць, якія пачуцці перапаўняюць сэрца майго сябра, калі яна выціскала мокрыя валасы ці краналася рукамі грудзей, калі выходзіла з вады. Дзяўчаты часам купаліся без станікаў, хто б там саромеўся малога Ігара...

Для Ігара Светка была красуняй. Тое, што ў маіх вачах было недахопам, у вачах майго сябра выглядала непаўторнасцю. У душы Ігар быў паэтам, толькі чаму гэтая паэзія адрасавалася гугнявай Светцы, а не мне?

Аднойчы, каб паназіраць за Светкай і зразумець чым жа яна дыхае, я папрасілася са старэйшымі дзяўчатамі ў лес па ягады. Надзіва, яны пагадзіліся, і вось я нібыта збіраю чарніцы, а ў самой – вушкі на макушцы. Ну хто я такая для Светкі? Нейкая маляўка, муха-цакатуха, назірай толькі, каб далёка ў лес не зайшла і не заблудзілася. А ў дзяўчат толькі і размоў было, што пра хлопцаў. І ўсе яны чамусьці былі не такія, як трэба: той дурны, той крываногі, той шалёны, б'ецца, калі за каўнер заліе. І толькі адзін сярод іх прыстойны малец – Колька Зуёнак з Чарняі, Светчын аднакласнік. Дзяўчына бясконца ўспамінала, як яны вальс на выпускным вечары танчылі, як ён завёў яе за клуб і пацалаваў у вусны, а потым так прыціснуў да сябе, што яна аж войкнула. Потым гугнявая Светка зашаптала сваёй сяброўцы Лідцы на вуха нешта такое, што тая аж фыркнула са смеху. А мне было не смешна, а крыўдна, здавалася, нібы яны смяюцца не з Колькі, а з Ігара... Мне хацелася надзець кошык з чарніцамі на Светчыну дурную галаву, каб яна больш не смяялася. Ды малая ж, не дацягнуся...

Пасля гэтага выпадку гісторыя трохі праяснілася: я кахаю Ігара, Ігар кахае Светку, а Светка – Кольку Зуёнка з Чарняі. “Вось бы і Колька пакахаў Светку, – думала я, – тады б яны пажаніліся, а Ігар пагараваў-пагараваў і звярнуў бы нарэшце ўвагу на мяне”. Ды не ўсё было так проста. Аказваецца, пакутвалі ад непадзеленага кахання не толькі мы з Ігарам, а й Светка. Праз некалькі месяцаў яна зацяжарыла, а замуж не выйшла. Праз гэтую цяжарнасць, Светка і вучыцца ў Полацк не паехала. Як не хавала яна сваё пуза, ды сукенкі трашчалі па швах, усе ў Сястронках гэта бачылі.

– Сапсаваў Колька Светцы жыццё, сапсаваў... – абмяркоўвалі вясковую падзею баба Мура з бабай Франяй.

– А нечага было раскідаць ногі да вяселля. У нашу маладосць такога не было. Таму мы ў падоле дзяцей не прыносілі. Не давалі пацалунак без кахання...

– А калі гэта каханне? – мая бабуля намагалася абараніць Светку.

– Ды якое там каханне? Дзе ты яго, Матрона, бачыла? Хіба ты за свайго Грыгаронка па каханні выйшла? Засталася малалеткай адна-аднюткая, без бацькоў, вось Іван цябе і падабраў, нашмат старэйшы, бацьку замяніў... Без мужыка ў вёсцы не пражывеш. Да... Вось і ўсё каханне...

З гэтых размоў мне цяжка было нешта зразумець, але сэрцам адчула – Светку трэба ратаваць. І тады я вырашыла пайсці да ведзьмы бабы Іваніхі па нагаворнае зелле, каб Кольку зачараваць і да Светкі прыгарнуць...

Баба Іваніха была вясковай знахаркай, але за вочы яе называлі ведзьмай. Звяртаючыся час ад часу да яе са сваімі патрэбамі, вясковыя цёткі і бабулькі спачатку доўга маліліся дома на абразы, прасілі абароны Маці Божай, а потым ужо пераступалі ганак Іваніхі. Баяліся, невядома каго больш: Бога, за тое, што ён пакарае за гэткі крок, ці самой бабкі-шаптухі, якая можа, калі што не спадабаецца, зачараваць на смерць. Баяліся, але ўсё роўна ішлі. Ці не ў кожнай вялікай вёсцы тады жыла свая ведзьма, і наша была не з горшых. Баба Іваніха замаўляла ваду малітвамі, лячыла зёлкамі, варажыла на картах і плаўленым воску і нават магла пагаварыць з нябожчыкамі з дапамогаю вешчага сну. Выглядала ведзьма як звычайная

бабулька, толькі трохі ваўкаватая, не прыветная. Яна рэдка ўсміхалася, ніколі не абмяркоўвала вясковыя падзеі і навіны, не загаворвала першай, а калі віталася, не глядзела людзям у вочы, магчыма, такім чынам берагла сваю сілу. А яшчэ баба Іваніха была вусатай. Канечне, яе вусы не такія, як у мужчыны, але ўсё ж былі добра прыкметныя на жаўтаватым, ні кравінкі, твары. Іваніха апраналася ва ўсё цёмнае, я ніколі не бачыла яе ў сукенцы або кашулі з кароткімі рукавамі. Нават летам яна насіла даўгую ваўняную спадніцу, вязаную карычневую кофту або чорную сукню, на галаве – хустка пад горла.

Канечне, я б ніколі не пайшла да Іваніхі, калі б мяне не хваляваў лёс Ігара і Светкі. У маіх фантазіях іхнія лёсы перапляталіся настолькі цесна, што я лёгка магла ўявіць, як вырасшы, пасталеўшы, Ігар носіць на руках Светчына дзіця, як водзіць яго ў школу. А вось Ігар цалуе Светку, іхнія рукі сплятаюцца... Я шчыльна заплюшчвала вочы, і яшчэ раз заплюшчвала ўжо ў сваёй уяве, каб не думаць пра гэткую будучыню, але думкі звінелі над галавой, як дзядулевы пчолы над квітнеючымі яблынямі, заблытваліся ў маіх валасах, балюча джалілі. “Вось калі б Колька пакахаў Светку, як бы добранька было”, – думала я і ўяўляла, як хлопец дорыць ёй кветкі, як яны становяцца на вясельны ручнік... А ў Светкі ўжо такі жывот, што ніякая сукенка не схавае... Колька спрабуе падняць Светку на рукі і не можа адарваць яе ад зямлі, такая яна тоўстая і цяжкая... Раптам, проста пасярод вяселля, яна пачынае крычаць, і з-пад яе сукенкі выкочваецца мокры, слізкі качан капусты... За ўсім гэтым назірае Ігар, яму становіцца агідна, яго ванітуе і... дурное яго каханне знікае само сабой, як і прыйшло. Чур яго на каптур!..

Тым часам я падышла да хаты бабы Іваніхі сама не заўважыла як. Ведзьма сядзела на завалінцы і нешта шыла. Я паглядзела на яе сухія пакручаныя, як карэнне, рукі і аслупянела – яна трымала на каленях даўгую вясельную сукенку і падшывала каўнер. Маё сэрца пахаладзела: няўжо фантазіі пра Светчына вяселле пачынаюць збывацца?

– Што табе трэба, дзяўчынка? – спытала Іваніха глухім скрыпучым голасам, не падымаючы на мяне вачэй.

– Мне трэба... я хачу... Я тут таму... Мне патрэбна прываротнае зелле, вось! – Са злосці на сваю нерашучасць я так гаркнула, што і сама спужалася.

Іваніха адарвала позірк ад шыцця, і я пабачыла нарэшце, якія страшныя ў яе вочы – слязлівыя, нібыта ведзьма толькі што глядзела на сонца, а на правым воку агіднай жаўтаватай лужынай разлілося бяльмо. Позірк ведзьмы быў цяжкі, уважлівы і пранізліва-самотны, у гэты момант мне здалося, што яна зазірнула проста ў маю душу. “Вось чаму яна не глядзіць на людзей – саромецца сваіх вачэй”, – падумала я, і ад гэтай думкі ранейшы жах некуды знік, як і не было.

– Гэта будзе восенню. Яе вяселле будзе восенню. Не трэба чары, ён і сам да яе прыйдзе... Толькі навошта? Яны не будуць шчаслівымі... А твой хлопчык усё роўна цябе не пакахае. Пасля дзяцінства вы з ім больш не сустрэнецеся... – Баба Іваніха гаварыла так, нібыта чытала нябачную нябесную кнігу. Я толькі адкрыла рот, каб спытаць нешта яшчэ, але ведзьма прыклала палец да сваіх вуснаў, заклікаючы мяне маўчаць і слухаць...

– Я шыю для Светкі вясельную сукенку. Яна мне ўнучатая пляменніца. Няма ў мяне сваіх дзяцей, унукаў. Мужык з вайны не вярнуўся... Мы з

Фёдарам ажаніліся незадоўга перад вайной. Першае сваё дзіця я скінула. Бог не даў больш... Мабыць, за мае грахі. Як іх адмаліць?.. Ідзі ўжо. Я і так табе зашмат сказала...

Светка выйшла замуж за Кольку ўвосень. Цераз тры месяцы ў іх нарадзіўся хлопчык. На вяселлі Светка была ў невымоўна прыгожай сукенцы з вышытымі шафранавымі птушкамі. Ігар назіраў за вяселлем здалёк і плакаў.

## Чароўная студня

Гляджу ў студню, шукаю на дне зоркі. Колькі разоў такое бачыла ў сне, а тут мне ніякіх зорак, адно акрайчык неба і здзіўлены твар з вясёлымі косамі ў розныя бакі. Па гэтых косах сябе і пазнаю, бо адбітак твару ў вадзе такі цёмны, нібы ноч на дварэ, і чым ніжэй нахіляюся, тым гэтая цемната шчыльнейшая. Ну дзе тыя зоркі, дзе?.. Вось калі б ухапіцца за вяроўку ад вядра і спусціцца глыбей у студню, была б іншая справа, бо менавіта там, у глыбіні, і хаваюцца днём зоркі.

– Інка, калі ты ўжо прынясеш ваду, буракі няма чым паліваць! – крычыць мне з гарода бабуля. Яна пераапранаецца ў сухую кофту каля іржавай бочкі, бо старая змакрэла, і чакае, калі ж я прынясу свежай вады са студні. У бочцы вада цёплая і мёртвая, а ў студні – жывая і халодная, бо там жывуць зоркі. І калі жывую ваду змяшаць з мёртвай і паліваць градкі, расада ажыве, не толькі буракі, а і ўсё, што ні пасадзіш. Бабуля не ведае, што я закапала на агародзе непадалёк ад нашай яблыні-антонаўкі грэцкі арэх, са свайго навагодняга падарунка зберагла. Ужо тыдзень паліваю, каб з гэтага арэха дрэва вырасла, але яно не расце, халера, можа таму, што ў Сястронках не так цёпла, як у Грэцыі... Гэта мая таямніца. Ужо некалькі разоў я бачыла ў сне, як пад зямлёй расколваецца чарапахавы панцыр арэха і выпускае тоненькую сцяблінку, як на ёй з'яўляюцца лісцікі, галінкі, а потым на гэтых галінках вырастаюць смешныя калючыя пухірыкі, якія нагадваюць зялёныя ягады. Менавіта з гэтых пупырышак пасля арэхі з'яўляюцца. А аднойчы, у маім сне, з аднога арэха праклюнулася маленькая дзяўчынка, я толькі паспела яе на рукі падхапіць. Потым, калі прачнулася, я даведалася, што ў майго дзядзькі Івана і цёткі Марыі дачка нарадзілася. Светкай назвалі. Гэта мая стрыечная сястра, другая бабуліна ўнучка.

Я трохі баюся, калі мне сняцца вешчыя сны, некаторыя потым збываюцца. А што, калі я, нібы знахарка Іваніха, у снах нечае будучае магу пабачыць, лёс прачытаць? Добра, калі да шчасця прысніцца, а калі да няшчасця? У будучым жа не толькі добрае трапляецца, але і дрэннае. Таму і баюся.

– Баба Мура, а я з зубамі нарадзілася, ці не? – гэта я ўспомніла бабульчын аповед пра тое, што чараўніцы і знахаркі, калі нараджаюцца, ужо маюць зубы. Бабуля здзіўлена на мяне паглядзела, аж буракову расаду выпусціла з рук, ды так і не змагала прачытаць маіх думак пра чарадзейства.

– Гэта ты ўспомніла пра свой зубік, які мы ўчора за печ закінулі? Не хвалюйся, Інчка. Мышка твой малочны зуб забярэ, а новы прынясе, і будзе ён крапчэйшы і здаравейшы, чым стары...

Я дакранулася языком да месца, дзе раней рос малочны зуб, і з прыемнасцю адчула цвёрды бугарок, значыць, новы зуб расце, не доўга мне ўсміхацца дзюркай.

– А новы зуб трэба паліваць жывой і мёртвай вадой, каб ён добра прырос? – Я аж скрывілася, уявіла, як набіраю зялёную ваду з іржавай бочкі сабе ў рот, а потым у мяне вырастаюць зубы-веліканы... І вось я нібы за вадой пайшла, зазірнула ў студню і пабачыла ў вадзяным адбітку не сябе, а ведзьму Іваніху з ікламі, як у ваўка. Яна жудасна зарагатала, і з рота жаба выскачыла... Бррр... І што толькі мне ў галаву лезе?..

– Бабуля, а ты хадзіла калі-небудзь да знахаркі Іваніхі? Яна добрая чараўніца ці злая ведзьма? – мне цікава, што скажа бабуля, бо сабе я не надта давяраю, у мяне адна думка скача, а другая – плача.

– Вясковая знахарка – як доктарка. Толькі лечыць яна не лекамі, а замовамі, травамі, малітвамі... Калі мы з Іванам, тваім дзедам, ажаніліся, гэта было яшчэ да вайны, напала на мяне нейкая невядомая хвароба. Удзень я хадзіла, як сонная, нічога мне не хацелася, нічога не радавала. Ноччу не магала заснуць – трызніліся памерлыя бацькі, брат і сястра, нібыта з імі размаўляю, і жывем мы яшчэ ў нашай старой хаце на хутары, яшчэ да раскулачвання. Каса ў мяне доўгая да пояса. І раптам выпаўзае з касы вужака і пачынае мяне душыць... Дайшло да таго, што я свайго Івана, твайго дзеда, перастала пазнаваць... Ніякія дактары не маглі мне дапамагчы. Што рабіць? Тады Іван запрог каня ў калёсы і павез мяне да бабы Іваніхі. Яна тады яшчэ была маладой, але знахарствам ужо займалася. Нічога не памятаю, у тумане ўсё было, мне потым Іван пра ўсё расказваў. Нібыта паглядзела Іваніха мне ў вочы і сказала, што моцна сурочыў мяне нехта на вяселлі, кінуў ножык у мой цень. Чалавеку без ценю жыць немагчыма, ён або памірае, або вар'яцее. І ніякія дактары тут не дапамогуць, бо гэта хвароба на сцень. Пашаптала тады Іваніха над свянцонай вадой, крыжык на маім лобе намалявала, твар абмыла, на валасы трохі лінула, а тое, што засталося ў слоіку, наказала выліць на сутоку двух крыніц у дванаццаць гадзін ночы. Мы ўсё зрабілі, як яна сказала, і трохі развіднелася ў маёй галаве. Але гэта было яшчэ не ўсё лячэнне. Наступнага разу мы прыйшлі да знахаркі з Іванавым кажухом. Паклала яна мяне на кажух тварам уніз крыжом. Малітвы, замовы чытала, паліла нада мной нейкія зёлкі, а потым узяла вугалёк і абвяла вакол майго цела, нібы выкрайку зрабіла. Я адразу неяк супакоілася, а калі прыехалі дадому, заснула, як немаўля. Спала доўга, можа два дні, а прачнулася здаровай, як нічога і не было. Так што Іваніха мне дапамагла...

– Выходзіць, што баба Іваніха добрая... Але ж чаму мне так страшна, калі яна па нашай вуліцы ідзе? І бяльмо ў яе такое агіднае...

– Разумееш, Іначка, людзі невядомага баяцца, таго, чаго не могуць розумам патлумачыць. А слухаць чалавека трэба сэрцам. Невядома адкуль знахарка сваю магію ведае. Можа ёй нячысцік замовы нашаптаў, а можа і анёл? Дабро і зло мы не заўсёды можам адрозніць, таму што ў нашым сэрцы жыве першародны грэх. Праз гэты грэх мы дрэнна бачым, нібы бяльмо на сэрцы носім. Іваніха ж адным вокам бачыць лепш, чым мы з табой абодвума...

– Выходзіць, што кожны чалавек напалам добры, а напалам злы?

– Так, Іначка. Вось чаму кожны дзень трэба маліцца і прасіць у Боженькі дапамогі, каб ён змыў плямы з нашага сэрца, каб яно лепш бачыла і разумела, дзе дабро, а дзе зло... Дарэчы, маленькія цуды сустракаюцца кожны дзень, толькі мы не разумеем, што гэта цуды... Вось вырастуць гэтыя бурачкі, што мы з табой пасадзілі – ужо цуд. Паглядзі, якія фарбы

разлітыя па кветках, па крылах мятлікаў і птушак... Мы жывем сярод такой зямной прыгажосці, а часта не бачым яе, не цануем, не дзякуем...

Назаўтра, я назірала, як кволая расада бурачкоў падняла з зямлі свае зялёныя з чырвонымі пражылкамі вушкі. Бурачкі тырчалі з градкі роўнымі радочкамі і радавалася кожнаму імгненню сястронскага лета. Гэта падзея стала для мяне тым маленькім дзівам, якое зрабілі мы з бабуляй, а таксама жывая вада з нашай студні, месца, дзе днём начуюць зоркі. Наш дзень для зорак – ноч, я так думаю. Назаўтра дзядуля Іван змайстраваў новую драўляную дзежку, мы з бабуляй нанасілі туды чыстай крынічнай вады, і яна зажыла сваім жыццём, пра якое мы нічога не ведаем. Удзень я старанна палівала свой грэцкі арэх, а ноччу, перад тым, як заснуць, лічыла зоркі...

Сцяблінка грэцкага арэха непадалёк яблынькі-антонаўкі вытыркнулася з зямлі роўна праз год, калі ў мяне павырасталі новыя зубы і я ўжо і не спадзявалася, што мая мара ажыццявіцца. Побач са шчасцем крочыла няшчасце. Напрыканцы лета памерла баба Іваніха. Кажуць, калі людзі паміраюць, яны становяцца зоркамі. Цяпер, калі я прыходжу па крынічную жывую ваду, я думаю і пра бабу Іваніху, якая зоркай свеціць са дна нашага чароўнага калодзезя, як з перакуленага неба.

## Жорны

У кладоўцы, на габляванай дзядулевымі рукамі лаўцы, ляжаць жорны. Два круглыя камяні з дзіркай па цэнтры рухаюцца нібыта самі па сабе, нібы бабуліны рукі ім і не дапамагаюць. Як бабуля ні стараецца, мука ўсё роўна сыплецца не толькі ў скрыню, а й на лаўку, на падлогу, нібы снег патроху цярушыцца. Я сяджу каля бабулі на маленькім услончыку і малюю па белым першую літару свайго імя – "І". Потым яе засыпае мукой, і я зноў малюю... Ёсць у гэтым нешта магічнае – жорны, мука на падлозе і літара, якая падкрэслівае маю прысутнасць на гэтым свеце...

Жорны рыпяць, нібы размаўляюць глухім старэчым голасам – шапялява, хрыпата. Складваючы далонькі птушачкай, я набіраю з шурпатага мяшка пшаніцу, падсыпаю ў вусце жоран, якое бабуля называе горлам, жорны глытаюць зерне, перажоўваюць сваімі каменнымі зубамі, цярушаць муку ў скрыню.

– Бабуля, а калі ўжо снег пойдзе? Нейкая незімовая зіма ў нас выдалася...

Не дачакаўшыся бабулінага адказу, жвавай сарокай пераскокваю з кладоўкі ў сенцы, клацаю халоднай клямкай. Ногі і рукі – у сенцах, а галава з вясёлымі кудзеркамі – на вуліцы. Цікава, што там змянілася, пакуль мы муку малолі?

– Не, снег не ідзе... Толькі дробны дожджык. Мабыць, наша зіма прастудзілася. Чхае і носам хлюпае...

Я ўявіла Зіму ў ваўнянай бабулінай хустцы і ў белых валёнках, якія бачыла ў Дзеда Мароза з кніжкі-размалёўкі. Зіма сядзіць на хмарцы звесіўшы ногі і чхае так, што аж дрэвы трасуцца. У Зімы такі доўгі нос, што да вершалінаў дрэваў дастае. Дрэвы стаяць панурыя, як мокрыя куры... Ну які тут Новы год, калі Зіма прастудзілася?

– Інка, ідзі ў хату, а то захварэеш! Што я потым тваёй маме скажу? – страшыць мяне бабуля з кладоўкі. Страшы не страшы, бабулечка, а я ведаю, якая ты добрая. Нібы крычыш на мяне, а вочы ўсміхаюцца,

маршчынкі – нібы сонечныя праменьчыкі. Сонейка па ім – прыг-скок, прыг-скок, нібы ў “класікі” гуляе. Толькі цяпер няма сонейка. Дажджыць...

– Баба Мура, я ўжо вяртаюся. Што на такой мокрай вуліцы рабіць?

Бягу да бабулі, яна расхінае ватоўку і хавае мяне пад паху. Адтуль, з цеплыні, назіраю, як круцяцца жорны, як сыплецца мука...

– Бабуля, адкуль у нас гэтыя жорны?

– Ад дзеда Івана, ад яго бацькоў... Калі іх раскулачвалі, не толькі карову з цялушкай, а і ўсе гаспадарчыя прылады забралі, гэтыя жорны таксама хацелі ў калгас здаць. Ужо на калёсы пагрузілі, павезлі... А потым чамусьці выкінулі каля лесу. Можа каню цяжка стала...

Адзін з першых дзіцячых успамінаў – калі я заглядваю з вуліцы ў кладоўку праз падслепаватае на заходзе сонца маленькае вакенца, і ўсё, што там бачу, падаецца мне таямнічым, казачным. Асабліва жорны, іх ні з чым не зблытаеш. Яны прыйшлі да нас пешшу ад самага лесу. Каменныя ногі сунулі па шэрай лістападаўскай траве, і яна рыпела, стагнала ад болю, бо надта цяжкое каменне... Дарэчы, дзядуля распавядаў мне, што ёсць такія камяні, што рухаюцца па зямлі, і крыжы такія ёсць...

Я знаходжуся ў тым шчаслівым узросце, калі свет яўны сплятаецца са светам уяўным – казачным, міфічным, як дзве рознакаляровыя ніткі ў рукавічкі, сплеценыя маёй бабуляй. У гэтай ранішняй свядомасці ўсё яшчэ шчыра і непадзельна, узнёсла і радасна. Краіна фантазіі, дзе ўсё магчыма, рэальна існуе, як гэтая мука, што патроху цярушыцца на падлогу. Зноў і зноў пішу на ёй “І”, першую літару свайго імя...

Яшчэ трохі, і пойдзе снег, накрые халодную чорную зямлю цёплай белай коўдрай, і будзе ўсім жучкам-павучкам цёпла і зацішна, і нікога з іх не пакрыўдзяць. Яны задрамаюць пад снегам, каб дачакацца вясны... А пакуль цярушыцца мука, цярушыцца мука... І ўжо зусім хутка Новы год.

Віктар Слінка



...мы – між Гаворкай ды Цішай
пракладзеныя масты...

# Друзачкі адзор’яў

* * *

Каменьчык, плыткасць
Бяздоння зведай, разбі
Адлюстраванне.

* * *

Нас прывялі да нас
І пакінулі разам з намі.
І – спыталіся ў нас:
“Вам –
Ці не сумна з вамі?”

* * *

бяззорны змрок
ні аб чым не пяе не гаворыць

нікуды не кліча
адно засланяе
жалезным ламаччам
у раптам звузелым свеце
праход

* * *

ноч мудрэйшая?
наўрад ці
але сонца
даўно гарыць
а свечку
кожны сабе
запальвае сам

* * *

Перад тым, як пайсці пад лёд,
Не паспелі мы легчы ўдвух,
Не паспелі прымяць
З табой
Лебядзінага ложа
Пух.

А пасля
Праплылі гады,
Ненавідныя, як ільды;
Мы жылі,
Бы з чужых даброт, –
Так хапае паветра
Рот.

* * *

...Потым –
Праверым,
Ці можна
Верыць
Памерлым...

* * *

Цяжка сказаць: набліжаюцца
ці набліжаюць,

Ясна толькі адно: на гарбе ўязджаюць
Ва ўласных дзяцей, – і не ў рай
(інакшае месца);
Мінулым мінулае
будучыняй здаецца.

* * *

...мы – між Гаворкай ды Цішай
пракладзеныя масты...

* * *

не мае наймення
існуе адказам
на незададзенае пытанне
разгортваючы няісную кнігу
на патрэбнай старонцы ветрам
адразу й загортвае
паспеўшы спраўдзіць
ці так

* * *

Што выбераш
Падпорай для сумлення?
Ці час не надышоў?
Ці прамінуў?
Ці ўпала зерне
Не ў сваю вясну,
А гонару
Даволі для каленяў?

* * *

...У твар скажы гумовай дэжа вю:
“Нялюбая, цябе я дажую”.

* * *

Рукі цягну
Да сябе, –
Нешта між мной
І мной.

Быццам
Царом
Мідасам стаў, –
Чаго ні крануся...

Сотні жаданняў,
Для якіх
Не маецца нават
Слоў,
Працінаюць мяне,
Бы нейтрына
Планету Зямля.

* * *

...Похапкам
Не адшукаць;
Не пашкадуйма
На вольны час
Жыцця, каб сустрэць
Заблукалых, чые рукі
Чакаюць дароў нашых рук.
Тады й скажацца,
Дзе і хто
Заблукалы,
А таксама
Як потым
Мусім быць.

* * *

Ці хочаш
Знайсці чалавечнасць
У лоі авечым?
Дзе мармур застыгнуў,
Адчуецца зноў цеплыня?
Па канту дзявочае сукні
Чытаецца – Вечнасць.
Губляеш прыкметы дарогі
У прыцемках дня.
Ніхто не маяк,
Калі ён над высахлым морам.
Пададзены знак,
Услых аб якім не гаворым.

...Навошта, аднак,
Бясконцасць абрыдлых паўтораў?..

* * *

Колькі ні дадаю,
Забіраючы, –
Робіцца менш
У свеце
І менш ува мне.

* * *

кавалак твару
на вітражы
застаўся
і кожны
вольны ўяўляць

* * *

Зарастаюць травою сцежкі, –
Хтосьці намотвае іх
Назад на клубкі.

Потым
Кладзе на паліцу шафы,
Што стаіць у пакоі мансарды
Высока над морам
Ці небам, –

Адгэтуль не разабраць.

* * *

Кубак з цёмнага шкла
(Не бачна,
Колькі наліта, колькі адпіта)

Быццам іншая праўда
У белым, заўжды некранутым
Адзенні

За межамі ўчынку
І зроку.

* * *

хай не будзе між намі таго
што было ў тысяч

з тысячамі
у мільёнаў з мільёнамі

а толькі наша
ні ў кога ні з кім

* * *

потым
калі госці
сышлі

сціхлі крокі за брамай
увабралася ў жвір
пралітая кропля віна

хай разгорне абгортку
той каму належыць прыняць
падарунак

а парк
чыя глыбіня – наверсе
уплятаў
даастачы ў пошум

дзявочыя галасы

* * *

Мэта –
Згубіцца ў мностве?..

Тады ўжо лепш
Не выйсці
З чэрава маці.

* * *

кожны сустрэчны транспартны сродак
бачыць каня і думае: продак

* * *

Усё
Як быццам не звонку, але ўнутры:

І цёпла, і ўтульна, і лямпа гарыць.
Тут
Мы
Спрадвеку.
Нас не прынеслі вятры.
Склала прастора да нашых парогаў
Свае дары.
Не мае
Аб'ёму
Намаляваны абрыс.

* * *

кветкі смялейшыя за людзей

* * *

Так блізка з табой
Ідзем,
Дакранаючыся плячыма;
Асцярожна гладзім
Коцікі, пакідаючы памяць
На пальцах – жоўты пылок,
Спыняючыся ля вярбы;
І было б натуральным, здаецца,
Абняць, прыхінуць да сябе
Цябе,

Асягаючы далягляд.

* * *

Як Бог саграе
Мае далоні ў сваіх,
Так я
Сагрэю твае ў сваіх.
Годзе
Расказваць казкі, –
Нашыя дзеці
Стаюць на крыло.
І ёсць
Спадзяванне,
Што ніхто з нас
Не аддасць сваё слова
За так
Без самога сябе.

* * *

...Ты й без мяне
Знаеш дарогу,
Але ўсё адно
Просіш правесці
Туды, дзе кожны –
Сам
І адзін.

* * *

на крылах яе
струпы
ад ростані
аўтаспыну
забытых пароляў

у таго хто абраны ёю
ў заплечніку шмат
паветра

* * *

Ну,
Не драпай!..

Рань
Смяротна.

* * *

...Каб з нікуды
Памкнуцца ў нікуды?..
Ад нічога
Сысці
Да нічога?..
Наша
Цудам
Ляжала пад спудам, –
Ці нашчадкам ад продкаў,
Ці Богу.

* * *

дзверы не ўсведамляюць
адно ўпускаюць
і выпускаюць

а той хто застаецца
рады дзвярам
і таму што ўнутры

* * *

табе страшна?
не бойся
і не таму што я побач

разам з намі
тое чаму не страшна

* * *

...Нібы старонку, адгарнуць радню
І прачытаць, што на бачыне іншай...

* * *

рукі яго – парэнчы: трымайся за іх
ногі – прыступкі
грудзі – месца дзе можаш ты
яго
лю́бая
стаць вышэй
пабачыць
болей
дыхаць паветрам
разрэджаным
і не баяцца што ён папросіць
нешта ўзамен

* * *

мы з табой не старыя сябры
мы адно ў аднаго ўнутры

* * *

“Упасці
Дапамажы!..” –
Ссохлая
Быццам прасіла галіна,
Абламаная ветрам, –
Зачапілася
За зялёны павой.

* * *

ты – самакаштоўнасць
для некага ж
апроч самога сябе
мусіш быць
кімсьці яшчэ
мець апраўданне
і сэнс
прамакатка грахоў
сваіх
і чужых

прэч

* * *

абгрунтуйце балансам страт
непрадбачаны зарапад
занясіце ў набытак свой
што ніяк не забраць з сабой
і вярніце рацэ
даўгі –
як колішнія берагі

* * *

...Ты так няўпэўнены ў сабе,
Што цягнеш неба на гарбе?..

* * *

Тое, што звеку не знае
Ні любасці, ні спагады,
Табе падало руку
Там, на краі жыцця,

Куды прывёў цябе пошук
Радасці й цеплыні...

* * *

з потных кашуль здабываем соль
дні – фарбы для нашых карцін
на пыльным абутку сабе кійком
выводзіш вензель адзін

лютня гучала ў жывым ствале
і яна не жадала каб
пілою на хату яе ці хлеў
пусцілі вольны і раб

* * *

Можна сесці на любы цягнік,
Што згарэў у сонечным агні?..
Можна збудаваць, пакуль не знік,
Свой палац у мройнай глыбіні?..

Ты пасля яго перанясі
На чарцёж, яшчэ пазней – на дол.
Пасяліцца родных папрасі,
Навакольны свет пакінь вакол.

* * *

заінелае шкло
адтала
і сталі відаць
зафарбаваныя вокны

* * *

болю дазволь
месца
абжыць
не на камені –
у тваіх грудзях

а ў раслін і дрэў
крыло і семя – разам
бо нельга нашчадкам

ля падножжа
прарастаць у натоўп

* * *

...Яна для яго – каштоўны брыльянт;
Ён для яе – запасны варыянт...

* * *

Вясёлка
Аркаю, дзе месца ўсім
Прайсці...

Жыві́цца кроплямі дажджу
Нявызначаны тэрмін,
Бо кравец
Забыўся на нажніцы...

* * *

...І памяць
саступіць месца
нечаму іншаму,
што возьме ўладу над намі,
ці – як маем
дастаткова моцы – над чым
возьмем уладу
мы...

* * *

Нават і не спакой
берагуць –
кінуты камень у твань
знікае амаль бязгучна,
чорнае вочка ў расцы –
адзіны след
да першага подыху ветру.
Тут, дзе
жывуць, нараджаюць,
хаваюць нябожчыкаў
быццам па абавязку...
Няўжо і кахаюць
так?

* * *

...Калі гэта й страціцца, –
Тваё
Надта ўжо дарагое, –

Толькі б не так, як пераеханыя
Колам воза
Касачы
Парою цвіцення, – няхай лепш

Хмаркаю знікне.

* * *

На сэрца ўпала мне яна –
І стала лёгка і крылата,
І я, каторы жыў зацята,
Блукаю ноччу давідна,
І да парога, дзе яна,
Прыношу сонечнае свята.
На сэрца ўпала мне яна –
І стала лёгка і крылата.

* * *

Шлях да цябе... А потым,
Калі я дайду – што будзе?
Твой падарунак – жніўня
Новыя зоры ў небе?..
Толькі прыйсці... – а болей
Нічога ў сабе не маю.
А што яшчэ мець патрэбна?
Стануцца лішнімі словы,
Як нас аб'яднае моўкнасць.

...Нашыя межы – скура...
За ёй жа крыві халодна.

...Межы – для цел. Не нашы.

* * *

Гарыць памерлае дрэва, грэе жывых,
Жывое гарыць падобна і грэе таксама.

Не чутныя ім ні покліч, ні ціхі ўздых, –
Толькі нябёсы аблокамі ўзятыя ў раму.

* * *

...З наваколлем
Амаль што
Зліты ў адно, здзіраю абгорткі
Пазногцямі,
Вызваляючы змест

Пражывання хвілін...

* * *

...Было прыдумваць лішняе хваробы:
Ён быў непрацаздольны да вучобы...

* * *

Калі дзяўчо
Аднойчы скажа слова: “назаўжды”,
Няёмка робіцца, нібыта пры табе
Туманіцца
Змяркальны сад,
І працінае промень згаслай зоркі цемень;
Але не дасягае нас:
Туман.

* * *

У скрынцы з паднятым вечкам –
Выкапаны слядок сына
Альбо дачкі

На гарышчы пад самай страхой
Ля акенца
Ды лекавых зёлак,
Сабраных бабуляю з маці.

* * *

...Ты да яе прыйдзі,
Як да цябе радок...

* * *

Крок
Нараджае смагу
Па ўсім,
Што ты не меў дагэтуль,
Падобным
Да вастрыні нажа
І быстрыні ракі,
Па іншым дні, – і водары
Інакшых красак;
Але не наталяе, –
Толькі ўзводзіць
Усё
У новую ступень,

Калі ты ёсць.

*Студзень 2017 – травень 2020*

Анатоль Бутэвіч



...неба – гэта перавернуты

адбітак зямлі?..

# Ноч без сонца

***Апавяданне***

Іван з Марыяй, ці проста, па-хатняму, па-тутэйшаму – з Маняй, жылі на хутары і былі перакананы, што лепшага жыцця ім і не трэба. Навошта. Дабра ад дабра не шукаюць. Хоць, што праўда, не раз скардзіліся і самі сабе, і з людзьмі згаджаліся, што не найлепшае тое жыццё, не царскае то пэўна, а мо нават і не чалавечае. Часта без хлеба. Але тое яшчэ можна сяк-так перажыць, бо калі адбіраюць само чалавечае існаванне, то тады і хлеб не патрэбен.

А што без грошай, то гэта ўжо сталася непапраўнай сапраўднасцю, невылечнай хваробай. Бо што зробіш, калі ў калгасе з сімвалічнай назвай “17 верасня” (гэткай датай 1939 года іхнюю былую Заходнюю Беларусь далучылі тады да Беларускай ССР) за любую працу ставілі толькі “палачкі” – так калгаснікі назвалі працадні, якія калгас налічваў за кожны адпрацаваны дзень. Налічваць то налічваў, ды што толку. Ім абяцалі, што гэтыя палачкі неўзабаве ператворацца

ў рублі альбо хлеб, ці мо яшчэ ў што-небудзь матэрыяльна карыснае. Але чамусьці гэты шчаслівы дзень ніяк не набліжаўся, відаць, не мог пераадолець нябачную рысу сапраўднасці. Быццам згубіўся недзе на бязмежных прасторах не блізкага да завяршэння будаўніцтва шчаслівай будучыні.

Затое нечакана, зусім знянацку наступіў дзень ссялення з хутара. Так загадала кіраўніцтва калгаса. А яму сказалі зверху, з раённага верху. А таму верху загадалі з яшчэ больш высокага верху. І так далей, і гэтак вышэй, ажно, відаць, да самага высокага верху, якога, хоць і шапку скінь, ні з хутара, ні з калгаса не ўбачыш. Тут ужо каб хто і захацеў, то нічога не змяніў бы, не перайначыў бы. Загадалі – выканаюць. Гэта ж не хлеб, якога, відаць, няма, людзям раздаваць на тыя пустыя палачкі.

А вось першаму ссяленню з нясвіжскага Язаўца на самым пачатку другой паловы пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя паспрыяў старшыня калгаса і здаўна добры знаёмы Івана і Мані Гэтэвічаў Гарушка. “Па-сяброўску” ён патлумачыў, што свой выбар спыніў менавіта на іх не толькі з-за таго, што некалі, пасля вайны, разам з Іванам трапіў на шахты ў Данбас, што разам стваралі гэты калгас – толькі Гарушка быў старшынёй, а Іван пастухом, як казалі, цялятам хвасты круціў, нават не таму, што Іван даўні дэпутат сельсавета (хоць і зусім непісьменны). Проста некаму ж трэба быць першым, стаць прыкладам для іншых.

А каб не так горка было, не страшна, старшыня паабяцаў матэрыяльную дапамогу ў пераездзе і аднаўленні разбуранай хаты. Перасяляцца ж трэба было ў вёску Баяры. Іван са згоды Мані выбраў той яе канец, што бліжэй да хутара – усё-ткі хоць на магулінку, але не так далёка ад добра вытаптаных хутарскіх сцежак. Называўся гэты пасёлак-канец Каралёўшчына. Мо падкупіла Івана сімвалічная назва? Бо там яшчэ за палякамі, як казалі зараз тутэйшыя насельнікі, Іван батрачыў – апрацоўваў землі аўдавелай памешчыцы, зарабляў сякую-такую капейчыну. Хоць “палачак” тады не ставілі, ды і работа была не з лёгкіх, але без хлеба не заставаўся ні сам, ні ягонага бацькі сям’я, дзе ён яшчэ халасцякаваў.

Як ні круці, а прысланыя старшынёй калгаса людзі, названыя будаўнікамі, хоць такімі, зразумела, не былі, хуценька растрыбушылі і скінулі на зямлю саламяную страху, разабралі сцены дзе з добрых, а дзе з паедзеных шашалем бярвенняў. Усё гэта перавезлі на новае месца. Было тое ранняй вясной. А позняй восенню зруб новай хаты, як і абяцаў старшыня (“Будзе табе, Іван, новая хата”), стаяў на баярскім пагорку. Старшыня ўвесь час праспешваў і будаўнікоў, і самога Івана, бо хацеў зрабіць вартасны падарунак – каб яго самога заўважылі ў раёне, а мо і яшчэ вышэй, бо выконваў жа самую высокую пастанову – чарговай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ухошчыны прызначылі на 7 лістапада.

І вось наступіў той абяцаны Гарушкам “радасны” дзень.

Перасяленне. Пярэбары. Пераезд. Развітанне. Расстанне. Слёзы. Смех. Паклоны. Падзякі. Спатканне. Ухошчыны. Альбо, як на новы лад, наваселле. Як ні назаві, а ўсё адно – слёзы.

Апошні хутарскі дзень для Мані, Івана і іхняга сыночка Васілёчка. Але адначасова і першы. Апошні на хутары і першы ў Баярах.

Дзіўна атрымліваецца. Апошні і першы. Неяк па-царкоўнаму гучыць, па-біблейску. Чула Маня ў Сноўскай царкве, як бацюшка нешта на гэты конт тлумачыў. Ды дзе ты ўсё запомніш, тым больш на той незразумелай царкоўнай мове. Але ж была рацыя ў тых словах, была. Вось і ім, Гэтэвічам, выпала на сваім уласным лёсе спазнаць гэтую рацыю.

Стаяў надзіва ціхі, спакойны і нават сонечны восеньскі вечар. Вечар позняй восені. Асаблівая, незвычайная, напружана-гулкая, звонка-трымцівая, проста непаўторная цішыня панавала над Язаўцом, над Школьным лесам, над дарогай на баярскую Каралёўшчыну, куды мусілі сёння ад'ехаць Гэтэвічы.

Маня помніла, як некалі яе расчуліла светлая раніца позняй вясны, якая раскашавала тады не адно на іхнім хутары. Цяпер жа і вясна з летам мінуліся, і раніца тая адышла ў нябыт. А сёння прамінуў ужо і абед. З ледзь заўважнымі прыцемкамі з найвысокіх вышыняў апускаўся на зямлю вечар. Вечар іхняга ад'езду з роднага і шкадаванага хутара Язавец у невядомую вёску Баяры, а дакладней, на невядомую і таму чужую Каралёўшчыну.

А так не хацелася пакідаць родныя сцежкі, якія заўсёды мякка і прыемна слаліся нават пад босыя ногі. Не было жадання назаўсёды развітвацца з тутэйшым небам, са звыклымі пахамі, з гэткім свойскім, асаблівым хутарскім укладам і ладам жыцця. Такія цяжкія сталі ногі, так трымцела сэрца: каб яшчэ гадзінку, яшчэ хвілінку-другую, каб ухапіць тутэйшага паветра і водару, якога, вядома ж, не будзе на новым месцы. Маня пазірала навокал слязліва-запамінальнымі вачыма. На нешта не звяртала ніякай увагі, а штосьці само прыцягвала позірк. Яна падняла вочы на неба і ажно жахнулася. Тое, што ўбачыла, было кранальна незвычайным і нават палахлівым. Хоць, калі папраўдзе, то падобнае здаралася і раней, але ніколі не вярэдзіла душу так, як сёння.

На чыстым, празрыстым і бяздонным блакіце неба плавалі воблакі ці мо хмары. Было іх дзве разнавіднасці. Адны светлыя-светлыя, а другія смалянача-чорныя. Маня згадала, што аднойчы яна ўжо спрачалася на гэты конт з хутарскім Хвілосафам, як празвалі недалёкага суседа Валодзіка Сіневічавага. Не, нават не спрачалася, а хутчэй не магла зразумець логіку Хвілосафа, які настойліва даводзіў ёй, чаму воблакі бываюць белымі і чорнымі.

– Ты ж сама не раз казала, што ў таго ці іншага чалавека душа чорная. Казала ж, праўда?

– Ну, казала. А як тут прышыта душа да воблакаў?

– Во-во, ты на правільным кірунку. Бо нябеснае воблака мае, та-скаць, самае непасрэднае дачыненне да душы.

– Ну ты і сказаў.

– Так, я сказаў. І праўду сказаў. Бо слухай уважліва і скажы мне: калі памірае чалавек, куды дзяваецца ягоная душа?

– Як куды? Адлятае на неба, пра гэта і ў царкві нашай кажуць.

– Во-во, адлятае на неба. А ты толькі што казала, што бываюць, та-скаць, чорныя душы. У благіх людзей. Але ж бываюць, і іх найбольш, і белыя душы, бо добрых людзей усё ж больш. Дык вось, на небе аказваюцца і тыя, і тыя. І не сварацца, та-скаць.

Але Маня перабіла яго:

– Адкуль ты ведаеш? Ты хіба чуеш, як яны сварацца альбо міраццa?

– А нашто мне гэта ведаць? Я ведаю, што адны душы аб'ядноўваюцца ў белыя воблакі, другія – у чорныя. Бо калі яны падняліся на неба, та-скаць, то ім жа трэба недзе жыць. Праўда? А жыць на адзіноце не вельмі хочацца. Вось яны і групуюцца, та-скаць. Але ўсе яны плаваюць на адным і тым жа небе. Часам нават сутыкаюцца. І што цікава і дзіўна, дык гэта тое, што і белыя, і чорныя плаваюць адначасова, пры адным сонцы, якое аднолькава свеціць і на тых, і на другіх. Але ж чорныя не бялеюць, а белыя не чарнеюць. Праўда?

– Ніколі не звяртала ўвагі.

– А дарэмна. Ці не даказвае гэта, што іх і праўда стварылі, та-скаць, душы памерлых?

– А хіба ж я ведаю?

– Дак я проста так у цябе пытаюся, бо я сам лічу, што менавіта так і ёсць.

Маня тады не выказала свайго канчатковага меркавання. Бо яна і праўда задумалася, а дзе ж на небе збіраюцца ўсе душы памерлых? І хто дзеліць іх, хто накіроўвае, куды каму плысці ці ляцець? І яшчэ яе зацікавіла: кажуць, што неба не адно. Дык дзе ж тады жывуць душы? Мо ўсё ж не на адным і тым жа небе, а на розных? Вось тады і сутыкаюцца, калі белыя сыходзяць з сёмага неба, дзе іхняе прыстанішча, бо яны ж чыстыя. Дак што, выходзіць, што сустрэчы гэтыя адбываюцца не на сёмым небе, а на нейкім іншым, не святым?

“Ой, саўсім заблыталася я, даруй мне, Госпадзі”, – сама сабе прагаварыла Маня.

А пра размову тую не забывалася ніколі, наадварот, часцей стала падымаць вочы да неба. Асабліва тады, калі яно атулялася воблакамі. Аднак розныя колеры бачыла толькі тады, калі не ўсё неба ўкрывалі воблакі. Бо калі іх станавілася вельмі шмат, яны ператвараліся ў хмары і затулялі не толькі сонца, але і неба наогул. А бывала і такое, што па небе плавалі адны белыя воблакі. І нават адсутнасць сонца не замінала ім існаваць. Было і іншае. Часам чорныя воблакі закрывалі, здавалася, увесь свет: ні табе праблíску, ні табе сонечнага праменьчыка – адна суцэльная чорная хмара, не, нават не хмара, а хмарышча, знясільваючай чарнатой пранізаная ўнізе і крышку белаватая, як бы знарок пабеленая, угары. А вось белыя былі іншага кшталту. Іхняя белізна надзьмувала іх лёгкасцю і пышнасцю ўверсе, а знізу, як падстаўка, як аседлішча, бачылася ледзь прыкметная цёмнасць.

І што яшчэ дзіўнае заўважыла Маня, дык гэта тое, што яны ніколі не зліваліся адно з адным, не праглыналі адно аднаго. Кожнае плавала асобна. Нават калі іх было безліч. Значыць, жылі яны сваімі сем’ямі? Ці мо вёскамі? А мо проста паселішчамі, якія і назваў сваіх не маюць? Ды тут жа прыйшла зусім нечаканая думка, ад якой Маня ажно здрыганулася: а мо яны і там жывуць па зямных законах? Гэта значыць, жывыя баярцы маюць і на небе сваю вёску з такой жа зямной назвай – Баяры. А Вялікая Ліпа на зямлі мае такі ж адпаведнік на небе. Ёсць там і Еськавічы, і Высокая Ліпа, і Саская Ліпка, і Сноў... А іхні хутар Язавец? Напэўна, таксама ёсць на небе.

Дык што ж атрымліваецца, неба – гэта перавернуты адбітак зямлі? Ці мо наадварот, зямля – адбітак неба. Але ж яны, зямляне, ведаюць і бачаць толькі тое, што вакол іх. Праўда, і неба не недасяжнае для позірку. А мо акурат таму і розныя памеры воблакаў, што і вёскі, паселішчы на зямлі таксама не аднолькавыя. З большых і памірае больш, і душы іхнія займаюць большую нябесную плошчу.

Усё гэта займала Маніну галаву, калі садзілася ў грузавую машыну, што стаяла на двары Іванавага бацькі і ў якую яны загружалі ўвесь свой нажыты за палякамі і за саветамі “скарб”. Загрузілі і выправіліся ў баярскі шлях-дарогу. Ехалі моўчкі. Кожны думаў пра сваё. Маўчала і Маня. А тады раптам як пляснe рукамі, як крыкне:

– А Божа міласэрны, а Госпадзі! Зірніце ж вы на неба.

А там і сапраўды – цуд неверагодны. Але не радасны, не той, што дае надзею, а той, што вярэдзіць душу, заклапочвае, нават палохае.

У гэты момант сонца акурат заходзіла, ад дзённай стомы апускалася за знаёмы Гэтэвічам поплаў. І вось адтуль, ад таго яркага, ярка-чырвонага сонца на ўсё неба разляталіся іскры. Не, не іскры ў звычайным іх разуменні – як з печы ці з вогнішча, а велізарныя вогненныя фіранкі былі развешаны вакол сонца. І, як кожныя зямныя фіранкі, тыя, нябесныя, былі таксама рухомымі. Яны ўвесь час хісталіся, варушыліся, пераварочваліся. Неўзабаве дабраліся і да тых белых і чорных воблакаў, што плавалі над Манінай галавой, над машынай, на якой яны ехалі.

“Цікава, а якія воблакі найперш закрываюцца фіранкамі – чорныя ці белыя?” – падумалася Мані.

Але не было ні таго, ні другога. Воблакі, калі да іх дакрануліся палымнеючыя сонечныя фіранкі, і самі загарэліся такім барвова-трывожным, ярка-чырвоным агнём, што Маня ажно вочы прыкрыла даланёю. Але святло гэта паспела патрапіць у вочы і проста асляпіла яе нейкай незразумелай, незямной яркасцю. Яна і праўда перастала бачыць. Заплюшчыла вочы. Пасля расплюшчыла іх. Ні воблакі, ні фіранкі, ні гарача-чырвоны прысак не зніклі. Наадварот, яркасць ядавіта-чырвонага агню яшчэ пабольшала. Стала больш і саміх воблакаў, падпаленых зыркім сонцам. Адны з іх былі з выразна пазначанымі берагамі. Іншыя ж здаваліся размытымі.

Што яшчэ дзівіла, дык гэта рухомасць усяго нябеснага. Нічога не стаяла на месцы і не было пастаянным. Рухаліся воблакі, варушыліся фіранкі, мільгацела на іх чырвонае святло, якое таксама не было нерухома-аднолькавым. Нават на адным воблаку яно то ярчэла злева, то сляпіла зверху, а то станавілася такім празрыста-тонкім, што, здавалася, вось-вось знікне. Але нічога не знікала. Агонь то распальваўся да такой яркасці, што ажно сляпіў, то рабіўся такім тонка-прывабліва-прыемным, што вачэй не адвесці.

Маню дзівіла і тое, што ні само сонца, ні воблакі не цьмелі, не патухалі, а, здавалася, разгараліся яшчэ больш. Так было не раз, калі Маня паліла сваю хутарскую печ, збіраючыся пячы хлеб. Дроў не шкадавала, усё падкідвала і падкідвала. А калі кідала іх у пашчу ненаеднай печы, то міжволі пазірала туды. І тады ўся ўнутраная ярка-барвовая пячная прастора здавалася ёй тым непагасным агнём, які часам бачыла на іконах у Сноўскай царкве. Але ж там быў пякельны агонь, у якім гарэлі целы вялікіх грэшнікаў. Дык няўжо і зараз адбываецца такое пакаранне? Але ж гэта дзеецца не ў пекле, а на небе. На небе, дзе павінны жыць святыя, дзе плаваюць і душы праведнікаў.

“А як жа тады з чорнымі душамі? – прыйшла нечаканая думка. – Яны што, вырваліся з пекла, каб захапіць сабе нябесны прастор? Ці мо нехта знарок выпусціў іх адтуль. Каб і людзей пераканаць, што выпушчанае на волю зло можа натварыць такой бяды, з якой ніякі святы не справіцца?”

Маня з усё большай трывогай пазірала на неба. Страху яшчэ больш паддала згадка пра хатнюю, язавецкую, печ, пра хлеб. Але хіба ж пякуць хлеб у пекле? Не, так не бывае. А печ усё адно нагадвала гэтую ненажэрную пачвару, бо яе гарачыня і каляровы акрас не давалі спакою, не выклікалі даверу, а наадварот, да бяспамяцтва трывожылі, хоць і не давалі адарваць позірк ад гэтага страшнага і пякельнага вогнішча. Маня ажно наяве адчула тую нязводную гарачыню. Яна развязала пад барадой вузельчыкі хусткі і апусціла яе на плечы – каб не так горача.

А на небе быццам была тая самая хутарская печ. Няўжо іхняя? Толькі мо больш калючым аказалася яе полымя. Ледзь не ўсё неба пакрылася яркімі,

пякучымі, агніста-палаючымі воблакамі. Ды і не воблакамі зусім, а нейкімі іншымі канструкцыямі, якія, што праўда, і не ядналіся з іншымі, і не знікалі самі па сабе. Кожнае былое воблака жыло сваім жыццём. Пералівы іхніх сонечных фіранак ажно здзіўлялі. Воблакі, ці мо іхнія фіранкі, пастаянна мігцелі, трапяталіся, іхняя яркасць мянялася па ўсёй іхняй плошчы. Яны варушыліся і рухаліся, калываліся і мільгацелі. Здавалася, вось-вось гэтая палымнеючая намітка ахіне ўсё неба, закрые ўсё наваколле, бо ёю нястомна атуляліся ўсё новыя і новыя воблакі. І ўжо не было на небе ніякіх воблакаў – ні белых, ні чорных. Бачыліся толькі рухомыя фіранкі, ці мо наміткі, якія іх атулялі і закрывалі. Але ніштo не замінала іхняй рухомасці. Іхняя яркасць, палымянасць, іхняя трывожна-нястомнае мільгаценне не толькі калола ў вочы, але і трывожыла сэрца. І гэта праўда. Маніна сэрца пачало так грукаць аб яе рэбры, што яна ажно спалохалася: ці не пачуюць аднасямейнікі? І што тады падумаюць? На шчасце, хаця, якое тут шчасце, калі вакол такое творыцца, машына, у якой ехалі, трапіла ў нейкую глыбокую каляіну і пачала так натужна рыпець-скрыпець, што тут, каб і хацеў, то нічога іншага не пачуеш.

Маня прымусова-захоплена пазірала на неба, і ёй зноў згадалася тая даўнішняя гаворка з Хвілосафам. Тая, калі яны разважалі пра душы памерлых, пра тое, дзе яны жывуць. Яна ўздыхнула і хацела нешта сказаць Івану. Але – во дзіва – як толькі растуліла вусны і кашлянула, падняўшы вочы на неба, здзіўленню не было межаў, у яе зусім адабрала мову. Амаль што анямела. Каб нават захацела нешта сказаць Івану, то не здолела б. Не магла прамовіць ніводнага слова. Ні-вод-нага.

А мову адабрала тое, што ўбачыла на небе. Палымяна-яркія фіранкі зніклі. Раптоўна. Адразу. Усе. У адно імгненне. Быццам іх нехта тузануў і абарваў. Неба стала пустым. Зусім. Не было ні белых, ні чорных воблакаў, ні фіранак, ні намітак – ні-чо-га. Толькі яркі-яркі блакіт здаваўся бяздонным і ажно калоў у вочы. Такога чыстага і глыбокага колеру яна даўно не бачыла. Што праўда, і такога чырвона-агністага таксама не прыпомніць.

Маня міжволі павярнула галаву назад, туды, дзе павінен быць хутарскі поплаў. Але сонца там ужо не было. Адно ягоныя схаваныя за берагам зямлі, ці мо за чубам Школьнага лесу, праменні яшчэ падсвечвалі густы блакіт. Але паступова апускаліся і яны, невядома куды хаваліся, забіраючы і само сонца, і ягонае звыклае дзённае, і такое незвычайна-трывожна-памятнае вечаровае святло.

Настойліва і неадступна насоўвалася ноч. Ноч без сонца і без іхняга хутара.

Грузавік, натужна раўнуўшы маторам, адолеў невысокі пад'ём і выкаціўся на прамую дарогу, што вяла проста ў Баяры.

На Каралёўшчыну.

У новую Іванаву хату.

Марыя Бадзей



...Там, дзе хаваюць стралу,
Уваскрашаюць маланкі...

# Мінуцыя*

* * *

Роспач ракі абмялелай
Робіцца слодыччу рэчкі зарослай.

Найперш пах: феерверкі кропу, свечкі мелісы.
Гукі: знічкі кусаюць сабак за язык.
Колеры: лаканос, чарнасліў, фізаліс.

Ластаўкі ўбіваюцца ў неба, як стрэмкі ў далонь.
Мышка просвірку з'ела,
Кажаном паляцела.

Па развітаннях сваіх іконамі стануць дрэвы.
Візантыя восені.
Віна ў сенцах вярэда,

---

**«Минуцыя»* (са старабеларускай) – від календара з каментарамі і прадказаннямі.

Сініцы з рук, жураў ў вырай, вёдры ў студні,
Вяроўка на валак, скрыпучыя песні,
як валак свет круціцца,
Вада правіднела.
– Палі мае кветкі!
– Дождж палье.

## *ЛІСТ У СІНГАПУР*

Дон Мельхіседэк, Мелькіадэс змыслы,
Цырку цар цыганскага, ты, памёршы,
Салаўя схаваў пад язык і трызніш
Пра віхраслупы.

Як цячэ метал залатой ракою,
Як бярэ ў палон скарпіёна джала –
Вочы азіяцкія зрэнкі пілі
Роспачы чорнай.

Што назваць самотаю прагным волі?
Дождж ішоў так доўга й нам выцер голас,
Ды ў мяшанцы моў старажытных чуем
Гул землятрусаў.

На сцяне цытата не будзе доўгай,
Пакрысе занікнуць усе імёны,
Ды скажы, ці хоць застануцца нашы
Дагератыпы?

* * *

Шчодры вячор, святы вячор
У срэбры зорных крыг.
Ноч на плячах,
І спеў яе
Аж запірае дых.
Сіпяць вятры і ты сіпіш,
Шапочуць травы: што не спіш?
І зорка свеціць ўслых,
Уверх!
Да хмар!
Дрэў гнуткі рух:
Маленне чары.
Чары рук
На лоб гарачы.
Нарачы

Ўсё словам. Новыя ключы
Скрыпічныя:
Стан нотны – дождж.
На цені ніцыя галін
Мелодыя – агні ялін –
З нябёс сцякае ўначы,
І ноч дрыжыць, бы нож

Над сэрцам вепрука.
Рука
лье кроў цурком у чорны снег,
Над вепруком саломы смех,
Смалілі – пахі білі з ног,
І пара з мiсаў, поўны рог,
І ціха плакаў Бог.

Духмень у хаце: хвоя, печ,
Да слова кожнага ёсць рэч,
Цвікі, ягнятка, яйка, трус
Шчэ абяцаюцца быццю.

Каноплі клалі ў куццю,
І сена пад абрус.

Мяло ў Евангеллі палёў,
Мароз куў цішу, а галлё
Палала срэбрам,
І быццё
Паліла зрэб'е.
З рэбраў дрэў
Плялі кашы гаспадары,
У жніўні каб насіць дары,
Глядзелі, як агонь гарэў,
Ўвівалі вогненную ніць,
Каб музыку насіць.

Выходзім з кола на прастор
Да зор, і сцежкі збоч.
Такое дзіўнае жыццё,
Дзе снег ідзе ўсю ноч.
Вятрыскі ўзорнае шыццё –
Пасціўся і гавеў,
Між стрэх з аблокамі гібеў
І зоркі слухаў спеў.

* * *

Рай пусты
Усе серафімы тут
Не спраўляюцца

* * *

Студзень:
Сто дзён
Мне даставаць лёд са студняў,
Штоноч
Стогнучы
Нам засынаць у чоўнах
І сэрцы, бы вёдры,
Адно з аднаго цягнуць,
Каб напіцца.

* * *

Каханне – гэта
гадзюка ў мурашніку.

* * *

Такі востры край,
Што з паветра растуць крыжы і дзядоўнік,
Касцёлы будуюць,
Каб хаваць зброю,
Дзеці гуляюць касцямі
Прайграных паўстанняў.
Край забытых дзвярэй і забітых шыбаў,
Дысгармоніі рытмаў целаў
І музыкі дрэў.

Пад смыкам птушыным
Дрыжаць палі,
Нібы пад пальцамі па спіне,
Мочка вуха рыфмуецца з вуснамі,
Як “сонца” з “бясконца”,
І каханне, што ўваходзіць у чалавека,
Як п’яны ў паліто,
Праз белы шум памяці,
Праз белы бэз, што раве ў галаве,
Прарываюцца галасы нашага болю,

Бег
Па сератанінавым коле,
Рух
Па маршрутах солі,
Страх
Перагарэць першым.
Няўжо застаецца толькі горкае?
Няўжо без горкага кроў закісае
І сэрца падае,
Як памідор у гарачы пясок,
Сачыцца залатым семем,
Прыгадвае:
Калі крычыш –
Не забывайся рабіць паўзы.

Я чалавек на балоце тваім
І ведаю:
Там, дзе хаваюць стралу,
Уваскрашаюць маланкі.

* * *

Бэз пахне блюзам, джаз – язмінам.
Таката хрушчоў
Лёт абпякае аб жырандолі каштанаў.
Рэ мажор у тваіх валасах.
Крычыш.

Гары, чаромха, белым полымем!

### *РУТ*

Мачаючы хлеб у воцат,
Веючы на гумне ячмень,
Пакідаючы каласы як ялмужну, –
Пахі і шэпты:
Усё так, як і мусіць быць.
Спіш пад сціртаю.

Цёплая ноч.
Ветах зжынае зор пакору.
Яна прыходзіць ціхенька,
Адкрывае ля ног ягоных
І кладзецца.
Пішацца Стары Запавет.

* * *

Я, чалавек вялікага лесу,
Гляджу на людзей вялікай ракі.
Людзей асцярожнага цуду, які ліецца ў прасторы,
Людзей, з чыіх далоняў растуць вёслы.
На вёслы сядаюць крачкі,
Белыя,
Бы яблыкі,
Што падаюць у ваду.

## *VERBUM*

О, дзеясловы вербаў,
Сваім узмашыстым “verde!”
Вы адчыняеце дзверы,
І я давяраю: “даруй”.

Рэдактар спёкі і злівы
Выправіць словы на слівы,
Абдымкі стануцца дымам –
Цяпер абярнуцца куды нам?

Сэрца – катом у студні
Раве, пакуль не патоне,
Я ў вёдрах тваёй пяшчоты
Зусім захлынуся:
Даруй.

* * *

Птушка нагамі чапляецца за раку
І здзірае ваду, як абрус з вясельнага стала,
Дзе вайна выразала сваё *здесь был*
Лічбамі жэтонаў.

Імёны тонуць.
Ці хопіць памяці пыл пачуць?

Гарыць палын сівым полымем,
Горкімі песнямі грэе.

Дзяцінства ўцякала па здзірванелых ранах,
І я не ведала, куды дзьмухаць.

Рукапісы траў.
Гутэнберг дрэў.
Ці хопіць хрыбціны
Прачытаць гэта?

Сяргей Рублеўскі



...не вусце вабіць чалавека, а вытокі,
верхняя плынь, якая толькі
і абяцае будучыню...

# Дзень першы, дзень святочны...

***Два апавяданні***

## Тарасаўна

Цяжка пражыць усё жыццё з адзіным сябрам, куды цяжэй, чым з вялізнай чарадой, калі іх сто, а то і болей, і ты падпарадкаваны больш законам статыстыкі, чым выраку лёсу.

Апошнім часам лёс мой ускладніўся: адзіны сябра Пятрок пачаў даволі часта, прытым няўзнак для сябе, крыўдзіць мяне.

Нібы ў маладосці, ён раптам пачаў моцна кахаць сваю Алену. Усё адно як нанова. Мусіць, падтачылі хваробы і забаяўся смерці. Мы ж з ім, як ні харашымся, а прыкметна пастарэлі ў апошнія гады і мусім верыць, што ўратуе нас толькі далікатнае дакрананне сужанкі, асабліва націранне ёю змяіным крэмам спіны. Гэтым раз-пораз і ўсцешваемся...

А мне пачасту даводзіцца чуць ад сябра: “Мая Лена такая ласкавая, такая пранікнёная, так апякуецца мною, так прадбачыць небяспеку, нават ад скразнячка ледзь прыкметнага засцерагае...”

А потым зусім нечаканае, хоць і добра мне знаёмае: “А якія чабурэкі сёння згатавала, каб ты ведаў, як на свята... Пальчыкі аблізаў!”

У Петраковай Алены сапраўды шмат зайздросных якасцяў, а чабурэкі яна гатуе з паэтычным натхненнем. Узвышаныя перцам агеньчыкі начыння, нават заціснутыя ў цеставы затулачак, у яе ўсё адно не згасаюць і пры гэтым зусім не апякаюць шлунак, а толькі прыемна казычуць яго тоненькімі іголачкамі.

Пятрок пачаў засмучаць мяне тым, што ў яго нахвальваннях прыўкраснай Алены выразна чулася фанабэрлівая хварса: маўляў, у цябе такой жоначкі нямашака... ха-ха... Ну навошта так!

Але няхай сабе, стрываў бы, каб гэтым і абмежавалася прыкрае несуладдзе ў адносінах з адзіным сябрам.

Але ж Пятрок, зноў і зноў згадваючы нашыя незабыўныя рыбацкія вандроўкі па Каспле, пачаў папікаць мяне тым, што я, нібы тропка-блін які, дужа паспешлівы на вадзе, нават на самай хуткай плыні прыспешваю лодку. “І што там за паваротам, куды ты рвешся?.. Думаеш, шчупак цябе ў яміне пад галінамі хмызоў чакае? Ну ляці, ляці, як на крылах...” – помню, не аднойчы так або крышку інакш кпіў з мяне раздражнёны сябра.

А я плыў да “яміны пад галінамі хмызоў” і думаў, якія мы з ім усё ж такі розныя! Ён, які ўсё жыццё адпрацаваў аграномам, прывык да маруднай паступовасці росту раслін, дык і сам пачаў успрымаць як сваю спадчыну іх жыццёвы алгарытм. У тым ліку і ў рыбнай лоўлі.

Пятрок, аблюбаваўшы затоку, пачынае “высейваць кукурузу” хрушчоўскім квадратна-гнездавым спосабам – гэта значыць, так густа закідваць блешню, нібы тыя зярняткі ў зямлю ўціскаць, пакуль не падвядзе прынаду пад самую пысу каторага шчупака. Іначай і не падумае зрушвацца з месца. Дык, каб вы ведалі, і патрапляе блешняй куды трэба, і выцягвае з вады спакушанага небараку.

А я тым часам ужо далёка, бо яшчэ з гадоў даўно мінулага маленства адчуваю сябе пестунком лёсу (асабліва на рыбалцы!) і спадзяюся на шчаслівы выпадак, які заўсёды наперадзе, толькі прыспешвай!

* * *

І вось, пакрыўджаны і рассердаваны, я наважыўся даказаць Петраку, а больш сабе, што таксама магу падоўгу лавіць шчупакоў на невялічкім участку ракі, толькі крыху адплываючы ўверх і ўніз па ёй ды мяняючы берагі з правага на левы і наадварот.

Такі ўчастак ракі для адметнай для мяне лоўлі я нагледзеў колькі месяцаў таму каля вёскі Курашчане, якая месціцца на правым беразе Каспле непадалёк ад Суража.

Колькі разоў праплываючы ёй, я бачыў тут з рыбалоўнымі прыладамі вясковага мужыка на вузкай драўлянай лодцы з шастом замест вёслаў. Ды і сам я было пераканаўся, што мясціна гэтая не бязрыбная. Аднойчы ў дзень глухога бясклёўя я праплыў ад Пранікаў тры з лішкам кіламетры і ў бок маёй блешні не глянуў ніводзен шчупак. І толькі потым у невялічкай затоцы перад доўгім хуткаплынным перакатам за лічаныя хвіліны злавіў

трох мерных шчупакоў-кілаграмовікаў і паплыў далей. А неўзабаве пашкадаваў, бо здалося, што паспяшаўся. Затрымайся даўжэй – спаймаў бы хаця б яшчэ адну ёмкую рыбіну. І гэтая трывожная шкадоба яшчэ больш узмацнілася, калі ўвесь астатні шлях да самага Суража ніводны шчупак не крануў маёй блешні.

Шчодрая затока месцілася акурат там, дзе Каспля каля апошняй у набярэжным ланцугу хаты прамінае вёску Курашчане.

Дык зусім зразумела, чаму я выбраў гэтае месца для сваёй маючай днямі адбыцца рыбалкі без Петрака.

Надумаў – і паехаў.

* * *

Убіраўся ў сілу жнівень, і ўжо здавалася, што нябёсы пад прымусам зыркага святла, якое да краёў напаўняла наваколле, вышэй звычайнага ўзнімаліся над зямлёй. У яшчэ бухматых кронах прыкідваліся злёгку пажаўцелыя лісцінкі, усё адно як чарадзейны мастак спрабаваў сваю свежа запраўленую палітру. Дыхалася так лёгка, асабліва зранку, што было шкада жыцця, якое асалодна сыходзіла ў невараць. Але трэба было ехаць, даставацца да месца.

Легкавушка мая стаяла каля пад’езда, і я не марудзячы пагрузіў у багажнік свой рыбацкі рыштунак, паклаў у салон заплечнік з падсілкаваннем і рушыў са двара.

Я вырашыў адразу прымерыць на сябе Петракоў запаволены рыбалоўны рытм і засяроджанасць. Дарога для гэтага падыходзіла, і я паехаў зусім няспешна, нібы падчас аўтамабільнай прагулянкі. Куды спяшацца, калі наважыўся не аб адзін дзень крутануцца туды і назад, а знайсці ў вёсцы ў якой хатцы прытулак і бязвыезна, на працягу некалькіх дзён палавіць уволю шчупакоў на аблюбаваным месцы даўно асвоенай рэчкі.

Машына рухалася, здавалася, сама сабой. Я толькі злёгку націскаў на педаль акселератара, і то больш для перагазоўкі.

Не пакідала ўражанне, што дрэвы за вокнамі аўто гатовы рушыць следам і нібыта і спрабуюць, але тут жа адстаюць ды паволі прападаюць за спінай.

Звыклая, даўно знаёмая да драбніц дарога доўжылася і доўжылася пад коламі, уцякаючы ад маруднай маёй язды, і пачала нагадваць сабой зацягнуты ў часе ўступ да якога-кольвечы аповеда.

* * *

Так атрымалася, што я спыніўся акурат пасярэдзіне вёскі. Не наўмысна, проста мелася два ўезды ў Курашчане, і абодва ў калдобінах. Першы, асноўны – па дарожцы наўскасяк ад бальшака, але яе пераразаў глыбокі роў з усланай глiністай глебай берагамі. У дажджлівае надвор’е роў было дужа цяжка пераехаць – не ўспаўзеш на круты супрацьлеглы бераг. Другую ўязную дарожку праклалі па лузе дзеці вяскоўцаў, якія наязджаюць з Віцебска наведаць бацькоў у выхадныя. Дарожка гэтая злучала бальшак з вёскай наўпрост і выходзіла да адной з хат, якая якраз і месцілася пасярэдзіне вёскі. Па ёй я і прыехаў. І як потым высветлілася, дужа трапна.

Я выйшаў з машыны, і дарма што на нагах былі боты, а не тэпці, адчуў ступакамі мяккі кілім, якім была шчыльна заслана ўся вясковая вуліца

– такой была яна ўтравянелай. Усё адно як ніхто не хадзіў па ёй, не тое што не ездзіў. І пры гэтым траўка слалася нізенька, нібыта адмысловым кілімавым ворсам. Тут жа, дастаючы край вуліцы, на прывязі пасвілася вялізная пярэстая карова.

Хаты стаялі даволі аддалена адна ад адной, здавалася, пасварыліся, ці што... Тым не менш я раптам адчуў у гэтай расхрыстанай прасторы цёплую, нібы дома, утульнасць ды гожасць незнаёмага, але такога невядома чым і прывабнага месца.

І тут я заўважыў, што да мяне набліжаецца неахайна апрануты, у тое, што патрапіла пад руку, невысочанькі дзядок, у якім я лёгка пазнаў таго самага стрэчанага ў свой час на рацэ рыбака з шастом замест вёслаў. Але мы зрабілі выгляд, што не пазналі адзін аднаго. Я не здзівіўся яго з'яўленню, толькі падумаў: а дзе жыць заядламу рыбаку, як не ў прыбярэжнай касплянскай вёсцы!

Мы закурылі і разгаварыліся.

– З Віцебска? Мусіць, шчупачкоў палавіць прыехаў? Паспрабуй, паспрабуй... – з прыхільнасцю сказаў мне Змітрок (мы пазнаёміліся). – Рыбка пачынае ўжо адгукацца, узварушылася... Можа, і пашанцуе... А ты да нас на дзянёк прыехаў ці даўжэй збіраешся пабыць, уволю нацешыцца? Можа, у намёціку туліцца будзеш... – цікавіўся дапытлівы Змітрок.

– Дзянькі тры наважаны палавіць, але намёцік і не думаў з сабой браць – спіна дужа хворая, ад соляў розных задзервянела, нібы засланку між лапатак загналі... На зямлі не паляжыш доўга.

– Ведама ж. У мяне, як крыху застуджуся, таксама сярэдзіна аднімаецца...

Мы колькі хвілін курылі моўчкі і, як мне падалося, Змітрок штосьці абдумваў.

– Ты ж хочаш у якой хаце на гэтыя дні прытуліцца?..

– А як інакш? Менавіта...

– Я прытуліў бы цябе, але няма як, браток. Хатка маленькая, маміна спадчына. А ведаеш жа якое жытло ляпілі пасля вайны салдацкія ўдовы, адзін мой ложак-бярлога палову пакоя займае... Ды і лавэр у хаце, непрыбрана, адзін жыву, перабіваюся, як магу, – то рыбіну прадам, то параблю ў каго за якую капейку... Пітушчы я, мой даражэнькі, – усё адно як павінаваціўся перада мной Змітрок. А тады і параіў:

– Во сюды табе трэба, – паказаў ён вялікім пальцам цераз плячо на хату, якая стаяла за яго спінай. – Да Тарасаўны, самай спраўнай у Курашчанах гаспадыні. Ты, як ведаў, трапна спыніўся.

І дадаў:

– Толькі май на ўвазе – у яе на двары сабака Жук дужа злы, аж у роце чорна, і брахлівы... Але ты не бойся – ланцуг укарочаны так, што да веснічак Жук не дастае. Я цябе праводзіў бы, але трохі правініўся перад Тарасаўнай, не хачу на вочы паказвацца. Ну ідзі, бо і мне трэба ісці па сваіх справах...

* * *

Ведаючы пра самаадданага ў ахове сваіх уладанняў Жука, я асцярожненька адчыніў весніцы і быў сустрэты раз'ятраным брэхам. Сабака ўзвіўся ўгору, пачаў драпаць кіпцюрамі дашчатую агароджу ды заходзіцца слінай на жорсткім ланцугу, які шчасліва спыняў яго каля самага слупа весніц, якраз так, як казаў Змітрок. А брэх не страшны...

У клямцы я ўбачыў уторкнутую галінку, якая па даўняй вясковай завядзёнцы сведчыла: у хаце нікога няма, не заходзь. Бачком, усё ж міжволі асцерагаючыся Жука, я прайшоў дзяннік і адчыніў яшчэ адны весніцы ў агароджы, за якой месціўся прысядзібны гародчык. Тут я і ўбачыў Тарасаўну, якая сядзела ў звыклых для яе ўзросту бурачках скурчаная між лешак на маленькім услончыку і выбірала цыбулю. Захопленая працай, яна не звяртала ўвагі на ўзняты сабакам вэрхал.

– Добры дзень, Тарасаўна! – далікатна і ў той жа час смела, нібы са старой знаёмай павітаўся я. – Няхай вам Бог памагае!

– Добры дзень, добры дзень, дзякую за добрае слова... – прамовіла яна і зірнула на мяне яснымі вачыма з нязгасным, нягледзячы на доўгія пражытыя гады, прамяністым блакітам. – З патрэбай якой да мяне ці як? – узнялася яна з услончыка. А тады зноў нахілілася над лешкай, каб падраўняць колькі цыбулін, якія, як ёй здалося, ляжалі неахайна і псавалі прыгажосць роўнага валка буйных залацістых рэпак.

– З просьбай...

– Ну тады пойдзем у хату.

Тарасаўна пасадзіла мяне за стол і пачала распытваць, да каго я прыехаў, бо падумала, што я з чыёй-небудзь вясковай радні. А калі я сказаў, што нічый, сам па сабе, Тарасаўна прыкметна спахмурнела. Але просьбу аб прытулку, як мне падалося, яна ўспрыняла калі не з радасцю, дык з відавочнай прыхільнасцю, войкнула і прамовіла:

– А дзяцёнак ты мой, жыві колькі заўгодна! Яды хапае, ложкі аж два свабодныя... Дачушкі мае толькі тыдні праз два абяцалі прыехаць. Дужа занятыя пакуль, ведама ж – работка... Дык мне і весялей будзе! Не пасварымся ж...

– О, не! – хуценька выгукнуў я і подбегам кінуўся па рэчы.

А калі ўносіў іх, дык амаль не звяртаў ужо ўвагі на Жука, толькі папярэдзіў яго шэптам: маўляў, сціхні, праглыні свой брэх разам са слінай, у мяне дамоўленасць!

Разам з рыштункам ды іншымі markрознымі рэчамі ўнёс я ў хату і вялізны каравай чорнага подавага хлеба “Несцерка”, які прадбачліва купіў перад ад’ездам. Тарасаўна падзякавала і прыняла яго з вялікай пачцівасцю.

На душы маёй было лёгка да акрыленасці. Я пераапрануўся ў сваю рыбацкую адзежу і сабраўся на рэчку. Балазе сонца яшчэ толькі адбыло паўдзён, а Змітрок даў мне ключ ад сваёй лодкі, не трэба было губляць час на падрыхтоўку да плавання сваёй гумавай чавёнкі. Я ўзяў вясло, каб не карыстацца няўклюдным шастом, футарал са спінінгамі і пайшоў на Касплю, якая бруілася адразу за гародам Тарасаўны.

* * *

Найперш я паплыў у сваю шчаслівую затоку, дзе, як я ўжо казаў, злавіў запар трох ладных шчупакоў.

“Ну вось, цяпер я не праміну яе так хутка, як раней... Цяпер я, не раўнуючы як Пятрок, ніводнаму шчупаку не дам тут спакою, пакуль не падвяду блешню пад самыя вочы рыбіны, з месца не крануся!” – вырашыў я і пачаў раз-пораз абкідваць затоку бясконцымі прапановамі сваёй жалезнай, сіліконавай або пластыкавай спакусы. Адна лепшая за другую! Але шчупакі не бачылі паміж імі аніякай розніцы.

Калі на прыбярэжныя дрэвы на мяккіх крылах пачаў апускацца адвячоркавы морак, я пачаў збірацца дахаты. Пераплыў на свой бераг, і на табе – спаймаў гнуткую, як шнурок, травяначку, вагой грамаў шэсцьсот. Іншым разам я яе адпусціў бы, але не цяпер – няёмка было вяртацца да Тарасаўны з пустымі рукамі.

Гадзіны праз тры я вярнуўся. Трымаючы ў руцэ шчупачка, адчыніў дзверы і ўвайшоў у хату. Са згорбленай спінай і супакоенымі на каленях рукамі Тарасаўна сядзела каля печы на тым жа ўслончыку, што і ў гародзе. Здавалася, драмала. Я паклаў у тазік рыбіну і асцярожненька, каб не патрывожыць гаспадыню, памкнуўся прайсці ў другі пакой.

– Вярнуўся ўжо, – падняла яна галаву. – Прагаладаўся, відаць... – і пачала даставаць з печы саганок з капустай, на якую зусім забылася за работай.

Мне хацелася есці, а калі ўбачыў на табурэтцы даёнку з сырадоем, папрасіў у Тарасаўны малачка. Мне раптам заманулася згадаць сырадой, якім у дзяцінстве паіла мяне мама. Сантыменты, што зробіш...

Тарасаўна пачала ўвішна працэджваць малако, даставаць з буфета кубак, каб здаволіць маё жаданне. Потым узняла ручнік, якім на стале быў накрыты прывезены мной раніцай каравай, перахрысцілася і спрытна адрэзала ёмкі акраец, як з’есці. І я пачаў смакаваць яго, запіваючы цёплым малачком.

Тарасаўна сядзела насупраць і замілавана, з вялікай цікавасцю глядзела на мяне. Як толькі я ўзнімаў вочы, яна напускала на сябе абыякавасць і пачынала якую-небудзь размову.

– А рыбінка невялічкая патрапілася... – сказала яна. – Каля пераката, мусіць, лавіў, не адплываў нікуды. А трэба было б крышку ўверх узняцца, насупраць сасонніка рыбачыць Там вялізная рыба водзіцца. Татулька мой, ды і дзядзькі, памятаю, заўсёды там лавілі.

– Дык цяпер на месцы таго сасонніка лес высозны ўзняўся. Колькі гадоў мінула...

– Няхай сабе. А прывычка ж людзей да месца трывала ў душы трымаецца, яна вечная. А ў рыбы – тым больш. На гэтай вячніне, можна сказаць, свет непарушны!

– Так вы, Тарасаўна, і да любові да радзімы дойдзеце...

– А што ты думаў, Сярёжа, пра адно і тое ж гаворка...

– Што адно і тое ж, любоў да месца, да таго ж сасонніка і да ўсёй Бацькаўшчыны?..

– Анягож...

Баючыся высокіх думак, іх пачасту толькі вонкавай чысціні, я патроху пачаў унікаць размовы, тым больш, што задумаўся аб прыкрым вымаўленні Тарасаўнай майго імя.

“Сярёжа... Гэта ж трэба было прызвычаіцца да такога дзіўнага для беларускага вуха гучання слоўца са святкаў! “Сярожа” змалку ведаю. І то мой сябра, пісьменнік з поўдня нашай краіны, аднойчы як кваліфікаваны дарадца, выпраўляючы мой тэкст, пазамяняў гэтае імя з маміных вуснаў на літаратурна правільнае – “Сяргейка”. От, каб ён цяпер таксама пачуў нашае непаўторнае ўсходняе “Сярёжа”, месца б сабе не знаходзіў, як палескі ўюн на патэльні...” – пакрысе разбіраў мяне смех, які я заціскаў, нібы пеўня пад пахай.

Я пачаў больш сур’ёзна думаць пра асаблівасці мясцовага вымаўлення.

“Цеснае сумежжа з Расіяй, што ж ты хочаш... Такое ўражанне, што

падышлі браты-беларусы ўшчыльную да суседзяў, і каб ім спадабацца, давай “па-рюску” гаварыць – змякчаць, аж залішне ад старання цвёрдыя літары і, наадварот, больш цвёрда, нават чым самі рускія, вымаўляць літару “г”, хоць гэта амаль немагчыма – нутро не пераробіш, сябе не пераліцуеш...

А прыхільнікі сваёй нацыянальнай чысціні на тым баку дакараюць сваіх суайчыннікаў: “Ну што ж вы масціце ім, бульбашам ненаедным, і “гэкаеце”, і “дзэкаеце” ў прымежных раёнах, амаль, як яны”. А таго не ведаюць, што гэта “яны” і ёсць...”

* * *

Гэты вечар быў доўгі, а ў доўгія вечары спаць не хочацца. Апроч усяго здавалася, што мы з Тарасаўнай не сказалі адно аднаму штосьці больш істотнае для падаўжэння нашага сумоўя. Гэта нават лепш, чым я, адчувала мая гаспадыня. Яна дастала з паліцы фотаальбом і запрасіла мяне сесці на канапу, каб разглядаць яго разам.

Альбом фотаздымкаў з разнастайнымі выявамі шматлікай радні ствараецца людзьмі якраз для выпадкаў, калі трэба расказаць пра свой род, паказаць госцю, ды і самому ці самой тым часам зноў паглядзець на выявы дарагіх сэрцу родзічаў.

Фотаздымкі ў альбоме Тарасаўны не былі замацаваны на тоўстых пругкіх старонках, а ляжалі паміж імі. Прытым бессістэмна, неўпарадкавана, паміж некаторымі старонкамі залішне нагрувашчаныя. Але бабуля між тым лёгка знаходзіла неабходную, тую, што задумала, фотакартку. Па ўсім было відаць, яна даволі часта праглядала альбом.

Тарасаўна паказвала фотаздымкі ў загадзя вызначанай паслядоўнасці. Пачала з выяваў бацькоў, потым паказала дачок і ўнукаў і дастала нарэшце адзін фотаздымак, дзеля якога, мусіць, і пачала ўвесь прагляд.

– А ўгледзься, Сярёжа, вось у гэты здымачак, – падала яна мне парудзелы ад часу прастакутнічак.

На фотаздымку на венскім стуле сядзеў у модных для свайго часу строях даволі малады чалавек, побач з ім стаяў сябра або які знаёмец, паклаўшы на яго плячо руку.

– Ну, разгледзеў? У таго, хто на стуле сядзіць, больш уважліва ўгледзься. Не прызнаў? – спытала Тарасаўна.

– А каго я павінен прызнаць? Я ж з вашай радні нікога не ведаю, нікога не бачыў... – сумеўся я.

– А сябе не прызнаў? Зірні: вусікі такія ж... – наблізіла да мяне фотаздымак Тарасаўна.

– Такіх вусікаў мільёны! Звычайныя...

– А насок, паглядзі! Такі ж доўжанькі, як у цябе, і на тварыку так жа спрытна пасаджаны. І гарбінка на ім, во, зірні, бачна ж: такая ж слаба пазначаная, ледзь прыкметная... А я ж помню дзядзечку Косціка, дарма што маленькая была. Нагледзелася на яго і запомніла на ўсё жыццё!

– Вы перабольшваеце, Тарасаўна. Невялічкія супадзенні, і ўсяго толькі...

– Няхай сабе невялічкія, як... радзімка. Вось, зірні...

І яна паказала мне на фотцы чорную кропачку радзімкі, якая месцілася акурат, як у мяне – між броваў. Я нават не ўтрымаўся і тут жа памацаў сваю маленькую адчувальную пукатасць на твары.

– Калі я цябе, дзетка, убачыла, дык адразу прызнала і не магла вачэй

адвесці. А калі ты за стол сеў і стаў есці, дык мне і наогул стала дужа мілажальна на сэрцы, бо ты ж міжволі ўзнавіў у памяці радочак самых любых у свеце мужчын: першы – дзядзя Кастусь – ты замест яго, потым дзядзя Аляксей, а за імі татулька мой Тарас. Яны снедалі, а я, маленькая, цікавала за імі з печы. Паклала пад грудзі падушку, падпёрла галаву рукамі і высочвала вачанятамі кожны рух дарагіх сэрцу людзей. Дзяўчо горкае, а ўжо любавалася іх мужчынскай гожасцю, у галаве ж пры гэтым усплываў успамін аб іх учарашняй рабоце на сенажаці. Перад вачамі ўсплываў бясконцы відарыс, як маладыя Кастусь і Аляксей узнімалі на вілах пад неба вялізныя, з паўкапешкі, ахапкі сена, а бацька, прыціскаючы каленкамі, раскладваў іх на брыцы... Што можа быць прыгажэй за рупную дружную працу!

Тарасаўна гартала альбом і перадавала мне на прагляд фотку за фоткай. Так мы прагарталі яго да апошняй старонкі, на якой быў акуратна наклеены выразаны з часопіса каляровы фотаздымак. На ім была адлюстравана гнядая кабылка з белым плямцам ва ўвесь лоб.

– Во, глядзі, якая прыгажуня! І ў нашай сям'і акурат такая была. Бацька аж з Арлоўшчыны на ёй прыехаў напрыканцы 20-х гадоў. Дужа коней любіў... – змахнула са шчакі слязу Тарасаўна, але неўзабаве супакоілася і прадоўжыла расповед.

– А кабылка ж ужо, вядома, з імем была. Праўда, я адразу міжволі перайначыла яго на свой капыл. “Зоркай” клікала, і праз колькі дзён, мая харошая, пачала адгукацца. Асабліва калі са скібачкай хлебца да яе падыходзіла... Адкуль мне было ведаць, што яе звалі зусім інакш, па-руску – “Зорька”, што азначае зараніца, золачак, світанак. А мне ж пачулася па-нашаму – зорка. Узвысіла я кабылку да самых нябёсаў, – усміхнулася бабуля. – Ой, якая ласкавая была Зорачка, каб ты ведаў! Даю на далоньцы хлеб – зубамі ручку ніколі не кране, толькі мяккімі, пяшчотнымі, як шэпт, губамі. А калі паклічу – тут жа бяжыць да мяне ці ўзнімае галаву ды радасна іржэ, калі ў стойле або на прывязі... Здавалася, кабылка гатова была везці мяне праз увесь белы свет, да шчасця. Так мы з ёй здружыліся, так здружыліся...

Тым часам у вокнах ужо высыпалі буйныя, як спорны гарох ці боб, зоркі. Убіралася ў сілу ноч, пара было класціся спаць.

* * *

Назаўтра я прачнуўся пазней звычайнага. Расплюшчыў вочы і колькі хвілін пакунежыўся ў пасцелі, няспешна разглядаючы набіваны кілім, які вісеў над ложкам. На ім быў адлюстраваны сюжэт, лёгка пазнавальны ўсімі людзьмі свету: два лебедзі на вадзе насупраць адзін аднаго з лагодна нахіленымі галовамі, у якіх была добра бачная ўзаемная гатоўнасць да вечнага кахання і згоды. Зводдаль – альтанка з калонамі як прытулак гэтага азоранага шчаслівай узаемнасцю жыцця ... Хіба можна як-небудзь інакш патлумачыць гэты любы кожнаму чуламу сэрцу сюжэт?..

Час паволі доўжыўся, і я міжволі пачуў танюткую, як піск камара, нязрушную цішыню, якая стаяла ў хаце.

Ну вядома ж, як было заведзена на працягу ўсяго жыцця, Тарасаўна ўзнімалася на досвітку, уходжвалася па гаспадарцы і адразу ішла рупіцца на гародзе, дзе яна, як казаў Змітрок, і днюе і начуе.

Дзіўна, але мне не хацелася зранку ісці на рыбалку. Не праходзіла адчуванне незавершанасці размовы з Тарасаўнай. Мне здавалася, што і яна трошачкі не расказала пра галоўныя падзеі са свайго мінулага. Пайду, а ёй якраз і заманецца прадоўжыць расповед... Дык і тоўкся на двары, пакуль не заўважыў спрытна асаджаную коску пад страхой пунькі. Я тут жа вырашыў паказаць гаспадыні свой вясковы спрыт: падхапіў на дзенніку вялізны кош і рушыў у сад, дзе Тарасаўна вечарамі нажынала сярпом добры ахапак зялёнкі для падкормкі сваёй Рабоні. Павітаўся з гаспадыняй і ўзяўся касіць.

– Вось тут добры лапік травіцы, яго і скашу... – зірнуў я на гаспадыню, чакаючы дазволу.

– Добрая травічка, і як я яе абмінула. Касі, вядома... Кароўка будзе радая, – усміхнулася бабуля і паглядзела на мяне гэтак жа замілавана, як учора.

Я заняў шырокі пракос, хутчэй за ўсё, каб уразіць Тарасаўну, а не для справы, бо лапік быў невялічкі – не разгонішся. Касіў і радаваўся вострай, добра наведзенай касцы. Любата! Мусіць, Змітрок правіў... На душы было светла і лёгка, і я міжволі згадаў радкі са свайго даўняга, яшчэ юнацкага вершыка:

Я ўзгадаваўся на хлебе мамы,
На малацэ каровы Рабоні...
Хлебец той цёплы быў смачны самы,
Грэў маё сэрца, мае далоні.

Але запаволены рытм верша ані трошкі не супадаў з бадзёрым посвістам маёй касы, і я пачаў думаць пра другое.

Неўзабаве я накасіў поўны кош, аднёс траву ў хлеў, высыпаў у яслі і вярнуўся напаўняць другі.

– Не накошвай многа, завяне... – ласкава астудзіла мой імпэт Тарасаўна.

Так і надышоў час майго сыходу на раку.

Гэтым разам я скарыстаў параду гаспадыні і ўзняўся метраў на трыста ўверх ад прыстані, дзе была прымкнёна лодка. Я прыплыў акурат да таго месца, дзе на беразе ўзвышаўся помны Тарасаўне сасоннік, а цяпер – лапік высознага лесу. Тут уразалася ў бераг даволі вялікая і глыбокая затока, зручнае і ўтульнае месца лоўлі.

Але я не дужа верыў у поспех. Па-першае, затока была надта глыбокая, а ў такой куды цяжэй узрушыць шчупака, які затаіўся сярод камянёў на дне. Па-другое, у рацэ насупраць лесу, як я заўважыў, шчупакі наогул менш актыўныя, чым у якой іншай мясціне. Але хто ведае непрадказальны нораў рыбы, да таго ж Тарасаўна параіла...

І я распачаў лоўлю. Гусценька "абстрэльваў" затоку, абплываў яе наўзбоч і пачынаў лоўлю нанова. І так раз за разам, адвалаводзіўся гадзіны са дзве і, трэба сказаць, добра-ткі стаміўся. Перш за ўсё ад безвыніковасці занятку.

Але пад вечар мае намаганні ўсё ж акупіліся – я спаймаў нарэшце двух ладных шчупакоў і ў гуморы, як шчаслівы чалавек, вяртаўся дахаты.

А па вяртанні адразу ўзяўся чысціць ды трыбушыць рыбу: аднаго шчупака пасмажыць, а з другога зварыць юшку.

І зноў заўважыў, як здзіўлена і захоплена пазірала на мяне Тарасаўна. А мне ўжо стала крыху няёмка ад такой матчынай увагі, і я падумаў, ці не наўмысна, хоць і не ўсвядомлена раблю падставы для гэтага пачуцця Тарасаўны.

Мае думкі раптам перапыніла Мікіціха, суседка, якая прыйшла на вечаровыя пасядухі.

– Ну, Тарасаўна, якая ў цябе сёлета цыбулька ўрадзіла – як заўсёды ці, можа, дробненькая, як у мяне? – пачала яна з парога.

– А зірні сама, вунь кошык у калідоры стаіць. Не заўважыла?

Калі Мікіціха выходзіла ў калідор, Тарасаўна па-змоўніцку зірнула на мяне, усміхнулася і даверліва прашаптала:

– Зайздросніца... – пры гэтым вочкі яе былі хітрыя-хітрыя і, здавалася, іскрыліся ад задавальнення.

– Харошая цыбулька, буйная, залацістая, галоўка да галоўкі... Ну ведама ж, столькі часу скурчаная над ёй прастаяла, і настоенай на гноі вадой палівала, і глебу часценька ўзрыхляла... А палола – колькі разоў, не падлічыш!.. – ні то скардзілася каму, ні то нахвальвала Мікіціха.

А тады асобна, звяртаючыся да мяне, дадала:

– Яна ж імкнецца да апошняй зёлачкі ачысціць лешку, каб расло толькі тое, што сама пасадзіла. І больш нічога! Чыстая зямелька...

– Ага, як неба ў пагодлівы дзень, – перапыніла яе Тарасаўна. – А табе хто перашкаджае?!

Я тым часам спытваў юшку, якая даходзіла на пліце, і, смакуючы, зрабіў такі рашучы глык, што ледзь не абпаліў у роце.

* * *

Як толькі Мікіціха пайшла дамоў, мы з Тарасаўнай перайшлі ў свой аблюбаваны куток. Яна ўладкавалася ў крэсле і, то здымаючы, то няўмела насоўваючы на нос, як прыкрую надакучлівую рэч, акуляры, узялася за вязанне рукавічак на зіму. Каб прадоўжыць учарашнюю размову, я ўзяў альбом, які так і ляжаў на століку перад канапай, перагледзеў колькі фотаздымкаў і міжволі пачаў узірацца ў выяву спраўнай кабылкі на апошняй старонцы. “І чаму яна так прываблівае, нібы самая галоўная ў фотаальбоме...” – з прыкрасцю падумаў я.

Маю ледзь прыкметную збянтэжанасць заўважыла Тарасаўна і сказала:

– Падабаецца кабылка? Яна, спраўная, жывая, у свой час усім падабалася, асабліва мне і тату. А каб ты ведаў, у нас не адна яна, а чатыры канькі былі! Тры аратыя і пані “Зорачка” – ездавая. Во колькі! Да 1930-га года наша сям’я была добра заможная...

– А чаму менавіта да гэтага года? – спытаў я.

– Ай, хіба ты не ведаеш... Калектывізацыя ж пачалася, людцаў у калгасы ўзяліся гуртаваць. Дайшла чарга і да нас. Спачатку ж было, што ні вёска – то калгас. Дык і ў нашыя Курашчане агітатары прыехалі. Спачатку так, злёгку пужкай невялікага страху, а дзе звабаю на словах у шчыльную чародку людцаў залучалі, абяцанкамі заманьвалі. Сход устаноўчы правялі, маўляў, усё добраахвотна. Вось на тым сходзе і выступіў тата. Уважліва выслухаў расповед пра новае шчаслівае жыццё, а тады вазьмі ды скажы: “Дык гэта ж тое самае рабства!” Як адрэзаў. Просты, без хітрыкаў, шчыры быў чалавек!

А пасля гэтага ўсё пайшло як па-пісаным. Знайшліся “добразычліўцы”, якія, можа, і пад дыктоўку, з чужых слоў, бо ўсё загадзя было вырашана, напісалі на нашу сям’ю даносы, якія трэба было. І мая радзіна ўвобміг з рупных апантаных работнікаў, што ўсе прызнавалі, ператварылася ў сквап-

ных, заграбастых кулакоў. І людзі, не ўсе, вядома, пачалі адварочваць ад нас галовы на вуліцы. Страх – найлепшы падказчык, як сябе паводзіць, якой стараны трымацца. Ці нават пагроза страху, якая ўжо адчувалася ў паветры, як надыходзячая навальніца.

Ды што казаць, калі дні праз два прыехаў на наш падворак вершнік-чырвонаармеец. Помню, малады такі, высокі, у шэранькім шыняльку, страката аздобленым чырвонымі ўстаўкамі.

Маладзён сціснуў тату вяроўкаю рукі ў запясці і вось так, як палоннага ў даўнія часы, павёў за канём у Сураж. Мусіць, баяўся, каб не збег. Такія выпадкі, як я цяпер ведаю, ужо былі.

Глядзела я ў акенца і плакала, плакала гаручымі слёзкамі...

– А што, бацьку так і не адпусцілі? – усхваляваны, спытаў я.

– Чаму ж, адпусцілі... праз пятнаццать гадкоў з Калымы вярнуўся. І было гэта ў помным 1946-м годзе, калі ў душах людзей яшчэ і на грамульку не ачахла вялікая радасць Перамогі... А хочаш, раскажу табе, як падчас вяртання сустрэліся тата Тарас і матуля Пелагея?

Я быў узрушаны гэтай прапановай. Яшчэ б! Па ўсім было відаць, што Тарасаўна прызнала мяне ўважлівым слухачом і вырашыла даверліва доўжыць і доўжыць свае ўспаміны. Можа, і таму, што ведала – гэта ў нас апошні вечар нязмушанага, шчырага і шчодрага сумоўя, бо заўтра я паеду дамоў.

– О, вядома, расказвайце, расказвайце, гатовы слухаць хоць да раніцы! – адказаў я сваёй суразмоўцы.

– Ну добра. Пасля вызвалення з лагера бацька паехаў дамоў праз Ленінград – там жа стала жыў яго брат Анатоль. З яго дапамогай набыў там акуляры. Яны былі патрэбныя яму не столькі дзеля зроку, колькі для прыхарошвання аблічча: на Калыме ён страціў вока, прапароў падчас лоўлі рыбы ў лагернай арцелі, дык і выцекла. Павязку давялося насіць. Але яна дужа замурзацілася, а за акулярамі хіба на твары куды менш бачная. На поездзе ж ехаць. Далікатны ён у мяне быў.

Не ведаю, ці пад'язджаў тата з Віцебска ў бок Суража на якой спадарожнай машыне, але адкуль ім, машынам, было быць у першы пасляваенны год. Мяркуючы па ўсім, ішоў пешкі і не бальшаком, а напрасткі, бо Сураж абмінуў, зрэзаў кут і выйшаў на бераг Касплі, акурат насупраць сваёй вёскі. І трэба ж так здарыцца, што ў гэты час мама паласкала бялізну ў палонцы. Бацька перайшоў па лёдзе да яе і спыніўся А каб не збянтэжыць сужанку, паздароўкаўся і пачаў здалёк: "А як у вас тут маецца Хведар Раманоўскі, ці вярнуўся з вайны?" – спытаўся ён пра свайго стрыечнага брата. Мама, не ўзнімаючы галавы, сказала, што вярнуўся, жывы, дзякаваць Богу, ліпіць, як усе. А тады, мусіць, кальнула ёй у душу даўнейшая згадка, яна ўзнялася ў повен рост і ўгледзелася ў незнаёмца. Схуднелы чалавек у акулярах, якія ў ваколіцы ніхто не насіў, здаваўся ёй зусім незнаёмым, немаведама з якога краю. "Пелагея, ты мяне не пазнаеш?!" І тут яна пазнала яго па голасе.

Абняліся моцна-моцна, абцалавалі адно аднаго і абое заплакалі.

* * *

Спускацца па прыступках памяці гэтак жа зморна, як і ўзнімацца па лесвіцы мары на агледзіны звабнай будучыні. Мы з Тарасаўнай гаманілі

ўжо амаль дзве гадзіны і добра-ткі стаміліся, асабліва яна, як я заўважыў. Успаміны ж яе, нібы цяжкія камяні, як падняць. Каб хоць чым перамежыць нашу гаворку, я папрасіў сваю гаспадыню згатаваць нам чаю, хоць, прызнацца, піць яго не дужа хацелася. Але ж трэба было чым-небудзь заняць Тарасаўну, каб зрабіць ёй палёгку. І яна з ахвотай адгукнулася на маю просьбу.

А калі ўзялі ў рукі кубкі з духмяным напоем, мы зноў падоўжылі нашу размову, бабуля распавядала, а я слухаў згадкі даўнейшых гадоў.

– А дзе па вяртанні ўладкаваўся на працу ваш тата? – спытаў я сваю суразмоўцу.

– А дзе ў той нішчымны год, калі паронікі людзі адзін перад адным з зямлі выкалупліваалі, можна было ўладкавацца? У калгас пайшоў. Цяпер яго ўжо прынялі, а вось яго душа не прымала калектыўнага ладу жыцця. Аніяк. І ён не хаваў гэтага. Смела жыў не па заведзеным тутэйшымі людзьмі парадку, а на свой лад.

Аднойчы позняй восенню атрымаў ён ад брыгадзіра загад разам з іншымі мужчынамі закопваць бульбу на зіму ў вялізны бурт. Гэта быў другі ці трэці пасляваенны год, трохі пачалі ўжо абжывацца, і бульба нішто сабе ўрадзіла на добра адвыклай ад ворыва зямельцы. Дык вось, мужчыны папрацуюць трошкі і садзяцца на перакур. А тата не выпускае з рук рыдлёўку, капае і капае, ускідвае на салому, якой абклалі бульбу, зямельку. Дарма, што ён не курыў, мог бы проста пасядзець ды пагаманіць з аднавяскоўцамі... Не! Усё адно як заўвагу ім рабіў: маўляў, рупненька трэба працаваць, а не пакурваючы! А ўвечары новы выклік. Як толькі сыходзіў час, бацька на рабоце і на пяць хвілін не затрымліваўся: рыдлёўку на плячо – і дадому.

– О, дык, мусіць, яго не любілі ў грамадзе...

– Ведама ж, колькі раздражнення і злосці ад такіх паводзін на донцах душаў аднавяскоўцаў загусцела... А што яму з гэтага! Яму, інакшаму, таму, хто наглытаўся атрутнага калымскага паветра.

Для таты важна было давесці людзям і самому тройчы пераканацца ў тым, што ён не кляймёны, ніякі не кулак, а проста шчыры працаўнік-руплівец. Гэта была яго невыводная мэта, дзеля дасягнення якой ён выкарыстоўваў кожную магчымасць.

– Праўда?..

– Анягож! Ён дужа любіў маю старэйшую дачушку, сваю ўнучачку Вольгу. Калі па якіх справах прыязджаў у Віцебск, дзе мы жылі, дык абавязкова заходзіў у школу да Вольгі. Толькі спярша не ў яе клас ці ў настаўніцкую, а да галоўнага настаўніка – дырэктара. У шапцы-вушанцы, цяжкім сялянскім кажуху, у самаваленых валёнках – і адразу на другі паверх да галоўнага: "Ну, як тут вучыцца мая ўнучка?!" Адчуваў сябе адказным за яе лёс, спадзяваўся на яе розум. А дырэктар быў чалавек з народа. Дзівіўся з таты і быў да яго дужа прыветлівы: чаем частаваў, пра жыццё распытваў ну і, вядома ж, пра Вольгу расказваў. Балазе было што сказаць пра добрую вучаніцу. Во як было...

І раптам Тарасаўна ўсхапілася:

– Ой, я ж хрушчыкаў з макам адвячоркам да твайго вяртання напякла! А потым забылася на іх за работай і цяпер вось – да чаю падаць не ўздумала, – і яна рушыла ў трысцен па пачастунак.

А калі вярнулася, бадзёрачыся, сказала:

– А ты, Сярёжа, не думай, я ж таксама рэабілітаваная на пачатку

1990-х гадоў, як і мой тата... – ні то пахвалілася, каб лягчэй было, трохі па-тэатральнаму, праз сілу, пераадольваючы сваю горыч, ні то паскардзілася Тарасаўна.

– Маму ж з двума дзецьмі саслалі аж у Комі, у прыўральскую далячынь. А на ручках у яе чатырохгадовая дачушка – гэта я і сынок гадавалы, брацік мой Віктар. Сельсаветчыкі, можна сказаць, падчысцілі за бацькам ацяробкі. А ўсё ж нават і ў тыя гаротныя гады ўлада была не цалкам людажэрная. Нашы родныя куды толькі зноў і зноў не пісалі слязлівыя пісьмы: людцы родныя ўладарныя, дзеля ўсяго святога, пашкадуйце адзінокую, гаротную маці з двума маленькімі дзеткамі на руках! Ты не паверыш, праз паўтара года нас з мамай адпусцілі.

Тарасаўна падліла сабе з імбрычыка чаю і падсунула да мяне талерку з хрушчыкамі.

– Ой, Сярожа, каб ты ведаў, якой бывае радасць вяртання ў маленькім узросце, калі яшчэ нічога не ведаеш пра радзіму, пра родныя карані... Помню, забаўлялася каля хаты ў мякенькім пясочку разам з курамі, а прыходзіць да нас татава швагерка, баба Хрыстына. Як толькі ўбачыла мяне, тут жа падышла, прыціснула да сябе, абцалавала: "А Валечка ты мая родная, вярнулася, дзяўчынка, красачка мая... Валечка..." – і давай частаваць мяне з кішэні амаль такімі ж хрушчыкамі, якія ты цяпер ясі. Адно што зусім не сонечнымі, а цьмянымі, бо не з пшанічнай, як гэтыя, а з жытнёвай і не надта якаснай мукі. А ўсё адно дужа смачнымі былі для мяне тыя хрушчыкі як ласунак. А словы яе: "Валечка мая родная..." – і па сёння, здаецца, стаяць у вушах званочкамі ценькімі, залатымі... Крані, як з табой сёння, – і пальецца з іх радасць. Вось так далікатна засведчыла і зацеміла баба Хрыстына тады маё вяртанне – ласкавым голасам, шчодрай лагодай... Хоць я ў той час і не разумела, адкуль вярнулася. Адно што ведала: прыехала здалёку з матуляй.

І, дарэчы сказаць, гэтыя хрушчыкі, – Тарасаўна паказала на талерку, – я, калі пачала дзеўчыцца, навучылася пячы ў бабы Хрыстыны. Яе навука... – уздыхнула Тарасаўна. – А ці смачныя хоць? – звярнулася яна да мяне трошкі нясмела і крыху збянтэжана, усё адно як сарамліва просячы прабачэння: маўляў, даруй што напрошваюся на пахвалу. А я ў сваю чаргу пашкадаваў, што не падзякаваў раней за печыва, якое і для мяне было надзвычай смачным ласункам.

– Праўда, не толькі слодыччу сустрэў мяне ў той год родны кут, але і горыччу, – прадоўжыла расповед Тарасаўна. – Па прыездзе аднойчы з мамай мы паехалі ў Сураж. І проста не змаглі абмінуць выстаўку дасягненняў мясцовых калгасаў – яна займала ўвесь цэнтральны "пятачок" пасёлка ды яшчэ пераходзіла на вулкі, якія да яго прылягалі. Дык мы з мамай, праходзячы да фельчара, міжволі разглядалі аблавухіх свіней, круглярогіх, густа аброслых поўсцю баранаў, і раптам усё адно як грымота на ўсё неба: і-го-го-го-го!.. І такім знаёмым конскім голасам, што немагчыма было спужацца. Мы зірнулі ўбок – і ўбачылі ў стойле са свежа абструганых тоўстых жэрдак нашую Зорачку. Яна бегала ад агарожы да агарожы, мітусілася, відаць, пазнала нас, у тым ліку і мяне. І мне так захацелася ў гэтае імгненне мець на сваёй далоньцы скібачку хлебца ды падысці да сваёй улюбёніцы! Але матуля прыхінула мяне да сябе ды пачала адціскаць убок: "Ціхуткі, дачушка, ціхуткі, пойдзем адсюль, не нашае гэта свята, не нашае... Пойдзем!" З цягам часу я зразумела, што

маці баялася, каб начальнікі не прызналі ў ёй былую гаспадыню слаўнай кабылкі – яшчэ што надумаюць небяспечнае... Неўтаймоўны страх гнаў яе прэч – і азірнуцца не ўздумай! Але ж я, маленькая, тады зусім не разумела маміных перажыванняў, бо мае былі не менш, а, можа, нават больш балючыя. Ну чаму, чаму я не магу падысці да Зоркі і ўсяго толькі пакратаць далонькай яе цёплыя мяккія губы?!. А замест гэтага толькі чую поклічнае нецярплівае, на ўвесь свет, іржанне. Праз гады яно не сціхае.

* * *

Назаўтра, нягледзячы на тое, што позна лёг, я ўстаў на досвітку. Трэба было дбайна прыладзіцца да рыбалкі, якую я наважыўся зрабіць галоўнай падзеяй тыдня. Хоць гэта, па праўдзе, заўсёды ў значнай меры і без якіх-кольвечы адмысловых намаганняў спраўджваецца, калі намеры сагрэты натхненнем. А яно было. Я вырашыў больш не спрачацца з Петраком, да таго ж завочна, не даказваць яму, чый спосаб лоўлі лепшы, тым больш не перайначваць сябе, і прытым добраахвотна, на чужы капыл. Я вырашыў, што сёння праплыву, спінінгуючы, які кіламетр уніз па рацэ па волі плыні. Было трохі непамысна, што адступіў ад ранейшай задумы, але калі даеш нырца ў цёплыя хвалі корці, пра ўсё забываеш. І я пайшоў да дзеда Змітрака, каб узяць у яго вёслы, з якімі не тое што з шастком або з адным сваім вяслом, лацвей плыць нават уверх па рацэ. А вяртацца ж трэба будзе!

Праз колькі хвілін я быў на беразе ракі, дзе па апісанні гаспадыні прыкладна вызначыў месца даўнейшай сустрэчы Тараса і Пелагеі. Трохі пастаяў, абапёршыся на вёслы, і падумаў аб нястомным сусветным сцэнарысце, які рашуча абагульняе сюжэтныя каленцы людскіх утрапёных узрушэнняў: помныя сустрэчы, напрыклад, зазвычай адбываюцца на берагах рэк, сярод бухматых зялёных ці аблепленых шэранню вербалозаў, як у нашым выпадку. Можа, таму, што ўсе плыні, у тым ліку і плынь сардэчных пачуццяў, маюць патаемнае сугучча, а таму няхай сабе не вельмі моцнае, але затое існае ўзаемапрыцягненне, думаў я.

Але час ішоў, і пара было адплываць. Я сцягнуў з пясчанай касы лодку і выплыў на хуткую плынь: вось яно, маё нязмушанае прыкрымі думкамі асяроддзе, мой лёгкі да нядаўняга часу лёс!

Пасля хуткага перакату плынь лагодна запаволілася і набыла звабны, асабліва пад навісаючымі хмызамі, спакой. У такіх прыўкрасных для рыбацкай душы мясцінках заўсёды хочацца закінуць блешню. А я ж рэдка калі абмінаю спакусы.

Не абмінуў і на гэты раз – закінуў блешню, хоць і ведаў, што шчупакі тут не водзяцца – пераконваўся неаднаразова. Тым не менш “адзначыўся ў адмысловым журнале рэгістрацыі”, які спрадвеку заведзены рыбацкім лёсам.

Я спускаўся ўніз ды зноў і зноў, па сутнасці бесперапынна, “абстрэльваў” прыбярэжныя чараты і лопухі, дзе прыцэльна, а дзе шырокім захопам, цягнучы блешню або якую іншую прынаду ўздоўж сценкі чаратоў або па краі паросла͏й лапухамі затокі.

Якраз каля такой невялічкай затокі насупраць вёскі Шапуры і падчапіў я важкага – нагуляў звыш трох кілаграмаў – шчупака. “Катлетнага”, як называе такіх рыбін мая жонка.

Праз колькі гадзін па небе паплылі невялічкія, але, здавалася, нацваглыя вільгаццю аблокі. Ды і вецер змяніў накірунак і ўзмацніўся. “Пры вяртанні назад будзе дзьмуць акурат насустрач”, – падумаў я, а неўзабаве і пераканаўся ў гэтым, бо пачаў узнімацца ўверх па рацэ. Ну так, вецер у дадатак да супраціўлення плыні – яшчэ адна перашкода руху.

Але хутка я пераканаўся, што гэта мяне не не вельмі засмучае, бо вёслы ўсё адно надавалі лодцы даволі хуткі трывалы ход.

Я, праўда, не проста плыў назад, але спыняўся ў прыгожых звабных мясцінах ды зноў закідваў спінінг. І нездарма! Непадалёк ад Курашчанаў мне ўдалося спаймаць яшчэ аднаго шчупака, даволі важкага, не менш кілаграма, і я быў дужа ўсцешаны.

Праз якую гадзіну лодка зашаргацела днішчам па пяску знаёмай, а цяпер яшчэ і помнай прыстані.

* * *

Дахаты я крочыў з лёгкасцю і нават, можна сказаць, з натхненнем – было чым пахваліцца перад Тарасаўнай.

А сцяжынка вяла якраз на гарод маёй гаспадыні. Я ўбачыў яе адразу, як толькі ўзняўся на берагавы ўзвалак.

Тарасаўна ператкопвала лешку, бо надумала на месцы цыбулі пасеяць позні радыс. Я прывітаўся з ёй, бо на золку мы не бачыліся, і сказаў, што нам трэба развітвацца – неўзабаве я ад’язджаю.

У калідорчыку я выклаў у тазік са сваёй торбы шчупакоў, якімі добра ўсцешыў Тарасаўну.

– Насупраць сасонніка лавіў, там, дзе я казала? – з прыемнай усмешкай спытала яна.

– Амаль што... – усміхнуўся я ў адказ.

Мне хацелася пакінуць Тарасаўне ўсю сваю здабычу, але яна рашуча выказала сваю нязгоду.

– Што ты, дзетка! Вязі дамоў!

Я настойваў, і нарэшце яна трошкі саступіла.

– Ну добра, меншага шчупака я вазьму, а вялізнага вязі дамоў – і ні слова суперак! У цябе, сталага рыбака, мусіць жа, жонка гатуе шчупачыныя катлеты, а гэты якраз тое, што трэба для такой стравы.

– Гатуе, і няблага, – паныла сказаў я, а сам з прытоенай усмешкай падумаў: “Не горш, чым Петракова Алена чабурэкі!”, але змаўчаў, вядома, бо Тарасаўна была тут ні пры чым.

На гэтым пагадзіліся, і я паклаў у багажнік сваю львіную долю.

* * *

На развітанне мы пасядзелі на лавачцы пад кашлатым клёнам, які ўжо пачаў скідваць долу сваё прыгожае, як надыходзячая восень, лісце. Сядзелі і маўчалі: маўчаць бывае дужа хораша і гаюча для душы.

Але нарэшце я не вытрымаў і сказаў:

– Тарасаўна, а я здагадаўся пра ваш даўні штодзённы жыццёвы план, як мне здаецца...

– Ну? – зацікаўлена глянула на мяне мая гаспадыня.

– Вы сваімі агародніцкімі поспехамі ўсё адно як паказваеце аднавяс-

коўцам: маўляў, паглядзіце, якія ў мяне чырвоныя памідоры, адзін у адзін гурочкі, якая морква ўрадзіла і капустка беленькая круглабокая, і нават кроп сцяной шуміць! Калі трэба, прыходзьце і абламвайце сабе пахучыя зялёныя лапкі. Вы, па сутнасці, доўжыце маўклівы рэй, які вёў з людзьмі ваш працалюбны татулька, сцвярджаеце, што толькі нястомная праца з'яўляецца падмуркам узвышэння вашага роду...

– Ай! – страпянулася Тарасаўна. – Адкуль ты ведаеш?!

Я маўчаў і толькі з асалодай назіраў, як запраменіліся яе зморшчынкі каля вачэй і наогул засвяціўся ўвесь твар, азораны нястрымнай усмешкай.

Яна ў гэты момант, я перакананы, была шчаслівая...

* * *

Перад маім ад'ездам Тарасаўна схадзіла ў кладоўку і вынесла ладны маток акуратна сплеценай, чысцюткай, сонечнай, як яе ўсмешка, цыбулі. А тады падышла і павесіла яго мне на шыю, нібы індыйскую кветкавую гірлянду *мала*, якая з'яўляецца сімвалам павагі, любові і радасці.

## Дзень першы, дзень святочны...

*Сябру Пятру Гамзюку*

Юрасю Крыпсу аніяк не ўдавалася спланаваць заўтрашні дзень, які меўся быць не будзённым, а напоўненым выпеленай на працягу доўгіх месяцаў радасцю. Такі помны дзень у асабліва шчаслівых людзей, якімі з'яўляюцца рыбаловы, бывае штогод, а больш дакладна – адзін раз на год, як дзень народзінаў. Для многіх ён якраз такі высокі кшталт і мае.

Раней Юрась планаваў падзеі святочнага дня разам са сваім сябрам, таксама апантаным рыбаловам Васілём, але сёлета той з'ехаў у Галандыю закупляць племянных куранят... Неадкладная, прыспешаная грашовай рызыкай паездка прыпала акурат на пачатак чэрвеня. Не ўлічыў заюшаны клопатамі фермер, што немінуча і даволі хутка набліжалася адкрыццё летняга рыбалоўнага сезона, святкаванне якога яны з Юрасём песцілі ў думках з мінулагодняга лістапада, пачатку снежнай зімы. Васіль планаваў хуценька крутануцца за мяжу і назад, каб паспець на свята. А вось жа, на табе, не паспеў, не вярнуўся...

Пры Васілю падрыхтоўка да адкрыцця рыбалоўнага сезона незаўважна ператваралася ў своеасаблівы, на дзве асобы мітынг. Васіль – завадатар, прамоўца, Юрась – шараговы ўдзельнік, у асноўным – маўклівы слухач.

"І што яны сабе думаюць! – запальчыва прамаўляў Васіль, маючы на ўвазе ўрад і парламент. – Перанеслі ў свой час адкрыццё сезона з канца мая на пачатак чэрвеня! Куды ўжо ж пазней! Да цвіцення вады ў спякотныя дні хіба што адкласці...

Ну няхай сабе абмежаванні, забаронена лодку на ваду спускаць, можаш з ахвоты толькі закідваць спінінг з берага. Але ж якая сярдзітая строгасць: каб ногі пры гэтым стаялі на сухенькай зямельцы, у ваду і на крок не ўздумай увайсці, ды што ўвайсці, падэшвы ботаў бойся замачыць! Рыбалоўны інспектар строга назірае..."

"Анягож..." – прымаў сяброўскае абурэнне і ўзрушаны Юрась.

“Шчупакоў нашыя зацятыя ахоўнікі прыроднага багацця, мусіць, царрыбай прызналі... Смеху варта! Але ж так выглядае...”

“Падобна, падобна на тое...”

“Здаецца, і гучанне званоў царкоўных падчас шчупачынага нерасту гатовы забараніць, каб паветра не ўскалыхвалі, рыбу не ўзрушалі... Маўляў, калі настае час прыроднай таямніцы, сам Госпад спакой вітае! Цары былі ўпоравень з Богам, а цяпер і яны, нашыя амбітныя стваральнікі жыццёвых правіл, гатовы да нябесных вышынь прымерацца, каб сваю “цар-рыбу”, шчупакоў іржавых, не толькі захаваць, але і памножыць шматкроць... Але пры гэтым цягаць блешні ды розныя глыбінныя воблеры за маторкамі, тралінгаваць дзеля неадольнага спакушэння водных драпежнікаў і не думаюць забараняць...”

“А таму што самі заканадаўчыя шышкі ў тыя лодкі штогод са спінінгамі ўсаджваюцца і скародзяць азёры ды рэчкі ўздоўж і ўпоперак...” – устаўляў сваё слова Юрась.

“Во-во! Скародзяць ды выцягваюць з глыбіні важкіх пародных ікранак! Разумееш, якая шкода племю шчупачынаму, якая па сутнасці пагроза трываласці яго поўнага аднаўлення?!” – раздзьмухваючы агонь свайго абурэння, рабіў выснову Васіль.

“Як у сук уляпіў!” – заўзята хітаў галавой Юрась.

На гэтым сябры звычайна завяршалі свой “мітынг” ды пачыналі абмяркоўваць, куды, на якое возера ці раку ехаць на рыбалку ў гэты, нягледзячы ні на што, усё адно маючы быць святочным заўтрашні дзень.

* * *

Ну вядома ж, перш за ўсё трэба ехаць туды, дзе не будзе надакучлівых тралінгістаў з іх натужлівым глухім балбатаннем лодачных рухавікоў, якія ледзь не захлынаюцца ад гранічнага змяншэння хуткасці абаротаў, з іх новенькімі, усё адно як наўмысна купленымі да гэтага дня лодкамі.

Як, скажыце, у такім тролінгавым гармідары цешыцца традыцыйнай спінінгавай лоўляй, няспешнай, грунтоўнай?

Замест яе цяпер распаўсюджваецца па сутнасці своеасаблівы тэхнічны від спорту на вадзе: на борце лодкі – дысплейчык прыбора па лакацыйным вымярэнні глыбіні вады і схематычным пазначэнні наяўнасці ў гэтым месцы рыбы... Зачапляй правераны воблер, уключай наймаруднейшую хуткасць рухавіка ды слізгай пакрысе па люстраной паверхні, спакушай адмысловай прынадай і ўзрушэннем вінтом вады няўцямнага шчупака, а надарыцца, дык і судака ці, нарэшце, вялізнага акуня...

Як нялюба глядзець на такіх ахвотнікаў налавіць рыбкі вычварэнскім, на думку хлопцаў, спосабам!

Іншая справа закінуць спінінг сваімі ручкамі, ды яшчэ пацэліць блешняй у вузкую прагалінку паміж чаратамі або лопухамі, дзе найбольш верагодны шчупачыны водгук! Во гэта клас, во гэта запамінальна, як у дзяцінстве бабуліна казка нанач.

Толькі такую рыбалку і любілі Юрась і Васіль.

* * *

Сёлета іх імправізаваны мітынг з нагоды адкрыцця рыбалоўнага сезона – няма сумнення – трохі задоўжыўся б. Дзявятага чэрвеня прыпала на

суботу, і Юрась быў упэўнены, што сябра на іх сумоўі абавязкова звярнуў бы на гэта ўвагу і зноў не прамінуў бы, няхай сабе зводдаль, завочна, але з рашучым імпэтам сярдзітасці кснуць уладу. Юрась лёгка ўявіў, што сказаў бы Васіль.

“Жмінды, скупенды, скугуты, уладнікі няшчасныя... – пачаў бы ён. – Адзін дзянёк заліп у суцэльнасці, і той пашкадавалі адлучыць! Хіба нельга было адкрыць рыбалоўны сезон не ў нядзелю, а ў суботу, перанесці адкрыццё рыбалкі на пачатак выхадных. Ну, супала так, дык саступіце трошкі, зрабіце крок насустрач шматлікай арміі рыбаловаў, дазвольце хлопцам пасля такога доўгага зімовага чакання здаволіцца абяцанай лёсам радасцю, дайце ім магчымасць на дзянёчак раней захлынуцца сваёй жарсцю!..”

“Ага, дачакаешся... – уставіў бы сваю кпіну Юрась. – Яны ж не раўнуючы як канстытуцыю ўважаюць заканадаўства аб рыбнай лоўлі, імкнуцца спраўджваць яго да апошняй літаркі, да апошняй косачкі... Хіба што пасля адмысловага рэферэндума можна якія-кольвечы змены ў гэты дакумент унесці... А лішні дзянёк са сваёй волі накінуць – ну, гэта, не! І не прасіце! І не чакайце! А раптам жор будзе несупынны, і вы, рыбачкі, таксама ненажэрныя, плойму шчупакоў пераловіце...”

Васіль з крыўдай у голасе дадаў бы:

“Ат, напляваць ім на нашыя пачуцці, на нашую захопленасць, нашае доўгае трыванне... Калі яшчэ тыя выбары надыдуць, каб яны ў нас былі трошкі зацікаўленыя – чакаць ды чакаць!”

Тут Юрась, добра стомлены ад Васілёвага аднастайнага ды і ў многім вядомага з мінулага года прамаўлення, пастараўся б суняць сябра, пачаў бы даводзіць яму пра асаблівасці дзяржаўнай службы, пра тое, што яна, нібы механізм гадзінніка: аслабіў разок спружынку – і пачнецца працяглы, ад якога потым цяжка пазбавіцца, збой у рабоце. І нават згадаў бы зацятага службоўца, свайго дзядзьку па матчынай лініі, які ніколі не дазваляў сабе ўзняць чарку разам з усімі на сямейнай сябрыне, калі назаўтра трэба было на працу: “З нясвежай галавой і за паперы брацца?.. Ну што вы, брацці!” – толькі і пачулі б.

* * *

Юрась сцепануўся ад згадкі свайго занудлівага дзядзькі і, каб перамяніць думкі, пайшоў на кухню па даўно падаспелы там чай. Прынёс у свой пакойчык размаляваны драконамі ўлюбёны кітайскі кубак. Напой ужо добра астыў, і цеплыня праз тонкую парцалянавую сценку кубка цадзілася на рукі ўсё адно як млявае святло са слабой матавай лямпачкі.

Дзіўна, але чаю Юрасю раптам зусім расхацелася, затое дужа заманулася падзяліцца ім, адліць каму паўкубачка... Каму? Ну вядома ж, Васілю.

“Але колькі можна яго згадваць?! – засердаваў сам на сябе самотнік. – Няхай ён, адрэзаны акраец, удалечыні цяпер сярод цюльпанаў нудзіцца і пісклявых куранят для ўцехі слухае. Ды і што адбылося б, каб у гэты момант ён быў тут?.. Ну разлілі б мы чаёк па кубачках, ну пачалі б сёрбаць яго раз-пораз і пры гэтым, як заўсёды, не ўтрымаліся б зноў і зноў, усё адно як выконваючы адмысловы рытуал, перабіраць у памяці найбольш прывабныя для заўтрашняй рыбалкі азёры і рэчкі. Ціёста, Оталава, Ула, Лучоса, Сіньша, Ліпна і ў дадатак невядома чаму шэптам – “возера

Шо-о-о...", з працяглым "о" на канцы. Згадвалі б іх на сваю галаву – для ўзмацнення скрушнага настрою ў выпадку няўдалай рыбалкі: "От, дурні! А маглі б на Оталава паехаць, як спачатку і наважваліся. А там людзі пацешылі душу – па тры-шэсць мерных шчупакоў спаймалі! Ды і на іншых азёрах..."

Пасля гэтых слоў хлопцы маглі б трохі счубіцца: "А я ж казаў табе на Оталава паедзем! Дык ты ж бліжэй да роднай вёскі памкнуўся, патрыёт. Вось і маем..." – абавязкова хто-небудзь з іх падкусіў бы сябра.

* * *

Аднойчы Юрась задумаўся: "А мусіць жа нездарма мы з Васілём штораз перад рыбалкай згадваем сваю чародку азёр, агучваем іх назвы, не столькі захопленыя ўяўленнем маючага адкрыцца рыбнага багацця, колькі прыгажосцю гэтых назваў, лёгкасцю іх вымаўлення – з языка самі злятаюць... І гэтае захапленне, можна сказаць, магічнае! Ні я, ні Васіль не маем ніякіх прафесійных адносін да мовы – мы ж не літаратары, не філолагі і не паэты, якія, мусіць, лепш за іншых ведаюць мову на смак, чуюць нават ледзь чутнае, як шолах лісцінкі, гучанне слова... А вось жа, як заваражыла нас слоўнае чарадзейства, не раўнуючы як сама рыбалка".

Ды і спрэчкі з Васілём, хто вінаваты ў памылковым выбары скупога на клёў возера ці рэчкі, здавалася, таксама былі наканаваны звышай.

"Можа, дзеля таго, каб мы ніколі не забывалі, як лёгка можна з-за свярблівай пыхлівасці сапсаваць здавалася б непарушныя ўзаемаадносіны, здратаваць сяброўства. Дык вось нам і штогадовая згадка-напамін для перасцярогі!"

Але было ў Юрася і Васіля адно рыбалоўнае прыпірышча, якое вызваляла іх ад такіх далікатных асаблівасцей падрыхтоўкі да адкрыцця рыбалоўнага сезона.

Рэчка Касплbackward, якая плыве паўз Смаленшчыну і Віцебшчыну, а таксама паўз душы сяброў, і непарыўна злучае іх жывой нітай.

Гайдаючыся на рэчцы ў сваіх гумавых чавёнках, яны нагадвалі вобразы аднаго беларускага мастака , які адлюстроўвае галовы людзей у выглядзе рыбалоўных паплаўкоў. Скажы пра гэта неабазнаным у жывапісе Юрасю і Васілю, дык яны былі б усцешаны, хоць маглі б і наіўна запытаць: "А чаму паплаўкі, а не блешні?"

Вяртаючыся з Касплі, незалежна ад вынікаў рыбалкі, нават калі торбы былі пустыя, хлопцы стараліся трымаць пад сподам сваю незадаволенасць – як і не было яе. І спрэчку пры гэтым – "...трэба было ехаць на якое возера, наогул у іншае месца" – ніколі не ўзнімалі. Як яе ўзнімаць, калі душы напоўнены асалоднай прыгажосцю затокаў, разгайданых ветрам чаратоў, струнным пераборам звонкіх перакатаў ды асабліва таямнічым маўчаннем віроў...

І ўсе гэтыя пазнакі касплянскай прыгажосці былі ўсмактаны і прызвычаены да шчаслівага ўжытку зачараванымі душамі хлопцаў. А над усім панавала жарсць лоўлі!

На Касплі хлопцы, калі былі яшчэ куды маладзейшымі і не надта спрактыкаванымі спінінгістамі, са свайго тамтэйшага досведу самі пераканаліся, што шчупакі спакушаюцца на іх блешні або воблеры ў асноўным падчас узрушэння, калі яны не затоены ў водарасцевым зашчамленні, чакаючы

здабычу, а скрануліся з месца і скіраваліся ўверх, супраць плыні, каб на зіму загадзя дастацца да мясцін блізу помных нерасцілішчаў. Ці, наадварот, пакуль хапае часу – сыходзяць уніз, да бліжэйшага цёплага прытоку, дзе на водмелі разняволена гуляе мальга і можна ўволю, да адчування, што бакі дастаткова пакруглелі, ад'есціся гэтым спажыўным шчупаковым далікатэсам. Рыбаловы прыбярэжнай вёскі аднойчы такой шчодрай парой, успамінаў Юрась, толькі рукамі разводзілі: "От жа, шчупачок гуляе, дык гуляе!.. А палавіць яго некалі за калгаснай касьбой-малацьбой..."

Так надаралася ў тыя маладыя гады, што, дзякуючы шчасліваму лёсу, хлопцы траплялі на Касплю акурат падчас шчупаковага ўзрушэння і штораз вылоўлівалі па чатыры-пяць важкіх рыбін. Было гэта звыш трох дзесяцігоддзяў таму, калі на спінінговых шпулях Юрася і Васіля яшчэ была наматаная лёска, а не пляцёнка; у іх прыстасаваных да захавання рыбалоўных прынадаў невялікіх пушках ляжалі колькі традыцыйных, айчыннай вытворчасці і самаробных блешняў, а пра адмысловыя скрынкі, наладаваныя фірмовымі воблерамі і сіліконавымі прынадамі, у тым ліку і так званымі ядомымі, і гаворкі не было!

Каб не Каспля, яшчэ невядома, ці ўкараніўся б з такой нязломнай сілай у душах сябрукоў запал на лоўлю шчупакоў.

Рэчка ж зноў і зноў, амаль на кожнай рыбалцы, здавалася, усё адно як наўмысна, усё адно як адмысловымі бруйкамі накіроўвала да іх прынадаў шчупачкоў.

І прысак іх рыбацкай жарсці зноў займаўся жвавым, абяцаючым высокае полымя агеньчыкам.

* * *

Як даўно гэта было... Юрась зачыніў сваю рыбацкую скрынку, у якой толькі што ў чарговы раз пераклаў па ячэйках блешні-круцёлкі, блешні-гайдалкі, воблеры кароценькія, як вяртлявыя маляўкі, і доўжанькія, якія нагадваюць сабой тлустую блішчастую ўклейку, адставіў скрынку да рэчаў, падрыхтаваных да ад'езду, і выйшаў на балкон. Мімаходзь зірнуў на дысплейчык мабільніка: "Дзве гадзіны ночы, і не згледзішся, як надыдзе пара ўставаць... Але ж якое "ўставаць", калі не клаўся яшчэ... – падумаў Юрась і раптам перасмыкнуўся: – Ат, усё адно як дакараю сябе за сваю даўнюю звычку..."

Напярэдадні шчаснай падзеі Юрась ніколі не мог своечасова заснуць, усё адно як у дзяцінстве, калі край баяўся праспаць абяцаную радасць.

Апроч таго, кожная рыбалка пачыналася для яго напярэдадні вызначанага часу – у думках, згадках, успамінах, ва ўяўленні абяцаных падзей...

"Але ж каб толькі мяне так курчыла, дык можна было б падумаць, што дзівацтва, мятлікі ў галаве лётаюць... У Васіля ж тое самае, і яму не спіцца, напэўна, і цяпер".

Юрасю раптам захацелася патэлефанаваць сябру, каб хоць крышку развеяць сваю і яго маркоту, і ён нават звыкла крутнуў у далоні мабільнік, але тут жа зніякавеў ад усведамлення тэлефоннай недасяжнасці для яго Галандыі і яшчэ больш замаркоціўся. Звычайна такой нясцерпна доўгай ноччу напярэдадні адкрыцця сезона ён перамаўляўся з Васілём колькі разоў і яшчэ разок – перад самым ад'ездам.

"Ат, даліся яму тыя кураняты!.." – нахіліўся над сталом і падпёр цяжкую галаву рукамі Юрась.

* * *

Ноч дыхала цішынёй. Юрасю нічога ўжо не хацелася – ні працягваць парадкаваць-раскладваць (а гэта можна рабіць бясконца) прынады, ні згадваць што-небудзь прыемнае з рыбацкага мінулага, ні спаць.

“Застанецца якіх пару гадзінак, тады змяжу вейкі...” – падумаў ён і, каб напоўніць душу хоць якім, нават сумнеўным супакаеннем, вырашыў пайсці пакурыць. Устаў з крэсла, пахлопаў сябе па баках, як звычайна робяць курцы, каб у чарговы раз пераканацца, што цыгарэты ды запальнічка на месцы. Але замест гэтага Юрась пераканаўся толькі ў тым, што на ім апранутыя да болю ў пячонцы абрыдлыя спартовыя нагавіцы, сяк-так асвоеныя ім для паўсядзённага хатняга ўжытку, штаны, у якіх не было... кішэняў.

Тут да месца будзе сказаць, што Юрасю не шанцавала на жонак.

* * *

Амелія была ў яго другая жонка пасля Кацярыны, і час няўмольна пачаў пацвярджаць, што і гэтая суджанка амаль такая ж няўдалая, як і першая. Адкрыць душу ёй у шчырай размове – і не думай; праўда і апошняе слова – толькі за ёй; хаця б на слабую, як памылка статыста, верагоднасць прызнання сваёй магчымай слушнасці – забудзь; пранікнёнай, далікатнай як дробненькая дрыжачка чуллівасці падчас любошчаў не чакай часта. Разлічвай хіба што на ледзь пазначаную ў куточках губ усмешку асалоды, якую яна з усяе сілы стрымлівае, каб не зусім адкрыцца, як ёй здаецца, у безабароннай слабасці... І май на ўвазе: разам з пазначкай асалоды ў нястрымнай усмешцы для цябе слаба выявіцца ў куточках губ і такая ж прытоеная пазначка фанабэрыі! А гэта ўсё адно што нечакана дакрануцца ў цемры да халоднага слімака! Дык ці лёгка, скажыце, жыць з такім чалавекам?!

Якраз жа Амелія і купіла Юрасю гэтыя вычварэнскія штаны без кішэняў. Прытым у дзень вайсковага свята! І добра ж ведала, што Юрась з прычыны плоскіх, як абгабляваныя дошкі, ступакоў не служыў у войску, бо вядома ж, не змог бы ў вайну (крый Божа!!!) спружыніста – менавіта! – выскачыць з акопа ці з якога іншага сховішча, каб, не шкадуючы жыцця, пабегчы ў атаку. Дык і не ўзялі хлопца ў войска.

І ён, як гэта ні дзіўна, быў задаволены, што ўчора ў чарговы раз добра-ткі пасварыўся з Амеліяй, і яна з’ехала ўпрочкі да сваёй сяброўкі. А інакш не дала б спакою, зноў і зноў дудзела б у сваю дуду: “Колькі часу ўжо, ведаеш?! Заўтра ўтомлены і спінінг свой узняць не зможаш, не тое што блешню ім шпульнуць куды трэба... Кладзіся, кажу табе!”

“Адчапіся, не назаляй!” – адмахваўся б ад зычлівіцы Юрась, а сам між тым падумаў бы: “А глядзі ты, турбуецца... І з захапленнем маім амаль змірылася. Можа, не ў ёй, а ў ва мне жорсткасці пад завязку, характар надта няўступчывы, дык і грызёмся раз-пораз... Ат, даліся мне гэтыя бескішэнныя нагавіцы...”

І Юрась, у якога раптам трохі праясніўся настрой, гайдануўся спінай назад, седзячы на канапе, адцягнуў падпяразальную гумку ў штанах і гучна пляснуў сябе па жываце: “Ну, няхай сабе і праўда, даліся ў знакі, бо адчуваеш сябе нібы злягчаным, нібы цалкам страціўшым мужчынскую годнасць: у руках – нічагусенькі, бо што патрэбнае дастанеш з кішэняў, якіх няма, нібы ў бязважкасці касмічнай маешся...”

“Але ж і Амелія не ва ўсім вінаватая...” – раптам памякчэў хлопец.

* * *

Горад, дзе ён жыў, славіўся гіганцкімі фабрыкамі лёгкай прамысловасці, пабудаванымі яшчэ ў першыя пяцігодкі. З пачаткам перабудовы, нібы атожылкі ад камлістага дрэва, адна за адной пачалі адчыняцца тут розныя швейныя майстэрні прадпрымальнікаў, у тым ліку і тыя, што шылі мужчынскае спартыўнае "штанеўе".

Адно з такіх нанова заснаваных прыватных прадпрыемстваў узначаліў добра цёрты на жыццёвых тарках чалавек перадпенсійнага ўзросту, колішні кіраўнік вялізнай швейнай фабрыкі. На заснаванай ім вытворчасці і пачалі шыць штаны без кішэняў, якія з нагоды і купіла Юрасю Амелія.

Пажылы прадпрымальнік, як ні дзіўна, вызначальнай рысай вытворчасці лічыў заўсёдняе імкненне да найвышэйшай, можна сказаць, бездакорнай якасці прадукцыі. Каб як толькі адстракоча машынка, на якой пашылі нагавіцы, чалавеку тут жа захацелася б апрануць іх, нібы тыя амерыканскія джынсы. "Во, гэта шытво!" – лічыў дзед-прадпрымальнік, які сам, дарэчы, толькі фірмовыя джынсы і насіў і ў буднія дні, і ў святы.

Але дужа помным, як і ўвесь мінулы сацыялістычны час, засталося ў яго свядомасці і вызначэнне штаноў у якасці "адзінкі прадукцыі". Гэтымі ж "адзінкамі" калісьці вяршылася яго жыццё! Імі вызначаліся рубяжы юбілейных працоўных вахтаў, іх выкарыстоўвалі ў справаздачах на калегіях міністэрства, з іх дапамогай пісаліся даведкі аб прадпрыемстве для высокіх дэлегацый з розных абласцей, праўда, толькі сваіх, а не замежных – іх па сутнасці ніколі не было з візітамі. Дык не дзіва, што прадпрымальнік і цяпер, у новы час не забываў на тыя сугучныя лёсу "адзінкі" прадукцыі.

Ён, можна сказаць, самачынна, калі спатрэбілася, пераліцаваў сваю свядомасць на ісподні бок, але ж радзімкі не пераліцуеш – на іх жа толькі далікатна хукаеш, баішся развярэдзіць.

Вось і дадаў да свайго асартыменту заюшаны кіраўнік выпуск бескішэнных штаноў. Жыць не змог без "адзінак вытворчасці".

Але неўзабаве высветлілася, што гэта, апроч усяго, не такі ўжо і прапашчы бізнес-праект. Па-першае, прыкметна спрасцілася работа швачак і ў іх стала менш падстаў наракаць на складаныя вытворчыя заданні і зусім не адпаведную ім зарплату. Па-другое, няхай па лапічку, але пачалася эканомія тканіны. Па-трэцяе, крышачку знізіўся сабекошт вырабаў, а значыць, адпаведна і цана продажу. Менавіта таму ўрэшце рэшт і купіла Амелія танныя нагавіцы свайму Юрасю. А калі яго даймае прыкрасць, ну дык што зробіш – падарунак...

* * *

Юрась раптам адчуў: чым больш заглыбляецца ён у праблему дамашняй спартыўнай адзежы, тым мацней, нібы абцугамі, сціскае яго душу дакука. Але праз пэўны час адчуў ён і палёгку. І зразумеў, чаму яна надышла: з кожным крокам заглыблення ў тэму Юрась жа па сутнасці пакрысе здымаў цяжар адказнасці за няўдалую пакупку з Амеліі і такім чынам патрошку набліжаў іх прымірэнне. "А прымірэнне з жонкай заўсёды ўгодная Богу справа!" – трохі манерна падумаў ён і здзівіўся сваёй нечаканай лагоднасці, тым больш пасля нядаўняй спрэчкі і раз'ятранасці сужанкі, якая напоўніцу выявілася ў шпурлянні ў яго сваіх тэпцяў.

“Ці сапраўдныя яны і наогул ці сужанкі – жонкі, дадзеныя нам з другой спробы?” – падоўжыў свае разважанні аб сямейных адносінах хлопец, але тут жа ўцяміў, што трэба спыняцца, бо ім не будзе канца.

У душэўнай разгубленасці Юрась не звяртаў увагу на хаду часу і, можна сказаць, такім чынам спрыяў набліжэнню заўтрашніх падзей. Да рыбалкі заставалася гадзіны чатыры, і ён нарэшце распрануўся і лёг у ложак.

Але сон усё адно не браў, і Юрась вырашыў чакаць Эдзіка, каб стаміцца ад чакання, гэтага самага сумнага на свеце занятку, і змежыць павекі.

* * *

Зазвычай Юрась ездзіў на рыбалку на Васілёвай машыне. За працяглыя гады працы галоўным эканамістам абутковай фабрыкі, якая шыла ў тым ліку і кірзавыя боты, а потым берцы для вайскоўцаў, ён так і не нажыў сабе машыны. Не сказаць, што не мог назапасіць неабходную суму. Змог бы і без вялікай напругі. Але была, як лічыў Юрась, глыбінная прычына яго нязвыклага для грамады адцурання ад легкавіка.

У шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, калі ў калгасах шырока ўкаранялася механізацыя і, адпаведна, пачала з’яўляцца новая супольнасць сельгасработнікаў – механізатары шырокага профілю, Юрасёў бацька Ігнат хоць і не ўрачыста, не сярод рытуальна нагрувашчаных наўкруг яго лейцаў, аброці, церазсядзельніка, ездавога і аромага хамутоў, лапаты, вілаў, касы, грабляў, сякеры і розных цяслярскіх прыстасаванняў ды шмат яшчэ якога рыштунку з адпаліраванымі за доўгія гады працы дзяржальнямі, а сам-насам, у глыбіні душы ўсё адно як прысягнуў на вернасць свайму спрадвечнаму сялянскаму званню, спадчыннаму, дапатопнаму ладу жыцця і працы.

Ці, можа, проста быў тумарнік, няздатны “бегчы за камсамолам” – своечасова рэагаваць на павевы сучаснасці. Як гэта паўплывала на тады яшчэ маленькага Юрася, невядома, але да тэхнікі, у тым ліку і да легкавікоў, ён займеў устойлівую абыякавасць. Пры гэтым гарапашнікам сябе не лічыў.

Але Васілю раз-пораз даводзілася вазіць на рэкі і азёры сябра.

І вось цяпер, калі яго засмактала Галандыя, Юрась быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да Эдуарда Дубянца, колішняга свайго калегі, з якім захаваліся прыяцельскія адносіны. “Завязі мяне хоць куды, Эдзік, абы табе лацвей было, а мне без Васіля хіба што толькі адзначыцца на рыбалцы трэба, адчэпна блешні ў вадзе пацягаць... – з хітрынкай сказаў Юрась. – Якая гэта радасць, калі на дваіх не дзеліцца...”

Дык і вырашылі: Эдуард адвязе Юрася на Дзвіну каля Крупеніна, дзе месцяцца здавён славутыя вялізнай рыбай рачныя ямы, а сам па наказе маці будзе каля Рубы сёе-тое рабіць на лецішчы ды спрабаваць злавіць якога ляшча на донку, балазе бераг ракі за плотам.

...Да прызначанага тэрміну сустрэчы заставалася мала часу, а сон усё яшчэ не спяшаўся браць над ім уладу, колькі ні імкнуўся, як мог, небарака дапамагчы яму ў гэтым.

Але што рабіць... Юрась уключыў бра над галавой і звыкла разгарнуў альбом з выявамі найпрыгажэйшых мятлікаў басейна Амазонкі. “Мусіць, і ўсцяж Каспле ўжо лётаюць. Ну вядома, куды драбнейшыя і не з такімі маляўнічымі крыльцамі, але затое свае. І стракозы на вяршынькі вудзільнаў ужо сядаюць... Такая гарачыня стаіць!”

Варта было толькі зноў згадаць Касплю, і Юрась тут жа закрыў альбом, прымружыў павекі і пачаў успамінаць улюбёную рэчку ды іх наезды з Васілём на ўловістую затоку каля вёскі Верхнія Храпуны.

* * *

...Хаты тут стаяць у нітачку ўздоўж ацішанай у затоцы вады. Нядоўгая нітачка заканчваецца, і пасля яе пачынае каляхаванне на дробных гладкіх каменьчыках перакат.

Ніжэй хат – агароды вяскоўцаў, лужкі, дзе раней, у лепшыя гады пасвіліся на прывязі каровы, авечкі, а яшчэ ніжэй, на рачной водмелі, дзе раскашуецца мальга, нагульвалі на сваёй "пашы" вагу шчупакі. Як толькі выпадаў вольны дзянёк, сюды імкнуліся са сваімі "пугамі" з блішчастымі шпулямі Юрась і Васіль. Хлопцы спадзяваліся, – і не дарма – што падчэпяць тут на блешні трох-чатырох хцівых шчупакоў, і не травянак якіх, а мерных кілаграмовікаў.

Верхнія Храпуны – расійская вёска, якая месціцца на самым сумежжы з Беларуссю.

Юрасю ўспомнілася, як аднойчы ў тамтэйшай бабулі Хрыстыны, насупраць сялібы якой яны заўсёды спыняліся, каб перадыхнуць якую хвіліну, абмеркаваць вынікі лоўлі ў затоцы далейшым доўгім шляхам, ён між іншым спытаўся дзеля смеху:

– Бабуля, ну а як па-вашаму будзе "бусел"?

– Айест! – рашуча, з непрытоеным гонарам выдыхнула светлавокая Хрыстынка.

Юрась тады, каб не пакрыўдзіць старую, ледзь стрымаў смех, а цяпер у ложку прыязна ўсміхнуўся, згадка лягла яму на душу светлай мецінкай.

З цягам часу хлопцы даведаліся, што дачка Хрыстыны, як і большасць дзяцей тутэйшых вяскоўцаў, працуе за мяжой, у Віцебску, а Васіль нават сустракаўся з ёю, дасведчаным юрыстам, па рабоце.

Хрыстына ў гады, калі яшчэ не была шырока распаўсюджана сетка мабільнай сувязі, хадзіла за тры кіламетры ў беларускую вёску Рабава і тэлефанавала сваёй Зоі з хаты даўніх знаёмцаў і нават трохі радні. Выгоды: чутно лепш і за міжнародныя перамовы плаціць не трэба – не з-за мяжы ж тэлефануеш...

А яшчэ Юрасю ўспомнілася, з якімі цяжкасцямі іншы раз даводзілася ім даставацца да Верхніх Храпуноў. Гэта ж не сцежачкай напраскі, па якой Хрыстына з Рабава дамоў прыспешвала – воз пакункаў на спіну не ўскінеш...

У вёску вяла палявая дарожка, пракладзеная дзеля патрэб сельгасвытворчасці ў гады Савецкай улады, калі дайшлі рукі да выканання знакамітай Харчовай праграмы.

З тых гадоў, відаць, так і не кранулі яе ніколі бульдозернай лапатай. Калдобіны, глыбокія, век свой прарэзаныя каляіны, хмызоўе і канавы абапал ды сляды меліярацыі ў выглядзе невялічкіх крушняў наўзбоч.

Юрасю стала вусцішна, калі ён успомніў, як аднойчы ў кастрычніку яны з Васілём упрасілі рабаўскага старшыню дапамагчы ім дабрацца да ўлюбёнай узбярэжнай вёскі на калгасным трактары.

О, гэта была паездка!

* * *

У прычэпе – лодкі ды іншы рыбалоўны рыштунак, у кабіне трактара плячо да пляча – трое абадзетых, як кулі, дзецюкоў. Трактар гайдаецца з боку ў бок, як страціўшы размераны рытм ківач, а тады раптам гаах! – па самыя восі правальваецца ў калюгу...

А яшчэ Юрась не мог забыць, як пры ўездзе ў Верхнія Храпуны ім давялося рухацца па высозным касплянскім берагавым абрыве: глянеш уніз – і сэрца замірае: праз голыя галіны дрэў бачна, як адлівае сталёвым восеньскім бляскам рака. Кола трактара круціцца па самым краі вузкай дарожкі ўсцяж абрыва... Душа Юрася, які сядзіць з краю кабіны, дрыжыць і, здаецца, спрабуе самастойнае жыццё ў палёце побач з трактарам.

Ай, Божачка любы!

Каб буксанула ды каўзанулася кола, трактар з прычэпам дастаў бы ніза абрыва праз два, а то і тры перакульванні.

Юрася перасмыкнула, і ён пацягнуў на сябе коўдру, каб лепш укрыцца. “А як бы мы цяпер, каб дома быў Васіль, даставаліся да Храпуноў? Можа, давялося б ехаць вышэй, аж у Панізоўе. Дарога туды хоць каціся, але ж сплаўляцца даўгавата – поўныя два дні ходу да Суража...” – падумаў Юрась.

Але ж не вусце вабіць чалавека, а вытокі, верхняя плынь, якая толькі і абяцае будучыню.

* * *

У свой час Юрасю з Васілём край захацелася ўпершыню ўзняцца вышэй Верхніх Храпуноў, хаця б да Лапехаў.

Прыяцелі падвезлі іх на грузавіку да раздарожжа перад Храпунамі, а далей яны пайшлі пешкі па ўшчэнт зрэзанай трактарамі насыпной балотнай дарожцы. Балазе яна добра падсохла, бо каторы дзень стаяла сонечнае ветранае надвор’е. Спачатку кожны нёс за спінай сваю лодку ў заплечніку, а калі стала мулка, знайшлі падыходзячую жэрдку і пачапілі на яе, што толькі можна з рыштунку, узяліся з абодвух канцоў і пайшлі далей, можа, і не так шпарка, але з большай ахвотай. Жэрдка пры хадзьбе крыху вагалася пасярэдзіне, і заплечнікі на ёй прыгіналі доўжанькія сцяблы травы на дарозе, як паддон машыны.

А больш нічога не здарылася ў той сонечны дзень.

Але падчас, здавалася, бясконцай хады раптам адчулі яны ў сабе абуджаную імпэтам неўтаймоўнага захаплення задзірлівую сілу.

Юрась і Васіль упершыню ішлі гэтай дарогай і не ведалі, дзе месцяцца Лапехі. Здавалася, вось за гэтым узгоркам! Не, за тым... Таксама не, ну тады вунь за тым... Яны прайшлі шэсць кіламетраў і гатовы былі прайсці яшчэ столькі і яшчэ. Колькі заўгодна! Стома не брала. Адчуванне ў сабе пеcлабеючай сілы надавала імпэту акрыленасць.

Прытым гэтае адчуванне прыйшло да Юрася і Васіля амаль адначасова, хоць і паасобку.

Хлопцы яшчэ не ведалі, што гэты паход яны будуць успамінаць усё жыццё, а з гадамі – часцей і часцей, параўноўваючы з той маладой парой сваё самаадчуванне, сваё цяперашняе жаданне жыць.

Міжволі доўжыў Юрась успамін, хаця павекі яго пакрысе пачалі цяжэць, зліпацца, сваё ўладарства браў над ім сон.

* * *

Ён прачнуўся крыху раней, чым зазваніў будзільнік, і ў чарговы раз узрадаваўся, што спружына яго бадзёрасці яшчэ спраўна штурхае ў бок, калі трэба.

Юрась хуценька сабраўся, спусціўся з рэчамі на ліфце і выйшаў на вуліцу. Эдуард пад'ехаў неўзабаве, і яны рушылі за горад.

Калі праехалі Рубу і павярнулі на Курына, Юрась спытаў Эдуарда:

– А пасля будаўніцтва плаціны гідраэлектрастанцыі вада ў рацэ за рубаўскім мостам прыкметна ўзнялася?

– Прыкметна. На Курынскіх ямах трохі менш, бо аддаленыя, але таксама адчуваецца ўзвышэнне ўзроўня. Праўда, рыбы ад гэтага меней не стала. У тым ліку і шчупакоў.

Юрась адчуў, што Эдуард стараецца супакоіць яго, каб і слабы цень сумнення не крануў надзею на добрую рыбалку.

Каб пад'ехаць да Курынскіх ямаў, трэба было пасля паварота прамінуць малады сасоннік – і вось яны!

Позірку адкрыліся два круглыя возеры, якія нагадвалі вялізныя караліны, пачэпленыя на тоўстую (Дзвіна паміж імі была шырачэзнай і, відаць, глыбокай) ніту ракі.

Юрась папрасіў адвезці яго ніжэй, да другой "караліны", бо ён адразу забаяўся доўгага пераходу і памкнуўся зменшыць хоць на які кіламетр адлегласць да Рубы, дзе, як дамовіліся, яго будзе чакаць Эдуард.

Юрась адразу пераплыў на супрацьлеглы бераг, дзе было зацішней за хмызоўем, і дзе тоўпіліся тры-чатыры лодкі першых рыбакоў. Плынь там была дужа марудная, ледзь прыкметная: кінь трэску – не адразу зрушыцца з месца... Тым не менш Юрась апусціў якар і, можна сказаць, такім чынам зафіксаваў свой старт. Так бегуны фіксуюць свае ступакі на адмысловых, прымацаваных да зямлі калодках.

...І шпульнуў ён блешню ў заманлівую далячынь! І яна паляцела па вышэйшай, чым звычайна, траекторыі – цераз мінулыя лістапад і снежань, студзень і люты, сакавік і красавік, май і дзевяць дзён чэрвеня, цераз увесь доўгі час зморнага чакання, цераз згрызоты з жонкай, цераз непрэліўкі на працы, непаразуменні са службоўцамі – і шмат яшчэ цераз што прыкрае і крыўднае паляцела па трохі ўзрушаным ветрыкам ранішнім паветры.

І такое ж трапяткое, як закідванне, было выцягванне блешні з вады, калі пупышкамі пальцаў на сцябле спінінга "слухаеш" дробнае трымценне пляцёнкі, адчуваеш яе пругкае нацягванне і лёгкае, як выдых, паслабленне.

Па тоўшчы вады праз зараснікі так званых шчупачыных водарасцяў, якія на доўгіх гнуткіх сцяблах у ціхай затоцы ўзвышаюць сваё лісцёвае сплячэнне да паверхні вады. Паўз частакол чарацін, у якім адкрываюцца светлыя прагаліны – прастора для разгону спружыністых шчупакоў падчас нападу з засады.

Над доннымі валунамі і абцяжаранымі за доўгія гады затаплення ствaламі дрэў ды іх каранямі-вываратнямі, якія доўгія дзесяцігоддзі будуць ляжаць у вадзе, пакуль дубы не набрыняюць жалезам, а іншыя дрэвы шмат раней не дагніюць дарэшты.

Добра спрактыкаваны Юрась, паволі круцячы шпулю, цягнуў блешню над самым дном, паўтараючы яго рэльеф, усё адно як у мазгах ён меў адмысловае прыстасаванне, нібы ў крылатай ракеты, якая, дзякуючы яму, падчас палёту паўтарае рэльеф мясцовасці.

* * *

Юрася, як будыста, захопленага чытаннем мантраў, абудзіў і вярнуў у рэчаіснасць зачэп травы за бляшнёвы трайнік.

Заўсёды ж постфактум дазнаешся, што гэта трава, а не шчупак, раптам спыніла чуйны рух твайго спадзявання. Але ж спінінгіст заўсёды думае, што шчупак, і заўсёды падсякае. Так зрабіў і Юрась, і гэта была першая спінінговая падсечка больш чым за паўгоддзе. Дарма, што ўпустую, затое выкананая па ўсіх правілах. Юрась з вокаімгненнай рэакцыяй шмаргануў вудзільна, размашыста ўбок і па дузе трошкі ўверх... У выніку таго, што зачэп быў даволі трывалы і, адпаведна, нагрузка на шнур вялікай, спрацаваў фракцыён шпулі, дробненька затрашчаў, даўшы параўнальна вольны ход пляцёнцы. Па сутнасці гэта быў бы прыемны для слыху, як песня, гук, калі б ён меў праўдзівую, а не падманную прычыну свайго з'яўлення. Ці, кажучы інакш, шчупачынае, а не водарасцевае паходжанне.

Юрась невядома перад кім – наўкол жа анікога – трошкі сумеўся, што было дзіўна. Каб разняволіцца, ён прыторкнуў лодку да берага і закурыў. Раняшняя смуга тут была не такая шчыльная, як далей па рацэ. Бераг у гэтым месцы зеўрыў шырокай, адкрытай для ветру прагалінай між густога хмызоўя, і тут можна было больш дэталёва разгледзець раку.

Найперш Юрась звярнуў увагу на тое, што ўзровень вады ў Дзвіне прыкметна вышэй звыклага, хоць напярэдадні і не было дажджоў. "Але пры чым тут дажджы, калі за Рубай, падпіраючы плацінай ваду, ужо колькі месяцаў працуе пабудаваная кітайцамі гідраэлектрастанцыя!"

Хлопец зірнуў на хмызы, якія напалову, а дзе і да самых вершалін былі затопленыя вадой. Яны стаялі і там, дзе толькі што лавіў Юрась. Вярхі галінак над вадой, каб не вузельчыкі пупышак на іх, якія так і не раскрыліся і нагадвалі сабой камячкі бруду, лёгка, асабліва пры ранішнім сонцы, можна было прыняць за чараціны.

Юрась якраз такімі і палічыў іх, памыліўся, небарака, і цяпер у яго аж перахапіла дыханне: "І як гэта я здалёк выцягваў блешню і ні разу не зачапіўся за галінкі? Дзівосы!.."

У той жа час яму стала непамысна ад недарэчна змушанага злучэння расліннага берагавога і воднага светаў. Як гэта лавіць рыбу сярод хмызоўя? Як яна там, пад вадой гуляе, як, абдзіраючы бакі, праціскаецца між густых галінак? Шчупакі, можна сказаць, гняздуюцца ў гэтых хмызах, нібы казачныя птушкі! Можа, трэба асвойваць які новы спосаб лоўлі...

Юрась азірнуўся і з сумам заўважыў, што наўкола нікога, ніводнай лодкі. А былі ж, некаторыя плылі следам...

Пасля рыбалкі ён даведаўся, што знаўцы тутэйшых рыбалоўных мясцін і не думаюць пускацца ў сплаў, а трымаюцца якога з абранага возера-караліны. Праходзячы ўздоўж закругленага берага, "прабіваюць" таўшчыню вады гумавымі прынадамі на цяжкіх алавяных галоўках, а тады па нітцы ракі пераплываюць на другую "караліну" і наразаюць яшчэ адзін круг. Усяго ж такіх "каралін" было, здаецца, тры. Ад адной да другой – і ўсё нанова.

Так што сплаўляцца цэлыя восем з гакам кіламетраў уніз па рацэ мусіў толькі адзін недасведчаны Юрась.

* * *

Але чаму недасведчаны, калі ў яго, можна сказаць, не было іншага выбару: не плыць уніз па рацэ падчас лоўлі шчупакоў для Юрася – усё адно што страціць сэнс жыцця.

Ён пачаў адыходзіць ад берага на больш хуткую плынь, і па бартах лодкі гучна зашаргацелі галінкі-чараціны.

Мінулая бяссоніца раптам адгукнулася нудотным цяжарам у касцях. Хлопец нахіліўся і прылёг бокам на ўгрэтую сонцам карму, нібы на гумавую падушку, і заснуў праз якую хвілінку. Але спаў нядоўга.

Прачнуўся ад таго ж, з чым і лёг – ад стомы, якой стала адчувальна больш у хрыбетніку. Узняўся і ўспомніў... Касплю. Былі, і не аднойчы, такія выпадкі і на ўлюбёнай рацэ. Засынаў у лодцы і прасынаўся знячэўку праз колькі хвілін, як цяпер. Праўда, была і адна адметнасць каспляyскага абуджэння.

Падчас яго Юрась адчуваў сябе згубленым у агромністым свеце. А тое, што гэта звыклы, рэчаісны свет, а не працяг сну, ён шчасліва спазнаваў адразу, як толькі адкрываў вочы: над галавой – сонца, такое ж, якое ён вучыўся маляваць у маленстве. Наўзбоч, крыху ніжэй хісткай лодкі – вада, так блізка, што боязна незнарок зачэрпнуць яе бортам. І як можна было спаць у прыдуманым стомай “ложку”, калі ачмурэламу пасля сну нават ад подыху ветру вусцішна!

Але страх не ў тым, што гнаны плынню імправізаваны ложак можа запыніцца... Хто яго запыніць?! Хіба што смерць, але яе на рыбалцы ніхто не баіцца, ніхто не згадвае!..

Страх у тым, што спрасоння не ведаеш, куды, у які бок плывеш. Згубіўся ў свеце ці ў сне...

Юрась прадзіраў вочы, прамываў іх вадой з далоні і, агаломшаны, колькі хвілін сядзеў нерухома. Яму здавалася, што лодка рухаецца супраць плыні, не ў бок Суража, як заведзена, а наадварот. І не адразу было зразумела, што плыні сну і вады так неверагодна супалі, зліліся.

А на Дзвіне аніякіх, падобных на каспляyскія дзівосы пасля змушанага знямогай сну і блізка не было. Адкрыў вочкі – і вось ён, звыклы бераг. Прыгледзеўся – і тут жа зразумеў, куды вада цячэ, у якім баку Руба. Дарма што плынь марудная, цячэ настойліва!

Але гэтая яснасць і празрыстасць, нібы ў матэматычнай логіцы, гэтая прадказальнасць пазбаўлялі Юрася і надзеі на маленькую, маючую адбыцца таямніцу – на нечаканае гучнае зашчоўкванне на блешні шчупаковых сківіц. Менавіта гучнае, дарма што пад вадой!

Аднойчы адвячоркам на Каспле Юрась праводзіў блешню каля самай паверхні, ладзіўся выбіраць яе ў лодку, як раптам адбылася атака нястрымнага драпежніка. Шчупак хапаў блешню ўжо каля самай паверхні, практычна пры выхадзе з вады, і так гучна, здавалася, на ўсё аціхшанае наваколле шчоўкнуў сваімі сківіцамі, усё адно як рэзка спрацаваў механізм пісталета. Хлопец упудзіўся. Сапраўды, аж здрыгануўся!

* * *

Штурхаючы вёсламі марудную плынь, Юрась пачаў згадваць каспляyскія працяглыя, даволі частыя імклівыя перакаты, перабіраць іх у памяці адзін за адным – ад Пранікаў да Суража, дзе найбольш часта плаваў з Васілём.

Першым выразна ўявіўся яму імклівы глыбокі перакат паміж вёскамі Пранікі і Курашчане. Бурапенны, як неслухмяны паэтычны радок з памкненнем да самастойнасці.

А яшчэ ён нагадваў сабой фрагмент наравістай горнай рэчкі.

Падплываючы да пераката, Юрась заўсёды засяроджваўся.

Справа і злева асноўнай перакатнай плыні месціліся невялічкія, як калюжыны, усланыя пенай глыбочанькія затокі. У адну з іх, імкліва плывучы, трэба было пацэліць блешняй. Падчас узрушэння шчупакоў якраз тут і мог затрымацца каторы драпежнік, каб перавесці дух перад пераадоленнем магутнай плыні. Дык як жа не прапанаваць яму “пачастунак” з разлікам на тое, што хцівец будзе ў сваіх паводзінах адпавядаць старой показцы, у якой кажа ўсяму рыбалоўнаму супольству: “Ды ведаю я, што “жалеза” падторкваеце, а нічога з сабой зрабіць не магу, хапаю, як ашалелы...”

Але каб пацэліць у гэтую “калюгу”, трэба быць дужа спрытным, вельмі хутка на хаду закідваць спінінг – наперад або паварочвацца на лаўцы і закідваць блешню назад, калі ўжо прамінуў жаданую мясцінку. Вёслы тым часам заставаліся без нагляду. Іх шкамутала плынь, яны, два або адно, маглі ўзвысіцца стацьмака (што ў Юрася і было аднойчы) і ўперціся ў камяністае дно лапаткай. А ў выніку на павышанай хуткасці магла перакуліцца лодка, або адламацца вёсельная лапатка, або, што не лепей, сагнуцца алюміневае цаўё вясла...

Таму перад гэтым перакатам, калі Юрась ішоў першым, паварочваўся назад і гарлаў Васілю: “Вёслы пільнуй! Вёслы парадкуй! На барты іх кладзі роўненька!” – і думаў з прытоенай усмешкай: “...нібы рукі па швах перад генералам рабі!..”

Нельга сказаць, што было важна данесці да Васіля гэтыя перасцярогі, пра ўсё ён даўно ведаў сам. Але Юрасю ўсё адно трэба было падаць голас і зацеміць для дасведчанага ў рыбацкай таямнічай мове чалавека: “Палова шляху пераадолена, а трафейных шчупакоў пакуль нямашака. Рупся, браце, рупся! Засталося толькі два перакаты – і канец шляху”.

А яшчэ пераадоленне хуткага паўнаводнага перакату спрыяла Юрасю з Васілём згадванню свайго дзяцінства, калі яны з гарушкі на вясковай вуліцы коўзаліся ўзімку на санках.

Тут я павінен сказаць, што хлопцы былі родам з адной вёскі і нават іх хаты стаялі непадалёку.

Дык вось, з узгорка ад Васілёвай хаты яны на санках з ветрыкам спускаліся ўніз. І калі снег быў асабліва коўзкі, а вецер спадарожны, даязджалі аж да мастка цераз шырокую меліяратыўную канаву, якая пераразала вясковую вуліцу. Лічы, да Юрасёвай хаты – яна на высокім падмурку ўзвышалася побач. Адно што трэба было пры заціханні руху санак увішна гэпацца на іх, падштурхоўваючы наперад.

Не ведаю, як Васіль, а Юрась, калі праплываў перакат, міжволі імкнуўся падоўжыць паскораны імклівай плынню ход лодкі – гэпаўся на лаўцы, адхіляўся спінай назад, як тады, у маленстве, на санках. І рабіў ён гэта таксама напрыканцы імклівага спуску з “воднай гарушкі”.

Што найбольш трывала можа злучыць парваную ніту часу на шырокім сумежжы дзяцінства – маладосці, як не рыбалка?! Яна, яна!

Наступны перакат месціцца каля вёскі Курашчане. Ён зусім інакшы, чым першы. Мусіць, цяжка і знайсці іншае месца, дзе плынь так тоненька рассцілаецца па дробных каменьчыках, што, здаецца, такім чынам вада

фільтруецца ад нацярушаных парушынак ды іншых смеццевых драбніц. Так гаспадыні, калі трэба, зліваюць верхні слой вадкасці з нахіленага вядзерка.

Падплываючы да гэтага перакату, Юрась і Васіль загадзя запавольвалі хаду сваіх лодак, хоць звонку і не было зразумела, чым выклікана іх перасцярога. Не было зразумела, пакуль лодкі не ўсплывалі на прыкметны ўзвышак рачнога дна на ўсю шырыню рэчышча, які ледзь не вытыркаўся з вады. Ён амаль і вытыркаўся, калі б не тонкі водны покрыў. Плынь тут, лічы, не мела глыбіні, а толькі ўкрывала, як дзяружка, ад цікаўнага вока невялічкія, з курынае яйка і куды меншыя каменьчыкі, якія ўсцілалі перакат.

У засушлівае лета хлопцы наогул не пераплывалі яго, а выходзілі з лодак пасярод ракі ды з задавальненнем ішлі па каменьчыках, трымаючы сваіх "коней" за вяровачкі, нібы за павады аброцяў. Яны рабілі гэта вымушана, бо калі не вылазіць з лодкі, падрапаеш ушчэнт днішча аб каменьчыкі...

Плыткі перакат немагчыма было праспаць, у тым ліку і тады, калі ў стомленага рыбака плыні сну і вады шчасліва зліваліся. Тут яны адразу расплюталіся, як толькі "буксавала" аддадзеная на волю ракі лодка.

Але ў сонечны пагодны дзянёк затое на перакаце можна было адчуць сябе найбагацейшым чалавекам у свеце.

Рачное дно тут услана такім сляпуча жоўтым, перабраным плынню па макавай крошцы пясочкам, што, здавалася, гэта і не пясок наогул, а само сонца і ёсць, толькі зацвярдзелае золатам у абыякавасці да людской хцівасці.

А прыгледзішся, дык убачыш, што зусім не каменьчыкамі ўсыпана яно, а размаітымі маністамі, якія – схіліся ды прыслухайся – зачаравальна звіняць кожнай сваёй лісцінкаю...

Іншы раз касплянскія перакаты рабіліся імклівымі дарожкамі славы для рыбаловаў, у прыватнасці для аднаго з іх.

Юрасю згадалася, як Васілю пашчасціла спаймаць двух важкіх шчупакоў перад самымі перакатамі. І тады ён штораз браў іх пад шчэлепы, узнімаў на выцягнутай руцэ ўгору і так спускаўся па імклівай плыні. Усё адно як спартсмен, бег па дарожцы славы з ганарам за свой поспех. Кожным сваім рухам Васіль сцвярджаў: гэта я такі ўдалы, такі ўвішны і сёння – тут ён крышку вышэй узнімаў шчупака – як бачыце, пацалаваны Богам. Васіль не мог утойваць свой гонар перад усім белым светам: перад прыбярэжным алешнікам і вербалозам, чаратамі і парослай скрыпенем лагчынкай на беразе, перад бялявым хлопчыкам, які па калена ў вадзе і па сёння стаіць з вудзільнам на вясковай прыстані...

У дзеях Васіля не было ні кропелькі фанабэрыі ці пустога славалюбства, ці казытлівай хварсы. Проста ён, як сцяг, як паходню, як сімвал непаўторнай прыгажосці трымаў над сабой у мяккім святле схіленага на захад сонца шчупака, які з ашчаперанымі ружовымі плаўнікамі, з раскрытымі напоўніцу густа-чырвонымі шчэлепамі нагадваў сабой райскую птушку.

* * *

...З цяжкім сумам на душы кіламетр за кіламетрам, налягаючы на вёслы, пераадольваў Юрась дзвінскі прасцяг, пазбаўлены незабыўных бруістых перакатаў, скупы ў гэты дзень на радасную рыбацкую неспадзяванку. Даўно ўжо пачалася другая палова дня, а ўпартая лоўля не была адзначана

і слабым намерам атакаваць блешню або воблер хоць якой драпежнай рыбінай. І хлопец усё больш і больш пачынаў адчуваць сябе робатам, якога запраграмавалі на выкананне аднаго і таго ж фізічнага практыкавання без дасягнення якой-небудзь мэты. А тут яшчэ пакрысе мянялася надвор'е, і вецер пачаў дзьмуць проста ў грудзі і стаў прыкметнай перашкодай і без таго маруднага руху.

Юрась з сумам зірнуў на супрацьлеглы бераг і ў чарговы раз здзівіўся, як да яго далёка, дык пачаў прыкідваць, колькі разоў трэба закінуць спінінг, каб дастаць да зводдаль выглядаючых зусім нізенькімі, як атава на пожні, прыбярэжных чаратоў.

Хлопец з прыкрасцю адзначыў, што наваколле, нягледзячы на тое, што адкрываюцца новыя абсягі, застаецца аднолькава непрывабным, прыкра шэрым.

На супрацьлеглым беразе здалёк адкрылася позірку першая сяліба невядомай прыбярэжнай вёскі. Хата з берагавога ўзгорка адсвечвалася ў вадзе зыркім блакітным дахам. На панадворку бялелі козы, а драбнейшымі плямцамі – куры, і змаркочаны Юрась міжволі прашаптаў пад нос “ціп-ціп-ціп...” ды падумаў, што для выказвання душэўнай прыгнечанасці ніякія іншыя словы не патрэбныя.

І Юрася раптам апанаваў адчай – праўда, не зусім моцны, не зусім праўдзівы, а ў значнай ступені надуманы, тым не менш дастатковы для з'яўлення казытлівага жадання выпіць грамульку гарэлкі. І досвед, атрыманы з Васілём на Каспле, зноў усплыў у свядомасці жывым відарысам: плывуць яны ды спінінгуюць уздоўж супрацьлеглых берагоў, амаль упоравень адзін з адным. Як толькі хто выцягвае шчупака, лодкі, нібы па камандзе, адплываюць ад чаратоў і збліжаюцца на сярэдзіне ракі. Дзяржальні вёслаў хлопцы падторкваюць пад бартавыя вяроўкі і такім чынам змацоўваюць своеасаблівы гумавы плыт. Лавіць з яго нязручна, а яны і не збіраюцца! З рэчавых мяшкоў дастаецца ўсё неабходнае і... тоненька, як пісклявыя мышы, звіняць чарачкі, напоўненыя звычайна настоенай на пякучым перчыку або пялёстках бэзу, у залежнасці ад пары года, гарэліцай. Прытым чаркі не ўзвышаюцца і звіняць, як я ўжо казаў, ледзь чутна – каму тут, на прыродзе патрэбная пыхлівая ўрачыстасць, можа, вунь таму шэраму валуну...

Рыбаловы на плыні праз лічаныя хвіліны разыходзяцца і, закідваючы спінінгі, зноў даюць волю сваёй неўтаймоўнай жарсці.

А бывала, Юрась і Васіль выцягвалі па шчупаку адначасова! Тады падвоеная радасць змушала іх больш хутка рухацца на сярэдзіну плыні, хоць яны і стараліся цалкам не аддавацца гэтай звабе.

Дзіўна, што гарэлка зусім не пакідала на іх аніякага знаку – колькі ні злаві шчупакоў!.. Можа таму, што радасць – найлепшая закуска.

– А ведаеш, што я заўважыў, – аднойчы падчас такога балявання пасля двайной удачы сказаў улагоджаны Васіль, і задуменны твар яго кранула шчаслівая ўсмешка, – шчупакі спакушаюцца нашымі прынадамі зазвычай толькі ў зачаравальна прыгожых мясцінках... Усё прыемнае і ўдачлівае – у атачэнні прыгажосці...

– Колькі разоў будзеш ты пра гэта казаць?! Каспля ж спрэс у атачэнні прыгажосці! – азваўся Юрась.

* * *

...Усчаўся вялікі вецер, і ўсё паказвала на тое, што надвор'е канчаткова сапсуецца – будзе дождж. "Вецер нарваў", як кажуць вясковыя бабы. Пры гэтым аблокі з цяжкімі нацваглымі вільгаццю пузамі, здавалася, амаль нерухома стаялі на адным месцы.

Юрась пераплыў на другі бераг, каб хоць крышку змяніць абставіны і не паддавацца ўсё больш выразна пазначанаму іх няўцешнаму выраку, які абяцаў толькі маркоту.

Але і на супрацьлеглым беразе было гэтак жа няўтульна – прыродзе і тут не хапала свежасці, пра якую часта гаварыў на Касплі Васіль.

"Каац-цуп-цуп-цуп! Гуххх!" Раптам здалося, што хтосьці ў жмені раструшчыў яечную шалупайку, і шум, і трэск, узмоцненыя ў мільярды разоў, раскацістаціліся па абшары. Гром! Але Юрась як дасведчаны чалавек амаль не забаяўся яго, хіба што трохі – як задужа моцнага гуку, і толькі.

Іншая справа дождж, які лінуў, як з вядра, буйны і нечакана сцюдзёны. Юрась ускінуў на сябе шырачэзную накідку з капюшонам ды абціснуў вакол цела яе лубяную ўпартасць. Тым часам дождж узняў такі трэтар па ахоўным брызенце, кроплі разбіваліся аб яго так адчайна, што здавалася, яны памкнуліся вытурыць рыбалова са свайго няхітрага затулення. Калі не пранікненнем пад іспод, дык раз'ятраным лапатаннем. Але хіба даймеш ім чалавека, які не баіцца грому.

Адно што ўпарты дождж абвастрыў Юрасёва адчуванне сваёй глухой адзіноты. Ні табе птушынага піску, ні сабачага брэху, ні рыку жывёліны з берага, усё замёрла, хоць скамянеей у адказ і ты.

Юрась трошкі інакш пачаў масціцца на сваёй лавачцы, бо ад доўгага сядзення ў яго анямела спіна, ды і ногі зацяклі. Хлопец выпрастаў ногі, але тут жа быў вымушаны зноў падагнуць і больш старанна абгарнуць паламі накідкі, бо дождж і не думаў супыняцца, лупіў з ранейшай сілай.

Юрась забыўся на рыбалку. У свядомасці паплылі нязводныя думкі пра жыццё-быццё. Яму міжволі пачалі згадвацца непярэліўкі з жанчынамі, бязглуздыя звадкі з суседзямі-піткамі ў доме, а тут яшчэ няўдалы рамонт лецішча: не тых будаўнікоў наняў, не тыя будматэрыялы закупіў і наогул апастылы рамонт у пэўных межах быў задуманы яшчэ першай жонкай, апантанай агародніцай, неўтаймоўным селекцыянерам-аматарам агуркоў і памідораў. І вось цяпер яе задумы з алергічным раздражненнем успрымаліся Амеліяй, цалкам захопленай чытаннем кніг, асабліва дэтэктываў і раманаў "пра любоў", напісаных пісьменнікамі-жанчынамі. Дык вядома ж, цяпер трэба было не затулкі розныя з уладаванымі паліцамі на сотні слоікаў марынаваных агуркоў і памідораў абладжваць, а камін вялізны, як помнік, замаўляць адмыслоўцам ды зашклёную веранду прыбудоўваць да найлепш асветленай сцяны дома. Шырокі стол у ёй паставіць з вялізным памаранчавым абажурам над ім і "панскімі", плеценымі з лазы ўтульнымі крэсламі наўкруг... І зноў жа паліцы, паліцы, паліцы ў кожным затулку! Толькі не для слоікаў, а для кніг.

"А па сутнасці ж абедзве мае жонкі – і былая, і цяперашняя – дужа падобныя адна да адной! – раскатурханы асвяжальным паветрам, падумаў Юрась. – І яшчэ невядома, ці ўжывуся я з Амеліяй... Трэба неяк трываць, неяк трымацца, каб і сваякоў не здзіўляць, і чужых людзей не смяшыць".

З цягам часу Юрась востра адчуў, што найцяжэй дасягаецца духоўная

блізкасць сужанцаў, калі наогул яна дасягаецца. «Мусіць, таму, што гэта самая інтымная частка жыцця”, – аднойчы падумаў хлопец. А пазней, пасля шматлікіх роздумаў, прыйшоў да высновы: прычына нявыкруткі ў тым, што далёка не ўсе мужчыны і жанчыны ўмеюць абдымацца душамі! Толькі целамі, толькі целамі...

Аднойчы ў маладыя гады Юрась праводзіў дамоў пасля вясёлай сябрыны мастакоў, літаратараў ды іх знаёмцаў вабную даму, дачку знакамітага мастака.

Ішлі дамоў няспешна па добра ацішаным вечароваму гораду, блукалі, цадзілі на лаўцы ў скверыку вінцо з пластыкавых кілішкаў... І Юрась запытаў з нагоды ў прыгажуні: “А чым вы, інтэлігенты ў другім пакаленні, адрозніваецеся ад нас, тых, хто ў першым?” Маладая жанчына ўсё адно як чакала гэтага пытання – адказала імгненна: “Проста мы больш асцярожныя. Вось і ўсё”.

“Больш асцярожныя... Чаму? Можа, у іх часцей, чым у нас, трагічны сацыяльны досвед, і гэта адбілася на свядомасці... Інтэлігенцыя шчыльнымі чародамі трапляла пад рэпрэсіі трыццатых гадоў, ва ўзвіхураныя жудасным часам даносы, пад смыленне зайздрасці... Чаго чакаць ад суседа-дабрадзея! Будзеш асцярожным!” – выношваў здагадкі Юрась.

Але аднойчы яго перасмыкнула, задумаўся:

“А Кацярына, мая першанькая, у сялянскіх жа кутах узрастала, змалку агародніцтву ў маці вучылася, у родавым коле аб інтэлігентах-беларучках хіба што мроілі... А на табе – суперасцярожнасць, маўклівасць, душа – як вожык скурчаны. Дык якія з ёй абдоймы душаў, калі толькі недавер калючы! Калі і пашаптацца пасля любошчаў няма пра што, бо для такога шэпту давер патрэбны...”

Вось так Юрась зусім разгубіўся.

Ён запомніў, як аднойчы абазнаная ў кніжных ведах Амелія, бо не толькі ж дэтэктывы чытала, параўнала ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны са станам дзвюх кропелек ртуці: вецер падзьме ці стол або якое іншае апірышча здрыганецца – і раскаціліся кропелькі-шарыкі ў розныя бакі. Бывае, што і зліюцца ў адну, але часцей за ўсё выпадкова.

“Індывідуальнасць – дзіўная аднабаковасць і аддаленасць чалавека ад чалавека”, – Юрась не ведаў, чаму, змучаны сваімі няўцешнымі развагамі аб супольным жыцці, аднойчы так падумаў. Можа, хацеў услед за Амеліяй хоць так няўдала патлумачыць, чаму ртутныя кроплі не зліваюцца адна з адной...

* * *

Зрабіўшы чарговы грабок вёсламі, Юрась раптам да хрусту ў паясніцы нахіліўся наперад, траха не дастаўшы грудзінай ног ад нечаканага, хоць ужо і даволі звыклага для яго болю пад лыжачкай, і такім нахілам памкнуўся заціснуць гэты боль. Хлопец ведаў, што здранцвеў шлунак – на працягу амаль дзесяцігоддзя не дае яму спакою язва.

Ён нават вазіў з сабой адмысловыя пігулкі, якія цяпер ляжалі ў скрынцы з рыбалоўнымі прынадамі. Адну з іх Юрась ужо наважваўся выпіць, але запыніўся і цяпер прылёг на борт, каб супакоіцца і пачакаць, пакуль трошкі ацішыцца боль.

Неўзабаве яго павяло ў сон, павекі пачалі зліпацца, і ў паўдрымоце ён

раптам адчуў, што пачынае рабіцца дзейнай асобай нечаканага, не вельмі зыркага, але тым не менш разборліва бачнага відарыса: вялізны, на ўвесь свет сенбернар схіліўся над ім і шырокім зялёным мяккім языком пачаў вылізваць і яго, і лодку, і нават прыбярэжны чарот, які загайдаўся ў такт яго рухам.

Юрась угледзеў, што з зялёнай мякаці языка вытыркаецца гальнёвая галінка, якая злёгку драпае яго, усё адно як супыняе-папярпэджвае: не спі, не спі, не спі, нябога!

Сенбернар зноў і зноў нахіляўся над ім, але, нягледзячы на яго вялікія памеры, Юрась тым не менш амаль цалкам бачыў яго тулава. Бухматы бок, які адсвечваў не ўласцівымі для яго сабачай пароды ў асноўным жоўта-белымі плямамі, а зялёна-блакітнымі, не раўнуючы як алешнік на супрацьлеглым беразе са светлымі прагалінамі, у якіх дождж прыглушаў зыркасць неба да шыза-блакітнага.

Юрась павярнуў галаву, каб лепш убачыць свой відзёж, але выразнасць яго, наадварот, пачала слабець, дык з бояззю страціць відзёж наогул хлопец знерухомеў, а тады пачаў асцярожна кратацца, каб вярнуць цела ў ранейшае становішча.

І ўдалося. Больш за тое, разам з сабакам ён убачыў і сябе – пад яго языком. Праўда, цяжка пазнавальнага, у выглядзе зялёнага плямца, які сваім контурам нагадвала трохі сагнуты пры выспяванні агурок, які ўздоўж быў разрэзаны напалам вострым лязом, але палавінкі не разляцеліся ў бакі, а яшчэ дакраналіся адна да адной. Якраз месца гэтага судакранання і залізваў сенбернар, такім чынам захоўваючы хоць якую суцэльнасць.

Юрась адчуў і пазнаў сябе ў гэтым лядашчым зялёным плямцы. Адчуў і пазнаў!

“Я маленькая, ледзь прыкметная болька зялёнага ўлоння, вось прырода і залізвае мяне, сваю частачку, каб і знаку не было пасля загойвання...”

Кроплі дажджу пакрысе сталі падаць куды радзей, а тады і наогул дождж страціў свой рытм – ад падзення адной да падзення другой кроплі праходзіла колькі імгненняў, а тады ўсё больш і больш... Лівень аціхаў, і дрымотны відзёж знік незваротна, можна сказаць, зваліўся ў ваду, як сарваная віхурным ветрам з галінкі лісцінка. Зыркі прамень зазірнуў пад накідку і згас у безвыходнасці. Боль амаль аціх, Юрась узяўся за вёслы са спадзяваннем адчуць хоць якую падмогу плыні. Ён згадаў свой відзёж і падумаў: “А вось прырода так, як на мяне, мусіць жа, рэагуе і на змушальнае выцягванне каторага неабачлівага шчупака з рачных нетраў. Выцягнуў яго з вады – і ўсё адно як дзірачку шылам прапароў у блакітна-зялёных сутарэннях. І які сенбернар залізвае гэтыя болькі... – з горыччу ўсміхнуўся пра сябе Юрась. – Але ж сёння ніводнай дзірачкі мной не зроблена, і выглядае на тое, што і не зраблю ўжо...” – сумна падумаў ён.

А потым выбраў шпуляй блешню з вады, узвысіў над лодкай і назіраў, як з яе ўпала на пругкі борт колькі кропляў. Здалося, больш чым за ўвесь час дажджу, бо іх было тры, і яны, нібы шматкроп’е ў тэксце, абяцалі працяг.

* * *

Да завяршэння рыбалоўнага маршруту заставалася якіх паўтары гадзіны, і Юрась з ранейшай паныласцю, але ўсё ж трохі падбадзёраны пасля

дажджу зыркім сонцам, рушыў далей, папярэдне пазваніўшы Эдуарду, каб паведаміць пра сваё набліжэнне.

Эдуард лавіў вудай рыбу насупраць свайго лецішча, на прыкормленым і даўно асвоеным месцы.

Юрась тым часам падплываў да Здраўнёва, дзе месціцца музей-сядзіба Рэпіна.

На высокім беразе свяціўся сонечнымі бёрнамі і дошкамі адноўлены вялізны дом мастака з узвышанай над ім вежай, з якой Рэпін любіў азіраць маляўнічае наваколле.

На беразе Юрась заўважыў пару затулкаў, дзе ў іншыя дні можна было б пакідаць спінінг з разлікам на які-кольвечы шчупачыны водгук. Але не сёння, падчас здранцвеласці водных драпежнікаў, калі выбіраць лепшае месца лоўлі не выпадае, бо ўсе спрэс аднолькавыя.

Апроч таго была ў хлопца і далікатная перасцярога. Пад ціскам абставін ён ужо параўнаў шчупакоў з казачнымі птушкамі, калі лавіў у затопленым хмызоўі, а паловіш трошкі каля лецішча Рэпіна, дык, глядзіш, і залічыш іх у “атрыбут нацюрмортаў”...

Таму Юрась нават не набліжаўся да берага, а на хуткай плыні абмінуў музей-сядзібу, зводдаль азіраючы яе абрысы. Абмінуў і далей не выпускаў з рук вёслаў, каб паскорыць завяршэнне сваёй рыбалкі, якая так і не набыла хоць якога рэчаіснага выніку. Але ж была!

Эдуард, як толькі ўбачыў Юрася, здалёк пачаў прывітальна махаць яму рукой, выказваючы шчырую радасць сустрэчы. Вандроўны рыбалоў з увішнасцю, на якую ў яго яшчэ ставала сілы, накіраваў лодку ў глыбокі роў, які ўразаўся ў бераг акурат каля рачной ямы, у якой лавіў рыбу Эдуард. Роў, можна сказаць, быў галоўнай прыкметай ямы і яе абмежавальнай рысай.

Калі Эдуард убачыў, што Юрась дужа стомлены і выглядае, як кіслы яблык, дык пачаў рупна дапамагаць яму даставаць з лодкі рэчы, адчэпліваць вёслы... І пры гэтым, тактоўны і абыходлівы, ён і слова не спытаў пра вынікі рыбалкі, як быццам іх ніколі і не павінна быць, толькі працэс, толькі ўражанне...

А вось сам жвава адгукнуўся на роспыты Юрася і расказаў, што спаймаў толькі пару падлешчыкаў з далонь, колькі плотачак ды аднаго галаўля.

– А наогул белая рыба тут выпадковая, спадарожная, можна сказаць. Шчупаковая гэта яма. Шчу-па-ко-вая! – з пранікнёнасцю і асаблівым націскам на кожны склад, гледзячы ў вочы, прамовіў Эдуард.

– Што ты кажаш?!

– Ёсць падставы так казаць, Ігнатавіч. Адзін шчупачок, як брытвай, зрэзаў мой кручок. У мяне ж не на драпежнікаў вуда наведзеная, звычайная лёсачка, без павадка. Другога шчупака падсёк, але не зусім удала – можа, метр які працягнуў і сарваўся баец упарты. Але гэта што, – уздыхнуў Эдуард. – Каб вы ведалі, Юрась Ігнатавіч, які тут шчупачына ў яме прапісаны, як ён мальгу імпэтна ганяе, ад’ядаецца... Ды так бессаромна, на віду ў рыбаловаў! Здаецца, наўмысна дражніць, нават здзекуецца: маўляў, вось ён я, спаймайце, калі здатныя! Ну, што вы сумеліся?! Калі тут крышку пабудзем, дык пабачыце – і з вас паздзекуецца...

І сапраўды, праз колькі хвілін, калі Юрась з усім цяжарам сваёй стомы прылёг на прыбярэжны пагорак трошкі адпачыць, пакуль падсыхае выцягнутая з вады лодка, яго паклікаў да сябе Эдуард:

– Ну вось, зірніце... – звярнуўся ён да свайго напарніка шэптам. – Я ж казаў!

І Юрась пераканаўся на ўласныя вочы: з краю ямы брохнула вялізная рыбіна, а праз колькі імгненняў яна ўжо закруглілася ўсім сваім шчупачыным целам на глыбіні, але не каля дна, а вышэй, добра бачная зацікаўленаму назіральніку. Шчупачына вагой кілаграмы з паўтара закругліў свой пругкі бок у імклівай атацы, відаць, на мальговую чародку.

Эдуард хуценька падхапіў Юрасёў спінінг і пачаў "абстрэльваць" яму. Не ўтрымаўся і Юрась, але закінуў спінінг толькі пару разоў і зноў лёг на пагорку. Ён ведаў, што ўдача ніколі не ўсміхаецца ўсім адразу, а прыходзіць да свайго абранніка на мяккіх лапах, як ласкавая котка...

А галоўнае, прапаноўваць цяпер захопленаму сваім паляваннем шчупаку што-небудзь "смачнейшае" – неверагоднае глупства.

Апроч усяго, Юрасю хацелася прызнаць шчупакоў у гэты дзень непераможнымі і нязрушнымі, як іх з Васілём загартаванае часам сяброўства.

Эдуард, стомлены спінінговай уцехай, даў Юрасю колькі хвілін яшчэ паляжаць на выпетраным ветрам узгорку, але пры гэтым пільна сачыў, каб яго старэйшы прыяцель не заснуў на сырой зямлі, а неўзабаве і наогул прапанаваў ехаць дадому.

* * *

У відарысе, які адкрываўся ў ветравым шкле легкавіка Эдуарда, панавала агромністае, хоць яшчэ і не зусім выразна акрэсленае, але ўжо не такое сляпучае адвячоркавае сонца. З ніжняга яго краю ледзь прыкметна, а ўсё ж пазнавальна вытыркаліся з небасхілу вострыя і тонкія, як шыльцы, ствалы елак. Сонца яшчэ панавала ва ўсім свеце. І Юрась раптам адчуў гаючую святочнасць гэтага часу і стараўся запомніць яго як эпізод самага лепшага жыцця.

Артур Камароўскі



...жнівеньскім вечарам
будучыня нарадзілася жывой
і закрычыла...

# Называй маё цела

* * *

даставаць гэтую крохкасць
класці побач з бразільскім імем на шалі
хто пераважыць – няхай цела маё
суцяшае
няхай дорыць яму коды і ўзоры
далёкіх галактык
дзе ні крохкасці, ні найменняў
толькі зорнага дыхання дотык
няхай лепіць яму сутнасць
аблічча й абрысы
адной неадрыўнай міжгалактычнай
рыскай
пазбавіць выразных мужчынскіх
жаночых адзінак
каб вылепіць самасць такую

вялікую й дзіўную як
нешта па-за геаграфіяй часам і
скуры маёй манускрыпты
як вечнасць і ты.

* * *

*Васілісе Палянінай*

няўрымслівае жоўтае цельца
гарэза-каза
там дзе лес прыхарошвае твар
і гудзе драбяза
скрыжаванае вецце расчэсвае нам валасы
і выходзяць чужыя звяры
называй дары.
варажы на атожылках нашых цел
каб рубін вераб'ём на руку ўзляцеў
каб пад скураю скура была
бірузой
каб гулялі з казой.

* * *

называй маё цела,
перабірай слізкія літары ў роце.
самыя горкія – выбірай
ратуй.
безназоўнае – пакідай на самоце.
яно ўзыдзе аднойчы
гаваркою ракою зялёных туй.
называй маё цела –
яно будзе выходзіць з ценю
вечназялёных дрэваў
усіх гарадоў
каб радзімкі свае й рабацінне
аддаць
сляпому зіхценню,
невымоўнаму – кроў.
называй маё цела
самым белым і верным словам,
самай крохкай і вечнай
з усіх скульптур.
яно будзе чакаць на твой голас
пад аховай алькова
мой нур

* * *

мова майго языка –
неспазнаная рэч у сабе
невядомая плынь
(плысці ёй да вытоку
глытаць
даўкія гукі й літары)
збіраць пад падушку
палын
ад запазычанняў
запальваць і-маякі
апострафы-ліхтары
гаварыць
значыць быць па-за мовай
навідавоку
аддаць яе пад ахову
самой сабе
ці жывой зямлі
што навокал
бывае яна брыняе вадою
а тая цурчыць
праз сляпыя адтуліны
і нараджае словы
такія
што мне
ніколі не прыручыць

* * *

малое і лёгкае
нібы рассыпаць соль
прарастае ўва мне
растком
і даверлівым стукам
паміж сэрцам і лёгкімі
вось
вашая столь
канапа і ручнікі
і раўчукі маіх рук
брыняюць вадой
і гукам
раплываюцца хто куды
выпускаюць свае целаходы
і тыя вязуць
гаваркіх пасажыраў
на выспы і астравы
яны выбіраюць
наўмысна

хады й пераходы
брасам ці бродам
ад вады
да бяссоннай травы
каб пасля падглядаць
за святлом
у нябачную шчыліну неба
запамінаць
яго зрухі і крокі
ад вытокаў і пылу
да крохкага паднябення
і ўрадлівая глеба
майго языка
адчыніць ім дзверы
і дасць збавенне.

### ***анігіляцыя***

*

дзяцел
чысціць бліскучыя пёркі
цэліцца дзюбай у цела
цела спіць
галавою ў напрамку Нью-Ёрка
цела мкнецца застацца цэлым
пад прыцэлам
зямлі і джала
цела песціць штосьці ўнутры
жывое
цела – джа
лабірынт непралазных венаў
і цяпла сувой
дзяцел цвеліць
цнатлівае цела часам
адзінотаю цэнтрал-парка
цела спіць
пакуль дзяцел у кіпцюрах трымае
спадкаемцу *mersa* і *sarsa*.

**

прачынаешся, намацваеш цела. на прасціне, нібы на вайне, усё проста.
працягваюць вецце праз вокны дрэвы, пераскокваюць міны ўзросту.
прасцяг сцерагуць невядомыя птушкі, прасейваюць сонца спевам.
цела балела, пакуль свядома не выйшла за дзверы залевай.
гарачыя кроплі цалуюць сцёгны, выводзяць на скуры знакі.
спявай жа, цела, пакуль насенне не ператворыцца ў макі.
пасееш семя, што цягам часу засцеле поле абрусам.

і дзяцел сцішыцца ў вецці дрэваў,
і жук паківае вусам.

* * *

хтосьці кемлівы
звыклы да фільмаў з субтытрамі
расчытае фірмовыя знакі скуры
цела
што хавае сябе за фільтрамі
спецэфектамі і тэкстурамі
прачынаешся
падымаеш дзень-ноч фіранкі
запіваеш кефірам сненні
фонам –
Колтрэйн і Фіцджэральд. тыя ж ранкі
той жа скуры фасон і адзення.
за вакном
вецер дзьме ў раты фарынгіт
падае форт мой пад воплескі
зрыфмуеш
з нотаю фа вечны біт
фортэ і сонца водбліскі.

* * *

узысці над сабой,
як горы ўзыходзяць над морам.
вымераць цела мераю вышыні.
вылетаць вечнасць
паветраных калідораў,
вымавіць ціш.
ні
рукі мае,
ні словы
не знаюць, як абняць сябе,
зрыфмаваць.
дзесьці глыбока пад скураю –
сховы,
ды што з іх узяць.
выйсці з сябе
нябачнай эдэмскай ракою.
толькі такою,
каб рыбы маглі гаварыць.
“бачыш – Эдэм”, –
кажу свайму целу, каб супакоіць.
нічога, нічога.
удыхаю ў поры святло,

злізваю соль.
апранайся,
хадзем.

* * *

твая самая чаканая цяжарнасць
напрыканцы лета
пасярод Еўропы
мы чакалі
калі адыдуць воды
гладзілі твой вялікі жывот
сваімі маленькімі рукамі
захіналі ў вялікія сцягі
слухалі
як унутры варушыцца будучыня
і мкнецца ў цяпер
мы баяліся
што яна будзе кволай
што будзе нягеглай
і яе не возьмуць у садок
яна не пойдзе ў школу
як іншыя дзеці Еўропы
што чакае яе замужжа і нялюбы муж
такі як наш бацька
што яна
самая малодшая ў нашай сям'і
ніколі не зведае шчасця й любові
тым вечарам неба –
наша бабка-павітуха –
надзела чырвонае з белым
каб узяць твой боль
самыя цяжкія твае роды
ты плакала
губляла прытомнасць
ачуньвала
але нараджала будучыню
мы стаялі вакол
усе твае дзеці
а бацька ў шаленстве хапаў нас
збіваў
і кідаў у турмы
ён хацеў і далей валодаць табой
мы трымаліся
трымалі твае вялікія рукі
чакалі
і жнівеньскім вечарам
будучыня нарадзілася жывой
і закрычыла

* * *

бровы маміны
лоб дзедаў –
казалі знаёмыя і незнаёмыя
я глядзеў на сябе
ў люстэрка часу
з расколінай пасярэдзіне
чужымі вачыма –
чыімі – пакуль не ведаў –
і бачыў
як дрэва ўва мне
жывіцца сокам любові
сталее
кранае галінкамі столь
я хацеў каб яно
было толькі маім.
нос дзедаў
вушы бабуліны –
казалі ў крамах бабе Марыі
людзі што прадавалі чужое
быццам мяне таксама
прадалі разам з вялікай краінай
або аддалі ў нагрузку
і калі цішыня
адмервала кроплямі спорных дажджоў
маё падарожжа –
я чуў праз смаўжыны рот
рэха біцця незнаёмага сэрца
я хацеў каб яно
было толькі маім.
вусны прабабуліны
шчокі маміны
казалі людзі
і цягалі мяне за шчокі
быццам хацелі праверыць
і правяралі – напраўду:
вялікія і не мае
а дрэва ўва мне расло і квітнела
і гладзіла чырванню
мой пухлы твар
я хацеў каб ён
быў толькі маім.
радзімкі бабуліны
рукі дзедавы
казалі сваякі і сваячніцы
беручы мае рукі ў свае
дзівіліся мяккасці

цалавалі далоні
дзеда любілі за сілу
прабабка казала –
сваімі рукамі ён перацягваў дрэвы
а мне было страшна
што дойдзе чарга да майго
я хацеў каб яно
было толькі маім.
зараз гляджу ў люстэрка
і бачу вялікае дрэва ўва мне
што гайдаецца веццем родных
і стаіць на маёй зямлі
і ніхто апрача радзімы
нічога не кажа
я гладжу яго
і ведаю:
пакуль будзе лісце –
я нічога табе не аддам,
радзіма.

Мікіта Волкаў



...На моры на акіяне, пры чорным кургане,

Дрэва стаіць – дванаццаць галін...

# Дзедава калыханка

***Урывак з радаводнай аповесці***

*Учора мне споўнілася сто год.*

*Я ўсё памятаю.*

*Прынамсі, мая гісторыя стаіць перад вачыма да сёння.*

*– Дзядунё, памажы аздабляць хваінку.*

*– Міцька, а ты пагавары са мной на той мове, якой я вучыў цябе.*

*– Естэсь смешным, дзядку, я не Міцька, а Матэк. Ці ты гаворыш на сваёй простай гважэ?*

*Унук Матэвуш, які гасцюе ў мяне, па-старасвецку ўпрыгожвае ялінку, пакуль яго бацькі з'язджаюць на нартах з швейцарскіх гор.*

*– У нашым доме няма ўжо такой ялінкі, як ты яе захаваў, навошта?*

*– Матэвуш, недзе сярод цацак была кніжка, хацеў бы, каб ты прачытаў мне адтуль хоць трошкі, як я цябе вучыў. Калі правільна і без памылак прачытаеш, то можаш забраць гэтыя цацкі дадому. Толькі вось я запамятаваў, дзе паклаў яе.*

*– Але мама забараніла мне дакранацца да гэтых цацак, у мяне ж астма і алергія, ты толькі ёй не кажы.*

*Выдавалася, што малы зусім не звяртаў на мяне ўвагі. Ён толькі спешна выносіў кардонныя каробкі з пыльных шафаў*

*– Дзядэк, цо то ест?*

*На самым сподзе пушкі з калляднымі цацкамі ляжала рукапісная кніга. Цяпер зразумела, дзе Касыльда яе схавала, найпачэснае месца знайшла.*

*– Міцька, я хацеў бы, каб ты пачытаў мне гэтую ксёнжэчку. Адтуль ты даведаешся пра імёны сваіх great grandparents.*

*– Тых бялорусінув, як ты іх называеш?*

*Малы гартаў дайні, сухі і жаўтлявы, як мае рукі, памінальны сшытак роду.*

*Я ўглядаўся ў выцвілыя імёны, напісаныя нашымі з Матэвушам прадзядамі*

*– Дзядусь, калі ты быў малы, у вас былі святы? Было Божае нараджэнне? Ці расказваў табе твой дзядуля баечкі, ці памагаў ты ўпрыгожваць яму ялінку? І што абазначае намаляваная на тваім сшытку вільча глова?*

*Малы ўзяў фламастар і пачаў размалёўваць яе.*

*Раптам грудзі сцяло, і ўсё пранеслася перад вачыма...*

## 1

Тэлефон бесперастанку званіў. Але я не сумняваўся – слухаўку браць не варта. Ахвотных паразмаўляць са мной было як мінімум тры.

Па-першае, аддзел кадраў. Я звольніўся, бо прыйшоў канец маёй адпрацоўцы лор-урачом, а таму «кадры» відавочна хацелі пазбыцца стосу макулатуры, датычнай мяне – ўсе гэтыя аўтабіяграфіі і асабовыя справы. Хаця не выключана таксама, што хочуць мне на развітанне ружу падараваць ці руку паціснуць.

Па-другое – тэлефанаваць маглі з «Рэчы Паспалітай». Акурат мінуў месяц, як я здаў тэст на настрыфікацыю дыплома. Гэты іспыт па ўсіх медыцынскіх дысцыплінах, які дазваляе законна працаваць лекарам у Польшчы, каштаваў мне шматок нерваў. Выніку экзамена дасюль не было, а жадання пачуць, што *нестэты пан не здонжыў тым разэм, але нех поспробуе ешчэ,* – не хацелася. Такая фраза часта далятала да маіх старэйшых сяброў, якія каторы год спрабуюць з'ехаць з «нашай квітнеючай і моцнай».

Па-трэцяе – маглі тэлефанаваць з ЗАГСа. Зусім не з прычыны паведаміць дату майго шлюбу. Адтуль маглі паведаміць таямніцу майго радаводу.

Справа ў тым, што я апантаны даследчык уласнай генеалогіі. Я настолькі падрабязна ведаю этапы пошуку, што мог бы адкрыць уласны генеалагічны салон. Што праўда, корпацца ў чужых радзінных гісторыях вельмі небяспечна, у кожнай метрычнай кнізе жыве часцінка духу памерлага. Каб у гэтым пераканацца, варта завітаць у наш архіў на вуліцы К... Твары ўтрапёных аматараў шукальнікаў архіваў надта адметныя. Хіба што можна дысертацыю абараніць па тэме «Адрозныя рысы *Facies archivarius* і марбідныя рызыкі, з імі звязаныя». Як убачыш завостраныя, бы лязом, аблічы з бледна-жоўтай, як пергаментная папера, скурай на фotaздымку чытацкага білета Нацыянальнага архіва, то і залічвай у гатовы сімтамакомплекс. Прыткнутыя да метрычных кніг ушчыльную, праз

ушчэнт сапсуты зрок, гэтыя абліччы Гіпакрата не выдаюць хуткі згон, яны проста ўвабралі смерць.

Але вернемся да ЗАГСа...

Роўна месяц таму ў маім жыцці пачалі адбывацца перамены. Я пражыў чвэрць стагоддзя ў літаральна чорным, загаслым ад гнілля стаўку, у якім не было ані знаку плыні і абнаўлення.

Калі я вярнуўся з экзамена настрыфікацыі і ступіў на парог уласнага дома, то пачуў голас незнаёмай жанчыны. Я жыў са сваёй бабкай з самага дзяцінства, і госці былі ў нас рэдкай з'явай. Так здарылася, што яе каляжанкі даўно памерлі. З рыпеннем, які я ненавідзеў у голасе старых, з агідным падвываннем мая бабка скардзілася:

– Тамара, унук мой – хлопец хоць і працавіты ды знатужаны, але ўсё ж мітуслівы. Усё адно што нейкай клёпкі ў галаўні не стае. Ужо 26 год, а ён усе швэндаецца па розных гарадох, ездзіць у далёкія краіны, у розныя архівы. Не мае канкрэтна куды пацэліць і чаго ў жыцці трымацца. Вось і цяпер – паехаў, і тры дні ўжо няма. Бадай, у Вільню ці Варшаву.

Бабка Маня мела кепскую звычку: яна не замыкала хату на замок, а іржавы доўгі цвічок у весніцах, які мусіў бараніць падворак ад нечаканых гасцей, мог выцягнуць нават сляпы. Таму я стаяў у калідоры і слухаў усё ўважліва.

– А куды Віктар траціць грошы? Колькі ім плацяць як маладым спецыялістам?

– Ды небагата, але яму, як маладому, на маіх харчах толькі б збіраць, а не прагульваць. Ці помніш, як мы па вайне саматужна будаваліся, а за душой нічога не меўшы. Ён толькі гойсае, продкаў выкопвае, якія за за царом Гарохам жылі, бы з дамовак. А я яму кажу: не заві смерць, не трывож памерлых. А гэты дзівак размаляваў усю сцяну ў зале, гаворыць, што радаслоўнае дзерава вырасціў. Лепей бы харошую ігрушу ў садзе пасадзіў.

Я ўваліўся ў сталоўню нечакана для іх.

– Здарова, бабуся, дзерава то я вырасціў, ды бракуе на ім аднаго сука. Што на абед?

– Дзерава то ты вырасціў, ды бракуе на ім пладоў, а не сука, ды заадно глуздоў у тваёй галаве. Куды ўжо зноў ездзіў? Сядай, наясіся хоць удосталь, але перадусім прывітайся з нашай госцейкай. Гэта Тамара Іванаўна – дзядулева стрыечная сястра.

Перада мной за сталом, які стаяў пасярод сталоўні (старасвецкі перажытак, на ім яшчэ стаяў вазон са штучнымі кветкамі), сядзела маленькага росту жанчына, яна неяк іначай паводзілася ад бабкі і нават рухалася па-іншаму. Нягледзячы на астэахандроз, яна трымала плечы разгорнутымі, бы скрыдлы, а спіну – роўнай стрункай. На галаве не мела хусткі. А роўныя гладкія валасы нават пераліваліся. Яе вочы глядзелі ў розныя бакі, але як мне падавалася, гэта была не касавокасць. Я ўзіраўся ў яе правы, відушчы вочны яблык. Левы ж глядзеў улева і быў зацягнуты бледнай павалокай – хутчэй, атрафія зрокавага нерва ці глаўкома.

Яна проста глядзела і маўчала. Потым задала нечаканае пытанне:

– Віця, дык Маруся кажа, што сцены размалёўваеш?

– Рабіць няма чаго абібоку гэтаму, – прагугнявіла бабця і пайшла па імбрык на кухню.

Жанчына падышла бліжэй да сцяны і акінула позіркам дрэва. Яна правяла рукой па старой, збляклай шпалерыне, на імгненне затрымала даланю на яблыку, дзе было ўпісана маё імя і прозвішча.

– Неблагі выбар месца для радаводнага дрэва. Раней у супрацьлеглым куце ад дзвярэй вешалі абразы. Багоў мы сваіх выракліся, засталіся нашы святыя дзяды. Я разумею, пра які сук ты казаў, якога не хапае. Ты зусім нічога не ведаеш пра свайго прадзеда і яго бацькоў. Дзеда свайго, майго стрыечнага брата, хоць помніш? Я табе нешта параскazваю, а потым ты дамалюеш патрэбны сук, хоць мне здаецца, што гэта будзе ўсё ж ствол.

Думкі блыталіся ад прыемнай нечаканасці, бо почасту, калі збіраеш інфармацыю пра продкаў ва ўсемагчымых прыжыццёвых сведкаў, то часцей рызыкуеш спатыкнуцца аб абыякавасць і няведанне. Тут мне проста самі памерлыя, відаць, спрыялі.

– Я раскажу табе, што ведаю, пра што расказвала мая мама, але пры адной умове. Упішы маё імя і прозвішча ў сваё дрэва,

І дадала шэптам:

– Пакуль бабка не бачыць,

Тамара Іванаўна змяніла пагляд. Цяпер, падавалася, яе правае вока змярцвела, а левае як бы ачысцілася ды набыло глыбіню.

Яна шпарка, левай рукой (бабка была ляўшой) дапісала на камлі імя «Міленцій».

– Будзем піць чай, сядайце, – бабка несла на талерцы сочыва і печыва.

Запанавала хвіліна маўчання. Відаць, каб спыніць няёмкую цішу, бабка запыталася ў Тамары:

– Ну, пэўна, ён табе ўжо задурыў галаву продкамі..

– Маня, а чаму ж ты нічога не расказвала пра свайго свёкра Міленція?

– А я што ведаю, ну, казаў Іван, што забралі яго ўвосень сорак першага проста з хаты. Свякроў мы даглядалі, як зусім слабая была, але моды такой не было пытацца пра гэта. Яна сама нічога не расказвала

Тамара незадаволена павяла вачыма і глынула чаю.

– Значыць, раскажу я.

Старая адпіла з кубка і працягнула:

*– Калі мне было сем год, я жыла з маткай у твайго прадзеда Міленція. Мы яго дзядзькам Міцем звалі. Ён быў вайскоўцам, начальнікам гарадской турмы. Праз службу дзядзька Міця атрымаў пляц у самым цэнтры горада, а мой дзед Фелікс, ён жа бацька тваёй прабабкі Яўхіміі, перавёз драўляны зруб з вёскі ў Барысаў.*

*Дзядзька Міця быў вельмі ціхмяным і ветлівым, памяркоўным, маўклівым. І хаця цётка скубла яго, як карова сакаўную і звонкую атаву, ён цярпліва трымаўся, а потым выгаворваў усё маёй маці. Матка працавала прыбіральшчыцай гарадской бальніцы, а прабабка твая – нянечкай у радзільным доме. Можаш сабе ўявіць, колькі нас было ў хаце, якая складалася з двух трысценаў. У адным жыў Міленцій з цёткай і тваім дзедам, які толькі нарадзіўся, у другім я, мама і дзед Фэлікс.*

*Вайна грымнула, як пярун сярод яснага неба. У адзін лістападаўскі вечар маму пераняў фельдфебель на працы.*

*– Варка, коммунисты в доме есть?*

*– Не, якія камуністы, ніякіх камуністаў не ведаю*

*Маме адняло мову, бо дзядзька Міця быў партыйны. Фельдфебель працягваў:*

*– Варвара, завтра будет облава на евреев и партийных, будьте аккуратнее.*

*Мама скоранька пабегла дахаты і заспела Міленція дома.*

*– Міця, збірайся скарэй. Заўтра будзе аблава.*

Бабка неяк пачала бурчэць, пырхаць, быццам Тамара разварушыла стары кілім, ад якога ўсе пачнем кашляць і задыхацца.

*Я помню яго аблічча ў той момант. Ён збялеў перад тым, як яго пачало калаціць. У валтузні пачаў збірацца, прыкрыкваць на дзяцей, а потым яго перапыніў брэх сабакі. У хату ўвайшлі трое.*

*– Вы Волосов Милентий?*

*– Да, я.*

*– Собирайтесь, пойдемте.*

*– Хорошо, я только возьму белье на смену...*

*– Не надо никакое белье, вам оно не пригодится, ничего не пригодится.*

Наш сабака перапыніў аповед старой. Яна зірнула ў вокны. Мы дапівалі гарбату.

– Можа яшчэ чаю, Тамарка? Гэты зусім пастыў. Я прынясу яшчэ.

Вочы старой напоўніліся белай імглой. Цяпер ужо было незразумела, у якое з вочных яблыкаў трэба глядзець.

– Маня, я пайду ўжо. Нешта мне нядобрыцца.

– Эй, вы што, спыніліся на самым цікавым месцы, а мне што з гэтым рабіць? Як далей шукаць інфармацыю? Дзе нарадзіўся Міленцій?

– Маня, ты ніколі не распавядала Віцю, адкуль Міленцій? Я нават не памятаю, табе свякроў не казала?

– Я не ніколі не цікавілася гэтым. Дакладна ведаю, што ён не з гэтых мясцінаў.

Гэта пытанне было найважнейшым для мяне. Бо па месцы нараджэння можна было вызначыць месца хросту ды знайсці метрыкі ў архіве. Без гэтага вяршаліны не дамаляваць.

– Ён з Расіі?

– Не, ён дакладна не з Расіі, я ўпэўнена, што ён нарадзіўся ў Беларусі, але канкрэтнага месца не ведаю. Ён некалі казаў маме месца свайго нараджэння, але, каб жа яна была жывая... Перад тым як яго ўжо выводзілі, ён да маёй мамы шапнуў: «Варка, нават калі я застануся жывым, я не вярнуся».

Назаўтра мы з мамай выкопвалі яму, дзе застрэлілі ўсіх гэабрэяў і партыйцаў, мы варочалі мёртвыя целы, але Міленція сярод іх не было.

Тамара Іванаўна хутка ўзнялася са стала і пачала збірацца на выхад.

– Чаго ж ты падляцела так хутка, пасядзі, пагавэндзім яшчэ, – бабка Маня накладала печыва проста ёй у талерку.

Тамара ж не рэагавала.

– Маня, я пайду, я спяшаюся прыняць лекі, – яна ўзялася за сэрца.

На падворку брахаў сабака. Ля весніцаў я проста выбег напярэймы Тамары Іванаўне і запытаў.

– Дык дзе мне шукаць яго след? Падкажыце хоць накірунак...

– Ты наўрад ці што знойдзеш, усе, хто ведаў, ужо на тым свеце, але ты апантаны і цікаўны, як я пабачыла. Плёну табе.

Яна выцягнула з гаманца старую збляклую фотакартку з узорыстымі краямі. На ёй – два мужчыны. Адзін сядзеў на крэсле, а каля яго стаяў другі. Абодва ў форме НКУС.

– Гэта два браты. Твой прадзед Міленцій з братам Еўдакімам. Яны абодва прыехалі ў дваццатым. Еўдакіма можаш пашукаць на стараверскіх могілках за чыгункай, ён памёр у семдзесят сёмым. Магчыма, гэта паможа. Усё, бывай.

## 2

У архіў вядуць людзей розныя прычыны. Бальшыня шукае высакародныя жылы, шляхетную кроў і гербы. Капае глыбока і дбайна, пакуль не напаткае які-небудзь дакумент аб узнагароджанні продка "За усмирение польского мятежа". Альбо чалавек з прозвішчам Сапега, будучы ўпэўненым, што яго продкі мелі палацы ды ездзілі на паляванне, разводзілі выдраў, даведваецца, што былі яны ўсяго толькі беглымі сялянамі, якія ўцякалі ад аднаго пана да другога. Архіў – вельмі падступная, але праўдзівая арганізацыя. Але бальшыня людзей проста перапісвае процьму ўскоснай інфармацыі праз брак звестак і невяданне ўсіх дэталяў архіўнага пошуку.

Перад візітам у архіў важна выканаць "палявыя работы". Рэвізія старых шафаў і камодаў можа адкрыць безліч падказак – старыя пасведчанні, фотаздымкі з надпісамі, ваенныя білеты... Часта здараецца, што рэвізаваць прыходзіцца хаты, дзе даўно ніхто не жыве. І тут ідзеш на рызыку, бо можаш праваліцца пад гнілыя маснічыны, увярэдзіцца іржавым цвіком, загінуць ад удара ў патыліцу тоўстай згнілой кроквы. Мой сябрук Лёша, які з'ехаў з краіны тры гады таму, нават з металашукальнікам паўсюль хадзіў, бо ці на скарб хацеў натрапіць, ці бомбы ўнікнуць. Скарб так і не знайшоў, калі не лічыць знойдзеныя ім за абразом у пустой закінутай хаце пачак выцвіла-рыжых керанак ды дваццаць срэбных мікалаеўскіх капеек. Пра лепшыя ўловы, прынамсі, не расказваў.

Могілкі – таксама важная крыніца інфармацыі. Тут і гады жыцця, і сямейна-роднасныя сувязі прасачыць можна. Праўда, не заўжды трапіш на дагледжаныя, прыбраныя магілы. Здараецца, што агароджы даўно ўраслі ў тоўсты ствол дрэва, а пад самі помнікі праз колкія крапіву і малiннік не падбярэшся.

У нашым горадзе могілак было чатыры. Старыя праваслаўныя, Кальварыя, габрэйскія і стараверскія. Быў і яшчэ адзін могільнік, але ён дапамагчы аматару генеалогіі ніяк не мог. На ім не было ані шыльдаў, ані надпісаў. Хіба што адзін вялікі крыж, які мясцовыя актывісты ставілі на Радаўніцу штогод. Але крыж быў малатрывушчы – да Тройцы ніколі дастаяць не мог, невядомыя яго ссякалі

Кальварыю і праваслаўныя могілкі я вывучыў удоўж і ўшыркі. Старыя каталіцкія клады – самыя дагледжаныя ў горадзе. Пахаванні шматслойныя, могілкам не меней за трыста гадоў. Польскамоўныя надпісы ўсё часцей замяняюцца на расейскія, а старая частка могілак пакрысе асядае ў зямлю. Некранутая частка тут толькі ля капліцы. Самая старая магіла плябана з 18 стагоддзя. А за шэрагам ксяндзоўскіх магіл схавалася колішняя гарадская арыстакратыя: Ржавуцкія, Бабіцкія, Рэвуты, Марцінкевічы – шмат помнікаў у выглядзе абсечанага ствала дрэва, сведчанне апошняга з роду, які не пакінуў нашчадкаў-захавальнікаў прозвішча.

Праваслаўныя могілкі зарослыя лазой і дзядоўнікам. Старых магіл нашмат больш, чым на каталіцкіх. Тут лёгка прасачыць гісторыю горада – пахаванні Першай сусветнай, Вялікай Айчыннай, магілы праваслаўных святароў сабора, нават сямейныя пахаванні бурмістра Яна Тамаровіча.

Але баба Тамара згадала пра стараверскія, што было для мяне нечаканасцю.

На стараверскіх могілках мне бываць не даводзілася. Яны разлегліся за чыгункай, каля Бярэзіны, на супрацьлеглым яе беразе. Я паехаў проста

ўздоўж калейкі, а леваруч ад мяне бегла імклівая рака. У сасонніку, за векавымі ліпамі, нібыта наўмысна пасаджанымі для схову апошняга прытулку «кацапаў», за згнілым парканам віднеліся васьміканцовыя крыжы. Дзенідзе замест іх высіліся маленькія каплічкі, дзе-нідзе проста абымшэлыя валуны. Знайсці сярод старога, занядбанага могільніку патрэбную магілу – амаль як мыш-палёўку на іржышчы. Я спрабаваў не глядзець на імёны, а ісці на ўнутраны покліч, але дзіўныя імёны і прозвішчы забіралі маю ўвагу – Сінкліцікія, Антарэй, Фаласій, Лугвен. Некаторыя крыжы былі настолькі тоўстымі, што і аберуч не абхапіць.

Бралася на змярканне, а патрэбную магілу Еўдакіма Вількова я так і не знайшоў. Я прысеў і напіўся гарбаты, прыпасенай у тэрмасе. Раптам падзьмуў моцны вецер, і чорны крумкач пачаў крычаць проста над маёй галавой, як быццам выганяючы мяне прэч.

Я сядзеў на лаве акурат ля мармуровага, прамакутнага ў савецкіх традыцыях помніка з зоркай і надпісам: *Вількоў Еўдакім Васільевіч. Памёр 12.03.1977.*

## 3

Хто мне падказаў звярнуцца ў ЗАГС, я не памятаю. Але гэта было настолькі трапна і паспяхова, што я не ацаніў напачатку.

Прыйсці ў панядзелак – зусім няўдзячная справа, асабліва з архіўнымі генеалагічнымі пытаннямі. Процьма агрэсіўнага люду ў чаканні даведак аб нараджэнні і смерці, задушша і бруд на падлозе.

– Я ж вам сказала, ажыдайце! – рудая супрацоўніца зачыніла перад фацэтам дзверы.

Мужчына бухнуў па іх нагамі.

– Я зараз міліцыю выклічу, – выкрыкнула яна і заўважыла мяне. – Доктар, чаму ж не сказалі, што прыйшлі. Вы па справе? Заходзьце.

Гэтая пані была трыццацігадовай “паннай”. Яна некалі лячылася ў мяне з нагоды запалення пазух. Ацёк шчакі вымусіў яе пагадзіцца на пункцыю, хоць гэта было балюча і непрыемна.

– Вядома толькі дата смерці Еўдакіма? – яна глытала халодную каву і ўсміхалася. – Праз пяць хвілін вы будзеце ведаць дату нараджэння Волкава. Толькі зайдзіце па абедзе. Вы ж бачыце, колькі народу.

Раптам дзверы расчыніліся, і мужчына ў балоневай куртцы праверашчэў:

– Цябе выкінуць адсюль ці лоб расшыбіць? Без вочарадзі нос прасунуў. У мяне бацька памёр, чакаю даведку аб смерці, каб атрымаць грабавыя. Каб пахаваць дастойна ветэрана працы, а яны чай папіваюць.

– Як я вас разумею, – звярнуўся я да рудой панны і выйшаў.

Ужо вечарам, дома, я сядзеў над мапай і шукаў таямнічую для мяне Міхасёўку. Так менавіта было пазначана месца нараджэння Волкава Еўдакіма Васільевіча, а натуральна, што і мой прадзед таксама нарадзіўся ў гэтай жа вёсцы.

(...)

***

Мапы часта падманваюць. Не заўсёды роўная нітка дарогі на карце такая ж роўная і гладкая.

У маім нататніку ўжо быў намаляваны маршрут: Пагрэбішча – Алешкавічы – Мокравічы – Эсьмоны.

Мажная гаспадыня, убраная ў святочную хустку, ішла ў вясковую краму.

– Цётко! А на Мокравічы тудой? – запытаў я.

– Муся да некага ў госці намыліўся? – здзівіла раптоўная свойскасць чужой мне кабеты.

– Сюдэю! – яна паказвала на чорны лес, сярод соснаў ледзь-ледзь была відаць дарожка.

– А ваўкі не з'ядуць?

– Ты ж сам, як воўк, унурыўся! Чый ты будзеш? Як лёду воўк, – яна без цікавасці адвярнулася. Побач з ёй беглі два куртатыя сабачкі.

Лясная сцяжына не сканчалася. Заблудзіцца было лёгка. Сцежка кружляла, рабіла вілюжыны, лукавіны, падвойвалася, патройвалася. Як рухацца далей, я не разумеў. Спытаць не было ў каго, мабільны разладаваўся, толькі вершаліны хвояў падказвалі – далей гушчару ўжо няма, відаць нейкая дзялянка.

Гэтая дзялянка аказалася звычайнымі ляснымі могілкамі. Нідзе на мапе па маім маршруце могілак не прадбачылася. Хіба нейкія старыя, занядбаныя.

Здаецца, што я ўжо так доўга круціў педалі, што тая мулкасць у цягліцах і сёння адчуваецца, хаця мае суставы даўно памененыя на тытанавыя, і зараз я б мог праехаць утрая больш, каб не стогадовае сэрца.

– Няўжо прыйшоў загубы сваёй шукаць?

За мной стаяла жанчына, больш падобная на законніцу, – яна мела нейкі чорны адмысловы строй, а рогі яе вялікай хусткі не былі завязаныя ў вузел, толькі роўненька пасавалі адзін пры адным, прымацаваныя шпількай. Прывіды, напэўна, не такія жахлівыя. Хаця страх застацца аднаму ў лесе быў большым.

– Ведаеце, я тут шукаю свае карані... Вось, маю спіс гаспадароў.

Я працягнуў ёй спіс гаспадароў шуканай мною вёскі за 1926 год. Першы перапіс БССР, які я ўзяў з архіва за тры дні да свайго падарожжа.

– Як інцярэсна ета ўсё. Але я ні згі не віджу. Ты мне лепш назаві імёны, прозвішчы.

Калі яна пачула імёны Міленцій, Еўдакім, то ўсміхнулася недаверліва.

– Лепш каціся ты адседава. Шпег пракляты, што ты тут выглядаеш? – старая адвярнулася ад мяне і пайшла прэч.

– А можа, Васіля Вількова ведаеце, гэта бацька іх? А я яго прапраўнук. А можа, да Міхасёўкі падкажаце?

Старая спынілася, трымаючыся за крыж. Не паварочваючыся да мяне, яны вымавіла.

– Ты яго прапраўнук? Тады хадзі за мной, – старая выводзіла мяне з лесу да самотнага, забытага Богам хутара.

## 12

Ён пазіраў такім халодным, налітым ртуццю паглядам, што я адчуў металёвы прысмак у роце. Доўгая барада і сівыя бровы выдавалі ў ім старца-мудраца, але парэпаная, збуцвелая скура рабіла ўражанне, што ён некалі ўжо памёр, але ўстаў і зноў пачаў жыць. Я ўнікаў яго пагляду і стаіўся за яго нешматслоўнасцю.

– Я думаў, ты не прыйдзеш, – ён адкінуўся на спінку крэсла, абабітую ваўчынай скурай.

У дзверы пастукалі, і стары, не паказваючы гнеў, вымавіў:

– Перашкодзілі, але доўг ёсць доўг.

Пакуль я чакаў, што будзе адбывацца, дзед ужо накрываў абразы белымі ручнікамі. Праўда, адзін з іх быў і так павернуты да сцяны тварам. Ён яго загарнуў у чорны настольнік і схаваў у куфры.

– Сядзі як мыш пад печчу, – і тут ён накрыў мяне празрыстай тканінай, падобнай на марлю і за самую макаўку маю ўзяўся, прамаўляючы:

На моры на акіяне, пры чорным кургане,
Дрэва стаіць – дванаццаць галін.
Вецер дрэва гэтае не качае, ветак яго не нахіляе,
Яно спіць не спіць, стаіць не стаіць,
Не бачыць, не чуе, нішто яго не хвалюе.
І ты, Божы раб Віктор,
Стой, дзе стаіш, сядзі, дзе сядзіш,
Крыві нічыёй не пужайся,
З перапуду ў ляк не кідайся.
Здранцвей на адну часіну,
На ведзьмарову гадзіну.
Твае вочкі, твае змыслы, цела тваё бела,
Красную кроў, чорную броў...

– Рэпсіння, заходзь.

Жанчына, захінутая ва ўсё чорнае, увайшла ў хату з дзіцём, якое разрывалася ад плачу.

Жанчына трымала дзіцё з агромністай кілой, а стары тронкам ад нажа спрабаваў яе ўправіць. Я хацеў умяшацца, спыніць гэта бязладдзе, але мае мышцы бы адзеравянелі, ні скрануцца, ні вымавіць слова я не мог.

Ці то ад доўгай дарогі, ці то ад алкагольнай інтаксікацыі і ўражанняў я праваліўся ў сон...

***

Прачнуўся я ў прасторнай драўлянай хаце. Вокны, захінутыя чыстымі белымі фіранкамі, глядзелі ў сад. Столь была высокаю, а пакоі вялікія. Хата была на восем пакояў. У тым, дзе я быў учора, не было вакон. Ля сцяны стаяў куфар, злева ад яго, у куце, супрацьлеглым «покуці», стаяў трыльяж. На сценах віселі сухія пукі зелак, а пасярод пакоя, проста на падлозе, вугалем намалявана кола. Я паспрабаваў адчыніць куфар, але ён быў закрыты на замок. З двара даносілася груканне дрывасека, яно было такім рэдкім, часамі падвойным, здавалася, што нехта вучыцца гэта рабіць першы раз.

На двары адкрываўся цудоўны далягляд. З узгорка, на якім стаяла хата, быў відаць лес, злева – вялікае, чорнае, нібы бяздоннае возера (згодна мапы гэта было возера Святое), шаша за ўзлескам, справа – маляўнічы лужок з мядункамі, на якім пасвіліся тры казы.

Па плячы мяне нехта злёгку вальнуў абушком.

– Ну ты і здатны спаць, Віця.

Дзядок стаяў у шэрай зрэбнай касаваротцы, падперазаны сінім поясам.

– Бяры сякеру і скончы маю работу, калі хочаш снедаць.

Пры дзённым святле я лепей разгледзеў гаспадара – шэрыя выцвілыя вочы, абцягнуты скураю чэрап, расфакусаваны погляд, лёгкае дрыжэнне рук, – усё гэта давала ледзь не сто гадоў чалавеку прыроднага здароўя. Хто гэта б мог быць? Да каго мяне прывяла старая, пачуўшы імя майго прапрадзеда Васіля Вількова, якому б на сёння, калі б ён жыў, было не менш за 120 гадоў?

Калі дровы роўненька былі складзены пад прызбай, стары моўчкі павёў мяне ў хату. На стале стаяла звыклая вясковая ежа: заскваранaя яечня на патэльні, галоўка цыбулі, стос бліноў і кубак малака.

– Ты, вядома, хочаш спытаць, хто я, – стары стрымана ўсміхнуўся і пальцам паказаў на мой заплечнік, – і знарок дзеля гэтага ехаў сюды? Але адчыніць мой ларэц не ўдалося?

Як стары мог чытаць мае думкі? Як ён упраўляецца па гаспадарцы? Уявіць гэта не было ніякай магчымасці.

– Як упраўляцца па гаспадарцы? Калі настане табе сто год, то і даведаешся, пазнаеш асалоду. А цяпер дапамажы падняць вечка майго куфра.

Гэта было неверагодна, але гэтым разам ані замка, ані кола, намаляванага вугалем, не было. Вечка лёгка адчынялася, а ў ім, сярод нейкай традыцыйна-абрадавай вопраткі, ляжала кніга, з намаляванай на вокладцы ваўчынай галавой. Кніга была падобнай да рукапіснай, аднак стары забараніў мне яе разгарнуць. Ён узяў з паддувала вугельчык і зноў пачаў маляваць кола на падлозе, гэтым разам вакол мяне. Потым узяў тоўстую васковую свечку, запаліў і прыкурыў ад полымя пук нейкай жоўтай дробнакветкавай травы, нешта мармычучы сабе самому.

Потым ён адгарнуў кнігу і пачаў апавядаць:

*– Я брат твайго прапрадзеда Васіля, маё імя Асура. Увесь наш род па мячы – патомныя чарадзеі. На гэтых землях, сярод лесу, мы жывем ад нараджэння. Гэта наш бацька сюды прыйшоў – Іван, пятае тваё калена. Прыйшоў з захаду, з зямлі Ашмяны. Наш род гналі адтуль, бо мы ўдзельнічалі на баку паўстанцаў за волю, бо калі нашыя дзяды прыйшлі сюды з Наўгародскіх земляў, тут была іншая дзяржава. Нашыя дзяды змагаліся за яе аднаўленне і за свабоду вызнаваць свайго Бога. Мы – стараверы. Тут, на землях лясных, на якіх пасяліўся наш бацька, мы збудавалі свой хутар. Ніколі мы не мелі спакою, ад суседзяў і зайздроснікаў заўжды зазнавалі гора. Твой прадзед з братам, мае пляменнікі, па-здрадніцку адсюль уцяклі, хоць мы іх папярэджвалі, што загінуць бясследна, пакрыюцца занядбаннем. Вось, паглядзі...*

Перада мной паплылі вобразы дэжа-вю – «раней убачанага». Экзамен у Польшчы, баба Маня, цётка Тамара, арышт прадзеда невядомымі ў капелюшах, сабачы брэх, вандроўка, зыркае вогнішча, аповеды маіх сяброў, мокры росны дол, лугавіна і законніца.

У кнізе па парадку, пачынаючы ад самага першага продка, былі пералічаныя мужчыны майго роду:

*– Наш праайцец Воўк, таму мы Вількавы, бо нас спальшчылі на ашмянскай зямлі. Наш прабацька ў труне б перавярнуўся, даведаўшыся, што твой прадзед уцякач Міленцій, адмовіўшыся радзіны, выракшыся бацькавай навукі, уступіў у партыю і ўзяў жонку лацінскай веры. Але выбар за табой. Ты можаш застацца тут, прыняць нашу веру, каля нашага хутара – Святое возера з прачыстай вадой, там зможаш прыняць хрост. Маладых стараверак у ваколіцах можна лёгка знайсці, і пражывеш ты поўны век у спакоі і міры.*

Свечка, што гарэла побач, пачала трашчаць і брацца чорным полымем. Дзед узяў з крука на сцяне чарговую траву, гэтым разам сінюю, і прамовіў:

– *Пералёт-пералёт трава, адкрый мыслі, адхіні заслоны. Іван Купала, святы між святымі, расчапі, расхіні памяць раба Божага Віктара.*

У пакой уляцелі дзве птушкі, белы голуб і чорны крук. Хаця, магчыма, усё гэта мне толькі здавалася.

– *Не хочаш, бачу я, ты тут заставацца. Дзве навіны да цябе прыляцелі, адна чорная, другая светлая. Адна з далёкай краіны, што цябе там чакаюць, на сталы збіраюць, а другая благая, чорная. Бабка твая заўтра памрэ.*

Я не ведаю, што за ўласцівасці мела гэтая сіняя трава, але ўсё вакол мяне пачало кружыцца, пукі сухой травы ляцелі са сцяны ў куфар, трыльяж як бы пераўтварыўся ў бліскучы шар, свечка адразу падвоілася, потым патроілася, потым сталі запальвацца іншыя свечкі, дзядок пачаў пяяць нейкі ці то сакральны гімн, ці то калыханку. Потым яго зэдлік паменшыўся з напарстак і ўляцеў у куфар, а потым і сам дзядок як бы высах і рассыпаўся ў попел на старонкі кнігі. Кніга закрылася, і я цалкам праваліўся ў бездань...

***

*Хлопчык пад дзедаву гамонку заснуў проста на падлозе.*

*Бацькі нечакана вярнуліся з каляднага адпачынку. Ім захацелася сустрэць Божае нараджэнне ў доме бацькі, зрабіўшы гэтым сюрпрыз.*

– *Сынку! Татусь! Естэсь сынку? Паснулі абодва з дзядунем. Як жа гэта міла, Гжэгож.*

*Яны пазіралі на замілавальны вобраз – на мядзведжай скуры, параскідаўшы фламастары, якія былі рарытэтам, бо імі ўжо гадоў пяцьдзясят як не карыстаюцца, смачна спаў малы Матэвуш. Побач з ім на крэслекачалцы, захінуўшыся з галавой, драмаў дзед.*

*Магутны Гжэгож, татка Матэвуша, здарожаны і па-святочнаму стомлены, прытуліў да сябе малога.*

– *Нех спі, – прамовіла Касыльда, – хадзем лепей у кухню, каб падрыхтаваць святочны стол.*

*Перашкодзіў ім нечаканы кашаль малога. Матэвуш не пераставаў чыхаць, дамалёўваючы на ваўчынай галаве рукапіснай кнігі чортавы рожкі.*

– *Цо ты робіш, неслух! Кінь гэта прэч.*

– *Мамо. Як добра, што ты вярнулася. Ты яшчэ паспееш пабачыць на небе бэтлеемскую зорку.*

– *Мацек! Прэч гэта! З тваёй алергіяй на пыл. Кідай у агонь.*

– *Файна, заўжды хацеў гэта зрабіць! Бэндзе пломык велькі!*

*Матэвуш шпурнуў рукапісны памяннік у камін. Вогненныя языкі ахапілі зжаўцелыя старонкі. Ваўчыная галава знікла ў попеле менш за хвіліну.*

– *Дзядку, але ты не сярдзіты, што мы спалілі тваю кніжку?*

*Малы штурхануў дзеда. Стары зваліўся з крэсла. Ён ляжаў нерухома. На твары навечна застыгла вінаватая ўсмешка.*

*Мінск 25.02.2019*

Яніна Грыцкевіч




...я – не зямля,
я – падарожнік...

# Сублімацыя

### *ПЯРШАК*

Хацела верш, нібы пяршак, –
Як на хаўтурах ці вяселлі.
Калі галосіць чорны птах,
А на вакне буркуе белы.

Гады ў рады, радок у год
Слязой мужчынскаю адмеру.
Ашчадна выверу слупок,
Як перакатам сухавею.

Ды ямбам вышыю красу
Чырвонай ніткаю скрозь сэнсы –
Як жычкай пругкую касу,
Што маладзіцца вяжа ўвесну.

З апошняй ночы на Дзяды
Адсыплю жменю зарападу...
Бо бачым іх гады ў рады –
Як і шануем дзеда праўду.

Купальскай ночы наўздагон
Збяру расы з улоння пашы,
Каб асвянціць мой рэдкі плён
У варажбітнай сіле плачу.

* * *

Калісьці лёс рубель падкінуў:
арол – хлапец,
а рэшка – я.
Арол – салдат,
я – гаспадыня.
Хлапец – пілот,
рэшка – зямля.

Пайду дарогаю сваёй,
парослай вербамі, як брама.
А паабапал – зверабой
палацьме знічкамі ціхмяна.

Прысяду ў засені зялёнай
і раскладу вакол гады.
Вадою чыстаю, свянцонай
напоўню ссохлыя сляды.

Ды не прыйшла сюды маліцца –
карціць пісаць ліст-запавет.
Падвешу коскай – завушніцы,
шматкроп'ем – срэбны бранзалет...

Складу ў канверт
вэлюм, карункі
ды падпалю тое дабро,
каб абагрэцца перад хуткім
вяртаннем у калыску зор.

Рубель тады ў руку матулі
упаў на руб.
І летам кожным
дзіцё ўяўляла,
неба чула:
я – не зямля,
я – падарожнік.

## *ГІПНАГОГІЯ*

Шапаціць цішыня...
Хвалі талае ночы
наплываюць гулліва
на ніву журбы...
З берагоў явы сон
так спакусліва крочыць,
як красуня з вадой
пасля рупнай сяўбы.

І струменіцца цемра
з вытокаў Сусвету,
напаўняе цяплом
каляіны цішы –
з нетраў зоркі,
калісьці смалой абагрэтай,
бо з каханай Адам
у Эдэме грашыў.

* * *

З плячэй небасхілу
цярушацца зоры –
то свет скалануўся
ад дзьмуху Стрыбога –
ды падаюць долу
пярэстым узорам,
каб зданям у вырай
заблытаць дарогу.

Іх срэбныя постаці
водзяць употай
свае карагоды
на тым скрыжаванні,
дзе пыл і бур'ян,
занядбанне і слота
ды кнігавак енк
па нязбытным спатканні –
з сабою самім.

Прытулюся да крыжа,
што вёсны вякамі
да нас аздаблялі.
Ты чуеш?
Шапоча рахманая ціша...
То здані твае
пад зямлю
адляталі.

## *СУБЛІМАЦЫЯ*

Упала кропля атраманту
радзімкай,
як з твайго пляча,
на сівізной пакрыты аркуш,
які дагэтуль век маўчаў.

Рассыплю думкі на паперы
ды дзьмухну,
каб развеяць пыл.
І на каралях чорных перлін
убачу срэбны небасхіл.

Мне шоргат літар пад рукою,
як шэпат вейкаў у цішы,
калі кранала іх сутонне
лагодным пошчакам імшы...

Мне карагоды словаў –
шабас,
калі пляліся туманы
над дыванам палескай багны,
а па-над ёй лунала – ты.

Радкі
як хвалі
разальюцца
за берагі майго ліста,
як валасы,
што ты распусціш
вугольнай плынню...

Я растаў...

У віраванні пенных мрояў,
дзе яна вабіла плячом
з радзімай плямай, як слязою,
што не злавіў над аркушом.

## *ЯНА І ЁН*

Зазірні ў яе неба
праз шэрыя вочы –
там выспявае дождж.

Дужа пільна не трэба,
бо можаш сурочыць
дзіва ў вясновую ноч.

Зачарпні яе мора
сваёй даланёю –
хвалю тугіх валасоў.

Па цнатлівых разорах
засей свае гоні
да векавых маразоў.

### *ПРАДЧУВАННЕ*

У змрочным астрозе
кульгавы кажан
глядзіць мне ў душу,
выдыхае дурман.

Тулюся –
у кут
ад шалёных вачніц.

За кратамі чуецца
шоргат грамніц...

* * *

Я падслухваю гукі вясны
Праз экран непамытае шыбы...
Час нібыта ў паветры застыў –
Бачу ўсе яго плямы і хібы.

Падглядаю за явай удзень
Праз адтуліну ў шуме белым...
Адпускаю на волю свой цень –
Весяліцца ў пакоі замшэлым.

Выдыхаю самоту, калі
Думкі ноччу сплываюць у фортку...
Увесь свет быццам зараз баліць
У маіх перапоўненых лёгкіх.

## ЦІК-ТАК

Цокае звонкім абцасам гадзіннік
па брукаванай вечнасці...
Час адчыняе ўзламаныя скрыні –
з болем, пачварамі, нечысцю.

Цокае звонкім абцасам гадзіннік
па брукаванай вечнасці...
Толькі надзея на дне не астыне
нашай зямной чалавечнасці.

Цокае звонкім абцасам гадзіннік
па брукаванай вечнасці.
...Хай прарасце яна кветкай палыну
ў зорнай праталіне млечнасці.

* * *

Не народзіцца верш у спакоі,
не заплачуць дрыготка радкі,
незнаёмца душу не загояць
і тваёй не пакінуць рукі.

Яна будзе трымцець у адчаі,
аддаваць
рытмам болю
у скронь.
Не ачысціць цябе,
не пазбавіць
ад пакутнага цяжару дзён.

І ты станеш чакаць у надзеі
мілагучнага спеву радкоў,
пакуль сіверам ноч не павее,
не накрые мярэжаю сноў...

Не заблытае вобразы-ніткі
у касматы ваўняны каўтун...
Ты папросіш у Бога малітвы –
расплясці
клубок
нізкаю
струн.

Каб спынілася ў думках бразготка,
ды суцішыць трывогу і звон.
Каб павольна, пяшчотна і лёгка
над паперай зайграла далонь...

...Ды з нябёсаў адкажа праклёнам
хор спустошаных музыкай душ:
не разродзіцца муза бяскроўна
на твой блаславёны аркуш.

### *ПАСТСКРЫПТУМ*

Тыя словы, што я не сказала, спаласну ды ў сцюдзёнай вадзе...
Пагляджу, ці гарачаю стала і ці сталі далоні чысцей.

Тое рэха, якое не чула, праглыне ў сваёй дзюбе зязюля –
горкім пошчакам срэбнае кулі, што вярнулася ў вузкае дула.

Той замок, што я не адчыніла, заіржавеў на браме нябёс,
ды на сходах блакітнага схілу зажурыўся маўклівы Хрыстос.

У тым месцы, куды не ступілі мае грэшныя пошукам ногі,
няхай сцішацца коткамі ў пыле неабітыя лёсам парогі.

Тое зерне, што я не скарміла зямлі-матухне, мужу, багам –
у магутныя жорны скрышыла дзелавітая вечнасць-мадам.

На той ростані, дзе закапала паламаны маланкаю стрыжань,
не ўзрасце над магілаю талай мая моц, не распусціцца крыжам.

Тое шчасце, што мы не адчулі за тры метры над гладдзю азёр,
зацвярдзее ў бурштыне казюляй ці падымецца парам да зор.

# пераклады



Інгер Бротвайт



...пісаць – значыць устрымацца ад гаварэння...

# Гэта таксама вада

***Эсэ***

Быць пісьменніцай – цяжкая праца, але таксама пісьменніцтва вызваляе нас ад сумневу і роспачы, адпускае пад ясныя пробліскі радасці. Паспрабую расказаць пра пісьменніцтва агулам, але праз уласны досвед. Я пішу, каб мысліць і разумець, каб быць у гэтым свеце, які так часта немагчыма зразумець. Я пішу, таму што яшчэ маю надзею. Узгадваю тут прамову Тар'ей Весаса на ўручэнні прэміі Паўночнай Рады за раман «Ледзяны палац» пра дзяўчынак Сіс і Ун (яму тады было 63): «Той, хто піша, – марыць пра нешта. Можна назваць гэта белым каменем. Ён верыць, што камень існуе, і шукае яго ў самых неверагодных месцах. Ён дакладна ёсць, гэты белы камень, але яго ніхто пакуль не знайшоў. Аднак пошукі працягваліся. Калі б яго аднойчы знайшлі, пісьменніцтва страціла б сваю сілу. Але яго не знайшлі. Пісаць – гэта спосаб мысліць, адчуваць, разумець і быць тут і цяпер. У той жа час чытанне нагадвае пісанне і роўнае яму.

Вы чыталі Магрэт Дзюрас? Дзюрас казала, што пісьменнікі цікавыя менавіта сваёй супярэчлівасцю і неспасцігальнасцю.

*Пераклад з ангельскай Ганны КОМАР.*

Пісаць – значыць устрымацца ад гаварэння. Заставацца маўклівымі. Крычаць без аніводнага гуку. З пісьменнікамі спакойна – яны многа слухаюць. Яны негаваркія, бо немагчыма гаварыць з кімсьці пра напісаную табой кнігу і тым болей – пра кнігу, якая пішацца. Немагчыма. Гэтым пісьменніцтва блізкае да фільма ці спектакля. І гэтым яно адрозніваецца ад усіх формаў чытання. Яно самае складанае з усіх. Самае вусцішнае. Бо кніга – гэта невядомае, ноч, канец – далей нічога няма. Кніга рухае наперад, а ты верыш, што сам даследуеш гэты накірунак. Кніга рухае наперад, ствараючы аўтара, – аўтара, які аўдавее, калі кніга будзе надрукаваная і аддзеліцца ад яго. Скончаная кніга адварочваецца ад цябе. У літаральным сэнсе. Свет, які ў вас з кнігай быў агульны, пакуль яна пісалася, цяпер замыкаецца, ён больш недаступны табе. Кніга жыве ўласным жыццём. Гэта кароткае жыццё ў сённяшніх варунках, але ты мусіш рабіць усё, што табе пад сілу. Патрэбна вытрымка. Патрэбна адлегласць. Кніга стваралася пэўны час, але што рабіць з тым часам, які палягае паміж дапісанай кнігай і новым літаратурным краявідам, пакуль ты яго не знойдзеш?

А што, калі ў нас няма мовы, якой мы можам гаварыць? Калі мова заледзянела, а тое, што мы хочам сказаць, – там, пад ільдом. Што, калі мову прымусілі замаўчаць? А потым яна вяртаецца – і...? Яна прыгожая? Яна сапраўдная? У Людвіга Вітгенштайна ёсць эсэ «Рухі думак», у якім ён піша: «Я часта адчуваю нешта ўнутры, нібыта камяк. Калі б ён расплавіўся, я б змог заплакаць ці знайшоў бы правільныя словы (напэўна, нават мелодыю). Але гэтае нешта (можа быць, сэрца?) – нібыта скураное, і таму не плавіцца. А можа, мне не стае смеласці, каб дазволіць тэмпературы падняцца настолькі высока?»

Мне падаецца, што сэрца, якое апісваў Вітгенштайн, – гэта мова. Яна можа адчувацца як скураны камяк унутры, і калі мы пішам, то дазваляем тэмпературы падняцца, а тады зноў упасці, амаль незаўважна, ад канцавога пункту назад да адпраўнога пункту.

Быць пісьменнікам – значыць працягваць вазіцца з гэтымі гарачымі гаршкамі, якія, калі гатаванне скончана, зноў стануць адпраўным пунктам. Нічога не атрымліваецца. Плыні няма. Камяк унутры не знікае. Не рассмоктваецца, не плавіцца, не раскрываецца. Пачынай спачатку. Іншым разам, аднак, усё атрымліваецца само – такі вось фокус-покус.

Чароўная палачка для пісьменнікаў – чытаць, і чытаць шмат. З часам атрымаецца прачытаць і свой тэкст – такім, якім ён ёсць і як патрэбна яму. Таму што чытаць і пісаць – значыць забываць, страчваць сябе, а потым праз адлегласць, пасля таго, як час трансфармуе гэты стан, – знайсці сябе наноў. Пісаць – проста і складана адначасова. Пісаць – магчыма і абсалютна немагчыма. Пісаць – і балюча, і прыемна, і неабходна для жыцця.

Для мяне пісьменніцтва далёкае ад махання чароўнай палачкай. Шэсць гадоў прайшло паміж публікацыяй майго дэбютнага рамана «Рот над заледзянелым фіёрдам» (2002) і наступнай, так званай складанай кнігай «Сіс і Ун» (2008). Яе няпроста было пісаць – па многіх прычынах, прыемных і не. Альбо ўсвядомленых і не, як я цяпер іх называю. «Сіс і Ун» – празаічная і адначасова паэтычная кніга. Гэты раман для мяне пачаўся з паэзіі – візуальнай і дакладнай. Каля фіёрда, аточанага гарамі. Фіёрд глыбокі, горы высокія, неба – расколіна, дробны фрагмент у вечна зменнай мазаіцы неба.

Праз год пасля выхаду майго дэбютнага рамана памёр мой бацька. «Рот над заледзянелым фіёрдам» – кніга пра мяне. Яна – пра мой досвед бязмоўя: у дзяцінстве мяне пакідалі з бабуляй, у якой была дэменцыя; мне пра гэта не гаварылі, і для мяне яна была проста маёй бабуляй, але паміж намі раскрылася белая бездань узаемнай пяшчоты, якая пакінула на мне сваю адмеціну – асабліва на маіх стасунках з мовай. Як гэта, жыць у рэальнасці, для якой не існуе мовы альбо ніхто не ўзяў на сябе

адказнасць знайсці гэтую мову, ніхто нават не гаворыць пра гэта? Што тады? Хто тады мы? І чым ёсць рэальнасць?

Круча. Зямля была слізкай пасля дажджу. Я пераймалася, што бацька ўпадзе: «Я вырвала вілы з ягоных рук. Бацька падымаўся ўгару і спускаўся, зноў падымаўся, несучы сена, цяжкае ад дажджу, каб трактар яго забраў. Я больш не магла на гэта глядзець і вырвала вілы з ягоных рук так рэзка, што ён ледзь не паваліўся. Ён сінее, яму цяжка дыхаць. Мой бацька – настаўнік і фермер, і я ў яго некалі вучылася. «Я здаюся, што мне яшчэ застаецца?» – кажа ён, стоячы пасярод класа. У мяне нязграбны почырк, словы атрымліваюцца нязграбныя. Ён падняўся ранкам, гадзіну ванітаваў, тады выйшаў на двор і завёў газонакасілку. Мы трошкі скасілі, але трава зноў вырасла. Гэта другі заход».

Аднойчы вечарам па тэлевізары паказвалі «Канец гульні» Самюэля Бэкета. Клоў зрабіў мяккую цацку сабачку для сляпога Хэма. Хэм пытае: «Ён жа белы?» Клоў адказвае: «Ён амаль белы». Калі хочаш казаць праўду, мусіш быць жорсткім. Калі вымушаны хлусіць, апускай тонкасці і дэталі. Хэм злосна пытае: «Дык ён белы ці не?!» «Не», – адказвае Клоў.

Праўда непрыгожая? Калі супрацьлеглае праўдзе – хлусня, дык мусіць быць кропка, дзе гэтыя супрацьлегласці сустракаюцца. Не кампраміс, а перадышка падчас крызісу. Хлусіць – непрыемна, але гаварыць праўду таксама не заўжды прыемна. Я веру ў гэтую перадышку паміж праўдай і хлуснёй, мне неабходна верыць, што ёсць месца паміж, дзе я пачую: усё добра, ты не хлусіш, а нават калі так, то ў гэтым няма нічога дрэннага: ты маніпулюеш уласнымі ўспамінамі і адпачываеш паміж дазволеным і неўтаймаваным, рэальнасцю і фантазіяй, паміж немагчымым і фантастычным. Заставайся тут колькі захочаш, месца хопіць, бо мы ўсе ведаем, што застанецца і што знікне. Ці не, мы нічога не ведаем, але нас бязлітасна закідвае ў рэчаіснасць і быццё і нам неяк трэба тут выжываць.

Гэтае месца называецца літаратура, і яна стварае новую праўду, больш праўдзівую за досвед. Ці, прынамсі, я спадзяюся, што літаратура будзе раўназначнай стварэнню такога месца. Месца, дзе магчыма на імгненне ўбачыць безсэнсоўнасць існавання і знайсці сілу, якая рушыць нас наперад, уверх, насуперак. Што нам хопіць смеласці адкрыцца, і мы не паставімся да гэтага месца падазрона і не дазволім сабе стрэсці гэта як нешта неістотнае, ілюзорнае. І тады, напэўна, мы зразумеем, значна пазней, калі жыццё ўжо пражыта, мы ўбачым сябе наноў і падумаем, стаўшы відушчымі: «Але, свет можа быць і такім».

***ОЛАЎ Х. ХЁГЕ***

Мы жывём з марай,
што аднойчы здарыцца цуд,
гэта мусіць адбыцца –
час адкрыецца,
і, можа, нашы сэрцы раскрыюцца,
расчыняцца дзверы,
а горы рассунуцца,
крыніцы праб’юцца
і адкрыецца наша мара,
што аднойчы ранкам мы заплывём
у невядомую нам бухту.

Самюэль Бэкет дзесьці пісаў пра тое, як ён баіцца, як прыслухоўваецца да ўласнага распаду, як чакае, што ягонае крывава-чырвонае сэрца ўрэшце канчаткова спыніцца. Ён піша, як гэтым вечарам ляжыць у сваім халодным ложку і адчувае, што стаў старэйшы за дзень, калі начное неба з усімі ягонымі зорамі абрынецца на яго. Ён ляжыць у ложку, глядзіць у неба і думае, што сёння мусіць паспрабаваць

абдурыць сябе. Сёння яму ўжо зусім невыносна ляжаць і слухаць крокі ўласнае смерці, якая набліжаецца, і чуць яе кульмінацыю ў сваёй галаве. Ён мусіць нешта прыдумаць.

У сваім эсэ «Пра бяздзейнасць» Мішэль дэ Мантэнь пісаў, што ў адзіноце ты пакінуты сам-насам з думкамі, а душа паводзіцца як дзікі конь; я лічу, што мова, якая прыходзіць ці прызямляецца ў гэтым дзікім стане адносін да людзей, якіх любіш, ці паміж людзьмі, якія так ці інакш маюць патрэбу адны ў адных, падобная да хлусні. Мы не заўжды ясна кажам «так» ці «не» самым блізкім у крытычных момантах. Тут і з'яўляюцца мудрагелістыя абходныя шляхі і нюансы. «Амаль белая...» Клоў ведае, што смерць блізка; таму, чакаючы смерць, ён хоча, каб жыццё было простым і лёгкім. Мантэнь кажа, што толькі слова робіць нас людзьмі і дае магчымасць стасавацца паміж сабой, але ў сваёй першай кнізе, у эсэ «Пра хлусаў», ён напісаў: «Калі б мы прызналі ўсю жахлівасць і важкасць хлусні, то каралі б за гэта спальваннем на вогнішчы больш, чым за любое іншае злачынства. Я лічу, што дзяцей часта караюць за нязначныя дробязі – за тое, што яны ўчынілі па няведанні, і гэтыя ўчынкі не цягнуць за сабой сур'ёзных наступстваў. Аднак хлусня і, у меншай ступені, упартасць, на мой погляд, – менавіта тыя заганы, з якімі трэба няўхільна змагацца».

Вечарам я стаю пасярод класа. Усе на канікулах, альбо на сёння заняткі скончыліся. Я стаю за кафедрай, паварочваюся і белай крэйдай па чорнай дошцы, паверх усяго пішу: «НЕ ВЫЦІРАЦЬ!» Спрабую напісаць гэта роўненька, але сказы ламаюцца, звіваюцца, нахіляюцца ўбок і развальваюцца. Сказы куляюцца і сцякаюць з дошкі белымі пляўкамі. Я стаю за кафедрай, насупраць дошкі, і даю абяцанне трымацца за тое, што выслізвае ад мяне, запісаць штосьці, што пражыве даўжэй за мяне. Я абяцаю спрабаваць, памыляцца і спрабаваць зноў, але настаўнік стаіць у дзвярах і кажа мне: «Усё, што ты скажаш, будзе хлуснёй». Таму што мае словы непрыгожыя, почырк крывы, і настаўнік павольнымі крокамі набліжаецца да мяне. Цвёрдым голасам ён кажа: «Хлусня ніколі не заменіць праўду, пісьменніцтва пераймае намер. Намер нічым нельга замяніць, а напісанае атрымліваецца банальным». Што хацела зрабіць гэтая дзяўчынка, стоячы з крэйдай у руках пасярод класа? Цэлая дошка належала ёй, калі клас сышоў.

Цяпер гэта падаецца такім далёкім, нібыта нічога не было. Рэшткі таго, што адбылося, замкнёныя на гарышчы, хоць ёсць дні, па якіх яго адчыняюць. Памяць гуляе дзесьці паміж хлуснёй, свядомым і тым, што аднойчы назіралі горы па той бок фіёрда. Але як надзейныя сведкі яны маўчаць.

Часам мне падаецца, што горы майго дзяцінства з супрацьлеглага боку фіёрда схіляюцца нада мной, прыціскаючы мяне да пісьмовага стала, да падлогі і нязменна няскошаных палёў. Гара – цень нада мной, цень паўсядзённасці і драбніц, ад якіх я хачу вызваліцца...

І калі гэта так, як сказаў мой бацька, – усё чалавечае можна замяніць – то людзі не каштоўныя самі па сабе. Я адмаўляюся верыць, што мой бацька гэта меў на ўвазе. Я лічу, што ён сказаў адваротнае таму, што меў на ўвазе, бо смуткаваў аб усім, што не змог бы забраць з сабой. Што б у будучым здарылася з фермай? Яна зачынілася б зараз ці перайшла б да новага пакалення? Я старэйшая з дзяцей у нашай сям'і, і праз дзевяць гадоў мне будзе столькі ж, колькі было майму бацьку тады. Не. Я не магу адкрыць тыя дзверы. Я мінаю ўсё, што было, бо так, як было, ужо не будзе.

Герта Мюлер піша: «Не магу сказаць, што ўва мне ёсць нешта таямнічае. Сама ідэя падаецца дзіўнай. Да таго ж для мяне важна заставацца на зямлі. Столькі ўсяго адбылося са мной, і я маю намер знайсці спосаб апісаць гэта ў тэксце. Гэта як разбурыць усё, на чым ёсць сляды рэчаіснасці, і стварыць нешта абсалютна штучнае. Калі вам пашанцуе, то зможаце гэта зрабіць праз мову і апынецеся дзесьці паблізу рэчаіснасці. Магчыма, я і сябе хачу вызваліць, але ў іншым сэнсе. Падпарадкаваць тое, што адбылося. Сустрэцца з ім і зразумець. Я пішу таксама з любові да тых,

каго больш няма з намі, напрыклад, Рольфа Боссерта. Гэта не навязанае звонку, а ўнутранае памкненне, і яно сыходзіць з досведу, які я нясу ў сабе».

У маім выпадку, праца над раманам нагадвае плаванне ў незнаёмых водах, дзе пастаянна змяняецца накірунак плыні і тэмпература вады, дзе не можаш быць упэўненым, што суша існуе, пакуль не ўбачыш яе. Мова і форма, якія адкрыліся мне падчас працы над раманам «Гэта таксама вада», сталі для мяне вызваленнем, і я пачала пісаць па-новаму.

Кожны раздзел мае свой узор, і такім чынам раман нагадвае тканы дыван. Нітак многа, і некаторыя з іх могуць чытацца як кампазіцыйная супярэчнасць, але для мяне напісанае настолькі ж рэальна, як і рэальнае жыццё, і наадварот, без іерархічнасці. Кампазіцыя рамана цячэ, як вада, вольна наперад, але і строга рэгулюецца мінулым і будучым часам, спрабуючы зразумець час, у які мы жывём, у які нас занесла.

«Гэта таксама вада» – пытанне ў форме сцвярджэння, якое адсылае да поўнага цыклу вады. Працуючы над раманам, я часта азіралася, з удзячнасцю, у мінулае, дзе мы ўсе да нараджэння былі пагружаныя ў каляплодную вадкасць унутры маці. Гэтая вадкасць абараняла нас ад вонкавага свету, да таго як мы нарадзіліся ў гэты свет.

Вада мае вялікі сімвалізм у рэлігіі, пачынаючы ад купелі для хрышчэння і заканчваючы спальваннем нябожчыкаў ля святых рэк. Цела чалавека на 50 ці нават 70 адсоткаў – вада, але гэтая крыніца жыцця таксама можа быць атручанай і атрутнай, бо не можа абараніць сябе ад кліматычных змен, а доступ да яе запасаў размеркаваны несправядліва.

Малекуле вады, каб прайсці ад адной стадыі цыкла да другой, можа спатрэбіцца ад некалькіх секунд да тысяч гадоў. Вада цячэ на зямной паверхні і праз зямлю – як падпаверхневыя цячэнні праз водныя аб'екты, ад рэк да акіянаў, ад вадкай пары да туману, ад ледзякоў да леднікоў і снегападу.

Менавіта вада падказала мне структуру рамана. Я ўявіла, што ўсё вакол – вада, і калі доўга глядзець, то можна гэта ўбачыць. Так я знайшла сувязі і форму, вада ў розных станах павінна была звязаць розныя літаратурныя жанры. Тэмы мусілі стаць матывамі.

«Гэта таксама вада» – раман, у якім паэтычная і празаічная мовы ўзаемадзейнічаюць і ствараюць цэлае, змяшчаючы (аўта)біяграфію, дакументалістыку і вымысел. «Гэта таксама вада» – гібрыдны раман, альбо, карыстаючыся тэрміналогіяй уласна рамана, – тэкст, які даследуе жыццё і свет так, нібыта ўсё ў ім, у кожнае кароткае імгненне, – пытанне жыцця і смерці. Тады цяперашні момант можа быць рэтраспектыўным і адсылаць да падзеяў, якія адбыліся ў мінулым, але, тым не менш, разгортваюцца ўнутры галоўнага героя ці гераіні, а ўсё, што адбываецца, – і ёсць фабулай.

Хіба не так для большасці з нас – успамін, пах, сказ, песня вяртаюць нас у момант мінулага, нібыта гэта было вось толькі, нібыта час не можа раз'яднаць нас з тым момантам? На маім творчым працэсе гэта адбіваецца так: успамін чапляе другі, а той – трэці, і так ствараецца мазаіка сцэн і кадраў, якія супольна ствараюць вялікую карціну і аповед. Цяпер я трымаю ў руках мноства нітак, якія магу пераплятаць, ствараючы ўзор.

У рамане «Гэта таксама вада» я паспрабавала сказаць: «Шчыра вітаю, уладкоўвайцеся, калі ласка», – і адкрыць размову пра тое, як заставацца жывымі і працягваць пісаць, зачапіўшыся за пытанне, чым ёсць праўда і хлусня, даследуючы, як яны функцыянуюць у розных умовах. Пісьменніцтва само па сабе мусіла раскрыцца, стварыць вобразы і прастору для ўласных ідэй чытача, так, каб чытач мог абсталяваць прастору ўласнымі ўспамінамі і ўласным перажытым.

Можа, мой раман – не мазаіка. Можа, ён – пабудова, будынак, а можа, проста картачны дамок? Я хацела, каб само пісьменніцтва сказала праз гэты раман: «ЛІТАРАТУРА – ВЯЛІКАЯ, ЯК САМО ЖЫЦЦЁ». Часам я думала: «ЛІТАРАТУРА І ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁМ», – але як мне гэта паказаць, як дапамагчы ўбачыць?

І пісьменніку, і чытачу патрэбныя вера і ўяўленне. Я лічу, што гэта галоўнае – цені вызваляюцца з цемры і атрымліваюць жыццё. Менавіта такі погляд на пісьменніцтва дадае мне шчасця, але ў ім я пачуваюся страшэнна няўпэўнена.

Пісьменніцтва патрабуе часу, бо пісьменніцкая праца ўяўляе сабой не толькі яркае святло, але і сляпую цемру, і, дзякуючы прабліскам і мігценню праўды, пераходзіць на яшчэ больш падманлівы і цьмяны памост, дзе розныя стылі перакрыжоўваюцца ў дзіўнай і незнаёмай гульні ценяў, дзе таксама мусяць знайсціся пустыя белыя пакоі сэнсу. Вяртайся ў адпраўны пункт, касі траву ў палях, скрабі дно і асфальт, знайдзі мужнасць страціць глебу пад нагамі і аддацца вольнаму падзенню, вер, што хтосьці, хто абодвума нагамі стаіць на зямлі, аднойчы, магчыма, калі ні мяне, ні цябе тут ужо не будзе, зловіць гэта.

Таму што самае важнае, напэўна, і калі пішаш, і калі чытаеш, ведаць: час адкрыецца, і нашы сэрцы раскрыюцца, расчыняцца дзверы, а горы рассунуцца, крыніцы праб’юцца і адкрыецца наша мара, і аднойчы ранкам мы заплывём у невядомую нам бухту...

...Але, напэўна, нам падасца, ці мы пазнаем, што ўжо былі там? Я мяркую, што так і будзе, таму на гэтым спынюся, з верай, што літаратура пачынаецца ў той самы момант, калі становіцца пытаннем паміж тым, што мы называем рэчаіснасцю і сном.

## Оскар Ўайлд



...З ягоных вуснаў – чырвань-квет,
А з сэрца – белы квет!
Згадайма, дзе і як чыніў
Хрыстос свой запавет...

# Балада Рэдынгскай турмы

***Фрагменты***

### Ад перакладчыцы

*Оскар Ўайлд (1854, Дублін – 1900, Парыж) – паэт, раманіст, казачнік, драматург. Напісаў гэтую баладу неўзабаве пасля адбыцця зняволення ў катаржнай турме ў Рэдынгу, Беркшыр, куды трапіў “дзякуючы” даносу пра нібыта “оргіі” ў ягоным доме (слушна робяць паэты, калі п’юць на самоце). Твор натхнёны рэальнай падзеяй, з-пад уражання ад якой аўтар не мог ачомацца: стратай аднаго з вязняў, 30-гадовага хлопца, гвардзейца каралеўскай коннай аховы, асуджанага на шыбеніцу за забойства сваёй жонкі з рэўнасці (экзекуцыя 7 ліпеня 1896 г.). Найсумнейшы, найтрагічнейшы твор Оскара Ўайлда, і ніколі са сваёй ахвоты не ўзялася б я за гэты пераклад (хаця Ўайлда люблю ад студэнцтва), каб не “вясноўская” кампанія “Скажы НЕ смяротнаму пакаранню”. У “Баладзе...” 650 радкоў (перакладзеных у 1926 г. Міхасём Дуброўскім); я зрабіла 150 – і ўсё...*

*Пераклад з ангельскай Галіны ДУБЯНЕЦКАЙ.*

*In memoriam C.T.W.*

На ім не той пунсовы строй,
Запырсканы крывёй:
Віно і кроў былі тады,
Як знайшлі яго пры ёй –
Гаротнай той, каго любіў
І ў ложку ейным забіў.

Між вязняў іншых крочыць ён
У шэрай чарадзе,
Хоць кепка хвацкая на ім,
Зухаватасць у хадзе;
Але не бачыў я, каб хто
Журботна так глядзеў.

Не бачыў я такой журбы
Вачэй, калі глядзяць
На сіні лапік угары,
Што маеш небам зваць,
На воблака, што дзень паслаў
Над намі праплываць.

У іншым крузе я іду
Навокала-й-каля;
Якую ж той зрабіў бяду? –
Гадаю спакваля;
Як ззаду голас прашаптаў:
“А гэтаму – пятля”.

Ісусе! Закружыўся мур,
І пляц паплыў з-пад ног,
І неба распалены шалом
На скроні мне налёг,
І хоць балеснай быў душой,
Свой боль я чуць не мог.

Адно я ўведаў, што за здань
Ляцела хлопца гнаць,
І вочы ягоныя чаму
Журботна так глядзяць:
Бо ён забіў каго любіў
І мусіў смерць прыняць.

Але хіба не кожны з нас
Любоў сваю забіў?..
Хто – лютым позіркам не ў час,
Хто – словам падкасіў;

Хто – з пацалункам – згоніць прэч,
А смелы схопіць меч.

І кожны, хто каханне меў,
Каханых катаваў!
Пажадай, золатам, хлуснёй;
Купляў ці прадаваў.
І, можа, літасней – нажом,
Як дзень пры дні – глыжом.

Бо так вядзецца між людзей –
Каханых забіваць.
І ўмеў і рыцар, і зладзей
Караць і катаваць.
Ды вось жа, кожны чалавек
Не мусіў паміраць.
..........................

Па крузе круг мы топчам пляц,
Як блазенскі парад.
А што ўжо дбаць, як мы – атрад
Між д'яблавых брыгад.
Галоў-нулёў, свінцовых ног
Вясёлы маскарад.
.............................

Мы шылі нейкія мяхі,
Крышылі камяні,
Круцілі дрыль, глыталі пыл,
Пацелі на млыне,
І ў кожным сэрцы дзесь ляжаў
Прыспаны жах на дне.

Як багавінне, ён драмаў,
Што ў сне па дне паўзло;
Мы з працы клыпалі праз пляц,
І ўсё звычайна йшло –
Калі зірнула нам у твар
Магілы жарало.

Глыбокай ямы прагны зеў
Патрабаваў крыві;
Жывога цела даць хутчэй! –
Благаў галодны жвір.
То бок, адна між нас душа
Наранку знойдзе мір.

Тае начы ў наш калідор
Нагнаў пачвараў страх,

І крокі поўнілі крадком
Глухі жалезны гмах,
І быццам брат глядзеў з-за крат
У наш бяззорны спрат.

А ён ляжаў, як той, хто сніць
Квяцістыя палі,
Падсочвалі вартаўнікі
І ўцяміць не маглі,
Нашто салодкі сон такі
Ля катавай пятлі.

Ці можна спаць, як час рыдаць
Тым, хто рыдаць не смеў.
І мы – вар’ят, бандыт, махляр –
Чувалі ўсе ў турме,
І ў кожным сэрцы немы жах
Прад жахам ТЫМ нямеў.

Падсочвалі вартаўнікі
І не маглі дапяць,
Чаму на кожным доле ніц
Тут постаці ляжаць
І кленчаць, хто не ўмеў стагнаць
Ні пацеры казаць.

І мы маліліся ўсю ноч
І кленчылі, аднак
Хістаўся морак паўз вакно,
Нібы жалобны знак.
На губцы горкае віно –
То каяння быў смак.
....................................

Тым днём не правіцца імша,
Калі працуе кат:
Мо святару баліць душа,
Ці засціцца пагляд,
Ці можа прачытацца ў ім,
Што ведаць нельга ўсім.
.......................................

На шпацыр нас вядзе канвой
І пасвіць шэры гурт;
На кожным з іх – парадны строй,
Пачышчаны сурдут;
А што на ботах вапны след –
Мы сцямілі як след.

Бо там, дзе ямай зеўраў дол,
Больш ямы не было,
А трошкі гразі ды пяску,
Ды мёртвае сцябло,
Ды трошкі вапны ды пяску –
На саван бедаку.

То ён свой саван атрымаў,
Але не ўдарыў звон:
Глыбока пад дваром турмы
Зарыты ў путах ён,
Распрануты да галізны,
Апрануты ў агонь.
.................................

Яшчэ тры доўгія гады
Зярнятка не ўпадзе
На сумным лапіку зямлі,
Ні зёлка не ўзрасце
Тры доўгія гады на ім,
Сацьмелым і пустым.

Бо сэрца забойцы пад зямлёй
Любую струціць рунь –
Так цвердзіць сталы забабон,
А Божы іншы грунт,
І ўспыхне ружаў бель – ясней,
А чырвань – чырваней!

З ягоных вуснаў – чырвань-квет,
А з сэрца – белы квет!
Згадайма, дзе і як чыніў
Хрыстос свой запавет:
Як пілігрымскі ссохлы кій
Расцвіў – і ўразіў свет.

Але няможна ружам жыць,
Папаўшы ў гэты кут:
Асфальт са шчэбнем на мяжы –
То ўся аздоба тут,
А кветкі здольныя гаіць
Нам душы ў час пакут.

І ні пялёстак, ні другі
Не зроніць ружа, не! –
На шэры лапічак зямлі
Пры вусцішнай сцяне,
І нам не ўшэпча ў замерлы слых:
Бог-Сын памёр за ўсіх!

Уладзімір Караткевіч



...Усё ўмеем. І жанчын па-чалавечы кахаць,
аж неба мружыцца, і, пры выпадку,
навалачы рознай даць так,
каб аж нагамі накрылася...

# Дарагі Валодзя, Уладзімір, Ладысь, Ладымер...

## *Невядомыя лісты Уладзіміра Караткевіча да Уладзіміра Лучука*

“Дарагі Валодзя, Уладзімір, Ладысь, Ладымер...” – так упершыню пісьмова звярнуўся Уладзімір Караткевіч да другога Уладзіміра, свайго цёзкі, львоўскага паэта Уладзіміра Лучука, у лісце да яго, пасланым 16 красавіка 1964 г. з расійскага Чалябінска. Ліст гэты, як і пяць іншых, якія яшчэ нідзе не друкаваліся, сталі вядомыя толькі цяпер, напярэдадні юбілею аўтара “Каласоў пад сярпом тваім”. Іх перадаў мне для публікацыі адзін з сыноў У. Лучука, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко, вядомы спецыяліст па Антычнасці, перакладчык на ўкраінскую мову старажытнарымскіх аўтараў Тарас Уладзіміравіч Лучук, за што выказваю яму шчырую падзяку. З ім, як і з яго маці, таленавітай паэтэсай Аксанай Сенатовіч, а таксама з малодшым братам Іванам Уладзіміравічам Лучуком, сёння знаным львоўскім пісьменнікам і вучоным, доктарам філалагічных навук, мы бачыліся яшчэ

ў пачатку 1990-х гг. на розных міжнародных навуковых сімпозіумах. На тыя сімпозіумы сваіх дзяцей бралі бацькі, такім чынам далучаючы іх і да навукі, і да інтэрнацыянальнага гурту вучоных. У прыватнасці, у верасні 1990 г. Тарас прысутнічаў у Мінску на юбілейнай сесіі АН БССР, прысвечанай 500-годдзю з часу нараджэння Францыска Скарыны. І не толькі прысутнічаў, а выступіў з сумесна напісаным з маці дакладам "Францыск Скарына – праваслаўны ці католік? (Фрагмент украінскага скарыназнаўства)". Праз год мы з маёй Таццянай Вячаславаўнай Кабржыцкай сустрэліся з сям'ёй Лучукоў на Міжнародным кангрэсе беларусістаў (Мінск, май 1991 г.), дзе яскравае публіцыстычнае слова "Дарога ў нас агульная" прамовіў Уладзімір Лучук. А ў верасні таго ж года ў сяле Крыв254рыўня, на Карпатах, усе мы выступалі з навуковымі дакладамі пра ўкраінскага Каменяра – Івана Франко (у Крываpыўні ён любіў не раз творча адпачываць). Праз год, у жніўні 1992 г., мы радасна прывіталіся ў нашым Маладэчне, на Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў", арганізаванай Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны. Там Лучукі таксама выступілі з цікавымі дакладамі, прычым кожны самастайна: бацька Уладзімір ("Іларыён Свянціцкі і беларускае нацыянальнае адраджэнне"), маці Аксана ("Нацыянальная самасвядомасць праз прызму жыццёвых будняў і паэтычных азарэнняў Ларысы Геніюш"), сын Тарас ("Антычнасць" у кантэксце нацыянальнай свядомасці беларусаў і ўкраінцаў"). На жаль, тая наша сустрэча з Уладзімірам Лучуком сталася апошняй. У верасні таго года ў цягніку Львоў–Кіеў сэрца яго нечакана спынілася назаўсёды...

Уладзіміра Караткевіча – адрасанта лістоў – прадстаўляць не трэба. Энцыклапедычна коратка спынямся на адрасаце тых караткевічаўскіх лістоў.

Лучук Уладзімір Іванавіч (1934–1992), украінскі паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат прэміі імя Лесі Украінкі (1995, пасмяротна). Скончыў славянскае аддзяленне Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко (1958). Працаваў у часопісе "Жовтень" (Львоў), быў выдавецкім, бібліятэчным, навуковым працаўнікам. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, у тым ліку для дзяцей, а таксама зборнікаў эсэ і перакладаў: "Падымацца ранкам трэба" (1962), "Полымя мяне авейвае" (1963), "Важкасць" (1967), "Давер" (1969), "Дзівавід" (1979), "Насустрач" (1984), "Падарунак для мамы" (1985), "Кругазварот" (1986), "Загадкавы зоркалёт" (1988), "Найраднейшыя словы" (1989), "Найдарожшы скарб" (1990), "Званок з мінулага" (1991) і інш. Перакладаў многія вершы беларускіх паэтаў (М. Багдановіча, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, А. Гаруна, Л. Геніюш, М. Танка, К. Цвіркі і інш.). Яго анталогія ўласных перакладаў "Сябры" (1987) увасобіла перастварэнні на ўкраінскую мову паэзіі шматлікіх народаў былога СССР.

Быў асабіста знаёмы з У. Караткевічам, вёў з ім перапіску, абменьваўся кнігамі з дарчымі надпісамі. Так, аўтар "Маёй Іліяды" на падараванай яму кнізе напісаў: "*Дарагому сябру майму Валодзю Лучуку з любоўю, падзякай за дружбу і за цудоўныя ягоныя вершы і за не менш цудоўныя песні, што вылекавалі ўрэшце мае шматпакутныя казацкія косці. 14.I.70*".

Захавалася шэсць лістоў У. Караткевіча да У. Лучука за 1964–1979 гг. Разам са сваёй жонкай Аксанай Уладзімір прывячаў Караткевіча ў 1976 г. у сваёй львоўскай кватэры. У лісце да львоўскага пісьменніка Рамана Іванычука ад 9 ліпеня 1976 г. Караткевіч тлумачыў, чаму не мог "*напісаць Валодзю* [Лучуку] *і Раману Л* [убкіўскаму]" (з-за недахопу часу: у той час ён актыўна займаўся пошукамі месца для будаўніцтва мінскага Музея пад адкрытым небам). Разам з тым і прасіў выбачыцца, што за гасцінным сталом Лучукоў адмовіўся есці варэнікі: "*Дзеля мяне не варта было варыць. Слова гонару, ем вельмі кепска і мала, хаця раз на месяц нападае "жэр", калі з'ядаю ўсё ў двух халадзільніках і яшчэ ўначы вару макароны*".

У. Караткевіч прысвяціў У. Лучуку верш "Падымаюць жоўтыя галовы..." ("Ніва", 1965, 25 красавіка). На беларускую мову пераклаў шэраг яго вершаў:

“Росы”, Калі б” (“Маладосць”, 1965, 12), “Роздум пра сівыя косы”, “Сняжычкі”, “Павярнуся на вёску да мамы...” (“Чырвоная змена”. 1966, 20 студзеня), “Пажар у Прылуках” (1846 год)”, “Шандар Пецёфі” (Дзень паэзіі. Мінск, 1971), “Давер”, “Клён на вятры гарыць...”, “Барвы ценяў”, “Азбука (*З балгарскіх фрэсак*)”, “Птушкі” (Украінская савецкая паэзія: Анталогія ў двух тамах. Т. 2. Мінск, 1975), “Стары матыў”, “Так сустрэну вясну”, “Вадаспад”, “Не, той такі не бачыў неба...”, “Споведзь Маркіяна Шашкевіча перад будучыняй” (упершыню: Галасы маіх сяброў / уклад. А. Верабей. Мінск, 1993). У сваю чаргу, У. Лучук творча ўзнавіў па-ўкраінску вершы У. Караткевіча “Заяц варыць піва” (У. Лучук. Уставати рано треба. Львів, 1962), “Трызненне мужыцкага Брэйгеля” (“Жовтень”, 1962, №12), “Балада аб нашэсцях”, “О, вясна! Таполі! Свеце мілы!..”, “І сніў Адам” (Калинові мости. Антологія молодої білоруської поезії. Київ, 1969), “Жанчыне з бэзам” (У. Лучук. Друзі. Переклади поезії братніх літератур народів СРСР. Львів, 1987).

На кнігу У. Лучука “Полымя мяне авейвае” (1963) У. Караткевіч адгукнуўся арыгінальнай эсэ-рэцэнзіяй “Бетховен б’е ў далоні...” (“Полымя”, 1964, №9), у якой у цэлым высока ацаніў творчыя здабыткі “*львоўскага маладога паэта*”, паказаў “*цуд высокай паэзіі*”, што “*адмаўляе бязвольнасць, абыякавасць і жорсткасць*”. Асобныя вершы, якія яму асабліва спадабаліся і якія ён прааналізаваў у сваёй рэцэнзіі (“Сніжички”, “Роси”, “Сповідь Маркіяна Шашкевича...” і інш.), У. Караткевіч пазней пераклаў на беларускую мову.

У. Караткевіч быў добра знаёмы і з Санатовіч Аксанай Паўлаўнай (1941–1997), таленавітай украінскай паэтэсай, перакладчыцай, жонкай У. Лучука. Яна ў свой час вучылася ў Львоўскім політэхнічным інстытуце. Пасля працавала інжынерам, прафсаюзным работнікам, журналістам. Аўтар шэрагу зборнікаў вершаў: “Сцябло” (1968), “Дыяпазон вясны” (1979), “Мужчына з ружаю” (1986), “Аблiччам да голуба” (1990) і інш. Найбольш яскрава яе талент выявіўся ў паэтычных кнігах для дзяцей: “Чырвоныя буслы” (1970), “Жывём у адным доме” (1983), “Шпакі на калёсах” 1989), “Вучыцца верасень чытаць” (1991) і інш. Як дзіцячая пісьменніца, стала першым лаўрэатам прэміі імя Алены Пчылкі (1992).

Як ужо было заўважана, сямейства Лучукоў прымала Караткевіча ў сябе на кватэры ў час яго прыезду ў Львоў у 1976 г. Тады ж завочнае знаёмства перарасло ў творчыя ўзаемаадносіны. А. Сенатовіч, як і яе муж, неаднойчы наведвала Беларусь, была ў Мінску, Гродне, Маладзечне, дзякуючы пасрэдніцтву Караткевіча пазнаёмілася з многімі беларускімі пісьменнікамі (Д. Бічэль, Л. Геніюш, М. Прашковіч і інш.). У. Караткевіч пераклаў на беларускую мову яе вершы “Рэфлексія пра Кастуся”, “Пасёстры”, “Сосны ў Гродні”, “Чаканне ў Зэльве”, “Як дарогі насустрач імчалі”, “Прыгадай жа мяне ты, Мікола...”, “Як цвіце Беларусь”, “Прыгон – кріпацтво – крепостничество...”, “Ацэтатны шоўк” (упершыню: Галасы маіх сяброў / уклад. А. Верабей. Мінск, 1993).

Такія былі асабістыя і сямейныя ўзаемаадносіны У. Караткевіча з Лучукамі. А далей – падрыхтаваныя мной да публікацыі (паводле ксеракопій, дасланых Т.У. Лучуком з Львова) лісты У. Караткевіча і каментары да іх.

**Вячаслаў Рагойша**

## №1

*16 красавіка 64 г.,*
*Чалябінск*

Дарагі Валодзя, Уладзімір, Ладысь,
Ладымер – выбірай сам сабе імя па
густу і менавіта так буду звяртацца!

Божа мой, як недарэчна і як непрыгожа ўсё так атрымалася, браце. Ты (давай перайдзем ужо, сапраўды, на ты, не ведаю, ці зручна гэта будзе Вам, таму, зрабіўшы прапанову, пераходжу на Вы зноў і чакаю адказу са згодай ці зберажэннем старога звароту) [1].

Вы напісалі мне ліст на Мінск 45. Павіншавалі з новым годам. А я атрымаў яго толькі нядаўна і ўвесь час здзіўляўся, чаму гэта Вы змоўклі. Справа ў тым, што я там не жыву больш. Пасварыўся з сябрам, з якім даўно жылі ў адным доме (праўдзівей, з ягонай жонкай), і так яно ўсё і пайшло макам. Разбурыліся старыя адносіны, і я ад яго з'ехаў [2].

Мой новы адрас: Мінск 12, вул. Чарнышэўскага 7, кв. 57, Караткеевічу У. С. [3]

Яшчэ большая злосць апанавала мною, калі даведаўся, што ў сябра некалькі месяцаў ляжала пяць лістоў да мяне і, у тым ліку, Ваш ліст. Я разумею, яму сорамна было мне вочы паказаць. То мог бы кінуць лісты ў паштовую скрынку ў маім пад'ездзе. Аднак ён гэтага не зрабіў. І толькі нядаўна, відаць, не вытрымаў, прыйшоў, прынёс лісты. Селі мы з ім, узялі па чарцы, высветлілі адносіны. Ён шкадуе, асабліва яшчэ таму, што, як кажа, зрабілі яму з дома турму. Здаецца, усё і добра, але былога не склеіш. Па-мойму, друг ёсць друг. І чалавек не павінен верыць ні плёткам, ні намаўленням. Не павінен паддавацца нічыім падбухторванням.

Тое не здарылася. Шкада старога сяброўства.

Ну, гэта, урэшце, Вам не цікава. Проста гэта маленькая гісторыя павінна растлумачыць маё маўчанне.

Атрымаў нарэшце Ваш ліст і ўсё не ведаў, як мне сесці за адказ, як апраўдацца. Вельмі мне сорамна было, ды яшчэ асабліва таму, што не выканаў тэрміновых Вашых заказаў і не адказаў на цудоўную кнігу [4].

Не ведаю цяпер, што і рабіць. Праўда, папрасіў перад ад'ездам Рыгора Барадуліна, каб даслаў сваю апошнюю кніжку. Але гэта і ўсё. Ці патрэбен Вам яшчэ Таўлай, ці трэба рэкамендаваць яшчэ 3–4 аўтараў і іх вершы? Мінула столькі часу. Калі яшчэ трэба, я, па вяртанні адсюль у Мінск, згараючы ад сораму, усё ж выканаю Вашу просьбу.

Не злуйцеся на мяне, Уладзімірэ, дальбог, усё было так, як я Вам пішу, а там судзіце мяне самі.

Я ўцёк у Чалябінск да сястры, каб тут пісаць новы раман (не ведаю, ці пісаў я Вам аб ім) [5]. У Мінску не даюць. Цягнуць са студыі мастацкай і дакументальнай, ганяюць на розныя справы, клічуць на паседжанні. А ну іх. І вось я месяц ужо амаль сяджу тут і працую па дзесяць гадзін у дзень. А канца не відаць. А здаць рукапіс трэба ў канцы красавіка. І я, відаць, зраблю так: адшліфаваную першую кнігу аддрукую і пакладу для іх. Няхай нешта маюць. Усё адно гэта фармальнасць і да канца года ніхто ў яе не загляне. А я прыеду чысла 21–23 дадому, зраблю ўсе справы, у тым ліку і Вашы, ды месяцы на два зноў уцяку, некуды на мой Дняпро (магчыма, у Рагачоў да дзядзькі), дый буду пісаць. Аб змене адраса паведамлю, а то, магчыма, надумаеце прыехаць на Беларусь, то буду сустракаць [6].

Віншую з Першамаем, бо, відаць, другога ліста да таго часу атрымаць не паспееце.

Зараз сяджу тут, назіраю за беднай уральскай вясною, дый думаю, што каля Таращы, дзе я настаўнічаў, пэўна і пралескі ўжо цвітуць, і рясг лілавее [7]. А на Беларусі смаршкоў у лясных котлішчах поўна, як груш з узвару [8]. Вось ад якой прыгажосці даводзіцца ўцякаць, каб мець спакой.

Раман мой стары, як кажуць, пэнкнуў. Так яго, раба божага, і прыкрылі. Ну і д'ябал з ім. Адзіным я задаволены: на кампрамісы не пайшоў. Жыць, што праўда, цяжкавата матэрыяльна, але вылезем. Не першы раз [9].

У Рагачове вазьмуся за пераклады. З усіх, каго Вы назвалі, няма ў мяне збірак Ліны і Василя Симаненкі [10]. Але нічога, дастану.

Васіля шкада ад усяго сэрца. І не дапамагае чорная прыказка старажытных, што “той, каго любяць багі, памірае маладым”, асабліва калі ён паэт. Дурная прыказка, дурны свет! Як горкі нейкі лёс над зямлёю. Як расцвітае нешта рана, молада, гожа, як захопляцца ім людзі – так, нібы злосная насмешка нейкая, возьмуць і адбяруць ад людзей і зямлі. Якая хаця таму прычына была, га?

Збірку ягоную новую – дашліце. Такія вось незваротныя страты бываюць у жыцці. Магчыма і пагаварылі б з ім ды з Вамі калісьці. А тут – як бездань.

Думкі мае, наогул, невясёлыя. Ратуе праца. Асабліва думаць не на яе тэму не даводзіцца. Сёння вось толькі вырашыў з раніцы напісаць Вам вялікі ліст, бо сорамна мне ўжо, а там і зноў за працу (сёння павінен загінуць на мядзведжым паляванні бацька майго героя). Вечарамі толькі чытаю перад сном хвілін па трыццаць, па сорак. Ведаю, што лепей бы адпачыць мазгам, але гэта ўжо такі ўедлівы звычай, што не заснеш без слова (не прыміце ў дрэнным сэнсе), і дзень нібыта страчаны, калі хаця трохі не пачытаў.

Чытанне, пры такім тэмпе, ідзе, вядома, павольна. Другі тыдзень мучаю адну кнігу.

Чамусьці атрымліваецца так, што ўвесь час тут чытаю ўкраінскія кнігі. Чытаю “Уладзімір” нябожчыка Сямёна Склярэнкі [11]. У пазнавальным сэнсе цікава, а ўвогуле трохі незадаволены. Ніяк не можам мы адмовіцца ад звычак апраўдваць дзяржаўнага дзеяча ва ўсіх яго ўчынках. Адрыжка тых яшчэ часоў. Забіў бацьку і братоў будучай жонкі, яе – “поя”, потым разбіў пад Любечам брата, прагнаў яго ў Родню, прапанаваў мір, завабіў у Кіеў, дзе брат загінуў пры таямнічых абставінах. На трызне быў, пасля трызны “поя” ўдаву брата, так што невядома, чыё дзіця... ну і гэтак далей. І на ўсё апраўданні: Рагвалод полацкі грамату яго падзёр і “збіраўся выступіць” супраць яго (як быццам і дагэтуль гэта не ёсць першае апраўданне для агрэсіі: “збіраліся напасці”. Гэх, нічому не вучацца людзі ад гісторыі), брата забілі баяры, з жонкай ягонай не вытрымаў і г.д.

Меў рацыю бацька Тарас [12], калі не верыў ніякай такой лухце і ўсё выпрабоўваў ядучым квасам скепсісу. Таму і памылак пазбегнуў, таму і кампрамісаў не ведаў, таму і дагэтуль у шмат якіх пытаннях мы да ягонага звышчалавечага і звышгуманнага разумення не дараслі. Памятаеце, аб чым “по біблії читає” святы чарнец? Склярэнку б часцей у яго заглядаць.

І дарэчы, ніякага такога апраўдання не трэба было. Ну, зрабіў, ну, узяў, ну, не вытрымаў. Людзі ёсць людзі. А тыя, продкі, былі яшчэ неўтаймавана страсныя, гарачыя, з нераскіданымі пачуццямі. Паганцы, ледзь не варвары. Ну і малюй жа ты іх так, чорт! Як пілі, ды як ваявалі. Як утаймоўвалі коней і жанчын, вераломствавалі, хлусілі, трымаліся рыцарства. Памятаеце, як аднаму такому феадалу сказалі, што заб’юць ягоных дзяцей, калі не здасць фартэцы. То ён, сукін сын, сказаў: “Вазьміце, у мяне заўсёды пры сабе зброя, каб нарабіць новых”. Падлюга, свіння, а жывы. Або, памятаеце, як два паплечнікі Качубея пасля катавання кнутом ляжалі ў цямніцы, пад крывавымі дзяругамі, чакалі смерці. Нейкі там палкоўнік і, здаецца, казацкі паэт.

Памятаеце, што адзін другому сказаў?

– От би позичить в москаля того кропила. Як би для нащих з тобою жінок здалося!

І вось такія яны й былі. І ў нас, і ў вас. Героі, распуснікі, святыя, свінні, багі, здраднікі, гумарысты не там, дзе трэба. Але для сябе не манюкі. І, ва ўсякім разе, не поснікі. І вось такіх, жывых, іх і можна нават любіць. А калі не любіць, то верыць.

Дарэчы, Вам не перашкаджае, што пішу па-беларуску? Пэўна, зразумееце. А мне лягчэй. Дагэтуль па-руску пісаў, бо па-ўкраінску мне ўсё ж не так лёгка. Мінула ўсё ж восем год, магу сям-там зрабіць памылку або ўжыць беларусізм [13]. Глядзіце, як Вам зручней.

Ну вось. А цяпер некалькі слоў пра Вашу кнігу. Учора вечарам яе перачытаў (кажу, шанцы на Украіну) [14]. Па-мойму, яна шмат выйграе ў параўнанні з папярэднімі [15]. Зберaглася ранейшая чысціня, простасць і тое, у вышэйшай ступені ўкраінскае, што ўласціва вашай цяперашняй моладзі. І, адначасова, з'явілася простая складанасць і глыбокадумнасць. Ёсць, вядома, часам і рыторыка (як у "Вогнищах на шляху" – "З морозу ми й Арктику вирвемо..."), але хто богу не вінаваты. Тым больш, што ў гэтым вершы ёсць добрыя вобразы – гэтыя "свічки в льоху" ды "життя, наче сіто з висівок".

І роздум расце. Сведчанне таму "Прометеї і пігмеї", хаця ў некаторых такіх вершах і ёсць яшчэ часам тое, што аўтар "Слова" назваў "мыслію па дрэву".

Дзеля пана бога нашага не думайце толькі, што ва ўсіх гэтых маіх словах ёсць тон нейкага ментара, на які я не маю права. Гэта мая асабістая думка, з якой Вы можаце і не згаджацца, але якая не можа не быць Вам цікавай, як думка кожнага добразычлівага чалавека.

Сто думак розных людзей – глядзіш, нешта карыснае ў іх і знайшлося. Толькі так і прашу глядзець на гэта.

"Мыслію па дрэву" – я заўважаю, напрыклад, у "Я живу на долоні сторіч", хаця і тут асноўная думка цікавая і патрэбная: "Мы не серафімы, і няма чаго нас маляваць такімі"... Вельмі неблагі верш "Відозва до лікарів", але канец зніжае яго. Нібы замахнуўся, каб забіць, а потым толькі канстатаваў факт існавання ганебнай з'явы. Няма канчатковасці. Якой? Я хачу расказаць Вам аб адным выпадку, пра які я хацеў бы напісаць верш, але пакуль што не ведаю, як [16]. Я тады быў на чацвёртым курсе, а астатнія хлопцы з пакоя – першакурснікі. Калі памёр Сталін – я іх падбіў на тое, каб з Кіева ехаць на Маскву, глядзець.

Чалавеку, каб зразумець, вельмі трэба ў такія хвіліны быць там, дзе зварушанні вялікай людской масы. Тады перад ім паўстаюць заканамернасці.

І вось вялікі горад, транспарт не ходзіць, чарга да Дома саюзаў – ад Курскага вакзалу. Тугі ў людзях няма – хутчэй цікаўнасць.

І яшчэ, страшная цісканіна на вуліцах. Гінуць людзі. І вось, ля высотнага будынка, недзе ля павароту на Камсамольскую плошчу, насустрач гэтаму патоку людзей дзед і бабуля, сівыя, вельмі старыя, на саначках вязуць дзіцячую, на немаўлятка, труну. Транспарту няма. Насустрач – натоўпы з дзясяткаў тысяч людзей. І ўсе гэтыя людзі нават не глядзяць на старых.

Жыццё склалася так, што я гэтага чалавека не любіў з сямігадовага ўзросту [17]. І, вядома, і тут я нічога хлопцам не сказаў. Але гэта так засела, што і дагэтуль не магу забыць. А для старых, пэўна, галоўным была малая труна.

Вось чагосьці такога Вы тут не знайшлі. Канчаткова – заканамернага, страшнага, як пячаць, і, адначасова, гордага, бо раз людзі заўважылі такое – значыць, яны яшчэ не зусім прапашчыя, а проста "устають понад всі протиріччя".

А потым у Вас пайшло! "Сніжички" – дзівосна.

І, урэшце, верш, які мне спадабаўся ледзь не больш за ўсе, відаць, таму, што ў паэта на першым месцы павінен быць боль, а радасць – справа другая, таму што паэт – гэта, перш за ўсё, павітуха, што дапамагае нараджацца ісціне, а ісціна, на жаль, пакуль што нараджаецца ў крыві.

Верш гэты – "Роси". Чорт вас, хахлоў, ведае, як жа вы выраслі з таго часу, калі я чытаў ва ўніверсітэце зборнікі тагачасных маладых?! Тады гэта былі такія "ясночолі юнаки", такія, проша паньства, дупы, што павесіцца можна было: "Не був я повік на корейській землі, тепер густо зрошеній кров'ю, але, якби міг, я б за неї поліг: до неї полаю любов'ю". Аўтара не кажу, ён жыве і друкуецца. І няхай жыве.

Урэшце, усе тады былі такія. І ўсё ж сорамна было. Чуеш, размер які? Пра кроў, а нібы танцуе:

Але, якби міг,
Я б за неї поліг.

Зусім, як у вядомай дрындушцы:

Рассерженный Бишоп сердито
Сказал мне: вы будете биты.
Как две капли жена,
И притом обнажена,
Мистер Грин, постыдились бы вы то.

А цяпер вы мудрэеце проста на вачах. І правільна, бо шчасце не ў тым, каб быць старшыном-звыштэрміновым, а ў пазнанні праўды і, відаць, у доблесці і ведах.

Ах, верш які!

Вы жылі ў Польшчы і, вядома, польскую мову ведаеце. І паэзію [18].

Памятаеце ў Цыпрыяна Норвіда "Жалобную рапсодыю на смерць Бема" [19]? Тут ёсць у некаторых радках нешта, што нагадвае яе. Не складам, вядома, не памерам, не думкай – нічым. Але нагадвае: трагічна-светлым успрыманнем свету. Ёсць радкі выключныя:

...Орали снаряди землю,
        косили жита автомати.
Снопами бійці лягали...
        Спіткнувся. Ніч.

Чорт, лаканізм які! Або:

– Де він? – у трави питаю.
Питаю: – Де він? – у жита.
– Де? – у пташок питаю.
Питаю про це у людей.
...А сонце, умите, чисте,
            червоно встає над світом...
                    День.

Мне страшэнна хочацца, каб гэта стала маналітам. З часам, праз гады, калі вернецеся, паспрабуйце пазбавіцца ад адцення некаторага сантыменту літаральна ў двух-трох словах. Можа, я не маю рацыі, але пакаштуйце на слых: "Як то очам не ридати?", "В зажурі діток втішала", "<u>Невинні</u> сирітські сльози...". Трошкі б суровей, нават грубей, як сякераю, трэба. Але каб адчувалася, што боль сэрца рве. Не ведаю як. У другім месцы нешта адно пакінуць. Магчыма, замест "втішала" – "казала", або неяк інaчай. Ну, не ведаю ж я. Вы ж паэт!

А верш проста, не баюся сказаць, выключны. І другая частка "Спогадів", "...Сиві коси" – адзін з лепшых вершаў кнігі. Дарэчы, у ім ёсць тое, што яднае з самымі рознымі, але самымі лепшымі паэтамі з маладых – Оярам Вацыецісам, з некаторымі нашымі і вашымі, з Шота Нішніанідзе і іншымі. Тое, што сведчыць аб тым, што мы людзі аднаго пакалення і гэтага з нас не выб'еш.

Між іншым, і наіў, за якім – няпростасць:

У клітці стояв «фашист»
(підроблений Гітлер),
<u>Хто хтів, той плювався на нього</u>...

Ходзіць, здаецца, такі зявака, спадчыннік "ясночолих", а, на справе, і смешна, і жах, і ўсе вы, побач з зявакамі, – боўдуры.

Уражае і разнастайнасць кнігі: прызнак добрага паэта. Не сумна чытаць, бо ўсё і ўсякае ёсць. Раней гэтага было менш. Пасля "косаў" і "Воду в долоні черпаю".

Як песня паганца (не злуйцеся, не памятаю, як па-ўкраінску, а па-беларуску гэта – “язычнік”).

Я ведаю, Вы з Польшчы. А якая мясціна продкаў? Валынь? Галічына? Дзівосныя ў вас людзі, і такія разнастайныя.

У харошым вершы “Ні, той таки не бачив неба” апошнія два радкі нешта не так. Але, урэшце, бог з імі, калі існуе “небоплес”. Самі выдумалі ці ёсць такое народнае слова?

Але зноў горш. “Поле” трохі стандарт, і “Журавлі”. А потым зноў узлёт – “Сповідь Маркіяна Шашкевича”. Апошнія чатыры радкі – той высокі лаканізм, якога заўсёды так не хапала мне. Дый хіба толькі мне?

Франко [20] ў Вас, пакуль што, горшы за Шаўчэнку [21] і Шашкевіча [22]. І “На вулиці” і ў “Валеті”. Не знайдзены неяк, хаця, агаворваюся, як заўсёды, што гэта <u>я толькі</u> так лічу і гэта ні для каго не азначае нічога. Колькі вачэй, столькі і светаў. І дзіва:

І, зсунувши могучою рукою
з-над себе
        віко гробове,
встає Бетховен,
        б’е в долоні,
аж глухнуть вуха у дерев!

Няпроста і добра. Узор мислення паэта.

Эпітафія Канапніцкай [23] таксама добрая. Памятаеце “Роту”? Люблю яе. Далей раз-пораз наштурхнешся на лепшае і лепшае. І мініятуры, накшталт “Краплини”, і горб, што ад працы нарос на Зямлі, і канец “Ех, який я ненаситний”. Часта ж так здзіўляюцца паэты, як гэта свет патрэбен ім, а жыць можна і без іх. Ёсць недрукаваны верш Навелы Матвеевай [24], дзівоснай паэтэсы і майго добрага друга, “Страна Дельфиния”. Хвалі, існує недзе краіна. Калі туды не паехаць – усё знікне: пасохнуць пальмы і заглохнуць кветкі. І раптам прыходзіць адтуль ліст, а ў ім такое, што дзіву даешся.

Пальмы без меня – не сохнут,
Розы без меня – не глохнут,
Птицы без меня не молкнут.
Как же это, без меня?

Так вось і жывем. І пішам пра Прут, што “послизнувся з обрива” (дый загрымеў, пэўна, бедалага!), ды пра абыякавую, як жанчына, кручу. І лічым, што нічога не змянілася. Ды яшчэ ў “якби” дасягаем такой музычнасці. У гэтых паўторах, такіх, што ў чалавека нібы задыхаецца ад хвалявання сэрца.

Лухта гэта, што ў наш век ды з нашымі шматлікімі каханнямі нельга быць чыстым. Вось хаця ў “Скрыпцы”. Няхай сто баб было, а цнота чалавечая ёсць, жыве! І сум у “повернусь на село” (!!!).

Словам, што ж сказаць, браце.

Усё ўмеем. І жанчын па-чалавечы кахаць, аж неба мружыцца, і, пры выпадку, навалачы рознай даць так, каб аж нагамі накрылася.

Моцны пад’ём. Вельмі моцны.

То што, будзем жыць? Будзем жыць, і няхай яны, ворагі добрага, а, значыць, і нашы, – паздыхаюць.

Ну, вось. Аж абрыднуў, відаць, такі доўгі ліст напісаў. Нічога. Вы не крыўдуйце. Я сказаў тое, што думаў: што стандарт – тое стандарт, а што добра – тое добра.

Спадзяюся, калі праз пару год і я дашлю Вам свой зборнік – Вы адкажаце мне таксама вельмі падрабязна, і таксама шчыра і неліцамерна аб усім, што думаеце.

Ну, бывайце. Моцна цісну руку. Жадаю поспехаў.

Уладзімір Караткевіч

*P.S.* Не забывайце новы адрас.

---

1. З Уладзімірам Лучуком Караткевіч пазнаёміўся, верагодна, у Доме творчасці СП СССР у Кактэбелі ў кастрычніку 1962 г. Тады ж, хутчэй за ўсё, ён атрымаў ад аўтара кніжку “Уставати треба рано” (1962), у якой знайшоў і пераклад на ўкраінскую мову свайго верша “Заяц варыць піва”. Верагодна, у Кактэбелі ў адказ ён падарыў Лучуку свой зборнік “Вячэрнія ветразі” (1960), у якім той упадабаў і пераклаў для “Жовтня” (1962, №12) верш “Трызненне мужыцкага Брэйгеля”. Аднак гэтыя кантакты яшчэ не перараслі ў больш блізкія адносіны. Адсюль – зварот адзін да аднаго “на Вы”.

2. Уладзімір Караткевіч па вяртанні летам 1962 г. з Масквы, дзе ён вучыўся спачатку на Вышэйшых літаратурных курсах (1958–1960), затым на Вышэйшых сцэнарных курсах (1960–1962), пэўны час жыў у хаце свайго аршанскеага *сябра В. Краўца*. Таму такі нумар ранейшага паштовага аддзялення – “Мінск 15” – на адрасаваным яму канверце.

3. У студзені 1963 г. СП БССР выдзеліў Караткевічу ў Мінску па вул. Чарнышэўскага, д, 7, аднапакаёвую кватэру (кв. 57). Сюды пісьменнік перавёз з Оршы сваю пажылую маці Надзею Васільеўну (бацька Сямён Цімафеевіч памёр яшчэ ў верасні 1959 г.), якая ў далейшым увесь час жыла разам з ім.

4. У. Лучук пасля заканчэння славянскага аддзялення Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (ЛДУ) імя І. Франко (1958) некалькі гадоў працаваў старшым рэдактарам аддзела паэзіі львоўскага часопіса “Жовтень” (цяпер – “Дзвін”), актыўна займаўся перакладам, у тым ліку беларускай паэзіі. У. Караткевіч абяцаў яму дасылаць для перакладу некаторыя зборнікі беларускіх паэтаў. У сваю чаргу, Лучук падарыў сваю кнігу “Полум’я мене овіює” (Кіеў, 1963) Караткевічу, пра якую ён пазней і выказаўся падрабязна ў гэтым лісце.

5. Раман, які Караткевіч пісаў у Чалябінску ў сакавіку–красавіку 1964 г. у кватэры сваёй сястры Наталлі Сямёнаўны Кучкоўскай, – “Каласы пад сярпом тваім”.

6. У. Караткевіч неаднаразова запрашаў сваіх украінскіх сяброў і знаёмых (У. Лучука, Р. Іванычука, Р. Лубкіўскага і інш.) наведаць Беларусь, прыехаць да яго ў госці.

7. У. Караткевіч прыгадвае тут мясціну ва Украіне, у прыватнасці *сяло Лесавічы ў Таращанскім раёне на Кіеўшчыне*, дзе ён настаўнічаў два гады пасля заканчэння Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (КДУ) імя Т. Шаўчэнкі (1954–1956).

8. Як заядлы грыбнік Караткевіч асабліва любіў і ўмеў шукаць, а таксама смачна гатаваць самыя раннія, вясеннія грыбы – *страчкі і смаржкі*, якіх многія грыбазбіры ўвогуле не бяруць, баючыся атруціцца.

9. “*Стары раман*”, пра які гаворыць Караткевіч, – “Нельга забыць” (“Леаніды не вернуцца да Зямлі”). Надрукаваны ён быў у часопісе “Полымя” (1961, №5–6). Але пасля некаторых адмоўных рэцэнзій і абмеркавання яго на секцыі прозы СП БССР (8 ліпеня 1963 г.), дзе пісьменніка абвінавацілі ў абстрактным гуманізме і іншых “грахах”, яго не стала выдавецтва друкаваць, і ў лістападзе 1963 г. ужо гатовы набор кнігі рассыпалі. Раман гэты выйшаў у свет толькі праз амаль 20 год, у 1982 г.

10. “*Ліна*” – *Кастэнка Ліна Васільеўна* (н. 1930), выдатная ўкраінская паэтэса, грамадскі дзеяч, лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі (1987), аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, знакамітых вершаваных раманаў “Маруся Чурай” (1979), “Берастэчка” (1999) і інш. Вучылася ў Кіеўскім педагагічным інстытуце, скончыла Маскоўскі літаратурны інстытут імя А.М. Горкага (1956). З кагорты шасцідзясятнікаў. З 1963 г. за “апалітычнасць”, “зацямненне ідэйна-палітычнага зместу твораў”, падтрымку асуджаных львоўскіх пісьменнікаў яе перасталі друкаваць (у тым годзе нават набраную яе кнігу вершаў “Зорны інтэграл” рассыпалі ў друкарні), а пазней забаранілі ўпамінаць у друку і імя паэтэсы. Так працягвалася да другой паловы 1970-х гг. У. Караткевіч, несумненна, быў знаёмы з яе творчасцю. Сярод зборнікаў вершаў, якія ён спадзяваўся “дастаць” праз сваіх украінскіх знаёмых (у т. л. праз Лучука), маглі быць у той час кнігі Л. Кастэнка “Проміння землі” (1957), “Вітрила” (1958) і “Мандрівки серця” (1961).

*Сіманенка Васіль Андрэевіч* (1935–1963) – вядомы ўкраінскі паэт-шасцідзесятнік. Скончыў факультэт журналістыкі КДУ імя Т. Шаўчэнкі (1957), пасля чаго працаваў у розных перыядычных выданнях роднай Чаркашчыны. Праўда, папрацаваць змог адносна нядоўга. Пасля апрылюднення (разам з Л Танюком і А. Гурскай) звестак пра ўкраінскія “Курапаты” – Быкоўню, Лук’янаўскі і Васількоўскі цвінтары (там цяпер створаны памятныя мемарыялы), яго жорстка збілі невядомыя асобы, што прывяло да цяжкіх хвароб, доўгага лячэння, а ўрэшце і да смерці на шпітальным ложку ў няпоўных 29 год. Пры жыцці ў В. Сіманенкі выйшлі толькі два асобныя выданні – зборнік вершаў “Тиша і грім” (1962) і вершаваная дзіцячая казка “Цар Плаксосій та Лоскотонь” (1963). З творамі, змешчанымі ў іх, і мог пазнаёміцца У. Караткевіч. А таксама з некаторымі самвыдатаўскімі публікацыямі, якія былі распаўсюджаны ў тагачаснай Украіне.

11. *Склярэнка Сямён Дзмітрыевіч* (1901–1962), украінскі савецкі пісьменнік, празаік. Удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Пісаў з 1918 г. Аўтар трылогіі пра грамадзянскую вайну ва Украіне – “Шлях на Кіеў” (1937), “Мікалай Шчорс” (1939) і

“Польскі фронт” (1940), рамана “Карпаты” (1954) і інш. Меў намер стварыць яшчэ адну трылогію – пра “станаўленне старажытнарускай Кіеўскай лзяржавы X–XI стст.” Напісаў і выдаў дзве першыя кнігі гэтай трылогіі – “Святаслаў” (1959) і “Уладзімір” (1962). Трэцюю, пра Яраслава Мудрага, не паспеў напісаць.

12. “*Бацька Тарас*” – Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка (1814–1861), вялікі ўкраінскі паэт, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў і класік новай украінскай літаратуры. Стогадовы юбілей яго адзначаўся ва ўсім свеце ў сакавіку 1964 года. У. Караткевіч тады яшчэ раз звярнуўся да асобы і творчасці Кабзара, надрукаваў пра яго арыгінальнае эсэ “І будуць людзі на зямлі” (“Маладосць”, 1964, №3).

13. У. Караткевіч мае на ўвазе час, калі ён назаўжды пакінуў Украіну, правучыўшыся пяць год у КДУ імя Т. Шаўчэнкі (1949–1954) і папрацаваўшы два гады ў Лесавічанскай СШ на Кіеўшчыне (1954–1956).

14. Гаворка ідзе пра дасланы новы зборнік вершаў Лучука “Полум’я мене овіює” (1963), які Караткевіч і аналізуе падрабязна ў сваім лісце. Гэтай кнізе ён прысвяціў і арыгінальную эсэ-рэцэнзію “Бетховен б’е ў далоні...” (“Полымя”, 1964, №9).

15. Маюцца на ўвазе дзве папярэднія кнігі паэзіі Лучука: “Довір’я” (Львоў, 1959) і “Осоння” (Кіеў, 1962), з якімі Караткевіч, мяркуючы па ўсім, быў знаёмы.

16. Верш на тэму смерці і пахавання Сталіна Караткевіч не напісаў. Але выразным антысталінскім пафасам прасякнута яго аповесць “У снягах драмае вясна” (1957, апублікавана ў 1988), асноўныя падзеі якой адбываюцца напярэдадні смерці Сталіна, у 1952 г.

17. Тое, што Караткевіч, як і многія тысячы савецкіх людзей, не любілі Сталіна за яго жорсткасць, неабгрунтаваныя рэпрэсіі і інш., пісьменнік выказаўся ў напісанай на рускай мове 17 верасня 1964 г. аўтабіяграфіі “Дорога, которую прошел”, варыянт якой (ужо на беларускай мове) быў надрукаваны ў кнізе аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў “Пра час і пра сябе” (1966). Вось гэты першапачатковы рускі тэкст: “В 39-м вернулся из тюрьмы один из моих дядек, старый коммунист, перед арестом – заведующий камчатским облоно... Несмотря на мой возраст, он ничего от меня не скрывал... Потому и на похороны Сталина поехал и подбил на поездку ребят из комнаты, не из-за скорби, а чтобы видеть собственными глазами. И увидел. И, вместе с хлопцами, помогал санитарам вытаскивать из давки людей. И попал в переделку в Ветошном переулке в день похорон. А это уже не оставляло никаких сомнений и вызывало одно желание: «Скорей бы покончили со всем этим»... Никаких сомнений о его «зрячестве», к счастью, уже на втором курсе у меня не было”.

18. У. Лучук нарадзіўся ў 1934 г. у Грубашоўскім раёне на Холмшчыне, на землях, якія пасля вайны адышлі да Польшчы, і толькі ў 1945 г. разам з бацькамі пераехаў ва Украіну, на Валынь. Таму, безумоўна, польскую размоўную мову ведаў з дзяцінства. Дасканаламу авалоданню і яе літаратурнай нормай, і гісторыяй польскай літаратуры пасадзейнічала навучанне на славянскім аддзяленні ЛДУ імя І. Франко (1953–1958).

19. *Норвід Цыпрыян Каміль* (1821–1883), польскі паэт, празаік, драматург, жывапісец.. Класік польскай літаратуры. Усё творчае жыццё пражыў за межамі Польшчы. У апошнія гады жыў у польскім дабрачынным прытулку каля Парыжа, дзе і памёр.

20. *Франко Іван Якаўлевіч* (1856–1916), украінскі пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч. Скончыў Чарнавіцкі ўніверсітэт (1891). Доктар філасофіі (1893), ганаровы доктар рускай славеснасці (1906). Быў яскравым публіцыстам, супрацоўнікам, арганізатарам і рэдактарам шэрагу перыядычных выданняў. Неаднойчы арыштоўваўся ўладамі Аўстра-Венгрыі. Яго геніяльнасць выявілася, бадай, ва ўсх жанрах літаратуры, у многіх галінах гуманітарнай навукі (гісторыя, паліталогія, фалькларыстыка, культуралогія, мовазнаўства, мастацтвазнаўства і інш.). Шырынёй, разнастайнасцю прыроджанага таленту Караткевіч тыпалагічна набліжаецца да І. Франко.

21. *Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч*, гл. пра яго заўвагу 12.

22. *Шашкевіч Маркіян Сямёнавіч* (1811–1843), украінскі паэт, грамадскі дзеяч. Служыў святаром на Галіччыне, якая тады ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі. Заснавальнік (разам з Я. Галаацкім і І. Вагілевічам) “Руської трійці” – славянафільскай дэмакратычнай арганізацыі, якая з канца 1820-х гг. распачала на заходнеўкраінскіх землях нацыянальна-культурнае адраджэнне, змагалася за ўвядзенне ўкраінскай мовы ў школьнае навучанне і царкоўную службу.

23. *Канапніцкая Марыя* (1842–1910), польская пісьменніца, перакладчыца. Аўтар многіх вершаў і паэм патрыятычнай і гуманістычнай скіраванасці. Сябравала з Э. Ажэшка, наведвала Беларусь. Зрабіла значны ўплыў на тэматыку і праблематыку творчасці маладога Янкі Купалы, які пераклаў на беларускую мову шэраг яе вершаў (“Варажбітка”, “Тры дарогі”, “Родны дом” і інш.), адгукнуўся на яе смерць вершам “Памяці Мар’і Канапніцкай”.

24. *Матвеева Навела Мікалаеўна* (1934–2016), вядомая руская паэтэса, перакладчыца, літаратуразнавец, бард. Блізкая знаёмая У. Караткевіча перыяду яго навучання ў Маскве на Вышэйшых літаратурных і Вышэйшых сцэнарных курсах. Скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя А.М. Горкага (1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ у галіне літаратуры (2002). Аўтар многіх зборнікаў вершаў (“Лірыка”, 1961; “Душа рэчаў”, 1966; “Рака”, 1978 і інш.), музычнага альбома з 14 песень ва ўласным выкананні (2009).

## №2

Дарагі Уладзімір! [1]

Так крыўдна з усім гэтым атрымалася – проста хоць ваўком вый. Вы абяцалі прыехаць у Мінск числа 24–25 [2]. Я, ведаючы Вашу сціпласць, не спадзяваўся, што Вы адразу заедзеце да мяне або хаця дасцё тэлеграму і дні тры-чатыры кожны дзень хадзіў у саюз пытаць, ці не прыехаў хлопец з Украіны. Потым вырашыў, што перад самым святам Вы не прыедзеце, а прыедзеце, відаць, пасля, раз ужо нешта Вас затрымала. І паехаў у Оршу, толькі на святы, бо нельга было кінуць маці адну [3]. Прыязджаю і – сюрпрыз. Рэдактары мне кажуць. Божа мой, што Вы падумалі пра нашу гасціннасць і пра мяне?! Валасы на сабе рву. Калі ласка, калі толькі Вам хаця трошкі трэба нешта ў Мінску – давайце тэлеграму і прыязджайце. Ах-х, бож-жа ж ты мой!!! Чорт ведае, як непрыемна атрымалася. Бярыце вершы і ўсё, аб чым дамаўляліся, – і едзьце. Моцна цісну руку. З братнім прывітаннем. Чакаю. Уладзімір.

---

1. Ліст напісаны на адвароце паштоўкі (фота: Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У.І. Леніна), не датаваны. Канверт з паштовым штэмпелем не захаваўся.

2. Мяркуючы па змесце (зварот “на Вы” і інш.), напісаны ліст у канцы 1964 года, перад каталіцкімі Калядамі. У верасні таго года Караткевіч пад крэатыўным загалоўкам “Бетховен б’е ў далоні...” надрукаваў рэцэнзію на кнігу Лучука “Полум’я мене овіює” (“Полымя”, 1964, №9); нумар часопіса з рэцэнзіяй, несумненна, ён меў намер пры сустрэчы падарыць аўтару кнігі. З другога боку, львоўскі “Жовтень” у кастрычніцкім нумары за 1964 год, які, безумоўна, не мог не прывезці Лучук, быў амаль цалкам прысвечаны беларускай літаратуры. У рубрыцы “Беларусь – сінявокая сястра Украіны” публікаваліся ў перакладзе на ўкраінскую мову творы чатырох беларускіх празаікаў (Я. Брыль, Я. Скрыган, І. Пташнікаў, Б. Сачанка) і ажно трынаццаці (!) паэтаў (М. Танк, П. Панчанка, П. Броўка, А. Куляшоў, С. Грахоўскі, Л. Геніюш, А. Вялюгін, М. Калачынскі, М. Аўрамчык, А. Наўроцкі, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Макарэвіч). Тут жа друкаваўся і артыкул пра сучасную беларускую паэзію самога Караткевіча, напісаны, відаць, па спецыяльнай просьбе часопіса. Усё гэта выклікала асабліва шкадаванне Караткевіча аб нязздзейсненай сустрэчы з Лучуком.

3. У той час у аднапакаёвай мінскай кватэры па вул. Чарнышэўскага 7, кв. 57, Караткевіч жыў разам са сваёй маці Надзеяй Васільеўнай.

## №3

*6 мая 66 г.*

Валодзечка, даражэнькі! [1]

Хаця і са спазненнем, але пішу табе ліста. Як бачыш, ані на нарадзе перакладчыкаў не быў, ані на вечар беларускай паэзіі не трапіў, бо й запрашэння не было [2].

Вось так мы з табою і не сустрэліся зноў. Нічога, час яшчэ ёсць, яшчэ не зусім старыя, сто разоў убачымся. Прыязджаў бы ты да нас улетку (толькі папярэдзіў за тыдзень мяне і Прашковіча [3], каб нікуды не з’ехалі). Якраз паедзем па Беларусі з апаратарам будынкі старыя здымаць, то вось і ты з намі паехаў бы [4]. А калі гэта будзе ў другі час, то проста паехалі б на Навагрудчыну, у Белавеж, да мяне ў Рагачоў. Цудоўна правялі б час. І рыбу палавілі. І ўсё такое.

Я зараз у Рагачове [5], але да 12-га павінен пад’ехаць у Мінск. Пачнецца наш пісьменніцкі з’езд, будзе ён цягнуцца тры дні, давядзецца сядзець і слухаць разумных (а часам і боўдураў, як тое ў нас заведзена!). Тут зараз цудоўна. Сады цвітуць, горад – суцэльная белая пена. Дняпро толькі пачаў спадаць: з’явіліся зялёныя грывы лазы і дубняку на тым беразе. А повень была – на восем вёрст. Нават Гервасій Выліваха [6] пераплыў бы такую толькі ў тым выпадку, калі плыў бы, аб’яднаўшыся з казаком Мамаем, скажам. А паасобку не пераплылі б.

Корпаюся ў садзе ды вось адказваю на лісты. Вершы дашлю табе некалькі сёння. Пачытай, калі цікава. А вось з апавяданнямі счакай трохі. Два невялічкія дашлю, як толькі спраўлюся ў Мінску, тыдні праз два.

Зусім мяне замучыў “Хрыстос” [7]. На студыі сапсулі, зрабілі, нібы ў казцы, з шаблі – шыла, а з шыла – пшык. Замест таго, каб ганьбіць дагматыкаў, фарысеяў і інш. – зганьбяць яны ўсім гэтым саміх сябе. Памятаеш украінскі анекдот, як хлопцы купілі “фузію” на кірмашы і вырашылі, што страляць будзе “хто ж, як не коваль”, і, калі ўжо страляць, то трэба “в бік татарви”. Ну і стрэльнулі. І засталіся хто без рук, хто без ног, а хто і без галавы. І яшчэ нехта, гледзячы на гэта сумнае відовішча, здзіўляўся:

– Ото клята фузія! Що ж вона між татарви наробила, якщо тут таке?!

То я разлаваўся і на той самы сюжэт аповесць напісаў [8]. Усё выказаў, што хацеў і як хацеў, без нахабных правак дыктатарскага алоўка, без “перста указующего”, – як сказаў бы... а цап яго ведае, хто так сказаў бы.

Як з тваёй прозай? І, увогуле, як у цябе справы? Што чуваць удома? Як жонка і хлопцы, ці здаровыя, ці шчаслівыя [9]?

Дасылаю табе сваю морду з часоў службы на флоце. А мо ўжо дасылаў такую? Калі дасылаў – падары яшчэ каму-небудзь. Лыч такі, што толькі людзей ім палохаць. Палкоўнік Скалазуб у юнацтве.

Чытаў у польскай “Палітыцы” аб судзе над нейкімі там хлопцамі, якія абдзіралі занядбаныя капліцы і цэркаўкі ўкраінскія ў Закерзонві, трасца хлопцам... Абдзіралі і прадавалі абразы, культавыя прадметы, ваздухі. І спаймалі, і ўсыпалі па той па самай. Даволі вялікі тэрмін неба ў краты далі. Мяркуючы па тым, што пішуць – узяліся за ахову. Некаторыя рэстаўруюць. Найбольш каштоўныя рэчы – у сховішчах (часам, праўда, у пыле і памёце галубоў, але добра, што хаця не пад дажджом), частку капліц і цэркавак кансервуюць. А як па-добраму, то, пакуль тое, аддаць бы ім іконы і іншае. У Львоў, у Кіеў, у іншыя гарады дзеля музеяў. Так бы добра было. Але няблага і тое, што хаця ўзяліся палякі за розум. Цяпер бы нам узяцца за зберажэнне чагосьці з іхняга, што засталося тут, і ўсяго нашага на ўласнай зямлі.

Бадай, што ўсё. Моцна цісну лапу тваю!

Твой сябра Уладзімір.

---

1. Упершыню Караткевіч звяртаецца да Лучука “на ты”. За час між папярэднім і гэтым лістамі (магчыма, яны нават сустрэліся тады) паміж імі склаліся больш даверлівымі адносіны, пра што сведчаць наступныя факты. Беларускамоўная беластоцкая газета “Ніва” 25 красавіка 1965 г. змясціла напісаны 10 жніўня 1964 г. і прысвечаны Лучуку цёплы пейзажны верш Караткевіча “Падымаюць жоўтыя галовы...”. У беларускім друку з’явіліся перакладзеныя Караткевічам асобныя вершы львоўскага паэта – “Росы”, “Калі б” (“Маладосць”, 1965, №12), “Роздум пра сівыя косы”, “Сняжычкі”, “Павярнуся на вёску да мамы...” (“Чырвоная змена”, 1966, 20 студзеня).

2. Усесаюзная нарада перакладчыкаў і вечар беларускай паэзіі ў Мінску адбыліся ў сярэдзіне лістапада 1965 г. У. Лучук, як можна меркаваць з ліста, прыязджаў на гэтыя мерапрыемствы, спадзяваўся сустрэцца з Караткевічам, але не атрымалася.

3. *Прашковіч Мікалай Іванавіч* (1932–1983), беларускі літаратуразнавец, спецыяліст па старажытнай беларускай літаратуры. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1957). Кандыдат філалагічных навук (1965). Да 1973–1974 гг. – блізкі прыяцель Караткевіча, якога нярэдка суправаджаў у паездках па Беларусі.

4. У. Караткевіч са здымачнай групай “Беларусьфільма” ездзіў па Беларусі здымаць кароткаметражныя фільмы па ўласных сцэнарыях. На лета 1966 г. планаваліся здымкі мастацка-дакументальнага фільма “Памяць каменя”. У. Лучук мог далучыцца да здымачнай групы, якая ў жніўні-верасні таго года сапраўды аб’ездзіла многія цікавыя мясціны Беларусі: Заслаўе, Залессе, Гародню, Слонім, Брэст, Наваградак, Нясвіж, Гомель, Магілёў, Віцебск, Полацк і інш.

5. Са студзеня 1966 г. Караткевіч знаходзіўся ў Рагачове, жыў у доме роднага дзядзькі (па маці) І. Грынкевіча, пісаў (дакладней – дапісваў) раман “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” У пачатку мая вярнуўся ў Мінск. 12–14 мая ўдзельнічаў у працы V з’езда пісьменнікаў Беларусі з правам рашаючага голасу.

6. *Гервасій Выліваха* – галоўны персанаж сатырычнай аповесці-фэнтэзі Караткевіча "Ладдзя роспачы".

7. Тут Караткевіч мае на ўвазе пастаноўку на кінастудыі "Беларусьфільм" мастацкага фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" паводле ягонага сцэнарыі, які кіношнікі прымушалі некалькі разоў перарабляць, выкідаць з яго асобныя сцэны, дапісваць і г.д.

8. З кінасцэнарыя "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" пазней вырас раман пад той самай назвай, пра што і гаворыць Караткевіч. Раман пачаў пісаццa яшчэ ў пачатку красавіка 1965 г. у Чалябінску, завяршылася ж напісанне ў студзені–маі 1966 г. у Рагачове.

9. У. Караткевіч мае на ўвазе жонку Лучука паэтэсу Аксану Сенатовіч (1942–1997), многія вершы якой ён пераклаў на беларускую мову ("Рэфлексія пра Кастуся", "Пасёстры", "Сосны ў Гродні", "Чаканне ў Зэльве", "Як дарогі насустрач імчалі", "Прыгадай жа мяне ты, Мікола...", "Як цвіце Беларусь", "Прыгон – кріпацтво – крепостничество...", "Ацэтатны шоўк"), а таксама іх сыноў Тараса (н. 1962, цяпер – кандыдат філалагічных навук, вучоны-шумеролаг, дацэнт ЛДУ імя І. Франко) і Івана (н. 1965, цяпер – вядомы пісьменнік і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, супрацоўнік львоўскага філіяла НАН Украіны).

## №4

Дарагі Валодзька! [1]

Цалую цябе, жонку і ўсю сям'ю. Віншую з божым нараджэннем [2] і дасылаю, з гэтай прычыны, "Хрыста" на мове "цапів", знявечанага, скарочанага, але ўсё ж свайго [3]. Не звяртай увагі, дружа, на шматлікія памылкі друку, асабліва ў лацінскіх сказах. Вычытаць павінен быў харошы хлопец, перакладчык, і вось я паспадзяваўся на яго.

Ну, нішто. Разрываючыся, як жаба, ад пыхі, кажу, што "папá і ў дзяружцы пазнаюць". Здаровы будзь ты і ўсе твае. Абдымаю цябе і цалую.

Твой друг Уладзімір.

*P.S.* І не звяртай увагі на правінцыяльную вёрстку. Хіба гэтыя "Немны", а не "Нёмны", як належыць [4], нешта могуць?

---

1. Ліст напісаны на адвароце фотапаштоўкі з выявай: "У ваколіцах Браслава, 1962 г." Чорнае чарніла. Даты няма. Паштоўка даслана ў канверце, які не захаваўся.

2. Відавочна, ліст пасланы ў канцы 1966 або на самым пачатку 1967 г., пра што сведчыць віншаванне Лучукоў з "божым нараджэннем" (каталіцкім або праваслаўным).

3. У. Караткевіч мае на ўвазе раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", надрукаваны ў перакладзе на рускую мову Навума Кісліка ("Неман", 1966, №11–12).

4. Часопіс у той час называўся "Н**е**ман". У. Караткевіч іранізуе з такой яго не беларускай назвы. Пазней часопіс стаў называцца так, як і называецца сама рака ў Беларусі, што дала яму найменне, – "Н**ё**ман".

## №5

Мілы Валодзя! [1]

Няўжо гэта я не даслаў табе кнігі [2]? А, мабыць, такі не даслаў. Забыў начыста, й не дзіва. Год мінулы быў годам моцных удараў для мяне. Маці памёрла. Сам хварэў, аж баяліся, што аддам богу душу. Ну, аднак неяк абышлося. Зараз вось распраўлюся з запушчанай перапіскай і сяду канчаць дэтэктыў [3]. А там, як кажуць, бог – бацька.

Дзякуй за дзве цудоўныя кнігі. "Серцем єдині" толькі прагледзеў пакуль, а вось "Глобус" чытаю [4]. Для дзяцей (а значыць, і для дарослых) дужа хораша. Дасылаю табе "Зямлю" [5], шмат дапісаў, тое-сёе скараціў, бо гэты варыянт звернуты ўжо не да ўкраінскага чытача. Дастаў экземпляр (цяжка) і высылаю. Спытай Іванычука [6], ці даслаў яму?

Ну вось пакуль усё. Цалую.

*Уладзімір. 17.II.78.*

1. Ліст напісаны на адвароце паштоўкі з выявай: “И.К. Айвазовский. Вид в Крыму при закате солнца...” Чорнае чарніла. Паштоўка даслана ў канверце.

2. У. Караткевіч і Лучук даволі актыўна абменьваліся кнігамі, як сваімі, так і сваіх калег-пісьменнікаў. Якія кнігі на гэты раз Караткевіч не адаслаў свайму ўкраінскаму сябру – невядома. Прычыны гэтага ён і тлумачыць у сваёй паштоўцы. 16 снежня 1977 г. пасля цяжкой хваробы памерла яго маці. У студзені–лютым 1978 г. ён сам ляжаў у неўралагічным аддзяленні шпіталя з дыягназам: параксізм, страта свядомасці, г. зн. часовае парушэнне мазгавога кровазвароту.

3. Маецца на ўвазе раман “Чорны замак Альшанскі”, над якім у гэты час працаваў . Караткевіч і які закончыў у пачатку красавіка 1979 года.

4. “*Серцем єдині*” (1976) і “*Чарівний глобус*” (1977) – кнігі У. Лучука.

5. “*Зямля*” – “Зямля пад белымі крыламі”, вядомае эсэ Караткевіча, выдадзенае спачатку па-ўкраінску (Кіеў, 1972), а пасля, у дапрацаваным выглядзе, – па-беларуску (Мінск, 1977).

6. *Іваничук Раман Іванавіч* (1929–2016), вядомы ўкраінскі гістарычны раманіст, грамадскі дзеяч, Герой Украіны, блізкі прыяцель Караткевіча.

## №6

*22 снежня 79 г. [1]*

Мілыя Уладзімір і Аксана [2]!

Віншую Вас і ўсіх блізкіх Вам людзей з Калядамі і Новым годам. Жывіце тысячу год у каханні і добрай радзе, здаровыя, з новымі цудоўнымі (накшталт “Дивовиду” [3] і яшчэ лепшымі – дзякуй за цудоўны падарунак) кнігамі. Каб сейна, узросна, умалотна і шчасна жылося і Вам, і паэзіі, і Украіне. Каб споўнілася ўсё, што мы ўголас (а часам і патаемна) жадаем. Валька [4] ўжо спіць, але я цалую Вас і за сябе і за яе. Позна. І есці хачу. Успамінаю львоўскія варэнікі (зусім я тады не мог есці) і плачу ад шкадобы [5]. Чакаю неяк у госці. Скора выйдзе на экраны падпсуты (але затое і львоўскі крыху) “Стах” [6].

Чакаю Вас, дарагія.

Ваш Ул. Караткевіч.

1. Ліст напісаны на адвароце віншавальнай паштоўкі “З новым годам. 1979”, пасланай у канверце. Чорнае чарніла. На канверце надпіс: *Каму*: Україна, м. Львів, в. Гончарова 29, к. 5. Лучук Володимир Іванович. *Ад каго*: 220020, Мінск, К. Маркса 36, к. 24. Караткевічу У.С. Дата на канверце: Мінск, 25.12.79.

2. *Аксана* – жонка Уладзіміра Лучука Аксана Сенатовіч ((1941–1997), украінская пісьменніца, перакладчыца. Пра яе гл. заўвагу 9 да Ліста №3.

3. Маецца на ўвазе вершаваны зборнік Лучука “Дивовид” (1979).

4. *Валька* – Валянціна Браніславаўна, жонка Караткевіча.

5. У. Караткевіч прыгадвае гасцяванне ў сям’і Лучукоў у 1976 годзе, дзе яго частавалі варэнікамі, а ён іх тады зусім не мог есці. Пра што ён згадваў і ў лісце да Р. Іванчука за 9.7.1976 года, просячы выбачыцца ад яго імя перад Лучукамі: “Дзеля мяне не варта было варыць. Слова гонару, ем вельмі кепска і мала, хаця раз на месяц нападае “жэр”, калі з’ядаю ўсё ў двух халадзільніках і яшчэ ўначы вару макароны”.

6. “*Стах*” – фільм “Дзікае паляванне караля Стаха”, асобныя эпізоды якога здымаліся ў Львове і каля Львова, у Алескім замку.

*Падрыхтоўка лістоў У. Караткевіча да друку і каментар Вячаслава РАГОЙШЫ.*

Уладзімір Караткевіч



...трох

на ўратавальным плыту...

# Калі змаўкаюць зязюлі...

## З запісных кніжак – 1984

### *8 чэрвеня. Пятніца*

Цэлы дзень рыхтаваўся, канчаў складацца, даводзіў да ладу будучыя лісты. Перад ад’ездам Лена схадзіла па крэветкі. Выехалі недзе ў 17 г. І толькі ў 18 вырваліся з горада. Жудасныя коркі ў раёне аўтазавода. Пахмуры дзень, здавалася, восень. Дарога мала пазнаецца. У пазамінулым годзе быў не ў тым стане, каб пазнаваць змены, якія адбываліся на працягу многіх год. Аб’язныя дарогі пакідаюць убаку і Пухавічы, і Бабруйск, але, як раней, шалёна цвітуць званочкі. І пейзаж («Achtung, Banditten», як я яго называў і называю) той самы. Вёска перад Рагачовам. Заможнасць. Арэлі. Прыехалі недзе ў (...) гадзін, і яшчэ было светла, бо за Бабруйскам развіднела, і нават сонца пачало праглядаць.

Радасць. Змены ў двары. Рала пад буслянку на таполі ўсё пустое (а як аглядалі месца буслы калісь), разросся каштан, што яго калісьці мы прывезлі з Сяргеем маленькім пабегам з Кісцянёў. Парнікі і вінаград.

*Надрукавана ў часопісе «Полымя», 1989 г., №№1–3.*

Выгрузіў карціны і іншае. Халодны вечар. Надвор'е, як і належыць на сёмуху: пахаладанне, і не ведаю, як у самое свята, а зараз дажджу хапае. Яно і лепей. Зямля тут усё яшчэ сухаватая. Размовы. Спаць леглі недзе ў гадзіну.

## *Сёння, 9-га, у суботу*

Сёння, 9-га, у суботу, жанчыны ўсселі на хлопцаў, хлопцы на машыны – і ў горад. І, ясна, чакалі іх і выехалі недзе толькі каля дванаццаці. На месцы саду – [...] завод. Я ехаў з Васілём і дзядзькам. Астатнія – у джыпе Сяргеевым. Сады. Пустыя і нікому не патрэбныя. Восенню каровы выбіраюць салодкія яблыкі, да астатніх нікому няма справы.

Змянілася ўсё – часам няма як пазнаць. Мадора. Стары Кірэйшын ехаў на кані – мы з дзядзькам яго не пазналі.

Змены ў Кісцянях. Парк зусім заглух. Ад мамінай альтанкі-яліны ўжо зусім нічога не засталося, але так велічна ўзносіць свае магутныя стаўбуры векавая з вялікім гакам тапаля.

Кісцянёўскі пан калісь купіў маёнтак Грынкевіча ў Тошчыцы. І адразу ягоны кісцянёўскі дом узяўся свячой.

А маці было тут добра кожнае лета. Цяпер ад саду толькі страшна здзічэлыя ад буянай гушчыні яблыні і ігрушы. Тое ж і на хутары Малчанава-Крыцкага. Было дваццаць год назад два дубы, цяпер – адзін, і той крыху сохне. І зарасло ўсё маладым, а сям-там і старым лесам. Дзікія зараслі і дзікае цвіценне ліловых смолак, у гушчары светлалістыя яблыні, а над смолкамі і рознакаляроўем мора шыпшыны, здзічэлых ружаў, а ў гэтым моры белымі астравамі хвошча ўгору і ўтрапёна цвіце язмін (ніхто яго не абломіць, бо не лезе праз калючы шыпшыннік), цвіце аж дрэвамі на два паверхі. І шыпшына цвіце. І Дняпра амаль не відаць за зарасцямі. Студня пад гарой, Вышчын-гара, урвішчы. Памятаю яе ўпершыню, з Дняпра, з чаўна. Пасля дажджу крывава-чырвоную. Дзіва.

Пасля зразалі дарогу лесам. У Старое Сяло «паказваць маладзіцу». Выявілася – ласянятка. Падабралі на полі ледзь жывую сірату Люську. Жыве з цёлачкай у пуньцы, ходзе па двары і лашчыцца да паляўнічых сабак. І больш свойскае, чым цялё, пальцы смокча, просіць малака. Выдзьмула тры чвэрці літра з соскі і хацела яшчэ. Худаватая, каровіна малако не ласінае. І якая бездань ласкавасці, бездапаможнасці і дабрыні. І адказ на яе ў чалавечым сэрцы. Дамоў, паўз могілкі, якія я памятаю колькі сябе, з такімі ж векавымі хвоямі.

Рыбы дасталі. Прыехалі – дождж пайшоў. І холадна так, што вырашылі прапаліць кацёл. Сёй-той у лазню хадзіў. Я – не. Сядзеў ля агню. Дождж і холадна, і абяцаюць назаўтра ўсяго дзесяць градусаў.

Не, ужо сягоння, дзесятага, у нядзелю. На сёмуху. Цікава, ці будзе заўтра абавязковы на сёмуху кароткі дождж.

Сонца і 15 градусаў у цяню з самай раніцы. Ноччу дождж быў. А раніцай выпала вялізная раса і такімі буйнымі кроплямі гарыць на вінаградзе, півонях, ружах, нават на апошнім лісціку лебяды, робячы з яго твор мастацтва. Неба – як сіні гладкі фарфор. Але хмаркі ўсё ж пакрысе збіваюцца. Кучавыя, невялікія.

Зноў ездзілі ў Старое Сяло. Люську толькі што кармілі, яна выпіла толькі палову 0,75-літровай бутэлькі і пайшла блукаць, нават фатаграфавацца не хацела. Бычуля па мянушцы Беня брыкаў і бегаў па дворыку. Я суцешыўся, што ласяня ўсё ж бывае сытае, а тое аж страшна, так мацаліся яе рэбрынкі.

Такая ўсё ж яшчэ свежая лістота, такія далячыні на Дняпры пад самім Рагачовам.

Фатаграфаваў панадворак, але, пэўна, сапсуў плёнку. Паглядзім, што будзе.

Сонца было. Паабедаўшы, праехалі па мосце цераз Дняпро – і дамоў. 27.057 –

27.267 [км]. Выехалі 15.50 – прыехалі 19.20. Ад дому да дому – 210 кіламетраў. Сёмуха. Народ на траўцы, на лавачках, на арэлях. Бабкі прытанцоўваюць.

А пасля надвор'е пачало псавацца, і дождж спачатку крапаў, а пасля Бабруйска паліў усур'ёз.

Зрабілася паныла. І за Рагачоў, і за памятныя з дзяцінства месцы, зараз зусім іншыя, і за дзядзькаву старасць, і за схіл сваіх дзён.

Прыехалі, расклаліся. І так вось скончылася яшчэ некалькі дзён гэтага лета, якое хутка скончыцца, а там зноў імжа, хлюпа, слата, халады.

19-га купіў плакетку «Леў» кіеўскага майстра Шумакова.

### *Прыпяць, ліпень 84 г.*

Трох на ўратавальным плыту.

### *Учора 12 ліпеня. Чацвер*

Выехалі ў 6 гадзін. Прыехалі ў К. у 16 г. (да гэтага рынак, хлеб). Спусцілі і надзьмулі плыт, нагрузіліся. Тлум. Памылка. Бакеншчык Валодзя, сімпатычны чарнявы... Юра Гарбутовіч стаяў пад мастом, кандыдат навук, выкладчык БПІ. Шпакі на вярбе. Лунь. Сава нада мною. Вогнішча. Поўня.

### *Сёння 13 ліпеня. Пятніца*

У без трох адзінаццаць былі на шостым км ад Пінска. Усё яшчэ маячыць. Берагі. Раніцай ідуць касцы, Канева.

Дзень сонечны, але са смугою.

Матрос Ждановіч.

Капітан Драчоў.

І адмірал Караткевіч, толку ад якога было, шчыра кажучы, пэўна, столькі, колькі ад адмірала Раждзественскага пад Цусімай.

Валодзя папярэдзіў, што ля берага нельга. Вострыя тапля́кі.

Ужо свая муха.

Пейзаж Пінска з вады. Свята, шмат народу на дзюнах. Порт. Краны. Рудавозы і баржы з дрывамі. Іх такое мноства, што вада здаецца чырванаватай.

Ноччу галасы барж, свецяць фарамі на наша вогнішча. Задуха, камары (а ўдзень сляпні). Сава вылецела да агню, цікаўнасць, ныраe ў паветры. Уначы над Пінскам нізкія здалёк гроны чырвоных ракет. Нехта сваволіць. Гэта дзень Пётры і Паўла. У дзень, калі змаўкаюць усе зязюлі.

### *Працяг 13 ліпеня*

Чайкі. Маторкі паварочваюць. Цікаўныя. Кіламетр прайшлі за 15 хвілін. Заточкі, пляжыкі, зарослы правы бераг.

Што бачыў Пеця ў прадонні пратокі. Стаўбуры, зарасці бадзягі (?), па іх мора рогазу і сітнягу.

Адміральскае бэрла. Лунь, нейкія сінія высокія суквецці. Як мала мы ведаем!

– Пясочак як манко (манка). На 8-м кіламетры на левым беразе ля прыгажэйшай купы дрэў чародка каноэ, аранжавая палатка і сцяг над ёю.

– Яшчэ байдаркі, – кажа Валя, – гэта сёння тут уся пінская шляхта паплыла.

Трыснёг у два чалавечыя росты.

– Як кукуруза.

– А гэта гледзячы ў якім саўгасе.

Варушыцца бясконцае мора трыснягоў. Трэнеры ў чаўнах ля берага, па-

кармілі моладзь і пусцілі іх наперад. Сабака руды спіць на носе аднаго чаўна. Нуль увагі.

– Здалёк плывяцё?

– З вашай сталіцы, – адк[азаў] Валька.

– А ў вас там, дзе напісана «ўваход», заходзіць можна? – белазубае пытанне.

10 км – у 13.00. На 11 км Пеця – бурлак па вадзе. І адразу сустрэча з «Маякоўскім». 15 гадоў споўнілася, поўненькіх. В. Церабень, вялікай прыгажосці, з такімі вялізнымі купамі лістоўных раскошных дрэў. Пунька бакеншчыка. На 13 км 13 чысла ледзь не прыц[ерлі] рудавозам, відаць, са спрэнтам.

Вёска Крывічы, 14 км, км 5 прайшлі.

Матрос зблытаў пачкі запалак, і яны з адміралам прыкурвалі ад аваднёў.

На востраве.

Крывічы, вёска бусляная і чарацяная. Дзядзька сказаў, што вада харошая і яе часта хларыруюць.

– Бо прыязджаюць будаўнічыя студэнцкія атрады і штоб оны не заболелі і добрэ косылы. Нет кіно, няма хлебнага магазіна, клуба. Танцы е... Зараз нікого нема. Усе людзі в болоті. І муж[ыкі] і бабы ўсе чыста ў балоце.

«Малака выпілі і Прыпяць па калена», – сказала каманда.

Буслы апанавалі стажок, 4 вакол, адзін на вяршыні. Сенажаць, пудзяць жаб, конікаў.

Лясны бераг з палаткамі. Мядзяна-бурштынавыя хвоі.

Цяжкае бэрла (а яшчэ тут кажуць каравяк) вышынёю сантыметраў 180. Залаты, у тры ярусы. Нібы і не беларускі, а аднекуль з краін дзівосаў.

Паром на 18,7 км. Будка. І карова-манумент з кургана глядзіць на яго.

Курадава ў вялікіх кронах дрэў. У намёт коннік з узятым з табуна канём.

Коні пад Курадавай. Вербы на пясчаным узгорку.

На гэтыя вербы вечарам села такая чарада маладых шпакоў, якой мне дагэтуль не даводзілася бачыць. Спачатку яны доўга і ўпарта ганялі над берагам, дзе мы спыніліся (луг, балотцы, зарасці вярбоўніку), вялізнага коршака. Міла было, з якім гвалтам, як упарта і ў канцы з якім трыумфам.

Пасля пацягнуліся на начлег, а за імі зляталіся новыя, новыя, новыя. Валя папрасіў мяне, і я пайшоў пад высозныя вербы (не дужа, па вядомай прычыне, блізка і гукнуў). Неба пацямнела і пачарнела. Ён фатаграфаваў, але святла мала было – можа і не атрымаецца.

Сонца сядала ў хмары. Камароў было – !!! Выкурвалі іх з пантона, а пасля заснулі. Было не так задушна – прызнак не з лепшых.

## *14 ліпеня. Субота*

Прыкметы збыліся. Калі я выйшаў з пантона на золку – сонца ўзыходзіла, перакрэсленае хмаркамі. Пеці не было – на рыбе. Зноў прыгрэўся і заснуў. Прачнуўся ад барабаннага пошчаку дажджу па верху пантона. І тут пачалося. Зваліўся адзін са стаякоў, прыйшлося паддзімаць. Пасля – на практыцы – пачалася барацьба з вадой. Высеклі стаякі пад уваходы. Пасля праз адзін шланг пачала ліцца вада.

Пасля зграбалі яе міскамі з правіслага верху палаткі. Ледзь не патанулі на сушы.

І вось, «во субботу, день ненастный». Лье і малоціць па тканіне. Шэрая рака, туманныя далечы.

Сядзім.

Раптам распагодзілася.

Адплылі ў 13.15. Надвор'е ўсё ж няўстойлівае, берагоўкі лётаюць нізка. Дзень – як не ведае, ці ўсміхнуцца, ці заплакаць. Але за сёння трэба – хоць душа вон – прайсці шлюз і як мага наблізіцца да наступнага.

22 км прайшлі ў 13.27.

Валы, што кідаюцца на берагі. Дрэвы стырчаць з вады вострымі мордамі, як кракадзілы.

Не абазначаны ў лоцыі паром перад самым шлюзам. Абсаджаны дрэвамі шлюзавы канал.

Шлюз. – Рабочы нап'ецца, ну дык нап'ецца, а начальнік нап'ецца, то, як свіння, колькі ні падсцілай – усюды гразко.

Гэта Валянцін пайшоў на шлюз гаварыць наконт праходу, то швартоўшчык, шлюзаўшчык лаяўся страшнымі словамі: убачыў плыве бохана хлеба. Кінулі з рудавоза.

– Ужо хліба наилыся.

Гэта гідравузел № 11, пабудаваны ў 1953 годзе.

Прыйшлі мы недзе ў 2 г., Валянцін дамовіўся за 15 хвілін.

Вада пайшла ўніз.

– 700-800 назваў праходзіць праз шлюз.

Шлюзаваліся роўна 17 хвілін. Зараз 3.03 (15 г. 03 хв.).

За шлюзам статак. Там сабака – першы сабака, які нас аблаяў.

Тут доўгі пляж, і на ім выгульвае пантон, як сабачку, Пеця. Выгляд шлюза здалёк прыгожы. Дзюны з руінамі «старажытнай крэпасці» з пяску. Гэта насыпалі, калі рыхтавалі выемку пад плаціну.

Вусце Ясельды. Уліваецца ў Прыпяць крыштальна-чыстая вада, піць можна.

А яшчэ ніжэй па правым, паўдзённым беразе Прыпяці рака зрабіла «наглядны дапаможнік па аграноміі» (такі звычайна робяць штучна), «што такое глеба». Над ярам спелае жоўтае жыта, ніжэй пласт чорнай глебы, яшчэ ніжэй жоўценькі, аж белы, пясочак, яшчэ ніжэй – вада.

Прайшлі 26 км у 17.02.

Зрабілі толькі 5 км. Гэтаму дапамаглі дождж і шлюз.

Перакаты і перакаты. Ля слупа 27 км. У трыснягу палескі стажок на беразе. Мне здалёк здалося – хата. І купа трыснягу на беразе, як бамбук, а далей на правабярэжжы дзіўны горб урвішча.

Перакус на водмелі цыбуляй, памідорамі і хлебам.

Прыгожы бераг. У урвішчы рака выламала пячоры, гроты, аркі.

Нас даганяе хмара, і сонца пускае стрэлы прамянёў: абяцае дождж.

30 км – у 18.26.

Сёння субота, свята ў Пінску. Рыбак пінскі, што спяшаў у горад на свята, а адпачываў у Курадаве, казаў гэта. Усе спяшаюць туды, а то пінчукі гойсаюць па рацэ на маторках, як шалёныя. Ды й далёка мы ад'ехалі ад Пінска, сюды ўжо заязджаюць не так. Толькі куды падзеліся параходы і рудавозы? Загулялі з повадu суботы?

31-ы км – зноў паром (занядбаны і высокі, відаць да высокай вады) і бакенны пост пад высокімі таполямі. Бакенны пост Асобавічы.

33 км – у 19.21.

Недзе пасля 35 км – начлег. Перад гэтым гісторыя з ракетай. І здалёк бачылі, як рудавоз завярнуў баржу ледзь не ля самага берага. Трапілі б між ёю і ім – расціснула б, як арэх у клешчах.

Узгорак. На ім вербы, спавітыя ажыннікам, хмызы парэчкі. За намі азерца, дзе кумкаюць жабы, і хмызы густыя, што аж гудуць ад камарынага звону.

Не ведаю, што гэта за камары, бледныя, не кусаюцца, даўжэйшыя за ляцiцу.

Кепска з жыватом, асабліва калі паясі.

Звычайная праца. Вогнішча, праўда, удалае, і дужа многа дроваў, агню і дыму.

«Камароў» на дровах – мірыяды. Шалёна ходзіць з гэтай прычыны рыба, бо й над вадой яны.

Начны сход. Ці, як гэта сказаць, «злёг» у спальніках у палатцы.

Адмірал, спасылаючыся на свой стан, просіць каманду аб крайняй разважлівасці, спайцы і дысцыпліне. Прапановы.

### *15 ліпеня. Нядзеля*

Пад раніцу туман і холад. Бледны месяц. Праспаў, бо пад раніцу душна. Пеця наторгаў рыбы. Душна.

Каровы і Пеця-бурлак у каровіну чараду, выганяе з вады.

– Дарогу, начальства едзе!

Паром. Ідзе рудавозам мікашэвіцкі граніт.

Дояць у вадзе.

Пастух конны. Выгляд. 120 кароў і дзве сабакі, Шарык і Жучок (Жучышча!). Вялізны, калматы, з белым канцом хваста. – Але грызе суседскіх пастухоў. Абганяюць. – Без іх на звалку. – Настаўнік. (Загайдала на хвалі, такі і почырк!)

Там іх некалькі чарод, кароў.

Адплылі мы ў 12.15.

37 км. Прайшлі ў 12.50.

Учора і сёння на рацэ амаль пустынна. Але заўтра пачнецца. Ды й сёння давяраць рацэ нельга – праўдзівей, людской тэхніцы на рацэ.

Парыць. «Ярыла!»

В.: – А навальнічка збіраецца.

П.: – Раз просіш – значыць, будзе.

Беражкі. Хлопцы ідуць туды «маімі вачамі», так няважна мне яшчэ. Я на варце. Хлопцы швартуюць, бяруць біклагу для вады. І – гайда!

Вярнуліся скора. У Беражках пуста, усе «ў балоце». А прыезджыя сонныя і, як укушаныя, злыя. Будынкаў шмат новых, нават здалёк відаць. Але наглядная агітацыя чамусьці на старых хатах пад замшэлым сітнягом і з плятнямі. Не заўсёды яна на месцы, наглядная агітацыя.

39 км – Беражкі. Адышлі ў 15.03.

40 км а палове чацвёртай.

Часам вербы сядзяць на берагах такія акуратна круглыя і такімі правільнымі шэрагамі, што нагадваюць сады.

Рака стала аднастайная. Здымаць няма чаго.

42 км – у 16.08.

Перад шлюзам кіламетраў на 7 нават лоцыя нічога не азначае.

Плёса – і толькі на вёслах.

Плёса і першы людскі дуб на Прыпяці, з борцю. 42 км. Знізу выгараў, грамабойны дуб.

Плаціна адпірае, і 7 км нібы ў затоне.

43 км – у 16.26.

Лаза настолькі абвітая павоем, што здаецца белай і ружовай. У адным месцы на малым узвышшы нейкія дробныя градкі, сухі мох, нават крушына. Наводдаль рэдкія вялікія дрэвы. Мабыць, безліч дзікоў.

Купальшчыкі-дзеці:

– Палатка плыве!

– Ётка, ётка едзе!

Вялізная, вялізная затока (ці мо прытока, што агінае востраў).

Высотны сітняг, жоўтыя гарлачыкі і белыя лілеі.

Слуп, 44 км. 5 г. 04 хв.

Трыснёг злева нізкі, тут яго касілі, бралі на стрэхі.

Павольна-павольна ўздоўж сцяны трыснягоў. Павольна-павольна, як плаваў тут і першародны славянін.

Здымалі сцяну сітнягоў. Плыт павольна плыве паўз яе, а В., звесіўшы ногі, водзіць сваім «Асахі».

А хораша здымаць з гэтай штукі. Праўда, на хвалі або пры ветры для такіх здымкаў чорта ўтрымаў бы.

Між 46 і 47 км. У гушчары стагі. Чамусьці заўсёды па 7. Чаўны, а [ў] іх баба і мужык, гэтыя і дзіця.

І бакенны пункт пад вялікімі дрэвамі. Вялізная гаспадарка, нейкія там акрамя хаты павільёны, часовыя будыніны, пяць стагоў, мноства чаўноў рознага калібру, нібыта бакеншчыкі на фэст з'ехаліся.

48 км, а шлюз, па-мойму, ужо відаць. Ідзем волакам. Вялізная купа вялізных дрэў. Сакавіта-зялёныя дрэвы. Дакладна шлюз – такая ж шпакоўня, як і на першым.

Перад шлюзам памяняліся месцамі. Я з Пецем.

П.: – Ты не скінуў мае штаны ў ваду?

В.: – Скінуў. Даўно ўжо.

П.: – Дасі новыя. Панасіць.

«Ракета» ў шлюзе ў 19.10.

А першы ў шэрагу дрэў старажытны каравы дуб. Застаўся пры працах. Злітаваліся. Дрот. Палын. Таполі з адбіткамі ў вячэрняй вадзе, як на карцінах Пісаро. Выпусцілі «Ракету» – 50 лет Октября. Гидроузел (ГУ-12) Стахово. Народ глядзіць. Ён вузейшы. І «Ракета», яшчэ не выйшаўшы, на крылы кідае хваляй.

Зайшлі ў шлюз. А майстар пайшоў, і нас не спяшаюцца выпускаць. Ніводнага чалавека.

Як прапускалі. Чаму пасярэдзіне шлюза (як Гулівер у басейне) – тырчаць крукі. Зачэпіш, і, пакуль адчэпішся – кранты.

Адкрываецца брама шлюза. Як брама ў новы свет.

Прайшлі 2 шлюз у 20.05.

Праскочылі шмат (гал[оўнае], прайшлі шлюз), улічваючы, што выехалі позна, што вецер амаль не дапамагаў, што ўвесь час на руках.

Пеця выбраў начлег «з прычыны прыгожага выгляду на дуб». Дроў няма, бераг травяністы, і В. не можа мыцца. Шчасце – камароў няма. Затока вельмі рыбная, б'е і б'е рыба – аж срэбныя цэпы плотак лятуць у паветра. Затока з лілеямі, якія закрываюцца на ноч, вялікія-вялікія, як на кепскіх рэкламах.

І П., і я ўпершыню бачылі вечарам у паветры гульні маладых чапляў, іх плаванне ў вячэрнім залатым паветры.

Вечарам мне кепска... ледзь магу хадзіць.

Ноччу, гадзіны ў тры, перуны і маланкі, пасля дождж.

Як закаркоўваліся. Увaходы. Задуха вялікая, кепска. Дождж на хвіліну перастаў, зноў ладзяць сетку марлевую.

Дыхаць лягчэй.

### *16 ліпеня. Панядзелак*

Пяты дзень. Плавання пакуль няма.

Ужо 11.53, а мы ўсё яшчэ стырчым у затоцы, праўда, згрудзіўшыся і закаркаваўшыся. Ужо на вадзе.

«И в воде он будет плавать,
Словно желтый лист осенний,
Словно желтая кувшинка».

І снедалі ж наспех: кавалак хлеба з паштэтам ды кубак чаю з тэрмаса, а вось зараз сядзім і нават гарбаты няма як згатаваць. Закаркаваліся пакуль поліэтыленавым тэнтам, светла, а нічога не відаць.

Як прывязалі якар, як занава распрацавалі сістэму закаркавання, як зрабілі новы канец з рагулькай.

Паглядзеў, што нават нягледзячы на хваробу, які я няўдаліца. Многае ўмею, але каб так віравала работа ў руках і так хутка. Я б тую рагульку рабіў палову гадзіны, В. – за пяць хвілін, і за 5 жа хвілін П. прымацаваў да яе капронавы шнур (канцы абпаліць). Што значыць вялікая практыка падарожжаў, фатаграфавання, рыбалоўства, свае машыны, палаткі, аквалангі.

Нічога гэтага ў мяне не было. Падарожжаў было шмат, але пешшу, на кані, у чаўне. З начлегам у бакеншчыка, палясоўшчыка, у паляўнічай хатцы, проста ля вогнішча ля паддзі, у шалашы. Першабытна. А вось так, як яны, – не сумеў бы. І позна вучыцца.

Мы яшчэ не ў самым горшым становішчы.

Уявіць сабе людзей у акіяне. Набілася 9, а то і 10 чалавек, зашнураваліся, дыхаць няма чым, невялікі НЗ, дажджавая вада і аэрон ад качкі...

Вырашылі ўсё ж кранацца. Вецер змяніўся, і няма чаго, як лебедзю, цэлы дзень паласкаць азадак у вадзе. Прыўзнялі пластыкі, дзень шэры.

У 13.00 адчалілі. Выходзім з гавані лілей. Упершыню начавалі ў гавані.

Заліў Пятра Вялікага, г. зн. Драчова. Ідзем добра. Кожны дзень па-свойму добры, нават учарашні. Хаця напрацаваліся, але прайшлі шмат і, галоўнае, шлюз, а да гэтага, пры выхадзе са шлюза, ракета яшчэ не паспела набіць хвалі, бо толькі ўзяла разбег.

Гора-маракі.

– Валянцін, што там на беразе, качкі ці карчы?

– Па-мойму, качкі.

– Ды не, карчы.

– Качкі.

– Карчы.

– Точна, карчы. Ясна, што тут пад вадою вялізны корч ляжыць.

– Забірай між ім і берагам.

52 км – 13.40.

На вяршыні гіганта-дрэва – гіганцкае гняздо дзікіх – яны больш асцярожныя за хатніх – буслоў. Проста велічнае дрэва, а гняздо не пляскатае, а як папаха.

Бобрык, вада ледзяная – 13.52.

За Бобрыкам прычалілі на пляж: ішоў рудавоз, а перад вокнамі кубрыка – настурцыі і фасоля. Спіхвалі і не можам. І толькі тады заўважылі, што плыт заякараны – век жывí, век вучыся...

Перад Валянскім масток. Прыпяць бы ў цясніне з высокіх берагоў, а на іх дубы. Дуб упаў у ваду верхавінай. Даўно ўжо мёртвы, на зямлі, што засталася між каранёў (ці, можа, яе нанесла), цвітуць высокія жоўтыя і ліловыя краскі. Прыклад табе, чалавеча.

Зноў дрэвы з дзікімі буслямі, на самым беразе, і знак.

54 км – 14.32.

І адразу Валянскі мост, людзі на фермах маставых. Фарбуюць. Крычыць нехта з маста, ці многа рыбы налавілі (адно на вуме).

І адразу праз мост пасажырскі цягнік, 17 вагонаў.

56 км – 15.03 нейкая турбаза, пустая.

57 км – 15.18.

Зараз 15.57. Хлопцы пайшлі, і чакаць іх трэба пры ўдачы праз паўтары, а палове шостай, пры няўдачы і праз дзве гадзіны. Ды і ўвогуле, ці не давядзецца заначаваць тут. Спадзеючыся на горшае. Справа ў тым, што кепска глядзелі ў лоцыю. Зараз мы ля вёскі Кароб'е (2 км), у якой ёсць магазін (і тое невядома, ці магазіншчыца не на сенажаці), а далей, да самага Турава, прыстані ёсць і паромы

ёсць, а вёсак на беразе няма, усе дужа далёка. Да бліжэйшай прыстані Нырча, дзе (зноў жа па лоцыі, а яна састарэла) ёсць тэлефон – 54 км. А да Турава – 110 км. Вёскі ёсць, але дужа далёка. Між тым трох боханаў хлеба нам на іх не хопіць, цукру таксама. І тут мы дылетанты. Ды й цыбулі і, можа, малака варта было б купіць. Мяса і іншага – гэта ёсць. А наконт хлеба мы дылетанты. Заставацца камусьці трэба. Мне ісці цяжэй за ўсіх. Добра, пасядзім. Аднаму таксама добра пабыць, падумаць, можа, перазарадзіць фотаапараты, перапакаваць рукзак і г.д. На беразе ля бакеннага паста дзве кінутыя хаты. Жанчына вязе ў безматорным чаўне з таго берага траву. Ёсць халодны чай у тэрмасе. Пасяджу, паляжу, можа, нават засну.

Здзіўляе багацце краю і неўладкаванасць жыцця ракі. А мо гэта мы разбэшчаныя птушыным малаком горада. Хаця не такое ўжо яно і птушынае. Парашковае, дурное. Хто б кінуў гэты край, каб на змену знішчанага старога побыту (свой хлеб, кумпякі і г. д.) прыйшоў новы. Так, шлюзы, так, «Ракеты», так, каналы (невядома яшчэ, ці карысныя), прыйшоў новы, зручны, не знішчыўшы ані вунцыі гэтай старажытнай прыгажосці людзей, мовы, краявідаў, гэтай вялікай ракі? Я, напрыклад, ніколі, хаця і нарадзіўся далёка адсюль і паколькі дылетант – не мой і няма ў мяне тут роднай душы. Родны мне тут увесь ласкавы народ.

Вярнуліся хлопцы ў 18. Мясцовыя казалі – 2 км. Добрых 4. Станцыя, на якой магазін, завецца Прыпяць. Дарога Лунінец – Сарны. А ўжо адтуль на Адэсу, на Сімферопаль (ходзіць цягнік Рыга – Сімферопаль), на Харкаў. Трапілі ў точку. Днём працуе з 4.30 да 6. Яна злітавалася і дала ім два бoханы хлеба. У магазіне пуста. Прынеслі баклажаннай ікры і вафляў, крыху цыбулі. «Не растэ ў гэтых карчах».

Крыху перакусілі і ідзем далей. Праз гадзіну – «Ракета». Зноў давядзецца чакаць. І цяпер сапраўды «Прощай, любимый город». Ідзем на 100 км без пасяленняў.

І толькі адышлі, у 18.20 ракета «Якуб Колас».

59 км – 18.45 хв.

Адразу за волатам-земснарадам і дэбаркадэрам, на якім вяліцца рыба.

60 км роўна ў 19!!!

61 [км] у 19.19.

Праз такія абставіны спыніцца вырашылі раней, на пясчаным пляжы. Нікому не раю. І есці, і наносіцца пясок у плыт.

Расклаліся. Пеця рабіў новую рамку з дроту, В. вячэру, я ледзь не ракам збіраў дробныя трэскі, выкінутыя вадой (з дровамі кепска), пасля В. прывалок аднекуль, з-пад кінутага буданчыка, лазовых калоў. Вогнішча.

Размова аб атамнай вайне. Што каб упарадкаванне такіх мясцін на зямлі. Апошніх запаведных.

Бакен не гарыць. (Бакеншчыкі праводзяць кампанію барацьбы за эканоміку.) Рудавоз нас асвяціў ля агню, мы памахалі рукамі, ён раўнуў у адказ. Скібка ўзыходзячага месяца.

Ноч. Пад раніцу мне няважна, вылез, бледная пляма поўні праз хмары. І дождж. Наставіліся. Толькі напалохаў.

### *17 ліпеня. Аўторак*

Шосты дзень плавання, такі самы бяздарны, як і ўчарашні (пакуль што); багаты думкамі, але бедны падзеямі, як і ўчарашні. А я гэтага не люблю.

Усталі рана, але клопаты занялі больш часу. Дзень ветраны (ці гэта мы сталі на ветранай касе), то сонца, то хмары. Словам, лухта.

Учора скончылі на 62 км (прайшлі, значыцца, за дзень 12). Не ведаю, колькі ўдасца сёння.

63 – мінулі ў 12.10.

64 км. Сфінкс з пяску. Матрос імгненна выхапіў камеру, але пранесла хуткай плынню. Вось нязручнасць плыта.

Верш.

– Зноў берагі, завітыя павоем.

66 [км] – 13.11.

Верш «Сфінкс»:

Што сфінкс? Што ўсе яго загадкі?
Палессе нельга разгадаць.
Глядзіць пясчанымі вачыма
Палессю ў твар.

67 [км] – 13.25.

Спаў.

Егіпецкі фараон. Аблокі плывуць хутчэй за берагі, якія праплываюць паўз човен. Здаецца, што плывеш назад. Рэкорд адлегласці хочуць паставіць. Ідзе ходка, плынь хуткая і «па вадзе», як кажуць, ісці добра, вецер у спіну. І спыняцца няма чаго.

Памыліся, пляскатыя берагі, і нічога на іх (гэта перад 80-м км).

На моры не травіў, а на Прыпяці травіў. Спіш, а човен ходзіць, і ўражанне, як у юнацтве, калі напіўся.

А я зараз ад аднаго выгляду бутлі хачу травіць.

Берагі, счасаныя баржамі ў вузкім фарватэры. Нібы рыдлёўкай зрэзалі, ды й прыпляскалі.

Спыніліся перачакаць «Ракету» недзе ў 18 г. Бо далей вузкі фарватэр, абодва бакі, берагі ракі хмызаватыя (адвесна ў ваду), і ну яго, далей ад граху.

Без дваццаці сем прайшла ракета «Янка Купала».

Адзін мужык, якога мы сустрэлі ўдзень дарогаю, спытаў:

– Гэта што ў вас, плаўбаза?

80 км – у 19.19.

А за дзень мінулі 18 км.

Перад 8 км – зноў бурлачыць. Але вельмі плытка.

Нізкі бераг, і на ім рыжы, маладзенькі, гладзенькі косю.

Дзікі начлег, камары, дымар з альховых габлюшак. Дымар самаробны, з дзвюх банак. Урэшце В. ідзе начаваць вонкі на матрас і ў спальніку, і толькі світанкавы дожджык праганяе яго назад.

### *18 ліпеня. Серада. Сёмы дзень*

Думалі дняваць, але вырашылі змяняць проста месца начлегу. Там – адрэзаныя ад людзей старыкамі з усіх бакоў.

Адплылі ў 16.00.

83 км мінулі ў 16.30.

*На гэтым рукапіс абрываецца. Уладзіміра Караткевіча не стала 25 ліпеня...*

Адам Глобус



…Жыві хоць лішніх сто гадоў –
красу праславіць немагчыма.
Патрэбна сотня мастакоў,
ды ўсе каб з яснымі вачыма…

# Валодзя

***Словы пра жывапісца Уладзіміра Ісачанку***

### Запрашэнні

Схадзіў на выставу карцін Валодзі Ісачанкі, якую зладзіла ў Міністэрстве замежных спраў спадарыня Купчына. Выстава атрымалася па-дзяржаўнаму ўрачыстая, хоць на ёй збольшага паказваліся лірычныя заснежаныя краявіды ды камерныя нацюрморты з каштанамі ды яблыкамі. Слухаючы цёплыя словы пра мастака і настаўніка Ісачанку, я пашкадаваў, што ў свой час не схадзіў на выставу Алега Карповіча, якую рабіла тое ж міністэрства. Карповіч запрашаў мяне, настойліва запрашаў, а я не пайшоў, вырашыў: абавязкова схаджу на яго наступную выставу. Ну, а наступнай няма і няма, і калі будзе – невядома.

### Сур’ёзнасць

Валодзя Ісачанка быў адным з самых сур’ёзных студэнтаў у нашым вучылішчы, а пазней і ў інстытуце. Усё, што ён рабіў,

атрымлівалася ў яго грунтоўна і важка. Каб не выглядаць залішне правільным і выдатным, Ісачанка прытрымліваўся сваёй формулы: усё трэба рабіць гарэзліва і гулліва, нібыта яно лёгка даецца. Валодзя моцна стараўся выглядаць вясёлым і нязмушаным, але за знешняй гуллівасцю хаваўся настаўнік з непарушнымі перакананнямі. Ісачанка заўсёды ведаў адказ на пытанне, дзе заканчваецца дабро і дзе пачынаецца зло. Для яго гэта было відавочна: ён бачыў дабро і зло так, як мы бачым святло і цень. Таму пасля інстытута Валодзя пайшоў у мастацкую школу, каб вучыць школьнікаў акадэмічнаму маляванню і жывапісу празрыстай, але строгай акварэллю.

### Мянушкі

Валодзя Ісачанка па нашым мастацкім вучылішчы, а пазней і па тэатральна-мастацкім інстытуце хадзіў з мянушкай Ісак. Гэтак жа, як Агафоненка хадзіў Агафонам, Сцепаненка – Сцёпам, а я – Адамчык – хадзіў Адамам. У Чэха і Лася мянушак не было, іх так і клікалі – Чэх і Лось. Не прыклеіліся мянушкі ў нашым вучылішчы толькі да Кулікоўскага і Сіўчыкава, іх усе называлі доўгімі прозвішчамі. Так здараецца, што адзін атрымлівае ёмкае мяно і носіць яго з гонарам, а другі застаецца з пашпартным прозвішчам. Ісачанка з гонарам насіў мянушку Ісак. Ён і выглядаў адпаведна гэткай важкай мянушцы. Ты глядзіш на Ісака і разумееш, што ён зараз можа сказаць нешта важнае і патрэбнае. Можа, і скажа.

### Васьмітвары партрэт

Неяк Ісак папрасіў усіх хлопцаў з нашай групы яму папазіраваць. Ён узяў вялізны – два на тры метры – планшэт, прымацаваў да яго палосы тонкай абгортачнай паперы і пачаў маляваць цюбікамі з брунатнай і зялёнай фарбамі. Першым у яго вымаляваўся Чэх з вялізным носам і маленечкімі акуратнымі вуснамі. Другім – Сцёпа з татара-кітайскім тварам. Трэцім Ісак намаляваў Лася з доўгавалосай галавой на доўгай шыі. Чацвёртым на паперы з’явіўся Кулікоўскі – гладкашчокі, з вачыма цыркавога мядзведзя. Кучаравага і чубатага Сіўчыкава Ісак намаляваў пятым. Шостым ён хутка выдаў Агафона ў цяжкіх акулярах пад квадратным лобам. Сёмым стаў пакрыты шчэццю ад цемені да кадыка твар Жоры Шчаснага. Апошнім Ісак маляваў мяне, скардзіўся, што не можа схапіць падабенства. А потым павялічыў ніжнюю сківіцу – і падабенства знайшлося.

Некалькі тыдняў васьмітвары партрэт прастаяў у майстэрні. Ён радаваў нас, пакуль некаму са старэйшых студэнтаў-дыпломнікаў не спатрэбіўся вялікі планшэнт. Партрэт скруцілі ў трубку, якая яшчэ пару тыдняў прастаяла ў кутку, а потым знікла.

### Нябесны пыл

Ісак напісаў больш за сотню палотнаў з каштанамі. Адно такое ён падараваў мне: «Добра было б, каб у тваім офісе віселі і мае каштаны». Іх я, вядома, узяў і павесіў на сцяну ў выдавецтве. Няхай вісяць, няхай вока радуюць... Ну хто з нас не любіць глянцавітыя, шакаладныя, бліскучыя каштанчыкі? Пагатоў, у Ісака яны атрымліваюцца вялізныя, важкія, жывыя. Такі возьмеш у руку і адчуеш – рэч.

Доўгі час я думаў, што палотны з каштанамі – вяршыня нацюрмортнай творчасці Ісака, і радаваўся, што маю адзін з найлепшых яго нацюрмортаў. Памыляўся... Аднаго разу я сустрэў на праспекце барда Алеся Камоцкага, які кіраваўся ў Чырвоны касцёл дамаўляцца пра канцэрт. Сам я збіраўся неяк зайсці туды ж на выставу Ісака, але мой паход усё адкладаўся, а тут спадарожнік знайшоўся. Так я

з Камоцкім і трапіў на выставу Ісака. Расказаў я барду пра жывапісца, паказаў яго абразы і краявіды, а потым спыніўся каля «Кошыка з бульбай». Бульба тая была прысыпана блакітна-срэбным нябесным пылам. Яна, як на мой густ, была значна лепшая за каштаны. У ёй свяцілася пераканаўчая натуральнасць.

## Таленты

У Ісака некалькі талентаў. Ён выдатны малявальшчык. Яго акадэмічнымі малюнкамі ў свой час захаплялася ўсё мастацкае вучылішча. Кантрасныя, экспрэсіўныя, манерныя, яны запаміналіся, яны натхнялі на працу, яны спараджалі павагу да аўтара, а ў некаторых людзей нават выклікалі чорную зайздрасць. Ісак – цікавы жывапісец з адметным сталёвым і бліскавічным каларытам. Ён добры настаўнік. З трох асноўных талентаў Ісака я найбольш цаню яго здольнасць да настаўніцтва. Ён верыць, што дзіця можна навучыць маляваць, пісаць жывапіс і кампанаваць. Ён пераканаўчы ў сваёй веры. Ён думае, што школа акадэмічнага мастацтва – самая патрэбная з усіх мастацкіх школ.

Ён шмат гадоў прапрацаваў у мінскай мастацкай школе нумар адзін. Там яго любілі. Да Ісака можна было прыйсці і папрасіць за дзіця. У мастацкім жыцці вельмі важна, каб нехта са старэйшых мастакоў прыйшоў да выкладчыкаў і папрасіў за цябе. За мяне прасілі розныя мастакі: Альгерд Малішэўскі, Міхаіл Савіцкі, Сяргей Каткоў... Таму і я ніколі не адмаўляў знаёмым у гэткай далікатнай справе. Ішоў і прасіў уважліва паглядзець на якога хлопчыка ці дзяўчынку. Прасіць Ісака мне нават падабалася, бо ён заўсёды шчыра стараўся дапамагчы. Ён дапамагаў дзецям, іх бацькам, сябрам, бо верыў, што так дапамагае вялікаму акадэмічнаму мастацтву. Ісак не толькі стараўся дапамагчы, ён шмат каму дапамог паступіць, навучыцца і стаць мастаком.

## Выставы

Што-што, а выставы Ісак умее рабіць. Ён можа знайсці для выставы цікавае месца. Ён здатны зрабіць адметную падборку твораў. Ён старанна запрашае гледачоў на адкрыццё і нават на закрыццё ўласных экспазіцый. Добра глядзеліся яго палотны і ў Чырвоным касцёле, і ў Міністэрстве замежных спраў, і ў Палацы мастацтваў. Ісак ведае як не толькі напісаць выразнае палатно, але яшчэ і як і дзе яго паказаць гледачу. Выдатная якасць для сучаснага жывапісца!

Уменне рабіць запамінальныя выставы ў Ісака праявілася яшчэ ў вучылішчы, калі ён прывёз з Мазыра шмат пурпурова-сіне-ізумрудных эцюдаў. Ісак развесіў іх у калідоры, а мы – першакурснікі – з захапленнем разглядалі краявіды з турэмнымі сценамі і шчыльным вечаровым небам.

Другая выстава Ісака ў вучылішчы была складзена з маленькіх малюначкаў, зробленых шарыкавай ручкай на паперы. Ён рабіў іх у войску, калі служыў танкістам у мястэчку Станькава. На тых малюнках паўстала жыццё простага салдата, убачанае вокам назіральнага і таленавітага чалавека. Для мяне тыя дзве выставы ў мастацкім вучылішчы – з найдаражэйшых. Добра, што малюнкі, зробленыя танкістам ў Станькава, Ісак захаваў. Ён сам сказаў мне пра гэта.

## Шпіталь

Ты думаеш, што ў цябе шмат сяброў? Памыляешся. Правяраецца сапраўднае сяброўства лёгка, калі ты трапляеш у шпіталь. Атрымліваецца, праўдзівых таварышаў можна пералічыць па пальцах, бо яны з тых, хто знаходзіць час, каб адведаць цябе ў цяжкую хвіліну.

Танкіста Ісака прывезлі са Станькава ў Мінск і замкнулі ў вайсковым шпіталі, што мясціўся недалёка ад Камароўкі. Туды мы са Сцёпам і хадзілі да хворага Ісака. Мы занеслі яму нейкія недарагія пачастункі, паперу для малявання, алоўкі. У бальнічнай вопратцы Ісак быў падобны да чэхаўскага героя, якому ты вымушаны паспачуваць. Не ведаю, як Сцёпа, а я спачуваў Ісаку шчыра. Мне было крыўдна, што яго не ўзялі ў інстытут, што яму давялося ісці ў савецкае войска, што яно забрала гады з маладосці, а яшчэ і здароўе папсавала. Ісак – аптыміст, ён не любіць маркоты, ён і тады жартаваў, расказваў пра планы на будучыню. Але тая даўняя сустрэча ў вайсковым шпіталі мне дагэтуль помніцца як найгоршая з нашых сустрэч.

## Дуэль

Ісак – чалавек моцных захапленняў. Ён захапляецца жывапісам, малюнкам, іх выкладаннем, а яшчэ, як самы звычайны мужчына, ён зрэдчас трапляе ў палонку кахання і тоне ў ім. Таму і ажаніўся Ісак у маладым веку, што не перашкодзіла яго заўсёднай апантанасці мастацтвам. Нават самае моцнае каханне, ад якога траціш розум і робіш розную дурноту, не псавала Ісака.

Аднойчы ён закахаўся ў жанчыну, якую раней кахаў я.

У нас з ёю былі цалкам платанічныя адносіны. Яна мне здрадзіла з брутальным веласіпедыстам. Зрэшты, той учынак, які я спярша палічыў за здраду, меў у маёй былой каханай і веласіпедыста натуральны працяг з вяселлем і нараджэннем дзіцяці. Я пaперажываў і пагараваў, але нядоўга, бо ў маладосці закаханасці здараюцца досыць часта і новая закрывае старую.

Здавалася, што ў мяне, у яе і ў веласіпедыста ўжо ўсё наладзілася і ўсталявалася, але тут у яе жыццё прыйшоў Ісак. Добра, што ў нашы часы дуэлі на пісталетах выйшлі з моды, бо хто-хто, а Ісак мог бы на адной з іх і загінуць. Мне нават бачыцца сцэна ў лесе, у якой белабароды Ісак гіне ад кулі, пушчанай пакрыўджаным веласіпедыстам... Глупства? Можа, і так... Але мы з Ісакам былі моцна закаханы ў адну жанчыну, і добра, што гэта здарылася ў розны час.

## Асяродак

Адкажы, з кім і ў каго ты вучыўся, – і я скажу, які ты мастак. Жарты жартамі, а мне, калі гутарка заходзіць пра мастакоўскую школу, згадваюцца Леанарда і Бацічэлі, якія напісалі кожны па анёлу на карціне «Хрышчэнне Хрыста» свайго настаўніка Андрэа дэль Верок’я. Бацічэлі і Леанарда панапісвалі і шмат іншых вобразаў, але ў тых анёлах яны ўжо былі вялікімі майстрамі Адраджэння. Ну не веру я ў паступальны прагрэс мастацтва! Таму і першыя малюнкі Бацічэлі для мяне такія ж каштоўныя, як і яго апошнія. Таму і сучасных мастакоў я бачу не асобна, а ў іх асяродку, з іх настаўнікамі, паплечнікамі ды вучнямі.

Калі гаворка зайшла пра Ісака, дык я мала ведаю яго вучняў, пра што шкадую, але я выдатна ведаю яго настаўнікаў і сяброў-мастакоў... Ісак вучыўся ў выбітнага каларыста Альгерда Малішэўскага, у густоўнага малявальшчыка Леаніда Дубара, у прызнанага партрэтыста Уладзіміра Тоўсціка. Ісак хадзіў у студыю з казачна таленавітым Ігарам Цішыным. У вучылішчы ён займаўся ў адной групе з тактоўным графікам Валікам Макаранкам, з вытанчаным ілюстратарам Уладзімірам Гладкевічам і тэмпераментным жывапісцам Рыгорам Таболічам. У інстытуце Ісак маляваў пастаноўкі з бездакорным у дакладнасці Андрэем Задорыным. У мастацкай школе ён працаваў з густоўным традыцыяналістам Ігарам Арловым і з паэтычным жывапісцам Уладзімірам Дзядзюлем. Такі ў Ісака асяродак, у ім ён выхаваўся ў мастака.

### Чэх

Ісак перакананы, што ў мастацкай адукацыі патрэбны асяродак. Схема «мастак-настаўнік і адзін вучань» не працуе, а калі і працуе, дык запаволена і не дае пажаданых вынікаў. Мне давядзецца пагадзіцца з Ісакам, і не проста пагадзіцца, а яшчэ і расказаць пра тое, чаму я навучыўся менавіта ў яго.

Ісак быў для мяне прыкладам пільнага назірання за блізкімі людзьмі. Ён уважліва глядзеў на аднакурснікаў, на студэнтаў з нашага вучылішча, на сяброў. У нашай групе Ісака зацікавіў Гена Чэх. Ісак яго не проста намаляваў, ён зрабіў жывапісны партрэт Чэха. У ім акрамя фатаграфічнага падабенства быў вобраз маладога чалавека дакладна з нашага пакалення. На партрэце Гена Чэх выглядаў натхнёным паэтам. Дзякуючы гэтаму партрэту, і я пачаў больш уважліва глядзець на блізкіх людзей, пачаў больш уважліва іх маляваць, а яшчэ апісваць іх паводзіны, жэсты, лёсы. Ні адзін з маіх настаўнікаў не зрабіў і не паказаў нічога падобнага на тое, што паказаў мне Ісак. Таму я зноў паўтару за ім, што вучыцца на мастака трэба абавязкова ў мастакоўскім асяродку, дзе можна шмат чаго ўзяць не толькі ў настаўнікаў, але і ў сваіх аднагрупнікаў, у старэйшых і малодшых сяброў.

### Скульптурнасць

Мастак, калі ён прафесіянал і атрымаў акадэмічную адукацыю, ведае ці, прынамсі, мусіць ведаць шмат чаго з анатоміі. У кожнай мастакоўскай майстэрні ёсць анатамічныя атласы і кнігі па пластычнай анатоміі. Часам, гледзячы на тую ці іншую карціну, ты адзначаеш, з якога атласа перамалявана гэткая выразная рука ці такое правільнае калена. Нічога дзіўнага... На карцінах Эль Грэка можна знайсці цэлую фігуру, перамаляваную з карціны Тыцыяна. Анатамічныя атласы дзеля гэтага і ствараюцца, каб на іх вучыцца, каб у іх глядзець, каб з імі звярацца. Ісак любіць пластычную анатомію і на сваіх партрэтах старанна прамалёўвае цяглiцы і косткі. Толькі Ісаку заўсёды замала інфармацыі ў кнігах і атласах. Ён уважліва правярае ўсе дэталі на ўласным целе, разглядае яго і абмацвае. Менавіта абмацванне і вядзе Ісака да скульптурнасці яго жывапісных вобразаў.

### Параўнанні

Закон забараняе літаратару параўноўваць чалавека з жывёлай. Параўнай – і патрапіш у суд, і заплаціш штраф за абразу. Ёсць яшчэ ідыёты, якія лічаць, што жывёлы прыгажэйшыя за людзей, а таму такое параўнанне прыніжае якраз жывёл. Цяпер трэба тройчы падумаць, перад тым як у допісе назваць некага коцікам, рыбкай ці мядзведзікам. Тысячы гадоў людзі называлі каханых рыбкамі і коцікамі, а цяпер трэба шукаць новыя параўнанні. Думаю, што пераключэнне з фаўны на флору не варыянт, бо сёння нельга параўнаць героя з жывёлай, а заўтра і з раслінай параўноўваць забароняць. Сягоння ты назавеш героя гарбузом, каштанам ці рэдзькай, як той Гогаль, а заўтра ў паштовай скрыні знойдзеш позву ў суд. Таму я вырашыў параўнаць жывапісца Ісака з кандытарскім вырабам.

Ісак падобны да зефіра. У залежнасці ад настрою ён можа змяняць свой пастэльны зефірны колер. Звычайна Ісак падобны да самага простага белага зефіра, калі хвалюецца – робіцца ружовым, а ў хвіліны росквіту ён светла-залацісты зефір.

## Яснавокасць

Яснавокі паэт Уладзімір Дубоўка склаў верш пра мастакоў і красу:

Жыві хоць лішніх сто гадоў –
красу праславіць немагчыма.
Патрэбна сотня мастакоў,
ды ўсе каб з яснымі вачыма...

Пачуеш такое і задумаешся... Ці ёсць у нас патрэбная нябеснавокая сотня мастакоў з яснымі вачыма? Прыгадваюцца мае настаўнікі Уладзімір Стальмашонак і Гаўрыіл Вашчанка. У іх вочы былі ясныя, і аблiччам яны былі крыху падобныя да Дубоўкі. Гэта з часоў мінулых. А цяпер яснавокасць ёсць у Валодзі Ісачанкі. Такія ясныя светлыя вочы, як у яго, здатныя не толькі глядзець, яны здатныя ўбачыць красу прыроды, пабачыць яе красаванне, каб аднавіць убачанае на палатне.

Вольга Бабкова



...тое, што пазней, мажліва, увойдзе ў падручнікі, – сёння поруч з намі...

# Старыя нататнікі

### Горад

Учора па горадзе паляцеў пух. Можа быць, ён з'явіўся раней, але пралятаў наўзбоч. Ведаю, што для некаторых гэта перыяд пакуты і страшэннай алергіі. Але ж маю да гэтага часу datклівае дачыненне. Мяне пух заспакойвае, нават закалыхвае. Мякка казыча. Блытаецца ў валасах. Бачыла ўкараванага пухам вераб'я. Будуць бліжэй да Купалля дні, калі пух увойдзе ў самую сілу. Ён здолее нават прытрымаць плынь ракі, калі пушыста і пераможна пакрые цякучую паверхню. Пакуль не змокне. У такія дні лёгка ператварыцца ў белы вопрадзень, калі не варушыцца *(...не варушыся, вочы замруж, калі не згодны – усё паруш...)*. У такі час свет навокал супадае са старым беларускім словам "одъменность" – зменлівасць, недаўгавечнасць. А таксама з лацінскім выразам – "vanitas vanitatum"[1].

[1] Марнасць марнасцяў.

Вецер сарваў з клёнаў “верталёцікі”, і тыя, як у японскіх мульціках, вокамгненна змянілі прастору, зрабілі яе мільгаючай, звонкай, сухой і бліскучай. Круціліся ў паветры ваўчком, сяклі голыя плечыкі малых хлопчыкаў, патаналі ў пышных валасах, шамацелі і звінелі. Хрушчы адпачывалі. Залацісты вечаровы дэсант у Менску! Пяць хвілін самурайскага танца ў паветры.

Ішла і спынілася за дрэвам, даруйце мне. ЯНЫ сустрэліся і былі гэтаму відавочна радыя. Жанчына ў нейкі момант дакранулася і пацалавала мужчыну з кійком. Іх постаці нагадалі мне пра адсутнасць часу. Яны маглі стаяць тут і ў 20-я, 50-я гады, і крыху пазней. І дом, каля якога сустрэліся, быў трэцім у гэтым спатканні. Той самы памаранчавы дом на Мяснікова, дзе калісьці вісеў гаўбец без дзвярэй. Адзіны стары дом у гэтым квартале, які захаваўся.

Фасады дамоў Траецкага прадмесця сонечным ранкам падобныя да валізаў ды саквояжаў, перацягнутых ды падперазаных крыж-накрыж ценямі ад слупоў ды тралейбусных дратоў.

Небывалае ўражанне: тое самае, як зайсці ад сляпучага сонца ў пакой. На пэўны час робішся невідушчым. Але калі заходзіш з вуліцы ў пад’езд старога дома, а ў навушніках – Моцарт, то раптам, у адно імгненне, разумееш, што гэтай музыцы тут не стае месца, што яна вокамгненна запаўняе сабою ўсю прастору. І вось ужо сцены галосяць, і музыка нябачнай хваляй зносіць усё на сваім шляху: парэнчы, вокны, шурпатыя цьмяныя сцены ды замкнутыя глухія дзверы. І вось ужо няма тут ані пылу, ані друзу колішняга рамонту, знікае пах капусты і яечні, распускаюцца ў паветры сварлівыя галасы, як урэшце і галасы мілосныя. Знікае ўсё. Моцарт – шпаркая залева. Моцарт узводзіць на руінах ззяючы палац.

У Менску ёсць тонкасуконны камбінат. Там працаваў мой тата. На яго тэрыторыі, глыбока пад зямлёй, цячэ нябачная Няміга. Да коміна аднаго з былых будынкаў прыстаўлена лесвіца. Калісьці на тым коміне вісеў наш сцяг. Калі час перакуліўся, сцяг загадалі зняць і ўтылізаваць. Тата раней за іншых залез на той комін, зняў выцвілае ад часу палотнішча і занёс дадому. Цяпер, праязджаючы побач, гляджу ўверх і бачу на даху коміна абрысы свайго празрыстага таты, які ўжо паспеў падняцца па лесвіцы ў неба.

Маці, у якой штодня ўсё болей знікае зрок, праснiла тату, які прынёс у дом кнігу. Вельмі вялікую. “Алісу ў краіне цудаў”. Спачатку маці запыталася, навошта, маўляў, такая вялікая, а пасля разгарнула і пачала чытаць. Чытаць! Яна ўжо некалькі гадоў як увогуле не бачыць літараў. А тут у сне радасна занурылася ў кнігу. Які дзіўны, прыгожы і журботны сон... Згадалася мне іх агульная даўняя гісторыя пра кнігу на даху старога дома пад мостам, якую яны некалькі гадоў запар бачылі, калі праязджалі на тралейбусе з боку вуліцы Чыгуначнай. Адмыслова сядалі справа каля вакна, каб запрыкмеціць тую кнігу, старонкі якой кожную вясну (пасля снежнай зімы!) гартаў вецер на тым закінутым даху.

Жыццё цеснае і прасторнае адначасова. Вось прачнулася і па радыё пачула спевы жанчын з вёскі Хатынічы, што ў Ганцавіцкім раёне на Берасцейшчыне, – адтуль мая Зоня, з якой разам ляжалі некалі ў шпіталі. Незабыўная Зоня. А пасля ў праграме “Двое ў горадзе” пра могілкі, пра стаўленне да смерці, пра Менск казаў Цімох Акудовіч, і такое свежае пачуццё агарнула, што не чужаніца я тут. І праз гэта прастора пашырылася, і сталася зусім не цесна.

Чаму добра на могілках? Ад раздраю і мітрэнгаў пайсці і наведаць магілы блізкіх людзей. Бо маўчаць яны і слухаюць. Не пярэчаць, не глядзяць з дакорам, не спяшаюцца сысці, не паглядаюць на гадзіннік.

Завіслі ў Асмалоўцы, як чмялі на іншасветнай расліне. Ці як восы, ці як пчолы ласкавым надвячоркам.

Цягнік за вакном прачухаў, а пасля амаль насупраць дома, толькі метрах у двухстах, так гукнуў смачна, амаль як пукнуў гучна.

– Добры дзень!
– Уже вечер.
– Дык дзень жа яшчэ не скончыўся, улетку было б яшчэ светла...
– Нет, уже темно. Значит день скончился. Вот вчера, когда я ехала на маршрутке за чертоги Минска, было еще светло...
– Ух ты, «за чертоги» Мінска ехалі, і як там?

Назіраю часам сталыя пары, дзе немагчыма з першага погляду вызначыць, ці гэта жонка з мужам, ці маці з сынам. І справа зусім не ва ўзросце! Проста мужчына выглядае прыгнечаным, здзяцінелым, з бездапаможнымі вачыма... Бывае так. Вось і сёння пабачыла такую пару ў зусім новым для мяне раёнчыку Менска, у якім так уразілі назвы вуліц – Ежы Гедройця, Яна Чачота, Напалеона Орды, Каралінская...

8 верасня 1992 года шасцігадовая Ганулька танчыла разам з усімі на пляцы каля Чырвонага касцёла і крычала: «Хачу, каб гэты пляц называлі Пляцам Францыска!», (бо песня гурта “Уліс” была такой добра знаёмай і любімай!). А я ў тыя дні была ў Львове й прывезла адтуль верш:

Калі звон уначы,
Калі ўзрушаны спеў,
Сярод цемры начной
Прачынаецца Леў.
Залатыя ліхтарні
На ліпах мігцяць,
Яны вабяць і клічуць
Яго пагуляць.
Леў у панскай кароне,
Як калісьці ў турнір.
Ён няспешна выходзіць
На паўночны шпацыр.
І да ратушы крочыць
Сярод ўсёй пекнаты,
Дый у бруку губляе
Свой кіпцюр залаты.

Менская Кальварыя паводле адчування тое самае, як і Вільня. Заедзеш туды, і не верыцца, што гэта самы блізкі ад Менску горад. Зусім іншы свет і атмасфера. Так і тут. Заходзіш у браму і трапляеш у ІНШАЕ.

Калі ў час сутоння цёплай восенню крочыш пешшу праз вуліцы, двары, прысады, міма кармінавых клёнаў, памаранчавых арабін і ўжо амаль голых чорных каштанаў, заграбаючы нагамі пяціпалыя лісты, няспешна выспявае разуменне, што ідзеш па паверхні планеты.

Сёння быў блакітна-жоўты дзень. Зіхацела ўсё, што магло зіхацець, і пахла цвіллю. Павута ў Купалаўскім парку, доўгія цені мінакоў з заплечнікамі на ранішнім праспекце, грудасты голуб на паддашку камяніцы з паставай Напалеона.. – усё вабіла і прыцягвала. Кожная драбяза гучала разняволеным голасам.

Восень рэтушуе Менск і набліжае яго да еўрапейскіх утульных гарадоў. Лістота, ліхтары і цені выводзяць манаграмы і вензелі на сценах і тратуарах. Сярод тысячы знакаў можна распазнаць знаёмыя. А яшчэ гэты кастрычніцкі водар лістапада пасля Пакроваў... Хутка вятры здзьмуць з вуліц раптоўную вінтажнасць і вернуць сучаснае імя. Але першая згадка пра Каляды ўжо прагучала.

Асфальт праспекта ў моцныя маразы раптам пасівеў і набыў негалоснай рэспектабельнасці. Ён стаў нагадваць сівізну 45-гадовага мужчыны..

Аднойчы выйшла з дому пад песню «Завіруха» і патрапіла ў сапраўдную замець ды віхор. Песня доўга гучала ўва мне, пакуль ішла па аснежаным горадзе, і гэтае супадзенне, памятаю, нарадзіла выразнае адчуванне – я жыву на сваёй зямлі:

Ты куды мяне клічаш,
паслухай? –
На дварэ ні машын ні людзей.
Завіруха мяце, завіруха...
Белы снег,
Белы цень,
Белы дзень.

Сцежкі, пратаптаныя ў глыбокім снезе, як бы і для цябе таксама. З удзячнасцю прымаеш гэта як клопат нябачных людзей, як бескарысную ўвагу да сябе.

З вышыні чацвертага паверха чуваць, як рыпіць снег пад нагамі рэдкіх мінакоў.

Пабачыла сёння краем вока маршрутку «Мінск-Ваўкавыск» і вокамгненна прачытала – «Мінск-дзяцінства».

Ранішняя думка, не паспеўшы нарадзіцца, выляцела ў вакно наўздагон за музыкай, што пранеслася пад домам разам з аўтамабілем.

Колькі дзён таму рашуча ішла на вельмі важную размову ў адзін з культавых менскіх будынкаў на плошчы Свабоды. Справа была неадкладная – жыццё-смерць. Голас з сярэдзіны пытаўся, – на якой мове размаўляць, каб пачулі напэўна. Ведаю, што чалавек тутэйшы, няма чаго! Але раптам не зразумее, раптам не дагрукаюся, раптам адмовіць у дапамозе. Страшна нават уявіць наступствы. Размова адбылася па тэлефоне. Дзве хвіліны. Горача, на адным дыханні. Выйшла на плошчу. Іду і раптам разумею, што не памятаю, на якой мове звярталася. Абсалютна не памятаю. Праз дзень даведалася, што дапамог.

Падвозіў таксіст з Данецка. Пачуў размову па тэлефоне, пытаецца, гэта вы па-беларуску размаўлялі? Першы раз пачуў у Менску... Якая прыгожая мова, як і нашая ўкраінская.

Хаджу паміж карцінамі Славука. Захінаюся ад пяшчотных крылаў кажаноў ды цмокаў. Дзіву даюся. Які скарб! Пасля на другі паверх паднялася, аглядаю карціны іншых мастакоў. Раптам чую ад двух мажных надзьмутых людзей у кутку залы –

«Вось добра хлопец малюе, не тое што тыя чарцяжы з пачварамі» (...). Згадала пра дакумент, які калісьці адшукала ў архіве. Там вялося пра тое, што жандармы ў час адсутнасці Напалеона Орды выносілі з ягонай здымнай кватэры (па даносе гаспадыні) «скрынкі з чарцяжамі гарадоў»... Недзе ў 1870-х. Даліся ім усім у знакі тыя «чарцяжы».

Люблю менскія пагоркі і менавіта гэтую кропку на Нямізе па дарозе дадому. Здаецца, фарбы тут перамешваюцца нейкім адмысловым чынам. Удзельнічае ўсё – і аблокі, і дахі, і сцены, і вокны, і коміны... і, ясная справа, мае вочы і галава, схільныя да прыўкрас.

Паглядзела "Вакно ў двор" Хічкока і згадала раптам, як, лежачы ў ложку віленскага гатэля, злавіла поглядам чалавека на даху – будаўніка. Дзея проста заварожвала. Рытмам, суладнасцю і сэнсам. Па-першае, ён быў адзін. Апрануты ў сіні камбінезон з шырокімі кішэнямі і белай майцы. На ім былі блакітныя (яркія!) пальчаткі. Як жа ахайна ён працаваў! Як дзеля рэкламы. Але нябачным гледачом была толькі я адна. Ён клаў цагліны, раўняў, сцяна расла на вачах. Пасля прысеў, дастаў тэрмас, нават дымок цягнуўся (ад кавы?). Сядзеў, паліў, мружыў вочы на сонцы. Быў абсалютна спакойным. Свяціла ранішняе сонца. У той момант гэты віленскі будаўнік у чыстай вопратцы на чырвоным даху падараваў мне пачуццё бяспекі.

Самыя глыбокія складкі на кары дрэваў – на старых габрэйскіх могілках у Вільні. Самы зялёны плюшавы мох – на магутных дрэвах віленскіх габрэйскіх могілак. Самая сакавітая высокая трава – на крутых пагорках габрэйскіх могілак. Самыя расцярушаныя літары габрэйскай альфабэты – на расколатых каменных плітах габрэйскага пантэона. Самая гучная маўкліня тут, на адлюддзі. На габрэйскіх моглiцах Вільні.

## Героі

"Словы блішчаць", – кажа Марыя пасля паўзы, а перад гэтым – на адвітанне – "скончыўся дождж, пайду садзіць цюльпаны". "Словы лятуць", – думаю я. Мы размаўляем як у палёце, смакуючы і словы, і паветра.

"Акудовіч – лятучы галандзец, касмічны мужчына", – сказала Марыя Вайцяшонак. Ён рассоўвае нізкае неба, – думаю я, а Марыя вызваляе відзежу неба ад сухога галля на старой яблыні. І вось ужо новы лапік высокай прасторы ў яе Садзе. Яны для мяне – важныя істоты. І нават ледзяны дотык ягонай зімовай барады на аўтобусным прыпынку, з адчуваннем якога я прачнулася на наступны дзень, – неўсвядомленая адразу цеплыня. Хай будуць блаславенны тыя, хто дорыць нам Высокае Неба!

Марыя В. падаравала мне прыгожы нататнік з птушкай на вокладцы. Я вырашыла сёння ж пачаць штосьці натаваць, бо ранейшы, хаця і нясконччаны, амаль падраўся... Аркушы такія нечапаныя, пяшчотныя. Запісала дату і сцялася. Уявіла, як праз пэўны час буду гартаць яго, і гэты люты адсунецца так далёка за небакрай, і ўсё, што было дарагім, стане мінулым, і шмат што зменіцца. І я сама таксама. Гэта можна назваць, напэўна, комплексам архівісткі, ці Разумнай Эльзы. Але мне заўсёды робіцца вусцішна, калі я пішу дату.

Тэлефонныя размовы з Марыяй Вайцяшонак з-пад Лагойска. Яна – там, а мы – тут. Я бягу, яна запыняе, я крычу, яна кажа – «нікога лішняга тут няма, усе на сваім мейсцы», я плачу, а яна з вёскі Сілічы працягвае хустачку бязевую ды гафтаваную. Я маўчу, а яна кажа – напішы аповед і назаві яго «Шапа».

Разгарнула кнігу Акудовіча з іншай нагоды, і тут жа: "Беларусь загудзела, як узрушаная бортня", "калі мы не кінем касавурыцца адно на аднаго, зважаючы на каштоўнасці іншага як на непатрэбшчыну, дык ніколі не будзем мець «вялікай» салідарнасці".

Словы для Алеся Разанава на непадпісанай яму кнізе: "З удзячнасцю за тое, што аднойчы, калі спаткаліся на праспекце (які рушыў побач), Вы адразу пачалі казаць пра Рэчы, якія дазволілі праспекту знікнуць. А мы ўтрох засталіся".

Ліка аднойчы сказала: "Усе рэчы маюць край". Дык вось мне здаецца, што ў нас з ім агульны край.

Адгукнулася з Сілічаў Марыя Вайцяшонак. "Воля, учора была самая нечаканая Калядная ноч! Мы сядзелі каля жывога агню, і Алексіевіч уголас чытала Горвата. Уголас на ўсю хату. Якое гэта было замілаванне, Воля! Які жывы гэты казачны Прудок на Гомельшчыне, якія жывыя людзі ў ім! Няхай толькі не крыўдуюць на аўтара, бо рэдкі дар мае пісаць мовай любові. Niech będzie pochwolony autor!" Яшчэ Марыя распавяла, як "страляюць" па начах у моцныя маразы бярвенні ў іх хаце. – "Мароз ірве бярвенні. Амаль забыты з дзяцінства гук".

І яшчэ сказала важнае для мяне – пра ўзаемнасць з Богам.

90 гадоў Анджэю Струмілу – мастаку, паэту, каліграфу, вандроўніку па ўсіх светах, плакатысту, скульптару, фотамастаку, думанніку, чалавеку свабоды, які страшэнна рады жыць на беразе Чорнай Ганьчы, адзінаму ў Польшчы прытоку Нёмана. Мне часам здаецца, што мой свет трымаецца на такіх рэдкіх.

Раніцай вестка пра смерць – МІХАЛА!! – адгукнулася шыпамі, якія вытыркаліся з усіх бакоў, бо не дазвалялі гэтай ведзе дасягнуць маёй сярэдзіны. Гэтак яна супраціўлялася. А пад вечар... маркотная скрушная веда цяжкай цёмнай вадой працякла скрозь ахоўныя калючкі і затапіла... Міхала больш няма. Няма Міхала. Даражэнькага сябра майго патаемнага братэрства, пра якое ці здагадваўся ён, я не ведаю. Там ужо была Таня С. і хтосьці яшчэ без імя.

У гэтым годзе, бадай, упершыню не згадала дзень народзінаў сваёй дарагой бабулі, дзень яе 108-годдзя. Час ляціць так хутка, вось і лістапад амаль голы... А позна ўвечары, калі нагадалі, раптам намацала на сабе кулон, які выбрала раніцай абсалютна нечакана. Гадоў пяць не насіла. А кулон – бабулін.

У колішнім родавым гняздзе Валадковічаў (цяпер буслінымі) жылі незвычайныя Вінцэнт і Зафея. Іх лад жыцця вярэдзіць мне душу. Ён быў начным. Яны кладліся спаць а дзясятай раніцы, а прачыналіся пад вечар. Палуднавалі апоўначы... Я думаю, што Вінцэнт і Зафея былі шчаслівымі людзьмі. Яны слухалі ноч, назіралі шляхі сонца і месяца. А галоўнае, і гэта відавочна, любілі адно аднаго, бо ім было не сумна праводзіць час у цішыні разам. Мажліва, з кнігамі. Мажліва, у садзе. Уяўляю, як яны зачынялі высокія вокны, апускалі цяжкія шторы і ў салодкім паўзмроку клаліся спаць. Маглі сабе такое дазволіць. Я думаю пра іх з любоўю.

## Прырода

Напачатку траўня Беларусь становіцца роўнай Ірландыі па прысутнасці зялёнага на душу ўсяго жывога.

Месяц як свой, бо бачыш, як ён нараджаецца, як сталее, як поўніца, старэе. Як знікае на час, і ягоная адсутнасць бянтэжыць. Бо ведаеш амаль усе ягоныя імёны-мянушкі. Без дазволу ён залівае святлом уначы тваё цела... Часам выводзіць цябе з сябе, як ваду з мора, а найчасцей супакойвае. Заварожвае мышэй і паэтаў, адныя глытаюць месяцовыя промні, а другія – губляюць галаву. Карацей, Месяц, як родзіч, адно што не па кудзелі і не па мячы.

Хутка, вельмі хутка пачне святлець, але пакуль што мы завіснулі ў самым цёмным прадонні года. Але ўжо гучаць і сурма, і акарына, і туба. І барабанчык стукае... Галоўнае – не спаць.

Камар звініць, свішча, гудзе, пішчыць, трымціць у паветры... Нібы тонкая іголка адмысловай машынкі вышывае па нацягнутым шоўку празрыстую хрызантэму. З камарынай песняй можна зблытаць танклявы посвіст размоклага трубчатага палена ў вогнішчы, у момант ягонага развітання з былымі каранямі.

Ліпеньская задача: не пераблытаць у густым сунічніку зіхоткія крылцы стрыблі са шкельцамі згубленых акуляраў.

## Каханне

Пасля прачытання Зюскіндавай аповесці пра спадара Зомара, які, будучы апанаваны нястомнай хадой, мераў наваколле з дапамогай трох ног, я скарылася на волю ветру.

Вецер гусцеў і шапатаў голасам таго, хто пакладаўся на ягоную волю, словы-заклён: "Пакіньце мяне ў спакоі!" Вецер падхапіў мяне пад пашкі, узняў над узгорыстым нямецкім кварталычыкам старой часткі Менска ў той самы час, калі па вялікай і малой чыгунцы крыж-накрыж рухаліся цягнікі, а на былых Лютэранскіх могілках рыпелі арэлі, і дазволіў выдыхнуць на поўныя грудзі: "Пакінь маё сэрца!"

Магчыма, нашыя душы "ўступаюць у рэакцыю", змешваюцца, утвараючы іншую форму і ўзровень, невядомы раней. Душа ўбірае ад іншага ягоныя ўласцівасці, ягоную ўнутраную музыку. Мы змяняемся, калі жывем доўгі час побач, міжволі ўбіраючы ў сябе гэтую невідочную субстанцыю ад іншага. Гэткі абмен дарамі. Пры адной умове – наяўнасці любові.

Вырваць з сэрца, вырваць з коранем – звыклыя парады людзей. Калі ж напраўдзе ўявіць гэтае "выдзіранне", то можа стацца так, што кораневая сістэма паспела ахапіць усю душу і цела дарэшты. Нават у пальчыкі на нагах запусціла свае карэньчыкі, у кончыкі мезенцаў на руках. І калі робіш намаганне выцягнуць гэтыя карані з нетраў сярэдзіны, абтрэсці ад лішку гэтую сістэму каардынат – то пасля, калі ўсё ж удаецца – пустым падаеш ніц.

За некаторыя сітуацыі і некаторых людзей чапляешся як за матузок паветранага шара, каб зляцець з забруджанага месца. Часам гэты ўзлёт бывае такім імклівым, што не паспяваеш ачомацца, прааналізаваць здарэнне. Проста разумееш, што калі цяпер не зляціш, будзеш знічтожаны. Вось так мы разлятаемся адно ад аднаго,

зносімыя ружай вятроў. Іншая справа, што матузкі з цягам часу перакручваюцца, і нас ізноў кідае ў абдоймы адно да аднаго. І мы стукаемся лбамі з разлёту.

Людзі, якія пражылі разам так доўга, калі разыходзяцца і губляюцца ў жыцці, захоўваюць міжволі рухі і інтанацыі сваіх палавінаў. Вось сапраўды, чалавека ўжо няма, а рукі падчас размовы адмысловым чынам паглажваюць рог стальніцы, ці кончыкамі сабраных у туліпан пальцаў крэсляць па паверхні знакі, падзяляючы такім чынам словы ў гутарцы на роўныя адцінкі, выстукваючы свае словы-рытмы... Я, прыкладам, незнарок кранаюся пры размове пальцамі да ўласнага падбароддзя, ці ўцягваю дым пры паленні такім самым адмысловым чынам, крыху адкідаючы галаву і прыплюшчваючы вочы.

Стрыблі любяцца ў паветры. Сінія і кармінавыя. Пралятаючы над нашымі галовамі. Мы любімся на ложках, канапах, падлозе... таксама лятучы разам з планетай у яшчэ большым Паветры.

Пасля кахання жыццё раптам перастае здавацца пляскатым, а выразней набывае татальную рэльефнасць. А нашыя дачыненні прымаюць амаль геаметрычныя формы.

Цяпер мы ўмураваныя ў новыя ўмовы існавання. Ад нас не засталося нічога мяккага. Закамянелі аўры, абалонкі пакрыліся панцырам, і ўсё цёплае скурчылася пад ім.

Багдана “ўпусціла” каву. Пеністая, бы забруджаная галоўка дзьмухаўца, “шапка” на вузкім горлачку туркі на імгненне застыгла, пасля заварушылася і з шыпеннем пацякла па жалезным бачку на фаерку. Цёмная калючая лужынка ператварылася ў жывыя плюшавыя выспачкі. Багдана з грукатам падскочыла з крэсла да пліты. Высокім рухам узняла турку і са смехам вылаялася. Запахла гаркавымі лужынкамі. Яе нязграбны рух, высока ўзнятая рука, нягучны смех зацярушылі рэчаіснасць і выцягнулі з яе патаемнай запазухі вобраз у клятчастай кашулі і хатнім абутку, у мяккіх штанах, няголенага і ласкавага чалавека, аматара кавы.

Каханне, пачуццёвасць, эмоцыя шчырай вадой атачаюць і наталяюць жыццё мужчыны і жанчыны. Якасць і паўната той вады – сведчанне глыбіні пачуццяў. Калі ж каханне сыходзіць, агаляюцца рыфы – застарэлыя крыўды, бы з’едзеныя іржой карчы, дакоры ды дакукі, бы разбітыя ў раздроб каралы. Куды сышла вада? У якое такое мора вечнай любові?

На якія складовыя часткі раскладаецца музыка раніцы? Раніцы ў яшчэ цёмнай кватэры, у якой ноч затачылася ў куты, а сненні сышлі, як наркоз, з усяго цела ў здзіўлены ўспамін. Ліхтар за вакном яшчэ цярэбіць няпэўныя вузкія дарожкі ў цямрэчнай глыбіні пакоя, надаючы таму лёгкасць непразрыстага крышталя, унутры якога пабліскваюць знаёмыя-незнаёмыя рэчы. Вось першы ціхі рып у канцы калідора. Мяккія крокі. Насупраць дзвярэй – хруст костачкі ў назе. Мама. Святлее. Цемра пакоя распускаецца, як хімічнае рэчыва, і ўступае ва ўзаемныя дачыненні са святлом, якое бярэцца ніадкуль, чарадзейным чынам. Праз колькі часу па падлозе шлёпае з націскам на пяты дачка. Імклівая і шумна пабегла вада ў ванне. Гук яе плюскатання адно ў вадно кладзецца на гук вады, які сцякаў з плячэй ейнага таты, якога няма. Вада захоўвае абрысы адсутнага чалавека і паўтарае свае ранейшыя стасункі з ім праз агульнасць крыві. Памяць вады мацнейшая за памяць жалеззя і дрэва. Ключ у замку паварочваўся са знаёмай мелодыяй з паўгода. Дзверы мяккім голасам грукалі аб парог пакоя яшчэ карацей. Жыццё перайначылася, а музыку затрымала вада.

Цікава, як гэта называецца, калі аддаеш сябе ва ўладу іншага чалавека. Улада – не тое слова. Хутчэй, гэта стан знямеласці, бязважкі стан самнамбулізму. Іншы чалавек нават не ўяўляе свае магічныя ўласцівасці: варушыць пруткамі вязанне, гартае старонкі кнігі, гатуе каву, змешвае акварэльныя фарбы, размаўляе. Але гэтыя звыклыя дзеі не знікаюць без следу. Ты адчуваеш дакрананне чагосьці няяўнага. Цела дранцвее, а душа замірае.

Разгрэбсці думкі, каб выцягнуць на святло тую, якая падаравала раптоўнае адчуванне свежасці.

Доўгія стасункі рэхам суправаджаюць рэшту жыцця. Як ліпкая павута. Як удары бубна.

Адкінуць галаву, каб вільготную стому вачэй перакуліць і “адліць” ручайкамі па скронях – час лепіць фігуркі з былых эмоцый.

## Смерць

На сцяне пакоя, дзе жыў чалавек, які сышоў, заўсёды вісіць пустая мапа...

Мыць рэчы дарагога нябожчыка, бы збіраць яго ў дарогу, у далёкае падарожжа... Вось – швэдар, вось – куртка. Яны сохнуць на вяроўцы, нібы завіслі паміж учорашнім і заўтрашнім.

Сэнс аднаўляецца з кожным народжаным і змяншаецца з провадамі нябожчыкаў.

Можа быць, набліжэнне ці прадчуванне смерці праяўляецца ў тым, што чалавек усё часцей пачынае бачыць сябе звонку на адлегласці, і гэтая адлегласць усё больш павялічваецца.

Смерць – вельмі адважная штука. Той, хто раней за цябе пакідае гэты свет, уяўляецца (з сярэдзіны найглыбейшага маўчання) – героем, бо зрабіў гэты крок першым. Бясконцы ланцуг герояў.

Рысы чалавека, пра смерць якога прыйшла вестка зранку, праяўляліся ў шматлікіх выпадковых сустрэчных, у незнаёмых тварах у стужцы з навінамі, нават у самотным рыбаку, сустрэтым на пустым рачным беразе.

За вясковай традыцыяй шанаваць у людзях паўнату, лічыць мажнае цела прыгожым, магчыма хаваецца боязь перад смерцю. Лядашчая голая чалавечая лытка страшыць і выклікае агіду.

Хтосьці распавёў, што цела Максіма Багдановіча ўжо не знаходзіцца пад ягоным помнікам у Ялце, бо пласты зямлі там, у Крыме, плыткія і рухомыя. Таму нябожчыкі змяшчаюцца пад зямлёй, а за 100 год гэты зрух аказваецца вельмі значным. Міграцыя нябожчыкаў... Эміграцыя на яшчэ большую самоту, бо нават той, хто прыходзіць у гасціны на магілу, памыляецца і не знаходзіць уцекача.

## Людзі

Нашыя кантакты з людзьмі як падарожжы на чужыя землі – пералятаем на незнаёмую тэрыторыю, усталёўваем раўнавагу на выспе, асвойтваемся, усмоктваем

новыя веды, колеры, смакі і звычкі. Узбагачаемся. Кожны – востраў. Нават камяністая, парослая імхом ды калючкамі выспа чакае цёплага прыветнага дотыку...

Жанчыны засынаюць у метро і робяцца адсутнымі, начнымі і хатнімі. Безабароннымі.

Ведаю людзей, моцна ўгрунтаваных у зямлю, учэпістых і надзейных для свайго атачэння. Яны завіхаюцца па жыцці як па вялізнай кухні, дзе трэба паспець усіх накарміць, падцерці, зірнуць у вакно на суседні паддашак, ці не прэ знянацку адтуль чужое ліха. Грымяць навокал рондалі, місы ды панвы. Перакочваюцца ў галаве, як грушы, думкі. Жыццё трывалае і свет ходзя калаўротам, калі яны запускаюць яго з аднаго маху сваёй моцнай рукі. Рух гэты, няспынны і ўночы, роем круціць над галавой, зацягвае ў віры, але пад ранак выносіць на паверхню, выкідае на бераг штодзённасці, абтрэсвае начныя вярэды ды гальцом запускае ў светлы ранак на новыя змаганні. Я таксама ўкаранёная ў жыццё, я гэта адчуваю, але не праз ногі.

Учора патрапіла ў магнетычнае поле прыгажосці. Злева ад мяне за шкляным вакном сядзела за працоўным сталом неверагодна прыгожая кабета. Тры гады я хаджу сюды і кожнага разу ўпотай любуюся. Як адмыслова прыгатаваная страва ўздзейнічае на пэўныя рэцэптары, гэтак я паглядаю на яе і не магу наглядзецца, адарвацца поглядам. Вабіць. Прыцягвае. Прымагнічвае. Абсалютна пра тое не здагадваючыся. Яна, магчыма, нават не лічыць сябе прыгажуняй. Яе краса спецыфічная. Я яе адчуваю не толькі вачыма. Ува мне жыве перакананне, што я не была б расчараваная, даведаўшыся пра яе бліжэй. Ейны нутраны лад якраз і запісаны на ўсім абліччы. Гэты лад – па мне. У мінулым жыцці, напэўна, мы былі чымсьці аб'яднаныя. Мая памяць усплыла вышэй на паверхню. Я яе пазнала.

Істотны момант – як табе расчыняюць дзверы. Калі ўсім тварам і паставай насустрач – адно, калі, гледзячы ў пустату – іншае.

Вядомая мне ўласная рыса – ад немажлівасці самой запомніць сотні ўлюбёных вершаў, дарагіх сэрцу і душы цытатаў, важных назваў, думак і мелодый – я збіраю ў полі ўвагі розных людзей, якія носяць у сабе гэтыя веды. Таму мне такія важныя самыя розныя людзі. Кожны з іх – носьбіт найкаштоўных кляйнотаў.

Радзімыя плямкі мігруюць па целе крэўнікаў, як выспы на паверхні жывога акіяна. Звязаныя радствам, часам здзіўляюцца падобнасці россыпу знаёмых сузор'яў на целе сястрынца або братанка. Хіба што знаходзяцца яны ў зусім іншых паўкулях. А вось форма душы пры гэтым найчасцей несумяшчальна розная. Як у Палямона з Неронам.

Па вузкім ходніку былой Нямецкай вуліцы, абсаджанай ліпамі, імкліва крочыла манашка. Яе чорна-белыя апранахі віліся ад шпаркай хады. Бліскучы ружанец быў прымацаваны да паса, і яна моцна сціскала яго канец у вольнай руцэ. Гэта было нечакана і прыгожа. Калі б я сфоткала яе, наблізіўшы аб'ектыў, атрымала б файны здымак, гледзячы на які можна было б думаць пра ўнікальнасць вуліцы, асобы, змястоўнасць моманту. А ў рэчаіснасці была проста вуліца старога квартальчыка, па якім ішла, рассякаючы паветра, божая нявеста. Калі яна знікла за брамай шпіталя, на той жа дарозе з'явілася новая постаць – мажная, аж празмерна, маладая кабета з цяжкімі нагамі.

Дакульгала да аўтобуснага прыпынку ў Крэва. Затулілася пад тым дашкам. Пошта насупраць. Касцёл над ёю. Белымі каменьчыкамі выкладзены на пагорку тытул – Перамянення Пана. Там, каля пошты, спыніцца мая маршрутка.

– І куды едзеце? – чую п'янаватае пытанне ад немаладога зухаватага з вусікамі дзядзькі.

– Да Менску.

– Ага. Раней так і называўся, а цяперака – Мінск.

Дзядзька ўладкаваўся поруч на лаўцы ў зацішку ад церуслівай вільгаці і ветру.

– Добра вам, вы паедзеце, а вось я вярнуся, а ніхто не чакае. І я зусім не ведаю, што мне рабіць, чым займацца. Усё мне абрыдла, сумна... На пенсію вось сам пайшоў... Раней, бывала, усё было цікава... А два гады як без жонкі. Памерла... І як знікла ўсё... Рак. Думаю, можа пакрыўдзіў я яе чым, можа крыўдавала?.. Яна мне перад смерцю кажа: "Глядзі, Толя, раней часу не кладзіся ў труну..." А як тут жыць?.. Яна і сынам наказала: "Глядзіце, бацьку не крыўдзіце..." А як памірала, дык за руку мяне трымала да самай апошняй хвіліны... Да чацвёртай раніцы... А я яе і мыць вадзіў у лазню, які тут сорам, ніякага. Ты ж жанчына, зразумееш. А вяртаемся назад, яна ідзе і плача... А мне гэта ўсё на сэрца кладзецца... Эх...

Паціснула яму руку і са слязьмі пабегла праз дарогу на сваю маршрутку да Менска. Божа мой...

Справа ад сябе ў аўтобусе пабачыла азызлы мужчынскі твар, бы зляплены з цеста, якое не пусціш у справу, не ўявіш у ім булку. Твар – колеру піўных дрожджаў. Прымусіла сябе паглядзець у ягоны бок яшчэ раз, і што ж – паміж намі ўціснулася кабета з яркім ружовым ротам, і яе памада адцягнула позірк ад азызлага твару. Той бы аддаліўся ўглыб, расцярушыўся. Мой пагляд згубіў фокус, а твар страціў рэзкасць. Між намі ўладарна панавала ружовая пляма.

Гадоў пяць таму ўпершыню пабачыла ў тралейбусе, які рушыў па Багдановіча, жанчыну і хворую дзяўчынку. Можа быць, гэта былі бабуля і ўнучка. Жанчына вазіла яе ў адмысловую школу. Ножкі дзяўчынкі блыталіся, яна страшэнна кульгала, торгаючыся ўсім цельцам, а на чыстым тварыку кідаліся ў вочы ейныя вочкі – у якіх, здавалася, адстутнічаў фокус... На ёй была дыхтоўная, густоўна падабраная вопратка. Гледзячы спачувальна на дзяўчо, я не магла стрымаць шчырага захаплення яе спадарожніцай. Кабета гадоў пяцідзесяці мела неверагодна адухоўлены твар. Апроч таго яго рысы былі настолькі мілавіднымі, гарманічнымі ды годнымі, як бы насуперак відавочнай бядзе, якая апанавала гэтую сям'ю.

І вось сёння я ізноў пабачыла жанчыну і дзяўчыну. Па тым жа маршруце, які вёў па Багдановіча да спецыялізаванай школы. Дзяўчо падрасло. Падраслі і яе немачы. Доўгія ножкі па-ранейшаму чапляліся за прыступкі, чужыя і ўласныя ногі. На вачах былі чорныя акуляры, каб іншаму не адразу была заўважная яе хіба, яе нездароўе. У спакойным стане дзяўчына ціхутка сядела, склаўшы на каленцах ручкі, і яе пяшчотныя пальчыкі неяк надзвычай дакліва счапіліся паміжсобку ў мяккі жывы замочак... Такімі ж мяккімі і пяшчотнымі былі ейныя прыпухлыя вусны. Але ж як змянілася кабета! Я ведаю пра бязлітаснасць старасці, але гэтая старасць была несвоечасовая (хаця ці бывае яна іншай?). Ранейшымі засталіся хіба толькі стрыжка на светла-папялістых валасах ды дасканалая форма носа. Але штодзённы клопат папросту ўгрызся ў дагледжаны твар і перайначыў яго, перакроіў. Жалобныя складкі, зморшчыны, бледная скура, патухлы позірк. Так, найбольш змяніліся вочы. Калі б на гэтым жа твары ззялі выразныя вочы, ён бы працягваў свяціць і прыцягваць увагу, але яны змыліся, здрабнелі і спустошыліся. Іх выеў боль... Божа мой! Нічога не ведаю пра гэтую сям'ю, але разумею, як нішчыць нас няшчасце, як цяжка, невыносна цяжка супраціўляцца гэтаму выраку

лёсу, прыняць непазбежнасць, супасці з ёй... Божа, уратуй гэтых людзей! Божа, уратуй нас.

Людзі ў адносінах адно да аднаго – як дрэвы. Стаяць паблізу, але не робяць ані кроку насустрач. Хіба каторыя карэннем сплятуцца, ці галінамі дакрануцца.

Мінак, які выпадкова трапляе на вочы ў пярэстым натоўпе, падаецца знаёмым праз ўласцівыя яму колеры. Каляровая гама пэўных людзей – іх візітоўка...

Дзяўчына спіць у аўтобусе, уткнуўшыся ў плячо сяброўкі. Выбеленыя валасы абедзвюх спляліся, ногі ў смешным абутку вывернуліся палец у палец. Бязважкае ў сне цела страціла на час свае межы. Гэта потым яно ўстрапянецца, падцягнецца, збярэцца і засвеціць вачыма. Покуль жа яно спіць, і разам з ім спяць аранжавая куртка, джынсавы заплечнік, вузкія нагавіцы... Спяць непрытомным сном сваёй гаспадыні.

Едуць двое з вельмі бледнымі тварамі. Ён і яна. Яшчэ крыху і, здаецца, пачнуць свяціцца.. Белыя твары, цёмныя валасы, чорныя паліто, шнураваныя высокія боты. Роўналеткі. Ён так пяшчотна трымае яе за руку і ўказальным пальцам мякка-мякка пагладжвае па тыльным баку далоні... Хлопцы мне падаюцца больш пяшчотнымі за дзяўчат у пэўныя моманты.

У натоўпе людзей можна патануць.

## Праявы

Калі пачынаеш канцэнтраваць увагу і “адпускаеш галаву”, – раптам! прыадчыняецца цудоўны і прытульны свет гаваркіх рэчаў і маўклівых праяваў.

Нашу, цягаю за сабою камяк думак, уяўленняў, сумніваў, унутраных размоў, прыдуманых сітуацый і людзей. Сядаеш у машыну, зачыняеш хутка дзверы, а воблака-ком паспявае ўціснуцца ў шчыліну і замінае бачыць краявід...

Калі глядзіш на вязаную рэч, міжволі ўяўляеш, што яна ўбірае ў сябе шмат бягучых падзей тых дзён, калі ніткі нацягваліся на пруткі і выраcталі новыя цёплыя сантыметры. Цікава, што ўплятаюцца ў гэтую канву і думкі, якія, незалежна ад варушэння пальцаў, могуць наплываць ці то вялізарнымі глыбамі, ці то імклівымі ценямі, якія цяжка ўхапіць за бязважкае крыло. Мы носім на сабе, абмотваем вакол шыі, насоўваем на галаў пярэстых маўклівых сведкаў свайго жыцця, якія ўтойваюць і не даюць счытваць інфармацыю са сваіх носьбітаў. Усё навокал віруе ад насычанасці ведаў пра нас і хоча быць прачытаным, але дэшыфроўшчыкаў бракуе ці не стае ўвогуле. Рэчы гатовыя прамаўляць, але няма слухачоў, таму яны і ператвараюцца ў “рэч у сабе”. У маўклівую для нас рэч.

Калісьці я стаяла на гаўбцы і ўзіралася ў начное неба. Ззаду за шклом мякка свяціўся пакой, грала ціхая музыка, рухаліся родныя цені. Па гэты ж бок панавала летняя цемра апоўначы, а на небе адбывалася неверагоднае... Вялізарныя зоркі варушыліся ў межах сваіх сузор’яў, змянялі канфігурацыі, набліжаліся і аддаляліся. Ценем праплывалі па ўрачыстым небе міжпланетныя караблі. Аблічча зорнага неба было надзвычай святочным і ў той жа час трывожным. Маштаб падзеі рабіў мяне, што стаяла, задраўшы галаву, амаль нерухомай, у той час як там, у вышыні, усё жыло поўнай, высокай мерай. Душа мая заходзілася ад велічы,

ад урачыстасці моманту. Учапіўшыся ў парэнчы, не магла нават азірнуцца, каб паклікаць кагосьці ў сведкі. Нават у сне (а гэта быў сон) я разумела, што ў маім жыцці і лёсе мусяць неўзабаве паўстаць непазбежныя змены. Усё няўмольна зрушыцца за маёй спінай. Канфігурацыі ценяў, святло і музыка дома.

У сне можна пачуцца на вялізарнай адлегласці. Я кажу штосьці нягучнае таму, хто стаіць каля аўтобуса, меншага за запалкавую пушачку, і чую зычны адказ. Паветра пераносіць нашыя галасы, ці хутчэй ягоная адсутнасць? Здаецца, што дзея адбываецца на іншай планеце...

Усё часцей чую словы, якія не былі прамоўленыя, разумею намеры за момант да іх здзяйснення, "счытваю" думку суразмоўцы, схаваную ім падалей... Ад гэтага і дзіўна, і вусцішна.

Маё пасаванне перад жыццём (некаторымі яго праявамі) з-за таго, што не магу перакрочыць праз іншага чалавека. Кожны, нават самы неўгрунтаваны ў гэтае жыццё, мае коды, сваю метафізіку, нават калі і не здагадваецца пра гэта. Ён таксама мае правы. Ніякага спаборніцтва тут быць не павінна.

Вырыла з нетраў натуру свайго перфекцыянізму. Ён адмысловы. Не тычыцца ўпарадкаванасці побыту, справаў, думак, рэчаў. А толькі стасаванняў паміж людзьмі. Проста хварэю ад відавочных несупадзенняў, падставаў, слепаты, глухаты ды абыякавасці адно да аднаго.

У цьмяным змроку ночы глыбока ў целе адбываюцца ціхія землятрусы і мяккія тэктанічныя зрухі, абуджаюцца генетычныя вулканы і зіхатлівыя гейзеры... Штосьці адслойваецца, а штосьці прырастае. Недзе замыкаюцца, а дзе-нідзе расчыняюцца нябачныя брамы, каб выпусціць старое і запусціць новае. Ці наадварот.

Бываюць дні – падножкі. Падаеш адразу з некалькіх уласных прыступак.

Натхняльнае, нават урачыстае пачуццё свабоды, якое, бывае, радасна затапляе дарэшты, складаецца, як ні дзіўна, з удзелу і ўплыву шматлікіх людзей, уяўную «свабоду» ад якіх ты святкуеш.

Бывае, што не можаш згадаць слова, назву, імя, прозвішча ці што заўгодна, і пакутуеш праз гэта. А пасля забытае слова пачынае набрыньваць формай, колерам, нават пахам ці настроем, звязаным з ім, і нарэшце слова з'яўляецца. То бок, слова мае вобраз, і менавіта ён першым "праяўляецца" ў памяці, а пасля і літаркі складаюцца.

Сёння з мяне знялі пёрка (гусінае?), лісцік, нітачку белую, парушынку з валасоў... – і я вельмі стамілася.

Дзіўнае адчуванне зверхнасці. Нібы ўсё, што адбываецца, хай ты нават знаходзішся ў самай сярэдзіне падзеі, мае нічым не пазначаную адлегласць. Ты можаш горача рэагаваць, тупаць нагамі, крычаць, але ўсё, што адбываецца ў гэты момант, будзе дзіўным чынам бачыцца яшчэ нейкім бакавым поглядам. І там, у тым безназоўным месцы, не будзе крыку і ляманту, грукату і абразаў, там будзе панаваць боскае разуменне гаючай дыстанцыі.. Можа быць, з такой адлегласці глядзіць бессмяротная душа?

Калі доўга ехаць цягніком – дзень-два-тры, то пасля прачынаецца ўнутраны Шатун, які яшчэ пэўны час будзе разгойдваць і завальваць далягляд. Калі доўга сядзець на беразе вялікай бягучай ракі, пасля за заплюшчанымі вачыма пачынае плюскатаць відзежа зеленкавата-сталёвага зыбу. Так грыбнікам мрояцца грыбы, ягаднікам – ягады, рыбакам – рыбы, а нерухомым назіральнікам – паспалітае рушэнне вады.

Аднойчы малая дачка сказала, што наш сусвет знаходзіцца на кончыку языка сабакі (так яна падумала). А мы са школьнай сяброўкай Ірай уяўлялі сабе наш сусвет сінім плашчом, на манжэце якога месціцца нашая галактыка. А вось што па-за плашчом, па-за сабакам?

## Гісторыя

Дачка рыхтуе ўрок па сусветнай гісторыі. Тэма – паходы Напалеона Банапарта... Парыж, Ватэрлоо, востраў св. Алены...

– А ці ведаеш, кажу я дачцэ, што твая пра-пра-прабабка Агаф'я, якая пражыла больш за 100 гадоў, бачыла Напалеона на свае вочы, калі ён праходзіў праз Дуброўна, што непадалёк ад Воршы? Пра гэта распавядаў мне твой прадзед.

– Вось дык так! – здзіўляецца яна.

– А другі твой прадзед, што жыў у Ваўкавыску, капаючы ў канцы 30-х гадоў калодзеж, падняў з вялікай глыбіні на паверхню цэлую жменю ракавак.

– Значыць, там, дзе стаіць цяпер наш дом, калісьці было мора? – пытаецца дачка.

– А памятаеш, тваёй першай настаўніцай у школе была ўнучатая пляменніца выдатнага гісторыка Мікалая Улашчыка, а на суседняй ад нас вуліцы жыў аўтар славутых «Зорачак» – Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн?

Як дзіўна, вырашаем мы абедзве. Якой блізкай можа быць далёкая гісторыя. І тое, што пазней, магчыма, увойдзе ў падручнікі, – сёння поруч з намі...

Чытаю кнігу Змітра Бартосіка пра верабейку гаварушчага і згадваю, як мы з сябрамі блукалі па заслаўскім наваколлі ды шукалі старажылаў, каб хто з іх распавёў (!) – а раптам! пра Рагнеду. Можа, што чулі калі ад бабуль ды дзядуль. Выніку – нуль, зразумела. І вось у самім Заслаўі заходзім у двор, дзе бразгоча вядром сталая няветлівая кабета. Можа, ведаеце што – пытаемся. Яна махае рукой, маўляў, нічога не ведаю, хіба матка мая ведае, але яна ўжо нічога не цяміць... За паркалёвай фіранкай ляжала худзенькая зусім нямоглая бабулечка... Але ж, пачуўшы вітанне ды пытанне, засвяцілася тварам і вачыма (заўсёды буду памятаць гэтае пераўтварэнне!). Згодна заківала галавой: "Ведаю-ведаю пра Рагнеду, мая бабка распавядала... Калі Рагнеда на кані праз роў скакала, дык грабеньчык згубіла. Во-о, там той роў..." – махнула худзенькай рукою ўбок... Марыі Вашкевіч тады, у 1991 годзе, было 102 гады. Магчыма, гэта была самая апошняя жывая згадка пра Рагнеду на Беларусі.

Тады ж запомнілася і сталая мажная жанчына з Заслаўя, жонка колішняга рабіна. Распавяла толькі, што той, калі нават немцы яшчэ не прыйшлі, сабраў усе свае кнігі ў вузел ды на возе завёз у лес і закапаў. Рабін загінуў. Кнігі ляжаць недзе пад каранямі.

Кароткі слоўнік старабеларускай (актавай) мовы 16-17 ст., якая перадае вялікую палітру знаёмых адчуванняў:

вархол – сварка, спрэчка, калатня, нязгода, нелады
вонтпливость – сумненне, недавер, асцярога
васнь – злосць, гнеў, варожасць, сварка
весполок, восполок – разам, сумесна
вокомгненье – імгненна

вырекати – адмаўляцца, адракацца
добротливость – дабрата, спачувальнасць
докука – турбота, клопат; непрыемнасць
долеглость – крыўда, уціск, знявага; нямогласць
забытъностъ – страта памяці
заваснене – нязгода, спрэчка, варожасць
зайсте – інцыдэнт, сутыкненне, цяжба, сварка, спрэчка
запоможенье – дапамога
зацный – сумленны, прыстойны, шаноўны, радавіты
зезволене – згода, дазвол
зрайца – здраднік
крес – апошняя рыса, мяжа
литовати – шкадаваць, берагчы
обетница, обетность – абяцанне
облудны свет– прывідны, зданевы, міражны; фальшывы, падманны
обослати – паведаміць
одъменность – зменлівасць, недаўгавечнасць
опустити – пакінуць без увагі, занядбаць
поволность – добрыя адносіны, добразычлівасць
преможене – магчымасць
розница, розность – адрозненне, нязгода, разыходжанне
розрухъ – раскол; разбурэнне, развал
роспрошене – раздрабленне, распыленне
скаженье – знішчэнне, разбурэнне
скутак – вынік, канец
уближати – зневажанне, абраза, крыўда
фрасунок – сум, туга
хуть – дабразычлівасць, жаданне
щадки – нашчадкі
щодробливе – дабрачынна

Наша зямля – суцэльны Babilon. Каго тут толькі не сустрэнеш, гартаючы старыя архіўныя дакументы: селяніна Пілата, мяшчанаў Буша, Коля ды Шродэра, нейкага Бабая, двараніна Гедыміна, ляснога аглядчыка Шумахера, Хведара са Свіслачы (малой радзімы таго, каго няма) з прозвішчам Нішто, а таксама вёску Мерлін, хутар з назвай Белы Дзед, урочышча Божы Дар ды чалавека са Слонімшчыны – Яна Зімапада...

Кожны чалавек мае свой уласны Архіў (памяці). А чытальная/глядзельная зала ў ім – нашыя сны.

Валянцін Акудовіч



…мне і яшчэ аднаго жыцця не хопіць,
каб пра кожнага сказаць
колькі добрых словаў…

# На рыштаваннях горада Сонца

## *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

**Андрэй Хадановіч** неяк сказаў мне: што б я ні рабіў, чым бы ні займаўся, найперш я – паэт.

Хто б запярэчыў? Але для мяне ён у сваім цэлым нешта значна большае за паэта. Андрэй Хадановіч – *падзея* нашай культурніцкай сучаснасці. Менавіта таму мае хронікі ніяк не могуць без яго абысціся.

А што да паэзіі як такой, дык я пра яе шмат пісаў у агульным праекце ўкраінцаў і беларусаў "Зв'язокрозрив" / "Сувязьразрыў" (2006). Гэта ёмісты зборнік паэтаў (12 на 12) з паралельнымі перакладамі на беларускую і ўкраінскую мовы. Натуральна, завадатарам з беларускага боку быў Андрэй Хадановіч.

Дык вось, Андрэй запрапанаваў мне скласці прадмову для беларускага блока. Я пагадзіўся з умовай, што буду пісаць як думаю сам, а не як пішуць звычайна.

– Таму вам і прапаную, – запэўніў Андрэй.

Не залянуюся передрукаваць пачатак таго, у арыгінале

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-107.*

досыць вялікага эсэ, якое раней не меў магчымасці публічна прысвяціць Андрэю Хадановічу. Што і раблю зараз.

“Той, хто ўмее нешта рабіць, – робіць, а хто нічога не ўмее, – піша вершы. Суадносіны першых і другіх на нашай зямлі нескладана вылічыць, калі мы прыпомнім, што Беларусь традыцыйна называюць «краінай паэтаў». Вядома, якое там жыццё ў краіне, дзе няма ні бізнесоўцаў, ні эканамістаў, ні палітыкаў, а спрэс паэты... Але я тут не пра жыццё, а пра паэзію – іх нават у Беларусі атаясняць робіцца ўсё больш праблематычна. Прынамсі, «бізнес-план» песняра пачатку XX стагоддзя *з цэлым народам гутарку весці* на пачатку веку наступнага выклікае адно сарамлівы посмех. Хаця далей не прамінем згадкай, што ў сваю пару заданне класіка было амаль рэалізаванае, калі за камуністамі паэта прызначылі выконваць ролю атэістычнага дэміурга ўсяго секулярызаванага дыскурсу, калі толькі яму аднаму было дазволена зазіраць у катакомбы нябёсаў (дзе ў марудзе вечнасці спеляцца блакітныя эйдасы), каб пасля бадзёра апавядаць народу пра *шолах моўчы*...

Ах, які пераменлівы наш свет, якое хісткае пад ім трываліўшча! Яшчэ за нашай памяццю на галаве паэта быў лаўровы німб, а цяпер там клабук блазна, яшчэ ўчора ён піў на брудэршафт з уладарамі свету, а сёння ўжо пахмяляецца сярод бамжоў на сметніку культуры, яшчэ кагадзе цараваў у дзяржаве прыгожага пісьменства, а сёння блукае інфернальнай зданню па руінах краіны, дзе ніхто не жыве...

Аднак не варта лішне нурыцца. Урэшце, сітуацыя «паэзіі без паэта» (не блытаць са «смерцю аўтара») мае і пэўныя выгоды – прыкладам, яна вызваляе паэта ад адказнасці перад грамадствам (маўляў, калі ты на мяне не звяртаеш увагі, дык і я цябе ведаць не ведаю)”.

***

І ўсё ж такі яшчэ трохі пра паэзію. Паводле часавага вымярэння, паэт Андрэй Хадановіч пачынаўся з *эпохі* Бум-Бам-Літа, але ён не хацеў нічога з ім мець агульнага. Магчыма таму, што сам у сабе прадчуваў уласную *эпоху*.

Яго паэтычны росквіт быў імклівым і святочным. Таму на яго выступы спяшаліся паглядзець усхваляванымі натоўпамі, як на веснавы квецень сентыментальныя японцы. Высокі, прыгожы, самаіранічны і паблажліва скептычны да хоць якой кепскасці. Вершы Андрэя трымалі замілаванне на тварах слухачоў праз усю сустрэчу.

Недзе тады я пісаў, што праз паэзію Андрэя Хадановіча беларусы зноў пачалі чытаць і слухаць сваіх паэтаў.

На вялікі жаль, гэты час веснавога абуджэння не задоўжыўся. Ужо досыць даўно выдавецтвы друкуюць паэтычны кніжыцы адно за грошы саміх аўтараў, а тыя потым не ведаюць, куды гэтыя кніжыцы падзець. Бо нават на паэтычныя вечарыны прыходзіць адно нейкі тузін слухачоў (у лепшым выпадку).

***

*Хадановіч* мог бы быць сінонімам дзейнага руху, каб прозвішчы сінанімізаваліся. Здавалася, што ён адначасна ўдзельнічае ці не ва ўсіх літаратурных імпрэзах не толькі нашай краіны, але і шмат дзе па-за яе межамі. Таму зусім невыпадкова, што яшчэ даволі маладым чалавекам яго абралі старшынёй беларускага ПЭН-цэнтра. Імклівы час пакажа, што гэта быў прарочы выбар (калі не памыляюся, з прапановы Уладзіміра Някляева).

*Ад веку* сонны ПЭН з гэтай падзеі прачнуўся і працёр вочы. Вохці мне, сказаў ПЭН, вакол столькі справаў ды магчымасцяў, а мы спім.

Андрэя пераабіралі на пасаду некалькі тэрмінаў, агулам ён узначальваў ПЭН з 2008 па 2017 гады. І гэта быў час насамрэч плённай працы. Я тут не маю на-

меру пераназываць увесь той наробак – усё роўна ніхто не дасць веры. Згадаю адно некалькі найбольш важкіх праектаў. Разам з Саюзам пісьменнікаў ПЭН (праз удзел польскай амбасады) стварыў самую значную прэмію ў літаратурнай Беларусі – імя Ежы Гедройца, а пазней прыдумаў (таксама разам з Саюзам) вельмі сімпатычны міжнародны фестываль у гонар Міхася Стральцова "Вершы на асфальце". Да шэрагу значных падзей я б залічыў і "Дом творчасці" ў Літве для маладых беларускіх літаратараў. А яшчэ ў тым жа "звязе з Саюзам" – літаратурную прэмію "Дэбют" (мецэнат Павал Бераговіч)...

Аднак рушым далей.

***

Дзіўная ў мяне звычка цягам гэтых няспешных хронік часам перацытоўваць самога сябе. Ну дык і хай сабе. Распавядаючы пра часопіс "Крыніца", я пісаў: "Аднойчы ў рэдакцыі аб'явіўся тады яшчэ мала каму вядомы Андрэй Хадановіч і сказаў, што хацеў бы далучыцца да стварэння *постацяў* замежнікаў. І не проста выказаў жаданне, а прапанаваў і адпрацаваў цэлую праграму: Бадлер, Ейтс, Маларме, Паўнд, Апалінэр...

Было б відавочным перабольшваннем казаць, што ўжо тады я прадбачыў – Андрэю наканавана быць заснавальнікам новай школы беларускага перакладу. Хаця той імпэт ды майстэрства, з якімі гэты малады хлопец падхапіўся рэалізоўваць сваю праграму, казалі пра адметныя магчымасці і не абы-які версіфікацыйны патэнцыял..."

Сёння пра гэта можна пачуць з самых розных вуснаў, але фармальны зачын гэтай школы я схільны звязваць з Беларускім калегіюмам, дзе пры аддзяленні "філасофія/літаратура" была арганізаваная "Перакладніцкая майстроўня Андрэя Хадановіча", якая праіснавала досыць доўга.

Цудоўна гэта апісала Марыя Мартысевіч.

"У пясочніцы корпаюцца паэты. Мы, перакладчыкі, акупавалі жалезную горку і ўпарта зьяжджаем па ёй, раз-пораз больна адбіваючы сабе азадкі. Часам азіраюся і з радасьцю бачу: чарга да горкі ўсё расьце. Многім рупліўцам, якія толькі ўступаюць у нашую культуру, Хадановіч проста і ясна адказаў на пытаньне, "навошта" перакладаць. Засталіся пытаньні "што" і "як" – справа густу і тэхнікі. Дзьве апошнія рэчы мы і кшталтуем у перакладчыцкай майстэрні Беларускага калегіюму. Мае бацькі лічаць, што занятак цягам трох гадзінаў – гэта ненармальна. І напраўду: тое, што адбываецца падчас абмеркаваньня перакладаў, нармальным акадэмічным працэсам не назавеш. Але, па-мойму, гэта і ёсьць *школа*, калі вы разумееце, пра што я".

Але ж не толькі перакладчыкі зведалі жыватворны ўплыў Андрэя. Цэлая генерацыя маладых паэтаў таксама глядзела на яго, як старагрэцкія падшыванцы на Апалона. (Ужо ў стылістыцы нашага тысячагоддзя тая ж Марыйка назвала Андрэя "літаратурным піянерважатым".)

***

Роля перакладчыкаў у інтэлектуальнай гісторыі беларускага часу надзвычай істотная. І, зразумела, не з майго героя яна пачыналася. Я толькі да месца яшчэ раз згадаю вялікага класіка Васіля Сёмуху, неверагодна плённага Лявона Баршчэўскага, вытанчанага *сібарыта* Сяргея Шупу...

Разам з тым, нічога падобнага да той навалы перакладной літаратуры, якую мы бачым у апошнія гады, ніколі раней не назіралася.

Толькі далей я радыкальна зламаю канструкцыю аповеду, каб у колькі словаў сказаць сёе-тое аб прыватным.

Прыўкрасная гісторыя маіх стасункаў з Андрэем бязладна разбэрсаная як па

абшарах Айчыны, так і за яе межамі. Нам здаралася спаць у адным намёце і не аднойчы плаваць у адной байдарцы, спяваць ля вогнішча пад гітару песні Хадановіча, Акуджавы, Коэна, чытаць лецыі ў Беларускім калегіюме і люта змагацца ў журы прэміі “Дэбют” з Генадзем Бураўкіным, каб пераможцам быў абраны Андрэй Адамовіч з яго хуліганіста-мудрым зборнікам вершаў “Дзень паэзіі смерці дзень”.

Натуральна, я і кранаць не буду тое мноства агульных выступаў на рознага фармату культурніцкіх імпрэзах. Лепш напрыканцы згадаю адну палітычную падзею.

Не ведаю, як у іншых, а ў маіх стасунках з Андрэем *палітыка*, здаецца, увогуле не прысутнічала – нават у звыклых на тую пару абгаворах улады пры сустрэчах. Дык вось...

Вечарам пасля выбараў Прэзідэнта (снежань 2010) на Кастрычніцкай плошчы сабралася цьма народу. Трохі пазней маніфестоўцы, апаланіўшы ўвесь праспект, перарушылі на плошчу Незалежнасці. Там ужо, ускараскаўшыся на пастамент Леніну, па чарзе выступалі палітыкі. Гучалі заклікі захапіць горад. Правакатары пачалі штурмаваць дзверы Вярхоўнага Савета. Чорныя калоны апапаўцаў заварушыліся. Трывога імкліва нарастала...

І тут на пастаменце апынуўся Андрэй Хадановіч і па-беларуску заспяваў песню Яцэка Качмарскага “Муры”.

Нягледзячы на трывогу, я пасунуўся наперад, каб лепей чуць Андрэя, і нечакана сутыкнуўся з Уладзімірам Арловым. “Пайшлі яшчэ бліжэй да помніка, – паклікаў ён, – бо пасля Хадановіча мне выступаць”.

Толькі Уладзімер не паспеў агучыць сваю прамову, бо *муры* з дубінкамі рушылі на нас, і пачалася бойня. У тую ноч было арыштавана больш як 700 чалавек, і арышты працягваліся яшчэ ў наступныя дні...

Пры першай сустрэчы з Андрэем я выказаў сваё захапленне яго мужнасцю. Ён мне нічога не адказаў, толькі хітнуў галавой. А я пасля развітання здагадаўся, што, нягледзячы на ўсё наша агульнае былое, я не ведаю гэтага хлопца ў нечым самым галоўным.

А, можа, і не варта зазіраць у прадонне паэта? Нават такога жыццядайнага.

Спаць будзе спакайней. А наўзамен прапаную ў рэшту яшчэ адзін яго не абы-які верш з апошняй кнігі “Школа травы”.

*Ён мальцам на спевы бегаў штодня,*
*ды ўночы было цікавей,*
*калі на падворку спярша цішыня,*
*а потым пяяў салавей.*

*Яму падпявала вярба ля ракі*
*і конік фальшывіў між траў...*
*А потым бяда. Салаўя на шматкі*
*суседскі кот разадраў.*

*І хлопцаў душылі слёзы і гнеў,*
*а ён ім: “Птушку шкада,*
*ды гляньце, ён тыдзень нічога не еў,*
*давайце накормім ката”.*

*Бо ў іхнім двары шмат было прыбышоў,*
*суседзяў было – цэлы свет,*
*і ўсім было добра, пакуль не пайшоў*
*вайной на суседа сусед.*

*І ўсім было кепска, ды скончыўся бой –*
*і хтось запяяў салаўём:*
*"Вось вораг, што прагнуў забіць нас з табой, –*
*давай мы яго заб'ём!"*

*І ўсіх паяднаў справядлівы парыў,*
*і помста біла хвастом...*
*А ён ім: "Вораг наш дом разбурыў,*
*давайце збудуем дом".*

*Казаў ім: "Калі не любіць цэлы свет,*
*не зможаш любіць і свой двор..."*
*Жыў доўга, ды неяк на досвітку дзед*
*пакрочыў у рай, бо памёр.*

*"Ты шмат памыляўся, – сказалі яму, –*
*ды ўсё-такі жыў, як след.*
*Ты варты, пакінуўшы цела-турму,*
*пяяць з намі Госпаду, дзед!"*

*А ён: "Я для спеваў занадта стары,*
*бо сёння на досвітку ўмёр.*
*Ваш хор салодка фальшывіць, сябры, –*
*давайце скасуем хор".*

***

Ад пачатку гэтая кніга мне ўяўлялася як гісторыя дойлідаў, што, закасаўшы рукавы, расцерабілі глухое ляда, каб на вызваленым месцы ўзножыць Белую вежу беларускага мыслення. Такой яна і рабілася. Таму маімі героямі пераважна былі тыя, хто ствараў альманахі, часопісы, энцыклапедыі, выдавецтвы, адукацыйныя праекты, дыскусійныя клубы... І для мяне не мела асаблівага значэння, што пры гэтым яны яшчэ пішуць філасофскія тэксты, прозу, паэзію, эсэ, драматургію, крытыку...

Не – падманваю. Я моцна цешыўся з іх творчых набыткаў, калі яны пашыралі інтэлектуальны кантэкст, толькі не аўтары самі з сябе былі ў гэтай справе загалоўным чыннікам, а стваральнікі дыскурсаў. (Чытайце Мішэля Фуко.)

Аднак калі з *дойлідамі* я ўжо з большага ўправіўся, мне адкрылася жахлівая хіба маёй канцэпцыі – у ёй не было месца тым, хто і не збіраўся займацца дойлідствам як такім. Яны прагнулі ствараць толькі саміх сябе і берaглі адно ўласную свабоду. Але пры гэтым іх творчы эгаізм для агульнай справы часам апынаўся нават больш важкім, чым высілкі тых, хто не разгінаў спіны.

Я пачаў згадваць усіх гэтых збыт таленавітых лайдакоў і хутка пералякаўся. Мне і яшчэ аднаго жыцця не хопіць, каб пра кожнага з іх сказаць колькі добрых словаў. Дзеля гэтага трэба мець наперадзе вечнасць, як у Бога. А я ўсяго толькі чалавек, ды яшчэ з адным вокам.

***

Каб мацней адцеміць гэтую драматычную для мяне праблему, пачну дзеля выразнасці з гранічна эгацэнтрычнага **Альгерда Бахарэвіча**. Ён, як жолуд, увесь сам у самім сабе, нават калі, асыпаўшыся з вышыні, ляжыць покатам побач з іншымі.

Нейкі час Альгерд моцна сябраваў з Бум-Бам-Літам. Аднак нешта мне падказвала, што ён ужо тады не хацеў ні з кім сваім талентам дзяліцца.

У ягоным эсэ "Акудовіч. Балота. Дыскурс" ёсць наступны фрагмент:

"У 90-я Акудовіч быў першы літаратар старэйшага, значна старэйшага за маё пакаленьня, які раптам падтрымаў Бум-Бам-Літ. Тады ён ставіўся да мяне досыць скептычна, стрымана ўхваляў скандальныя вершы, друкаваў і іх, і прозу, і пры гэтым, напэўна, не чакаў занадта шмат. А я вось чакаў.

Памятаю, як Акудовіч дужа ўразіўся, калі я сказаў, што буду пісаць прозу. "Вы, Альгерд, хочаце быць як Шамякін?" – пацьвельваў ён. "Хачу!" – рашуча адказаў я аднойчы, і Акудовіч мне паверыў. Ён падтрымаў мяне, калі я зрабіўся эсэістам – і, думаю, не прагадаў".

Альгерд таксама не прагадаў. Ужо пасля першых традыцыйных аповесцяў яго заўважылі ў паасобку ад Бум-Бам-Літа. А пасля кніжкі "Ніякай літасці Валянціне Г." пра Альгерда, як кажуць у літарацкіх колах, *загаварылі*. Тады Анатоль Івашчанка (часопіс "Дзеяслоў") і прапанаваў мне напісаць пра яго.

Я адгукнуўся на прапанову...

"Пачну, як гэта ні дзіўна, з п'есы "Мізантроп". Не самая знакамітая з п'есаў Мальера, аднак мне яна найлепей запомнілася. І вось чаму. У маладыя гады я прагнуў любіць людзей – усіх! Калі заўгодна – тады гэты было першасным заданнем маёй жыццядзейнасці, якое я пэўны час нават паспяхова выконваў. Але потым са мной нешта здарылася і людзі мне раптам абрыдзелі – усе ды разам. Я нікога не хацеў ні бачыць, ні чуць і ўвесь час думаў, куды б мне збегчы, каб нідзе нікога...

З гэтага свайго стану я добра такі жахаўся, бо ў тадышнім маім даўменні не любіць людзей агулам маглі толькі вычварэнцы. І я, нечакана для самога сябе, апынуўся адным з іх. Натуральна, мне было гідка...

На маё шчасце, якраз тады я чытаў п'есы Мальера і сярод іх – "Мізантроп". Галоўны герой быў адмоўным персанажам і таму не выклікаў асаблівых сімпатый. Але яго бязлітасная і бліскуча аргументаваная аналітыка чалавека як *a priori* заганнай істоты, што паводле азначэння (з гледзішча мізантропа) не падлягае любові, мяне неверагодна ўразіла і разам з тым суцешыла. Бо я ў адначассе зразумеў некалькі надзвычай істотных для сябе рэчаў:

а) мой стан не ёсць нейкай паталагічнай хібай, паколькі паходзіць з досыць пашыранай з'явы, якая мае нават легітымную назву – мізантропія;

б) чалавек немагчымы як чалавек без свайго цёмнага боку, дзе прытоеныя зламыснасць, хцівасць, нянавісць, здрада, сквапнасць і яшчэ безліч усякага такога, што a priori не можа ахопліваецца любоўю. З чаго атрымліваецца, што любіць усяго чалавека паводле азначэння нельга, а можна любіць толькі яго светлую перспектыву;

в) да таго ж любіць чалавека зусім і не абавязкова, бо не на любові чалавека да чалавека трымаецца свет (любоў яго толькі ўпрыгожвае), а на адказнасці кожнага з нас і перад другім чалавекам і перад быццём як такім.

Коратка кажучы, сваім "Мізантропам" Мальер досыць аператыўна вылечыў мяне ад мізантрапіі, і надалей падобных мітрэнгаў я ўжо ніколі не меў...

Перакінулася шмат год, перш чым я зноў узгадаў "Мізантропа" ды сваё вызбаўленне ад заганы чалавекалюбства – і гэтая згадка была з'ініцыяваная прозай Альгерда Бахарэвіча. Дзеля ўласнага карыстання я яе адразу пазначыў як *мізантрапічную*, бо апісанне чалавека ў Альгерда Бахарэвіча было такім жа бязлітасным, як і ў героя Мальера. Але паколькі панятак "мізантропіі" ў грамадскай свядомасці беларусаў усё яшчэ поўніцца адмоўнымі канатацыямі, дык да гэтай пары я не выкарыстоўваў яго публічна. На тое ў мяне мелася як мінімум дзве грунтоўныя прычыны. Па-першае, Альгерд Бахарэвіч глыбока сімпатычны мне як чалавек, і я не хацеў, каб які зласлівец з маіх развагаў прычапіў яму мянушку "мізантроп". А па-другое, ужо з дэбюта Альгерда Бахарэвіча відавочнілася, што

гэта не проста яшчэ адна кніжка, напісаная прозай, а сакральны акт нараджэння Празаіка. І таму было б зусім неабачліва яшчэ кволы парастак сакральнага публічна выпрабоўваць прафанным.

Да таго ж я тады яшчэ згадаў, што лічы кожны вялікі празаік, як мінімум, латэнтны мізантроп. Найлепшым сведчаннем таму агульнавядомы факт, што ва ўсёй сусветнай літаратуры адмоўныя героі эстэтычна куды больш яркія і псіхалагічна больш пераканаўчыя, чым станоўчыя. Бадай, пасля аўтара "Апакаліпсіса" самым вялікім мізантропам сярод пісьменнікаў быў Дантэ, з чаго мы і атрымалі геніяльнае "Пекла", куды ён паскідаў усіх ненавісных яму людзей ("Чысцец" і "Рай" у той жа "Боскай камедыі" не шмат чаго вартыя, раўнуючы з "Пеклам"). І нават такія па-чалавечы сімпатычныя героі, як Дон Кіхот ці Швейк, ёсць нічым іншым, як прыхаваным здзекам Сервантэса і Гашэка з лялечна абфарбаванага чалавека, якога грамадства прымушае нас любіць. Што ўжо тут казаць пра сучасную літаратуру. Згадаем хаця б Мішэля Уэльбэка, феномен папулярнасці якога цалкам абумоўлены татальна мізантрапічнай візіяй як кожнай людзіны паасобку, так і ўсяго сусвету агулам.

І яшчэ, хоць ужо трохі пра іншае. Неяк чытаючы Ніцшэ, я зразумеў адну простую рэч: творчасць – гэта найперш адвага. І калі я для себе як адну з верагодных перспектываў беларускай прозы звязваю з постаццю Альгерда Бахарэвіча, дык гэта перадусім таму, што ў Альгерда мужнае пісьмо, якое не палохаецца адваротнага (цёмнага) боку чалавека. Я аддаю належнае яго гнуткаму і пругкаму стылю, умельству "натуральнай афарбоўкі" псіхалагічных сітуацыяў, інтэлектуальнай насычанасці і да таго падобнаму. Але ўсё гэта толькі талент...

Між іншым, шмат хто лічыць, што для літаратара акрамя таленту болей нічога і не трэба. Так, для шараговага пісьменніка дастаткова ўсяго толькі таленту, аднак маштабныя фігуры паўстаюць на зусім іншым подзе.

Ці ёсць у нашага героя маштабная перспектыва? Наперад такое ніхто напэўна не скажа. Але тое, што мізантрапічна мужнае пісьмо Альгерда Бахарэвіча не ведае літасці ні да наратара, ні да чытача, ні да, натуральна, "Валянціны Г.", дае падставы спадзявацца на нешта большае, чым мы атрымліваем звычайна...

Пакуль што самае слабое месца Альгерда Бахарэвіча – гэта, як раней любілі казаць, архітэктоніка ягоных твораў. За рэдкім выключэннем, у іх разбэрсаная структура і рыхлая кампазіцыя, лакальныя фрагменты і сітуацыйныя перыпетыі дамінуюць над цэлым, а дэталь нярэдка падпарадкоўвае сваёй прыхамаці вобраз. З усяго гэтага драматургія часта заблытваецца сама ў сабе і, каб злучыць у нешта супольнае канцы і пачаткі, аўтар змушаны рабіць штучныя захады (не абумоўленыя ўнутранай логікай аповеду).

Зрэшты, на ўвесь гэты структурна-фармалістычны вэрхал чытач, здаецца, не звяртае ўвагі. І, магчыма, мае рацыю".

***

Мой прагноз спраўдзіўся. Альгерд Бахарэвіч досыць хутка зрабіўся ці не самым знаным сучасным празаікам, хаця праблемы з «архітэктонікай» засталіся. Найбольш выразна гэта засведчыў яго як бы раман «Сабакі Еўропы» ў 900 старонак.

Натуральна, ніякі гэта не раман, а важкі (у розных сэнсах) зборнік літатурных тэкстаў. Да таго ж тут не толькі проза (аповесці, апавяданні), але і нізкі вершаў. Хаця і невялікая кніжка "Дзеці Аліндаркі", ад якой я ў замілаванні, пакінула непрыемны прысмак стуктурнай і кампазіцыйнай неахайнасці, з якой і ўзнікае пачуццё недазавершнасці твора.

Зрэшты, я тут не маю жаднага намеру працягваць аналітыку ўласна прозы Альгерда, бо па сапраўднаму мяне цікавіць толькі яго эсэістыка. Што і натуральна, пакольки мае хронікі найперш пра сучаснае беларускае мысленне, якое найлепей

выяўляецца ў жанры інтэлектуальнага эсэ. Дарэчы, калі мяне пытаюцца, што я тут маю на ўвазе, то ў тлумачэннях найперш згадваю слыннае выслоўе Рэне Дэкарта “Gogito ergo sum” (“Я мыслю – значыць, існую”). Дык вось, першая частка гэтага выслоўя “Я мыслю...” і ёсць інтэгральнай матрыцай эсэ. Няма эсэ без твайго ўласнага “Я” перадусім, але і няма эсэ без “Я”, якое мысліць.

Разам з тым не трэба блытаць эсэ з філасофскім трактатам. Бо, калі быць больш дакладным, дык эсэ – не зусім чыстае мысленне, а вольнае дыханне мыслення. Гэта значыць, што эсэ мысліць не толькі ўласна мысленнем, а ўсёй сваёй дрогкай субстанцыяй.

Пакуль Альгерд станавіўся вядомым празаікам, я і думаць не думаў, што ў ім набрыньвае і просіцца на людзі адметны эсэіст, з’яўленне якога на свет прыспешыла радыё “Свабода”, дзе раней за іншых адчулі яго эсэістычны патэнцыял і прапанавалі весці аўтарскую перадачу з дзіўнай назвай “Малая медычная энцыклапедыя (Бахарэвіча)”.

Ужо першая гурма як бы медычных эсэ засведчыла, што ў нашай эсэістыцы з’явілася сапраўдная зорка. Таму цалкам натуральна, што неўзабаве гэты радыйны наробак быў выдадзены асобнай кніжкай.

Але і пасля правакатыўных гісторый, якія здзекваліся з чалавека як цела, ніхто не чакаў таго, што здарыцца неўзабаве. Наступны цыкл перадач называўся “Гамбургскі рахунак”. Альгерд прааннансаваў, што зробіць агледзіны савецкай літаратурнай класікі паводле самага высокага, гамбургскага рахунку, не зважаючы на лаўрэацтвы, помнікі ды ўсялякія іншыя прэміі і хваласпевы.

І зрабіў. Больш за тое, ён такога нарабіў, што не меней як год уся літаратурная грамадскаць (і не толькі літаратурная) шумела, нібы той гай у буру.

Як раз’ятраны вяпрук, аўтар шалёна гойсаў па завалах літаратурнай саветчыны і без хоць якой спагады шкамутаў папяровыя лыткі ўганараваных класікаў. Філалагічна адукаваны народ нейкі час трываў гэткі здзек з нацыянальных “святыняў”, аднак калі Альгерд сашчапіў пашчэнкі на лытцы Янкі Купалы (“Цёмнае мінулае Каяна Лупакі”), дык усчаўся такі вэрхал, што свет (беларускі) такога не бачыў. Бальшыня ятрылася і плявалася. Як так можна? Нацыянальны геній, найвялікі Паэт беларускага Адраджэння і ўвогуле – наш собскі Ярыла, а на яго кідаецца нейкі брахлівы шчанюк.

Толькі за ўласнай ятрай абаронцы нацыянальнага гонару забыліся, якая сёння “эпоха на дварэ”. А паколькі забыліся далёка не ўсе, дык у абарону Альгерда таксама выступіў шмат хто і, пераважна, з разумнейшых за тых, што “выйшлі шчыльнымі радамі”.

Першая агульнанацыянальная літаратурная дыскусія распачалася з артыкула Вацлава Ластоўскага (псеўданім – Юрка Верашчака), надрукаванага ў “Нашай Ніве” ў 1913 годзе. Сэнс яе быў у радыкальным запыце: ці сядзець на тэме “мужыка-беларуса”, не жадаючы ўзняць вочы далей малаўгноенага загона з “беднымі хаткамі”, пахілымі бярозкамі і гаротным бясхлебным людам, ці ўбачыць “красу жыцця” (паводле даследчыка Язэпа Янушкевіча).

Па сутнасці Альгерд Бахарэвіч здзекваўся з беларускіх літаратараў за тое ж самае, за што іх крытыкаваў Вацлаў Ластоўскі. А менавіта за тое, што і праз эпоху яны не змаглі выблытацца з путаў вясковай прыніжанасці. Хаця градус крытыкі ў Альгерда быў безумоўна значна вышэйшым, чым дазволіў сабе Власт (Вацлаў).

Разам з тым той *стрэсавы* год, відаць, моцна даўся Альгерду ў знакі, і ён адсланіўся ад эсэістыкі, зноў схаваўшыся ў прозу. І толькі праз колькі год напісаў яшчэ адну кнігу эсэ: “Бэзавы і чорны. Парыж праз акуляры беларускай літаратуры”. Выглядае досыць лагічна, што там знайшлося месца і аўтару, які ў сваю пару выдаў кнігу эсэ “Разбурыць Парыж”.

Натуральна, я быў бы не я, каб не пералюстраваў у свае хронікі (скарочана)

ужо згаданае эсэ Альгерда "Акудовіч. Балота. Дыскурс". (А калі без хіхікаў, то друкую найперш таму, што гэта адна з самых інтэлектуальна пранізлівых аналітык маіх філасофскіх тэкстаў.)

"Парыж зьніштажае вырадкаў. А яго самога зьніштажаюць філёзафы. У тым ліку – беларускія. За што яны яго так? Было б за што – і праўда зруйнавалі б. Але, на шчасьце, Парыж руйнуецца толькі ў галовах. Зрэшты, прасьцей зруйнаваць Эйфэлеву вежу, чым нешта крэпка заселае ў беларускай галаве.

Улетку 2004 году, у Дзень узяцьця Бастыліі, у Менску была прэзэнтаваная адна з самых знакамітых беларускіх кніг пачатку новага стагодзьдзя – "Разбурыць Парыж" Валянціна Акудовіча, самага паэтычнага беларускага філёзафа і самага правакатыўнага нашага мысьляра. Ад пачатку Валянціну Акудовічу прапаноўвалі назваць кніжку "Разбурыць Вільню" або "Разбурыць Маскву" (быццам гэта гучыць больш паліткарэктна!), але ён не пагадзіўся: калі я кажу Парыж – значыць, маю на ўвазе Парыж. І не памыліўся ў сваёй упартасьці: ні ад Вільні, ні ад Масквы не было б такога эфэкту. Дый гаворка ў эсэ зусім не пра горад. А пра каго і што? Ды пра нас. Пра нашае сёньня і заўтра.

Мала якая з кніг, напісаных па-беларуску, здолела столькі зьмяніць і перакуліць у сьвядомасьці нацыянальна сьвядомых людзей.

"Разбурыць Парыж" – назва двух "няспраўджаных эсэ", як іх называе сам аўтар. У першым, "Беларусь як постмадэрновы праект Бога", Акудовіч Парыжу амаль не чапае, ён дасьледуе (мысьліць) ідэю Беларусі і дыскурс Беларусі – рэчы, на ягоны погляд, узаемавыключныя.

*"Беларусь як дыскурс Беларусі і Беларусь як ідэя Беларусі – гэта дзьве канцэптуальна варожыя розьніцы, два рашуча не-сумесныя бачаньні як рэальнага, гэтак і а-рэальнага сьветаў.*

*Ідэя Беларусі – гэта звычайны плятонаўскі сымулякр, якім не пазначаецца нішто рэальна яўнае і які мае сэнс адно ў а-рэальнасьці, да таго ж толькі ў яе лёгацэнтрычным закутку...*

*Дыскурс Беларусі – гэта пэўны вымер вечна рухомага бытнага, які ахоплівае ўсе сацыякультурныя фэномэны, што могуць быць паасобку ці ў вязьме актуалізаваныя (вымкнутыя з сваёй лятэнтнай утоенасьці) хоць якой апрычонай сытуацыяй".*

Дыскурс Беларусі нічым наперад не зададзены, апрача самой наяўнасьцю дыскурсу. Ідэя Беларусі – сума знакаў і сымбаляў. Акудовіч – фэнамэноляг і постмадэрніст, ён адпрэчвае лёгацэнтрызм (усе гэтыя помнікі беларускай ідэі, на якія нацыяналіст глядзіць, задраўшы ўгару галаву), сьвяшчэнныя герархіі зь іх вэртыкалямі ўлады. Дыскурс Беларусі – гэта вольнае ад сымулякраў беларускае балота, якое ня мае цэнтру, не абмежаванае берагамі, поўнае выспаў і выспачак (амаль янкамаўраўскіх – калі перачытваеш эсэ, успамінаеш палескіх рабінзонаў зь іх жабамі). Балота, на якім квітнее жыцьцё. Беларуская фэнамэналёгія Акудовіча цалкам народная – і тут першы намёк на тое, што Парыж трэба разбураць. Мы жывем, верачы ў эўрапейскія ідэалы, у ладныя, высокія, бронзавыя парыжы вялікай культуры, якія ўзносяцца да нябёсаў – і нам так хочацца ўзьнесьціся разам зь імі! Але – не бяруць... Чаму? У пошуках – але не адказу, а пратэкцыі! – можна прабавіць стагодзьдзе, а мо і два. А тут пад нагамі, сярод балотаў, свае фэномэны і свая культура – ня менш цікавая, каштоўная і самадастатковая.

*"Чалавек глядзіць на малпу – а бачыць эвалюцыю, глядзіць на крыж – а бачыць Хрыста, глядзіць на серп і молат – а бачыць пралетарскую рэвалюцыю, глядзіць на Пазьняка – а бачыць апостала нацыі (ці фашыстоўскага калябаранта)...*

*Мы мераем тапаграфію рэальнасьці не яе ўласнай мерай, а маштабамі, напрацаванымі ў "прасторы" а-рэальнасьці. І калі ў рэальным бытным мы не знаходзім адпаведнасьцяў, зададзеных маштабам ідэальнага быцьця, то альбо кідаемся падганяць бытнае пад гэтыя маштабы, альбо гібеем у роспачы".*

А як іначай? Як пазбавіцца ад Сымулякра, які “гіганцкім бяльмом засланіў нашыя вочы ад белага сьвету”? Што там, у белым і ясным сьвеце фэномэнаў, а ня знакаў і сымбаляў вялікай Ідэі? А вось што:

*“Уласна, постмадэрн і быў пакліканы, каб вызваліць нашыя зрэнкі ад гэтага бяльма і наноў прызвычаіць вачыма не толькі глядзець, але і бачыць: у малпе бачыць жывую істоту, у крыжы – сьсечанае дрэва, у сярпе – вострае лязо, у Пазьняку – моцна пакрыўджанага цэнтрапалеглым лёсам і з гэтага злоснага на ўвесь сьвет беларуса...”*

Гэта ўжо з другога “няспраўджанага эсэ”, якое так і называецца “Разбурыць Парыж”.

*“...натуральна, што сонца гэтак скарэктаваных каштоўнасьцяў запынілася не над намі, а над Парыжам”, – піша аўтар. – “А мы апынуліся ў яго глыбокім ценю, дзе марудна снуўдаемся зь вечна задранымі да асьвечанай гары бародамі, спатыкаемся на кожным кроку і паныла нэндзім: калі гэта “загляне сонца ў наша ваконца”?*

Панылае нэндзаньне і праўда абрыдла. Абрыдла і ў літаратуры, і ў так званым рэальным жыцьці. Чаго-чаго, а яго хапіла і на мой век, і на твой, і на Акудовічаў. Хопіць. Не заглянула і не загляне. Бо тое, што лічылася сонцам – проста таршэр “Ікея”. Дый нашто балоту шмат сонца? Волі яно не дадае. А волю, згодна з Акудовічам, немагчыма заваяваць. Вось уладу – можна. Але ўлада – гэта ўжо Парыж. Імпэрскі Парыж культуры, Сталіца сьвету. Акудовіч супраць.

Я ўспамінаю Валянціна Акудовіча, які, відаць, стаіць цяпер недзе ў Менску на ганку кнігарні і курыць свой “Мінск”. Ягоную сівую бараду, пераканаўчыя словы, якія ён заўжды знойдзе для каго заўгодна, ягоныя парадоксы і пінжакі. (...)

Як жа прыйшла ў галаву філёзафа гэтая вар’яцкая ідэя – разбурыць места (і месца), дзе мы жывем? Усё пачалося з таго, што зірнуўшы на ідэі і дыскурсы, на задраныя да чужых помнікаў галовы і на клятых лёгацэнтрыстаў, якім у эсэ дастаецца на не абы-якія гарэхі, Акудовіч спытаў сябе... Але слова аўтару:

*“Дык няўжо нам да скону зябнуць у гэтым золкім сутоньні, няўжо адсюль няма ніякага выйсьця на ясны белы сьвет? – неяк рашуча запытаўся я сам у сябе.*

*І сам сабе рашуча адказаў:*

*– Няма!*

*– Але ж нешта трэба рабіць.*

*– Трэба, – пагадзіўся я сам з сабою.*

*– А што трэба?..*

*І тут раптам вымавілася, як выдыхнулася:*

*– Разбурыць Парыж”.*

*...Тады я адразу і вырашыў, што мушу сьпехам напісаць эсэ з назвай “Разбурыць Парыж”, каб было дзе разгарнуць сваю эўрыстыку ў шыхты лагічна сашчэпленых сылягізмаў і тым самым давесьці ўсім зануранымі у панылась беларусам, што ў нас няма альтэрнатывы: альбо мы разбурым Парыж, альбо Парыж, урэшце рэшт, сваім цяжкім ценем спляжыць нас – дашчэнту”.*

Вось так. Бурачы парыжы, Акудовіч ратуе нас ад небясьпекі. Бо Парыж – гэта пагроза. І нават любоў тут не дапаможа.

“Дарэчы, я люблю Парыж, але... Але Беларусь я люблю болей, – тлумачыць Акудовіч, і ёсьць тут нейкая ўнутраная лёгацэнтрычная пастка, але абмінем яе. – ...калі пытаньне паўстала рубам: каму зьнікнуць, а каму быць заставацца, то я, натуральна, выбраў Беларусь”.

Парыж – дзіўнае месца. Калі яго зьнішчаеш – у зусім іншым кутку Эўропы робіцца сьвятлей. Але і самому Парыжу горш ня робіцца. Яго бурыш дашчэнту – ён застаецца, у яго тысяча сьмерцяў, і кожная зь іх – мастацтва”.

***

Відаць, ёсць нейкая ўнутранная патрэба, што пасля кніг прозы Альгерд кожны раз зноў навяртаецца да эсэістыкі. Сёлета (2019 год) ён надрукаваў кнігу “Мае дзевяностыя”. Па сутнасці, гэта адно вялікае эсэ (мега-эсэ”).

Вядомы літаратуразнаўца Аляксандр Фядута нават назваў яе лепшай кнігай Альгерда. Мне яна таксама падабаецца. Бачыце, у адрозненне ад прозы, якая патрабуе сур’ёзнай увагі стасоўна структуры і кампазіцыі тэкста (не самае моцнае месца нашага аўтара) эсэ дае больш месца вольнаму руху, і тут Альгерд, як той віндсерфінгіст, прыгожа і рызыкоўна слізгае па высокіх хвалях мыслення, правакуючы нашае захапленне.

На жаль, сёння эсэістыка без хоць якога кшталту скандалу ўсё больш губляе ўвагу чытача. А Альгерд Бахарэвіч, у адрозненне, скажам, ад Іллі Сіна, моцна любіць гэтую ўвагу і таму цяпер напэўна сядзіць і зноў піша адмысловы раман, пра які хутка будуць шмат гаварыць у публічнай прасторы.

***

Некалі – яшчэ зусім маладым, – прачытаў у савецкага празаіка Каверына (зусім неблагога): “Кіно – мастацтва для дэбілаў”. Здаецца, тыя словы прамовіў не аўтар, а нехта з ягоных герояў, што не мае тут аніякага значэння. Проста потым, калі нехта цягнуў мяне ў кіно, я абыякава прамаўляў гэты сказ, і ад мяне, вырачыўшы вочы, адразу адступаліся.

Шчыра кажучы, з майго боку гэта хутчэй была проста гульня ў радыкалізм. Бо хаця я і не меў асаблівых сімпатыяў да кіно як такога, але не адмаўляў яго геніяльных выключэнняў, як, скажам, “Рэпетыцыю аркестра” Феліні...

Толькі чаму я згадаў кіно ў маім аповедзе пра **Максіма Жбанкова?** Недзе пры канцы 90-х сумоўнікі між іншым загаварылі пра невядомы мне кінаклуб, дзе нейкі афігенны фацэт рэфлексуе над маднячымі замежнымі фільмамі. І робіць гэта настолькі шыкоўна, што ў залу не ўшчаміцца...

Як вы разумееце, з такім маім стаўленнем да кіно той хлопец ніяк не мог мяне зацікавіць, пакуль у сёмым нумары “Фрагментаў” не з’явіўся канцэптуальна грунтоўны тэкст Максіма Жбанкова “Культура сьмецьця” і “сьмецце культуры”...

Сапраўды афігенны фацэт, – захапіўся я, і гэтае захапленне інтэлектуальнай эсэістыкай Максіма не пакідае мяне па сёння. Хаця, бывае, і трохі злуе, калі ў сваіх тэкстах ён паўтараецца ці залішне нэндзіць з нагоды таго, што яму не пашанцавала з часам, краінай і яе культурай.

Максім нарадзіўся рускім чалавекам у Менску і такім асталеў тут, але эстэтычнае выхаванне атрымаў на Брадвеі праз сусветна знакамітыя шлягеры і такога ж кшталту кінафільмы. І што дзіўна, дзесяцігоддзі актуальнай прысутнасці ў беларускім нацыянальным дыскурсе, здаецца, ані не змянілі яго базавыя пачаткі. Прыгадваю адзін момант. У тую пару, калі ўвабраўся ў паэтычную моц і масавую папулярнасць Андрэй Хадановіч, Максім у вялікую пахвалу публічна назваў яго “беларускім Пушкіным” (заўважым, не беларускім Букоўскім ці кім там яшчэ са знаных амерыканскіх паэтаў).

Гэтую канцэптуальна праблемную сітуацыю ў часе, месцы і культурнай прасторы Максім шчыра і глыбока адрэфлексаваў на самым пачатку сваёй адметнай і пакуль адзінай кнігі. “Белкульт между Вудстоком и Дажынками”. Трохі працытую самае першае.

“Эта книга – стенограмма личных приключений автора в странной стране, которой оказалась родиной. Думать Беларусь получается только соразмерно причудам и парадоксам ее пути. Поэтому мысль движется поверх чужих концептов и вопреки импортным рецептам. Одиночество автора в шумовом потоке отечественных культурных процессов оказывается плодотворным. Оно создает

необходимую для рефлексии дистанцию, а также позволяет опознать других одиночек, партизан Архипелага Беларусь. Мы никогда не будем в одном строю. Но вполне способны подтвердить свое существование, наладив перекличку из соседних окопов".

А далей я гэтаксама працытую яшчэ раз самы пачатак з сваёй кнігі "Прачнуцца ранкам у сваёй краіне" (такога самахвальства свет, здаецца, не бачыў).

"Прачнуцца ранкам у сваёй краіне і ўсцешана падумаць, што ў цябе ёсць свая краіна! Пра нешта такое бадай кожнаму светла думаецца пасля вяртання з далёкага замежжа. Але ўсю кранальную пяшчоту гэтага здумлення можна адчуць адно тады, калі раней у цябе сваёй краіны не было...

Я меў ужо амаль сорак год, калі здарылася Беларусь. І толькі пасля таго, як яна здарылася, зразумеў, што да гэтага па сутнасці жыў *нідзе* і, калі заўгодна, жыў як *ніхто*".

Я наўмысна супрацьпаставіў гэтыя два фрагменты, каб больш выразна адцеміць, што з гледзішча фундаментальных асноваў мы хоць і месціліся з Максімам у адной краіне, але ў абсалютна розных яе праекцыях. Я тут меў Бацькаўшчыну, а ён толькі апірышча дзеля парыванняў у бок ўласнай свабоды. Аб чым і яго наступныя словы: "Усё, што я рабіў у розных сферах, было шляхам да маёй свабоды". (У дужках заўважу: мне Радзіма даражэй за свабоду.)

Я асабіста магу пацвердзіць зусім не рытарычную праўду словаў Максіма пра яго шляхі да свабоды. І хаця жыццё інтэлектула ў постсавецкай Беларусі куды толькі ні штурхае, каб здабыць якісьці нішчымны грошык, Максім заўсёды трымаўся вышэй задэклараванай перспектывы. Прыкладам, апошніх некалькі год ён разам з жонкай Дар'яй Сітнікавай (выпускніцай ЕГУ) раз на тыдзень гандлюе адмысловым печывам з экзатычным начыннем. Дар'я гатуе яго на хатняй кухні, а потым яны разам прадаюць гэтую смакату на кірмашы. (Максім усмешліва распавядаў, як слупянеюць яго студэнты ці чытачы, калі раптам бачаць свайго куміра за такой арыгінальнай справай.)

Што праўда, тыпалагічна падобныя метамарфозы беларускіх інтэлектуалаў нас мала чым дзівяць, хіба што экзотыкай, як у выпадку Максіма з Дар'яй. Усякага такога было і застаецца шмат. Але цяпер мне чамусьці згадалася, як мы чарговым разам перавозілі мэблю, абсталяванне і біліятэку Беларускага калегіюма з адной кватэры на другую...

Уласна, сам пераезд нічым асабліва не розніўся ад хоць якога яшчэ. А вось людзі, якія ў поце і брудзе цягалі на высокі паверх усё, што ў такіх выпадках цягаюць, здаецца, вартыя ўвагі. Я тут трохі пералічу. Гэта Алесь Анціпенка, Максім Жбанкоў, Уладзімір Мацкевіч, Сяргей Харэўскі, Зміцер Бартосік, Валянцін Акудовіч, яшчэ нехта... Ужо ж напэўна, шмат каму на Беларусі іх прозвішчы добра вядомыя. Але дайце мне веры, кожны з тут пералічаных быў бы заўважнай фігурай у хоць якой багатай культуры.

Да чаго я гэта згадваю? А да таго, што, цягаючы разам з усімі розную пакладзь, я раз-пораз пасміхаўся пра сябе, бо раптам пачаў уяляць, што было б, каб, прыкладам, у Францыі сабраліся гурмой адметныя філосафы, культуролагі, мастацтвазнаўцы, музыкі і на сваіх плячах пачалі цягаць мэблю і бібліятэку з адной будыніну ў другую. Пра гэтую падзею потым пісалі б ва ўсіх падручніках па гісторыі культуры. А ў нас – класік літаратуры на градах летніка, вялікі мастак на бульбяным полі, знаны музыка ў катуху вартаўніка – гэта норма, звычаёвасць.

Хаця калі вы падумалі, што згадкай пра гэты эпізод я хацеў у чарговы раз папракнуць беларускую долю, то вы памыліліся.

Мне сапраўды было весела.

***

Жыццё ў свабодзе, але без радзімы неўпрыкмет адбілася як на стылі, так і на стылістыцы пісьма Максіма Жбанкова (натуральна, і на мысленні таксама). Усё, што ніжэйшае за Эйфелевую вежу ці Біг-Бэн і вузейшае за 45-ю авеню было не вартым ягонай оптыкі. Як і не вартым увагі было ўсё, што не было Эндзі Ўорхалам, Луі Армстрангам,Чарльзам Букоўскі, Стывенам Спілбергам і г.д, і да т.п.

Вось адзін з безлічы прыкладаў ягонай візіі культурніцкай сітуацыі ў Беларусі: “Почему можно жить без белорусского искусства? Потому, что его легко не замечать. И в твоей картинке мира практически ничего не изменится. Глаз, скользящий по дурным афишкам и агитрастяжкам, так же легко пробежит по очередной выставке. Не задерживаясь. Не удивившись.

Легитимный арт банален и скучен. Мятежный сбивается на памфлеты и агитки. Нонконформистский тормозит. Общая беда локального стиля – удручающая посредственность.

Есть отдельные удачи, точно зеркалящие родную шизу. Но они тонут в общем потоке декоративного шума. Наш артист предпочитает играть на привычном поле и легко переходит от детских проб пера к элегантным самоповторам”.

Я чытаю ўсё, што друкае Максім Жбанкоў, не прамінаючы ніводнага ўбачанага тэксту (бо гэта заўсёды інтэлектуальнае свята). І магу адказна сцвярджаць, што ён ні разу не згадваў прозвішча буйнейшага метафізічнага паэта сучаснасці Алеся Разанава, як і прозвішча будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. Тое ж тычыцца і Васіля Быкава, перакладзенага на паўсотні моваў свету.

Здаецца, Максім паводле азначэння не можа даць веры, быццам у нашай «дзіцячай пясочніцы» (адна з яго любімых метафар) можа быць насамрэч нешта значнае. (Што праўда, тут, верагодна, уплывае і яго заўважная адслоненасць ад мастацкай літаратуры ўвогуле.)

Дык чаму і з чаго тады мая глыбокая і шчырая прыязнасць да Максіма Жбанкова як да творцы і чалавека?

Усё досыць проста. Ён неверагодна таленавіты і этычна, лічы, беззаганны.

Ну і хай сабе, заўважыць нехта. Але як ён апынуўся ў цябе сярод знаных дойлідаў гмаху нацыянальнага мыслення?

Зараз патлумачу, толькі спачатку яшчэ некалькі момантаў з ягонай біяграфіі.

Максім Жбанкоў – кандыдат філасофскіх навук і вучыўся ў дактарантуры, скуль дабрахоць сышоў, бо на той час статус доктара філасофскіх навук перакрываў усе шляхі да любай яму свабоды. Між іншым, потым ён увогуле перастане згадваць сваё філасофскае мінулае і, здаецца, я ведаю чаму.

Паводле старых грэкаў, першая філасофія – гэта метафізіка, а Максім не мае сантыментаў да *голых* нябёсаў, дзе дамінуюць трансцэндэнтальныя дыскурсы. (Магчыма таму ён і скептычна паставіўся да маёй самай эўрыстычнай працы з назвай “Кніга пра Нішто”.)

Максім *a priopi* культуролаг – толькі не абы-які, шараговы. Ён – інтэлектуал ад Бога. Ужо хаця б таму, што ў яго цудоўны стыль, а гэта ў кожным разе боскі дарунак – і ніяк інакш. У спалучэнні з бліскучым інтэлектам ды адважнай рэфлексіяй атрымліваецца вельмі і вельмі файна. І ён гэтае *файнае*, як сейбіт зерне, ужо колькі год нястомна закідвае ў глебу самых адметных беларускіх выданняў. А яшчэ з уласных вуснаў (наш *Залатавуст*) адорвае сваімі эўрыстычнымі ведамі студэнтаў Беларускага калегіюма і ЕГУ (тут удакладнім – ЕГУ ён ужо даўно пакінуў праз усё тую ж любоў да свабоды).

Што праўда, з яго нестомнасці прарастае менш, чым хацелася б, аднак узорны прыклад цяпер у кожнага беларускага інтэлектуала перад вачыма.

Каб не быць рытарычным пустамелем, працытую ладны фрагмент з “*прабеларускага*” эсэ Максіма, да таго ж прысвечанага таксама аднаму з герояў гэтай кнігі.

“Фронт актуальной (а не парадной) отечественной культуры защищают одинокие герои – ее авангард и оправдание. Ее самая яркая – и поэтому самая уязвимая – часть. Вспыльчивые, рисковые. Часто нетрезвые. Сбивающиеся на самоповторы. Делающие глупости и моментально о них забывающие. Но именно они говорят со звёздами и слушают время.

Их не бывает много. Собственно у нас их можно пересчитать по пальцам. Акудович. Вольский. Глобус. Бабков. Хаданович. Кашкуревич. Пушкин. Плюс еще десяток имен... Если бы среди них не было Клинова, его бы стоило придумать.

Артур Клинов – яркий персонаж в монохромных культурных ландшафтах наших «нулевых». Режисер и сценарист отечественного андеграунда. Изобретатель буфетов, дизайнер скворечников, аранжировщик кастрюль. Конструктор брендов и разрушитель мифов. Мастер бросать в окно новогодние елки и ездить на такси из Минска в Питер. Враг всех и всяческих границ (и пограничников). Артист Клинов отличен анархичностью линии жизни и эстетическим радикализмом. Выдуманный друзьями термин «артуризм» (арт+артур+туризм) отлично подходит к его шальным маршрутам. Его фирменный стиль – движение против течения.

Клинов – человек-перформанс. Генератор идей и мотор культуры. Коллекционер отечественных «чернил». Поклонник Мадонны и розовых диванных подушек. Национальный артист и вечный космополит. Вынужденный европеец и стихийный белорус. Его личный почерк – бытовой беспредел, выжимка новых смыслов из банального родного и привозного сырья. Его авторская метка – архитектор культуры: тот, кто компонует среду и дает ей имена. Он вызывающе концептуален. И абсолютно неуправляем”.

***

Так, мы з Максімам у “розных акопах”, але (працягнуўшы мелітарную рыторыку), білінгвічна цэлім у адзін і той самы бок. Таму ягонае месца ў інтэлектуальнай сітуацыі нашай эпохі я б фальклорна параўнаў з поўняй у захмараных нябёсах.

І апошняе. Здаецца, ніхто так часта і добрым словам не згадваў мой наробак, як Максім (хаця і не шкадаваў крытычнай рэфлексіі, калі я, паводле ягонага відзежу, *касячыў*). Кагадзе я зусім выпадкова патрапіў на невядомы мне сайт (назву забыўся, ці не “Гарадскі сабака”?), дзе калісьці раней Максім пісаў: “В текстах, которые я люблю, мне интереснее всего две вещи – это яркость стиля и небанальность идеи. В этом плане Валентин Акудович (и, в частности, его книга «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека») абсолютно прекрасен как один из немногочисленных у нас мастеров интеллектуального стендапа.

Есть несколько персонажей на всю страну: Валентин Акудович, Игорь Бабков, Владимир Мацкевич – и, пожалуй, всё. Это люди, которые красиво, талантливо, фантастически убедительно и драйвово мыслят вслух. Когда слушаешь любого из них, видишь, как у тебя на глазах формируется идея, как развивается мысль. Это, наверное, одно из лучших проявлений свободы – возможность независимого, энергичного суждения.

Акудович прекрасен в силу своей неправильности. Не философ по образованию, он практикующий философ. Но однажды подумал, что раз он как бы философ, то нужно написать философскую книгу. В результате возникла «Кніга пра Нішто».

Акудович почему-то тогда решил – правда, вовремя опомнился, – что он хорош, когда играет по чужим правилам, пользуется чужими мыслями. На мой взгляд, все точно наоборот. Он значим, когда без оглядки отдается потоку собственного суждения, когда действует поперек традиции, вопреки существующим конвенциям и преодолевает все те штампы, шаблоны, которые мы привыкли связывать с академическим философствованием. Акудович – беззаконный мыслитель. Человек с открытым сознанием и удиви-

тельной энергетикой вольного суждения. И он прекрасен тем – как и Бабков, – что обозначил новые измерения белорусскости. Помог избавиться от этого вульгарного банального ореола деревенскости, от провинциальности. Та энергия письма и речи, которая есть у Акудовича, помогла мне полюбить свою страну и язык так, как никто ни до, ни после него.

Это прекрасная энергетика интеллектуального вызова, энергетика 90-х, когда сформировалась первая генерация белорусского независимого мышления, когда отстраивали практически с нуля для себя и интеллектуальную традицию, и активный словарь, и матрицу мышления. И, самое главное, отношение к своему, как выразился Мартинович, «халоднаму выраю». К этой чужой батьковщине, с которой трудно вместе, но без которой, как выясняется, никак нельзя.

Поэтому Акудович – это стартовая точка знакомства с современной белорусской ситуацией. То белорусское письмо, которое не стыдно любить. Более того, на которое подсаживаешься очень сильно. Я думаю, что, если бы не было Акудовича, наверное, не было бы и половины моих текстов, написанных за последние 10 лет. А еще он хороший интеллектуальный провокатор. Он показывает, как можно отжигать здесь и сейчас".

Дзякуй на добрым слове, Максім!

***

Далёка не кожны з літаратараў нашай краіны можа між іншым пахваліцца, маўляў, я маю *свайго выдаўца*. Пры гэтых словах трымаючы на ўвазе не проста таго, хто друкуе твае кнігі, а таго, хто друкуе іх таму, што гэта менавіта *твае* кнігі.

**Ігар Логвінаў** сам выбраў мяне на гэтую ролю, і я яе старанна выконваю больш як дваццаць год. Аднак зусім не маю намеру распавядаць тут пра пра *майго* выдаўца. Бо я ў яго не адзін такі – нас добры тузін. А сам Ігар настолькі адметная і значная фігура ў літаратурнай сітуацыі найноўшай пары, што, безумоўна, варты асобнай гаворкі.

У нейкі з ужо далёкіх дзён лідэр Бум-Бам-Літа Зміцер Вішнёў распавёў мне пра рускамоўнага хлопца, якому закарцела выдаваць літаратуру на беларускай мове. Той ужо рыхтаваў да друку паэтычны зборнік Зміцера і запрашаў пазнаёміцца, бо пагартаў маю першую кнігу "Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека".

Пазнаёміліся. Ігар быў з Гародні, вучыўся на філосафа ў БДУ, а пазней працаваў у ЕГУ (выдавецкі аддзел), скуль пазней сышоў, калі зразумеў, што не адчувае аніякай хэнці працаваць на кагосьці яшчэ, акрамя як на самога сябе.

У гэтым няма дзіва. *Хутаранская* культура ўсё яшчэ дрэмле ў сэрцах многіх беларусаў, асабліва з захаду краіны. Больш складана патлумачыць чаму апантаны рускамоўны кніжнік і таленавіты ад прыроды бізнесовец выбраў сабе ў справу беларускую літаратуру, на якой ніхто і ніколі не змог зарабіць поўную кішэню грошай, бо такое a priori немагчыма. Да таго ж ён і не надта любіў беларускую літаратуру, прынамсі савецкую.

Відаць, рэч у тым, што Ігар акрамя ўсяго іншага яшчэ рамантык і авантурыст. Даўно перанасычаная руская літаратура ў эпоху злому ўсіх ранейшых парадыгмаў перастала яму смакаваць (ягоныя словы). Як на тое якраз у гэтыя гады Ігара пазнаёмілі з творчасцю Бум-Бам-Літа – ён быў моцна ўражаны. Перад ім адкрылася Беларусь як нейкая касмаганічная Чорная дзірка – жахлівая і адначасна "маняцая".

Тады ён і вырашыў, што яму трэба дапамагчы гэтым маладым хлопцам і дзяўчатам, ды пачаў выдаваць кніжыцы Вішнёва, Сіна, Барысевіча, Гапеевай, Бахарэвіча. Трохі пазней да іх далучыліся Міцкевіч, Морт, Джэці, Жыбуль...

Бунтоўная літаратура моладзі шмат крытыкавалася і нават аблайвалася, толькі Ігар Логвінаў быў не толькі рамантыкам, але і відушчым бізнесоўцам. Ён не

столькі зважаў на тое, што ёсць, – колькі пралічваў тое, што будзе. Таму досыць хутка яго выдавецтва, а затым і кнігарня зрабіліся культавымі.

Цяпер друкавацца ў Логвінава ўжо лічылася за гонар. Хаця больш істотнае іншае. Фактам сваіх выдавецкіх інавацыяў Логвінаў паставіў пад сумнеў базавую канфігурацыю ўсяго былога літаратурнага працэсу...

Аднак тут мушу трохі адступіцца. Бачыце, калі напрыканцы 80-х мы пачалі ўзносіць рыштаванні сучаснага беларускага мыслення, то не лішне звярталі ўвагу на чым тыя рыштаванні будуць трымацца? Найвышэйшай мэтай тады бачылася стварэнне часопіса, і мы асабліва не задумляліся, хто той незалежны філасофскі часопіс будзе друкаваць, як і ўсю астатнюю сэнсавую і сэнсоўную літаратуру.

Прасцей кажучы, праблема выдавецтваў нікому не была да галавы. Тым болей выдавецтваў, якія б былі не проста незалежнымі ад дзяржавы, але і інавацыйнымі ў сваёй сутве. А вось Ігар Логвінаў і думаў, і дбаў пра гэта. Таму менавіта ён стварыў першае ў Беларусі выдавецтва як *Падворак* для філосафаў, інтэлектуалаў, мадэрністых і постмадэрністых літаратараў, якія агульным суплётам і прэзентавалі Новы час.

Быў у гэтай падзеі яшчэ адзін надзвычайны істотны момант. Кнігарня "Логвінаў" (разам з выдавецтвам) на ўсе вочы прадэманставала, што пара *саюзаў пісьменнікаў* як завадатараў літарацкага жыцця прамінула. Далей загалоўная роля ў гэтым працэсе кладзецца на прыватныя выдавецтвы (пра што сведчыць і ўвесь еўрапейскі досвед).

***

Ігар публічна дэманстраваў сваю апалітычнасць. Калі мы клікалі яго на шэсце ці мітынг, ён заўсёды казаў адно і тое самае: "Я бізнесовец, а не палітык. Гэта вы галыцьба, а мне трэба берагчы свой бізнес".

У пару татальных рэпрэсій ягоная аргументацыя выглядала цалкам слушна. Таму ніхто з нас на яго і не наракаў, нават калі трымаў у галаве папулярны сілагізм супраціву: калі ты не ідзеш у палітыку, дык яна прыходзіць да цябе сама.

Прыйшла і да Ігара.

Выдавецтва рабілася ўсё больш значнай (і важкай) падзеяй у культурным жыцці краіны. Яно вольна дыхала і мысліла метафізікай свабоды. Зразумела, гэта турбавала ўладу, першай справай якой было зацугляць усё, што не адпавядае яе канонам.

Падставу, каб скасаваць выдавецтва, *міністры* шукалі доўга, а не знайшоўшы – банальна змахлявалі. Суд над выдавецтвам быў вычварэнствам, а вырак па-бандыцку жорсткім, здаецца недзе – 960 тысяч рублёў.

Такіх грошай ў беларускага выдаўца паводле азначэння не бывае, і цяпер чынавенства магло спаць спакойна. Але, як кажуць у такіх выпадках, яно *не ведала* Ігара Логвінава. Ён звярнуўся па дапамогу да сваіх чытачоў і проста неабыякавых да гвалту людзей і арганізацый, як у Беларусі, так і за мяжой.

І здарыўся цуд! Нічога падобнага ў нас і блізу ніколі не было. За два месяцы патрэбныя грошы былі сабраныя.

Болей за тое. Праз нейкі час Ігар Логвінаў атрымаў прыз Міжнароднай асацыяцыі выдаўцоў, які з 2005 года ўручаецца персоне ці арганізацыі *"за ўзорную мужнасць у адстойванні свабоды выказвання і свабоды друку"*.

У прэс-рэлізе прэміі чытаем: "Ігар Логвінаў – значная асоба ў беларускай літаратуры і культуры. У выдавецтве было выдадзена звыш за 700 выданняў – літаратура, гісторыя, палітыка, мастацтва, пераклады сусветна вядомых пісьменнікаў на беларускую мову. Беларуская мова часта дэманізуецца рэжымам Лукашэнкі як мова дысідэнтаў і апазіцыі, і той факт, што выданні Логвінава часта датычыцца паўсядзённых рэаліяў у Беларусі, успрымаецца як палітычная крытыка і апазіцыянерства.

У кастрычніку 2013 года Міністэрства інфармацыі прыпыніла ліцэнзію Логвінава за «парушэння правілаў ліцэнзавання» ў выдавецкай справе. Падставай для такога рашэння стала тое, што Логвінаў быў выдаўцом альбома «Беларусь. Прэс Фота-2011» – каталог фатаграфій, які ўключае, напрыклад, фота збіцця пратэстоўца міліцыяй.

Спыненне ліцэнзіі выдавецтва Логвінава – гэта палітычная спроба ціску на творчага і адважнага выдаўца, намаганне заглушыць голас свабоды і адкрытасці ў Беларусі. Ігар Логвінаў абяцае працягваць выдаваць значныя творы па-беларуску і змагаецца за справядлівасць і свабоду выказвання".

***

Ігар таленавіты (месцамі нават геніяльны) выдавец. Таму ў прыклад наступная гісторыя. Калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобеля, ён, лічы, адразу прыдумаў перакласці на беларускую мову ўсе пяць кніг цыкла "Галасы Утопіі". І не ўроссып, а як цэласны праект з агульным дызайнам і новымі перакладчыкамі (сярод іх апынуўся і я). Задуму Ігара падтрымаў наш слынны мецэнат Віктар Бабарыка і ў дадатак прапанаваў забяспечыць гэтым "пяцікніжжам" усе бібліятэкі краіны. Пасля чаго праект набыў глабальны маштаб...

На розных імпрэзах я неаднойчы публічна казаў, што пакуль беларускі бізнес не пачне зарабляць сабе грошы на нашых кнігах (груба кажучы – на нас персанальна), датуль беларускія аўтары не зведаюць шчасця ад свайго кону.

Ігар быў бізнесоўцам, але, здаецца, не менш за грошы любіў выкшталцоныя кнігі і таленавітых аўтараў. Я не шмат памылюся, калі скажу, што бальшыня з найбольш адметнага ў літаратуры і мысленні той пары друкавалася ў яго выдавецтве і стаяла на паліцах кнігарні "Логвінаў".

"Лінейка маіх аўтараў – гэта мае сябры", – з прытоеным гонарам казаў ён журналістам. А ў іншай гаворцы ўдакладніў: "Круг паспяховых аўтараў акрэслены і ўжо шмат гадоў не мяняецца. Гэта Уладзімер Арлоў, Алесь Разанаў, Валянцін Акудовіч, Альгерд Бахарэвіч, Артур Клінаў, Андрэй Хадановіч".

Ужо ж напэўна, чытаючы мой хваласпеў Ігару, не адзін з літаратараў раз'юшыцца і хаця б часткова будзе мець рацыю. Не-абавязковасць Ігара сталася мемам. Не ведаю, ці хоць калі ён выканаў сваю справу ў абяцаныя тэрміны. Выданне кнігі магло зацягвацца на некалькі год, што ўжо тут казаць пра ганарары?! Але сталыя аўтары пакрысе з гэтым звыкаліся і, забыўшыся на ранейшыя крыўды, зноў неслі свае *рукапісы* да Логвінава.

У мяне таксама хапала падобных гісторый, і адна з іх аказалася нават зафіксаванай у эпісталярным жанры. Таму я проста пераніцую яе сюды.

Неяк не вытрымаўшы бясконцых абяцанак Ігара выдаць *на тым тыдні* кнігу "Прачнуцца ранкам у сваёй краіне", я паскардзіўся Паўлу Касцюкевічу, супрацоўніку выдавецтва (і аднаму з найлепшых сучасных празаікаў) ды папрасіў нагадаць пра мае пакуты Логвінаву.

"Ага, добра, – адказаў Павал, – толькі лепей, каб вы яшчэ самі яму нагадалі".

Тады я і напісаў Паўлу тое, што друкую ніжэй. І папрасіў яго перакінуць мой ліст свайму начальніку.

"Вітаю, Павал!

Я ведаю, што трэба нагадваць, аднак мне сорамна. Каб на маім месцы апынуўся, скажам, Арлоў (ці Хадановіч), дык ён сам-насам атачыў бы выдаўца, як гурма лютых восаў, і раз-пораз джаліў яго ў рабацінне плоці, пакуль той з енкам не пабег бы выконваць абяцанае. А сябе я нават з восеньскай мухай не адважуся параўнаць...

Дарэчы, Павал, распавяду трохі пра інтымнае. Недзе перад майскімі святамі ўсе мае хваробы (латэнтныя таксама) раптам ды ў адначассе абрынуліся на мяне і звалілі ў ложак.

Дзень пры дні палатнеючы пад коўдрай, я не мог не згадаць М. Багдановіча ля сіняй бухты, якому паміраць было не страшна, бо ён ужо меў кнігу.

Як добра, трызніў я, было б выставіцца ў труне з кніжкай «Прачнуцца ранкам у сваёй краіне» на грудзях. Усе б глядзелі на вокладку працы Артура Вакарава, чыталі назву і шэптам казалі адзін аднаму: ну вось, нарэшце Акудовіч прачнецца ў краіне сваёй мары, дзе ўсюды спрэс і наўсцяж адно «няма».

Але нічога такога не здарыцца, праз ліхаманку маркоціўся я. А будуць на грудзях звычайныя тры гваздзікі вядомых колераў... Апошнім да труны баязлівым бачком падсунецца І. Логвінаў. Ён доўга будзе ўзірацца ў тое месца, дзе мусіла быць кніга «Прачнуцца ранкам у сваёй краіне», а потым на ўсю цішыню рытуальнай залы гучна абвесціць: «Как мне стыдно! Ой, как мне стыдно!»

Прагледзеўшы гэтую карціну мо якую сотню разоў, я пачаў шкадаваць свайго выдаўца. А хай бы я яшчэ пажыў, падумалася мне, каб толькі ён унікнуў такога сораму. І, падобна, так яно і станецца. Бо хоць пакуль я і не зусім акрыяў, але на гэты ліст моцы ўжо хапіла.

Ваш Вал!"

***

Наастачу адно перакажу сваё даўняе і пры гэтым неадчэпнае здумленне. Мы з Ігарам бадзяліся разам у замежжы, шматкроць плавалі на байдарках па рэках Беларусі, выпалілі безліч цыгарэт на ганку кнігарні "Логвінаў" і выпілі не адну пляшку каньяку ў самой кнігарні, а я так і не зразумеў, чаму ён сам не піша кнігі?

Філасофская адукацыя, глыбокі і эўрыстычны розум, каларытная мысліўнасць... Дык чаму?

Не, я ў яго пытаўся. І, здаралася, ён мне нават адказваў нешта. Але адказваў так, быццам хацеў тое нешта схаваць ад мяне. З гэтага, бывае, падумаю сам-насам: можа, у ім бізнесовец перамог філосафа?

Можа, і так. Толькі ці не лепш гэта для ўсіх нас?

Не ведаю. Бо на такі ўмоўны запыт ніколі не можа быць пэўнага адказу.

*(Заканчэнне будзе.)*

Марыя Антанас



...О, жыццё!
Ты, сапраўды, – загадка...

# З душы матулі

***Словы пра Ніну Мацяш***

Што чалавека робіць чалавекам? Душа. Так, безумоўна, скажа не кожны. Але пагодзіцца з гэтым, думаю, кожны. Асабліва той, хто шмат перажыў у сваім жыцці.

Ніна Мацяш, паэтка нялёгкага лёсу, была перш за ўсё Чалавекам з вялікай літары. Яе душа трапятліва адгукалася на кожны зварот да яе, на кожную працягнутую руку, на ўсхваляванае слова. Яна бачыла чалавека! Чула! Усёю сваёй істотай, глыбінёй мудрага, чуйнага сэрца. Ніна ўмела парадавацца добрай сустрэчы (і не абавязкова з пісьменнікам, з самым звычайным чалавекам, але ўнутраным зрокам яна бачыла і ў ім адметнасць, нейкі прыродны талент. Нехта сярод зімы клапатліва падкормлівае птушак, нехта шкадуе выкінутых былымі гаспадарамі бедных котак, сабак, нехта...).

Усе ў Белаазёрску яе ведалі і любілі. І ці толькі ў Белаазёрску! Яе любіла, галубіла ўся Беларусь! Але яна не прымала плачу па сабе. Яна – жыла! Паўнавартасным, годным, патрэбным у гэтым свеце жыццём! Пакуль білася сэрца – жыла!

Ніна... Ніначка... Прабач, што запозненa пішу гэтыя радкі. Але ніколі не бывае позна сказаць і наўздагон у той, ужо іншы, свет: я вельмі рада, што мы з табою аднойчы сышліся-сустрэліся!

Думаю, што ж ты такое, паэзія, калі прыходзіш да вельмі слабенькіх фізічна? Боская рука падтрымкі? Голас Неба, калі нехта з вышыні аднойчы ўдыхае ў цябе вялікую веру ў сусветную любоў, у неапісальную прыгажосць Свету – толькі расплюшчы вочы і знойдзеш столькі радасці вакол, столькі шчасця!

І Ніна Мацяш аднойчы, у вялікім адчаі, калі ўжо ногі не слухаліся, зразумела, адчула, што ёсць яшчэ нешта такое ў душы, што яна здольна пераадолець усе нягоды. Песня! Яна загучала ў ёй, як шаўковы галасок рамонкаў на лузе (о, як яна любіла іх у дзяцінстве гладзіць рукамі!). Яна нарадзілася паэтэсай, але, як бывае ў многіх вясковых дзяцей, калі трэба памагаць бацькам па гаспадарцы, калі няма часу асабліва прыслухоўвацца да сваёй душы, не выказвала сябе змалку. Але ж для нечага ёй былі дадзены абвостраны зрок, чуйны слых. Вунь адзінокая рабінка на роскрыжы шляхоў ірдзее полымем пакутнай любові (ці кахання?), а на яе нібыта й не зважаюць, вунь бярэзінка адзінокая-адзінокая ў полі, але такая любімая ўсімі! Ах, ці перадасць яе душа гэтае хараство жыцця, ці дапаможа расплюшчыць вочы на прыгажосць свету яшчэ некаму? Адчай? Які адчай? Жыць напоўніцу! Працаваць! І – піша аб тым:

Твайго палону прагну я –
Не адпускай мяне, работа.
Хай дыхае у твар спякотай
Ралля суровая твая.

І дзякуючы гэтай нястомнай працы Беларусь пабагацела на яшчэ адну Паэтэсу. Арыгінальную, са сваім, толькі ёй уласцівым голасам. Менавіта трагедыя ўласнага лёсу акрэсліла, умацавала яе прыродны талент. А тое, што ў свет прыйшла Паэтэса, Беларусь адчула яшчэ раней, ужо ў яе 20-гадовым узросце, калі быў надрукаваны першы верш. А там – далей і далей: з літаратурнай сцяжынкі – прасторная паэтычная дарога, свой адметны след на ёй, свой духмяны, азалочаны сваім сэрцам колас.

Лёс мой,
лёс мой – цяжкі колас
часам – цяжкі камень...
Мне люляць цябе да скону
кволымі рукамі.

Гаворачы так, паэтэса звярталася толькі да сябе, не спрабуючы выклікаць у нас пачуццё жалю. Яна, наадварот, настройвае на вялікую самаахвярную працу ў імя роднай зямлі, беларускай літаратуры. І міжволі гучыць у душы:

Сцвярджаць я свету не баюся
Сваёю кожнай баразной:
Жыву!
Люблю!
Не наталюся!

Я зазнала ў жыцці шмат бед, зведала і многіх людзей, але ніводзін чалавек так глыбока не крануў маіх струн душы, як зрабіла гэта Ніна Мацяш. Сёння мне, як ніколі, блізкая Ніна. Можа, і таму яшчэ, што цяпер і я – дужа слабая, цяжка хворая, амаль сляпая.

Але гэта – толькі развагі. Як ёй было на самой справе, можна толькі ўявіць. Добра, што ў яе былі памочнікамі блізкія яшчэ людзі. Помню яе сястрыцу, калі ўпершыню з Нінай сустрэлася ў сталічнай гасцініцы “Мінск”. Як яна клапацілася

пра яе! Помню... – і не магу далей. Слёзы міжволі сціскаюць сэрца, яны, здаецца, бягуць не з вачэй, а з глыбіні душы. І як жа я даражу сёння яе даверам!

“Дасылаю табе некалькі вершаў з напісанага апошнім часам...” І звярталася як: “Марыйка”! А так звярталася да мяне толькі мама, ды яшчэ, бывала, два вядомыя паэты.

Прытуляю да сэрца гэтае цяпло, грэюся ім. Слухаю, нібыта зямны яшчэ, цёплы голас:

Не заходзь,
Маё сонца,
За доўгія хмары маўчання...

Ніну хвалявала глыбіня, напоўненасць асабістага жыцця, якое павінна яшчэ належыць людзям:

Не змізарнець бы на вяку,
Не зблоцілася б глеба тая,
Дзе і крынічка б’е, пакуль
Рака плыве і не сплывае.

Яна давярала мне свае новыя вершы, толькі што выплюхнутыя з душы. Чуйная, глыбокая, ранімая, яна пакутавала бедамі дарагіх ёй людзей. Як перажывала трагічную смерць маладзейшага сябра паэта Леаніда Якубовіча! Ляцела на Салігоршчыну на яго пахаванне! На калясачцы сваёй ляцела. Адплакала і яго. І вершам таксама. А як пранізліва і глыбока разгледзела творчасць Якубовіча! Сумленна аднеслася да спадчыны сябра. Яе слова пра творцу – запамінальнае, яркае, адно з самых лепшых! Яе слова – чалавечнае, што немалаважна, калі творцы ўжо няма на зямлі.

Усе, хто б ні ўзгадваў Ніну Мацяш сёння, гавораць пра яе толькі добрае! Толькі самае-самае харошае! Нават нечаканка выпала: пачуць голас самога народа, яго прадстаўніка – зямлячку з Белаазёрска, якая ў маім сталічным доме сёння даглядае (за грошы, вядома) хворую 100-гадовую бабулю.

– Ой, Ніначка! Я ж яе добра ведала. Бачыла яе на прагулках. Едзе, бывала, на сваёй калясачцы, і кожны стараўся ёй хоць чымсьці дапамагчы. За гонар лічылі. Магічна гучала, што сярод нас, звычайных, жыве паэтэса. І ніяк не верылася: такая простая з усімі, свойская. Кватэра яе, мусіць, і ноччу ад людзей на замкі не зачынялася! Бывала, вяртаюся з працы, душа гудзе ад рову кароў, якіх вязуць на наш мясакамбінат, слёзы кароў разліваюцца па сэрцы (ой, той, хто бачыў, як плачуць каровы, век не будзе есці іх мяса!). Дык во, іду аднойчы з працы і сама плачу ад свайго бяссілля, што падсабіць няшчасным нічым не магу, а тут насустрач – Ніна на калясцы. Заўважыла мае слёзы, спынілася. І так звярнулася да мяне, што і па сёння яе голас у душы:

– Можа, я Вам чым падсаблю? Я рада буду дапамагчы.

А я паглядзела на яе ўважліва і яшчэ болей заплакала. “Куды дзецца, кажу ёй, – рабіць недзе трэба, дачку карміць трэба, куды з мясакамбіната ў Белаазёрску пойдзеш? Каб гэта я спецыялістам якім была...”

Ніна ўсё зразумела. Памаўчалі мы з ёй, разам пабедавалі. І во, колькі часу прайшло, а помню яе слязу ў глыбокіх вачах. Відаць было, што яна – незвычайны чалавек...

Нялішняй, праўда, і гэтая згадка пра вядомую паэтэсу Беларусі. Шкада толькі, што імя сваё жанчына не назвала, не схацела, каб ведалі, як яна падпрацоўвае, каб выжываць у нялёгкім сённяшнім свеце.

...О, жыццё! Ты, сапраўды, – загадка. Таямніца, якую яшчэ ніхто да канца не разгадаў. Бог над намі, адзін Бог – валадар цудаў. Дай, Божа, пажыць мне яшчэ на Зямлі, ўратуй, Божа, каб змагла я яшчэ выправіць, замаліць усе свае грахі, каб некалі светла-светла глядзець у Твае ясныя вочы.

...І – Ніна! Хіба мы з Табою, Ніначка, развіталіся на доўгія гады? Ты – жыла ва мне заўсёды! Жыла, хай сабе на нейкі перыяд прыглушана, але жыло Тваё слова! І адно з іх, самае, бадай, дарагое, – маме. І адразу ўзлятае нада мной Песня, Твая Песня:

Быць разам выпадае нам так мала...
Забудзь трывогу вечную сваю,
Прыляж, мая натомленая мама,
Як некалі ты мне, табе спяю...

Гэтая песня – незвычайная. І сіла яе – у калыханцы маме. Так і названа яна – "Калыханка маме". Цяпер яе, на жаль, рэдка выконваюць, а некалі... О, некалі яна гучала ў кожным з нас як самае дарагое пасланне сваім мілым мамам. Цікавае само стварэнне гэтай песні. На нейкім творчым семінары ў Брэсце сустрэліся вядомая харыстка, музыка Інеса Леанідаўна Вінаградава і паэтэса Ніна Мацяш. Ніна і прачытала тады гэты верш для ўсіх, а Інеса Леанідаўна адразу ўчула ў ім песню. А сястра яе, да таго ж спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Тамара Раеўская тут жа падхапіла гэтую мелодыю, і песня палілася, нібыта рака паўнаводная, кранаючы струны душы многіх і многіх людзей. І – скаланаецца сэрца ад болю радкоў Ніны, аплакваючы тую ж мамачку па яе смерці:

Ляжыш, прычасаная, ўбраная, як на Вялікдзень.
І ў печы пячэцца твой белы – наш чорны – пірог...
Устань жа, галубка, устань, мая зорачка, выйдзі
Хоць глянь,
колькі люду сабраў твой зычлівы парог!..
Устань, мая родная, ты ж на дасвецці ўставала,
А гэта ж – паглянь толькі! –
сонца пайшло на заход...
Усмешкай людзей прывітай,
як заўсёды вітала,
Няхай не стаяць так журботна
ля нашых варот...

Апяваючы апошні дзень мамы на зямлі, Ніна нібыта апявае ўвесь свой народ, усіх нашых мацярок, якія, на жаль, не вечнымі на зямлі. І жаласна сцінаецца сэрца, і кожны з нас плача па сваёй ужо маме, словамі паэтэсы:

Ты ж, мамачка,
з кожнай птушачкай,
з кожнай зялінкай
Умела гукнуцца, – чаму ж не азвешся да нас?!

А як падкрэслівае Ніна хараство матчынай душы (народнай душы!)!

Успаміну светлы каласок:
Ты вяртаешся таропка з поля,
Малачай ды лебяда ў прыполе,
А ў руцэ – рамонкі для дачок...

Як бачыце, не на голым месцы ўзыходзіць сапраўдная паэзія. Яе творцы – простыя сціплыя людзі, руплівіцы, нашы вечныя старанніцы – мацяркі... І выток паэзіі Ніны – менавіта ад мамы. Міжволі ўзгадваеш тут Яўгенію Янішчыц, якая таксама ўзнімала на п'едэстал усеагульнай любові сваю маці, калі наўпрост казала: "Мама мая – паэтэса".

Так, толькі тады, калі сэрца чалавека глыбока адчувае, разумее гэта, і нараджаецца сапраўдная паэзія.

# На Божай далані

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***




**Сяргей Абламейка. Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – 2-е выд., дап. – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2020. – 140 с.: іл.**

Доктар гісторыі, літаратар, эсэіст Сяргей Абламейка па-новаму разглядае асобу і дзейнасць Кастуся Каліноўскага і бачыць за сацыяльнай рыторыкай глыбокі нацыянальны змест. Днём нараджэння мадэрнай Беларусі, якая раней існавала пад назвамі і Русь, і Літва, аўтар прапануе лічыць 1 лютага 1863 года, калі ў Вільні быў утвораны Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім. Кніга “Каліноўскі і палітычнае адраджэньне Беларусі” бачыцца абавязковай для ўключэння ў найноўшыя праграмы па гісторыі для школаў і ВНУ.




**Марына Кайс. Паўзмоўча. — Мінск: Кнігазбор, 2020. — 224 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Пункт адліку).**

*Чаму на старонках няма нумароў? Дзеля чаго след застаецца пустым? Ці расказвае кніга толькі пра чалавека, прапануючы рухацца скрозь гульню ў словы? Як перакрыжоўваюцца формы ценяў на дрэвах, камянях і паперы з пошукам працягу ў апошняй кропцы? Куды знікае чалавек і навошта яго знаходзіць? Ці з’яўляецца адказ адзіным водгукам на пытанне? Адкуль пачынаецца кніга?*

Кніга выпускніцы Школы маладога літаратара Марыны Кайс запрашае чытача ў вандроўку – праз гукі, словы, сэнсы, сімвалы. Гэта выклік? Гульня? Інтрыгоўная? Рызыкоўная? Постмадэрновая? Захапляльная.




**Мікола Кандратаў. На Божай далані: вершы і пераклады. – Мінск: Кнігазбор, 2020. – 104 с.**

У новую кнігу Міколы Кандратава ўвайшлі вершы і пераклады, створаныя паэтам за апошнія дзесяць гадоў. Яны – лірычнае падсумаванне аўтарам эпохі, што заканчваецца на нашых вачах, і якую мы, магчыма, калісьці будзем настальгічна ўзгадваць словамі “стары добры свет”, хаця ў ёй было і добрае, і благое.

*...Няўжо эпохі пачынаюцца з містэрый,*
*каб скончыцца "хімерай" на мяжы?..*
*На жаль, не ўмее чырванець папера,*
*якую звыкла просіш: адкажы.*

*І ўнук сучаснасці мо стане іншаземцам,*
*калі з яе не зможа вырваць карані.*
*Але ўлюбёным застанецца зернем*
*на Божай далані.*




**Юльяна Пятрэнка. Харунжы. Verbera ventorum. — Мінск: Кнігазбор, 2020. — 228 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

*...1605 год. Зноў нашыя землі становяцца эпіцэнтрам войнаў, вялікіх і малых. Бязладдзе пануе і ў самой краіне. Кожны магнат бароніць адно свае інтарэсы, Жыгімонт Ваза забыўся на абяцанні, народ стаміўся везці на сваім карку шляхту і духавенства, а кожны з вернікаў славіць толькі сваю ісціну і гатовы забіць за яе.*

Такія гістарычныя дэкарацыі мае дэбютны раман гомельскай літаратаркі Юльяны Пятрэнкі. У цэнтры аповеду – малады харунжы Стэфан Тацэвіч, які апынаецца ў самым віры загадкавых і невытлумачальных для яго падзей, дзе і змова супраць кароны, і тайнапіс, і шпіёны, і нявыкрытыя забойствы высокапастаўленых людзей, шабашы і самае сапраўднае паляванне на ведзьмаў з вогнішчамі ды інквізіцыяй.




**Надзея Ясмінска. Сподачак для цмока / мастак Святлана Міхалап; для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. — Мінск, Кнігазбор, 2020. — 40 с.: іл. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; выпуск 32).**

*Што рабіць, калі пад тваім ложкам жыве пачвара? Баяцца яе? Ці самому напалохаць? А можа, патэлефанаваць у Службу Змагання з Кузуркамі? Юзік па мянушцы Гузік паспрабаваў усё, пакуль не вырашыўся на перамовы. Ён пакінуў каля ложка сподачак з малаком, і гэта стала пачаткам дзіўнага сяброўства.*

Захапляльная гісторыя пра тое, як перамагчы свой страх, апаведзеная вядомай дзіцячай пісьменніцай Надзеяй Ясмінскай (аўтаркай хітовай "Чаму Меша не мае хаты") і цудоўна праілюстраваная мастачкай Святланай Міхалап.

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Антанас (Папкова) Марыя** – паэтка, празаік, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Сцяжына» і «Нязбытнаю ласкаю». Пераклала на беларускую «Бэмбі» Ф. Зальтэна і «Сінюю птушку» М. Метэрлінка. Нарадзілася ў 1948 годзе на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімер** – празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторыкархівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI—XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў 1961 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бадзей Марыя** – паэтка, перакладчыца. Выпускніца Беларускага калегіюма (аддзяленне «Філасофія і літаратура»), Школы маладога пісьменніка. Перакладае з польскай і французскай. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Ваўкавыску. Жыве ў Мінску.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг паэзіі «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «На вуліцы Максіма Багдановіча», «Яблычны пах цішыні», дакументальнай аповесці «Чорны год». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бротвайт Інгер** – нарвежская пісьменніца, літаратуразнаўца, перакладчыца. Яе дэбютны раман выйшаў у 2002 годзе і атрымаў прэмію «За літаратуру на нованарвежскай мове». У 2009 годзе выйшаў супольны зборнік вершаў Інгер і шведскай паэткі Сесіліі Хансэн «Loveprosjekt», дзвюхмоўнае даследаванне кахання і сексуальнасці. Нарадзілася ў 1978 годзе ў Бергене (Нарвегія). Жыве ў Осла.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хэмінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Волкаў Мікіта** – празаік. Скончыў Медычны ўніверсітэт па спецыяльнасці ўрачоталарынголаг. Выпускнік Школы маладога літаратара. Нарадзіўся ў 1992 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Грыцкевіч Яніна** – паэтка. Скончыла філалагічны факультэт Лунінецкага ліцэя, журфак БДУ. Удзельніца і лаўрэатка творчых конкурсаў. Працуе PR-менеджэрам у IT-сферы. Нарадзілася на Лунінеччыне ў 1988 годзе. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Галіна** – паэтка, перакладчыца. Вершы і пераклады друкаваліся ў рэспубліканскім і замежным друку, у альманахах і анталогіях. У 2008 годзе выдала кнігу паэзіі «Анадыямэна». Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Камароўскі Артур** – паэт, перформер. Вершы і проза друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Верасень», «Новы замак», «Тэрмапілы», «Літаратурнай Беларусі». Скончыў Школу маладога пісьменніка. Аўтар кнігі «Вада пачынае жыць». Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Міры на Карэліччыне. Жыве ў Мінску.

**Караткевіч Уладзімір** — празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Аўтар кніг «Матчына душа», «Блакіт і золата дня», «Мая Іліяда», «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Быў. Ёсць. Буду.» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984). Нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Памёр у 1984 годзе.

**Комар Ганна** – паэтка і перакладчыца. Аўтарка паэтычных кніг «Страх вышыні» і «Recycled», укладальніца збору перакладаў вершаў Чарлза Букоўскі «Святло, і паветра, і месца, і час». Фіналістка конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна (2015), лаўрэатка прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ў катэгорыі пераклад (2018). Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Пііліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца», «Мамін шэпт пад абразамі». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Слінка Віктар** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Лаўрэат прэмій «Гліняны Вялес» (2001), «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Кветка гарынь», «Дзве зямлі – дзве долі», «Вогнепаклонніца» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Ўайлд Оскар** – брытанска-ірландскі паэт, празаік, драматург, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Вершы», «Шчаслівы прынц», «Гранатавы домік» і інш., трагедый «Герцагіня Падуанская», «Саламея», кнігі эсэ «Задумы», рамана «Партрэт Дарыяна Грэя». На беларускую творы Ўайлда перакладалі М. Дуброўскі, К. Маціеўская, Г. Дубянецкая, Г. Янкута і інш. Нарадзіўся ў 1854 годзе ў Дубліне. Памёр у Францыі ў 1900 годзе.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.


У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра,
Ліліі Мартынавай, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.